## ПАЭТЫЧНЫЯ ЎРОКІ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ

Анатоль Вярцінскі — паэт, які трывала абраў адзін з самых перспектыўных і малараспрацаваных у беларускай паэзіі шляхоў — інтэлектуальна-філасофскае асэнсаванне быцця ва ўсім багацці і шматграннасці яго праяў, духоўнае ўключэнне нацыянальнага ў агульначалавечы кантэкст.

Мастацкая мадэль свету ў паэзіі А. Вярцінскага грунтуецца на ідэі прыярытэту дабра і чалавечнасці, усёперамагаючай любові, увагі і павагі да асобы, якая разам з тым павінна самаўдасканальвацца і арганізоўваць жыццё на прынцыпах справядлівасці, разумнай мэтазгоднасці і высокай духоўнасці. Творы Вярцінскага, як правіла, свядома зарыентаваны на дыдактызм, перакананне. Паэт не стамляецца вучыць чалавечнасці, патрабаваць высокамаральнага і сумленнага стаўлення да жыцця, выкарыстоўваючы напрацаваны тысячагоддзямі духоўны вопыт біблейскіх прытчаў, старажытных міфаў і філасофскіх канцэпцый, архетыпы і мастацкія сімвалы фальклору і літаратуры. Паэт надзвычай чуйны да сутнаснага, умее ўзняць дэталь альбо канкрэтны характар да ўзроўню агульначалавечых сэнсавобразаў, сфармуляваць думку ў скандэнсавана змястоўнай форме афарызму ці, наадварот, трапна раскрыць алагізм сітуацыі, разбудзіць разумовую актыўнасць чытача, падключыць яго да працэсу сатворчасці.

Вытокі творчага светапогляду кожнага паэта — у яго біяграфіі і найперш у эмацыйным вопыце дзяцінства. У дадзеным выпадку — дзяцінства вясковага, кроўна звязанага з рэаліямі сялянскага побыту, з роднай прыродай — зялёным выганам, блізкім азёрным берагам, грыбнымі баравінамі і сунічнымі палянамі.

Ды вось наймацнейшая дамінанта ўспамінаў пра маленства — ваенныя ўражанні, непазбыўнае адчуванне вялікай народнай бяды. Як згадвае паэт, побач з трагічным вайна настройвала і на «гераічнаратны лад». (Адзінаццацігадовы хлапчук з вёскі Дзямешкава, што на Лепельшчыне, мала ўсведамляючы сур’ёзнасць і небяспечнасць сваіх дзеянняў, падвозіў ноччу партызан у Саснягоўскую пушчу, а потым

наклеіў на дрэве ў цэнтры вёскі лістоўку з заклікам «Ідзіце ўсе ў партызаны! Біце ворагаў!») Драматызм сітуацыі добра перададзены А. Вярцінскім у вершы «Яны да вайны гулялі ў вайну». А адказваючы на пытанне анкеты, «які след пакінула ў вашай асабістай памяці і памяці пакалення вайна?» — ён зазначыць: «Вайна наклала глыбокі адбітак на нашу псіхалогію, на наша светаадчуванне, вызначыла ў значнай ступені нашу маральна-філасофскую арыентацыю; вядома, не толькі ў негатыўным, але і ў станоўчым сэнсе, у сэнсе нашай большай жыццястойкасці, больш устойлівага аптымізму».

Дэбютаваў А. Вярцінскі ў друку з вершамі, будучы студэнтам БДУ, у сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя. Трэба сказаць, што пачатак яго творчай біяграфіі быў няпростым. Першая кніга «Песня пра хлеб» (1962), у цэлым прыхільна сустрэтая крытыкай (В. Бечык, В. Палтаран, А. Яскевіч), не вылучалася ў тагачаснай беларускай паэзіі, абуджанай да пошуку спрыяльнай атмасферай паслясталінскага дзесяцігоддзя. Але побач з дэкларатыўнымі і апісальніцкімі вершамі былі і ўдалыя творы, у якіх ужо «праглядваліся» ўласцівыя сёння паэту рысы: схільнасць да развагі, уменне адчуць і пераасэнсаваць нечаканае сугучча слоў («сонца» і «стронцый»), выкарыстанне дыялогавай формы («Спатканне»). Поспех кнігі быў звязаны ў асноўным з паэмай «Песня пра хлеб», якая знаходзілася ў плённым для беларускай паэзіі рэчышчы «Новай зямлі» Якуба Коласа і вызначалася народным поглядам на хлеб і працу, сакавітымі, падрабязна і з любоўю выпісанымі дэталямі побыту, апісаннямі, што ішлі ад «народнай абрадавасці» (Т. Чабан).

Першы зборнік А. Вярцінскага даў падставу даследчыкам назваць яго аўтара традыцыяналістам, які вальней адчувае сябе ў свеце эмоцый, а не думкі. Аднак лінія творчай эвалюцыі паэта ішла ў зусім іншым накірунку, і наступныя кнігі «Тры цішыні» (1966) і «Чалавечы знак» (1968) ні ў чым не паўтаралі папярэднюю. Гэтыя зборнікі засведчылі надыход творчай сталасці паэта, станаўленне яго паэтычнай індывідуальнасці. Выглядала на тое, што паэзія А. Вярцінскага знаходзілася ў самым пачатку плённай для тагачаснай літаратуры тэндэнцыі да ўзмацнення рацыянальнага, паглыблення асацыятыўнасці, шматзначнасці і эстэтычнай змястоўнасці вобраза. Напружаны інтэлектуальны пошук, мастацка-філасофскае даследаванне маральна-этычных праблем, высокая ступень абстрагаванасці і сэнсавай канцэнтрацыі паэтычнага слова — тыя новыя рысы, якімі вызначалася паэзія А. Вярцінскага ў канцы 60-х (ды гэтак жа, бадай, як і гадоў наступных) гадоў. Паэт бачыў у жыцці каштоўнасці, якія не залежаць ад палітычнай кан'юнктуры і штодзённых патрэб.

«Дзівак», які не можа змірыцца з няпраўдай і непапраўнымі стратамі, які марыць годна прайсці свой шлях і не здаецца перад

нягодамі, — такі лірычны герой паэзіі А. Вярцінскага і такі ж абагульнены воблік Чалавека.

Дзівак чалавек…
Яму — Хірасіму, Асвенцім,
яму, замест імя, —
лагернае таўро.
А ён паўтарае,
што ёсць дабро на свеце,
што будзе дабро
і што пераможа дабро…

Унутрана-палемічны і пафасны верш «Дзівак чалавек» пабудаваны на супрацьпастаўленні, тыповым для паэта прынцыпе антытэз, праз які аналізуецца сітуацыя маральнага выбару («сцяжынка гладкая» ці «цярністы шлях»), сцвярджаецца багацце духоўнага свету асобы. Дадатковую падтэкставую «падсветку» надаюць вершу настойліва, шматразова падкрэсленыя анафары, вылучаныя і іранічна-роздумнай інтанацыяй, і «ламаным» радком, які нібы расколваецца ад укладзенага ў яго супрацьлеглага зместу. Такім, расколатым і канфліктным, светаадчуванне чалавека і паэта было ва ўсе часы і эпохі, аднак асабліва абвастраецца яно ў атмасферы хлусні і няшчырасці.

Актыўнасць аўтарскай маральнай пазіцыі, яе максімалізм нярэдка знаходзілі выйсце ў адкрыта-публіцыстычных пытаннях, у імкненні да ўнутранай і знешняй дыялогавасці: «дзе расцём, а дзе абрастаем?», «як памагчы чалавеку?», «а ці па-брацку мы ў жыцці жывём?» (гэта з верша пра братнія магілы). На некаторыя з пытанняў, якімі шчодра насычаны вершы А. Вярцінскага, паэт сам дае адказ, большасць жа абуджае тваю думку, патрабуе самастойнага вырашэння, працягвае ўздзеянне верша ў творчым уяўленні чытача.

Згадваючы біблейскую прыпавесць пра тое, што трэба падстаўляць правую шчаку, калі б'юць па левай, А. Вярцінскі ўздымае важную думку аб грамадзянскай актыўнасці дабра, аб тым, «каб гордасці нашай і годнасці ніхто не наносіў абраз, каб не было неабходнасці рашаць: ці біць у адказ».

Вершы А. Вярцінскага былі своеасаблівым інтэлектуальна-рэфлексіўным адказам на двудушнасць і замаскаваную подласць («Пра воўка памоўка»), на манію велічы («Акіян і лужына»), на двайную, зручную мараль («Бунт анёла») і прыстасаванцкае нежаданне думаць і жыць сваім розумам («Хунвэйбіны»).

Паэт імкнецца спасцігнуць законы прыроды і чалавечага існавання («Мы напачатку зазналі страху») і пратэстуе супраць «воўчай маралі». Ён, што называецца, адкрытым тэкстам заклікае: «Ідзі і помні: чалавеч-

насць — яна ад слова «чалавек». А. Вярцінскі не баіцца вучыць іншых, бо вучыцца чалавечнасці сам і ніколі не ўяўляе свайго лірычнага героя бязгрэшным і ідэальным. Самыя трывожныя і горкія радкі, прасякнутыя пакутлівым самааналізам і адчуваннем духоўнай дэградацыі грамадства, напісаны аўтарам ад першай асобы («Абрастаем. Паперамі, рэчамі…»).

Паэта востра хвалюе праблема ўзаемаразумення паміж людзьмі, раз'яднанасць людскіх душ. Шукаючы паралелі ў свеце навуковых ісцін («падаюць за бар'ерам бар'ер — гукавы, светлавы, зямных гравітацый…»), паэт трывожна пытаецца: «ці хутка дойдзе чарга да бар'ера глухой адчужанасці людской, неразумення і недаверу?» («Бар'еры»). У вершы «Дзве паралельныя прамыя» сімвалам раз'яднанасці людзей выступаюць матэматычныя паняткі. Выкарыстанне навуковай лексікі, свабодная апеляцыя да паняткаў і тэрмінаў, лагізаваная манера выкладу думкі (тэзіс — аргументы — выснова) — гэтыя ўласцівасці былі нязвыклымі, наватарскімі для беларускай літаратуры і актывізавалі ўспрыняцце ідэйнага зместу, таксама новага, незвычайнага паводле гуманістычнай абвостранасці і аналітычнай глыбіні.

Ачышчальным подыхам абнаўлення, надзеяй на заўтрашні дзень прасякнуты адзін з самых аптымістычных па сваёй грамадзянскай сутнасці вершаў А. Вярцінскага — «Навагодні тост». Твор, у якім глыбока асэнсоўваецца ідэйна-філасофская катэгорыя добрага, мудрага Часу, што рэгулярна «ставіць кропкі ўсе над «і».

Нам памагае ўбачыць Час:
тут толькі попел,
                    там — алмаз,
тут — зерне,
                там — палова,
тут — пустазвонства гучных фраз,
там — ісціннае слова.

Сказаныя ў канцы 60-х гадоў афарыстычныя радкі сёння ўспрымаюцца як мудрае, заўсёды актуальнае сцвярджэнне, выказанае ў дасканалай эстэтычнай форме. Матыў Часу-сааўтара быў распаўсюджаны ў тагачаснай паэзіі, аднак востра публіцыстычны верш А. Вярцінскага, сацыяльны падтэкст якога амаль не зашыфраваны ў мастацкую ўмоўнасць, вылучаўся сярод іншых. Ён быў, як сведчыць сам аўтар, «выпакутаваны» (недарэмна заўважаны адразу А. Куляшовым).

Надзею наблізіць жаданы Час дапамагае найперш «высокае неба ідэала» — тыя асноўныя маральна-філасофскія прынцыпы, якія даюць чалавеку сілы жыць годна і прыгожа. Верш «Высокае неба ідэала»,

які, дарэчы, як паведамлялася ў друку, стаў асновай для малітвы, — некалькі строфаў з яго выконваліся ў адным з малітоўных дамоў Мінска, — адначасова і споведзь, і пропаведзь, дзе аўтар раскрывае свой духоўны свет, поўны трывог і ўнутранай барацьбы, і разам з тым вучыць бачыць у жыцці «новы сэнс», якім асвятляе яго вера. Вобраз лірычнага героя верша абагульнены да агульначалавечага маштабу («мая душа чалавечая спала, вякамі спала да той пары, пакуль я не ўбачыў цябе ўгары, высокае неба ідэала»), набліжаны да велічнага адраджэнскага тыпу, дамінантныя рысы якога — нязломнасць перад абставінамі, высокія памкненні, ахвярнасць і прыгажосць душы. Вера ў ідэал, паводле аўтара, дае чалавеку ўсё: мудрасць і моц, сяброў і каханне, дарогу і мэту, і жыць трэба так, каб

зноў уздымала і вяло,
зноў хвалявала, бунтавала,
давала сілы і святло,
усяму нізкаму назло, —
высокае неба ідэала!

Нават смерць тут не палохае, больш за тое — яна апынаецца пераможанай:

Ты шмат ахвяраў патрабавала.
Калі я падаў ў барацьбе,
я ў зрэнках адбіваў цябе.
І ты ў халодных зрэнках ззяла,
высокае неба ідэала!

Вечная і заўсёды плённая для літаратуры (асабліва сацрэалістычнай, якая існавала ва ўмовах таталітарнага грамадства) сітуацыя маральнага выбару даследуецца ў гэтым вершы з пазіцый агульнафіласофскіх, і яе вырашэнне ўзнята да значэння экзістэнцыяльнай ісціны. Верш, у якім свабодна і арганічна, не перашкаджаючы самаразвіццю думкі, чаргуюцца пяці-, шасці-, васьміра дковыя строфы, «агучаны» адпаведнай велічнай, роўнай інтанацыяй, якая ўздымаецца толькі на рэфрэне.

Вядома, высокая ступень абстрагаванасці, імкнення да абагульнення фактаў і з’яў, некаторы, магчыма, адрыў ад канкрэтна-пачуццёвых рэалій давалі крытыкам падставу для вываду аб перавазе рацыянальнага ў творчасці паэта. Аднак мера пачуцця і думкі не можа быць строга рэгламентавана, і стылёвыя адзнакі паэзіі А. Вярцінскага: цвярозы і часам усмешлівы рацыяналізм, засяроджаны на роздуме, шырокае выкарыстанне лагічнай аргументацыі — якраз і сталі тым адметным і каштоўным, што вызначае асобу паэта і сёння.

Увогуле, як трапна заўважыла ў свой час таленавітая даследчыца Тамара Чабан, А. Вярцінскі — «увесь з шасцідзесятых», калі мець на ўвазе ідэалы часу, рыцарскую вернасць ісціне і дабру, аналітычны пафас і інтэлектуальную культуру верша. Паэт больш чуйны да болю, чым да радасці, таму так натуральна ўспрымаюцца спакойныя і зажураныя радкі яго верша «Гора не бяда, бяда не гора…»:

Я спасціг, што беды— непазбежнасць,
немінучы спадарожнік мой.
Я прызнаў жалезную залежнасць
ад прыроды — мёртвай і жывой.
Я сцярплю усе яе няміласці,
і капрызы, і сюрпрызы ўсе.
Толькі аднаго —
несправядлівасці
чалавечы дух мой не знясе.

У ідэі бескампраміснага служэння праўдзе добра выяўлена не толькі грамадзянская і эстэтычная пазіцыя аўтара, але і адзіны філасофскі закон, па якім жыве сусвет.

Адчуваннем унутранай еднасці з прыродай, сінкрэтычнасцю мастацкага мыслення, драматычным, балючым напружаннем духоўнага пошуку ўражвае верш «Косім траву — яна не крычыць…»:

Косім траву — яна не крычыць,
яна маўчыць адчайна.
Мы пачынаем камень крышыць —
зацятае тое ж маўчанне…

У арганічнай форме свабоднага маналога, не абмежаванага класічнай строфікай і рыфмоўкай, паэт сцвярджае надзвычай важную для ўласнай канцэпцыі свету філасофскую думку аб адказнасці чалавека за будучыню прыроды. Вобразы верша «ўключаюць» мысленне чытача: і людзі часам «цішэй вады, ніжэй травы», цвёрдыя, як камень, маўчаць, як рыба… Ды гэта не значыць, што ім не баліць і што іхні боль не адзавецца крыкам у сэрцы бліжняга ці катастрофай у сусвеце, дзе ўсё цесна пераплецена па законах вышэйшай, можа, толькі паэту ў яго азарэнні відавочнай мэтазгоднасці.

Уласцівае паэзіі А. Вярцінскага 60-х гадоў імкненне да агульнага, сусветнага арганічна лучылася з уменнем задумацца над канкрэтным фактам, стварыць трапны, псіхалагічна дакладны характар. Асабліва выразна гэтыя рысы, якія сведчылі пра эпічныя адзнакі таленту паэта, пра схільнасць да аб'ектывізаванай манеры пісьма, выявіліся ў зборніку «Тры цішыні» (1966) і найперш, у прыватнасці, у радках верша

«Дынамік», лепшага з цыкла ваенных. У гэтым творы, адназначна і заслужана высока ацэненым крытыкай, даецца, здавалася б, звычайная бытавая ацэнка: у адзінокай старой жанчыны, трох сыноў якой забрала вайна, сапсавалася радыё («радзіва»), і яна ідзе па дапамогу да радыста. «А ў радыста сын нарадзіўся, сын нарадзіўся і крычыць». За спакойнай, лагоднай інтанацыяй верша схаваны вялікай унутранай сілы канфлікт маўклівай, гаротнай адзіноты і неадольнай радасці новага жыцця. Усё ў гэтым вершы эстэтычна выверана, нават адкрытасць, незавершанасць канцоўкі. Ніякія высновы з гэтай трагічнай у сваёй безвыходнасці сітуацыі не патрэбныя — іх робіць само жыццё.

Глыбокае асэнсаванне фактаў, эпічны маштаб паэтычнага мыслення ўласцівыя таксама для вершаў «Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня» і «Рэквіем па кожным чацвёртым». А. Вярцінскі абагульняе маштаб стратаў і праецыруе трагічны вопыт мінулага на наш сённяшні дзень. Нездарма эпілог да «Рэквіема…» напісаны ў форме школьнага ўрока спражэння: вайна — своеасаблівая страшэнная навука аб тым, чаго не павінна быць на зямлі.

Не павінна быць на зямлі, паводле паэта, і горкай жаночай адзіноты, незапатрабаванай пяшчоты, няспраўджанага кахання — вось скразны матыў яго інтымнай лірыкі, у прыватнасці пранікнёнага лірычнага маналога, якім з’яўляецца верш «Эдзіт Піяф хоча любві». У ім створаны вельмі пераканальны псіхалагічна вобраз французскай спявачкі, вобраз, які нясе выразныя нацыянальныя рысы гераіні — энергічнасць, парыў, палкасць. (Успомнім тут па-беларуску маўклівых, стрымана-спакойных гераінь іншых вершаў паэта.) Даследуючы глыбіні чалавечай псіхалогіі, у тым ліку псіхалогіі кахання, А. Вярцінскі знаходзіць новыя выяўленчыя магчымасці лірыкі — стварае не толькі гранічна абагульненыя, сімвалічныя характары, але і аб’ектывізуе ў вершы псіхалагічны стан чалавека праз унутраныя маналогі і звернутыя да чытача развагі, рэплікі, пытанні.

Увогуле пра каханне А. Вярцінскі піша не толькі з разуменнем жаночага характару жанчыны («Мною забыта нямала…», «Сведчылі месяц, ноч і я»), але і з «перахопленым дыханнем» (менавіта так называецца цыкл вершаў з кнігі ««Чалавечы знак»), бо для паэта гэтае пачуццё — знак вечнасці, знак далучанасці да асноўных таямніц жыцця. Чытаем: «Я быў улюблёны. // Я быў, як усе мы. // I я, як звяно, // уключаўся ў ланцуг // любові, яе ўсепланетнай сістэмы». Нельга ў той жа час не пагадзіцца з Л. Дранько-Майсюком, які ў сваёй прадмове да кнігі лірыкі А. Вярцінскага «Жанчына. Мужчына. Каханне…» (2003) тонка падмячае: «у названых і амаль у кожным іншым вершы Анатоля Вярцінскага пачуццёвыя струны суладныя цвярозаму роздуму, і яшчэ больш— яны свядома падпарадкаваны ўсё той жа размеранай разважлівасці».

Сцверджаная паэтам «усепланетная сістэма любові», сістэма «павучыных струн» трымаецца найперш на бязмежнай самаахвярнасці Маці, вобраз якой ствараецца з асаблівым драматычным лірызмам і сімвалічнай узвышанасцю.

Гэты вобраз нясе ў паэзіі А. Вярцінскага магутны светланосны пачатак, як у празрыста-зажураным, сэнсава выверaным да афарыстычных, азбучных ісцін вершы «Мама мыла раму», асацыіруецца не толькі з індывідуальным, але і з агульначалавечым і нават сацыяльным («Сціраюць з карты белыя плямы…»), вырастаючы ў сімвал дабра, справядлівасці і духоўнасці. «Лёс маткі і салдаткі, і працаўніцы ніцай лёс» прасочваецца ў журботна-стрыманым па лірычнай інтанацыі вершы «Замест эпітафіі», дзе па-майстэрску выкарыстаныя гукавыя паўторы-нагнятанні перадаюць трывожнае, нібы гудзенне правадоў, адчуванне бяды. Сканцэнтраваны ў паэтычных вобразах матыў страты маці, пакутлівы матыў болю і віны ўвасобіўся ў паэме «Заазер'е» — ліра-маналагічным творы, дзе жалоба і роздум узаемна абвастраюць і паглыбляюць гуманістычную аўтарскую канцэпцыю. Эпічную значнасць твору надае адчуванне народнай этыкі, арыентацыя на выверaныя ў часе духоўныя каштоўнасці. Воблік роднага чалавека паўстае праз шчымліва-светлыя згадкі дзяцінства, успаміны, да прыкладу, пра трывожна-клапатлівае гасцяванне маці ў горадзе («як яны там без мяне — тата, хата і карова?»), добрыя словы, што гаворацца на памінках «вясковаю ўсёю сябрынай». Лагічным падагульненнем жыццёвага лёсу матулі ўспрымаецца заключная частка паэмы — некралог, напісаны не афіцыйнымі асобамі, а сынам, які з горыччу згадвае ўсе вясковыя матчыны «пасады», «пасты» і «ўзнагароды»:

Словам, займала пасад нямала.
Словам, пасада была адна —
працавала з відна да цямна.
Яе незвычайныя справы і дзеянні?
Такіх на рахунку Яе не было.
Затое можа пацвердзіць сяло:
быў подзвігам кожны белы дзень Яе…

Паэтычнай звышзадачы твора — эпічнаму ўзвелічэнню народнага характару — добра служаць выкарыстаныя аўтарам абрады памінання, фальклорныя прыёмы галашэння, псіхалагічнага паралелізму, адухаўлення прыроды, жывёлы, рэчаў. Як заўсёды, бліскуча выкарыстоўвае паэт паўторы, анафары, пераасэнсаванне гучання і зместу слоў, што надае ім магічную сілу замовы, загадкавую таямнічасць.

Сэнсавыя часткі паэмы («Прадчуванне», «За лесам — Залессе», «Успамін», «Ад вёскі да могілак — паўвярсты…», «Памінкі», «Назаўтра раніцай», «Вясною», «Некралог») аб'яднаныя шчымлівай інтанацыяй непапраўнай бяды, развітання, горкага маўчання. Яно і зразумела. Моцнае эмацыйнае ўзрушэнне ачышчае душу, робіць чалавека лепшым, прымушае задумацца над будучым.

Памяці маці, па сутнасці, прысвечана і паэма «Дажынкі», у якой уздымаецца праблема міласэрнасці ў дачыненні да вясковай жанчыны-працаўніцы. У адрозненне ад лірычнага маналога, якім з'яўляецца «Заазер'е», «Дажынкі» — твор больш аб'ектывізаваны, сюжэтны, падзеі апісваюцца падрабязна і паслядоўна. Аўтар нібы імкнецца захаваць храналагічную дакладнасць, прасачыць кожны крок пакутніцкага шляху галоўнай гераіні Аксінні ў дні яе хваробы. Вялікая ўвага аддаецца ўнутраным маналогам (размовам з самой сабой), яе перажываннямі ўспамінам.

Вечны філасофскі матыў безабароннасці дабра і ваяўнічай сілы зла прадвызначае незавершанасць канцоўкі паэмы. Якую, праўда, працягваюць потым іншыя творы паэта.

Паэма «Даруйце!», якая ў свой час выклікала неразуменне і нават раздражнёна-негатыўную ацэнку з боку афіцыйнай крытыкі, увасобіла характэрны, можна сказаць, для беларускай паэзіі гэтага часу матыў віны і пакаяння (А. Куляшоў, П. Панчанка) у публіцыстычна абвостранай форме. Уяўляючы чалавецтва як адзіную супольнасць, А. Вярцінскі просіць даравання не толькі ў сваіх родных і блізкіх, але і ва ўсіх падзвіжнікаў і ахвяр, у сумленных і мужных людзей, якім заўсёды цяжка жылося і жывецца на свеце. Ацэньваючы з пазіцый маральнага максімалізму найперш уласную віну і адказнасць за ўвесь свет, паэт у афарыстычна выразнай форме фармулюе закон захавання чалавечай сутнасці, які дзейнічае ў любым грамадстве і ў любы час:

Сумленне — заўсёды
 на лаўцы падсудных.
Само сябе садзіць,
 само сябе судзіць.
Тым самым ратуе
 яно сваю сутнасць.
…Усе мы за ўсіх і за ўсё у адказе,
І ўсе вінаваты
 ва ўсякім разе.

Магчыма, паэме шкодзіла крыху нагнятанне эмоцый, клічных інтанацый, змяшэнне высокага і сентыментальна-чуллівага стыляў, аднак ідэйная дамінанта яе гучала надзвычай мужна і сумленна. Гэтак

жа, як і ў вершы «Пасмяротна рэабілітаваным», напісаным у 1964 годзе (чамусьці, ці не з-за ўмяшання цэнзуры, не апублікаваным у тагачасных зборніках). У вершы віна перад лепшымі сынамі народа ўсведамляецца больш канкрэтна, ён у многім дапаўняе пафасна-ўзнёслую паэму «Даруйце!».

Некаторым іншым вершам А. Вярцінскага, якія таксама не ўключаліся ў зборнікі (давала ведаць пра сябе рэдактарская пільнасць?), уласцівы выразна выяўлены сацыяльны падтэкст і алегорыя («Казка пра белага бычка», «Перасцярога», «Не дражніце гусей», «Вялікі атракцыён»). Аўтар пратэставаў супраць «пакорнасці сляпой», «моцнага статкавага пачатку», заклікаў паважаць і берагчы асобу, індывідуальнасць. За сатырычным вобразам «майстроў дрэсуры», якія бізуном і пернікам робяць «асла з ільва і муху з слана»; за сімвалічнай вяроўкай, якая ўсіх звяроў звязвае ў адзіны «вялікі атракцыён», лёгка ўгадваліся рэаліі часу, яго атмасфера. Палітычныя алегорыі (жанр, які ў паэзіі таго часу найбольш удаваўся менавіта А. Вярцінскаму) былі прасякнутыя горкім сарказмам і непадробным болем. Паэт не прымаў прыстасаванства і пакорнасць і ў грамадскіх, і ў творчых адносінах. Многія вершы А. Вярцінскага сведчаць, што публіцыстычнасць і палемічнасць — істотна важныя адзнакі таленту паэта, якія найбольш арганічна і эстэтычна змястоўна выяўляюцца якраз праз іншасказальнасць і прытчавасць.

Зборнікі А. Вярцінскага 70-х гадоў («З’яўленне», 1975; «Час першых зорак», 1976; «Ветрана», 1979) — працяг і творчае развіццё набыткаў яго паэзіі шасцідзесятых.

Сутнасны для паэта канфлікт дабра і зла, чалавечнасці і жорсткасці, любові і нянавісці вырашаецца па меры ўзрастання абстрагаванасці і філасофскага абагульнення, выводзіцца ў вялікія прасторава-часавыя абсягі, даследуецца з пазіцый агульначалавечых этычных і культурных традыцый. Паэтычны свет паэта ўзбагачаецца не толькі за кошт далейшага засваення асноў народнай духоўнасці («Цётка плакала па ўсім свеце…»), але і за кошт выкарыстання маральна-філасофскага досведу антычнай міфалогіі («Варыяцыі на тэму «Гефест — друг Праметэя»») і кітайскай філасофіі («Размова з Ду Фу»), усходняй рэлігіі («Каментарый да карана»), пашыраецца змястоўнымі гістарычнымі паралелямі («Адлучэнне Талстога ад царквы») і новымі прасторавымі ўяўленнямі («З польскіх уражанняў», «Балгарыі», «Драугістэ», амерыканскі цыкл).

У той час, калі афіцыйна дазволеная грамадзянскасць знаходзіла сваё ўвасабленне ва ўслаўляльна-сцвярджальным, уяўна-наступальным прамаўленні, крытычны пафас якога не падымаўся вышэй за традыцыйнае бічаванне мяшчанства і проціпастаўленне яму наіўна-ідэалізаванай, бязгрэшнай асобы лірычнага героя, А. Вярцінскі звярнуўся да вечных

агульначалавечых тэм, да пошуку самага істотнага ў жыцці і натуры чалавека. Заканамерна, што такая творчая арыентацыя прывяла да далейшага ўзмацнення рацыянальнага пачатку і павелічэння сэнсавызначальнай ролі падтэксту, асацыяцыі, актыўнага выкарыстання лагічных канструкцый, сілагізмаў. Паэтычная думка ўсё часцей увасабляецца ў форме чыста «мысліцельных» катэгорый. Творца імкнецца не толькі інтуітыўна «намацаць», пазначыць, але і сфармуляваць заканамернасці, па якіх жыве свет («Закон шчодрасці», «Вясновы закон», «Ёсць сіла — будзе справа», «Любоў адкрывае скарбы…»). І знаходзіць галоўны закон гарманічнага існавання чалавецтва — закон любові як дзейснай і актыўнай сілы, што ўзвышае і вядзе наперад:

— Што значыць дарогу ў жыцці не згубіць?
— Любіць.
— Што значыць зямное шчасце здабыць?
— Любіць.

У самой лагічнай выверанасці, разумнай дакладнасці, якімі вызначаецца паэзія А. Вярцінскага, дзейнічае закон эстэтычнай гармоніі, вялікай стваральнай сілы прыгажосці.

Маштабнасць паэтычнага мыслення, бездакорны эстэтычны густ і глыбіня асацыятыўнага падтэксту вызначаюць верш «З'яўленне» — адзін з лепшых у аднайменным зборніку. Велічная і ўнутрана напружаная інтанацыя зачыну, выдатна падкрэсленая анафарай, падрыхтоўвае да таго, што павінна адбыцца незвычайна важная падзея, якую дабраслаўляе сусвет:

З'яўленне зор і сонца ў вышыні.
З'яўленне сокаў з глыбіні карэння.
З'яўленне траў у веснавыя дні…
І вось маё, і вось тваё з'яўленне.

Паэт не раскрывае сэнс гэтага з'яўлення, аб якім дамовіліся «глыбіні цёмныя і залатыя высі», а дае магчымасць нам самастойна пазнаць, хто ці што прыйшло «як ранняе святло»: жанчына, краса, ісціна, свята, паэзія? Гэты асацыятыўны рад можна свабодна дапоўніць іншымі эмацыйна блізкімі сэнсавобразамі, якія складаюць аснову мастацкага свету А. Вярцінскага і аб'яднаны адным ключавым паняткам — дабро.

Карані такога касмаганічнага імкнення да ідэалу можна знайсці ва ўсветаўспрыманні творцаў Адраджэння, якія ўслаўлялі дзейсную моц любові і хараства чалавечай душы. З антычнасці і Адраджэння, кандэнсуючы ў сабе лепшыя здабыткі чалавечага розуму, ідзе архетып самаахвярнай любові — вобраз Праметэя. Ён увасоблены ў творах Авідыя і Кальдэрона, Вальтэра і Гётэ, Байрана і Камю, Э. Межэлайціса,

Ю. Марцінкявічуса і М. Карыма. Як і папярэднікам, далёкім і бліжэйшым, А. Вярцінскаму вобраз Праметэя дапамагае ўвасобіць ідэю духоўнага разняволення і ўнутранай гармоніі чалавека. Выратавальны агонь — «агонь любві нябеснай ці зямной», якая перамагае цемру і смерць, эгаізм і страх, надае высокі сэнс зямному існаванню. Ахвярнасць Праметэя тут, на першы погляд, абсурдная:

«Арол піць будзе кроў тваю!»
«Арла таго я палюблю…»
«Святла пазбаўлю, асляплю!»
«А я змрок вечны палюблю…»

Але гэта, вядома, не так. Размова ідзе не аб пасіўнасці, не аб непрымальнай безабароннасці перад сіламі зла, а, наадварот, аб усёперамагаючай сіле любові. Гэтым трактоўка вобраза адрозніваецца ад класічнай і, у прыватнасці, ад канцэпцыі Чалавека ў Э. Межэлайціса, аўтара цэлай тэорыі праметэізму як актыўнага дабра. І Праметэй, і Гефест, які з-за сваёй баязлівасці і нерашучасці здраджвае сябру, для А. Вярцінскага — характары не толькі міфалагічныя, але ў нечым істотным і нацыянальныя, беларускія.

У «Варыяцыях на тэму «Гефест — друг Праметэя»» выкарыстаны востры драматычны канфлікт і арыгінальная форма: ці то антычны дыялог аднаго голасу з хорам, ці то сучасная бюракратычная анкета. Выяўленчыя сродкі п’есы ўзбагацілі, несумненна, лірычную палітру паэзіі А. Вярцінскага.

Аўтар міфалагічнай драмы, прысвечанай лёсу тытана-мучаніка, настойліва і бескампрамісна дзеліць людзей на «праметэяў» і «непраметэяў». Імкненне самаахвярна служыць людзям аб’ядноўвае многіх, здавалася б, непадобных герояў ягонай лірыкі: маці і іншых вясковых жанчын, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і ахвяраў рэпрэсій, і зноў-такі Праметэя, і ўкрыжаванага Спартака. Агульнае ў гэтых характарах — светланосны пачатак, які, паводле паэта, вызначае сапраўдную сутнасць асобы. Лагер «непраметэяў» таксама немалалікі: мяшчане і зайздроснікі, Гефест і бяздушныя ваяўнічыя хунвэйбіны. Гэта асяродак цемры, якой, аднак, не дадзена перамагчы святло і дабрыню.

Да праметэеўскага архетыпу ўзведзены А. Вярцінскім і сэнсавобраз сонца ў паэме «Начны бераг», прысвечанай важным філасофскім праблемам: узаемадачыненні чалавека і прыроды, сэнс жыцця і мэта творчасці. Сонца тут — сімвал актыўнага альтруізму, што ратуе Сусвет ад цемры і бруду, і адначасова — сімвал розуму, рацыянальнага пачатку, які арганізуе гарманічнае існаванне прыроды.

Моцны дыдактычны пафас творчасці А. Вярцінскага заканамерна прывёў да пашырэння ў ёй жанру прытчы, для якога ўласціва перавага інтэлектуальнага элемента над вобразным, пэўная зададзенасць сканструяваных сітуацый, апасродкаваная праекцыя на жыццёвы досвед чалавека («Каментарый да карана», «Тры браты»). Прыпавесці А. Вярцінскага канцэнтруюць у сабе роздум над сапраўднай і ўяўнай прыгажосцю, над крытэрыямі маральнай дасканаласці («Дурман»). У іх выразна адчуваецца схаваны за алегорыяй публіцыстычны напал з пратэстам супраць самазаспакоенасці і інертнасці («Арол галодны і сыты»), заклік бачыць за матэрыяльнымі каштоўнасцямі духоўную вартасць іх творцаў («Мы, мёд і пчала»). Вершаваныя прыпавесці створаны А. Вярцінскім у адпаведнасці з законамі класічнага жанру, аднак паэт дадае да іх сваё, адметнае — стыль іранічнага рацыяналізму, афарыстычную дакладнасць слова, зварот да скарбаў вуснай народнай творчасці, асабліва прыказак і прымавак («Лясныя прымаўкі»).

Згаданая ўжо кніга «Ветрана», у самой назве якой — трывога і надзея на абнаўленне, сведчыла пра далейшае паглыбленне паэта ў філасофска-медытаўную сферу, узмацненне ў яго радках абстрагаванасці і інтэлектуальна-культуралагічнай насычанасці слова. Гістарычныя паралелі, аналогіі, факты, якія раней узнаўляліся ў вершах непасрэдна, цяпер існуюць у падтэксце, актывізуючы думку чытача, ствараючы непаўторную атмасферу пранікілівай дапытлівасці і ўнутрана-засяроджанага роздуму. Новым, больш драматычным гуманістычным падтэкстам напаўняецца і ключавое для паэта паняцце любові як філасофскай асновы быцця:

> Любоў нараджае не толькі дзяцей.
> Любоў нараджае не толькі надзеі.
> Любоў апрача дзяцей і надзей
> прыносіць сумненні і падзенні.
> Аддаўшы сябе сваёй сяўбе,
> свету явіўшы плады залатыя,
> самазнішчае яна сябе,
> і разам з ёю знішчаюцца тыя,
> хто яе носіць…

У асацыятыўным полі гэтай невялікай па колькасці радкоў філасофскай элегіі — трагічны лёс «праметэяў», дакладнае адчуванне маральнай атмасферы часу і спаконвечная для чалавецтва барацьба дабра і зла.

Рэчыўнасць, пластычнасць ужо знікае ў пэўным сэнсе з мастацкай палітры А. Вярцінскага, канкрэтна зрокавы вобраз, калі ён зрэдку і з'яўляецца ў вершы, служыць цяпер толькі штуршком для паэтычнай

медытацыі. Затое ўзбагачаюцца магчымасці асацыятыўнага верша, без якога паэт, па яго прызнанні, не ўяўляе развіццё нашай літаратуры. Мастацкая ўмоўнасць у А. Вярцінскага — вынік творчай эвалюцыі паэта, сведчанне высокай культуры паэтычнага мыслення, звернутага да даследавання ідэйна-філасофскага вобраза сучаснасці. Паэт выпрабоўвае самыя складаныя формы іншасказання, шматзначнасці, у якіх цэнтральны вобраз-перажыванне вынікае з асацыятыўнага збліжэння з'яў і паняткаў, вонкава часта далёкіх і несуадносных. Умоўнасцю такога роду адзначаны цэнтральны твор кнігі — паэма «Колькі лет, колькі зім!» (першая назва «Усе чатыры вятры»), дзе грамадска-палітычныя праблемы знаходзяцца ў такім дыялектычным адзінстве з філасофіяй, гісторыяй, прыродай, светам асобы, эквівалент якому — само жыццё. Паэма ўяўляе сабой, па словах М. Арочкі, арыгінальны камбінавана мантажны тып буйнога твора, надзвычай разгалінаванага, ледзь не глабальна-шматахопнага, і складаецца з асобных маналогаў (Ф. Багушэвіча, Напалеона, чэрвеньскай навальніцы), гістарычных і геаграфічных экскурсаў («Апошні дождж камунара Мільера», «Ліпеньская спякота і падзенне кабінета Макмілана», «Зіма ў Нью-Йорку»), філасофскіх эцюдаў і рэфлексій на маральна-этычныя тэмы, дзённікавых запісаў. Пэўная фрагментарнасць, знешняя выпадковасць тэматыкі ствараюць уражанне несупыннай і непрадказальнай плыні жыцця, у якім на самай справе складана адрозніць часам істотнае ад дробязнага. Паэт збліжае часавыя і прасторавыя вымярэнні, рознамаштабныя падзеі і аб'ядноўвае іх па прынцыпе кантрапункту вядучым матывам «вятроў стагоддзя». «Паэма надвор'я», як вызначае яе жанр сам аўтар, яскрава перадае атмасферу часу, неабходнасць пастаяннага веснавога абнаўлення і нясе вядучую ідэю актыўнай адказнасці чалавека за чысціню сваёй душы і клімат агульнага жыцця-быцця, «за лёс наш адзіны зямны».

Больш познія вершы А. Вярцінскага (зборнік «Хлопчык глядзіць», 1992; публікацыі ў перыядычных выданнях) дазваляюць зрабіць выснову аб устойлівасці яго эстэтычнай сістэмы, яе заўсёднай зарыентаванасці на маральна-этычную і філасофскую праблематыку, на ідэалы дабра і духоўнасці. «Верх мудрасці нашай — гэта ўсё ж дабрыня», — не стамляецца паўтараць паэт. І актыўна выкарыстоўвае знойдзеныя раней ідэйна-мастацкія прыёмы: сацыяльную алегорыю і прытчавасць, інтанацыйную гнуткасць фразы і выразны гукапіс, афарыстычную сцісласць радка.

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Маральны самы, самы натуральны
пачатак гэты вось жыццесцвярджальны.
Інакш — якая ад жыцця карысць?

Тварыць!
Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Не марнаваць, не нішчыць, не бурыць…
Тварыць!

Прыкладам публіцыстычнага асэнсавання нашага нацыянальнага характару з'яўляецца верш «Баіцца быць беларус беларусам…», дзе на глыбокім гістарычным грунце, з выкарыстаннем фальклорных традыцый і вобразаў паэт шукае адказу на балючае надзённае пытанне:

Не знае?
Не хоча?
Не смее?
Баіцца?
Вялікая гэта таямніца.
Зведаў ён ліха апраметнага.
Ён не баяўся таго і гэтага.
Хапала адвагі, каб з ворагам біцца,
ад голаду-холаду каб бараніцца…
Ды вось быць самім сабою баіцца.
Прайшоў праз Хатынь, праз Курапаты,
цярпліва зносіць Чарнобыль пракляты,
упарта крыніца яго бруіцца…
Ды быць беларусам ён баіцца.
Вось дык ноумен, вось дык феномен —
гэты ўнук бабін, сын гэты ўдовін.

«Ці, можа, ужо не баіцца?» — гэткім пытаннем заканчваецца верш, які нагадвае палемічную прамову.

У колішнім інтэрв'ю з А. Гардзіцкім паэт, дзелячыся творчымі задумамі, гаварыў пра тое, што жанравае абнаўленне для яго — «пошук самога сябе». Відавочна, што гэты пошук мае месца. Па-першае, А. Вярцінскі імкнецца да асваення розных паэтычных жанраў («Ода добрым людзям», «Ода магчымасцям мірнага жыцця, або «Штрых да партрэта Васіля Быкава», байка «Як узнікла ананімка», вершы-прысвячэнні, вершаваныя цыклы «Асобныя радкі» і «Новыя рыфмы»); адзін з першых у беларускай літаратуры стварае жанр прозапаэзіі («Яблыня ў горадзе», «Параўнанні», «Здарэнне ў судны дзень, альбо Ніл Гілевіч як аргумент»), для якога характэрны свабодны пераход ад вершаванай да празаічнай мовы, сціранне ўмоўных фармальна-жанравых межаў, прадыктаванае асаблівасцямі зместу твораў.

Пра імкненне А. Вярцінскага да пашырэння жанравых абсягаў творчасці сведчыць таксама яго цікавасць да сцэнічнага ўвасаблення

паэтычнага слова, яго вершы-зонгі з лібрэта оперы па матывах аповесці В. Быкава «Воўчая зграя», п'есы для дзяцей «Дзякуй, вялікі дзякуй!» і «Скажы сваё імя, салдат».

Вышэй гаварылася пра такія адзнакі таленту паэта, як публіцыстычнасць і палемічнасць. І не дзіўна, такім чынам, што на яго творчым рахунку — зборнікі публіцыстыкі і літаратурнай крытыкі: «Высокае неба ідэала» (1980), «Нью-йоркская сірэна» (1987) і «Трывожны досвітак» (1994). У дадзеным выпадку да жанравага абнаўлення падштурхоўвала, пэўна, не столькі асабіста-ўнутранае, колькі вонкавае, грамадскае жыццё. Але тым не менш у фармальна празаічных тэкстах дадзеных кніг шмат ад Вярцінскага-паэта з яго пакланеннем «высокаму небу ідэала», з яго перакананнем, што «жыццё даецца, каб жыццё тварыць», і яго верай, «што ёсць дабро на свеце, што будзе дабро і што пераможа дабро».

*Вольга Русілка,*
*кандыдат філалагічных навук*

## АЗ, БУКІ І ВЕДЗІ

Сумна не ведаць нічога на свеце,
жыць жыццём цёмных лясоў.
Дзень добры, аз, букі і ведзі!
Усё пачынаецца з вас, з азоў.
Бывайце, мішкі, каты ды мышкі.
Бывай, першабытны дзіцячы свет.
Дзень добры, першыя мае кніжкі!
Дзень добры, першы веласіпед!
Дзень добры, кніжкі мае другія,
таксама трэція кніжкі мае!
Дзень добры, настаўнікі дарагія!
Вучыце! — Мне ведаў нестае.
Вітаю цябе, настаўнік галоўны —
маё і ўсіхняе жыццё!
Я мала знаю, мой розум галодны,
галоднае маё пачуццё.
Блішчаць мае вочы галоднай прагай,
як вочы воўчыя уначы.
Жыццё,
            наталі іх сваёю праўдай!
Жыццё,
            наталі,
                        напаі,
                                    навучы!..
Многа чаго я зведаў на свеце.
Стамілася нават цікаўнасць мая.
Дзе вы, аз, букі і ведзі?
Дзень добры, дзеці, — гэта я!

*1964*

* * *

Мы жывём, каб вяртацца
час ад часу туды,
дзе мінула юнацтва,
дзе дзяцінства сляды.
Мы жывём, каб вяртацца.
І лепшага шляху няма.
Мы жывём, каб вітацца.
«Мама! Дзень добры, ма…»
Ну, а раптам напасці,
бяда ў той хаціне старой?
Ну, а раптам няшчасце —
і маці ў зямлі сырой?
Мы жывём, каб вяртацца.
А куды тады вернешся ты?
З кім так будзеш вітацца,
як тады, да бяды?

*1964*

* * *

Даўно мінула маё світанне.
мінае мой поўдзень,
                    мінае мой дзень.
Пачынаецца доўгае развітанне
З табою, жыцця нязгасны прамень.
А там і мой вечар,
                    мой ціхі вечар.
А потым — бясконцая ноч мая.
Узыдуць зоры
                    над лёсам маім чалавечым,
ды гэтых зораў
                    болей не ўбачу я.

*1964*

## БАЛАДА ПРА СПАЛЕНУЮ ВЁСКУ І ЖЫВОГА ПЕЎНЯ

Гэта была не проста вайна. Гэта было нешта іншае — больш страшнае, больш дзікае. Помню, міма маёй роднай вёскі ішлі карнікі — маю вёску яны абышлі. А праз нейкі час мы пачулі страляніну, убачылі дым, чорныя клубы дыму. Назаўтра мы даведаліся, што спалена вёска Кісялёва (вы знойдзеце гэтую назву на могілках вёсак у Хатыні), а жыхары яе, ад старога да малога, забіты. І яшчэ мы пачулі жахлівы расказ пра тое, як некалькі дзён «дыхала» магіла, куды карнікі скідалі кісялёўцаў, і як крычаў на вогнішчы здзічэлы певень.

…І толькі апоўначы,
прарэзліва, з усіх сваіх сіл,
свой векавы абавязак помнячы,
певень запеў, загаласіў.
Запеў і здзівіўся ён, напэўна:
«Чаму не спяваюць іншыя пеўні?»
А потым крычаў і двойчы, і тройчы,
на золаку вёску будзіць пачаў.
Крычаў, на абпаленым плоце стоячы,
крыламі лопаў і крычаў.
Ён вёску будзіў,
                    крычаў да хрыпу.
Будзіў каторы ўжо раз.
А вёска маўчала —
                         ні рыпу, ні скрыпу,
ні груку, ні гуку у адказ.
Ён вёску будзіў,
                    галасіў адчайна,
пакуль не здзічэў,
                       пакуль не знямеў.
А вёска маўчала,
                     вёска маўчала.
Яна ўжо не чула
                     той ранішні спеў…
Быў дзень вызвалення —
                                  святочны, вячысты.
Вярталіся людзі
                     да мірных спраў і сноў.
І пеўні — нястомныя фанфарысты —

мірныя дні абвяшчалі зноў.
Будзяць яны на досвітку сёлы,
і ў сёлах жывых пачынаецца рух.
Яны, жывыя сёлы, — не соні,
спяшаюцца рана на ніву і луг.
З пеўнямі сёлы прачынаюцца…
Толькі нічым не разбудзіш яе —
вёску, дзе ранак
　　　　　　　　　　інакш пачынаецца,
вёску, дзе певень
　　　　　　　　　　больш не пяе.

*1964*

* * *

Ідуць, за рукі ўзяўшыся, дзеці.
Здорава, дзеці, жыць вам на свеце!
Ідуць закаханыя —
　　　　　　　　　　　　рука ў руцэ.
Не йдуць,
　　　　　　а плывуць
　　　　　　　　　　　　　па чароўнай рацэ.
Хораша рукі дзіцячыя дружаць!
Хораша плыць па чароўнай рацэ!..
Я іду, а рука мая тужыць,
душа мая тужыць па нейчай руцэ.

*1965*

* * *

Люблю зямлю,
　　　　　　　　　　дзе ёсць дзіцячая казка,
дзе ёсць дзяцінства
　　　　　　　　　　　　і ёсць маладосць.
Люблю зямлю,
　　　　　　　　　　дзе ёсць жаночая ласка,
і дружба ёсць,
　　　　　　　　　　і многае іншае ёсць.
Люблю зямлю.

І тую ж зямлю праклінаю —
дзе казкі таюць,
як ранішнія дымы,
дзе здрады знаю
і страты знаю,
дзе ўсё праходзіць
і дзе праходзім мы.
Люблю зямлю я
сэрцам сваім натхнёным.
І праклінаю,
і тым жа сэрцам тужу.
Так і жыву —
паміж любоўю й праклёнам,
так і дзялю між імі сваю душу.

*1965*

## ЖЫЛІ-БЫЛІ…

Жылі-былі…
Так пачынаюцца казкі.
Задоўга да нас
людзі жылі-былі.
Справы рабілі,
хацелі любві і ласкі,
ірвалі краскі.
І адышлі, адплылі.
Жылі-былі…
Словы гучаць эпітафіяй.
Жылі-былі.
І адышлі, адплылі.
Толькі над намі
лятаюць іх душы птахамі,
толькі сляды іх
цямнеюць усё на зямлі.
Жылі-былі…
Скончацца нашы краскі,
справы і ласкі,
скончыцца наш час.
Жылі-былі…
Так пачынаць будуць казкі.

І гэтыя казкі
будуць ужо і пра нас.

*1965*

## ТРЫ ЦІШЫНІ

Аднекуль з касмічнай вышыні
зыходзіць да нас тры цішыні.
Першая — вечаровая.
Тая, што, як маг,
ахутвае, зачароўвае —
лёгкі ў мага ўзмах.
Тая, што на вейкі
і вусны кладзе пячаць:
«Хопіць з вас, чалавекі,
хопіць дбаць! Спаць, спаць!
Спяць куты і нішы,
спяць каты і мышы,
дзеці і птушкі спяць.
Людзі, хопіць дбаць!
Спаць, спаць!
Чые там крокі скрыпяць!
Спаць, спаць!»

Ёсць цішыня-паўночніца,
начная цішыня, —
дум бяссонных памочніца,
вярхоўны іх старшыня.
Застацца з той цішынёю,
З ёю, сівой савой, —
стаць сутнасцю сваёю,
стаць самім сабой.
Застацца з ёю — гэта
у той увайсці сезам,
дзе сам-насам з сусветам,
з вечнасцю сам-насам.
І ёсць цішыня світальная,
ёсць яшчэ цішыня
першага вітання,
першага агню.

Яна заводзіць гадзіннікі,
і разам з імі яна
пазвоньвае-падзіньквае,
і — трубіць цішыня.
Трубіць ціша світальная
у свой сярэбраны рог,
заве у далі дальнія,
да новых спраў і дарог.
Трубіць ціша світальная,
крыштальная, развітальная,
і патанае яна
у вадаспадзе дня.

*1965*

* * *

«Гора — не бяда,
                    бяда — не гора,
пабыла — сплыла,
                    нібы вада.
Няма праўды —
                    гэта ўжо горай,
гэта ўжо цэлая бяда.
Гора — не бяда, бяда — не гора…» —
гаварыў так часта дзед Рыгор,
хоць да майго дзеда да Рыгора
гора і заходзіла на двор.
Спіць мой продак, соснамі адпеты.
Я жыву — яго і плоць, і косць.
На маім рахунку ёсць і беды,
на маім рахунку гора ёсць.
Знаю добра іхні горкі прысмак,
іхні смак. І знаю я яшчэ —
як несправядлівасць, нібы прысак,
тваё сэрца раптам апячэ.
Я спасціг, што беды —
                    непазбежнасць,
немінучы спадарожнік мой.
Я прызнаў жалезную залежнасць
ад прыроды — мёртвай і жывой.

Я сцярплю усе яе няміласці,
і капрызы, і сюрпрызы ўсе.
Толькі аднаго —
несправядлівасці
чалавечы дух мой не знясе.

*1965*

## РАЗВІТАННЕ

Бывайце, бывайце!
Да новай сустрэчы!
Дзеля сустрэч і жывём на зямлі.
Мы ад’язджаем, сабралі рэчы.
А можа, што-небудзь не ўзялі?
Можа, што-небудзь застаецца?
Мы аглядаемся навакол.
Не, сабрана ўсё, здаецца.
Не, дарэмны наш неспакой.
Усё сабрана, усё ўзята.
Бывайце, бывайце!
Бывай, наша свята —
светлае свята стрэчы з людзьмі,
свята даверу і любві!
Бывайце, бывайце! —
Душы занылі.
Што мы забылі ў апошні міг?
Кавалачак сэрца мы забылі,
пакінулі ў сяброў сваіх.
Бывайце, бывайце!..

*1965*

## ПРА ВОЎКА ПАМОЎКА…

Пра воўка памоўка, а ён і тут.
А ён і тут. Ну, проста цуд!
З’явіўся ў тую ж мінуту якраз.
«Дзень добры!» — кажа,
і мы — ў адказ.

Стаіць, усміхаецца. Нібы не шэры.
Не вые па-воўчы, зубы не шчэрыць.
Такія ж, як нашыя, вушы і вочы.
Вонкавы выгляд далёка не воўчы.
Ай ды воўча! Ай ды ён!
Ды ён жа двойчы хамелеон!
Там, дзе авечкі, —
у шкуры авечай.
Там, дзе чалавечкі, —
у чалавечай.
Стаіць, усміхаецца.
Ай ды ён!
Ды ён жа тройчы хамелеон!
Знае, што сябра нам нестае,
дык ён за сябра сябе выдае.
Нават ён хоча большага нечага —
строіць ён друга з сябе чалавечага.
Ай ды воўча! Ай ды чмут!..
Пра воўка памоўка, а ён і тут.
Стаіць, усміхаецца. Ён ці не ён?
Выгляд не воўчы —
не выганіш вон.
Ды раптам што-небудзь такое —
ўраз
завые і схопіць за горла вас.

***1965***

* * *

Косім траву — яна не крычыць.
Яна маўчыць адчайна.
Мы пачынаем камень крышыць,
зацятае тое ж маўчанне.
Тое ж маўчанне, калі тапаром
мы дрэва зялёнае нішчым,
калі мы за жабры рыбу бяром
і б’ём галавой аб днішча.
Рыба набрала ў рот вады…
Затое, калі самім нам
бывае балюча, і тады

крычым мы крыкам нястрымным,
крычым мы не толькі ад болю свайго
яго было б нямнога, —
крычым мы ад болю ўсяго
свету зямнога.

*1965*

## СПАЧУВАННЕ

Спачуваю чалавеку,
        калі ў яго праразаюцца зубы.
У мяне самога праразаліся зубы,
і хоць я гэта не помню,
але ведаю: балюча было тады.

Спачуваю чалавеку,
        калі ён б’ецца над пытаннямі,
        калі да яго прыходзяць сумненні,
        калі яго спасцігаюць расчараванні.
Я зведаў на ўласным вопыце
і тое, і другое, і трэцяе.

Спачуваю чалавеку,
        калі яму крыўдна,
        калі гняце яго несправядлівасць.
Несправядлівасць! Я знаю, што гэта такое.
Самая большая рана на маім сэрцы —
І гэта тая, якую пакінула несправядлівасць.

Спачуваю чалавеку,
        калі ў яго памірае маці,
        калі ў яго гора.
У мяне самога памірала маці,
я сам глядзеў у чорную бездань гора.

Спачуваю чалавеку,
        калі ён баіцца смерці,
        калі ён паміраць не хоча.
Я ж сам смяротны і ведаю:
не так гэта лёгка памерці,

калі над табой такое сіняе-сіняе неба,
калі вакол такая зялёная-зялёная трава.

Спачуваю чалавеку,
        і гэта, відаць, натуральна.
Бо хто ж яму паспачувае,
калі не я — такі ж, як ён, чалавек!

*1965*

* * *

Гэта не так ужо і сумна
пакідаць жанчыну, калі
ведаеш, што вернецца судна
да яе берага, яе зямлі.
Калі ты знаеш: шляхі твае
зноў прывядуць цябе да яе.

Гэта не так ужо і сумна
пакідаць жанчыну, калі
кліча цябе баявая су́рма,
цябе прыспешваюць: «Пайшлі!»
Калі абавязан пакінуць жанчыну.
Будзеш жывы —
                        сустрэнешся з ёй,
загінеш — перад ёй і айчынай
ты выканаў абавязак свой.
Самае сумнае — не гэта,
самае сумнае — тады,
калі жанчыну, табой сагрэтую,
ты пакідаеш назаўжды,

і пакідаеш яе не дзеля
нейкіх вышэйшых спраў і надзей.
Проста мінула кахання нядзеля,
а панядзелак — ростані дзень.
Калі пакідаеш —
                        з яе дакорам,
з яе уяўнаю віной,
з яе паглядам тым пакорным,
які адчуеш ты спіной,

калі, пакінуўшы адну,
ідзеш у цішыню,
                    не на вайну.

*1965*

## ЖАНОЧЫЯ РУКІ

Сведчылі месяц, ноч і я:
сцелюць пасцель
                    рукі жаночыя.
Рукі белыя,
            рукі ўмелыя,
як яны знаюць
                    справу сваю!
Узлятаюць з падушкамі белымі,
белымі птушкамі снуюць.

«Я пасцель сцялю,
я пасцель сцялю,
падзялю яе
з тым, каго люблю.
Падзялю яе
з тым, каго люблю.
Я пасцель сцялю,
я каханнем,
я пяшчотай сваёй
падушку паб'ю
і сагрэю сваім дыханнем».

Прасціна лісцём зашапоча:
сцелюць пасцель
                    рукі жаночыя.
Рукі ўмелыя, светлацелыя!
Няма, здаецца, нічога прасцей,
чым узбіць падушкі белыя,
чым узяць і паслаць пасцель.
Так, асаблівай не трэба навукі.
Справа звычайная, не цуд.
Але патрэбны жаночыя рукі,
толькі яны патрэбны тут.

*1965*

* * *

Не ўсе і не заўсёды
вяртаюцца пчолы ў соты
з ношаю сваёй —
гінуць разам з ёй.
Не ўсе дапаўзаюць мурашкі:
груз у мурашкі цяжкі,
і птушкі па вясне
не ўсе далятаюць, не.
Упаў журавель на дасвецці,
выбіўся з сіл і надзей…
Тое ж і ў нашым свеце,
тое ж і ў нас, у людзей.

*1965*

* * *

Пайшло яно —
                    незваротнае,
як час, як само жыццё.
Глядзім услед, гаротныя:
«Бывай, бывай, пачуццё!»
Думалі, што ты вечнае,
што нам любіць і любіць.
А выйшла так недарэчна,
што горай не можа быць.
Не ўспамінай нас ліхам!
А ў нашай памяці ты
самым светлым міфам
застаешся заўжды.
Было ты кроўнае,
                    роднае,
і вось пакідаеш нас —
такое ж незваротнае,
як жыццё і час.

*1965*

## ЭДЗІТ ПІЯФ ХОЧА ЛЮБВІ

Эдзіт Піяф хоча любві.
Голас гучыць страсна.
Голас яе — голас крыві,
якой без любві страшна.
«Я — зорка першай велічыні?
Не знаю, можа, і зорка.
Знаю толькі, што без любві
зорцы золка і горка.
Шчасце — гэта, мсье, любіць,
гэта знаць пяшчоту,
што можа з дзвюх істот рабіць
адзіную істоту».
Эдзіт Піяф хоча любві,
такой, што не знікае.
Толькі ці ёсць паміж людзьмі
яна — любоў такая?
Быў карантыш, быў легіянер,
высокі і статны,
быў бядняк і міліянер,
і быў спявак эстрадны.
Быў паэт.
                        Быў.
                                    Былі.
Любілі ці не любілі,
а — як у моры караблі,
на сушы аўтамабілі.
Эдзіт Піяф хоча любві.
Эдзіт, цябе любілі?
Быў.
            Былі.
                            З першым святлом
знікала ўсё,
                            як выпадак.
А на душы — яшчэ надлом,
яшчэ адзін асадак.
Эдзіт Піяф хоча любві.
Любоў, як здань, знікае.
Ці таму, што сэ ля ві,
ці, можа, любоў такая.
Адным Эдзіт казала адзью,

другія самі казалі.
Знае Эдзіт песню адну —
не для канцэртнай залы:
«Лётала птушкай любоў у палях.
Лётала вольна і смела.
Птушку гэту нехта піф-паф,
і птушка ўніз паляцела.
Птушка ляцела на зямлю,
склаўшы ў адчаі крылы.
На развітанне крычала:
«Люблю!»
Трывожна крычала:
«Мілы!»
Птушка, якую нехта піф-паф,
ніжай усё і ніжай…»
Падбітая птушка, Эдзіт Піяф,
песню пяе ў Парыжы.
Слава прыйшла.
«Брава» і «біс», —
крычаць. — «Біс» і «брава».
А да таго, як цяжка любіць,
якая ім справа.
Ёсць ганарары,
ёсць раяль.
Бывайце, няўдачы, нястачы!
Эдзіт Піяф спраўляе баль,
баль сваёй удачы.
Толькі на ім чагось нестае.
Любві не патрэбны вілы.
З мілым рай і ў будане,
толькі дзе ён, мілы?
Хоча любві Эдзіт Піяф.
Не той, што толькі для цела.
«Лётала птушкай любоў у палях.
Лётала вольна і смела».
Быў.
Былі.
Быў друг адзін.
Разбіўся ён. Бывае ж!
Ты плачаш, Эдзіт? Пяеш, Эдзіт?
Ці друга адпяваеш?
Узбройся воляй да зубоў.

Крутая ў любві строма.
І так заўсёды —
                    дзе любоў,
там і катастрофа.
Няма любві, —
                    душа, не тужы!
Туга, не душы —
                    няма ласкі!
Душа крычыць,
                    крычаць душы́
галасавыя звязкі.
«Лётала птушкай любоў у палях…»
Яснейшай няма маралі.
Пяе аб любві Эдзіт Піяф.
Хоча любві Эдзіт Піяф.
І — без любві памірае.

*1965*

* * *

Хто вынайшаў веласіпед? —
над гэтым не вельмі думае свет.
Ён круціць сабе педалі,
што яму паданні.
А самыя першыя цягнікі?
Ці важна, кім яны створаны?
Ішлі б цягнікі ва усе бакі,
усімі зямнымі пrасторамі.
Лямпачка над маёй галавой —
крыніца энергіі светлавой.
Каму тут належыць прыярытэт? —
не думаю ніколі,
хаця, здаецца, і бачыў партрэт,
хаця і вучыў у школе.
Проста удзячны я яму,
удзячны за ўсё за гэта.
І ў гэтым сэнсе продку майму
не пагражае Лета.
Справа не ў нашых імёнах,
                    не ў тым,

хто, дзе і калі, — не ў славе.
Слава, як вядома, — дым.
Справа — у добрай справе!

*1965*

* * *

Мы напачатку зазналі страху,
перад прыродай падалі ніц.
Потым лятаць вучыліся ў птахаў,
агонь здабываць —
 у навальніц,
плаваць — у рыб,
 у пароды кацінай
мы вучыліся паляваць,
шумець — у ветру,
 у кракадзіла —
фальшывыя слёзы праліваць.
Быць задуменнымі — у воблак,
быць засяроджанымі — у дрэў.
Да зор узнімаў чалавек свой воблік
і, гледзячы на іх, мудрэў.
Па прыкладу скал —
 ён незгінальны…
І тут, і там, як бачым, ён
і не такі ўжо арыгінальны,
і не такі геніяльны ён.
Проста вучыўся ён заўсёды.
І тут, і там — вучобы плён,
уплыў настаўніцы-прыроды,
яе палон, яе шаблон.
Другая справа —
 стаць чалавечным.
Тут узорам не можа быць
прырода з яе законам адвечным:
«З ваўкамі жыць — па воўчы выць».
Гэты закон не патурае
чалавечнасці, згодна з ім:
добрым быць — не натуральна,
больш натуральна — жорсткім і злым.

І ўрок, і ўзор, і прыклад добры
тут у самім сабе знайдзі,
і ў тых, хто да цябе падобны, —
знайдзі і ў новы свет ідзі!
Ідзі! Будзь мужным і неспакойным!
І на шляху сваім крутым
ірві з законам тым спакойным,
з законам тым, шаблонам тым!
Ідзі! Адольвай самавукам —
няма ж гатовага вакол! —
сваю нялёгкую навуку,
сваю цяжэйшую са школ!
Ідэі! Хоць век,
                    хоць цэлую вечнасць!
Як ходзяць ветры супраць рэк.
Ідзі і помні: чалавечнасць,
яна — ад слова «чалавек»!

*1965*

## ПАХАВАЛЬНАЕ ШЭСЦЕ

Дзеці нараджаюцца параўнаўча рэдка,
а нас так многа,
нас поўны горад,
нас поўная планета.
Адкуль нас столькі бралася?
Калі мы толькі паспелі нарадзіцца?
Людзі як быццам бы смяротныя,
а паміраюць параўнаўча рэдка —
асабліва ў мірны час.
І пахавальнае шэсце на вуліцы горада
здаецца нам
                    ледзь не вулічным здарэннем,
ледзь не сумным непаразуменнем:
«Хіба паміраюць людзі?»
Так і на гэты раз.
Павольна рухаецца пахавальнае шэсце.
Ледзьве перастаўляюць ногі людзі,
ледзьве круцяцца колы машыны,
ледзьве плыве жалобная мелодыя,

бо пахавальны марш
у адрозненне ад іншых маршаў
напісаны ў тэмпе адажыо.
Павольна рухаецца пахавальнае шэсце.
І вуліца па-свойму прымае яго.
Вуліца прымае яго
краем вока,
краем вуха,
краем сэрца.
Прымае рассеяна і няўцямна:
«Хіба паміраюць людзі?»
Вуліца не можа прыняць усур’ёз
пахавальнае шэсце —
з гэтай дзівачкай-машынай,
што паўзе чарапахаю,
з гэтымі аголенымі,
нізка схіленымі галовамі,
з гэтай жалобнай,
напісанай у тэмпе адажыо, мелодыяй.
Вуліца жывая, і яна жыве,
і яна хоча жыць.
Яна хоча імчацца на поўнай хуткасці,
яна хоча галаву высока і весела несці,
яна хоча слухаць мажорную,
напісаную у тэмпе алегра, мелодыю.
Вуліца, вечна жывая,
і яна здзіўлена пытае:
«Хіба паміраюць людзі?»

*1965*

## АКІЯН І ЛУЖЫНА

Я сказаў:
«Акіян — вялікая лужына».
Як усхадзіўся акіян!
Маўляў, пакрыўдзілі незаслужана,
абразілі акіянскі сан.
Як загудзеў, зашумеў раз’юшана,
як пагнаў за валам вал:
«Я вам пакажу, якая я лужына!

Я болей прывык да од і пахвал».
Я моўчкі глядзеў, як шалее стыхія,
і думаў са скрухай:
«Вялікі такі,
а крыўдзіцца гэтак жа, як і другія,
як дробныя лужыны і ручайкі».

*1965*

* * *

Людзі простыя гадаюць,
знаць жадаюць і пытаюць,
што людзі вялікія ядуць.
А людзі вялікія тое ядуць,
што людзі простыя ім дадуць.
Яшчэ гадаюць людзі простыя,
на чым вялікія людзі спяць,
хаця ткуць самі коўдры і просціны,
хаця самім даводзіцца слаць.
Яшчэ загадка для простых людзей…
Загадак у іх, як у дзяцей!
Ах, простыя людзі, простыя людзі,
калі вам усё зразумела будзе?

*1965*

## БАР’ЕРЫ

Фізік квантуе прастору і час.
Глядзяць касманаўты у бок Венеры.
На змену тым, што пайшлі ў запас, —
новыя меры,
сферы і эры.
Падае за бар’ерам бар’ер —
гукавы,
светлавы,
зямных гравітацый…
Вучоны муж!
Я рады, павер,
я ганаруся тваёй працай.

Толькі ёсць у мяне неспакой:
ці хутка дойдзе чарга да бар’ера
глухой адчужанасці людской,
неразумення і недаверу?
Калі ён падзе —
ракавы,
векавы —
на нашых шляхах у новыя эры,
як некалі паў бар’ер гукавы,
як падаюць іншыя бар’еры!

*1965*

* * *

Сціраюць з карты белыя плямы
і адкрываюць мацерыкі
не калумбы — калумбавы мамы,
іхнія добрыя мацяркі:
благаславенне матчына іх,
малітвы іх за сыноў сваіх.
І мір заключаюць не дыпламаты —
па іх бы голас гарматаў не сціх, —
а мутэр і мэр, маці і маты,
добрая матчына воля іх.
І рэвалюцыі — справа іх рук,
прасцёртых роспачна і нема.
З гронак матчынага гневу
праліваецца кроў на брук.

*1965*

* * *

«Дзень добры, мама!» —
кажу крыжу
і пацямнеламу узгорачку.
«Дзень добры, мама!» —
зноў кажу
і слухаю маўчанне з горыччу.
Маўчаць узгорачак і крыж.

Ды чую: сосны зашумелі,
парушылі глухую ціш —
мне адказалі, як умелі.
Я доўга слухаю той шум.
Ідзе ён проста у душу мне.
І чую ў шуме я свой сум
і сваю думу чую ў шуме.
І ўжо, здаецца, сам шумлю,
і па сасне, нібы па мачце,
мой голас-шум ідзе ў зямлю,
і разумее яго маці.
І шле мне матчын свой адказ,
і пачынае мяне зваці…
…Я ўдзячны, сосны!
Як без вас
пагаварыць я мог бы з маці?!

*1965*

## ДЫНАМІК

Ён пасіпеў, пахрыпеў і змоўк.
Болей нічога сказаць не змог.
Падышла старая, паслухала.
«Што гэта сёння з ім?»
Падышла бліжэй, пастукала.
«Маўчыць, не гаворыць зусім».
Хуценька ў печы дапаліла,
трохі прыбрала, падмяла.
Пайшла вуліцай тапалінай
у другі канец сяла.
Кажа ўсім: «Іду да радзіста.
Нешта радзіва маўчыць».
А ў радзіста сын нарадзіўся,
сын нарадзіўся і крычыць.
«У вас весела, — кажа старая. —
Гэта добра, што сынок.
Бач, крычыць як, як стараецца…
Галасісты крыкунок.
Так крычаў і мой малодшанькі,
што забілі на вайне…

Бач, выпроствае аж ножанькі.
Імя выбралі ці не?
Так крычаў і мой сярэдненькі,
не вярнуўся што з партызан…
Бач, які галасок сярэбранькі!
Слаўны, слаўненькі пацан!
А старэйшы быў ціхоня.
Як радзіўся — спаў і спаў…
Можа, дзе жыве і сягоння,
раз без весткі ён прапаў?
Ні сынкоў няма,
нікога.
Толькі радзіва адно.
Толькі радзіва —
мне падмога.
Што б рабіла, каб не яно?
І пагаворыць, і паспявае,
добрай ночы жадае мне.
І паплачам з ім, бывае,
як успомнім аб вайне.
Ды здарылася з ім штосьці,
не гаворыць яно зусім.
Падбяжы як-небудзь, Косця,
паглядзі, што гэта з ім.
Дык падыдзеш?
Пастарайся…
Добра ў вас, ды я пайшла».
І пайшла дамоў старая,
у другі канец сяла.

***1965***

## ПОЕЗД СПРАВЯДЛІВАСЦІ

*Васілю Быкаву*

Поезд справядлівасці
часта спазняецца.
Ці таму, што дзесьці
падоўгу спыняецца?
Ці яго стрымоўваюць
ветры і ліўні?

Ці ён проста ходзіць
па няўдалай лініі?
Ці чакае часам
недзе поезд стрэчны?
Ці тут вінаваты
усё той жа стрэлачнік?
А можа, другія
якія прычыны?
Што робіцца ў свеце?
Што робіцца ў Чылі?
Поезд, дзе ты, поезд?
Хіба пакараны
забойцы Альендэ[1],
каты Карвалана[2]?
Ён такі ўжо поезд.
Паўзе чарапахаю.
Як цягнуўся калісь
цягнік Чарапанавых[3].
І, вядома, позніцца
пры такім вось ходзе —
то на паўхвіліны, то на паўстагоддзя…
Я стаю на станцыі,
я квіток трымаю.
Семафор зялёны
насцеж адкрываю.
Я з тых пасажыраў,
хто у асаблівасці
чакае той поезд, поезд справядлівасці.
Хто ім проста трызніць,
для каго ён — шчасце.
Хто сябе гатовы
шпалаю пакласці
пад поезд жаданы —
абы толькі йшоў ён,
абы явай быў ён,
не марай дзяшовай…
Таварыш дзяжурны,
таварыш дыспетчар,
такое спазненне
проста небяспечнае,
такое спазненне
да смерці падобнае!

Вы ўжо, калі ласка,
папрацуйце добра!
Вы агледзьце рэйкі,
вы падсыпце гравійку.
Поезд справядлівасці
каб хадзіў па графіку!..

*1966*

## МАМА МЫЛА РАМУ…
*Паводле буквара*

Была і ў мяне мама.
Мыла раму таксама.
Мыла раму яна
дабяла, даясна.

Ці то ішло свята,
ці то прыйшла вясна.
Мама была занята —
мыла раму яна.

Мама раму мыла,
мама мыла шкло,
каб сонца не йшло міма,
а ў нашу хату ішло.

Стала светлай хата,
рады былі мы.
Ці то было свята,
ці то канец зімы…

Было ў мяне дзяцінства,
маці ў мяне была.
Раму мыла дачыста,
даясна, дабяла.

Потым не стала мамы.
Астыла наша гняздо.
Ніхто не мыў там рамы,
вокан не мыў ніхто.

Колькі святла навокал!
А мама туды пайшла,
дзе ні рам, ні вокан,
дзе ні школы, ні святла.

Не мыць ёй болей раму.
Свята абходзіць маму.
Святло абходзіць весняе.
І — маё акно
глядзіць на свет нявесела,
пацьмянела яно.

*1966*

## ЖАДАННІ

### 1

Знайсці б які пакойчык кутні
і там, забіўшыся ў куток,
аддацца радасці пакутнай —
пісаць: радок! Яшчэ радок!

### 2

Забрацца б на пустынны востраў,
за трыдзевяць зямель і вёрстаў,
узяўшы толькі стопку кніг.
І — начытацца ўволю іх!

### 3

Разуцца б і пайсці сцяжынай —
то травяністай, лугавой,
то гладка ўбітай, палявой,
нагамі ўбітай, не машынай.

4

Вярнуцца б зноў у маладосць,
цябе сустрэць яшчэ чужую
і жыць пачаць без гэтых вось…
Ты ведаеш, пра што кажу я.

5

Вось твой лясок.
Вось твой пясок.
Вось твае сосны.
Твая яма.
Пачуць бы яшчэ раз:
«Сынок».
Паклікаць бы яшчэ раз:
«Мама».

*1966*

* * *

Гудзела, гуло ў маіх вушах.
Гудзела, гуло ва ўсім маім целе.
А з целам была заадно і душа —
суладна яны звінелі, гудзелі.
Як мора у бераг,
так біўся той гул
ў мае барабанныя перапонкі.
І мроіўся белы, рамонкавы луг:
ад краю да краю бялелі рамонкі.
Гудзела, гуло ў маіх вушах.
Гуло і звінела ва ўсёй істоце.
Гуло на высокай, пранізлівай ноце.
І я зразумеў —
о шчасце! о жах! —
што значыць той гул,
што значыць той луг.
Я быў закаханы.
Я быў — як усе мы.

І я, як звяно,
уключаўся ў ланцуг
кахання, яго ўсепланетнай сістэмы…

*1966*

* * *

Паміраюць ад кулі шалёнай,
ад вады,
ад жуды,
ад бяды.
І яшчэ — ад зялёнай-зялёнай,
ад зялёнай, як раска, нуды.
Паміраюць марудна-марудна.
Паміраюць шмат дзён і начэй.
Паміраюць марудна і трудна —
паміраць нечакана лягчэй.
І я лёс свой прашу:
«Калі ласка,
дай пражыць мне мае гады
без зялёнай-зялёнай, як раска,
без зялёнай смяртэльнай нуды!»

*1966*

## СТАТАК ВЯРТАЕЦЦА З ПОЛЯ…

Статак вяртаецца з поля.
У цішыні вечаровай
бягуць авечкі і козы,
спаважна ідуць каровы.
Статак вяртаецца з поля.
Што трэба вёсцы болей?
Вёска святкуе падзею,
выйшла уся насустрач —
ад гаспадынь руплівых
да дзетвары шустрай.
Бляюць авечкі і козы,
ціха мычаць каровы.
Людзі уздоўж пасталі,

як каравул ганаровы.
Людзі рады жывёле.
Ціха каровы рыкаюць,
знаюць, што іх сустракаюць,
рады, што іх чакаюць.
Статак вяртаецца з поля
доўгаю чарадою.
Над вёскаю пах духмяны,
пах густы сырадою.
Статак вяртаецца з поля…
А за полем, за лесам
недзе горад вялікі
ляскае жалезам.
Недзе спяшаць на дыспут.
Недзе спяшаць на прэм'еру.
Недзе прэм'ер-міністр
дае абед ці вячэру.
Нехта робіць адкрыцце,
нехта рыхтуе прамову,
нехта гаворыць тайна
па проваду прамому.
А ў вёскі свая надзея.
А ў вёсцы шуміць таполя.
А ў вёскі свая падзея —
статак вяртаецца з поля.

*1966*

## НАВАГОДНІ ТОСТ

Я прапаную тост за Час!
Давайце ўзнімем чашы
за Час, працуе што на нас,
на спадзяванні нашы.
Я прапаную тост за Час!
За Час, працуе што на нас
настойліва, сумленна,
нястомна і нязменна!
Парою здацца нам магло,
што Час — ён безудзельны:
не за дабро і не за зло,

што Час — зусім бяздзейны.
Мы памыляліся тады.
Бывалі розныя гады…
А Час прыходзіць —
як зара,
як свежы подых ветру.
І адступае хваля зла,
і робіцца зноў светла.
Прыходзіць Час, прыходзяць дні,
Час ставіць кропкі ўсе над «і».
Усё на месца ставіць ён,
ён назаве адразу —
не любіць час ілжэімён —
усё сваёю назвай.
Хлуснёю назаве хлусню,
а мітуснёю — мітусню,
нядоўгае — нядоўгім,
нядобрае — нядобрым,
нячыстае — нячыстым,
злачыннае — злачынствам.
Тырана так і назаве —
тыранам, німб з яго сарве.
Нам памагае ўбачыць Час:
тут — толькі попел,
там — алмаз,
тут — зерне,
там — палова,
тут — пустазвонства гучных фраз,
там — ісцінная слова.
Я прапаную тост за Час —
саратніка, сааўтара!
За Час, што працаваў на нас,
За Час, працуе што на нас,
што будзе працаваць на нас,
служыць нам верна заўтра!

*1967*

## ВЫСОКАЕ НЕБА ІДЭАЛА

Высокае неба ідэала!
Мая душа чалавечая спала,
вякамі спала да той пары,
пакуль не ўбачыў цябе ўгары,
пакуль нада мною ты не заззяла, —
высокае неба ідэала!
Калі адкрыў цябе аднойчы,
убачыў сябе з тваёй вышыні, —
сталі іншымі мае ночы,
сталі іншымі мае дні.
Ты новым сэнсам іх асвятляла,
высокае неба ідэала!
Ты мне дало другое дыханне,
дало мне дарогу і сяброў.
І толькі так, як хвалюе каханне,
ты хвалявала маю кроў.
Ты мяне вабіла і чаравала,
высокае неба ідэала!
Хмурэў —
ты усмешку мне вяртала.
Звярэў —
ты мудрасць мне вяртала.
Хварэў —
ты сілы мне вяртала.
Старэў —
ты свежасць мне вяртала, —
высокае неба ідэала!
Ты мяне вабіла і чаравала.
Парой здавалася явай такой,
да якой падаць рукой, —
высокае неба ідэала!
Цягнуў я рукі да цябе,
як цягнуць рукі у мальбе,
але рукі той было мала,
высокае неба ідэала!
Відаць, кароткаю рукой
быў ад прыроды я надзелены,
і траціў часам я надзеі,
і траціў часам я спакой.
Ды зноў мяне ты уздымала,

высокае неба ідэала!
Зноў уздымала і вяло,
Зноў хвалявала, бунтавала,
давала сілу і святло,
нібыта нізкаму назло, —
высокае неба ідэала!
Ты шмат ахвяр патрабавала.
Ды, падаючы ў барацьбе,
я позіркам лавіў цябе.
І ты ў халодных зрэнках ззяла, —
высокае неба ідэала!..

*1967*

* * *

Ляцеў груган.
Сеў на курган.
Агледзеўся навокал.
Знаёмае штось заўважыў груган
сваім старэчым вокам.
Ці то гэты дуб,
ці то гэта косць,
ці роў той —
яму нагадалі
яго,
груганову, маладосць,
яго,
гругановы, балі.
Здаецца, вось тут, —
бо той жа роў,
тыя ж валун і дрэва, —
ляжалі трупы,
стаяла кроў,
еш і пі —
колькі трэба.
Здаецца, вось тут
і быў той баль,
тая салодкая трызна.
Калі то было?
Яму ж амаль

дзвесце, калі не трыста.
Калі насыпаны гэты курган?
Хто ведае, хто знае…
Сядзіць груган.
                Глядзіць груган.
Маладосць сваю ўспамінае.

*1967*

* * *

Я фільм глядзеў.
                Там — Спартака распялі.
Распялі ноччу,
                калі ў Рыме спалі.
Вісіць Спартак,
                канае на крыжы.
А ўнізе, каля ног яго, жанчына
ўзіраецца ўтрапёнымі вачыма.
«Спартак, Спартак…
                хоць слова мне скажы!»
У роспачы хапаецца за ногі.
«Спартак, Спартак…»
                У зале плачуць многія.
Ды і ў мяне самога ў горле ком,
і сам слязіну я змахнуў тайком…
Спартак, Спартак!
                Героі ўсіх эпох!
Ці не такі ваш лёс быў у фінале?
Як нехта моцна спаў,
                вас распіналі,
вы ціха на крыжы сваім канали,
і білася жанчына каля ног.

*1967*

## ДЗІВАК ЧАЛАВЕК

Дзівак чалавек…
Глядзіць на расінку макавую
і цэлае сонца бачыць перад сабой.
Дзівак чалавек…
Бярэ звычайную ракавіну
і чуе ў ёй
акіянскі прыбой.
Дзівак чалавек…
Бачыць сцяжынку гладкую,
а марыць аб трудных,
цярністых шляхах,
з іх круцізною,
з іх небяспечнай загадкаю,
і будзе ісці,
пакуль мае сілу ў нагах.
Дзівак чалавек…
Са стратаю непапраўнаю
не мірыцца ён нізашто у душы.
З няпраўдай не мірыцца
і з крыўднаю праўдаю
не хоча мірыцца —
хоць кол ты на ім чашы.
Дзівак чалавек…
Яму шмат чаго адмовілі.
А ён не здаецца,
а ён не спіць па начах.
Ён верыць усё
ў свой перпетуум-мобіле,
у панацэю,
у цудадзейны рычаг.
Дзівак чалавек…
Не можа не спадзявацца,
не можа не верыць,
не можа ніяк!
Дзівак чалавек…
І гэта яго дзівацтва —
ратунак яго,
яго чалавечы знак.

*1966–1967*

## ДЗВЕ ПАРАЛЕЛЬНЫЯ ПРАМЫЯ

За школьнымі вокнамі вецер вые…
Пра дзве паралельныя прамыя
гаворыць настаўнік, ад холаду сіні.
На чорнай дошцы —
дзве белыя лініі,
якія ніколі не перасякаюцца,
якія нідзе не сустракаюцца…
«Няўжо гэта праўда?
Няўжо — ніколі?» —
думаю я, ідучы са школы.
«Няўжо гэта праўда?
Няўжо — нідзе?» —
думка з маёй галавы не ідзе…
Даўно адшумелі школьныя ветры,
ды помню чамусьці урок геаметрыі.
Перада мною зноў, як жывыя, —
дзве паралельныя прамыя.
Бачу: ідуць у прасторы лініі,
нічога агульнага паміж імі.
Ідуць і маўчаць яны, як нямыя,
дзве паралельныя прамыя.
Ідуць яны побач,
ідуць яны поплеч, —
адна другую не клічуць на помач.
Нібы пракляцце вісіць над імі,
над паралельнымі прамымі.
Чамусьці не суджана ім збліжэнне,
суджана — вечнае адчужэнне.
Не суджаны ім сустрэчы праменныя:
яны — прамыя,
яны — паралельныя.
Ад крыўды за іх маё сэрца ные,
дзве паралельныя прамыя!

*1967*

## СКАЖЫ МНЕ, МАМА…

*Памяці І. Хадановіча*

Ён нарадзіўся вельмі рана.
Ён нарадзіўся на зары.
А на зары — яшчэ туманна
і яшчэ золка на двары.
Ён нарадзіўся вельмі рана,
калі яшчэ зашмат туману —
туману фальшу і падману,
зашмат імглы і слепаты,
зашмат усякай свалаты.
Ён нарадзіўся вельмі рана.
З душою — чуйнай, як мембрана,
з душой — адкрытаю, як рана,
ён успрымаў удары зла,
як рана — вастрыё ляза.
Так, ён з яго жывым сумленнем,
з яго высокім уяўленнем,
на многае глядзеў з здзіўленнем.
Ён, як дзіця, пытаўся ў нас:
— Навошта гэта —
асцярожнасць,
няшчырасць,
жорсткасць
і варожасць?
Навошта? Дайце мне адказ!
Навошта? Ну, скажыце прама.
Навошта? Ну, скажы мне, мама.
Мне, мама, многае няўцям.
Навошта? Ну, скажы мне, Рыта…
Скажыце шчыра і адкрыта, —
навошта гэта ўсё людзям?!
Навошта столькі ім туману —
туману фальшу і падману?
Халоднай чэрствасці імгла?
Ці, можа, я радзіўся рана
і ўжо зашмат хачу святла?..
…Яго ўдарылі з тумана,
з імглы ўдарылі, з імжы…
«Навошта, мама, адкажы?»

*1967*

* * *

Домік маленькі,
бачу я, знеслі.
А ў доміку гэтым
спявалі песні.
А ў доміку гэтым
дзяцей нараджалі.
А ў доміку гэтым
гасцей страчалі.
А ў доміку гэтым,
у доміку гэтым
утульна было
зімою і летам.
Шкада мне да болю,
шкада да слёз
доміка, што пайшоў
на знос.
Не тое лепшае,
што навейшае,
а тое лепшае,
што раднейшае.
Не тое лепшае,
што вышэйшае,
а тое лепшае,
што бліжэйшае,
не тое лепшае,
што прыгажэйшае,
а тое лепшае,
што даражэйшае…
Той домік
блізкі некаму быў.
Той домік нізкі
нехта любіў.
З тым домікам
звязаны нейчы лёс…
Той домік пайшоў —
сягоння на знос.

*1967*

* * *

Як дружна мы
востраў свой абжывалі!..
Навокал шумелі
халодныя хвалі.
І шквалы гулі,
і вылі шакалы,
і стылі на ветры
маўклівыя скалы,
і нейкія птушкі
крычалі нема,
крычалі
і біліся
ў шэрае неба.
А мы абжывалі
свой востраў пустынны.
Мы грэлі адзін аднаго,
калі стылі.
Мы мужнасць адзін у адным шукалі,
калі падыходзілі блізка шакалы.
Адзін аднаго
засланялі аддана,
калі пагражаў парыў урагану…
Калі ж мы, стаміўшыся, засыналі,
нам снілася:
сцішыліся хвалі,
суняліся шквалы,
не выюць шакалы,
не стынуць на ветры
маўклівыя скалы,
і птушкі пяюць, не крычаць болей нема,
высока ўзлятаюць
у сіняе неба.
Высока, высока…

*1967*

* * *

Вось-вось растануць ледзяшы.
Ідзе вясновы дождж пяшчоты —
патрэбны для травы душы
і для лістоты ўсёй істоты.
Як без яго змаглі б мы!
                                        Што ты!
З ім мы і робімся людзьмі…
Ідзе вясновы дождж пяшчоты,
ідзе маёвы дождж любві.

*1967*

* * *

Было так радасна і хораша!
Ты, як агонь, ахапляла горача.
Было так дзіўна і цікава!
Ты, як вада, мяне абцякала.
Ты, нібы вецер, мяне абвявала.
Ты, нібы вецце, мяне абвівала.
Ты, нібы лісце, шаптала нешта.
Ты, як зямля, стагнала грэшна.
Потым гучала музыка ціхая:
тайну вялікую спасціг я…

*1967*

* * *

Абрастаем.
                    Паперамі, рэчамі,
абавязкамі,
                    звычкамі,
                                        стрэчамі.
Абрастаем болямі, охамі.
Як валун абрастаем мохам,
абрастаем мохам абставін.
Абрастаем даўгамі, хвастамі.
Абрастаем, як бераг кустамі.

«Дзе чужое, дзе наша? —
пытаем. —
Дзе расцём, а дзе абрастаем?» —
Мы пытаем.
Гэта няпроста
абрастанне адрозніць ад росту.
На душы маёй —
шчэць густая.
Адчуваю:
ідзе абрастанне.
Адчуваю: ідзе абрастанне.
Ды спыніць яго я не ў стане.
А быць можа,
спыніць я ў стане?
Можа, ўзяць
ды узняць паўстанне?
Можа, ўсёю першаасноваю
абудзіцца па-вясноваму?
Жыць пачаць са старонкі новай —
яшчэ чыстай,
яшчэ вясновай?
Толькі як жа мы паўстанем,
калі кожны міг абрастаем,
расстаёмся з самімі сабою —
нехта з боем,
а нехта без бою…

*1967*

* * *

Зноў шлак халодны.
Толькі шлак.
Як быць з табой,
маё тварэнне?
Я б'юся, я шукаю шлях,
каб перадаць само гарэнне.
Гляджу — на шлак
наводзяць лак.
А вынік?..
Вынік зноў плачэўны.

Пад яркім лакам той жа шлак,
а не агонь —
жывы, свяшчэнны.
А Праметэй —
ён нёс агонь,
жывы агонь браў на далонь.
Як нам зрабіць, маё тварэнне,
каб ты было —
само гарэнне?
Не адыход
і не адгон,
а сам агонь.

*1968*

## УСПАМІН БЫЛОГА ВЯСКОЎЦА

У горадзе жыць зручна.
Кран павярнуў — і тут жа
вада ў цябе пад рукой.
А помніцца, як ад студні
нёс ты поўныя суды
вады сцюдзёнай, важкой.
Вада калыхалася ў вёдрах,
і ў двух тых люстрах водных
успыхвала святло,
плыло ўсё сяло.
Вёдры калыхаліся…
З другога краю сяла
дзяўчына, з якой кахаліся,
насустрач табе ішла.
Ішла па ваду і пела:
«Ой, сохне рута ў саду,
палью я тую руту,
па ваду пайду.
Палью я руту-мяту,
пайду я па ваду.
А як прыйдзе восень,
замуж я пайду…»
Вёдры калыхаліся.
Мы з дзяўчынай усміхаліся.

Можа, таму, што кахаліся,
а можа быць, таму,
што ўсё так адбывалася,
што вада разлівалася,
што ў вёдрах адбівалася
па сонцу аднаму.
Ты смяяўся: «З поўнымі!»
Яна чырванела: «З пустым…»
Чамусьці ўсё тое помнім,
не забываем аб тым.

*1968*

## АПТЫМІСТЫЧНЫ ВЕРШ

Пройдзе дзень без падзеі,
без сустрэчы, без песні…
Нехта прыкіне ў пасцелі:
«На суткі бліжэй да пенсіі».
Нехта адзначыць сонна,
зробіць вывад сумны:
«Што ўчора, тое і сёння,
дзень і ноч — прэч суткі».

Пройдзе дзень без падзеі,
без любві, без надзеі,
схіліцца дзень да вечара,
вечарам рабіць нечага.

А трэба, каб нешта рабілася,
каб нешта адбывалася,
каб хмара аб хмару білася
і даждждом праліваласся.
Трэба, каб пчолы раіліся,
трэба, каб песні складаліся,
трэба, каб гнёзды рабіліся,
трэба, каб казкі стваралісся.
Каб людзі сустракаліся,
зналіся ў дружбе шчырай,
каб зналіся-кахаліся
мужчына і жанчына.
Калі сустракаюцца двое,

сваё каханне падзеляць, —
гэта найлепшая доля,
з усіх падзей — падзея.
Трэба, каб нехта, каб нешта…
Хай там адчай ці трывога!
У Бога дзён не рэшата?
Дык не ў нас, а ў Бога.
А нашы дні ўжо злічаны,
а нашы суткі ўжо змераны:
Згараюць зоркі-znічкі,
а новых няма ў рэзерве.
І ў нашага лёсу ў запасе
не цэлыя стагоддзі,
і мы за тое ў адказе,
як нашы дні праходзяць.

Хай там узлёт ці падзенне,
удача ці няўдача, —
толькі ні дня без падзеі,
без радасці і плачу.
Толькі ні дня без падзеі!

*1968*

## НЯМА ДУРНЫХ

Дурны, дурны, а шкварку любіць.

*Народная прыказка*

Ён любіць не толькі шкварку.
Ён любіць яшчэ і чарку.
Ён любіць і булён.
А бачылі, з якім смакам
есць ён булку з макам?
Ці мала што любіць ён.
Пакуль вядуць разумныя
свае размовы сумныя,
сухі жуюць бутэрброд,
пакуль разважаюць разумнікі,
дурань есць ласункі
на поўны рот і жывот.
На смачнае ён ласы.

І любіць не толькі кілбасы.
Ён любіць яшчэ шмат што:
і добрую апратку,
і лайкавую пальчатку,
і выезд на аўто.
Не толькі цёплае месца,
дзе добра п'ецца і есца, —
ён любіць і арэол.
Ён любіць высокае званне,
і тытул, і шанаванне:
не курыца, а арол!
Ён любіць…
                    Ён шмат што любіць.
Ён нас прадасць і купіць,
разумнікаў, тых і другіх.
Прадасць і пакажа кукіш —
маўляў, мяне не купіш,
маўляў, няма дурных.

*1968*

## ПЕРАСЦЯРОГА

Людзі, не збівайцеся у статак!
Знаю: моцны статкавы пачатак,
знаю: тужым мы па ім падчас,
знаю: так і падмывае нас —
збіцца ў статак,
                    збіцца і згубіцца
недзе ў самай гушчыні яго,
збіцца ў статак,
                    збіцца і пазбыцца
вобліку і голасу свайго.
Збіцца ў статак,
                    важаку скарыцца,
і у той пакорнасці сляпой
тупаць да агульнага карытца,
тупаць на агульны вадапой.
Гэта так спакусліва:
                         скарыцца,
у саку агульным растварыцца.

Гэта так спакусліва,
так цешыць:
ад цябе нічога не залежыць.
Гэта так заманліва,
так вабіць:
спіць тваё сумленне,
твая памяць.
Гэта так заманліва…
І ўсё-ткі
як бы гэты зман ні быў салодкі,
не прымайце, людзі, гэты зман,
не прымайце стаднасці дурман.
Вы рабіце разам свае справы,
вы варыце разам свае стравы,
ешце разам з аднаго катла,
грэйцеся ля аднаго кастра.
Пры жаданні паспявайце хорам,
павадзіце разам карагод.
Ёсць пытанні — сабірайце кворум,
сабірайце форум, веча, сход.
Можаце патупаць нават строем,
калі вас збярэцца больш чым трое
(калі менш, які там будзе строй,
не скамандуеш: «Рады уздвой!»).
Толькі не збівайцеся ў атару,
толькі не губляйце свайго твару.
Вы жывіце разам, ды не ў гурце,
а на іншым, на разумным грунце.
На другой яднайцеся аснове —
на аснове дружбы і любові,
на аснове чалавечай роднасці,
на аснове чалавечай годнасці.
Збіцца ў статак —
гэта не адзінства,
збегчы ў статак —
гэта дэзерцірства.
Гэта дэзерцірства пад агнём,
пад святлом, што розумам завём.

*1969*

## ВЕЧНЫ СОН, ВЕЧНЫ ЗВОН
*Хатынскі трыпціх*

1

Вы чулі, як у Хатыні
звоняць каміны?
Кроў у жылах стыне,
як слухаеш тыя званы.
Кроў у жылах стыне…
Слухаеш і маўчыш.
А наўкола — пустыня,
а наўкола — ціш.
Толькі адны каміны,
толькі адны званы,
толькі адны яны…

2

Дзінь-дзінь,
                    дзінь-дзінь-дзінь…
Што гэта звініць, Хатынь?
Тут звінелі сініцы і палазы,
і звінелі жаўранкі ў паднябессі.
Тут звінелі дзіцячыя галасы,
тут звінелі дзявочыя песні.
Тут звінела пчала, і звінела піла,
і звінела каса,
                        і звінела даёнка,
і звінелі, на радасць ўсяго сяла,
тут вясельныя бомы звонка.
Дзінь-дзінь
                    дзінь-дзінь-дзінь…
Што гэта звініць, Хатынь?
Што значаць яны, твае званы?
Ці гэта гучаць адгалоскі
той вёскі, што была да вайны,
той колішняй мірнай вёскі?
Дзінь-дзінь…
                         Паслухайце, ці не едзе
гэта вяселле недзе?

Ды хто нявеста і жаніх,
калі нікога няма ў жывых?
Дзінь-дзінь…
                    А гэта не коні ў жытным?
Ды коні патрэбны толькі жывым,
а мёртвым ніколі
не патрэбны коні.
Дзінь-дзінь…
                    А гэта не сырадой
цурчыць у даёнку з пенай густой?
Не, мёртвым сном у Хатыні
спяць усе гаспадыні.
Дзінь-дзінь…
                    А гэта не юны смех,
не голас дзіцячых забаў і ўцех?
Не, спалены усе дзеткі,
спалены ўсе малалеткі.
Дзінь-дзінь,
                дзінь-дзінь-дзінь…
Што гэта звініць, Хатынь?
Што значыць тваіх каміноў
                                        перазвон?
Ці гэта звініць твой вечны сон?
Ці, можа, у гэтым звоне —
вечнае бяссонне?
Дзінь-дзінь,
                дзінь дзінь-дзінь…

3

Звіняць, як калісь, на ўсю сваю сінь
сініцы і жаўрукі.
Але не чуе ніхто іх «дзінь-дзінь»,
ніхто не глядзіць з-пад рукі.
Узялі ў Хатыні слых,
зрабілі глухімі ўсіх.
Узялі ў Хатыні зрок,
далі Хатыні змрок…
Стаяць, як калісь, усцяж каміны
там, дзе былі двары.
Але не дымяць, а звіняць яны,

звіняць ад зары да зары.
Дзіўныя гэтыя каміны!
Дыміць бы весела ім,
грэць бы неба духам жывым,
цяплом жывым, а яны…
Ды ў гэтым няма іх віны.
Гэта віна вайны,
гэта віна вайны,
гэта яна,
вайна,
дала камінам званы.

*1969*

## ВЯЛІКІ АТРАКЦЫЁН

Вялікая справа — дрэсіроўка,
кнут і пернік, цукар і прут,
іх нарміроўка і дазіроўка…
Паглядзіце, што робіцца тут!
Божа, што робіцца на арэне!
Сланы становяцца на калені.
Пад тую ж дудку танцуе конь,
леў паслухмяна лезе ў агонь,
мядзведзь лісліва б’е паклоны,
тыгр, як кот, ручны і пакорны…
Усе яны тут.
«І ты тут, Брут?»
Дрэсіроўка робіць цуд.
І ўсе на задніх лапках, на задніх,
ходзяць мякка, бы ў тапках хатніх.
Дзе кіпцюры іх?
Няма кіпцюроў.
На задніх лапках —
кароль звяроў,
цар джунгляў і гаспадар тайгі.
Божа, можна завыць ад тугі!
Ну, хай ужо малпа, хай ужо пёсік
ходзяць на задніх, задраўшы хвосцік.
Ім, як кажуць, і Бог вялеў.
А тут жа і слон, і конь, і леў…

Дзе сіла іх, іх веліч і гордасць?
Адно паслушэнства, адна пакорнасць,
адна гатоўнасць дагадзіць,
на задніх лапках лепш хадзіць…
Хвала вам і слава, майстры дрэсуры! —
Вы не знімаеце тры скуры.
Вы левай — цукрам,
правай — хлыстом,
і вось ужо звер віляе хвастом.
Вы гэтаму — пугі,
другому — корму,
і вось яны служаць бездакорна.
Вы тут мацней за маці-прыроду.
Таго, што не робіць прырода сама,
робіце вы сваёй методай,
асла з ільва, і муху з слана…
…Глядзіце, глядзіце, узняўшы хобат,
слон кружыцца, круціцца, як робат!
Усе яны тут. «І ты тут, Брут?»
Усіх звязала адна вяроўка.
Вялікая сіла — дрэсіроўка,
прут і цукар, пернік і кнут.

*1969*

## СУСТРЭЧА НА ПАРКАВАЙ МАГІСТРАЛІ

*Памяці Яўгеніі Янішчыц*

Не ведаю, як хадзіла Містраль.
Ды бачу: парывіста, крылата
ідзе, відаць, да свайго інтэрната,
па вуліцы Паркавая магістраль
Жэня Янішчыц… Як ідзе!
Як чарадзей ідзе па вадзе.
Як самнамбул ідзе у сне.
Ці як маладзіцы з яе Вілясніцы
бягуць ранічкою па расе —
у грыбы альбо ў суніцы.
Калі яна і ад «мира сего»,
то ад таго, які лятае,
ад свету Цёткі і Сафо,

ад свету Ахматавай і Цвятаевай.
Бачу: Янішчыц ідзе цераз мост…
Спыніся, імгненне! Спыніся, Яўгенія!
Не чуюць Яўгенія і імгненне.
Ляцяць яны над мастом, наўпрост.
Вецер, гляджу, абвявае іх.
Ляцяць над прахожымі, над машынамі,
над нашымі клопатамі мышынымі.
Ляцяць, пакідаючы нас, зямных.
Вось вам і разгадка, і адказ, —
абагульняю я прыватнасць, —
што ў вершах Янішчыц уражвае нас:
крылатасць!

*1969*

* * *

Пасля летняга поўдня,
пад вечар,
калі уціхлі дрэвы і вецер,
перад тым, як ляцець на спачын,
птушка песню сваю запела,
птушка пела лёгка і смела,
птушка пела
вось аб чым…
Як яна вярталася ўвесну
да свайго саду, свайго лесу,
як яна гняздо віла,
як яна на яйках сядзела,
як яна птушанят глядзела,
выпускала ў свет
з-пад крыла,
як яны, увабраўшыся ў пер’е,
з вышыні махаюць цяпер ёй,
як займае яе іх гульня, —
як яна сваю справу любіла,
як усё, што трэба, зрабіла,
як зрабіла усё, што магла.
Пела птушка складна і ладна,
пела птушка безаглядна.

Пра сябе, пра сваё птушаня,
пела птушка пра ўсё пра гэта,
пела птушка ў канцы лета,
ў канцы ціхага летняга дня.

*1969*

## «ГАВАРЫ СА МНОЙ ЛАСКАВА…»

Я не помню ужо,
што сказалі мы ёй,
нашай Лесі-гарэзе,
дачцэ і сястрычцы сваёй.
Можа, крыўднае нешта
пачула ад брата,
можа, ён і прыкрыкнуў грубавата,
калі брала яна замест цукру соль.
Можа быць, я сказаў:
«Не дурэй, не сваволь!»
Помню толькі:
на тварыку ўспыхнула краска.
Помню толькі:
яна паглядзела на нас
І сказала мне ціха:
«Гавары са мной ласкава…
Гавары са мной ласкава…»
І заплакала ўраз.
І заплакала горка.
Салёныя слёзы глытала.
Кулачком расцірала
па мурзатай шчацэ.
Стаў я голас зніжаць,
суцішаць яе стаў,
ды няўдала.
«Гавары са мной ласкава», —
паўтарала яшчэ і яшчэ.
«Ну, не плач, наш Лісёнак,
мы ж гаворым з табою ласкава.
Ну, не плач, ну, прабач!
Хочаш, я адшукаю твой мяч?

Хочаш, дом намалюю,
раскажу табе казку я?
Гавару з табой ласкава…
Ну, не плач, ну, прабач!»
«Не, не так ты гаворыш, —
яна паўтарала настойліва. —
Ты гаворыш не ласкава…»
Так расчуліла крыўда яе.
так расстроіла, так настроіла,
што яна пачала выліваць
усе крыўды свае.
Прыгадала яна,
як сварылася няня,
прыгадала яна,
як зняважыла Таня,
прыгадала,
як Вова з ясельнай групы
быў з ёй грубы.
Прыгадала,
як некалі ў лесе, на дачы,
куды летам вывозілі садзік дзіцячы,
хтось сказаў: «Адыдзі ад акна».
(Што тут мела на ўвазе яна?)
Прыгадала скрозь слёзы ў адчаі,
як нейкія цёткі накрычалі
на яе у суседнім двары…
«Ты са мной ласкава гавары…
Гавары са мной ласкава».
Я запэўніў Лесю
што ніколі не буду
ні крычаць, ні грубіць,
гаварыць буду ласкава,
ветліва,
весела,
буду з Лесяй гуляць,
буду Лесю любіць.
Праясніўся нарэшце у Лесі тварык,
усміхнулася Леся нарэшце мне.
Зноўку зайчык забегаў па сцяне…
Зноўку сонейка выглянула з-за хмарак.
Доўга я не забуду той споведзі Лесінай.
Колькі ў ёй было горкага пачуцця!

Вось і ёй ужо, думаю, крыўды нанесены,
і яна гэта знае на пятым годзе жыцця.
І яна за правы свае паўстае.
Пачуццё справядлівасці,
годнасці ўласнай,
мабыць, разам з жыццём
нам прырода дае…
«Гавары са мной ласкава,
гавары са мной ласкава».

*1969*

## ПАЎДНЁВАЕ ЎРАЖАННЕ

Самота гары. Гара самоты.
Аднойчы, калі настане пара,
прыйду да цябе, як прыходзяць сіроты,
як да раўніны прыходзіць гара.
Буду я рады нашай сустрэчы.
І вострыя, згорбленыя ад бед
я нахіляю над табою плечы
так, як гара нахіляе хрыбет.
Буду любіць я цябе раўніва,
як ценем, пяшчотай цябе агарну.
А ты мяне будзеш любіць,
як раўніна
любіць адзіную гару?

*1969*

## МОРА, СОНЦА, Я І НАША КАХАНАЯ

Наіўны, я думаў:
ты толькі мая.
Уласнік, я думаў,
што ты мая ўласнасць.
Ды мора і сонца унеслі тут яснасць,
з морам і сонцам
дзялю цябе я.
Ты ў мора пайшла,
і насустрач табе

яно закіпае пяшчотай любоўнай.
Яно цябе любіць і мераю поўнай
усю сваю страсць табе аддае.
Я не магу адвесці вачэй.
Жанчына і мора!
                    Дзве вольных стыхіі!
Хвалі марскія і грудзі тугія,
белая пена ля белых плячэй!
Бога марскога я малю,
прасіць яго ў адчаі мушу:
«Вярні мне любую маю,
вярні каханую на сушу».
Нарэшце дайшла малітва мая.
Ты з мора выходзіш —
                              уся салёная,
ты з мора выходзіш —
                              як мора, зялёная,
«У мора ўлюбёная», —
                              думаю я.
Насустрач іду я
                    і выгляд раблю,
нібы не знаю ніякага мора,
нібы не знаю ніякага гора.
Нібы спакойна,
                    разумна люблю.
Выгляд раблю,
                    што я не Атэла,
спакойна кажу я табе:
                              адпачні.
Твая галава на маім плячы.
Ды бачу:
          ты сонцу даверыла цела,
працягваеш рукі насустрач яму,
сонцу любімаму свайму!
Жанчына і сонца!
                    Хіба вас падзеліш?
Хай свеціцца дзень ваш!
А быў бы, як сонца, я малады,
і быў бы, як сонца, я пяшчотны,
лашчыў бы так твае плечы і шчокі,
што ў сонца адбіў бы цябе назаўжды…
Наіўны, я веру, што можна адбіць,

што можна набыць, прысвоіць стыхію,
зрабіць рабыняю багіню.
Стыхію можна толькі любіць,
багіню можна толькі любіць!
Нельга адбіць,
набыць,
купіць,
толькі любіць,
толькі любіць!
Гора мне, ўласніку, гора,
о мора!..

*1969*

## ВЯСНОВЫ ЗАКОН

Закон адвечны і мудры:
калі сустрэнуць вясну,
жанчыны скінуць футры,
дрэвы накінуць ліству.

Будуць, па тым законе,
жанчыны нас хваляваць,
а дрэвы супакойваць,
думкі навяваць…

*1969*

## ТОЙ ГОД НЕЗВЫЧАЙНЫ…

Той год незвычайны я не забыў,
той год незвычайны.
Той год ураджайны вельмі быў,
надзіва ўраджайны.
Шмат снегу было,
шмат сонца было
і ліўняў нямала.
Зімою было — гуло і мяло,
а летам — расло і буяла.
Яблыкі спелі, спеў белы наліў
пад промнямі поўдня.

Той белы наліў я з табою дзяліў.
І плавала поўня…
Той год не забыць мне, той крыгаход,
вясёлы, вясенні.
Той год не забыць мне, той карагод,
святочны, вясельны.
У тым карагодзе кружыліся ўсе,
як дружныя дзеці, —
і зоры, і росы, і сонца ў расе,
і вецер, і квецень…
Ці, можа, той год прысніўся ў сне
мне на дасвецці?

*1969*

* * *

— Што значыць сапраўдным другам быць?
— Любіць.

— Што значыць аддана справу рабіць?
— Любіць.

— Што значыць дарогу ў жыцці не згубіць?
— Любіць.

— Што значыць зямное шчасце здабыць?
— Любіць.

*1969*

## ПРА ДЗЯРЗАННЕ

*Памяці М. Ц. Лынькова*

Ваш гумар любілі мы,
Вашу вясёлую шчырасць.
(Шкада, што мы рэдка
Вас чулі ў апошні час.)
«Дзярзайце, уюнашы!» —
любімы Ваш выраз.

Для нас ён і жарт,
для нас — і наказ.
Ёсць розныя формулы…
«Як бы чаго не выйшла».
«Абы было ціха».
«Едзь цішай…»
І гэтак далей.
З мудрасцю гэткай
не пойдзеш далей і вышай,
з мудрасцю гэткай —
неба капці і тлей.
Мне больш даспадобы
Ваш выраз, які стаў крылатым.
Вы ведалі словам цану.
Вы зведалі шмат на зямлі.
Вучылі дзяцей Вы,
салдатам былі,
дыпламатам,
вучоным былі,
рыбаком нарачанскім слылі…
«І плакала Рыва…»*
І плакала каня над лугам…
І каркаў груган…
І трызніў салдат над Бугам…
І гіне Астап…
Не, той не памірае,
каго вядзе дух
дзярзання і парывання.
«Дзярзайце, уюнашы!» —
сказана: страх гняце,
да смерці вядзе ён,
да зорак дзярзанне вядзе.
Не справа мужчын —
страхавацца, хавацца,
не справа мужчын —
баяцца, дрыжаць.
Якая б яна ні была сітуацыя —
«Дзярзайце, уюнашы!»
Трэба дзярзаць!..

* Тут і далей спасылка на апавяданні М. Лынькова.

«Дзярзайце, уюнашы!»
Самыя розныя ветры
прайшліся па Вашай, як голуб, сівой галаве.
«Дзярзайце, уюнашы!» —
не павучанне мэтра,
а ўрок, што сама
жыццёвая мудрасць дае.
«Дзярзаеш, уюнаша?» —
аднойчы ў мяне Вы спыталі.
На гэта пытанне
хацелася б мне адказаць:
«А як жа іначай.
Запомніў урок я Ваш сталы.
Дзярзаць — значыць, жыць!
Жыць — значыць, дзярзаць!»

*1969*

* * *

Бачу я: нехта некага любіць.
Гэта іх справа,
гэта іх права.
Бачу я: нехта некага губіць.
Тут і мая ўжо справа.

*1969*

## ТАМ ДОМА, У ВЁСЦЫ
*Перайманне народнага*

Раслося там мяце,
раслося там руце…
А ў маёй маці
балелі грудзі.

Раслося там руце,
раслося там мяце…
Рукі і ногі
балелі ў маці.

Балелі рукі
ад працы, ад мукі.
Балелі ногі
ад доўгай дарогі.

Ад чаго, людзі,
балелі грудзі?

*1969*

## АДЛУЧЭННЕ ТАЛСТОГА АД ЦАРКВЫ
*(24 лютага 1901 года)*

Талстога адлучаюць ад царквы,
ад веры праваслаўнай адлучаюць.
Анафему Талстому абвяшчаюць
цар свецкі і царкоўныя царкі.
Як снежныя абвалы з гор,
грымяць у саборах гнеўна протадыяканы.
«Будзь пракляты!..» — выводзяць як яны!
«Анафема!» — уторыць слепа хор.
Стараюцца, гразяць папы
бясслаўем,
                    забыццём,
                                        геенай вечнай
і апускаюць уніз свечкі…
Не выкрывай, не падрывай стаўпы!
Другім пяём мы: «Многая лета…»
Тым, хто і знае і маўчыць.
                                                А гэтага
ерэтыка, бунтаўшчыка адпетага
мы праклінаем!..
                                З ім адна бяда.
Анафема…
                    Анафема…
                                        Анафема.
Якія пісьмы піша цёмны люд!
«Не точию сугубо и трегубо,
но многогубо» праклінаюць тут.
І зневажаюць, пагражаюць груба:
«Анафема ты…
                            Чорт стары…

Будзь пракляты…
Ты здохнеш па-сабачы.
Згнаім цябе ў турме, ў манастыры!..
А не — прымусім — замаўчыш інакай!..»
Пасылачку з намыленай пятлёй
любоўна нехта графу шле па пошце.
Натоўп сустрэў яго на плошчы —
і ледзь не збіў,
ледзь не змяшаў з зямлёй.
Анафеме аддадзены Талстой.
І ўсё па той жа, ўсё па той прычыне:
няма прарока у сваёй айчыне.
Тым болей —
на Русі святой.
Ці, можа, ўсё-ткі ёсць ён на Русі?
Скрозь цемру прабіваюцца іскрынкі.
Скрозь строй пагроз,
праклёнаў
і хлусні
ідуць другія пісьмы і пасылкі.
«Ёсць Бог на свеце…
Дзякуй вам, браты»
Талстой бярэ сухімі пальцамі
той падарунак, што зрабілі ў Мальцаве,
на шкле зялёным надпіс залаты:
«Леў Мікалаевіч!
Вы падзялілі лёс
усіх тых, хто ў сваю эпоху
высока званне чалавека нёс
і хто ішоў за праўду на галгофу.
Няхай, як хочуць, адлучаюць Вас, —
ад нас Вас не адлучаць фарысеі.
Як не адлучаць ад усёй Расеі.
Мы любім Вас. Мы з Вамі ў гэты час…»
Было шмат добрых пісем і раней,
а гэта… І святлее твар Талстога,
і вочы, што глядзелі ўнутр строга,
на свет глядзяць зноў з-пад цяжкіх брывей…
«Ёсць Бог, я вам кажу.
І гэты Бог —
не фіміям,
не мошчы,
не іконы,

і ўжо, канечне, не праклёны
у адрас тых, хто праўду ўбачыць змог.
Не, гэты Бог зусім другі, браты, —
дух ісціны, любві і дабраты.
Не я, сінод, кашчунствую, а ты,
калі цалуеш напаказ іконы,
калі прытворна б’еш свае паклоны.
Я ж веру сэрцам, веру сапраўды.
Не выгадзе служу я, а дабру,
хоць і ў мяне ёсць дом, сям’я і дзеці.
Шаную ісціну я больш за ўсё на свеце
і з ёй спакойна, радасна памру…»

*1969*

## РАЗМОВА З ДУ ФУ

Чытаю кнігу, за страфой страфу.
Пытаюся — адказвае Ду Фу.

— Скажы, Ду Фу, навошта п’еш віно?
— Забыцца памагае мне яно.
Душа мая пакутуе, рыдае,
не знойдзеш зараз радасці ў Кітаі.

— Навошта ўзяўся за пяро, Ду Фу?
— Каб выказаць свой боль, сваю тугу.
Нялёгка рэкам мутным плыць да ўсходу.
Яшчэ больш цяжка жыць майму народу.

— Ці выкажа ўсё іерогліф твой?
— Што бачу я вакол сябе? Ой, ой!
Блукае ўсюды смерць. Лютуюць банды.
Галодным замест хлеба — барабаны.

— Каму патрэбен барабанны бой?
— Я спадзяюся, што не нам з табой.
Зноў ваяваць задумалі правіцелі.
Яны тым і жывуць — кровапраліццямі.

— Ты ведаеш, Ду Фу, вайне цану?
— Паходам за Вялікую сцяну?

Дазвольце мне, старому, усумніцца,
што трэба пашыраць камусь граніцы.

— Што бачыш ты яшчэ вакол, Ду Фу?
— Сарвала ветрам ў бедняка страху.
Юнцы смяюцца над старым з пагардай.
Няшчадна глушыць пальму куст паганы.

— А як, скажы, Ду фу, было раней?
— Было, як помню, лепш і разумней.
Старэйшых моладзь шанавала строга.
Кармілі нават і каня старога.

— Чаму, Ду Фу, пакутуе народ?
— А хіба можа быць наадварот,
калі яго правіцелі — тыраны,
як барсы, жорсткія,
                    тупыя, як бараны.

— А можа уладар інакшым быць?
— Калі ён будзе свой народ любіць
і будзе слухаць мудрыя парады…
Такіх не дапускаюць да улады.

— Не вечныя ж, Ду Фу, тыраны, зло?
— І на дракона знойдзецца сіло.
Які б ні быў ён грозны і вялікі,
а прыйдзе час — зламае свае іклы.

— А ты прыдворным мог бы быць, Ду Фу?
— Каб дагаджаць, каб гнуцца у дугу?!
Я з голаду памру, але не буду
лісліўцам, баязліўцам, лізаблюдам.

— Не хочаш пець ты на агульны лад?
— Прырода не дае такі загад.
Спявае вунь птушыная чародка,
і ў кожнай голас свой і свая нотка.

— А як бы ты хацеў, Ду Фу, пражыць?
— Свайму народу я б хацеў служыць.
Хацеў бы, як мужчына, жыць без страху,
хацеў бы акіянскага размаху…

Вось так размову мы з Ду Фу вялі.
Не падзялялі нас ні дзесяць тысяч лі,
ні сотні год, ні розніца між мовамі,
ні сцены (як старыя, так і новыя).

Быў мне Ду Фу — як самы блізкі друг.
Вітаў над намі чалавечы дух.
Як брат са мною гаварыў Ду Фу…
…Чытаў я кнігу, за страфой страфу.

*1969*

## НЕПРАМЕТЭІ

Для тых, каму не хапае святла,
для тых, каму цяпла не хапае,
ёсць парада у нас адна:
хай сам пра сябе ён болей дбае.
Хочаш жыць у святле і цяпле —
сам здабывай агонь для сябе.
А мы… мы не лезем на ражон,
тым больш — на ражон небяспечны.
А мы свае пальчыкі беражом,
баімся іх апеч мы.
Мы прыкавалі моцна сябе
да скалы уласнага страху.
І не арол нашу печань дзяўбе,
а верабей з суседняга даху.
Звычайны, шэранькі верабей,
якому ўсё роўна чым пажывіцца —
мякінай,
крывёй,
рудой вадзіцай, —
абы чырыкаць было весялей.
Чык-чырык, чык-чырык…

*1969*

## КАМАРЫ

Спаць доўга не давалі камары.
Яны усё ляцелі і ляцелі.
Мяне шукалі у маёй пасцелі,
а кроў маю — у маім целе,
кусалі, пакідалі пухіры.
Сваёй манерай нападаць (яны
чым ніжай, тым прарэзлівей гудзелі)
нагадвалі: у дні вайны
пікіраваў так самалёт да цэлі.
Такі ўжо быў ён — голас камароў.
Яны — павінен ім аддаць належнае —
не ўтойваюць, што мэта іх драпежная,
пішчаць адкрыта: падавай ім кроў!

Тут стала раптам мне не па сабе.
Выходзіць, думаў я, усё ў прыродзе проста
хто траўку шчыпле, хто смакуе проса,
а хто вось кроў маю жывую п’е?
Усё залежыць, значыць, ад таго
(такое я рабіў адкрыцце),
як корміцца, хто і ў якім карыце:
крывінка задаволіць аднаго,
другому падавай кровапраліцце.

Над самым вухам зноў гудзеў камар…
…Адным спакою не дае спакуса
глытаць з вантробамі сваіх ахвяр,
з другіх хапае дробнага укусу.
Дарэчы, думаў я, ў прыродзе і людзей
часцей кусае дробненькая сошка —
камарык, блошка,
                    клопік,
                              мушка,
                                        мошка —
а буйныя драпежнікі радзей.

Мне сапраўды было не па сабе.
Хтосьці крыві маёй хацеў напіцца,
а я павінен быў з ім біцца,
на ўласным забіваць ілбе.
Вось сітуацыя…

I брала мяне зло.
За што? За грэх які мяне каралі?
Я ўставаў, запальваў я святло,
ганяўся з ручнікам за камарамі.
Зганяў са столі іх, зганяў са сцен,
адкуль яны зляталі, нападалі,
кідаўся па пакоі і мой цень…
I тут я ўспомніў аб адной дэталі.
Успомніў — недзе я чытаў раней, —
што нас кусаюць не самцы, а самкі,
а жонкі камарыныя і мамкі,
і стала раптам неяк спакайней.
I справа весялей пайшла далей.
Вяртацца зноў стаў добры геній — гумар.
I ненавісны камарыны зумер
таксама ўжо звінеў больш весялей.
Я зноў ляжаў пад коўдраю сваёй.
I ўжо здаваўся наступ камарыны
не столькі злом крывавай камарыллі,
а колькі звычнай мітуснёй-грызнёй.
Ну, словам, драма стала бытавой.
З сябе у цемнаце я насміхаўся:
«Ну, як ты з камаром змагаўся,
дакладней, з камарынай удавой?
Філосаф, гарадскі жыхар,
інтэлігент…
Забыў, пачым фунт ліха.
Ну, а калі б і укусіў камар,
і нават не камар, а камарыха?..»
Я засынаў нарэшце на зары.
I чуў скрозь сон звон камарыны ціхі.
Усё цішэй звінелі камары.
Усё цішэй кусалі… — камарыхі.

*1969*

* * *

Твая воля — як воля лёсу.
Ты сустрэла мяне вясной,
павяла мяне за сабой,

павяла,
            увяла да нябёсаў.
Была лёгкасць такая ў кроках,
мае рухі такімі былі,
што не знаў я: іду па аблоках
ці імкліва лячу па зямлі.
Мне шчаслівая зорка міргала,
хітравата падміргвала мне…
А затым ты мяне звяргала,
павяла на зямлю па вясне.
Пазбаўляла крылаў шырокіх:
«Хопіць, мілы, лунаць у аблоках,
пахадзі па зямных шляхах,
пахадзі на ўласных нагах».
І пайшоў я з надзеяй і страхам
тым зямным,
                        тым цярністым шляхам,
мне нялёгка ісці было,
я ў адчаі хмурыў чало.
Сустракаліся лужыны, смецце,
былі ўхабіны і карчы.
Мне хацелася уцячы,
мне хацелася часам смерці.
Ды хацеў я, відаць, замнога.
Ты казала мне строга: «Жыві!»
Была воля тваёй любові —
нібы воля лёсу зямнога.
І я не мог пярэчыць…

*1970*

* * *

Сёння было мне горка.
Сёння убачыў я,
як згарала зорка.
Я падумаў: «Чыя?»

Ворага ці пабраціма?
Чыя б ні была, а была.
Чыя б ні была, а свяціла,
была крыніцай святла.

Ззяла на зорным небе
яна шмат лет і зім.
І ўсім было з ёй лепей,
святлей было усім.

І сёння было мне горка,
калі ўбачыў я,
што згарэла зорка.
І я не думаў: «Чыя?»

*1970*

## СВЯТА

Яго абвяшчалі не фанфары —
гучалі прызнання нашага чары.

Святло выпраменьвалі не гірлянды —
свяціліся ярка нашы пагляды.

Не медзь выбівала гулкія маршы —
кроў біла ў грудзі і скроні нашы.

Не флагі ўспыхвалі агніста —
было жывое наша адзінства.

Праўлялі лепшае свята зямное
нас двое…

*1970*

## НЕ ДРАЖНІЦЕ ГУСЕЙ

Не дражніце гусей,
не дражніце гусей.
Гусі будуць крычаць яшчэ галасней.
Гусі любяць, каб іх шанавалі:
яны, гусі, Рым ратавалі.
Каб не гусі, загінуў бы Рым,
каб не гусі, дык пала б імперыя.
Не дражніце гусей, а спявайце ім гімн:
«Гусі белыя, гусі верныя…»

Стаўце чучалы іх у музей.
Не дражніце гусей і вы самі
і вучыце дзяцей
шанаваць гусей,
пакланяцца перад гусямі…
Не дражніце гусей.

*1971*

## СКАРГА ДОБРЫХ

Мы горнемся, нібы шчаняты,
да іх — з даверам і тугой.
А тыя, чымсь сваім занятыя,
нас груба локцем, нас нагой.
Мы заскавычам па-сабачы,
і кінемся ад іх мы прэч,
каб нашы вочы іх не бачылі,
каб і не ведаць гэткіх стрэч.
Шукаем дзесьці лекі-травы
і лечым травамі тайком
мы свае болі, свае траўмы,
залізваем іх языком.
Заліжам трохі іх, залечым,
той горкі праглынем клубок,
і з нечым добрым, шчырым нечым
мы зноў глядзім у іхні бок…

*1972*

## ПЛАЧ ПА НЕРАСТРАЧАНАЙ ПЯШЧОЦЕ

*Плача жанчына*

Плачу я…
Мне б са сваёй пяшчотай,
мне б са сваёй пяшчотнай істотай
пець і звінець сярэбранай нотай,
гуллівай, шчаслівай быць,
шчаслівым другога рабіць.

Ды я вось не радуюся, я плачу.
Што я са сваім багаццем значу,
калі я нашу яго, а не трачу,
калі я дарэмна нашу
пяшчоту — сваю душу.

Колькі ўва мне яе — гэтай пяшчоты!
Як у вясновым садзе лістоты.
Я ёю поўна, як мёдам соты.
Мінае за годам год,
гарчае дарэмна мёд.

Плачу я…
                    Толькі не чую адказу.
Маўчанне тут горай за абразу.
Сказалі б ужо, адказалі б адразу,
можа б, лягчэй было,
можа б, не так гняло.

Можа, на ўсё глядзела б іначай я,
каб я не ведала і не бачыла,
як нам патрэбна пяшчота гарачая,
як тужаць вакол па ёй —
жончынай, сестрыной…
О, мая бедная пяшчота!

Не радасць мая — мая бядота,
не слодыч мая — мая гаркота.
Што мне з табою рабіць,
як мне з табою быць?

***1972***

* * *

Я жыў высока на гары.
Было высокім неба поўдня.
Была высокай ноччу поўня.
Высокім быў — як свет, стары —
спеў петушыны на зары.
І быў высокім горны вецер…
І снілася мне на дасвецці,
што я ўзлятаю, нібы пух.

Вучыўся зноў лятаць мой дух.
Зноў чуў я покліч вышыні,
прасторы кліч…
І, як над дахамі,
лятаў над крыўдамі і страхамі,
над дробязямі мітусні.
Было высокім сонца поўдня.
Было ў пакоі ззянне промня.
І бачыў у яго святле
я Вашы пісьмы на стале…
Лятаў мой дух, як птах вясенні,
быў вольны,
радасны,
жывы.
І ў гэтым светлым узнясенні
былі са мною побач Вы.

*1973*

* * *

Пакуль не было цябе,
мая думка —
дзікая птушка —
кідалася непрыкаяна,
не ведала, куды ляцець,
у які бок свету падацца.
А цяпер яна ведае свой шлях,
ведае сваё месца.
Яна ўсё ляціць і ляціць да цябе,
як ляцяць птушкі ў вырай,
і мірна дзяўбе свае салодкія зярняты
з тваёй мяккай, цёплай далонькі.
Пакуль не было цябе,
маё пачуццё —
дурненькае цялё —
хадзіла непрыкаяна па выгане,
не ведаючы свайго месца,
не ведаючы сваёй травы.
А цяпер яно ўсё ходзіць вакол цябе,
як ходзіць на прывязі цяля,

і спакойна шчыпле сваю салодкую травіцу
з твайго шчодрага, сакавітага лугу.
Дзякуй табе!

*1973*

* * *

Мужчына. Жанчына. Чаканне.
Шуканне. Блуканне. Час.
Жанчына. Мужчына. Спатканне.
Вітанне. Пытанне. Адказ.
Мужчына. Жанчына. Дыханне.
Сэрцабіццё. Забыццё.
Жанчына. Мужчына. Каханне.
Мужчына. Жанчына. Жыццё.

*1974*

## З’ЯЎЛЕННЕ

З’яўленне зор і сонца ў вышыні.
З’яўленне сокаў з глыбіні карэння.
З’яўленне траў у веснавыя дні…
І вось маё, і вось тваё з’яўленне.

Як быццам бы дамовіліся ўсе —
глыбіні цёмныя і залатыя высі, —
як быццам бы сказалі ўсе: «З’явіся!» —
І ты з’явілася ва ўсёй красе.

Як быццам нечакана ўсё было,
як быццам выпадкова.
А на справе
увасабленне гэтае наяве
чакалася, як ранняе святло.

А каб ты нам з’явілася як след,
падмогаю было благаславенне:
благаслаўляў тваё з’яўленне свет,
сусвет благаслаўляў тваё з’яўленне.

*1974*

## ПАРАЎНАННЕ

Гэта — як музыка за сцяной.
Хочаш не хочаш, а ты яе чуеш.
Ты з ёю хвалюешся і сумуеш.
Ды ўсё-такі не лічыш яе сваёй,
бо музыка тая за сцяной.

Там хтосьці іграе, хтосьці пяе,
там, за сцяной, весяліцца хтосьці.
Ты ж толькі сведка той весялосці,
і музыкі той табе нестае.

Там некаму справы няма да цябе,
там сваёй музыкай заняты,
там свае будні і свае святы.
І нейкая кошка па сэрцы скрабе…

Здавалася б, што табе да яе,
да музыкі той? Ды вось круцяць пласцінку,
і ты адгукаешся нейкай часцінкай,
і музыкі той табе нестае.

Гэта — як музыка за сцяной:
ты чуеш яе, ды не лічыш сваёй.

*1974*

* * *

Любоў адкрывае скарбы,
абсягі новых зямель.
Варожасць кідае на скалы,
нянавісць садзіць на мель.
Любоў і лад узвышаюць,
вядуць за далягляд.
Варожасць і злосць прыніжаюць,
адкідваюць назад…

*1975*

## ДВА ПОЛІ

Было ў салдата два полі,
поле, дзе кветкі ірваў,
бегаў з сябрамі на волі,
і поле, дзе ён ваяваў.
Ціха было і чыста
ў полі яго дзяцінства,
былі агонь і дым
на полі ратным тым.
Два полі было ў салдата.
Адно зелянела травой,
другое было ўзарата
вайной і паліта крывёй.
Было ў салдата два полі,
поле, дзе кветкі збіраў,
бегаў з сябрамі на волі,
і поле, дзе ён паміраў.

***1975***

## МАГІЛА ПРЫ ДАРОЗЕ

Калі Цётка памірала —
сваю волю сябрам давярала.
Ціха губы шапталі ў знямозе:
«Пахавайце мяне пры дарозе.
Пахавайце мяне пры дарозе,
пры зямной, пры людской трывозе.
Буду слухаць праз сон глыбокі
галасы жывыя і крокі.
Буду слухаць поступ магутны
Беларусі маёй шматпакутнай…
Пахавайце мяне пры дарозе
пры зямной, пры людской трывозе…»

***1976***

* * *

Пра месца ў жыцці, як дзеці,
гадаем, думаем, снім.
Месца маё ў свеце —
месца ў сэрцы тваім.

***1976***

## ПОЗІРК З КОСМАСУ

Шлях да зорак —
шлях скрозь ружы і скрозь церні.
Колькі дзён жывём
сярод касмічнай цемры.
Пачынаеш тут цаніць
усё, што зведана
на зямлі, якая ўтульна так асветлена.
Сонцам, месяцам асветлена зямліца.
І яшчэ адна там ёсць святла крыніца.
Калі лёс табе ўсміхнецца —
табе стрэціцца
тая дзіўная жанчына,
што ўся свеціцца.
Ты ў лятунках
з той жанчынаю вітаешся.
Ты ў думках
да жанчыны той звяртаешся:
«Мала сонца, мала зорак, мала месяца.
Падары святло, якім жанчына свеціцца!
Перад ім любая знікне беспрасветнасць…
Мая яснасць, мая светласць, мая ветласць!»
Тут, у космасе, мы бачым зорак многа.
Не хапае сэрцу тут святла зямнога…

***1977***

## ТУГА МЕТЭАРЫТА

Адвергла мяне неба:
Зямля не прыняла.
Ляжу на зямлі я нема.
Чужая мне яна.
І я для яе іншародны.
Гляджу ў блакіт мне родны.
Я перад ім у даўгу.
Ды ўжо ўзляцець не магу…

*1978*

* * *

Любоў нараджае не толькі дзяцей.
Любоў нараджае не толькі надзеі.
Любоў апрача дзяцей і надзей
прыносіць сумненні і падзенні.
Аддаўшы сябе сваёй сяўбе,
свету явіўшы плады залатыя,
самазнішчае яна сябе,
і разам з ёю знішчаюцца тыя,
хто яе носіць…

*1978*

## СТУК МАЛАТКА.
## ПАЧАТАК ПАСЯДЖЭННЯ
*Рэпартаж з Генеральнай Асамблеі ААН*

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Глядзіць на залу са свайго ўзвышэння,
ацэньваючы момант, старшыня.
Нагадвае парадак дня.
Стук малатка гучыць накшталт сігналу —
сказаць, што не сказала яшчэ зала.
Раз маеш слова, зала, — гавары!
Свет словам ўдасканальвай і твары!

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Тут штось ад рытуалу пасвячэння:
«Мы, Аб'яднаных Нацый люд,
выносім злу і войнам свой прысуд…»*
Не слова, можа быць, было ў пачатку.
Ды ў слова веру я ў любым выпадку.
І гавару я: «Слова, ты гучы!
І хай маўчаць гарматы і мячы!»

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Прыўзнята-урачыстае ўзрушэнне
чуваць у першых словах старшыні,
у стоенасці цішыні.
Вось на трыбуну ўжо ідзе прамоўца.
Не дзеля краснага, здаецца, слоўца.
Ёсць словы — пустазелле, пустацвет.
Не імі славіцца зямны наш свет.
Стук малатка. Пачатак пасяджэння.

Пайшла па зале сакратарка Джэні,
панесла дэлегатам прэс-рэліз,
шматзначна вочы апусціўшы ўніз.
Як у стыхій, прыродных і жыццёвых,
ёсць сіла ачышчальная і ў словах.
Жывое слова часам робіць цуд,
з сумлення і душы змывае бруд.

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Якое ў сэнсе ліку і значэння —
няважна, — важна, каб у добры час
прамоўлены быў першы сказ.
За шыльдачкай прызнанай «Беларашн»
мы ў зале на чале з міністрам нашым.
Вайну ён зведаў, партызан былы,
з трыбуны тут вядзе за мір баі.

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Гляджу, якое ў нас тут акружэнне.
Не дзеляцца кітайскаю сцяной…
Бахрэйн — насупраць, Кіпр — за спіной,
Бурундзі — злева, а Канада — справа.

---

* Перафразіроўка слоў са Статута ААН.

Алфавітнае дзейнічае права.
Агульны алфавіт, зала, час…
А як наконт агульнай мовы ў нас?

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
І мроіцца: знікае адчужэнне.
І верыцца: скрозь церніі і змрок
наперад робіць чалавецтва крок.
У слоў, як і ў гадоў, сваё злічэнне,
у слоў, як і ў планет, сваё вярчэнне,
свае арбіты, свой кругазварот…
Хай кажа слова чалавечы род!

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.

*1978*

## ТАЛАКА

Я меў магчымасць назіраць, як будаваўся новы Дом літаратара. Ты нават не ўяўляеш сабе, колькі людзей — розных прафесій і спецыяльнасцей, рознага ўзросту і грамадскага становішча — займалася будоўляй!..

*З прыватнага пісьма*

Дом будавалі талакой…
Дом будаваць — такая праца,
што лепей аднаму не брацца,
адзін не справішся з якой.

Ёсць спраў нямала на зямлі —
і для душы, і для заробку, —
якія робім паасобку.
А тут без грамады ні-ні.

Парой патрэбен нам спакой.
Парой шчыруем саматужна.
А тут узяцца трэба дружна,
узяцца разам, талакой!

Калі дом хочаш будаваць —
забудзь пра гонар, самалюбства
і іншае такое глупства
і талаку пачні ззываць.

І вось, як пальцы ў кулаку,
сыходзімся у талаку.
Каб сцены сталі навакол —
патрэбна ўзяцца талакой!

І каб страха над галавой —
патрэбна ўзяцца талакой!
І сонца каб па-над страхой —
патрэбна ўзяцца талакой!

І ўсталі — да рукі рука!
І ўзяліся — да локця локаць!
І камень набывае лёгкасць…
Падмурак… Сцены… Талака!

*1978*

* * *

Ты кажаш, сяброў усё менш і менш?
Гаворыш аб гэтым як аб драме?
Ды горшае — гэта сціранне меж
паміж непрыяцелямі і сябрамі.

*1978*

* * *

Дзвярыма стукнулі напаследак…
Я на гадзіннік глянуў якраз:
не зорны,
            не судны,
                        а сумны быў час —
час памірання нервовых клетак.

*1978*

* * *

Еўдакія Лось у труне…
Не ў бацькоўскай старане.
Не ў роднай сваёй Старыне,
дзе дзяўчынкаю светлавалосай
выбягала на выган росны,
адкуль выбегла ў свет па вясне…
У труне.
Еўдакія Лось у труне…
Не ў пісьменніцкай гамане,
не ў рэдакцыі, не ў дарозе.
Склала рукі ў ціхмянай позе:
«Не турбуйце болей мяне.
Я ў труне».
Еўдакія Лось у труне…
Смерць сустрэла — як на вайне.
Па-мужчынску неяк, сурова,
без адчаю, без лішняга слова…
«Зразумелі цяпер вы мяне —
у труне?»
Еўдакія Лось у труне…
Не ўсвядомілі: «Праўда ці не?»
Было ўчора яшчэ ў яе твары
столькі сіл і веры бадзёрай!
Было столькі задум у яе!..
У труне.
Еўдакія Лось у труне., .
Хто пакрыўдзіць цяпер? Хто кране?
Той, хто сек яе словам злосным,
стаіць, бачу, з выглядам слёзным.
Ды ўжо справа не ў нейчай віне,
а ў труне.
Еўдакія Лось у труне…
Цяжка верыць такой навіне.
Атрымалася, знаем, нядобра.
Гэта ўсё ні на што не падобна.
Не падобна зусім на яе…
У труне.
Еўдакія Лось у труне…
Не ў бацькоўскай старане.
Не на вечары літаратурным.

А ў убранні сваім хаўтурным.
А ў сваім непрабудным сне…
У труне.

*1979*

## ПЛАЧ СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ

*У жалобным хоры зліваюцца галасы*
*жанчын, дзяцей, старых.*

Людзі добрыя, рады прывецiць бы вас,
ды прыйшлі мы ў нядобры час,
у нядобры час,
у нядобры час,
у нядобры час.
Рады сустрэць бы вас хлебам ды соллю,
ды вось сустракаем смяротным болем,
смяротным болем,
смяротным болем,
смяротным болем.
Рады сустрэць бы крынічнай вадою,
ды вось сустракаем вялікай бядою,
вялікай бядою,
вялікай бядою,
вялікай бядою.
Хто вы, скажыце? Вакол нас змрок.
Спаліў вораг вочы, адняў у нас зрок.
Не бачым мы ні зямлі, ні неба…
Ўсё слепа,
ўсё слепа,
ўсё слепа.
Адкуль яно бралася, гэтае ліха?
Не чуем мы вас, няма у нас слыху.
Нас ахапіла глухая скруха…
Ўсё глуха,
ўсё глуха,
ўсё глуха.
Хацелі б сказаць мы вам добрыя словы,
ды вораг люты пазбавіў нас мовы.
Не вымавіць слоўца, бязмоўныя ўсе мы…

Ўсё нема,
ўсё нема,
ўсё нема.
Не можам прывеціць, не можам праводзіць.
Не мы на сяле — цені нашыя ходзяць.
Ні бачыць, ні чуць, ні слова сказаць мы не
ў стане…
Мы попелам сталі
мы попелам сталі,
мы попелам сталі

*1979*

## З ЦЫКЛА «ЛЯСНЫЯ ПРЫМАЎКІ»

* * *

Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць.

Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць.
У лес не хадзіць — не мець лясіны.
Лясіны не мець — не мець хаціны.
Хаціны не мець — дзяцей не радзіць.
Словам, баяцца ваўкоў —
не мець дачок і сынкоў.
Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць…
Не бачыць ні грыба, ні арэха,
не чуць ні шуму ляснога, ні рэха,
па сцежцы цяністай не блудзіць,
цудаў не адкрыць,
казак не стварыць,
вершаў не пісаць,
праўды не казаць
і нават саміх ваўкоў
не бачыць павек вякоў…

*1979*

* * *

Хто ў лес, а хто па дровы.

Хто ў лес, а хто па дровы.
Я ж па твой позірк, па твае бровы.

Хто ў лес, хто па будматэрыялы.
Я ж здабытчык не вельмі ўдалы.

Хто ў лес, а хто па выгады.
А я шукаю шляхі ды выхады.

Хто ў лес, а хто па дровы.
Я ж па твой голас, па твае словы.

Хто ў лес — каб далей прабрацца.
А я ўсё думаю пра брацтва.

Хто ў лес, а хто па дровы.
З табой ісці я ў лес гатовы,
каб там, на сонечным узлессі,
слухаць шум сосен, птушыныя песні.
І быць шчаслівым…

*1979*

* * *

Лес сякуць — трэскі ляцяць.

Выходзіць, парадак. Ціша ды гладзь.
Лес сякуць — трэскі ляцяць.
Лес сякуць, і, значыць, яшчэ
смала выступае, сок цячэ.
Лес сякуць, і ад стуку сякер
далей уцякаюць птушка і звер.
Лес сякуць, і раптам стоп:
«А можа, без гэтага лепш было б?»
Яшчэ пытаюць: «А дзе ж падлесак?»
Пачынаюць шкадаваць трэсак:
«Як бы без трэсак секчы лес?»
Ды тут жа доказ стары ўразрэз:
«Лес сякуць — трэскі ляцяць,

сякуць — на трэскі не глядзяць…»
На гэты доказ, стары і косны,
з’яўляецца іншы, новы козыр:
«А што, калі глянуць інакш на прагрэс:
не сеч сам лес?»

*1979*

* * *

Далей у лес — болей дроў.

…Болей дроў.
І меней кастроў,
агнёў дзіцячых, юначых,
вечным святлом пазначаных.
…Болей дроў.
І меней сяброў,
меней палян сунічных,
меней песень сінічыных.
…Болей дроў.
І меней дубоў,
гаёў зялёных, святлістых,
крыніц гаючых, празрыстых,
…Болей дроў.
І меней гадоў,
што не пражыў, не зведаў,
меней прасек, прасветаў.
…Болей дроў.
І меней кастроў,
сяброў,
дуброў і г. д.

* * *

Колькі ваўка ні кармі — усё адно ў лес глядзіць.

Вызначым першую тэзу:
воўк не можа без лесу.
Для воўка выць ці не выць —

тое, што «быць ці не быць».
Раз воўк не можа без зграі,
глядзіць з тугою ў лес,
тэза ўзнікае другая:
«Карміць яго які сэнс?
Воўка карміць, выходзіць, —
дарэмна корм пераводзіць?»
Улічым наступную тэзу:
сярод сучасных ваўкоў
меней усё дзівакоў,
якім трэба лес да зарэзу.
Камфорт, спажывецкі дух
спрыяюць прыручэнню.
З адвечным сваім прызначэннем
не ладзіць наш шэры друг.
Праўда, ў хвіліны стрэсу
ён зноў глядзіць у бок лесу…

*1979*

## ЗАКОН ШЧОДРАСЦІ

Не ведаю, колькі патрэбна вучонасці
для шчасця, для дружбы, для любві.
Ды паспрабуй усё гэта ўяві
без шчодрасці!
Нічога не выйдзе ў цябе, бадай.
Добрыя нашы ўсе парыванні,
як кветкі, хочуць, каб іх палівалі,
як поле, хочуць: расці ўраджай!
Тут, як на сяўбе парой вясновай,
дзе поўнаю мерай сей і рабі!
У шчасця, у дружбы, у любві —
тая ж аснова.

*1979*

## ПАД НЕБАМ АДКРЫТЫМ

Адкрытае неба!..
Адкрытае ўсім і ўсяму.
Спявае птах срэбна
гімн светламу небу свайму.

Пад небам адкрытым
так хораша дрэвам расці,
плыць рэкам блакітным
і нам з табой разам ісці.

Пад небам блакітным
саромеемся мы галізны.
Пад небам адкрытым
саромся хлусні і грызні.

Пад небам адкрытым,
дзе светла, куды ні зірні, —
няпраўдам і крыўдам
не месца зусім на зямлі!

*1981*

* * *

У час рашэнне не прыйшло.
Не дачакаўшыся адказу,
пытанне знікла з цягам часу,
быллём, як кажуць, парасло.
Ды вось, праз некалькі гадоў,
яно як быццам воляй цуду
аднекуль з глыбіні, з-пад спуду
з'явілася сягоння зноў.
Ды быў не толькі ў гэтым цуд.
З'явілася пытанне разам
з гатовым выспелым адказам,
прыйшло рашэнне — тут як тут.
Выходзіць, усяму свой час.
Не мог раней прыйсці адказ.

*1982*

* * *

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Каб светла-залатую яго ніць
віць і далей — любоўю, справай дзейнай
ды словам, што ад справы неаддзелена.
Тварыць!

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Надзеяй, праўдай, мужным парываннем,
высакародным, дружным намаганнем,
што потым зоркай у вяках гарыць.
Тварыць!

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Маральны самы, самы натуральны
пачатак гэты вось жыццёстваральны.
Інакш — якая ад жыцця карысць?
Тварыць!

Жыццё даецца, каб жыццё тварыць.
Не марнаваць, не нішчыць, не бурыць, —
Тварыць!

*1982*

## КУПАЛА ІДЗЕ ДА КОЛАСА…

«У суботу еду ў Стоўбцы да Коласа».

*З пісьма Янкі Купалы*
*ад 26 ліпеня 1912 года*

Да Стоўбцаў Купала ехаў.
Сышоў з цягніка спехам…
Значыць, недзе тут
родны Коласаў кут?
Родны ды паднявольны.
Калі што не так — у астрог.
«А як дабірацца да Смольні?
Хто б тут параіць мог?
Дарога зусім незнаёмая…»

Чуе Купала ў адказ:
«А вы ідзіце да Нёмана.
Вось гэтай сцяжынай якраз.
Пойдзеце па-над ракою,
не збочвайце нідзе.
Рака вас і прывядзе.
Да Смольні падаць рукою…»
Так і кіруе Купала.
Купала прыспешвае крок.
Шыр нёманская заззяла,
завабіла здалёк.
Плынь нёманская дыхнула
свежасцю густой,
сустрэла прахожага чула —
з яго імклівай хадой.
Нібы благаслаўляла,
давала сілы і ўздым…
Ідзе, ідзе Купала
нёманскім берагам тым.
Купала да Коласа ідзе,
Купалу Нёман вядзе.
Рака вяла, спрыяла,
бы ведала, што да чаго,
хто ідзе да каго…
Да Коласа — Купала.
Ведала як быццам,
што нельга інача тут, —
сустрэча павінна адбыцца,
павінен збыцца цуд.
Не вылазка на прыроду,
не святочны пікнік…
Тут — служэнне народу,
тут — сумлення крык.
Купала да Коласа ідзе,
Купалу Нёман вядзе.
Ускрыкнула звонка, голасна
птушка недзе ў трысці.
Купала ідзе да Коласа,
не можа не ісці.
Ці рана на Івана,
ці ў нейкі іншы дзень
так ім наканавана:

адзін аднога сустрэнь!
Адзін з другім сустрэнься,
дайце братні зарок —
па-брацку — да песні песня,
па-брацку — да кроку крок!
Адзін у полі не воін.
Два берагі ў ракі.
Купала і Колас — двое,
як гэтыя два берагі.
У гэтым краі хапала
міжусобіц і здрад…
Да Коласа — Купала
ідзе як да брата брат.
Каб шэрагам адзіным
пайсці на вялікі сход —
па бацькаўшчыну, па радзіму,
па шчаслівы народ.
Купала да Коласа ідзе,
Купалу Нёман вядзе…

*1982*

## НА ПАКЛОН ДА КАБЗАРА

Трэці раз адбылося шаўчэнкаўскае свята паэзіі. Яно пачалося ў Кіеве, потым працягвалася на гасціннай радзіме паэта, у Чаркаскай вобласці, у Каневе. Госці пабывалі на Тарасавай гары…

Я рана прачнуўся —
стукнула ў шыбы дзянніца.
Мне голас пачуўся: «Пара пакланіцца!
Пара на паклон да Кабзара!»
Раз голас пачуўся — значыць, пара.
Біў не гадзіннік і не званіца.
Білася сэрца: «Пара пакланіцца!»
Жыве чалавек не хлебам адным,
жыве чалавек і паклонам зямным.
Шмат мітусні, а паломніцтва мала.
Як бы душа не падупала.

Збіраюся ў шлях, усім гавару:
«Іду пакланіцца Кабзару».
Дні значым такія
мы белым каменем.
Шлях ляжа да Кіева,
шлях ляжа да Канева,
шлях прывядзе да магілы той,
што на дняпроўскай строме крутой.
Бог з ёю, святыняю боскаю Мекай.
Паклон — Людыне, паклон — Чалавеку,
паклон — таму, хто столькі нягод
сцярпеў за народ, за людскі ўвесь род.
Паклон — таму, хто не біў паклоны,
паклон — таму, хто не быў пакорны,
хто праўду казаў цару і двару…
Іду пакланіцца Кабзару!
Удзячная памяць — найлепшы помнік.
Тарас Рыгоравіч, я ваш паломнік.
Мне праз адлегласці зім і лет
чуецца вешчы Ваш запавет.
Праз далеч гадоў, Тарас Рыгоравіч,
Ваш боль і веру, любоў і горыч
я падзяляю… Паклон Вам зямны!

Сніце свае вечныя сны…

*1983*

## МАЦІ НА ЎЗГОРКУ
*Песня да спектакля*

Ну вось і дачакаліся сваіх.
Ну вось і сустракаем перамогу…
Сыны мае! Гляджу я на дарогу,
ды штосьці вас не бачу ў гэты міг.
Гляджу, ідуць падобныя на вас.
Такія ж каскі, тыя ж гімнасцёркі…
Сынкі мае, не бачу штосьці вас!
Ці, можа, пыл вас засцілае горкі?
Ці, можа, абышлі вы стараной?
Ці, можа, іншым строем вы ідзеце?
Сынкі, я знаю: кожны з вас — герой.

Але для маці ўсё адно вы — дзеці.
Сынкі, дзе вы? Жывыя вы ці не?
Сынкі, хіба я дрэнна вас чакала?
Хіба штоноч не бачыла у сне?
Штодня імёны вашы не гукала?
Сынкі мае, канчаецца вайна.
Сынкі мае, і рада я, і плачу.
Я рада, што канчаецца яна,
я плачу, што сыноў сваіх не бачу.
Сынкі, на ўзгорку я адна стаю.
Я вас праз слёзы выглядаю зранку.
Сынкі, я вам спявала калыханку,
а як я пахаванку вам спяю?..

*1985*

## РАЗМОВА Ў ПАТСДАМЕ

Я думаў у гэтыя дні, Маргот,
што́ ёсць народ і антынарод?
Дзе тут лінія водападзелу?
Мне стала ў Патсдаме зразумела.

Народ —
садоўнікі, хлебаробы,
носьбіты праўды, тварцы даброт.

Гітлеры, гебельсы, рыбентропы
і іншы падобны зброд — не народ.
Антынарод!

Народ —
велічыня векавая.
Народ —
пастаянная велічыня.
Антынарод —
штосьці накшталт наслання,
якое пры ззянні дня сплывае.

Народ у адрозненне ад антынарода
любіць жыццё,
людзей і прыроду,

множыць красу,
прадаўжае род…
Вось вы і ёсць народ, Маргот!

Як ружавеюць вашы шчокі!
Зарой падсвечаныя аблокі.
Якою жаноцкасцю, Маргот,
надзелены шчодра вы! Майн гот!

Колькі святла ў вашых вачах!
Маргот, вы — вобраз новай Германіі.
Маргот, на вашым захаванні
роднай Германіі ачаг.

*1985*

## ЯБЛЫНЯ Ў ГОРАДЗЕ

Сумнае, трэба сказаць, відовішча —
яблыня ў горадзе,
на месцы былога дворышча.
Той дворык, той домік
пайшлі на знос.
І ў яблыні нашай такі вось лёс…
Ля тратуара, навідавоку
стаіць яна, яблыня, — збоку прыпёку.
Яе абыякава абцякае
рака людская, гарадская.
Хто гляне на яблыню, а хто — не,
а хто безуважна абміне.
Міма ідзе лектар, ды не садоўнік.
Міма ідзе дырэктар, ды не садоўнік.
Міма ідзе інспектар, ды не садоўнік.
Ды не садоўнік, не садавод.
Дзічэе яблыня з году ў год.

Ну так. Як гэта ні парадаксальна,
а побач з культурай асляпляльнай,
сярод яе даброт і выгод
дзічэе яблыня з году ў год:
драбнее ліст, гарчэе плод.

Міма ідзе аператар, ды не садоўнік.
Міма ідзе інкасатар, ды не садоўнік.
Міма ідзе літаратар, ды не садоўнік.
Ды не садоўнік, не садавод.
Дзічэе яблыня з году ў год.

Праўда, кажуць, мінулай вясною
дзіўнае штосьадбылося з ёю:
яблыня раптам заквітнела,
закрасавала ружова-бела.
Як быццам брала яна рэванш.
Як быццам казала камусь: «Заўваж!»

Што адбылося з дрэвам? У чым сакрэт яго цудоўнага ажыўлення? Сакрэт увогуле просты. Да аднаго з жыхароў дома, што насупраць, прыехаў на зіму аднекуль з-пад Бачэйкава яго стары бацька, заўзяты садавод. Сядзеў бязвылазна цэлымі днямі ў цёплай гарадской кватэры. У адзіноце, калі сын і нявестка былі на працы. З сумам выглядваў у вокны — то ў адно, то ў другое. Заўважыў яблыню. І вось калі крыху пацяплела, стала брацца на вясну і стары выйшаў з дому, то першым чынам накіраваўся да яблыні. Падышоў да яе, абышоў яе з усіх бакоў, дакрануўся да ствала, пакратаў галінку… Назаўтра падаўся зноў да яблыні з нажоўкай і скрабком і стаў абразаць сухія галіны і ваўчкі, саскрабаць адмерлую кару. На наступны дзень стары зноў пайшоў да яблыні, зноў доўга завіхаўся каля яе. І калі ў яго пыталіся вечарам, што ён рабіў, чым займаўся днём, ён так і адказваў: «Хадзіў да яблыні». І яшчэ дадаваў: «Да пепінкі, што праз вуліцу расце. Закажанела яна зусім». Так вось садоўнік і яблыня знайшлі былі адно другога. Але ненадоўга. Бо вясной дзядуля падаўся дахаты ў сваё Залессе, што пад Бачэйкавам.

І невядома, што будзе з яблыняй далей…

Міма ідзе кандуктар, ды не садоўнік.
Міма ідзе канструктар, ды не садоўнік.
Міма ідзе інструктар, ды не садоўнік.
І гэтак далей.

*1986*

## ХЛОПЧЫК ГЛЯДЗІЦЬ…

*Унуку Янку*

Хлопчык глядзіць…
Вачам сваім веру — не веру.
Адкуль ты прыйшоў
у дом гэты, гэту кватэру?

Хлопчык глядзіць…
О божа! О маці часна́я!
Нічога не знае ён.
Мяне ж ён, здаецца, знае?

Хлопчык глядзіць…
Глядзіць проста ў вочы.
Хлопчык глядзіць…
Як быццам спытаць нешта хоча.

Я ведаю — што.
Няма ў мяне толькі адказу.
Калі ж ён і ёсць —
не вымавіш так вось адразу.

Хлопчык глядзіць…
Позіркам, поўным наіву.
Поўніцца сэрца маё
трывогай шчымлівай, шчаслівай.

Хлопчык глядзіць…
Я ў позірку тым дзіцячым
бачу пачатак сябе,
сваё прадаўжэнне бачу…

*1989*

## БАІЦЦА БЫЦЬ БЕЛАРУС БЕЛАРУСАМ…

Жыў пад прыгнётам ды пад прымусам,
зваўся літвінам, русінам, русам,
зваўся тутэйшым, мяшканцам, мяшанцам…
Не знае, рабіць што з апошнім шанцам,
які ён сёння атрымоўвае,

як быць з сваім імем, з сваёю моваю,
быць ці не быць беларусам нарэшце…
Пытанне няпростае, канешне.
(Дазволю сабе тут крышку іроніі.
Характар наш тут, як на далоні.)

Не знае?
            Не хоча?
                        Не смее?
                                    Баіцца?
Вялікая гэта таямніца.

Зведаў ён ліха апраметнага.
Ён не баяўся таго і гэтага.
Хапала адвагі, каб з ворагам біцца,
ад голаду-холаду каб бараніцца…
Ды вось быць самім сабою баіцца.

Прайшоў праз Хатынь,
                                    праз Курапаты,
зносіць цярпліва Чарнобыль пракляты,
упарта крыніца яго бруіцца…
Ды быць беларусам ён баіцца.
Вось дык ноумен, вось дык феномен —
гэты ўнук бабін, сын гэты удовін.

Казалі «не будзь!» —
                                    ён схіляўся ніцма.
Гавораць «будзь!» —
                                    усё роўна баіцца.
Вось што робіцца з беларусам.
З сінявокім, з белавусам,
не з недарэкам, не з няўмекам,
з добрым увогуле чалавекам.

Баіцца быць беларус беларусам…
Ці, можа, ужо не баіцца?

*1989–1990*

## УСПАМІН ПРА ПАСТВУ

Ах, як не хацелася прачынацца!
Які быў моцны дзіцячы той сон —
на мулкім тым ложку, у цеснай той хатцы.
Мацнейшы за ранішні звон-перазвон.

Ды ўсё ж праз сон той салодкі, дзіцячы
даходзіў даволі голас матчын,
даходзіў усё-ткі — нібы здалёк:
«Сынок, уставай! Прачынайся, сынок!
Сёння ж, Толічка, наша радоўка.
Вунь нейчая ўжо мычыць кароўка.
Мабыць, Грыні павялі сваіх,
яны выганяюць раней за ўсіх…»

Паспаць бы яшчэ з паўхвілі нейкай.
Вельмі ж цяжка ўзнімаюцца вейкі.
Ды будзіць каровінае «му-му».
Ды чую зноў матулю саму:
«Сынок, уставай! Прачынайся, золатка!..»

Ах, як тады спалася соладка!
Ніколі так больш не спалася мне
ні дома, ні у чужой старане.
Ды і пасьбы той нібы не было.
Знікла, пайшла кудысь за сяло…

*1993*

## НА БЕЛАРУСІ ПЕЎНІ ПЯЮЦЬ…

Гэта крык, што жыве Беларусь.
*Янка Купала*

Пеўня першага я пачуў праз сон.
Абудзіўся — пачуў я другога пеўня.
Недалёка ад вёскі жыву колькі дзён,
але неяк той спеў даляцеў
неспадзеўна.

Праспявалі пеўні і трэці раз.
На ўсё той жа высокай,
пранізлівай ноце.
І замоўклі…
Забілася сэрца ў адказ.
Значыць, жыцьме, мой родзе,
мой народзе?

Значыць, вёска жыве?
Значыць, певень пяе? —
Па законе, што тут здаўна існуе,
па законе нязменным, спрадвечным,
і прыродным, і чалавечым.

Так даўно павялося ў нашых краях,
што дзень новы нам певень
абвяшчае,
абвяшчае і дзень, і зборы ў шлях,
і сяўбу, і касьбу, і збор ураджаю.

Певень гэты жывучы —
пяючы наўздзіў.
(Цяжка край уявіць без гэтай птушкі.)
Ён Скарыну будзіў, ён Купалу будзіў,
Ён будзіў касінераў Кастуся
і Касцюшкі.
На маёй Беларусі певень пяе.
Певень голасна будзіць:
«Беларусы, не спіце!
Тым, хто рана ўстае,
таму Бог дае.
Прачынайцеся, справу рабіце!

Прачынайцеся! Справу рабіць
самы час.
Не здавайцеся паняверцы і скрусе!
Не праспіце апошні свой,
можа быць, шанс…»
… Пеўні звонка пяюць
на маёй Беларусі!

*1997*

## ПАРАЎНАННІ

Што робіцца? — пытаюся з трывогай.
Прыходзяць параўнанні на падмогу.
То вечарам, то ў сне, то ўранні
прыходзяць нечакана параўнанні.
Прыходзіць на падмогу параўнанне —
як сродак спасціжэння і пазнання.

**Першае**. Яно, гэтае параўнанне
(тут я пераходжу на свабодны верш),
прыйшло раніцай на вакзале.
Дакладней—на прывакзальнай плошчы
з яе шматлюдным снаваннем туды-сюды,
з яе хаатычным броунскім рухам.
Убачыў, адчуў фізічна,
адчуў плячамі, локцямі, падэшвамі ног
гэту плошчу,
убачыў, адчуў фізічна
натоўп пасажыраў,
кожны з якіх шукаў на табло і ў раскладзе,
а таксама шляхам роспыту
свой цягнік і свой перон
і кожны з якіх спяшаўся на свой цягнік, —
убачыў і адчуў я ўсё гэта
і падумаў, адкрыў раптам для сябе:
«Чакай! Дык гэта ж так падобна
на нас, сённяшніх беларусаў
як соцыум, як народ.
Гэта ж мы, беларусы, сёння
на новым гістарычным раздарожжы,
вось так мітусліва снуем,
кідаемся ў розныя бакі,
бяжым кожны на свой цягнік…
Замест таго, каб збірацца разам,
разам выбіраць маршрут,
разам вырашаць, якім цягнікам,
ад якой платформы і з якога пуці
адпраўляцца супольна ў шлях…

**Другое**. Прыйшло днём
у гадзіннікавай майстэрні.
Чакаючы сваёй чаргі

я стаў міжволі разглядаць
расстаўленыя на паліцы гадзіннікі.
І ледзь не засмяяўся ўголас
ад свайго, так бы мовіць, адкрыцця.
Здадзеныя ў рамонт
са спыненым ходам гадзіннікі
паказвалі абсалютна розны час.
Настольны, у прыгожай драўлянай «пад арэх» аздобе —
3 гадзіны 5 мінут;
насценны, са светлым керамічным цыферблатам —
9 гадзін 9 мінут,
стандартны, круглы, з колцам наверсе будзільнік —
12 гадзін 20 мінут…
І гэтак далей.
Я нават паглядзеў машынальна на свой гадзіннік;
«Колькі ж гэта насамрэч часу?»
Я нават удакладніў, спытаўся ў жанчыны,
якая стаяла перада мной:
«Колькі, прабачце, на вашым залатым?»
І потым падумаў раптам,
вяртаючыся дамоў,
што гэта майстэрня нагадвае
наша грамадства, наш беларускі дом.
Парушылася калісь наша гістарычная памяць.
Разладзіўся механізм нашага гістарычнага гадзінніка.
Распалася сувязь часоў і падзей.
І вось мы блукаем сёння ў часе.
І вось жывём па розных гадзінніках,
не вельмі імкнучыся звяраць іх.
І вось у адных — адзін адлік часу,
а ў другіх — другі…
Мы — народ без спраўнага
адзінага для ўсіх гадзінніка.

**Трэцяе**. Яно мае цыганскую афарбоўку.
Чаму цыганскую?
«Цыган не паган, толькі цела закапцела?..
Ну, так. Вядома. Нічога супраць цыганоў не маю.
Проста справа ў тым, што некалькі гадоў назад
я жыў у доме, які выходзіў тарцом да Старажоўскага рынка
(нядаўна знесенага па нейкай прычыне).
Па нядзелях на рынак прыязджалі цыганы.

Іншы раз, пасля таргоў, спыняліся ў двары нашага дома.
І вось аднойчы ў базарны дзень
я пачуў нейкі шум і гам.
Я выглянуў у акно і ўбачыў маляўнічую сцэну:
каля сваіх павозак сварыліся і біліся цыганы.
Усхадзіліся, біліся ўсе як ёсць,
усім табарам, усе з усімі.
Зрэшты, «біліся», бадай, не зусім тое слова.
Яны больш крычалі, тузаліся, штурхаліся…
Стараваты, тоўсты штурхаў у грудзі маладога, хударлявага,
адна цыганка намагалася схапіць за валасы другую,
а тая, другая, у сваю чаргу,
замахвалася на бліжэйшага да яе цыгана
ў яркай, наросхрыст, кашулі,
ці не мужа першай.
Цікавы быў фінал.
Калі самае малое цыганя
падбегла да старэйшага, тоўстага
і таўханула яго ў жывот,
то бойка на гэтым і скончылася.
Цыганы хуценька паселі на вазы
і падаліся туды, адкуль з’явіліся.
«Bellum omnium contra omnes» —
толькі і паспеў я сказаць ім услед. —
Цыганская разнавіднасць
«вайны ўсіх супраць усіх»…
Апошнім часам я не-не ды і згадаю
тую, так бы мовіць, татальную сварку-бойку…
Падстаў для згадкі, пагадзіцеся, больш чым дастаткова.
Тое, што адбываецца ў краіне,
калі нас падзяляюць і сварацць,
калі нас сутыкаюць ілбамі,
калі нас проціпастаўляюць аднога аднаму,
настройваюць адных супраць другіх, —
усё гэта так нагадвае
«вайну ўсіх супраць усіх» —
у згаданым мной цыганскім варыянце.

**Чацвёртае**. Яно прыйшло мне ў сне.
Прыснілася на досвітку, што недзе,
ці то на тым жа вакзале,
на той жа, зноў-такі, прывакзальнай плошчы,

ці то на нейкім іншым бойкім месцы
сабралася нас вельмі шмат,
сабраўся нас цэлы натоўп.
Дзеля чаго сабраліся? З якой нагоды?
З якою мэтай? Ніхто не ведае.
Не ведаю і я таксама.
Спрабую дапытацца, але ўсё марна.
Чуваць нейчы трывожны крык,
але сэнс яго незразумелы.
І вось ад гэтага няведання,
ад гэтай няпэўнасці,
ад гэтага трывожнага незразумелага крыку
нам усім робіцца страшна,
нас усіх ахоплівае спуд.
І мы пачынаем усім гуртам
бегаць, мітусіцца,
кідаемся ў розныя бакі.
Ці то каб некуды паспець,
ці то каб ад некага схавацца…
Прачынаўся я з адчуваннем таго спуду,
таго вялікага перапалоху,
які толькі што перажыў у сне
і пра які палякі кажуць: «Owczy pęd».
«Овчы пэнд»… Пэнд і спуд —
гэта, здаецца, не адно і тое ж,
але блізкія не толькі па гучанні,
але і па сэнсе словы.
Які сялянскі сын не ведае,
што ўяўляе сабой бег спуджанага статка!
Словам, сон быў ў руку.
Сніўся мне мой родны беларускі люд.
Яго называюць: рахманы, ціхамірны, талеранты…
Дададзім яшчэ і гэты эпітэт — «спуджаны».

Такія вось прыходзяць параўнанні.
Прыходзяць неяк самі… Далібог!
Пры намаганні ўсім, пры ўсім старанні
я выдумаць бы іх ніяк не змог.
Прыходзяць на падмогу параўнанні
і высвятляюць маёй тэмы грані.

*1997*

## ЛЯ МАГІЛЫ МАКСІМА ТАНКА

*Гучыць яго голас…*

Ну вось я нарэшце і дома.
Вярнуўся я ў родны кут.
Бацькі тут, Іван ды Домна,
і дзядзька Фадзей недзе тут.

Са мною Любаша, вядома.
Любаша, Люба, Лю…
Нарэшце мы з ёю дома.
Душу да душы тулю.

Апошні наш прыстанак,
Сабраліся тут назусім.
І тут ніякі не Танк я
і нават — не Максім.

Прыдумвалі ж псеўданімы!
Мой быў накшталт брані.
Маўляў: «Абарані!
Бо ўражлівы я і ранімы».

Жэнем быў з нараджэння.
Жэнем вярнуўся дамоў.
Матчынае «Жэня!»
мне соладка чуецца зноў.

«Жэня!» — шапочуць хваіны,
што ў песнях славіў я.
Бярозавыя галіны
шэпчуць маё імя.

Змружыла вейкі стома.
Набыўся ў гасцях-людзях…
Я тут спачываю. Я дома.
…А вы ўсё яшчэ ў гасцях?

*1998*

## ПАХОДЖАННЕ ПРОЗВІШЧА

*Радзіму Г. Гарэцкаму*

Адкуль яно, гэтае «імярэк»?
Адначасова — ад «гор» і «рэк».
А не толькі ад «гаротнага».
Ёсць тут доказ ад зваротнага:
Бо яны цвёрдай, скальнай пароды,
Іх душы — ад чыстых рэчак воды.
Адкуль яно, гэтае найменне?
Ад — «гараванне» і «гарэнне».
Ляталі-гайдалі лёсу арэлі…
Яны гаравалі і гарэлі.
Кідалі-ўздымалі жыццёвыя хвалі…
Яны гарэлі і гаравалі.
Гарт набывалі ў суровым горане,
Долю лепшую мужна агорвалі.
Такія яны ўжо — Гарэцкія.
Арэшкі — мацнейшыя за грэцкія.
Арэх — ад арэшыны.
Жолуд — ад дуба.
Слухаць усцешна,
Бачыць люба.
Шукальнік радовішчаў,
Стваральнік карт.
Гонар.
          Гордасць.
                    Горан.
                              Гарт.

*1998*

## ЧЫТАЮ ГАРЭЦКІХ…

Чытаю Гарэцкіх.
Максіма[1], Гаўрылу[2], Радзіма[3]…
Вось дзіўнае дзіва!

Чытаю Гарэцкіх.
Гаўрылу, Радзіма, Максіма…
Вось слова! Вось сіла!

Чытаю Гарэцкіх.
Радзіма, Максіма, Гаўрылу…
Божа мой мілы!

Чытаю Гарэцкіх.
Тут лучацца слова і дзея.
Чытаю Гарэцкіх.
Тут нашыя боль і надзея.

Чытаю Гарэцкіх.
Тут нашыя радасць і гора.
Чытаю Гарэцкіх.
Тут нашыя сёння і ўчора.

Чытаю Гарэцкіх.
Максіма. Гаўрылу. Радзіма…
Гучаць трыадзіна.

*1999–2000*

## ПРА ДАРАВАННЕ

Папа рымскі[1] просіць даравання.
Папа кленчыць каля ўкрыжавання,
згадвае Ісусаў запавет…
Слухае і бачыць цэлы свет.
Чуе, пэўна, і мая краіна.
Боль кальнуў маю душу раўніва,
калі я пачуў тую імшу.
Устрывожыў боль маю душу.

Хто і як, з амбона ці на пляцы,
галаву схіліўшы пры распяцці,
на вачах сусвету усяго, —
да народа звернецца майго?
Ды прамовіць у глыбокай скрусе:

«Выбачайце, людзі Беларусі!
Бачыць Бог і сын яго Ісус:
просім даравання, беларус!

Просім даравання за ўсе беды,
за падман і крыўды, што ты зведаў,

за знявагі, здзекі і разбой,
што ўчынялі злыдні над табой!..»

Ды ці дачакаемся такога?
Калі ж не, то на якога Бога
можам спадзявацца мы тады?
Хіба толькі на сябе, браты!

Папа рымскі просіць даравання.
Папа кленчыць каля ўкрыжавання.
Промень міласэрнасці не згас…

Хто папросіць даравання ў нас?
І калі надыдзе гэты час?

*2000*

## СЛОВА НА РАЗВІТАННЕ. ПЯРЭДАДЗЕНЬ МІЛЕНІУМА

Апошні. Апошняя. Апошнія…
Колькі тут горычы. Божа мой!
Колькі беззваротнасці
ў гэтым «цік-так, цік-так»!
Апошні ў гэтым годзе.
Апошняя ў гэтым стагоддзі.
У гэтым тысячагоддзі
апошнія. Ну, так.
Гадзіннік б’е медным боем.
Гадзіннік б’е смертным болем.
А боль той адбіваецца
на нашым людскім чале.
Апошні ў гэтым годзе.
Апошні ў гэтым стагоддзі.
У гэтым тысячагоддзі
апошні. Ну, так. Але.
Жанчынка мая каханая,
ты сёння такая ціхмяная,
такая задуменная…
Што ў цябе на душы?
Шкадуеш наша мінулае?
Чуеш гукі прачулыя

развітальнай імшы?
Дзякуй табе за каханне,
за гэтае вось спатканне,
дзякуй табе за гэтыя
шчырыя ласкі твае.
Апошнія ў гэтым годзе,
апошнія ў гэтым стагоддзі,
у гэтым тысячагоддзі
апошнія. Але.
Сябры мае, сябрына!
У нас адна краіна,
Радзіма адна — адзіная.
І мы ў яе адны.
Адны ў нас з ёй дарогі,
адны ў нас з ёй трывогі,
адны ў нас з ёй пакуты,
адны надзеі і сны.
Яна чакае спатолі
ў сваёй гаротнай долі,
і гэтае застолле
мы ёй прысвячаем: «Жыве!..»
Апошняе ў гэтым годзе,
апошняе ў гэтым стагоддзі,
у гэтым тысячагоддзі
апошняе. Але.
Апошнія гадзіны.
Апошнія радзіны.
Страты і здрады апошнія.
Апошні радасны ўздых.
Апошнія праклёны.
Апошнія паклоны.
Апошнія малітвы
ў імя усіх святых.
Заключныя акорды
гучаць на ноце пакорнай.
Гучаць на ноце мінорнай.
Растайваюць недзе ў імгле.
Апошнія ў гэтым годзе.
Апошнія ў гэтым стагоддзі.
У гэтым тысячагоддзі
апошнія. Але…

***Апошнія дні 2000 года***

## ЖЫЦЦЁ ПРАДАЎЖАЕЦЦА…
*Нешта амаль аптымістычнае*

Братове, сябры,
не будзем адчайвацца.
Жыццё ж не канчаецца,
жыццё прадаўжаецца.
Вунь голуб буркоча,
вунь носіцца чаіца…
Жыццё ж прадаўжаецца,
жыццё не канчаецца.
Трамвай вунь са звонам
бяжыць, спяшаецца…
жыццё прадаўжаецца.
Надзея новая нараджаецца.
Жыццё прадаўжаецца.
Якое яно і як вырашаецца,
але ж не канчаецца,
але ж прадаўжаецца.
Лісцё асвяжаецца.
Чуццё абуджаецца.
Дзіцё нараджаецца…
Жыццё прадаўжаецца.
Жыццё прадаўжаецца.
Жыццё прадаўжаецца!

*2001*

## ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА
*Трыпціх*

### 1. Пахаванне

Апошняя дарога.
Апошняе «бывай».
Апошняе «даруй».
Паклон зямны апошні.
Замоўкла гамана.
Заціх птушыны грай.

Адно што толькі
                                        чутны голас Божы.
«Не плачце, — кажа Бог, — не плачце, я прашу.
Мінаецца жыццё зямное хуткацечна.
А тут сустрэну я ягоную душу,
ягоную душу тут пасялю навечна.
Я дам ёй супакой…»
                                                Апошняе «бывай».
Апошняе «даруй».
                                            І шлях зямны апошні.
Знямела грамада.
                                        Прыціх радзімы край.
І чутны толькі голас Божы.

*25.6.2003*

### 2. Ён недзе тут…

І ява існая, і цуд!…
Ён недзе тут. Ну так, ён недзе тут.
Ён побач, поплеч ён, ён з намі —
знаёмымі, сябрамі і сынамі,
з Ірынаю сваёй, сваёй краінай,
па-летняму то светлай, то журлівай.

Вы кажаце пра той апошні шлях,
пра тыя смутак, тыя боль і жах.

Вы кажаце: вяртаўся ён дадому,
дадому нёс свае любоў і стому.
Ды, кажаце, сустрэў яго не дом,
а дол яго прыняў, халодны дол.

Вы кажаце: вяртаюцца здалёку,
а не вяртаюцца зглыбоку ды са змроку.
Ды ён не там, дзе змрок, дзе тлен і тло.
Ён тут, дзе дух жывы, дзе рух і дзе святло.

Не, ён не там, ён недзе тут, ён з намі.
Такі, якім яго мы зналі,
якім яго мы бачылі і чулі,
якога не ўзялі асколкі, кулі,
агонь пякельны і сыры акоп,
а потым — шальмаванне і паклёп.

Ён тут. Хаця яшчэ ў сорак чацвёртым
яго ўжо абвяшчалі мёртвым.
Ды ён ажыў. І ўваскрашаў другіх
вадою жыватворнай сваіх кніг.

Не, ён не там, ён тут, ён з намі.
Такі ж, якім яго мы зналі, —
суровы і прыветны, ветлы,
пахмурны, змрочны крыху ды і светлы,
ласкавы і патрабавальны,
зацяты і ўсёдаравальны.

Не, ён не там, ён тут, ён недзе тут.
Іява існая, і цуд!
Я вам кажу, што тут ён недзе,
на гэтым свеце і у гэтым леце,
на беразе жывой ракі.
Цяпер заўсёды і на ўсе вякі.
Ён недзе тут…

*19.6.2004*

### 3. Сніцца…

«Можа, яшчэ і пабачымся».

*Словы адной з апошніх паштовак*
*Васіля Быкава*

Бачымся з ім у сне.
Дакладней — ён бачыцца мне.
Звычайна недзе пад раніцу,
на зыходзе начы,
калі ўжо злятаюць сычы, —
прыходзіць…
Ці то каб параіцца,
ці то каб спытацца,
ці вымавіць нешта тое,
што не паспеў у жыцці
сказаць — не дазволіла доля,
ці то каб засцерагчы,
ці з нейкаю іншаю мэтай…
Ды ў сноў тых адна адмета:
маўчыць ён, мой госць начны…

Прыходзіць — моўчкі, без слоў.
Зыходзіць — сурова-маўклівы…
Сёння прымроіўся зноў,
зноў гэткі ж негаварлівы.
І я зразумеў — чаму, —
прачнуўшыся на дасвецці:
самотна там яму,
сумна яму на тым свеце…

*19.6.2006*

## НЕ ПОМНЮ ТАКОГА ЛЕТА…

Не помню такога лета,
каб было столькі квета,
каб было столькі кветкавай,
пялёсткавай белізны,
каб яблыні так квітнелі,
бялелі, ружавелі, —
пасля непагоды-слоты,
пасля халоднай вясны.

Не помню такога лета,
каб было столькі квета,
каб яблыні так квітнелі,
каб так цвілі сады.
Так хораша, так шчодра!
Каб так кранала пяшчотна
душы маёй лады!

Нібы казала прырода
людзям майго народа:
«Ведаю, людзі добрыя,
што радасці вам нестае.
Дык вось, мае любыя дзеці,
глядзіце на гэтую квецень,
глядзіце і любуйцеся,
і цешцеся, дзеці мае!»

Я глядзеў на яблыні,
на гэты цуд наваяўлены,
я глядзеў на квецень

і адыходзіў душой.
Такое было адчуванне,
такое хваляванне,
якое бывае у храме
з яго урачыстай імшой.

Не помню такога лета,
каб было столькі квета
каб быў такім цудам
ён з сваёй белізной-чысцінёй,
быў выклікам яўным гэткім
нежывым розным кветкам,
бруду, брыдоце рознай,
мярзоце ўсялякай зямной.

Не помню такога лета,
каб было столькі квета
і каб быў ён светлы,
як ранішні снегапад,
як юначыя мроі,
як вясельныя строі…
Не помню такога лета,
каб квітнеў так мой сад!

*Чэрвень 2006*

## РАЗВІТАЛЬНАЯ РАЗМОВА З ЯНКАМ БРЫЛЁМ

Іван Антонавіч…
Нешта ні слова, ні гуку.
Што ж Вы, Іван Антонавіч,
досціпу валадар?
Іван Антонавіч,
нешта ні жэсту, ні руху.
Дзе ж, Іван Антонавіч,
таварыскасці Вашай дар?
Дзе, Іван Антонавіч,
позірк ваш усмешлівы?
Ці немагчыма ўжо болей
Вам узняць павек?
Ну так, Вы пра гэта думалі,
нагадвалі нам, канешне, Вы.

«Memento mori» — пісалі,
помні, маўляў, чалавек.
Вы ў дзённым, часовым
вечнасць бачылі добра…
Шаноўны Іван Антонавіч,
ўсё гэта, вядома, так.
Ды вось Вы замоўклі,
ўсё гэта так не падобна
на Вас — красамоўца,
жывога слова мастак!
Вы маўчыцё,
Вы ў немаце і суме.
І гэта так Вам,
Янку Брылю,
не пасуе.
Вы маўчыцё,
ні слова, ані паўслова.
Як тут немата недарэчы,
як не пасуе яна.
Прабачце, забыўся,
што, мабыць, сваёю размовай
Турбую я Вас
напачатку
Вашага вечнага сна…

*2006*

## ПРА НАШ ПЛАЧ

*АлегуЛойку — аўтару кнігі*
*«Плач зямлі»*

Жыць пачынаем —
залівістым крыкам-плачам.
Жыць прадаўжаем — смехам юначым.
Затым то маўчым, то прамаўляем.
Затым то крычым, то ў словы гуляем,
то лямантуем ў адчаі трывожным,
то нікнем у роздуме дарожным,
то пад цяжарам жыццёвым стогнем —
стогнам спантанным, глыбокім і доўгім.
А то вось бывае, што проста заплачам.

Амаль па-дзіцячы,
ды плачам ужо не дзіцячым,
а болей горкім, салёным болей,
бо плачам над нашай людскою доляй.

*Студзень 2007*

## ЗДАРЭННЕ Ў СУДНЫ ДЗЕНЬ,
## або НІЛ ГІЛЕВІЧ ЯК АРГУМЕНТ

Зраблю спачатку агаворку:
увесь той Дзень, Хрыста другое прыйсце,
калі перад яго судом
прайшлі народы, роды і плямёны,
«абраныя ад чатырох вятроў,
ад краю і да краю ўсіх нябёсаў», —
апісваць не бяруся я.
Дзень гэты Судны апісаць не зможаш,
хоць будзь ты тройчы адвентыстам
ці эсхітолагам хоць тройчы будзь.
Напэўна ж, нездарма таму
з усіх апосталаў-евангелістаў
толькі адзін Мацвей рашыўся распавесці
пра той страшэнны Суд, пра тое,
як Божы Сын Ісус Хрыстос
пад гукі зычныя трубы анёльскай
дзяліў сабраныя на суд народы,
іх размяжоўваў строга, бы пастух той
авечак аддзяляе ад казлоў,
і абвяшчаў затым свой вырак…
Ну ды рашуся ўслед за евангелістам
прывесці ўсё-ткі эпізод,
датычны нашай беларускай справы.
Было: як наша падышла чарга,
як той купалаўскаю грамадою
з сваімі крыўдай, горам ды бядою
з сваім жаданнем быць людзьмі
і, ведама ж, з вялікім страхам
паўсталі ўрэшце мы перад Судом, —
штось доўга углядаўся ў нас Ісус.
У першага спытаўся: «Беларус?»

Адказ яго не вельмі задаволіў.
Не надта пэўны, мабыць, быў адказ.
Ці не сказалі: «Я тутэйшы».
Прыгледзеўся, прыслухаўся Хрыстос
да гулу галасоў нястройных,
што далятала да яго пасада,
і, даўшы знак анёлам не трубіць,
пытацца стаў у беларусаў строга:
«Вам, чую, звацца хочацца людзьмі?
Хацелася б вам жыць па-людску?
Такое права дадзена вам Богам.
А як іначай? Вы ж яго стварэнні.
Як і другіх, стварыў вас Бог-Айцец
па вобразу свайму і падабенству,
і, як другім народам і плямёнам,
вам мову ён ласкава дараваў.
Чаму ж замала ладу паміж вамі,
свае сваіх парой не пазнаеце?
Нібы няма агульнай мовы ў вас.
Чаму вы не шануеце як след
сваю, вам Богам дадзеную, мову,
даеце крыўдзіць розным ліхадзеям?
Вы чуеце, як іншыя гучаць
нават у дзень майго другога прыйсця?
Упэўнена гучаць, на поўны голас.
А вашая? Так ціха, так нясмела.
Нібы ёй нават сорамна гучаць.
І мой прысуд: грашыце вы,
не цэнячы дар Божы — сваю мову,
і гэты грэх цяжкі ёсць беззаконне».
На момант тут замоўк Ісус.
Затым з апосталамі стаў перамаўляцца,
стаў з імі радзіцца, як быць-судзіць,
куды ж усё-ткі беларускі люд
аднесці — да «казлоў» ці да «авечак»,
куды паставіць яго ўсё ж:
па правую руку (шчаслівы бок)
альбо па левую (пакута вечная).
І зноў узвысіў голас свой,
звярнуўся зноў Гасподзь да беларусаў:
«Я сапраўды, вам сапраўды кажу я,
што між усіх народаў і плямёнаў

якія прад Судом маім паўсталі,
вы, можа быць, не самы грэшны,
хаця аднойчы і ўчынілі грэх
перад самім сабой і перад Богам.
І ў вас ёсць шанц для ўратавання.
Вы можаце назваць аднога з вас,
хто мову родную прыняў з маленства
як запаветны скарб, як Божы дар,
хто потым на шляху жыццёвым
быў верны ёй і вусна, і пісьмова,
быў верны ёй і ў радасці, і ў горы,
быў верны ёй і ў мроях, і ва ўчынках,
нібы навек з ёй нарачоны быў,
хто ні на хвілю уявіць не мог
свой лёс і лёс свайго народа
без мовы роднай, без яе гучання,
і хто гатовы быў заўжды,
лічыў сваім свяшчэнным абавязкам
абараняць і засланяць яе
падчас цяжкіх выпрабаванняў…
Вы можаце назваць такога з вас?
Як можаце — то назавіце,
скажыце імя-прозвішча яго».
Узрушыўся, загаманіў натоўп:
«Ёсць, ёсць, Гасподзь, між нас падобны,
ёсць сярод нас якраз такі,
як распавёў Ты у Сваім звароце.
Імя ён мае — Ніл Гілевіч.
Сын Кацярыны і Сымона
з невялічкай вёскі Слабада.
Ён змалку і да сённяшняй пары,
да валасоў сівых, да схілу летаў
шануе, любіць, дбайна сцеражэ,
як Божы дар вялікі — слова роднае».
Прыслухаўся Ісус Хрыстос
і мовіў так: «Люд беларускі!
Мне ўсцешна чуць такое ад цябе.
Лягчэй збаўляць мне, чым выносіць вырак.
Але, скажы, ці праўду сведчыш ты?
Ты ж ведаеш, што гэта грэх вялікі —
фальшыва сведчыць і казаць няпраўду.
Хай нават дзеля ўратавання.

Якія доказы ёсць у цябе?»
«Ёсць, ёсць! Ёсць доказы, Ісусе Хрысце!
Ёсць доказы, Збавіцель! Вось яны…»
І сталі людзі несці кнігі,
якія Ніл Гілевіч напісаў,
і літару, і дух якіх складае
найперш ягоны клопат крэўны
пра мову родную як запаветны дар, —
і клалі да Хрыстовага пасада,
і склаўся з кніг тых велічэзны стос
(дзівіўся, гледзячы на іх, Хрыстос),
а стос увенчавала кніга
«Любоў прасветлая»… Узняў яе Ісус,
гартаць пачаў, старонку за старонкай.
І прасвятлеў твар у Хрыста.
І пасвятлелі твары ў беларусаў.
Прайшоўся ўздых палёгкі па натоўпе.
З'явілася надзея. А калі
убачылі мы, што наяве,
са светлаю спагадай уваччу,
і, пэўна, з радаснаю весткай
кіруецца да нас апостал Пётра,
мы зразумелі: Божы Сын
не залічыў нас у казловы статак,
змяніў на міласць гнеў…
Амін!

***2007 год ад нараджэння Хрыстова***

## ОДА ЭЛЕКТРЫЧНАСЦІ

*Ніне Мацяш, аўтарцы радкоў:*
*«Зла са святлом змаганне йдзе заўсёды.*
*Няхай святло перамагае ў нас!» —*
*жыхарцы пасёлка энергетыкаў*
*Белаазёрск, які ўзнік на месцы*
*яе роднай вёскі Ніўкі.*

Прысніўся сон —
страшэнны, змрочны:
блукаю ў пошуках свайго жытла,
блукаю без надзеі і святла…

Прачнуўся на зыходзе ночы.
І гэтым сном цяжкім разбіты,
прыходзіў доўга у сябе.
Нарэшце ўгледзеў на сцяне
знаёмыя да болю рэквізіты:
то бок — разетку, шнур і бра.
Ура! Не ходзіць ліха без дабра.
Пакуль ты мроіў роспачныя сны,
жыла сваім жыццём электрасетка,
цябе чакалі ў галавах яны —
электраправад, лямпачка, разетка.
Намацаў выключальнік машынальна.
І ўраз яскрава-асляпляльна
святло запаланіла мой пакой
і стрэс начны зняло, нібы рукой.
«Жывём!» — падумалася.
Ёсць ён, электрычны,
загадкавы такі і такі звычны,
не відавочны, але й не містычны,
ток электрычны, светланосны ток.
Ён тут як тут. Мой асвятліў куток.
І ўспомніліся з гэтае нагоды
радкі, напісаныя ў добры час:
«Зла са святлом змаганне йдзе заўсёды.
Няхай святло перамагае ў нас!»
І ў думках слаў я ўдзячнае вітанне
на адрас паэтэсы з паэтэс
й… белаазёрскай яе ДРЭС,
ім разам дзякаваў за ратаванне.
А потым падаспела і світанне…

*Лістапад 2007*

## ІШОЎ Я, ІШОЎ…

Ішоў я, ішоў.
                    Ішоў я, блукаў,
шчасця шукаў, вясну гукаў.
Не думаў пра нейкае там шоу.
Проста ішоў.

Ішоў я, ішоў.
Ад сяла да сяла.
Звычайнай дарогай дарога была.
Не бачыў, не ведаў ніякага шоу.
Хоць доўга ішоў.

Ішоў я, ішоў…
Куды прыйшоў?
Ці не ў краіну міражоў?
Дзе рэчаіснасць, а дзе шоу?
Вось дык прыйшоў.

Вясна без звонкіх капяжоў.
Шоу…
Начальнік на ўвесь экран ўзышоў.
Шоу…
Лета без цёплых ліўняў-дажджоў.
Шоу…
Ерарх да амбона чынна пайшоў.
Шоу…
Зіма без снегу, без скавышоў.
Шоу
Суддзя ў змагару хулігана знайшоў.
Шоу…
Зрабілася нават для малышоў
марай блакітнаю тэле-шоу.

Тэле-шоу,
арт-шоу,
секс-шоу…
Што за шоумен прыйшоў?
Ойча нябесны, па волі тваёй
ці па шайтаванай волі злой
ён ладзіць шоу?

*2007–2008*

## АДЗІН ДЗЕНЬ У БНР

Самая лепшая з улад —
тая, што раіцца з кожным і ўсімі,
тая, дзе мудрасць у пашане і сіле,
тая, дзе ўвесь народ — урад.

*З ранейшага верша «Раіцца!» (1967)*

Адзін толькі дзень?
Усяго адзін?
Усяго толькі некалькі гадзін? —
пытанні я задаю сабе.
І сам у сябе шукаю адказу.
Адказ знаходзіцца неяк адразу:
«Справа ж не у колькасці, а ў цане».
Справа не ў тым, *колькі*, а *як*:
як дзень прайшоў, як ён пражыты,
які быў яго духоўны знак,
як там пачуваўся люд паспаліты.
Спрабую ўявіць гэты дзень, тых людзей.
Спрыяе вось гэтая фотакартка,
гэты адбітак слаўных падзей:
«Бурбіс, Варонка, Смоліч, Захарка…»
Дзевяцера сталі ў адзіны рад.
Яны: *Сакратарыят народны.*
Наш першы беларускі ўрад.
Насамрэч беларускі, родны.
Я зноў ўглядаюся у воблікі іх.
Я з імі вітаюся, я ў іх пытаюся,
я з імі у БНР вяртаюся.
Мне дораг часіны той кожны міг.
Жыва ўяўляю пачатак дня…
Займаецца ярка і ціхамірна.
Затым напаўняецца цішыня
гукамі пранікнёнага гімна.
У гімне пяецца пра «вольны прастор»,
пра «дух беларускі, магутны, родны».
Няйначай пяе свабодны хор,
свабодна пяе пра народ свабодны.
Гучыць неўзабаве нейчы зварот…
Варонкі? Крачэўскага? Езавітава?

З цікавасцю слухае народ.
З даверам слухае. Так менавіта.
(На тое ж яна і БНР,
каб не фальшывілі мы, не хлусілі,
каб тут былі ў законнай сіле
праўда, сумленнасць і давер.)
Да ранніх ты спеваў, прамоў і званоў, —
паважліва слухаюць места і вёска, —
лучацца словы іх верных сыноў —
Луцкевіча, Ластоўскага, Лёсіка.
Мяркую, няцяжка цяпер уявіць,
як гэты дзень далей адбываўся,
на лёсе народным як адбіваўся,
віла́ся далей як ягоная ніць,
якімі, дадам яшчэ, былі
ягоныя поўдзень і адвячорак,
якія аблокі над ім плылі,
колькі узыходзіла над ім зорак…
Ва ўсякім разе —
                                        мой родны край
засвойваў дзяржаўным чынам строга:
«І сам жыві, і другому спрыяй…»
«Не рабі ліхога і не бойся нікога…»
«Каб не памерлі, не згінулі каб,
не пакідай матчыну мову,
вытокі свае шануй, як скарб,
цані, як заруку, як аснову…»
«На Бога разлічвай, у Бога вер,
дый сам не гніся, за справу бярыся…»

…Так мне ўявіўся ў агульных рысах
жыцця адзін дзень у БНР.

*2007–2008*
*Стары Лепель – Мінск*

## «СТАЎЛЮ БУЛЬБУ ВАРЫЦЬ…»

ААН абвясціла 2008 год годам бульбы…

Бульба — найважнейшы прадукт у Беларусі. Наша краіна ўваходзіць у васьмёрку найбольш буйных вытворцаў бульбы ў свеце і займае 1-е месца па вытворчасці яе на душу насельніцтва.

*З газетнай публікацыі*

Гэта словы, з якіх можна песню тварыць:
«Дзе ты ходзіш? Чакаю. Стаўлю бульбу варыць».

Словы тыя заўсёды казаліся ў час,
словы тыя гучалі тады якраз,
калі ты ступаў на жыццёвую гаць,
калі думаў, як быць і каго кахаць,
быў гатовы адчаем сябе марыць…
Чуўся голас тады: «Стаўлю бульбу варыць».

Словы тыя выводзілі на шлях.
Станавілася з імі святлей у вачах.
Беларусцы не трэба, апроч гэтых слоў,
нагаворнага зелля, чараў-замоў.

Беларуска знае, чым мужчыну скарыць,
як да сэрца яго сцяжыну тарыць
і на мове якой з ім гаварыць.
Проста кажа: «Я стаўлю ўжо бульбу варыць».
Іншым разам можа яшчэ паўтарыць:
«Не марудзь, не спазняйся!
Стаўлю бульбу варыць».

*2008*

## ПЕСНЯ ПРА ХЛЕБ
*Раздзелы з паэмы*

Кружыцца ў скверы кляновае лісце.
Як быццам шукае яно сабе выйсце,
Як быццам не можа ніяк змірыцца,
Што будзе мець справу яно з зямліцай, —
На сонцы не будзе больш красавацца,
На ветры не будзе больш хвалявацца.
Кружыцца першае лісце кляновае.
Стаіць у скверы ціш вераснёвая.
А ўверсе — воблачка, над скверам сінь…
Вітаю цябе, мой слаўны верасень!
Ты той жа ясны, ледзь-ледзь засмужаны,
Ты той жа вясёлы, ледзь-ледзь засмучаны.
Цябе з тваёй кожнаю прыкметаю
Я добра помню, добра ведаю.
Дзяцінства ніхто не забудзе ніколі.
А ты быў мне лепшым сябрам па школе.
Хіба не ты, прыветны і сонечны,
Ранкам якраз такім, як сённяшні,
Для нас адчыняў усе дзверы школьныя,
Будзіў званкамі ціш навакольную.
І нечым яшчэ ты запомніўся, верасень.
Ці то цішынёй на азёрным беразе,
Ці спелай антонаўкай ды аскомінай,
Ці, можа, водарам хлебным з коміна?
Такую прыкмету не забудзеш,
Як школьны званок, яе помніць будзеш.
Ціш вераснёвая як нельга лепей
Напомніць аб тым, аб бацькоўскім, хлебе.

Напомніць лісце вось гэта кляновае,
Што кружыць, шукае месца новае.
Яно не можа не напомніць,
Сэрца ўспамінам не напоўніць.

* * *

Хіба забудзеш калі гэты момант!..
Ураз заціхае дзіцячы наш гоман.
Стаіць цішыня незвычайная ў хаце.
Збіраемся дружна мы ўсе каля маці.
Мы бачым адны толькі матчыны рукі,
Адны яе рукі, адны іх рухі.
А маці з сваёй урачыстай усмешкай
Нізка схіляецца над дзежкай
(Над той, на якое сядзела нявестай).
Яна рашчыняе хлебнае цеста.
Цеста мясіла яна кулакамі,
Сценкі дзяжы абірала рукамі,
Вады падлівала, мукі падсыпала.
І нам было клопатаў тут нямала.
Былі мы ў мінуту гэтую рады
Выканаць матчыны ўсе загады.
Мы ёй памагалі рукаў закасваць,
Муку падсыпаць па яе заказу.
Хусцінку мы ёй папраўлялі ахвотна
Ці лоб выцiралі матчын потны.
Было урачыста і ціха ў хаце —
Хлеб з новага жыта ўчыняла маці.

* * *

Усё захавалі памяці нетры.
Я водар рашчыны чую ў паветры.
Я столькі ўдыхаў калісь гэтага водару!..
Хадзіла ў дзяжы рашчына ходарам.
Хадзіла-брадзіла хлебнае цеста.
Было ў дзяжы яму, цесту, цесна.
Яно шапацела, прасіла ходу,
Хацела вырвацца на свабоду.
Ды коўдра яго закрывала шчыльна,

Сачыла яна за рашчынаю пільна.
І вось, пашаптаўшыся аб нечым ціха,
Яно знаходзіла ўсё-ткі выхад.
Яно запаўняла тады ўсю хату
Водарам хмельна-кіславатым.
І ён пабіваў да самага рання
Пах адцвіталых вяргінь і герані,
Якія раслі каля самага дома.
П'яніў ён дзіцячую свядомасць,
Спаць не даваў нам да паўночы.
Калі ж мы нарэшце заплюшчвалі вочы,
Нам сніліся казачныя караваі,
Сніўся хлеб новага ураджаю.

* * *

Назаўтра мы ў лес збіраліся рана,
Выконвалі матчын наказ старанна.
Яна напярэдадні нам казала:
«Каб заўтра, дзеці, хлеб пёкся ўдала,
Па лісце кляновае раніцай збегайце».
Мы іншы раз прачыналіся б нехаця.
А тут была справа іншага роду —
Яна абяцала ўзнагароду.
І беглі мы з братам сцяжынкай роснай
Туды, дзе шумелі клёны і сосны.
Мы знал і да клёнаў шлях самы кароткі —
Хадзілі да іх мы па сок салодкі.
На самы узлесак выходзілі клёны.
Любілі прастор яны сонечны, дзённы.
Калі ж адчувалі дыханне слоты,
Яны пакрываліся пазалотай.
І падаў уніз пад яе цяжарам,
На ранішнім сонцы успыхнуўшы жарам,
Ліст за лістом. Аблятаў паўкружжа…
Мы іх на ляту лавілі дружна.
Збіралі, нанізвалі іх у вязку,
Пакуль не рабілася вязка важкай.
За гэткі гасцінец шчодрым клёнам
Мы ледзь не казалі «дзякуй» з паклонам.
Лісце ўручалі мы маці ўрачыста.

«Дык гэта ж не лісце, а золата чыстае!
На цэлую восень хопіць яго мне.
Вы малайцы ў мяне сягоння.
За справу такую даць вам трэба
Першую лусту новага хлеба», —
Казала маці, узняўшы звязак.
А мы, свой выканаўшы абавязак,
Сабой ганарыліся не на жарты,
На меншых сясцёр глядзелі з пагардай.

* * *

Даўно не было ў нас з табой сустрэч,
Старая, добрая руская печ!
А трэба сустрэцца, пакуль не позна.
Здарыцца, ведаеш, можа рознае.
Ходзяць упарта пагалоскі,
Што ты устарэла для новай вёскі,
Што ты аджыла і формай і зместам,
Што вельмі ўжо многа займаеш месца.
Што скажам на гэта мы, руская печ?
Факты, як кажуць, упартая рэч.
Помніцца, хата была цеснаватай,
Бо ты сапраўды займала паўхаты.
Ты мэблі нідзе не ўступала ні пядзі,
Кватэру трымала ў сваёй уладзе.
Каптур узвышаўся твой аж пад столлю.
Шчыт займаў ільвіную долю.
Топка твая зеўрала тунелем,
Падпечак быў цэлым падзямеллем.
Адным словам, печка, недарэмна
Просяць цябе сысці з арэны.

* * *

І ўсё-ткі, калі гаварыць па шчырасці,
Я рад, што было мне суджана вырасці
У той жа хаціне, дзе ты ўладарыла,
Дзе спраўна так грэла, пякла і скварыла.
Дзякуй за ўсе твае добрыя справы,
За ўсе твае печывы, твае стравы!

Бог з імі, тваімі габарытамі,
Толькі не будуць ніколі забытымі
Дні, калі ў коміне выў дзіка вецер,
А ты так умела гасцінна прывеціць.
Ты нас акружала цяплом і ласкаю,
Ціха расказвала казку за казкаю.
Змаўкала, зноў чулася ветру гудзенне.
На сталі хісталіся прыцемак цені.
Гасла святло замерзлых вокан.
І ўсё перайначвалася навокал —
Цені рабіліся парусамі,
Героямі казачнымі — мы самі,
І плыў аж за трыдзевяць зямель
Дзівосны наш печка-карабель.

* * *

І хлеб, які сёння я шчыра слаўлю,
Табе, печ, нямала ў заслугу стаўлю.
Была да яго ты прыналежная,
Ад печы тут многае залежала,
Ад поду яе, яе духу і жару,
Якія палілі, не знаючы жалю,
Не знаючы жалю, ды знаючы меру, —
Служыла печ руская праўдай і верай…
Я жыва ўяўляю малюнак гэты.
Хлебніца чынна стаіць ля загнета.
Наведзен парадак належны ў печы,
Тміну — найлепшай з вясковых спецый
Маці ў цеста ўжо замяшала.
Спрабуе, солі ў ім ці не мала.
З’яўляецца хлебная лапата,
Прылада з ручкай доўгай, гарбатай.
І вось рассцілае таропка маці
Лісце кляновае на лапаце.
На лісце сонечнае, узорнае
Кідае цеста жменяю спорнаю.
Яно нахадзілася ўволю,
Яно са сваёй зміршылася доляй.
Цяпер пад рукой умелай пакорна
Яно набывае любую форму.

Становіцца цеста боханам круглым,
І матчыны рукі спрытным рухам
Садзяць яго на чарэнь гарачую,
Жадаюць, каб ён, першы, удачаю…
Час настае, і на загнеце
Дымяцца боханы лепшыя ў свеце.
Дыміцца, водар жывы выпраменьвае
Хлеб свежажытнёвы,
          хлеб чарэневы,
Хлеб са скарынкай
          румянай,
                    хрусткай,
Хлеб з печы старэнькай,
          цаглянай,
                    рускай.

*1960*

# ДАРУЙЦЕ!
*Паэма віны*

> І буду прасіць даравання, як просяць дзеці.
>
> *Л. Талстой*

Даруйце, даруйце!..
Даруйце, мая мама!
Так многа быў вінен,
зрабіў жа так мала.
Здавалася, ёсць
нешта важнае болей
за матчыну радасць
і матчыны болі,
за матчын спакой
і матчыны ласкі
і — за сыноўнія абавязкі.
Даруй мне!
Так мала табой даражыў я!
Так мала табе, мая маці, служыў я!
Так мала зрабіў!..
Узяў жменю гліны
і кінуў на века
тваёй дамавіны.
Даруй мне,
даруй мне!..

* * *

Даруйце, даруйце!..
Даруй, мая вёска!
старыя хаціны і бярозка!
Даруйце, адвечныя каменні!
Даруйце, вытокі! Даруйце, карэнні!
Карэнні! Як тужыць мая істота:
я — толькі галінка,
я — толькі лістота.
Мне б стаць перад вамі на калені,
мне б вас любоўна дагледзець, карэнні.

Мне б з глебы той чэрпаць
і мудрасць, і сілу…
Даруй, мая вёска,
мне, блуднаму сыну!
Даруй мне,
даруй мне!..

* * *

Даруйце, даруйце!
Даруй мне, жанчына!
Не трэба глядзець
такімі вачыма.
Даруй мне!..
Як доўга
мы поразь блукалі!
Як доўга адно аднаго
мы шукалі!
Як бег я насустрач!
Як бегла ка мне ты!
Так ветры імчацца,
ляцяць так каметы.
Як ежу давала
ты проста з далоні
і як давярала
сваё мне улонне!
Даруй мне!..
За тую наіўнасць,
з якой абяцаў табе шчасце.
За тую няўхільнасць,
з якой пакідаў цябе часта,
Даруй свайму Толю
за долю сваю і нядолю.
Даруй мне, жанчына!
Даруй свайму Толю!
Даруй мне!..

* * *

Даруйце, даруйце!
Даруй, мой Яўгеньчык!
Мой Жэнік,
мой жэўжык,
мой ясны агеньчык!
Даруй мне, мой хлопчык!
Даруйце усе іншыя дзеці!
Нам жыць бы, як Корчак.
Ды Корчакаў мала на свеце…
Даруйце!
Мы часта
ўрываемся ў вашыя гульні,
у вашае царства,
і топчам яго мы,
як гуны.
Ваш казачны топчам агонь,
кідаем варожа
мы вас у дарослы загон,
у наша пракрустава ложа.
Так, любім мы вас.
Любоўю сляпой вас тыранім.
І лупім мы вас,
і душы маленькія ранім.
Ад вашага плачу
маё разрываецца сэрца.
Як многа ён значыць,
як шмат у ім
горкага сэнсу!
Даруйце, прашу!
Прашу за сябе, за дарослых —
занадта дарослых,
занадта цвярозых і косных.
Даруйце!..

* * *

Даруйце, даруйце!..
Даруйце, мае дарагія!
Даруй мне, мой дружа!
Сягоння — другі я.

Сягоння такі я,
якім я хачу сябе бачыць!
Быць можа, змагу
я сябе перайначыць.
І будзе мне боль твой
балесней, чым боль уласны.
І шчасцем тваім
я больш за цябе
буду шчасны.
І будзе ўзаемна ўсё,
і будзе усё двуадзіна.
Нібыта ў жыццё
нас маці адна нарадзіла,
дала нам на двух
яна двуадзінае цела,
дала адзін дух.
Такую кашулю надзела,
якая ўжо не бліжэй
да цела майго,
майго духа,
з якою за ўсё даражэй
жыццё майго друга.
Даруй мне, даруй мне!..

* * *

Даруйце, даруйце!..
З віною хаджу, як з гарою.
Даруйце, героі!
Даруйце, усе змагары і спадзвіжнікі!
Быў цяжкі,
быў трудны,
быў горкі
той крыж, які
вы неслі —
сумленныя,
мужныя,
ўпартыя.
Вы кроў пралілі.
Ці варты, ці варты я?!
Ці варты я вашай веры і мары?

Ці я вашай вялікай ахвяры?
Вы прыклад высокі далі.
Успыхнуў ваш подзвіг.
А колькі яшчэ на зямлі
нас, пошлых і подлых!
Даруйце,
даруйце!..

* * *

Даруйце, даруйце!..
Даруйце, ахвяры!
Па небе маім плывуць, нібы хмары,
маўклівыя вашыя сілуэты.
Плывуць вашы цені
ў чужыя сусветы.
Дзе вашы целы,
дзе вашы твары?
Плывуць вашы цені…
Ахвяры, ахвяры!
Ахвяры вядомыя і невядомыя.
Ахвяры свядомыя і несвядомыя.
Ахвяры нявінныя, незлічоныя.
Плывуць вашы цені задымлена-чорныя…
А можа, агонь,
што спаліў вас, —
свяшчэнны?
А можа, і трэба гарэць нам дашчэнту?
А можа, і трэба жыць нам ахвярна?
А можа, ўсё гэта і не марна?
А можа, у гэтым гарэнні-мучэнні
наша вышэйшае прызначэнне?
Ахвяры! Плывуць нашы цені,
як хмары.
Ніяк не разгледжу я
вашыя твары.
Даруйце, даруйце!..

* * *

Даруйце, даруйце!..
Я так вінаваты.
Маўчыце вы лепей,
мае адвакаты!
Не трэба тут доказаў
вашых разумных.
Сумленне заўсёды —
на лаўцы падсудных.
Само сябе садзіць,
само сябе судзіць.
Ты самым ратуе
яно сваю сутнасць.
Сумленне, што алібі
пэўна сцвярджае,
тым самым на гібель
сябе асуджае.
Усе мы за ўсіх і за ўсё у адказе.
Мы ўсе вінаваты ва ўсякім разе.
Раскайся, злачынца!
Забойца, раскайся!
Я каюся з вамі —
за вас я ў адказе.
І вы ўсе — суддзя,
пракурор,
адвакаты, —
за ўсё, што здарылася, вінаваты.
І ты, херувімчык ружаваты,
за ўсё і ва ўсім вінаваты.
І ты, задаволены абываталь,
за ўсё і ва ўсім вінаваты.
А болей за ўсіх
я сам вінаваты.
За ўсе нашы ганьбы,
пакуты
і страты,
за ўсё вінаваты!
Даруйце, даруйце!..

* * *

Даруйце!
Даруй мне, свет чалавечы!
Даруйце!
Віна прыгінае мне плечы…
Даруйце, даруйце!
Яшчэ ёсць надзея,
што лепшым я буду,
жыць буду чысцей я,
жыць буду свяцей я.
Я з пошласці, з бруду
няўмольна, няўхільна
цягнуць сябе буду.
Я буду ісці.
Караскацца буду па схілах.
Я буду паўзці.
Зраблю,
што ў маіх будзе сілах.
Віну я павінен скупіць. Я так вінаваты!
Я буду вас верна любіць!
Я вашай любві буду варты!
Даруйце, даруйце!..

*1967*

# ЗААЗЕР'Е

*Памяці маёй заўчасна*
*памерлай маці*
*Александрыны Рыгораўны*

## **Прадчуванне**

Было прадчуванне бяды.

Спачатку амаль няўлоўнае,
няўлоўнае і няроўнае.
Шчымела тады-сяды,
было прадчуванне бяды.

Быў сам. Быў сын. Была ты.
Было прадчуванне бяды.

Было трыццаць тры гады,
было прадчуванне бяды.

Былі вятры, халады,
было прадчуванне бяды.

Плылі па рэках ільды,
было прадчуванне бяды.

Цвілі, адцвіталі сады,
было прадчуванне бяды.
Зязюля лічыла гады,
было прадчуванне бяды.

Было прадчуванне бяды.
Як ты жывеш, матуля?
Чые ты лічыш гады,
шэрая зязюля?

Быў дома гады ў рады,
было прадчуванне бяды.

Было прадчуванне бяды.
Было прадчуванне няшчасця.
Недзе ў прасторы і часе,
яна ўжо ішла сюды.

Было прадчуванне бяды,
яе жалезнай пяты.
Было прадчуванне бяды.
Быў блізкі час катастрофы.
Пісаліся тады
гэтыя вось строфы:

### Мы жывём, каб вяртацца…

Мы жывём, каб вяртацца
час ад часу туды,
дзе мінула юнацтва,
дзе маленства сляды.
Мы жывём, каб вяртацца.
І лепшага шляху няма.
Мы жывём, каб вітацца:
«Мама! Дзень добры, ма!»
Ну, а раптам напасце,
бяда ў той хаціне старой!
Ну, а раптам няшчасце —
і маці ў зямлі сырой!
Мы жывём, каб вяртацца.
А куды тады вернешся ты?
З кім ты будзеш вітацца,
як тады, да бяды?

### Тэлеграма

Спеў бяды горкі ўраджай.
І — прыйшла тэлеграма:
«Прыязджай
просіць мама».
………………

### За лесам — Залессе…

За лесам — Залессе…
«Скажы мне, мама,
а што за Залессем?»
«Не знаю таксама».

За лесам — Залессе.
Там сумна, нявесела.
За лугам — Залужжа.
Далёка дужа.
За мохам — Замошша.
Прайсці няможна.
А ў Заазер'е —
дарога верная.
«Там музыка грае,
там вечарынка.
Хадзем, дарагая
Александрынка…»
За лесам — Залессе.
Адтуль дзьме прадвесне.
За лугам — Залужжа.
Адтуль ідзе сцюжа.
Адтуль ідзе сцюжа,
адтуль дзьме сівер.
А сонца ўзыходзіць
над возерам сінім.
З-пад Заазер'я
ўзыходзіла сонца,
свяціла ў матчына
аконца.
Гуляла, іскрылася
сонца над возерам.
Маці глядзела
светлым позіркам …
За возерам сінім —
Заазер'е.
Помню вечар адзін,
як цяпер, я.
Маці, пакінуўшы
свае грады,
прысела стомлена
каля хаты.
Рукі паклала
на калені.
Глядзіць за возера
ў задуменні.
Туман над возерам
плавае шэры.

Матчына думка ў Заазер'і.
Над возерам зорка,
як спелае зерне.
Маці глядзіць
у Заазер'е.
Ці то ўспамінае,
ці то прадчувае,
ці проста стамілася
і спачывае.

**Другая тэлеграма**

Выспеў бяды горкі ўраджай.
Стукнулі ў дзверы.
Ідзі страчай.
— Вам тэлеграма…
«Памерла мама».
…………………

**Успамін**

За лесам — Залессе…
«Скажы мне, мама,
а што за Залессем?»
«Не знаю таксама».
Яна не знала —
які ён, свет.
Такі, як у яе аконцы,
або вялікі, або бясконцы…
Яна не знала кніг і газет.
Яна не знала вялікіх дарог.
Хаця і выхадзіла нямала.
Толькі раз у жыцці пакідала
вёску родную, родны парог.
Гэта было, калі яна
аднойчы прыехала ў госці …
…Дзень, другі яна пабыла.
Засумавала, бачу, штосьці.
«Мама, добра ў нас ці не?
Мама, ты, можа, нездарова?»
«Бачыла сёння іх у сне.

Як яны там без мяне —
тата, хата і карова?..»
І заплакала яна.
Пакаціліся слёзы-гарошыны.
«Адпусціце, людзі харошыя,
не будзе мне спакою і сну…»
І суцішалі мы яе,
і смяяліся, і ўгаворвалі.
Яна на нас глядзела дакорліва:
«Ды адпусціце ж вы мяне».

**Ад вёскі да могілак — паўвярсты…**

Ад вёскі да могілак —
паўвярсты.
Ад вёскі да могілак —
доўгія вёрсты.
Ад вёскі да могілак —
шлях няпросты.
Гараць за спіною тваёю масты.
Не вернецца маці.
Не прыйдзеш ты
да маці. Між намі чарнее бяздонне.
Астыне роднае наша гняздоўе …
Ад вёскі да могілак —
з паўвярсты.
Ад вёскі да могілак —
шлях далёкі,
доўгія вёрсты, трудныя крокі.
Як ты паспееш да цемнаты?
Цябе падганяе звычай стары.
Трэба паспець да заходу сонца.
А шлях гэты цягнецца бясконца.
І ты ўсё ідзеш.
Ад зары да зары.
І ты ўсё глытаеш той горкі камяк,
і ты ўсё глытаеш камяк той саляны,
і ты ўсё ідзеш за тымі санямі.
Днямі ідзеш.
І не дойдзеш ніяк.
Ідзеш і не знаеш, ці дойдзеш ты.

Чапляюцца ногі, губляюцца крокі.
Ад вёскі да могілак — шлях далёкі.
Ад вёскі да могілак — паўвярсты.

**Памінкі**

Пахавалі Яе.
Памінаем Яе.
Ўспамінаем Яе.
Той адвечны абрад —
чалавечаму гору апора.
Без абраду таго —
як змаглі б
мы пачуцці сабраць свае?
Без абраду таго —
як змаглі б
сваё выказаць гора.
Без абраду таго —
ці сабраліся б так вось наўрад
амаль вёскай усёю,
вясковай усёю сябрынай…
Дзякуй, добры абрад,
мой старэйшы мудрэйшы мой брат.
Ты сягоння патрэбны
быў мне асабліва.
Пахавалі Яе.
Памінаем Яе.
За сталамі сядзім.
Кашу, клёцкі ядзім.
Чары горкім віном напаўняем.
Ды чамусьці у вочы
адзін аднаму не глядзім.
Аддаём Ёй належнае.
Добрым словам Яе памінаем.
Памінаем Яе.
За сталамі ідзе гамана.
Памінаем Яе.
Схамянаемся ўсе ад рыдання:
«А Яна ж магла жыць.
Маладая ж была Яна.
У зямельку сырую пайшла Яна маладая.

За якія грахі —
у зямельцы сырой ляжыць?
За якія грахі —
Яна смерцю такой пакарана?..»
Памінаем Яе.
Успамінаем Яе.
А Яна магла б жыць.
А Яна магла б быць, не памерці так рана.
Памінаем Яе.
А Яна магла б жыць, старшыня,
каб не ведала крыўд і абраз,
каб жыла болей шчасна.
Бо Яна была з тых,
хто ў жыцці не кране птушаня.
Бо Яна была з тых,
каго крыўдзяць, як птушку, часта.
Памінаем Яе.
А Яна магла б жыць,
наш сусед.
А Яна магла б жыць, дарагія мае сяльчане,
калі б болей прыязным
быў вясковы ваш свет,
каб часцей вы Яе
чалавечай павагай страчалі.
Памінаем Яе.
А Яна магла б жыць,
сват і брат,
калі б мы, дарагая радня,
даражылі Ёй болей,
каб Яе, дарагая сям'я,
мы любілі на добры лад,
так, як любім сябе, — не было той любові.
Пахавалі Яе.
Памінаем Яе.
А Яна б жыць магла.
Памінаем Яе.
Чары горкім віном напаўняем.
За сцяною — зімовая ноч. За сцяною — імгла.
І Яна ў той імгле.
За спачын Яе п'ем. Памінаем.

## Назаўтра раніцай

Ціха карова ў хлеве мычыць.
Ціха карова ў хлеве рыкае.
Мычанне жаласна гучыць.
Гэта яна Яе чакае.
Знае Яе і чакае Яе.
Ёй была доена,
                                        поена,
                                                        кормлена.
Голас Яна не падае.
Чуе бяду душа каровіна.
І гэта мычанне, гэты рык —
душы яе, каровінай, крык.
Карова жаласна мычыць
Яна мычыць.
                                    А хата маўчыць
Сцены маўчаць.
                                        Цені маўчаць.
Маўчаць куткі ўсе і закуткі.
Маўчаць Яе звязкі, Яе скруткі.
Коўдры і посцілкі маўчаць.
Столь маўчыць,
                                        стол маўчыць.
Маўчаць Яе клункі і пакункі.
Маўчаць Яе даўнія пакупкі.
Вузельчык на цвіку маўчыць.
Падушкі маўчаць.
                                            Катушкі маўчаць.
Маўчыць клубочак Яе нітак.
На кожнай рэчы —
                                            маўчання пячаць,
асірацеласці адбітак.
Рэч маўчыць.
                                    Печ маўчыць.
Печ без Яе астывае— стыне.
Вось-вось заенчыць, закрычыць:
«Дзе Яна?! Дзе Гаспадыня?!»
Печ маўчыць.
                                    Хата маўчыць.
Яна без Яе — быццам пустыня.
Вось-вось заенчыць, закрычыць:

«Дзе Яна?! Дзе Гаспадыня?!»
Хата маўчыць.
Рэчы маўчаць.
На сценах і рэчах —
маўчання пячаць.
На сценах і рэчах —
адбітак страху,
асіраценасці і краху…
Сцены маўчаць.
Рэчы маўчаць.
Яны не могуць закрычаць.

**Вясною**

Мама, ідзе вясна.
Ідзе вясна-ясна,
ідзе вясна-святла.
З выраю птушкі вяртаюцца,
птушкі дамоў злятаюцца,
да нашага жытла.
Ранішняй парой
яны прылятуць віць гнёзды
да нашай хаты старой,
да нашай старой бярозы.
Будуць пець, шчабятаць
на дрэвах, бэзе і тыне.
Будуць цябе пытаць:
«Дзе Яна, Гаспадыня?
На досвітку, на зары
з намі Яна прачыналася,
праца Яе пачыналася.
Хадзіла Яна па двары.
Мы гнёзды вілі свае.
Яна ля свайго хадзіла.
Дзе, Гаспадыня, хаціна?
Чаму не бачыць Яе?..»
Мама, ідзе вясна…
Будуць прыходзіць вёсны,
будуць збаўляць ад сну.
Будуць птушкі віць гнёзды.
Мама, вясна ідзе …

Будуць прыходзіць вёсны.
Градкі твае і барозны
будуць чакаць цябе.
Ды ты не прыйдзеш, не.
Хто іх дагледзіць, засее?
Хто вырве пустазелле?
Травой зарастуць па вясне.
Травой парастуць веснавой
градкі твае, твае лешкі,
сляды твае, твае сцежкі, —
густой маладой травой.
Мама, вясна ідзе…

**Некралог**

Пасля хваробы,
цяжкой і працяглай
(шмат дзён
аднаго прасіла: «Піць»,
адно паўтаралі вусны засмяглыя.
Ледзь-ледзь трымцела
жыцця Яе ніць.
Калі памірала, не быў з Ёй я.
Таму яшчэ больш балюча і крыўдна),
памерла Яна, маці мая.
Для вёскі —
цётка Александрына.
Пасады розныя займала.
На розных пастах была Яна.
Ля печы стаяла, мыла, лён мяла,
сена сушыла, роды прымала,
сеяла, шыла…
Хіба гэта мала?
Працавала
звідна дацямна.
Быў вечны той кругаварот.
Па сумяшчальніцтве даглядала
калгаснае поле
і свой агарод.
Словам, займала пасад нямала.
Словам, пасада была адна —

працавала
звідна дацямна.
Яе незвычайныя справы і дзеянні?
Такіх на рахунку Яе не было.
Затое можа пацвердзіць сяло:
быў подзвігам
кожны белы дзень Яе.
Не мела ўрадавых узнагарод.
Ды што Ёй граматы ганаровыя!
Былі б толькі дзеці Яе здаровыя,
ды быў ураджайны год.
Медалі таксама Ёй не давалі.
Ёй не давалі ардэны.
Навошта Ёй былі яны.
Абы не было толькі вайны.
Абы пісалі пісьмы сыны
ды сена хапіла да вясны.
Яна і не думала пра медалі.
Якія выносілі Ёй падзякі?
Не ведаю, як наконт падзяк,
а вось няўдзячнасці ўсякай
Яна пабачыла. Гэта так…
Хай будзе лёгкай Табе зямля,
Працаўніца, Гаспадыня,
Маці! Родная маці мая!
Для вёскі —
цётка Александрына.

*1968*

## НАЧНЫ БЕРАГ

### 1

З палёгкай тузануўся поезд
і стаў… Я выйшаў на перон.
Блішчалі рэйкі, нібы полаз
блішчыць зімоваю парой.
Самотна выбліснула зорка.
І стала зябка, стала золка
ад рэек тых, ад зоркі той,
ад цемнаты начной, густой,
ад думкі, што прыйшла цвяроза:
«Прыехаў ты занадта позна.
Дзе будзеш начаваць, скажы?
Ці знойдзеш месца у «Сажы»?»
«Сож», чуеце, гучыць, як «нож».
І мільганула гэта назва
перад вачамі так выразна,
як — рэйка,
          зорка,
                    нож
                              ці Сож.
Такое вострае ўспрыняцце
бывае толькі уначы…
«Дзе будзеш бавіць ночку, браце?» —
гадаў, у горад ідучы.
Ён іншы быў без гулу-гоману.
Я рад быў бачыць Гомель зноў,
жадаў яму прыемных сноў…
Ішоў я па начному Гомелю.

### 2

А вось, здаецца, і той рог,
а вось, здаецца, і гасцініца.
Калі ты ёсць на свеце, Бог,
то дакажы! Хай Гомель здзівіцца.
Ну, дакажы, ну, пакажы,
ну, дай мне месца у «Сажы»!
Ды я, відаць, не быў пачуты.
Бог не пакінуў свой тапчан,

ён не збіраўся тварыць цуды,
здзіўляць мяне і гамяльчан.
Ён і не думаў прачынацца.
Ды тут я мог пераканацца,
што калі моцна дрыхне Бог —
не значыць, што швейцар знямог.
Швейцар не спаў…
Ды ці адчыніць?
Упусціць ён мяне ці не?
Ён аказаўся малайчынай,
ён адчыніў, пусціў мяне.
Тут вочы стомлена прыжмурвае
і кажа ціха мне дзяжурная:
«Таварыш, месца ўжо няма».
І растлумачыла яна:
«Сягоння ў нас пачаўся пленум,
трымаем броню і спартсменам:
спаборніцтва дзвюх абласцей.
Словам, наехала гасцей.
А «Сож», ён,
знаеце, не гумавы,
чатыры тыя ўсе сцяны.
Як тут ні думай, ні прыдумвай,
як раскладушкі не сцялі,
усё адно ўсіх не ўладкуеш…
Я слухаю, таварыш Кулеш!»
Жанчына — ветлівасць сама,
гасціннасць ёсць, а месц няма.
Тут агляну ўся я навокал.
Сядзелі людзі у паўзмроку,
хто ля сцяны, хто за сталом,
змагаліся хто як са сном.
Змагацца з ім цяжэй, чым з лёсам.
Той-сёй кляваў пацiху носам.
Бліжэйшы да мяне хлапец
пачаў, заспаўшыся, храпець.
Другі ж сядзеў зусім бадзёры
над кнігаю «Тры мушкецёры».
Ёсць чытачы і ёсць Дзюма,
месц у гасцініцы няма.

3

Як быць? Як лепей ноч правесці?
Вось так кляваць, сядзець на месцы?
Калі змагацца ўжо са сном,
дык больш актыўна —
як са злом.
А пазяханне — не змаганне.
Змаганне — значыць, намаганне.
Не спі, а рухайся, а кроч,
ідзі на вуліцу, у ноч!
Ідзі у парк, што над ракой,
дай волю роздуму начному!
Я выйшаў з думкаю такой:
«Не трэба спаць камусь аднаму.
Так, трэба выспацца спартсменам,
іх мускулам патрэбен сон.
І тым, прыехаў хто на пленум,
таксама неабходны ён.
Табе ж, калі ты пішаш вершы,
не хочаш верш праспаць свой лепшы,
карысна, мабыць, меней спаць,
а болей думаць, болей дбаць.
Мы дастаткова мелі іх,
радкоў, напісаных без роздуму,
што ні для сэрца, ні для розуму.
Ужо хапае гэткіх кніг,
дзе вольна словам, цесна думцы,
дзе мой калега ўсё яшчэ
таўчэ ваду у той жа ступцы
і тую ўсё ваду таўчэ.
Таўчэ, ці лепш сказаць, такуе,
нібы вясновы цецярук.
Такуе і хутчэй друкуе,
такому б толькі з рук ды ў друк.
Як сказана: адкукарэкуе,
а там па ім хоць не світай…
Не будзь, калега, недарэкаю!
Паэтам стань! Раней устань!
Прайдзіся вуліцаю ціхай,
азонам веснавым падыхай.
Азон і рух — наш лепшы друг.

У свежым целе — свежы дух».
«Восстань, пророк, и виждь, и внемли», —
прыйшоў на пушкінскі я круг.

4

А вось і Сож… Вітаю, друг!
Сустрэчы нашай рад я вельмі.
(Заўсёды рады я, дарэчы,
сустрэчы з рэчкай, з ручаём.
Так адчуваю пры сустрэчы,
нібы ў адной сям'і жывём.
Я брат ім, родны ці стрыечны.
І вось вярнуўся я з далечы —
адзін аднога пазнаём.)
Як, Сож, жывеш? Як, Сож, плывеш?
Гляджу, трымаешся належна
таго ж кірунку, тых жа меж —
не знаеш нашага бязмежжа.
Гляджу, не гонішся за модай,
а з годнасцю раўнінных рэк
спакойна, вольна коціш воды …
І гэта ў атамны наш век.
І гэта ў час наш ліхаманкавы,
калі ўсё з хуткасцю маланкавай
бяжыць, мяняецца, цячэ,
парой цячэ не ў тым ручаі.
Ты малайчына! Твой спакой
гаворыць, што ты робіш справу
не дзеля выгады якой,
не напаказ і не на славу.
Не, проста верны ты прыродзе
сваёй рачной, сваёй зямной
і астаешся ў згодзе з ёй
ты пры любой пагодзе, модзе.
Шчаслівае тут супадзенне!
Спакой і рух супалі тут,
супалі мэта і маршрут,
супалі бытнасць і надзея.
Зайздрошчу рэкам я заўсёды.
І часта думаю я, Сож,

што правільна жывуць усё ж
рачныя, грунтавыя воды.
Сож, навучы мяне, як быць,
каб аставацца ў сваім рэчышчы,
да свайго мора вольна плыць,
спакойна плыць да сваёй вечнасці.

## 5

Яшчэ адно ў мяне пытанне.
Даруй, што назаляю, Сож,
але ў мяне іх цэлы кош,
і пацярпі ўжо да світання.
Скажы, не вельмі мы стамілі,
не вельмі змучылі цябе
плытамі, баржамі сваімі?
Ты ж, як цягло, тут у цане.
Гляджу я: пляма брудна-тлустая
пагойдваецца на вадзе.
Кранула, Сож, цябе індустрыя?
Не абышла ў сваёй хадзе?
Прызнаюся, мы, людзі, Сож,
народ не вельмі чыстаплотны,
народ няўдзячны да таго ж,
а да таго ж і бесклапотны.
Нам рэкі — чыстую ваду,
нам рэкі — свой разліў блакітны,
мы ім — адходы і адкіды,
мы ім — усякую брыду.
Не скажаш, што любоў узаемная,
хутчэй за ўсё — наадварот.
Так, Сож, такі мы ўжо народ.
Сабе за правіла нязменнае
аднойчы лозунг мы ўзялі
(на шчыт мы ўзнялі той лозунг):
«Паколькі дадзены нам розум,
то мы — уладары зямлі,
то мы — гаспадары планеты.
Таму для нас за ўсё вышэй
патрэбы нашы, нашы мэты,
таму для нас за ўсё бліжэй

кашуля наша і кішэнь…»
І мы рашылі, што скарым
і нетры, і лясы, і воды,
як некалі магутны Рым
скараў і рабаваў народы.
З такой і падыходзім мераю:
у цэнтры мы — уладары,
вакол — прырода, як імперыя,
ляжыць, прынёсшы нам дары.
У ваяўнічым тым запале,
на бале заваёў сваіх
(галовы кружацца на бале)
мы факт той просты занядбалі,
што самі — дзеці сіл зямных.
Мы — тое ж цеста, тая ж плоць,
залежнасць самая сыноўняя.
Для нас прырода — маці, хоць
і маці строгая, суровая.
Якія ж мы, калі з мячом
ідзём накшталт варожай раці,
скараць і рабаваць багацці
(чые багацці? — роднай маці!),
сук, на якім сядзім, сячом!
Тут непазбежная адплата.
Нам не даруецца, калі
ідзём супроць маці-зямлі,
сястры-вады і дрэва-брата.
Адплата йдзе…
Чытаю ў прэсе
(ты не чытаеш, Сож, газет?):
«На самай воднейшай з планет
вады хапаць не будзе прэснай…»
Была, плыла, цякла вякамі,
і больш не будзе тых крыніц,
і будзе ўся зямля, як каня,
прасіць адчайна: «Піць-піць-піць!»

6

Сож маўчаў. І ноч маўчала.
Спала лодка ля прычала.

Раптам песня загучала.
Адкуль бралася яна?
Дзе паспела? Дзе запелася?
Можа, пелі на тым беразе?
Ці ўсплыла яна са дна?
З дна пясчанага, рачнога?
Ці, быць можа, з дна другога,
дна дрымотнага, глухога,
дна глыбіннага душы?
Сож маўчаў. І ноч маўчала.
Толькі песня ўсё гучала
у начной цішы-глушы.
«Ой, у полі, ой, у полі
                    ды не рэчка цякла.
«Ой, у полі, ой, у полі
                    ды не быстра цякла.
Былі рэчкі — паўсыхалі,
харошыя — паўміралі.
Така доля мая, горка доля мая…»
Былі рэчкі — паўсыхалі,
харошыя — паўміралі,
харошыя паўміралі…
Лёс гарчэй ад палыну.
Аб якім пяецца часе?
Што тут маецца на ўвазе?
Што за песня ўсплыла?
Калі клопат ёсць любоўны,
тады сэрцы паўнакроўны,
тады рэкі поўны, поўны,
серабрыцца плёс рачны.
А не любяць — тады губяць,
а не любяць — і не рупіць
захаваць, засцерагчы.
Небяспечней ад халеры
душ і рэчак браканьеры,
няма шкодзе іхняй меры,
няма горш на свеце зла,
няма волі, злейшай болей…
«Ой, у полі, ой, у полі
ды не рэчка цякла…»

7

Калі чакаў я ранку
у парку над ракой,
мне трызніліся словы
песенькі такой:
«Жылі-былі мы з Сожам,
былі-плылі.
Хацелі мы з Сожам
цеплыні.
Гулі завеі, сцюжы,
былі ільды,
мы не спынялі з Сожам
сваёй хады.
Мы зналі, калі мала
цяпла сазне,
то мы павінны самі
сагрэць сябе.
Плылі-былі мы з Сожам
на сонцы і ў цяні.
Хацелі мы з Сожам
чысціні.
Думалі мы з Сожам
пра адно:
каб бруд усялякі —
на дно, на дно,
каб даплысці ўсё ж нам
да мэты, што ўдалі…
Жылі-былі мы з Сожам,
былі-плылі».

8

Хто быў у Гомелі аднойчы —
запомніў парк…
                                        у парку тым,
на беразе рачным, крутым,
пракаратаў я рэштку ночы.
Пад дрэвам — ясенем ці вязам —
пасаджаным калісьці князем,
(пасаджаным шмат год назад
быў феадалам гэты сад),

я прымасціўся з сакваяжам.
Стаміўся ўсё-ткі, проста скажам.
Спачатку сеў, пасля прылёг,
працягваючы дыялог
з ракою, з цішынёй начною,
з жанчынай слаўнаю адною.
Так і сустрэў я сонца ўсход,
які не бачыў я сто год.
Шчакою, звернутай да ўсходу,
адчуў я цёплую лагоду.
Я па шчацэ правёў рукой
і зноў цяпло адчуў шчакой.
Адчуў той дотык я на скроні.
Прачнуўся, вочы я працёр…
Перада мной палалі промні,
палала сонца, як касцёр!
І быў касцёр той —
                                на паўнеба,
быў той касцёр —
                                на паўзямлі!
І я сказаў сабе: замры!
Глядзеў, захоплены, я нема.
Гуляла сонца.
                        Свежа, весела.
Гуляла молада яно.
Так разгулялася — ажно
запырскала прастор увесь яно.
Прыціхлі дрэвы,
                            травы,
                                      ветры…
І з той гульні, з таго агню
шар выкаціўся ясна-светлы
і набіраць стаў вышыню.
І засвяціў ужо ўсур'ёз —
гульня гульнёй,
                            а справа справай, —
адбіўся ў мірыядах рос,
і зашумелі ветры, травы,
у рух прыйшлі, пайшлі у рост.
Цягнуліся ўсе да свяціла,
яго лічылі ўсе сваім,
яно ж сваімі ўсіх лічыла,
яно свяціла ўсім жывым.

Такое тут было сваяцтва,
такая еднасць тут была —
жыцця зямнога і святла,
быцця зямнога і цяпла,
што я не мог не засмяяцца,
не ўзрадавацца у душы!
(І сам сабе сказаў пры гэтым:
калі ты лічышся паэтам,
дык вось пра гэта напішы.)
Усе былі мы сонцу рады…
Ды вось, нахмурыўшы чало,
падумаў я, што недзе гады
павыпаўзалі з нор і рады,
што сонца і для іх ўзышло;
яго цяпло, яго святло
ператвараюць гады ў яды.
Настрой мой крыху быў азмрочаны.
Ды тут жа адмахнуўся я
ад думкі той, ад гадаўя
з яго балотнаю абочынай.
Яно было, і ёсць, і будзе.
Ды справа ўсё-такі не ў ім,
а справа ў гэтым светлым цудзе,
якое сонцам завуць людзі,
якое робіць вёсны з зім,
дзень з ночы і вясёлку з хмары,
якое свеціць зноў для нас,
не патрабуючы ў адказ
ні ўзнагароды, ні ахвяры.
Нам сонца, думаў я далей,
дае высокі ўзор служэння,
велікадушнага свячэння…
Свяціла сонца ўсё святлей.
Свяціла сонца, ярка ззяла,
надзею новую ўсяляла.
Я паглядзеў уніз, на Сож,
і толькі вымавіў:
«Прыгож…»
Ён быў амаль непазнавальны,
паўночны субяседнік мой.
Іскрыліся на сонцы хвалі
ва ўсёй сваёй красе рачной.

Дымкі апошняга туману
сплывалі ў сінь, сплывалі ўдаль.
І не было ўжо амаль
трывожнага начнога стану.
Што, Сож, жывём?
І жыць-плыць будзем?!
Цябе мы, можа, не забрудзім
і не загубім цябе ўсё ж?
Ёсць шансы, Сож!
Ёсць сонца, Сож!
Яго мы скінулі з рахунку,
шукаючы ўначы ратунку
ад нечыстот,
брыдот,
атрут,
а сонца, бачыш, тут як тут.
Выходзіць, каб рабіць прагнозы,
патрэбен не адзін настрой,
тым больш настрой пары начной, —
патрэбен і разлік цвярозы.
Патрэбен сонечны усход,
яшчэ з усходам трэба раіцца.
Заўважыў правільна народ:
мудрэйшая за вечар раніца.

9

Мой дарагі адміністратар
з гасцініцы пад назвай «Сож»,
ноч для мяне была не стратай,
была знаходкай гэта ноч.
Я не скажу, што я не зmoраны,
што адпачыў я ля ракі,
ды ў кожнай справе — два бакі:
той, хто не спіць, гаворыць з зорамі.
Я з імі ноччу меў размову,
я з Сожам ноччу гаварыў,
сустрэў я раніцу вясновую
і светлы пераджыў парыў.
Дарэчы, гэтая паэма,
яе пачатак, яе тон

падказаны мне ноччу той,
навеяны яе павевам.
Не ноч — суцэльнае адкрыцце,
найлепшая з узнагарод.
І я на вас зусім не ў крыўдзе,
хутчэй за ўсё — наадварот.
Вось так, таварышы з гасцініцы.
І калі хто з маіх калег
патрабаваць пачне начлег,
на вас з пагрозамі накінецца,
як скажаце вы у адказ,
што вольных месц няма у вас, —
вы проста вырашайце клопат:
вы укажыце на мой вопыт,
скажыце: «Быў у нас такі…
Пайшоў у парк ён, да ракі,
там ноч правёў, зрабіў тым вывад,
што у няспанні многа выгад
і многа розных пераваг —
не менш, чым у прыемных снах…»
Скажыце: «Сон — такая прыхамаць,
якую трэба часам гнаць.
Паэту трэба меней дрыхнуць,
а болей думаць, болей дбаць,
каб лепшы верш свой не праспаць».

*1975*

## ВЕТРАНА, ВЕТРАНА…
*Раздзелы з «Паэмы надвор’я»*

### **Штодзённая акліматызацыя**
*Уступ*

Святлее ў акне палоска зары.
Сінее ранне ў аконнай раме.
Якая зара? Якое ранне?
Якое надвор’е на двары?

(Надвор’е, выходзіць, ад слова «двор»?
Што на гары — тое узгор’е,
а што на двары — тое надвор’е,
і там — то ціша, то дождж, то віхор.)

«Якое надвор’е?» —
як жэст абуджэння.
Ледзьве з падушкі ўзніму галаву —
гэтым пытаннем ужо жыву,
з яго пачынаю свой новы дзень я.

Якое надвор’е, сіноптык, скажы?
Як многа адказ твой азначае!
Прадвырашае лёс ураджаю,
прадвызначае настрой душы.

Пытанне з пытанняў. Надзея з надзей.
Якое надвор’е — такі і дзень.
Пытанне старое, сівое, як свет.
Пытанню таму колькі зім і лет?
Старое, як свет,
як дзень яно новае.
Як новая гэта палоска зары пунсовая.
Старое, як свет, і вечна новае.
Як новае гэта сонца вясновае.
Старое, як свет, і вечна новае.
Як новае гэта лета ліпнёвае.
Пытанне старое, адказ не стары:
надвор’е новае на двары.

Пытанне старое, як паданне,
і вечна новае пытанне.
Якое надвор’е на двары?
Метэастанцыя, гавары!

Якое надвор’е на двары?
Якое надвор’е на панадворку?
Якое надвор’е па той бок пагорку?
Па той бок Атлантыкі, у Нью-Йорку?
Якія там сёння веюць вятры?

Якое надвор’е на двары?
І там, у бары, і там, на гары,
і там, за барамі, і там, за гарамі,
і там, за даламі, за марамі?
Там сёння ціха ці веюць вятры?
І там, дзе край неба,
там, дзе край свету —
там хмарна ці светла?
Якое надвор’е на двары?
Дзень пачынаем гэтым пытаннем.
Метэазвесткі, як дары,
прымаем з душэўным трапятаннем.

«Чакаецца вецер, будзе ветрана…»
Тут жа прымаем да ведама.
«Надвор’е цёплае зменіцца сіверам…»
Збіраемся з сіламі.
«Ападкі чакаюцца…»
Што за ападкі? Душа аж у пяткі.
«Пройдуць дажджы…»
Дождж ціха пастуквае.
Збіраемся з думкамі.
«Днём будзе бязвоблачна, будзе ясна…»
Святлеем з мясцовасцю адначасна.
Якое надвор’е на двары?
Якія вецер, дождж і сонца?
Спытайся, яшчэ раз паўтары
і будзь гатоў акліматызоўвацца.
Акліматызацыя — не эпізод,
не тое, што звязваем з міграцыяй.
Ідзе штодзень, штотыдзень, штогод,
вечна ідзе акліматызацыя.

Як ні чапляйся за статус-кво,
як ні лянуйся знацца, змяняцца,
надвор’е стукне ў акно:
«Працягваецца акліматызацыя!»
Калі разлічваеш сіл запас,

звяраеш іх з планамі, справамі, працамі,
не забывай улічваць штораз
закон штодзённай акліматызацыі.
Ён свой падатак бярэ у нас,
ад нас вымагае сілы і час.

Ідзе лінянне, змяненне кары,
ідзе абнаўленне — з вяршка да кораня…
Якое надвор’е на двары?
Сіноптык, скажы, якое надвор’е?
«Якое надвор’е ?» —
надзея з надзей.
«Якое надвор’е ?»—
падзея з падзей.
«Якое надвор’е?» —
пытанне, з якога
пачынаецца шлях-дарога.
Пытанне, якім пачаліся калісьці
пошукі земляў, законаў, ісцін.

Калумб не адкрыў бы Новага Свету,
калі б не ўлічваў напрамак ветру.
Не ўбачыў бы Ньютан таго прыцягнення зямнога,
не ўнікні аднойчы ў сэнс дажджу праліўнога.
Рэйс першы касмічны
з вясновым надхмар’ем
узгоднілі Каралёў і Гагарын.

Якое надвор’е на двары?
Пытанне старое, адказ не стары.
Бо ў новага дня надвор’е новае.
Няважна, зімовае ці вясновае,
няважна, пагоднае ці суровае,
заўсёды новае, чорт пабяры!

Сплывае воблака зверху ўніз —
даўно вядомае як кучавое,
па форме і колеры дажджавое,
ды ў воблака новы зусім абрыс.
Чуецца ветру шум глухі.
Па дадзеных гідраметэазводкі,
тыя ж парыў і хуткасць, ды ўсё-ткі
у шуме ветру новыя ноткі
і тэмбр у ветру зусім другі…

Гэта абсалютна дакладна, што вецер, які быў пасля паўдня 27 ліпеня 1974 года, адрозніваецца па сваёй танальнасці ад ветру, які ўзняўся позна вечарам 2 студзеня 1976 года, а апошні, як неба ад зямлі, адрозніваецца сваёй тэмбравай афарбоўкай ад свайго сабрата, які шумеў-гудзеў з усіх сіл 3 мая 1978 года. (Сведчу, што ўсе адзначаныя дні сапраўды былі ветраныя.) І справа тут не толькі ў тым, што надвор'е ўспрымаецца намі суб'ектыўна, у залежнасці ад эмацыянальнага стану. І не толькі ў тым, што пералічаныя вятры адносяцца да розных пары года і сутак. Ёсць яшчэ наступнае тлумачэнне. Як сцвярджаюць метэаролагі, «цяжкасць прагназавання надвор'я заключаецца ў тым, што атмасферныя працэсы амаль ніколі поўнасцю не паўтараюцца». Справа, такім чынам, яшчэ ў пастаяннай зменлівасці надвор'я, у непаўторнай навізне яго праяў.

«Якое надвор'е ?» — пытаем штораз.
Наш клопат па вартасці ацэнены.
Новымі фарбамі і адценнямі
надвор'е штодня адорвае нас.
«Якое надвор'е на двары?»
Як нетры зямныя, лясы і воды,
вятры ўсе чатыры, чатыры пары —
набытак народа, багацце народа.

Бачу ў акне палоску зары.
Бачу ўзыходжанне першых зор я.
Пытаю, праводзячы дзень стары
і тое надвор'е, што на двары:
«Якое заўтра будзе надвор'е?»

## Першы гром

Апоўдні дзінькнулі шыбы крыштальна.
Прытаіўся, прыслухаўся дом.
Дом прытаіўся запытальна:
«Што гэта — гром?»
Сціхлі ўсе гукі, крокі і словы…
І зноў са сваіх высокіх стром
прагрукатаў раскаціста гром —
першы, вясновы!

Голас той быў сапраўды грамавы.
Гэта — вясна гартанна-арганна
акорды ўступныя прайграла,
ў свае уваходзячы правы.

Прайграла акорды цвёрда і горда,
аж рэха пайшло ад таго акорда!
Прытым, заўважым, без струн і труб
яна прайграла свой уступ.

Без партытуры, без клавіятуры
сыграла сваю уверцюру вясна.
Прытым сыграла чыста яна,
сыграла без фальшу, без халтуры.
Што значыць голас жывой натуры!

Каб так прагрымець — мала умець,
і мала мець серабро ды медзь,
і мала узлезці на катурны…
Быць трэба верным сапраўднай натуры!

Без нот і без палачак дырыжорскіх,
без іншых атрыбутаў жорсткіх,
а проста таму, што ва ўдары была,
а проста ці з радасці, ці са зла,
натхнёна вясна зымправізавала,
сыграла: слухай, зямная зала!

Прытым сыграла не дзеля сенсацыі,
не дзеля славы і авацыі,
не на публіку, не на «біс».
А раскацілася зверху ўніз
таму, што час, таму, што — трэба,
што так захацелі зямля і неба.

Аддаў я належнае грому першаму?
І музыканту паклон адвешваю.
Прашу я тут Янчанку і Мулявіна —
зразумейце, сябры, мяне правільна.
Крыху кульгае, магчыма, мой троп,
кульгае, як кожнае параўнанне.
Ды верша без тропа не было б…
Прашу, маэстра, даравання.

Такі варыянт прапаную, маэстра, вам:
грому — громава, аркестру — аркестрава.
Пастскрыптум. Вечарам, дома,
запісвала стомленая рука:
«Сёння, семнаццатага красавіка, —
дзень першага грому…»

## Голас Францішка Багушэвіча

*Паводле яго артыкулаў і пісем*

Не скарджуся — кажу як ёсць.
Не крыўджуся — гляджу як ёсць на рэчы.
Аглядваю пражытыя гады
і бачу, што адны прайшлі без следу
(ці можа быць увогуле такое?),
другія пакідалі ў сэрцы след,
што ные там нясцерпным болем
і прымушае часам узмаліцца:
«Дай, Божа, вытрымку і надалей!
Ды накіруй зло на лясы сухія!»
А зрэшты, усяму хапала зла.
І сапраўды ў восемдзесят сёмым*
ад засухі лясы гарэлі
(як і наогул увесь час было
ў тым годзе неспрыяльнае надвор’е).

Ды хіба быў такі адзіны год?
Яшчэ раней, у восемдзесят пятым,
было спякотнае надзвычай лета,
і скардзіліся людзі на яго.
Для скаргаў іхніх меліся падставы.
Ды горшае яшчэ было наперадзе:
гарачыня змянілася дажджом,
які ішоў чатыры тыдні ўзапар…

Заўважу, што да хору нараканняў
я вонкава не далучаў свой голас,
але ў душы спакойным быць не мог.
З трывогаю, парой з зацятай злосцю
я паглядаў таксама ў неба

* Маецца на ўвазе 1887 год.

і думаў: «Можна верыць у парадак,
а ў непарадак як паверыш ты?»

А восемдзесят восьмы год
запомніўся вясной дажджлівай, ранняй,
калі павыйшлі рэкі з берагоў,
пазносілі масты, млыны і хаты,
калі ўздоўж узбярэжжа бедны люд
лямантаваў, ламаў з адчаем рукі.
Запомніўся яшчэ той год
страшэннай бурай, што ў лістападзе
прайшла па нашым краі нечакана.
Зрывала бура дзіка стрэхі з хат,
сарвала нават крыж з царквы бліжэйшай,
павыварочвала з карэннем дрэвы…

Цяжкое лета дзевяноста сёмага
прынесла мне сардэчныя прыпадкі
(боль сэрца ў літаральным сэнсе).
З’явілася трывога за жыццё,
за лёс дзяцей, не сталі што на ногі.
«Так, паважаны і ласкавы пане,
надвор’е тут у нас, як моль грызе —
стаіць тут тыднямі гадзіна шарая…»

І немагчыма жыць было б зусім,
калі б я не адносіўся да тых,
хто лічыць, што ад нас усіх таксама
залежыць гэтае праклятае надвор’е,
і калі б сам не верыў я цярпліва,
што на надвор’е можна ўплываць,
мяняць да лепшага агульным намаганнем.

Так, мудра сказана ўсё-ткі, што
цярпенне нам дае надзею,
а мець надзею — не ганебна, не.
Яшчэ давала сілы для жыцця
мне цвёрдае адно перакананне:
«Так быць не можа, быць інакш павінна,
і быць інакш не можа — толькі лепш!»

## Калі не чакаецца ападкаў…

У бліжэйшыя суткі ў Мінску і вобласці ападкаў не чакаецца.

*З паведамлення Гідраметэацэнтра*

Ападкаў не будзе, не чакаецца …
Гэта — калі хто надвор'ем цікавіцца.
Ды гэта зусім не азначае,
што нечага вам чакаць, мінчане.
Замест ападкаў чакайце іншых
сюрпрызаў — ад сіл зямных і ўсявышніх.
Вы, скажам, паверылі ў сінь-сіняву,
а госці — як снег на галаву.
Чым меней чакаеш гасцей ты з раніцы,
тым больш верагодна, што яны з'явяцца.
Потым яшчэ ўлічваць трэба,
што гром можа грымнуць і з яснага неба.
Суцішаны ты наконт ападкаў,
ды раптам боль — табе пад лапатку.
Барометр будзе паказваць «ясна»,
ды вось тэлеграма персонай уласнай.
Калі ападкаў не чакаецца —
не значыць, што нешта не адшукаецца.
Калі ападкаў не чакаецца —
не значыць, што нехта не напаткаецца.
Калі ападкаў не чакаецца —
не значыць, што нехта не раскаецца.
Калі не чакаецца ападкаў —
не значыць, што лёс не задасць загадку.
Ты на паверх, а чорт у пад'ездзе.
Чакай не ападкаў, чакай падэсці!
Ва ўсякім выпадку, ва ўсякім выпадку,
да заўтра не будзе хаця б ападкаў…

## Ветрана, ветрана…

Ветрана, ветрана…
Ветрана з самага рання.
Вецер яшчэ на дасвецці
крануў ціха струны свае,

эолаву арфу сваю…
Пяе сам і сам іграе,
струну за струной кранае,
іграе і сам пяе.
Ветрана, ветрана…
Ранак змяніўся поўднем.
А вецер не сціх, не суняўся,
заняўся на ўвесь абсяг.
А вецер пад небам паўднёвым
імкне ходам поўным,
а вецер з абсягу ў абсяг
імчыцца на ўсіх парусах.
Ветрана, ветрана…
Ветрана з ранку да вечара.
Вячэрняя зорка ўзышла,
а вецер гудзе і гудзе.
Усё абвявае —
ад дробнай расінкі да зорнага рэчыва.
Усё абдымае —
ідзе па зары, па зямлі, па вадзе.
Ветрана, ветрана…
Стаміліся дрэвы і птушкі,
стомлены дзень на зыходзе,
а ў ветру ўсё той жа
імпэт…
Ірвуцца фіранкі ўслед,
галосяць услед яму юшкі,
ляцяць услед стужкі,
і коміны трубяць услед.
Ветрана, ветрана…
Колькі вятроў намі зведана!
Тых, што сустракалі лагодна,
і тых, што піхалі ў спіну,
што білі ў грудзі шалёна…
Ветрана, ветрана!
Тых, што на ніву вялі,
і тых, што вялі на вайну.
Ветрана, ветрана….
«Вецер на ўсім свеце белым».
Вецер шукае ахвяр,
вецер прыносіць дары.

Ветрана, ветрана…
Робіцца мне зразумелым
чаму караблі ўсё-ткі топіць
не мора, але вятры.
«О, вецер, вецер!» —
было і трывожна, і ветрана.
«О, вецер, вятрыска!» —
лямант ірваўся з грудзей.
Ружа вятроў
праходзіць праз сэрца паэтава.
Ружа вятроў
праходзіць праз лёсы людзей.
Ветрана, ветрана…
Ветрана з самага ранку.
Ветрана з ранішняй
і да вячэрняй зары.
Вецер кранае струну,
вецер ірве фіранку,
вецер шукае ахвяр,
вецер прыносіць дары.
Ветрана, ветрана…

## Лета 1965 года

Няхай будзе пагодачка,
хай спорыцца работачка.

*З народнай песні*

Маці яшчэ была жывая.
Маці яшчэ збіралася жыць…
Шчыруе, запашвае, зажынае,
ледзь-ледзь адпачне і зноў бяжыць.
І ўсё глядзіць з-пад рукі угору,
і ўсё чакае, чакае дажджу.
Гляджу таксама ўгору з дакорам,
таксама на неба з надзеяй гляджу.
Схіляюся з маці над ссохлым цветам,
які на бульбяным полі знайшоў.
І тут я хачу быць не паэтам,
не нейкім іншым аўтарытэтам,
а заклінальнікам дажджоў.

І я шапчу, заклінаю хмару:
«Не будзь за гарой,
не хадзі старaной,
ідзі да маці маёй старой!
Быць сляпой табе не да твару…»

Маці пра лёс ураджаю дбала.
Ды хмара недзе міма плыла…
Апроч дажджу, яшчэ не хапала
тым летам летняга цяпла.
Маці казала: «Што гэта за лета,
калі не сагрэешся як след?
Бачыла шмат я зім і лет,
ды нешта няўцям мне надвор'е гэта…»

Маці на лета спадзявалася.
А лета зрывалася,
не ўдавалася.
Ішло яно неяк наўскасяк.
Вецер круціў і так, і сяк.
Быў ён засушлівы і халодны,
быў недародны, быў бясплодны,
быў той з вятроў, які не нёс
ні ліўняў, ні цяпла, ні рос.
Маці за лета турбавалася.
Маці хацела, каб лета было.
Ды лета ўсё не адбывалася —
як быццам некаму назло.

А скора на лад асенні шумела
рана пажоўклае лісцё.
І доўга шчымела, доўга шчымела
лета няздзейсненага пачуццё…

## Маналог Напалеона

> Я здаровы, але надвор'е жахлівае; я пераапранаюся два разы ў дзень, так многа дажджоў. 12 кастрычніка 1805 года.
>
> Першыя пытанні Напалеона, калі ўваходзіў камердынер, нязменна адносіліся да часу і надвор'я.
>
> *А. Леві. Інтымнае жыццё Напалеона*

Выходзіць, мае рацыю гісторык.
Хоць з неба я хапаў нямала зорак,
авантурыстам я не быў усё ж —
бо чуў я вецер, заўважаў я дождж.
Мне выпаў лёс героя і месіі.
Ды бачыў, як салдаты гразь мясілі,
і знаў: сушы зарад і меч тачы
ды май яшчэ на ўвазе і дажджы.
Я ваяваў удала і няўдала.
Дажджоў нямала мне перападала.
Хапала іх, абложных, праліўных,
на ўсіх нас — і вялікіх, і малых.
Яшчэ ў час італьянскага паходу
я зведаў усялякую пагоду,
а з ёй — і чалавечую пароду.
І падагуліў так каштоўны ўрок:
«Ад лёту да падзення — адзін крок».
А ў час свайго вялікага паходу
спазнаў я мудрасць рускага народа:
«Не суньса ў воду — раз не знаеш броду».
Пасунуўся — і вось пайшоў да дна,
і вось Барадзіно, Беразіна…
Тады, пасля той барадзінскай справы,
пасля той беразінскай пераправы,
я даў сабе апошні раз зарок:
«Ад велічы да ганьбы — адзін крок».
Затым, пасля заснежанай Смаргоні,
ратуючыся ад пагоні,
пад шум завей, пад сумнае дзін-дзін
я ўбачыў ясна парадокс адзін…

Ад чына ніжняга да генерала
патрэбна ўсё-такі прайсці нямала.
Не будзем спасылацца на Тулон,
ён— выключэнне, а не эталон.
Пратупаць ўсё-такі было няпроста
ад Сены і да нёманскага плёса.
А колькі крокаў зроблена было
ад Аўстэрліца да Ватэрлоо?
То калі мераць тэрытарыяльна.
А як жа вымяраюцца маральна
адлегласці? Тут лёс такі ігрок,
што «ад» і «да» ўсяго адзіны крок:
ад любага абранніка —
да пасынка,
ад важнага пранонсіка —
да насмарку,
ад «віва, імператар!» —
да «хі-хі»,
ад ноткі уладарнай —
да «апчхі»…

## Маналог навальніцы, што адбылася ў Мінску 26 чэрвеня 1972 года

Чалавечы розум не спыніць атак
да таго часу, пакуль не падначаліць
сабе ўвесь свет прыроды.

*З навуковага артыкула*

Прырода задумалася: «Так, так…»
Значыць, не спыніце атак?
На гэты раз я вам не падтакну —
вазьму ды пайду ў контратаку!
Вы любіце сінія небасхілы?
А вось мае хмары, мае сілы!
Ану, пачынайце бараніцца!
Зіг-заг… Пайшлі бліскавіцы!
Пайшлі мае вогненныя бізуны!
Трах-тарарах… Пайшлі перуны!
Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах!
Ёсць яшчэ нораў у навальніцах!

Зіг-заг, трах-тарарах…
Ёсць сіла ў маіх перунах-грамах!

Зіг-заг, трах-тарарах…
Ёсць размах у маіх вятрах!

Зіг-заг, трах-тарарах —
па вашых антэнах і правадах!

Зіг-заг, трах-тарарах —
па вашых сценах і ліхтарах!

Зіг-заг, трах-тарарах —
мне на радасць, вам на страх!

Дрэва з коранем —
у раёне Кнорына!
Хто сказаў, што я ўжо скорана?
Плошча Харужай —
суцэльная лужына…
Адкуль вы ўзялі, што я знядужала?
У раёне Кальварыі —
пажар і аварыя…
«Гоп» не кажы, я бываю каварная.

Метэастанцыя зноў у прастрацыі —
прагноз яе зноў не мае рацыі…

Зіг-заг — па вашых прагнозах!
Трах-тарарах — па вашых пагрозах!
Па вашых амбіцыях і апетытах,
мала, падобна, мною бітых!
Трах-тарарах —
я шмат яшчэ здолею! —
па самахвальству, па самазадаволенню!..
З выглядам годным,
з выклікам гордым
прайшла яна, навальніца, над горадам,
прайшла, нарабіўшы грому-груку
сабе на ўцеху, нам на навуку…

## Адно папалам з другім

Ідзе снег папалам з дажджом…

*Запіс у дзённіку ад 7 студзеня 1975 года*

Снег папалам з дажджом.
Зіма папалам з летам.
Кажух папалам з плашчом.
Бот папалам з кедам.

Віно папалам з вадой.
Дождж папалам са снегам.
Смех папалам з нудой.
Грэх папалам са смехам.

Вясна папалам з зімой.
Дождж палам з градам.
Даль папалам з імглой.
Любоў папалам са здрадай.

Дождж папалам з віном.
Габой папалам з трубою.
Змрок папалам са святлом.
А я … папалам з табою?

Што яшчэ з чым папалам?
Зіма папалам з вясною,
а з цішынёй — тарарам…
А ты… папалам са мною?

## Лівень стагоддзя ў Мінску

Самая рэкордная сутачная колькасць ападкаў у Мінску за сто гадоў была зарэгістравана 9 ліпеня 1973 года. Тады іх выпала семдзесят чатыры міліметры.

*З паведамлення*
*Гідраметэацэнтра*

Як сведка падзеі
удакладняю дату я:
было гэта ў ноч
з восьмага на дзевятае.
Зблытаць ніяк не магу,
бо сведчыць тут смела
памяць тым ліўнем
да костак прамытага цела.
Зрэшты, таму і кажу,
таму гэты верш і пішу я,
што знаць дае памяць
да ніткі прамоклай кашулі…
Было гэта так.
Вяртаўся з гасцей я дадому.
Стаў раптам накрапваць дождж.
З ветрам, але без грому.
Аўтобус ужо не хадзіў,
таксі ніяк не траплялася.
Затое нябесная прорва
ўсё больш і больш раскрывалася.
І вось ён пайшоў,
і вось гэты лівень пачаўся!
Якое «пайшоў» там!
Як з бочкі паліўся, памчаўся!..
«Пасля хоць патоп!»
Не думаў кароль пра патомка.
Сюды б яго ў гэты паток,
яго, самадура, падонка!
Так першую злосць
сарваў я на гора-манарху,
калі ўжо лівень наскрозь
пранізваў маю апранаху.

А потым, калі я,
мокры ўжо зверху данізу,
хаваўся пад нейкім
дзіравым, як сіта, карнізам;
а потым, калі ўжо
ачуньваў ад стадыі шокавай,
апёршыся локцем
на згіб трубы вадасцёкавай;
а потым, калі ўжо
пад плёскат і гул вывяржэння
вярталася здольнасць
думаць, прымаць рашэнне,—
другую ўжо злосць
зрываў на ўласнай асобе я:
«Яно так і лепш,
што трапіць пад лівень собіла!
Так, значыць, і трэба табе!
Так, значыць, табе і трэба!
Так, так, прымі гэты душ,
прымі гэты ліўневы цэбар!
Ты маеш дах і ачаг,
вось і сядзі там у непагадзь
і не хадзі па начах,
не лезь пад адкрытае неба хоць!
Тым больш — у пару навальніц,
калі можа лівень ліць.
Тым больш — пры такой пагодзе,
такі, што адзін на ста-
годдзе.
Разважней назаўтра ў акне
ці ў лоджыі дыхаць азонам…
Наогул не лезь на ражон,
а лепш трымайся рэзону!
Правілы больш паважай
і меней рабі памылак!
Болей табе б такіх,
як гэта,
галавамыек!..»
Мерка жыцця ўсё ж:
«Ёсць ці няма што ўспомніць?»
Помняцца лівень той
і тая мая самасповедзь.

Успамінаю з усмешкаю
сёння аб той прыгодзе:
«Не затрымайся ў гасцях —
праспаў бы лівень стагоддзя».

## Сонца паклікала!

За акном — вясновае сіняе неба. І ў нейкі момант узнікла такое адчуванне, што не проста хацеў пайсці, а што паклікала сонца.

*Запіс у дзённіку ад 6 красавіка 1976 года*

З раніцы дома не сядзелася,
з раніцы ўсё ў акно глядзелася,
туды, дзе займалася святло.
А са святлом чаканне расло.

Такое было адчуванне, як быццам
нешта павінна вось-вось адбыцца,
як быццам вось-вось адбудзецца цуд, —
толькі па той бок акна, а не тут.

Яшчэ адчуванне было такое,
што нейчы кліч не дае спакою,
што нехта кліча раз-параз
і трэба адклікнуцца ў адказ.

Вызваліў я акно ад шторы —
і ўбачыў я сонечныя прасторы,
і ўбачыў я сонца само ў акне…
Клікала, значыць, сонца мяне!

Планета з планет, са свяціл свяціла,
сонца з’яўленне сваё абвясціла!
Сонца мяняла зямны наш настрой!
Выходзіў я ў сонечны прастор…

Думкі адкідваў я паніклыя —
сонца паклікала!
Білася ў сэрцы радасць вялікая —
сонца паклікала!

Дзень свой лічыў па новаму ліку я —
сонца паклікала!

Сонца паклікала, запрасіла,
дзялілася светлай сваёй сілай!
Сонца паклікала, знак падало…
Свята святла! Свята святло!

## Сон пад шум зімовага дажджу

Ідзе дождж (у студзені). Б’е, барабаніць па вокнах. Усё змясцілася, змяшалася ў прыродзе.

*Запіс у дзённіку ад 6 студзеня 1975 года*

Што за акном? Неба шэрае, густа абкладзенае хмарамі. Цяпла ўсё няма і няма — як быццам яго дасць потым зіма.

*Запіс у дзённіку ад 16 чэрвеня 1976 года*

Не край залатога руна,
не востраў скарбаў і дзіваў,—
снілася мне старана,
падобная на радзіму.

Там рэк малочных няма,
няма берагоў кісельных.
Ды там зіма як зіма,
там лета — без хмар асенніх.

Зімой там — гул завей
ды ценькканне сініцы,
а летам там — жураўель,
ды сонца, ды суніцы.

Што лепей — сініца ў руцэ
ці жураўель у небе? —
я не рашаў у сне.
Усё, што ў пару сваю, — лепей.

Луналі таму нада мной
іншыя шчасця прыкметы:
бялее снег зімой,
квітнее квецень летам …

**Перад святам паэзіі ў Вязынцы**

У нейкі жыццёвы міг,
на нейкай вярсце жыццёвай
прыслухаўся я, прыціх,
і ўлавіў мой слых
ціхі шэпт раніцовы.
Шапталіся вецер з дажджом,
шапталіся хмара з зямлёю,
шапталіся дождж з лісцём…
І нехта шаптаўся са мною.
І ўжо не слыхам — душой
адчуў я, што пошум той дзіўны —
не проста вецер з імжой,
а голас самой Радзімы.
Прыйшла і шаптала: «Мой сын!
Была я, я ёсць і буду!
Буду да вечных часін
явай тваёй, тваім цудам.
Нішто не падзеліць нас.
У нас шлях і лёс адзіны…»
У гэты ранішні час
усё было — ад Радзімы.
І след дажджу на акне,
і першая чырвань рабіны —
усё было — ад Яе,
усё было — ад Радзімы.
Наяве было, як у сне,
усё ў гэта ранне летняе…
Усё было — запаветнае,
усё было — ад Яе.
Я ёй падбіраў імя,
шаптаў я ў душэўным уздыме:
«Госпадзі, Гаспадыня,
Святыня, Маці мая…»
Калі выбіраўся я ў шлях,

было святочна і ясна.
Радзімы ўвесь абсяг
бачыўся мне выразна…

**Тры дні збіраўся дождж…**

Тры дні збіраўся дождж…
Дзе парасон і плашч!
Тры дні збіраўся дождж…
Згушчаліся аблокі.
Тры дні збіраўся дождж…
Тры дні збіраўся плач.
І вось, нібы сігнал,
гром прагрымеў далёкі.
Тры дні збіраўся гром
там, недзе ў вышыні.
Тры дні збіраўся боль
тут, у глыбіннай нетры.
І вось раздаўся гул
ў трывожнай цішыні.
І развітальны звон
разліўся ў паветры.
Час надышоў,
калі гаворым мы «бывай»,
калі гаворым штось,
а словы мала значаць,
калі замала рук —
як ты ні абдымай,
калі як ні глядзі —
а вочы мала бачаць.
Кашчунна гаварыць,
калі той гук — пусты.
Кашчунна абдымаць,
калі ўтрымаць не ў стане.
Кашчунна бачыць,
як бяссільны бачыць ты,
як на тваіх вачах
збываецца расстанне.
Кашчунна жыць,
калі
мы не жывём, а снім,

ўслед позіркам глядзім
такім бездапаможным,
калі з уласным сэрцам,
са шчасцем са сваім
мы крута гэтак абысціся можам…
Тры дні збіраўся плач.
Тры дні ці тры гады?
Згушчаўся камячок,
падкотваў да горла.
Ішоў дождж з году ў год,
быў плач гады ў рады.
Ты горкі той камяк
насіў маўкліва, горда…
Тры дні збіраўся дождж…
Збіраўся плач тры дні.
І вось світальны гул,
і звон той развітальны,
і дождж, што з вышыні,
і плач, што з глыбіні,
зліліся ўраз ў празрыстасці крыштальнай.
Зліліся гром і боль,
зліліся дождж і плач…
Акно не зачыняй,
хай дождж ідзе, як хоча,
хай дождж ідзе ў пакой …
Што парасон і плашч!
Ды дзверы зачыні,
ключ павярні ў іх двойчы.
Ключ двойчы павярні.
Застанься толькі сам.
Не той выпадак,
дзе патрэбны сведкі.
І волю плачу дай,
дай выліцца слязам.
Не часта плач да нас прыходзіць гэткі.
Ён — дар, як дар любві,
дар радасных удач …
Хай барабаніць дождж,
па шыбах хай сцякае.
А ты паплач, паплач,
а ты паплач, паплач,

а ты паплач, паплач,
нагода раз такая…
А ты паплач, паплач,
а ты паплач, паплач,
раз хочацца плакаць —
паплач…

## Сезон дажджавых чарвякоў

Ці браў хто спакон вякоў,
да гэтага адвячорка,
тэму чарвякоў?
Ну, там… зара ці зорка,
світанак ці раса,
ці светлы воблік каханай,
ці іншых матэрый краса…
А тут чарвяк паганы!

І тым не менш такая тэма дала раптам знаць пра сябе. Здарылася гэта пад вечар 14 красавіка 1978 года. Я вяртаўся дадому, заняты сваімі думкамі і дзённымі ўражаннямі, вяртаўся пад ціхі пошум аднаго з першых дажджоў новай вясны.Дождждык прыемна асвяжаў, хаця ішоў яшчэ неяк нясмела, неяк няўпэўнена, як быццам яшчэ не разышоўся належным чынам, не адчуў дастаткова сваёй пары і сваёй сілы. І тут я ўбачыў, ледзь не пад нагой, аднаго чарвяка, потым — другога, трэцяга… Ішоў далей і бачыў усё той жа малюнак і пераконваўся, што маю справу з не зусім звычайнай з’явай прыроды. Сялянскі сын, я ведаў дажджавых чарвякоў з дзяцінства. І колькі разоў бачыў іх потым і ў вёсцы, і ў горадзе, і на якой-небудзь далёкай дарозе, бачыў іх, гэтых не самых імпазантных стварэнняў прыроды, але затое самых нязменных спадарожнікаў цёплых дажджоў.І заўсёды стараўся абысці іх стараной — або не звяртаючы асаблівай увагі, або з унутранай агідай, у залежнасці ад стану… Але на гэты раз абысці іх без увагі было немагчыма.Справа ў тым, што ў гэты, насычаны цёплай дажджавой вільгаццю, адвячорак чарвякоў з’явілася надзвычай многа. Яны, як я ўжо казаў, трапляліся на кожным кроку. Прытым як бы свядома стараліся быць у самым цэнтры руху, на самых вачах. Кідалася ў вочы і тое, што чарвякі прыстройваліся чамусьці менавіта на тратуары, на яго асфальце і бетоне, на найбольш, так сказаць, цывілізаванай

частцы вуліцы (падумалася з усмешкай: «Урбаністычна настроеныя чарвякі…»). І паколькі гэта было так, і паколькі іх з’яўленне мела масавы характар, то ўзнікала недаўменнае пытанне: «Адкуль яны раптам узяліся? Не з асфальту ж, не з пліт гэтых бетонных выйшлі? З дажджом разам выпалі, ці што?» Апошняе меркаванне было, вядома, далёка не навуковым, хаця і магло мець цікавасць як меркаванне навукова-фантастычнае ці як метафарычнае перабольшванне. Як бы там ні было, але калі я вярнуўся дадому і рука сама сабой пацягнулася да блакнота, я зразумеў, што прыйшоў час аддаць даніну дажджавым чарвякам. І стаў накідваць наступныя радкі…

І тут я ўбачыў іх
на тратуарных плітах,
цёплым дажджом залітых, —
іх, чарвякоў дажджавых.
З’явіліся разам з вясной
яны, ружаватыя жгуцікі.
Убачыў, здзівіўся:
«Жывуць-такі!»
Чакалі пары сваёй.
Чакалі дажджу вясновага,
як сезона новага.
І вось адкрыўся сезон,
зімовы скінуўшы сон.

Сезон дажджоў веснавых —
сезон чарвякоў дажджавых.

Выходзіць, і ў іх, сляпых,
бяскосных і, можа, бязмозглых,
маюцца нюх і слых
наконт законаў розных.
Ёсць час узыходжання зор,
ёсць час прылёту птушынага…
І ў племя чарвячынага
ёсць свае выхад і збор.
Ёсць час зелянення лоз,
ёсць час з’яўлення оды…
І ў чарвяковай пароды —
свой час, свой чын, свой лёс.

Які б ён ні быў мізэрны,
нікчэмны той лёс чарвякоў,
ды, як і спакон вякоў,
чарвяк дажджу свайму верны.
Магчыма, той цёплы дождж,
тая вясновая слата
яму — і жыццё,
і свята,
і раскоша з раскош.
І, значыць, не раз на вяку
трапляецца ўсё ж чарвяку
такая нагода, як гэта.
Ажыў ён у красавіку.
А ўперадзе яшчэ — лета.
Там чэрвень жа як-ніяк!
Будзе дажджоў багата.
І ўжо адсвяткуе чарвяк
на сваёй вуліцы свята!..

Сезон дажджоў праліўных —
сезон чарвякоў дажджавых.

**Паўднёвае назіранне**

Гэта было ўчора
ці пазаўчора было:
пагода пайшла за мора,
за горы сонца пайшло.
Як быццам былі яны ў змове,
мора з горнай градой,
як быццам стала ўзмор'е
ахвяраю змовы той.
Ці быццам бы нас пакаралі,
нас з марнасцю нашай людской…
Сонца было за гарамі,
пагода — за даллю марской.
Занылі песімісты,
як у вялікай бядзе:
«Дзе ты, дзень прамяністы?
Яснае сонца, ты дзе?»
А ў аптыміста бадзёра
свяцілася чало:

«Пагода пайшла за мора,
сонца за горы пайшло».
Плач ахапіў узмор'е:
«Адкуль пагоду чакаць?
З мора чакаць надвор'я,
што ветру ў полі шукаць». —
«Зусім не чакаць яшчэ горай,—
гучаў аптымістаў хор. —
Прыйдзе пагода з-за мора,
узыдзе сонца з-за гор!»
Я моўчкі выходзіў на бераг.
І ясна было адно мне,
што можна ў пагоду верыць,
а ў непагоду — не.
Яшчэ сам сабе адзначыў:
«Не бачу сур'ёзных нагод
для вельмі вялікага плачу,
для вельмі бадзёрых нот.
Тым болей не нагода —
непагодны час.
Тым болей, што пагода
залежыць ад нас.
Яшчэ што ад нас залежыць,
дык гэта — быць сабой,
дык гэта — захоўваць свежасць
надзеі сваёй людской…»

І тут я уступіў у палеміку з адным нашым вялікім сучаснікам, вядомым вучоным, які сказаў: «Калі гутарка ідзе пра пагоду або гульню ў латарэю, то тут надзея не паможа… А калі мець на ўвазе палітыку, узаемаадносіны людзей, то тут мы павінны спадзявацца. Калі ў чалавека ёсць надзея, то ён паводзіць сябе так, каб гэтую надзею ажыццявіць». Я адказваў: «Нават калі гутарка ідзе пра пагоду, надзея мае сэнс. І ў такім выпадку чалавек, які не траціць надзеі, застаецца ўсё адно ў выйгрышы — з ім была і ў яго ёсць надзея, ён багацейшы за таго, у каго яе няма, і яму ёсць чым падзяліцца з іншымі…»

*1978*

## ОДА МАГЧЫМАСЦЯМ МІРНАГА ЖЫЦЦЯ,<br>або ШТРЫХ ДА ПАРТРЭТА ВАСІЛЯ БЫКАВА

Магчымасці мірнага жыцця.
Яго перавагі перад вайной.
Перад ваеннымі ліхалеццямі…
Магчымасці — бязмежныя.
Перавагі— несумненныя.
Асабліва для тых, хто зведаў вайну
на ўласным вопыце,
хто можа параўноўваць адно з другім
(калі гэта параўнаныя ўвогуле рэчы)
і хто памяць яе носіць у душы гэтак жа,
як носіць асколкі і кулі ў целе.
Вайна нашы магчымасці сурова
                                        абмяжоўвае.
Вайна, уласна кажучы,
Пакідае нам адну магчымасць —
                                          ваяваць!
Змагацца за свабоду і незалежнасць
                                          сваёй Радзімы!
Стаяць не на жыццё, а на смерць!
Біцца з ворагам да пераможнага канца!
Іншых магчымасцяў вайна не дае.
(Пра такія «альтэрнатывы»,
                                      як дэзерцірства,
                                                як здрадніцтва,
мы не гаворым, натуральна.)
Іншая справа — мірнае жыццё!
Тут такі выбар, тут столькі магчымасцей!
«Ад» і «да».
Ад краю да краю.
Ад зямлі да неба.
Ад чалавека да чалавека.
Ад маленькага пробліску да вялікага азарэння.
Ад элементарнага адчування да веры ў цуд.
Ад прасцейшага руху да надзеі
                                        на бессмяроцце.
Магчымасці мірнага жыцця…
Што гэта такое —
я змог адчуць і зразумець,

дзякуючы ў значнай меры свайму даўняму,
з чэрвеня 1962 года,
сяброўству з Васілём Быкавым, —
змог адчуць і зразумець
праз нашы сустрэчы, гутаркі, сумесныя паездкі,
праз тэлефонныя званкі, лісты,
віншавальныя паштоўкі.
Каб лепш акрэсліць сваю думку,
прывяду некалькі дарагіх мне згадак…
Аднойчы, прыехаўшы ранішнім цягніком
(ён жыў тады яшчэ ў Гародні),
Васіль Быкаў завітаў да мяне дадому.
І я — дома больш нікога не было —
стаў на скорую руку збіраць сняданак.
Галоўнаю стравою аказаліся
спечаныя напярэдадні жонкаю бліны.
Я ўзяўся іх падаграваць.
І — о цуд! — бліны ўдаліся на славу.
Пра што красамоўна сведчыў
той відавочны факт,
што мой госць не толькі
іх еў з апетытам і хваліў,
але яшчэ і прызнаўся задуменна,
што мае бліны сваім смакам
нагадалі яму дзяцінства,
даўні, паўзабыты матчын пачастунак,
мабыць, святочны.
Я, вядома, быў рады такому прызнанню,
той шчаслівай акалічнасці,
што не толькі аказаўся ўдалым бліна-хлебасолам,
але і паспрыяў абуджэнню
ў душы свайго сябра
светлага ўспаміну дзяцінства.
Мы загаварылі пра таямнічую пачуццёвую памяць,
памяць смакавага адчування,
пра нашы любімыя стравы
(Васіль Уладзіміравіч прыгадаў тут,
здаецца, і салдацкую кашу).
Мы гаварылі пра наша дзяцінства,
якое праходзіла па розныя бакі,
але на аднолькавай, вярста ў вярсту, адлегласці
ад аднаго і таго ж гарадка Лепеля.

Мы ўспаміналі дзяцінства
і гаварылі пра нашых дзяцей,
пра сямейныя, літаратурныя і іншыя справы.
І вось за тым ранішнім сталом,
у той нетаропкай, ціхай, напаўголаса,
у той сяброўскай, твар у твар,
вочы ў вочы, душа ў душу, бяседзе
і прыйшла мне раптам думка
пра магчымасці мірнага людскога жыцця.
Падумалася, у прыватнасці, пра такія з іх,
як сустрэць раніцай госця
і падзяліць з ім па-брацку хлеб,
як хлеб надзённы спалучыць
з хлебам духоўным,
як аглядаць з душэўным хваляваннем мінулае
і па-гаспадарску зазіраць у будучыню…
Адчуванне гэтае потым
прыходзіла, як правіла, кожны раз,
калі мы сустракаліся з Васілём Быкавым.
Вось яшчэ адзін характэрны,
таксама вельмі памятны і дарагі для мяне эпізод.
На гэты раз — ужо я ў гасцях у Быкава.
Сышоўшы з ранішняга, зноў-такі, цягніка,
я прыязджаю да Васіля на кватэру.
Цяпер вось ён, у сваю чаргу,
мусіць клапаціцца пра сняданне.
Ён робіць бутэрброды, заварвае чай.
Абменьваемся навінамі,
абменьваемся, жартам і ўсур’ёз,
вопытам заварвання чаю.
А потым… потым, адразу пасля снедання,
мы дружна выбіраемся на Нёман,
дзе нас чакае маторка —
прадмет захаплення і гордасці Васіля Быкава.
Васіль ставіць матор,
вырульвае лодку на сярэдзіну ракі
(магчымасці мірнага жыцця!),
і вось мы ўжо імчымся ўніз па цячэнні,
па светла-сіняй, колеру неба, роўнядзі,
насустрач зялёным берагам,
насустрач густому ветрыку,
настоенаму на пойменных травах

і рачных водарасцях
Я гляджу на раку.
Я гляджу на берагі,
якія жывуць сваім летнім жыццём,
на якія дружна высыпалі
людзі,
            коні,
                        козы,
                                    сабакі,
                                                птушкі,
                                                            дрэвы.
Усё жывое, усе яны —
заўважаю і дзялюся з Васілём сваім назіраннем —
глядзяць, як зачараваныя, на раку,
усе яны — хто тварам,
                                        хто пысай,
                                                            хто дзюбай,
                                                                        хто ніцай
галінкай —
звернуты да ракі,
і ўсе яны, бачу, радуюцца
рачной плыні,
                            летняму сонцу,
                                                    адзін адному,
свайму штодзённаму мірнаму жыццю.
Мы з Васілём радуемся таксама.
Я ўпотай пазіраю на яго.
Мне цікава бачыць яго ў такой вось якасці,
у ролі ўладальніка маторнай лодкі.
Мне прыемна ўсведамляць,
што гэтая вось прагулка па рацэ,
гэты бясхмарны летні дзень —
можа, апрача ўсяго іншага,
яшчэ і нейкая кампенсацыя,
нейкая ўзнагарода
«чалавеку з вайны»
за перажытае там на вайне,
і яшчэ перажытае тут, у мірным жыцці,
над творамі пра вайну.
Мне радасна заўважаць,
што звычайна напружаны,
крыху калючы позірк

светла-шэрых Васілёвых вачэй
як бы адтайвае, мякчэе
перад святлом летняга дня.
Я прашу ў Васіля дазволу пакіраваць лодкай.
Ён ахвотна ўступае мне румпель,
тлумачыць, што да чаго.
Я чую голас Васіля:
«Права руля, лева руля!»
Бягуць насустрач рака і зямля.
«Права руля, лева руля!»
Нехта махае рукой нам здаля.
«Права руля, лева руля!»
(Вось яны, магчымасці мірнага жыцця!)
І яшчэ адзін дарагі мне ўспамін.
Васіль адлятае, я яго праводжу.
Да адпраўлення самалёта застаецца каля гадзіны.
І мы чамусьці заходзім
у магазін «Гаспадарчыя тавары»,
які знаходзіцца ў раёне аэрапорта,
на вуліцы Чкалава, 28.
Заходзім як быццам
без асаблівай патрэбы, без пэўнай мэты.
Проста ўзялі і зайшлі.
І трэба было, скажу я вам,
бачыць майго спадарожніка
у час гэтай нашай нечаканай экскурсіі
па магазіне —
своеасаблівым храме прылад і прадметаў,
прызначаных для таго,
каб весці гаспадарку,
каб ствараць утульнасць,
каб будаваць і рабіць рамонт,
каб кашаварыць і пячы хлеб,
каб вырошчваць і даглядаць сад…
(Вось колькі іх, магчымасцей мірнага жыцця!)
Ад такога выбару рэчаў
яўна мірнага прызначэння
позірк у Васіля Быкава,
сусветна вядомага пісьменніка,
рабіўся зноў-такі цяплейшым,
запальваўся раз-пораз
то цікавасцю, то замілаваннем,

то нейкай гаспадарскай прыкідкай.
А ў нейкі момант,
калі ён затрымаўся перад секцыяй
цяслярскіх і сталярных прылад,
ён нагадаў мне дэміурга,
які застыў на міг перад актам тварэння.
(Тварыць — адна з найлепшых
магчымасцей мірнага жыцця!)
Ну, вось, здаецца, можна ставіць і кропку.
Засталося толькі дадаць наступнае.
Мы гаворым звычайна пра Васіля Быкава
як пра летапісца вайны,
як пра аўтара ваеннай тэмы.
У нейкім сэнсе гэта так.
Але поўным вызначэнне будзе тады,
калі мы яшчэ зазначым,
што адзін з галоўных
(а, можа, і самы галоўны)
матываў яго творчасці —
гэта боль за тое зло,
якое нелюдзі
прычыняюць чалавеку ў яго памкненні
жыць і радавацца жыццю,
калі мы яшчэ дададзім,
што Васіль Быкаў
па сваёй глыбіннай мастакоўскай сутнасці —
пясняр магчымасцей мірнага жыцця,
яго хараства і шчасця.
За што яму гонар і слава!

*1984*

# ГЕФЕСТ — ДРУГ ПРАМЕТЭЯ

*Міфалагічная драма*

Дзейныя асобы

Г е ф е с т.
П р а м е т э й.
З е ў с.
Г е р м е с.
Д ы я н і с.
А ф р а д ы т а.
Б р ы а р э й.
Ф е м і д а.
А к і я н і д ы.
В я с т у н.
Багі, вакханкі, сатыры, людзі, прыслужнікі, ахоўнікі.

Пакуль глядач настройваецца на тэатральную хвалю, пакуль патухае святло і рассоўваецца заслона (яна на гэты раз рассоўваецца вельмі марудна), гучыць дыялог: пытанне — адказ, пытанне — адказ… Пытаецца наш час, пытаюцца сучаснікі, мы самі, і пытанні гучаць недзе тут, па гэты бок рампы. Адказвае мінулае, і адказы гучаць недзе там, у глыбіні сцэны.

— Ваша імя Праметэй?
— Так, Праметэй.
— Вы здабылі агонь для людзей?
— Агонь для людзей…
— Нацыянальнасць — міфічны грэк?
— Міфічны грэк.
— Час нараджэння — антычны век?
— Антычны век.

— Вы па паходжанні тытан?
— Так, тытан.
— Вашым ворагам быў тыран?
— Так, тыран.
— Ён прыкаваў вас да скалы?
— Так, да скалы.
— І вашу печань ірвалі арлы?
— Ірвалі арлы.
— Вы абліваліся крывёй?
— Так, крывёй.
— Вы пакрываліся карой?
— Так, карой.
— А дзе былі людзі,
                    дзеля якіх?..
— Дзеля якіх…
— Не памаглі ні грэк, ні скіф?
— Ні грэк, ні скіф.
— Ды вы ж не былі адзін як перст?
— Не быў як перст.
— У вас быў добры друг Гефест?
— Быў друг Гефест.
— Што ён зрабіў, ваш добры друг?
—…Мой добры друг.
— Можа, каваў для вас ланцуг?
— Каваў ланцуг.
— Каваў ланцуг
                    з жалеза таго?..
— З жалеза таго…
—…Што здабылі вы для яго?
— Здабыў для яго.
— І ў кузні той,
                    дзе разам з ім?..
— Дзе разам з ім…
— Кавалі вы шмат лет і зім?
— Шмат лет і зім.
— І сам Гефест,
                    ніхто другі?..
— Ніхто другі…
— Надзеў вам тыя ланцугі?
—…Мне ланцугі.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Невялікая пляцоўка на схіле гары, перад уваходам у пячору. Гэта і ёсць тая славутая пячора, дзе жыве Гефест і дзе знаходзіцца яго кузня. Жыллё Гефеста размяшчаецца як бы паміж небам і зямлёй, бо калі глядзець з пляцоўкі ўгору — можна бачыць беласнежныя вяршыні Алімпа, дзе пануюць небажыхары, гэта значыць багі, на чале з эгідадзяржаўным Зеўсам, а калі глядзець уніз — позірк вядзе да насельнікаў Зямлі да людзей, якія туляцца недзе ля падножжа гары. Самога Гефеста мы не бачым, але, мяркуючы па тым, што ў пячоры ўспыхваюць водсветы горна, што там чуваць удары молата, звон металу, глухое кавальскае «гэ-эх», — Гефест працуе.

На авансцэну выходзіць В я с т у н.

В я с т у н (*аглянуўшыся ў бок пячоры, прыслухаўшыся*). Гефест працуе. (*Да залы.*) Вы толькі што чулі голас Праметэя. Ён прагучаў з глыбіні вякоў, напомніўшы нам пра велічны подзвіг, пра вялікія пакуты і вялікае самаахвяраванне ў імя шчасця людзей, у імя вашага шчасця. Праметэй, як вы маглі адзначыць, ні аб чым не шкадуе і не скардзіцца на свой лёс. Ён не прамяняў бы яго на нейкі іншы, ён мог бы паўтарыць усё спачатку. Але ў яго прызнаннях прагучала і нотка, за якой тоіцца глыбокая рана. Няцяжка зразумець, чаго каштуе для Праметэя такое прызнанне. І сапраўды, ён жа не быў адзін як перст, у яго быў, як ён сам пацвярджае, добры друг Гефест. Чаму ж тады, узнікае пытанне, тытан у гадзіну выпрабавання застаецца адзін? Чаму яго друг стаў раптам яго катам? Што адбылося, як усё было? Зрэшты, я тут забягаю наперад, зараз пачнецца спектакль, і вы ўсё ўбачыце самі. Я хачу сказаць толькі некалькі слоў аб тым, чаго на сцэне не будзе.

Хто такі Праметэй, ведае кожны з нас са школьнай парты. Пра Гефеста мы ведаем мала. Нават калі мы не забылі старажытныя міфы, мы толькі і ведаем, што быў на Алімпе такі кульгавы, дзівакаваты бог агню і кавальскай справы, рабіў у сваёй кузні для багоў розныя дзівосныя рэчы, выкаваў нейкаму герою, ці то Гектару, ці то Ахілесу, шчыт… Ну вось, бадай, і ўсе нашы звесткі пра Гефеста. Нешта больш істотнае мы пакідаем чамусьці без увагі. Мы не цікавімся, напрыклад, як Гефест, які быў скінуты ў дзяцінстве з Алімпа, зноў апынуўся там і стаў богам. Мы

амаль не цікавімся — што зусім недаравальна — самой дружбай Гефеста і Праметэя, хаця нас, здавалася б, павінна цікавіць усё, што датычыцца жыцця і подзвігу гераічнага тытана.

Мы ўжо чулі, як скончылася дружба іх. А як яна пачалася? Што здружыла Гефеста з Праметэем?

На гэтае пытанне няцяжка адказаць, калі зноў-такі прыгадаць тое, што расказваюць міфы. Гефеста скідаюць з Алімпа, і ён, адрынуты, бездапаможны калека, гібее на зямлі, пакуль не вырасце і не возьмецца за кавальскую справу. Ён адзінокі. Адзін застаўся і Праметэй. Ён разышоўся са сваімі суродзічамі — тытанамі. Не паладзіў ён і з Зеўсам, бо не можа мірыцца з яго тыраніяй, з яго жорсткім самаўладствам. Агульнасць лёсу аб'ядноўвае. Сустрэліся двое адзінокіх, непрыкаяных. Магчыма, што гэта адбылося вось тут, на гэтай пляцоўцы, каля гэтай пячоры… Гефест выйшаў з пячоры адпачыць пасля працы. Тут яго і ўбачыў Праметэй, які ўзнімаўся па схіле гары, вяртаючыся ад людзей. Убачыў ён Гефеста, убачылі яны адзін аднаго, адзін аднаму ўсміхнуліся, зразумелі, што яны не ворагі, і пасябравалі. І потым — тут я падыходжу да галоўнага — якраз Гефест дапамог Праметэю здабыць агонь. Але тут я зноў, прабачце, забягаю наперад, вы самі хутка ўбачыце… (*Гледзячы на пячору.*) Гефест працуе. Сёння ён куе моўчкі. Звычайна ж ён працуе, спяваючы сваю любімую песню: «Высока мой молат узлятае. Гэ-эх! Мой горан шугае…» А сёння ён маўчыць. Гэта значыць, што ён даўно ўжо не бачыў Праметэя і сумуе без яго. (*Азірнуўшыся ў бок кулісы.*) А вось, здаецца, ідзе і Праметэй… Я знікаю.

В я с т у н пакідае сцэну. З'яўляецца П р а м е т э й. Ён цяжкай, стомленай хадой — відаць, прайшоў немалы шлях — падыходзіць да пячоры. Тут жа з пячоры паказваецца спацелы, чарнамазы твар Г е ф е с т а.

Г е ф е с т (*шырока, радасна ўсміхаючыся*). Ты, Праметэй! Вітанне і слава таму, хто прыходзіць!

П р а м е т э й (*таксама радуючыся сустрэчы*). Слава і гонар таму, хто сустракае! (*Абдымае Гефеста.*) Ну, як жывеш-куеш? Бачу, без справы ты не сядзіш, наш вечны працаўнік?

Г е ф е с т. Без працы не сяджу. Але нешта без цябе не куецца, а плешчацца… Доўга ж цябе не было, Праметэй. Я ўжо думаў, што ты назаўсёды застаўся там, на зямлі, са сваімі людзьмі. Ведаеш, ты яшчэ быў далёка, яшчэ ўзнімаўся па схіле, а я пачуў ужо тваю хаду. Чую: нехта туп-туп-туп. Прыслухаўся і пазнаў: Праметэй ідзе. Пачакаў крыху, выглянуў з пячоры, а ты ўжо тут… Доўга цябе не было, Праметэй! Што-небудзь здарылася?

П р а м е т э й (*усміхаецца ў адказ на шчырыя словы Гефеста, потым хмурнее*). Яны мяне не адпускалі, Гефест, ды і я сам усё не мог пайсці, пакінуць іх. Ты нават не ўяўляеш, што робіцца там, унізе. Людзі гібеюць. Асабліва цяжка ім стала пасля таго, як Зеўс пазбавіў іх агню. Пагаслі ачагі ў пячорах, патухлі кастры ля буданоў і халуп, адзін халодны попел у горнах. Я бачыў, як людзі рвуць зубамі сырое мяса, як яны курчацца ад холаду. Яны звярэюць, але да жывёльнага жыцця зусім не прыстасаваны. У іх не тыя зубы і кіпцюры, у іх няма цёплай скуры, каб бараніцца ад холаду. Але ўсё гэта было б паўбяды, калі б не іх жывёльны страх перад Зеўсам. Яны настолькі запалоханы, настолькі страцілі прысутнасць духу, што пачынаюць ўжо хадзіць на карачках, пачынаюць поўзаць. (*З адчаем*.) Людзі, Гефест, на краі гібелі! Трэба нешта рабіць!

Г е ф е с т (*спагадліва*). Я разумею цябе, Праметэй. У цябе добрае, вялікае сэрца, ты так іх шкадуеш… Толькі што ты можаш зрабіць? Чым я табе магу памагчы?

П р а м е т э й (*пасля паўзы, рашуча і ў той жа час даверліва*). Ведаеш, Гефест, я сёння канчаткова пераканаўся, што людзей можа выратаваць толькі агонь, і прыняў рашэнне — любой цаной здабыць яго ў Зеўса і вярнуць людзям.

Г е ф е с т. А гэта магчыма, Праметэй? Я ведаю: ты ўсё можаш. Але гэта ж трэба ісці супраць… супраць самога Зеўса. Ці магчыма гэта?

П р а м е т э й. Так, магчыма. Калі толькі не баяцца. І калі яшчэ быць упэўненым, што на тваім баку праўда.

Г е ф е с т. Ты смелы, Праметэй! І ты ведаеш, што трэба рабіць. (*На хвіліну задумаўшыся*.) І я вось што хачу сказаць табе. Што б ты ні задумаў, на што б ты ні рашыўся — помні: у цябе ёсць верны сябар каваль Гефест. А ў яго не толькі дужыя мускулы, але і моцная памяць. І ён добра помніць, хто дапамагаў яму, хто падтрымліваў яго, калі ён, адрынуты, пакрыўджаны, бездапаможны калека, апынуўся на чужой яму зямлі. Ён добра помніць, хто ратаваў яго, хто лячыў яго зламаныя ногі, хто вучыў яго кавальскаму рамяству. Ён усё добра помніць, і ён удзячны табе за ўсё, што ты для яго зрабіў і робіш цяпер, і гатовы быць заўсёды з табой, гатовы нават даць клятву… паклясціся водамі свяшчэннай ракі…

П р а м е т э й. Ты хочаш паклясціся водамі свяшчэннай ракі? А ты ведаеш, якая гэта клятва? Нікому не дадзена яе парушаць — ні смяротным, ні бессмяротным…

Г е ф е с т (*рашуча*). Я ведаю, Праметэй, якая гэта клятва, таму я і хачу паклясціся водамі свяшчэннай ракі, што заўсёды і ва ўсім буду разам з табой!

П р а м е т э й (*радуючыся за сябра*). Падумай яшчэ раз, Гефест, раней чым даваць клятву. Бо калі ты яе дасі, ты звяжаш сябе на ўсё жыццё, ты не зможаш выбіраць, не зможаш мяняць свой шлях.

Г е ф е с т. Я ўжо выбраў свой шлях, Праметэй. Ты дапамог мне ў гэтым. І я ніколі не падумаю мяняць яго, я хачу заўсёды ісці разам з табой, рабіць тое, што робіш ты… Давай паклянёмся, Праметэй!

П р а м е т э й. Давай паклянёмся, Гефест! (*Падыходзіць да Гефеста, абдымае яго за плечы*.) Давай паклянёмся!

Г е ф е с т, П р а м е т э й (*разам*). Мы, Гефест і Праметэй, каваль і тытан, клянёмся водамі свяшчэннай ракі Стыкс, што зробім усё, каб даць людзям агонь, што будзем верна і вечна служыць добрай справе. Клянёмся! Клянёмся! Клянёмся!

Бліскае маланка, грыміць гром. Праметэй і Гефест узнімаюць угору твары. Зноў бліскае і грыміць. Гефест спалохана ўгінае галаву ў плечы, потым запытальна глядзіць на Праметэя.

Г е ф е с т. Гэта ён… Зеўс?!

Пр а м е т э й (*спакойна*). Можа, ён, а можа, і не. Павер, не ўсё ад яго залежыць.

Г е ф е с т. Гэта ён, без яго ж грому не бывае. Пачуў нас, відаць, і загрымеў.

П р а м е т э й. Не бойся, Гефест. Гром бывае і без Зеўса, а Зеўс, бывае, застаецца без грому. Не такі ўжо ён і ўсемагутны, як нам часам здаецца… Асабліва калі мы не адзінокія і калі мы падтрымліваем адзін аднаго. Я пайшоў, Гефест. Трэба дзейнічаць. Дзякуй табе за ўсё! Смеласць і брацтва!

Г е ф е с т. Табе, Праметэй, дзякуй! Брацтва і смеласць!

П р а м е т э й пакідае сцэну. Гефест нейкі час глядзіць яму ўслед. Потым ідзе ў пячору і пачынае працаваць, спяваючы:

Высока мой молат ўзлятае: гэ-эх!
Мой горан шугае.
Толькі ўздыхае стары мой мех.
Сумна ўздыхае. Як
быццам вядома меху таму нешта такое,
што не дае мне і яму

сёння спакою.
Як быццам прадбачыць
бяду адну,
што наплывае.
Як быццам сваю і маю віну
ён прадчувае.

Зноў грукоча гром. Гефест змаўкае, выглядвае з пячоры. І ў гэты час нечакана, з нейкай птушынай лёгкасцю з'яўляецца пасланец Зеўса Г е р м е с.

Г е р м е с. Слава кавалю Гефесту і яго кузні! Ты што — ці не спалохаўся грому? Правініўся, можа? Нічога, бывае. Ведаю сам. Іншы раз як загрыміць, дык аж паджылкі трасуцца. З Зеўсам жарты дрэнныя, асабліва калі не дагодзіш яму. Ну ды табе можна яго ўжо не баяцца. Ведаеш, з якой навіной да цябе?

Г е ф е с т (*панура*). Не ведаю… Нешта ты разлятаўся ў апошні час.

Г е р м е с. Служу цару багоў і людзей, грамавержцу Зеўсу. Усе мы пад ім ходзім і лятаем… Дык вось слухай. (*З асцярогай аглядваецца наўкруг.*) Праметэя паблізу няма? Зеўс хоча вярнуць цябе на Алімп.

Г е ф е с т (*не адразу асэнсаваўшы навіну*). Зеўс хоча вярнуць мяне на Алімп?

Г е р м е с. Так. Айца нашага даймае апошні час бяссонніца. І сёння ўночы ён падслухаў, як спявалі багіні лёсу і нешта прадказалі яму. Вось раніцай ён паклікаў Геру і раіўся з ёй наконт таго, каб вярнуць цябе на Алімп.

Г е ф е с т (*пасля паўзы, усё яшчэ не ведаючы, як яму цяпер быць*). Але я ўжо там быў аднойчы, і мяне…

Г е р м е с. На тое была боская воля. А цяпер Зеўс хоча, каб ты зноў быў там (*паказвае ўгору*).

Г е ф е с т (*працягвае, настойліва*). …І мяне скінулі адтуль, як чумнага пацука. Узялі грэбліва за нагу ці за нешта яшчэ, — не помню за што, бо быў зусім малы, — і шпурнулі. Чмякнуўся так, што ўстаць не мог, бо былі паламаны ногі. Таму яны і цяпер у мяне такія. (*Глядзіць на ногі.*) Не, я там ужо быў…

Г е р м е с. Але калі гэта было і кім ты тады быў? Ты быў нічым, нейкім выпладкам. А цяпер ты будзеш богам!

Г е ф е с т. Богам?

Г е р м е с. Так, богам. А для чаго ж, ты думаеш, Зеўс вяртае цябе на Алімп? Для таго, каб зрабіць цябе богам. (*Глядзіць, якое ўражанне зрабіў на Гефеста.*) Богам агню і кавальскай справы. Так што віншую цябе і выказваю сваю пашану заўтрашняму богу! Заўваж на ўсякі выпадак: раблю гэта першы… Чакай, ды ты, я гляджу, нешта не вельмі рады.

Г е ф е с т. А чаму я павінен радавацца? Мне добра і тут, у маёй пячоры, у маёй кузні…

Г е р м е с (*перабіваючы*). Ха-ха-ха! Яму добра ў яго пячоры, у яго кузні. Вечнае глупства тых, хто нічога лепшага, апрача працы, не бачыць. Ну, што ты тут бачыш, апрача поту і мазалёў?

Г е ф е с т. Як што? Бачу плён сваёй працы і радуюся. Вось і сёння зрабіў бранзалет. Ты паглядзеў бы, які ён атрымаўся.

Г е р м е с. Праца… плён працы… Вось дзівак. Ха-ха-ха! Ну, а што ты яшчэ маеш?

Ге ф е с т. А што я буду мець на Алімпе?

Г е р м е с. Ты будзеш мець уладу. Ты будзеш прыбліжаным Зеўса і разам з ім будзеш вяршыць лёс усяго свету.

Г е ф е с т. А што значыць — мець уладу, вяршыць лёс свету?

Г е р м е с. Што гэта значыць?.. Як табе сказаць. Ну вось ты хочаш, каб табе падпарадкоўваўся ў тваёй кузні кавалак жалеза, каб ён быў пакорны і мяккі і ты мог зрабіць з яго, што толькі пажадаеш. Хочаш ты гэтага ці не?

Г е ф е с т. Так… Хачу…

Г е р м е с. Вось бачыш. І калі ты будзеш мець уладу, табе будуць падпарадкоўвацца тыя, хто ўлады не мае, ты можаш распараджацца імі, рабіць з іх усё, што захочаш, і яны не будуць пярэчыць. Ну, а калі хто не паслухаецца — ты зможаш яго пакараць, бо ў цябе будзе ўлада.

Г е ф е с т (*пасля паўзы*). Не, гэта не па мне. Навошта мне ўладарыць над людзьмі. Мне падабаецца быць кавалём, падабаецца раздзьмухваць горан, напальваць дачырвана метал і рабіць з яго такія, як мне хочацца, рэчы. У сваёй кузні, над сваім кавадлам, я адчуваю сябе і гаспадаром, і ўладаром, і нават богам.

Г е р м е с. І нават богам? Ха-ха-ха! Вось дае, вось выступае вечны маўчун! Адразу відаць, што ты ніколі не меў улады, не ведаеш яе смаку. Ды ты хоць на міг уяві, галава садовая, што такое быць богам на самай справе. Ты будзеш панаваць разам з самім Зеўсам, побач з іншымі алімпійцамі.

Г е ф е с т. Я буду панаваць разам з самім Зеўсам?

Г е р м е с. Так. І кожнае тваё жаданне будзе тут жа выконвацца.

Г е ф е с т. Кожнае маё жаданне будзе тут жа выконвацца?

Г е р м е с. Так. І ты зменіш гэту сваю хламіду (*дакранаецца грэбліва да простага хітона Гефеста*) на беласнежную туніку і залататканы плашч.

Г е ф е с т (*аглядваючы сваё адзенне так, як быццам упершыню яго бачыць*). На беласнежную туніку і залататканы плашч?

Г е р м е с. Так. І будзеш кожны дзень ласавацца амброзіяй і смакаваць нектар. Ты ведаеш, што гэта такое — амброзія і нектар?

Г е ф е с т. Не, не ведаю. А што — яны вельмі смачныя?

Г е р м е с. Дзіва што! Не параўнаеш з тваімі праснакамі.

Г е ф е с т. Мне падабаюцца мае праснакі, і мой сыр, і маё малако.

Г е р м е с. Ха-ха-ха! Вечная памылка тых, хто нічога, апрача ячменных праснакоў і казінага малака, не бачыў у вочы. Дык вось слухай, што такое — нектар і амброзія. Па-першае, гэта найвялікшая асалода. Я не ведаю большага задавальнення, чым іх піць і есці. А па-другое, яны вылечваюць ад усялякіх хвароб і выродлівасці.

Г е фе с т. Пазбаўляюць ад хвароб і выродлівасці? (*Аглядаючы сябе, свае ногі*.) Гэта праўда?

Г е р м е с. Вядома, праўда. Ты бачыў хоць аднаго бога хваравітага ці кульгавага, як ты? Не бачыў і не мог бачыць… Але гэта яшчэ не ўсё. Амброзія і нектар робяць чалавека вечна маладым і прыгожым.

Г е ф е с т. Вечна маладым і прыгожым?

Г е р м е с. Так… Паглядзі на мяне. Чым не юнак, чым не прыгажун? Дык гэта я ў Зеўса на пабягушках і харчуюся, можна сказаць, аб'едкамі з яго стала. А калі б я быў паўнапраўным богам…

Г е ф е с т (*летуценна*). Вечна маладым і прыгожым?

Ге р м е с. Так… І цябе будзе кахаць адна з багінь прыгажосці, чароўная Харыта.

Г е ф е с т. Мяне будзе кахаць адна з багінь прыгажосці?

Г е р м е с. Скажам, пекная Талія або грацыёзная Аглая… А калі пашанцуе, дружа, то і сама Афрадыта ўдастоіць сваёй прыхільнасці… Ну дык ты цяпер зразумеў, што такое быць богам?

Г е ф е с т (*пасля паўзы, задуменна*). Ці зразумеў я, што такое быць богам? Не ведаю. Але Праметэй гаворыць…

Г е р м е с (*рэзка перабіваючы*). Пры чым тут Праметэй! Здарава, гляджу я, задурыў ён табе галаву, гэты чалавекалюб. Не слухай ты яго! А яшчэ лепш — не знайся з ім зусім. Занадта многа ўжо ён хоча. Зеўс з ім лічыўся, ставіў яго вышэй за любога са сваіх багоў. Ён мог жыць прыпяваючы. Дык не, яму, бачыце, не спадабалася, як Зеўс абыходзіцца з людзьмі. Зеўс, бачыце, не спытаўся ў яго, як яму кіраваць, каго мілаваць, а каго караць. Ён стаў, бачыце, любіць людзей больш, чым Зеўса… Ну ды не пра яго гутарка. Гутарка ідзе пра цябе. Я зайздрошчу табе, Гефест. Калі б мне сказалі, што я заўтра стану багароўным, я б загадаў на алтары спаліць у гонар Зеўса цэлы статак быкоў, а сам бы скакаў і куляўся ад радасці вакол алтара. Я быў бы самым шчаслівым алімпійцам. (*Паглядзеўшы ўгору.*) Няхай не падумае айцец, што я нешчаслівы цяпер, што я скарджуся на свой лёс. Я шчаслівы, я ганаруся тым, што я ў яго на пасылках і што ён часам б'е мяне сваім боскім жэзлам і дае мне час ад часу выспятка сваёй золатаабутай нагой. Для мяне гэта вялікі гонар і я ўдзячны айцу. Я не хачу прыпадабняцца розным там Праметэям, якія дазваляюць сабе быць нязгоднымі з Зеўсам, выказваць незадавальненне. Я задаволены, я шчаслівы. А калі б яшчэ айцец зрабіў мяне паўнапраўным, жэзланосным богам… Ды што тут казаць! Радуйся, Гефест, і маліся з удзячнасцю цару багоў і людзей!

Г е ф е с т (*думаючы пра сваё*). Але ж я… мы з Праметэем…

Г е р м е с. Зноў Праметэй! Ды ты, я гляджу, жыць без яго не можаш. Не ведае, мабыць, пра гэта Зеўс. Ён бы не пагладзіў цябе па галоўцы за такую дружбу.

Г е ф е с т. Я хачу сказаць, што мы разам… што я… даў клятву.

Г е р м е с. Даў клятву? А хто іх не дае? Адны па наіўнасці, другія па хітрасці. А потым і тыя, і другія парушаюць іх. І нічога, сыходзіць.

Г е ф е с т. Я пакляўся разам з Праметэем свяшчэннай ракой…

Г е р м е с (*спалохана*). Ты пакляўся свяшчэннай ракой?

Г е ф е с т. Так. Я пакляўся свяшчэннай ракой, што заўсёды і ва ўсім буду разам з Праметэем.

Г е р м е с (*пасля паўзы, здзіўлена*). Ну і ну! Пацягнуў жа цябе нячысцік за язык даваць такую клятву. Гэта ўсё твая дружба з гэтым святататнікам Праметэем. З кім павядзешся — ад таго набярэшся… Не ведаю нават, што табе сказаць. Выблытвайся, брат, сам. А маё правіла — далей ад граху.

Г е р м е с знікае. Гефест стаіць збянтэжаны, разгублены.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Шматверхі, беласнежны, завоблачны, які там яшчэ? — Алімп. Палац Зеўса. З е ў с усаджваецца на троне. Спрабуе прыняць адпаведную для цара багоў і людзей паставу, але гэта яму чамусьці не ўдаецца, нешта перашкаджае. Ага, відаць, ён нечага асцерагаецца, бо неспакойна аглядваецца наўкол, пільна прыслухоўваецца. Потым злазіць з прастола, абыходзіць яго з усіх бакоў, заглядвае ва ўсе куткі палаца, нарэшце лезе пад трон, спалохана адскоквае і крычыць.

З е ў с. Гэй, вы! Сюды!

Убягаюць п р ы с л у ж н і к і.

(*Паказваючы пад трон*.) Там!.. Там нешта… Там нехта… Змова… Падкоп.

Адзін з прыслужнікаў лезе пад троннае крэсла і выцягвае адтуль вялікія гантэлі.

П р ы с л у ж н і к. Мой бог, гэта гантэлі… Вашы гантэлі.

З е ў с (*грозна*). Якія яшчэ гантэлі? Вакол змовы, смута, непакора. Праметэй падрывае асновы, падкопваецца пад трон, а ты мне гантэлі. Ну, адыдзі! (*Падыходзіць да гантэляў, асцярожна разглядае, дакранаецца канцом жэзла. Да прыслужнікаў*.) Чаго раты параскрывалі? Пайшлі вон! (*Стукае жэзлам аб падлогу*.) Брыарэй!

Як з-пад зямлі з’яўляецца Б р ы а р э й. Паводле міфа — гэта пачварны волат з пяццюдзесяццю галовамі і ста рукамі. У нас ён, пільны ахоўнік трона Зеўса, выглядае больш звычайна. Але яго рост, яго голас і асабліва яго вялікія кулакі, якія ён увесь час ускідвае пагражальна ўгору, павінны ўсё ж наводзіць страх. Словам, з’яўляецца Брыарэй.

З е ў с (*паказваючы на гантэлі*). Як ты думаеш, гэта што — гантэлі?

Б р ы а р э й. Гантэлі, мой цар.

З е ў с. Ці гэта нешта іншае? Ці гэта падкоп пад трон?

Б р ы а р э й (*з радаснай гатоўнасцю*). Падкоп пад трон! Змова! (*Узнімае ўгору кулакі і пагражальна трасе імі.*) У-у, гэтыя падкопшчыкі, гэтыя змоўшчыкі!

З е ў с (*іранічна ўсміхаючыся*). А ты не перабольшваеш? Можа, гэта ўсё-такі сапраўды гантэлі? Здаецца, я некалі займаўся з імі гімнастыкай. Ану, паспрабую выціснуць, як некалі ў маладосці. (*Нахіляецца над гантэлямі і спрабуе іх узняць, але не можа.*) Вось табе і ўсемагутны, вось табе і вечна малады. (*Да Брыарэя, грозна.*) Ты што глядзіш? Ты нічога не чуў і не бачыў! Ясна?!

Б р ы а р э й (*спалохана*). Ясна, мой цар.

З е ў с (*паказваючы на гантэлі*). Прыняць!

П р ы с л у ж н і к і па знаку Брыарэя выносяць гантэлі.

(*Садзіцца на трон, Брыарэю*). Сядзь побач.

Брыарэй садзіцца побач з Зеўсам, на сваё звычайнае, відаць, месца.

(*Прыхільна гледзячы на Брыарэя.*) Ну вось так лепш… Калі ты побач са мной, я адчуваю сябе спакайней. Ты адзіны тут, на Алімпе, на каго я магу спадзявацца, каму магу даверыцца. (*Паўза, другім тонам.*) Я магу давярацца табе? Ты да канца аддадзены мне?.. Га? Ці ты таксама разам са змоўшчыкамі?

Б р ы а р э й (*узнімаючы кулакі*). У-у, гэтыя змоўшчыкі! Ды я іх, мой цар…

З е ў с (*супакойваючыся, прымірэнча*). Ну, ладна, ладна… Цаню тваю адданасць. Нахіліся бліжэй.

Брыарэй нахіляецца да Зеўса, ён увесь адданасць і ўвага.

Дрэнь справы, Брыарэй. Сну няма. Ты ж ведаеш, як я спаў раней. Такога храпака даваў, што аж увесь Алімп ходырам хадзіў, камені падалі ўніз, на зямлю. А цяпер то кашмары сняцца, то зусім не сплю. Сёння зноў слухаў усю ноч, як спяваюць багіні лёсу. Нешта прадказваюць наконт трона. Як быццам бы гэты стары, на якім я сяджу, трэба замяніць новым, залатым. І зрабіць гэта павінен як быццам бы каваль Гефест…

Б р ы а р э й. У-у, гэты каваль Гефест!

З е ў с. Таму я рашыў узяць Гефеста на Алімп і прызначыць богам… (*Паўза*). І яшчэ сніўся кашмарны сон, як быццам бы аднекуль з'явіўся Праметэй з паходняй у руках…

Б р ы а р э й. У-у, гэты Праметэй! Ды я б яго!..

З е ў с. Не перабівай, дай даказаць… Значыць, паказвае мне паходню, смяецца задзірліва, а ў яго за спіной, бачу, тоўпяцца людзі, і таксама з паходнямі, і таксама нахабна смяюцца…

Б р ы а р э й. У-у, гэтыя людзі! Ды я б іх!..

З е ў с (*не звяртаючы ўвагі*). Я вось думаю: чаму яны прысніліся мне з паходнямі? Адкуль у іх мог з’явіцца агонь? Што б гэта ўсё магло значыць? Зеўсу сны проста так не сняцца, у Зеўса ўсе сны прарочыя…

З’яўляецца Г е р м е с.

Г е р м е с. Служу цару багоў і людзей! Адна нага тут, другая там.

З е ў с. Ты выканаў мой загад?

Г е р м е с. Так, ойча, толькі што быў у Гефеста.

З е ў с. Ты паведаміў яму аб маёй волі?

Г е р м е с. Так, ойча.

З е ў с. Ну і што Гефест? Ён рады? Ён удзячны мне?

Г е р м е с. Так, ойча. (*Запінаецца*.) Толькі…

З е ў с. Якое тут можа быць «толькі»?!

Г е р м е с. Толькі ён не ведае, як быць з клятвай.

З е ў с. З якой яшчэ клятвай? З клятвай служыць Зеўсу?

Г е р м е с. Калі б, ойча… А то ён пакляўся разам з Праметэем…

Б р ы а р э й. У-у, гэты Праметэй!

З е ў с. Пакляўся разам з Праметэем?

Г е р м е с. Так, ойча. Пакляўся разам з Праметэем водамі свяшчэннай ракі…

З е ў с (*гнеўна стукае жэзлам*). Водамі свяшчэннай ракі?!

Г е р м е с. Так, ойча… што ён з ім разам будзе верна і вечна служыць добрай справе, гэта значыць людзям.

З е ў с (*гневаецца яшчэ больш*). Што будзе верна і вечна служыць людзям?!

Г е р м е с. Так, ойча.

Паўза.

З е ў с (*разгневаны, з хвіліну моўчкі глядзіць перад сабой застыглым позіркам, крыху супакоіўшыся*). Та-ак… Зеўсу сны дарэмна не сняцца. Значыць, дайшло ўжо да клятвы. Зрэшты, ад Праметэя можна было чакаць усяго. А вось ад гэтага ціхага вырадка Гефеста я такога не чакаў. (*Да Гермеса*.) Ён што? Трапіў пад уплыў Праметэя? Перайшоў у яго веру?

Г е р м е с. Так, ойча. Гефест проста моліцца на Праметэя.

З е ў с. Не на мяне, а на Праметэя? Яны што — захацелі абодва ў тартар?

Б р ы а р э й (*радасна*). У тартар іх! У тартар!

З е ў с (*глядзіць у роздуме на Брыарэя*). У тартар? Але ж Гефест мне патрэбен, багіні лёсу мне пра яго напяваюць… Можа, лепш так: каго ў тартар, а каму нектар? Га?.. (*Да Гермеса*.) Значыць, Гефест рады, што я вяртаю яго на Алімп, але баіцца парушыць клятву.

Г е р м е с. Так, ойча.

З е ў с. А ты не мог растлумачыць яму, што толькі той верна служыць людзям, хто верна служыць Зеўсу?

Г е р м е с. Я не падумаў, ойча.

З е ў с. Не падумаў? Праметэй думае, а ты не падумаў!

Г е р м е с. Я думаў, ойча, што…

З е ў с (*злуючыся*). Ён думаў… Яшчэ адзін мысліцель знайшоўся! Хопіць з мяне Праметэя. (*Паўза*). Дык вось ты так і скажы Гефесту, што толькі аднаму Зеўсу вядома, што трэба людзям, і толькі той, хто служыць мне, той служыць людзям. Зразумела?

Г е р м е с. Так, ойча. Зразумела.

З е ў с. І зрабі так, каб Гефест неадкладна паспытаў нектару і амброзіі. Табе тут дапаможа Дыяніс. Дыяніс!

З’яўляецца Д ы я н і с.

Д ы я н і с (*весела*). Слаўся і пануй, вялікі Зеўс!

З е ў с. Паную і слаўлюся, а ты чым займаешся? Падыдзі бліжэй.

Дыяніс падыходзіць да Зеўса.

Дыхні… Та-ак. Ты паспеў ужо набрацца? З раніцы, як мага раней.

Д ы я н і с (*асабліва не бянтэжачыся, справа звычайная*). Служу цару багоў і людзей! Дэгусціраваў новы напітак. Нешта сярэдняе паміж вінам і нектарам.

З е ў с (*заінтрыгаваны*). Ну і як? (*Нахіляючыся з трона, ціха, па-змоўніцку*.) Які букет?

Д ы я н і с. Букецік яшчэ той, ойча! Выпіў кубак і не ведаю, дзе я, — на Алімпе, ці на сёмым небе.

З е ў с. Ну-ну! Пі, але справу рабі.

Д ы я н і с (*усё ў тым жа гулліва-вясёлым тоне*). Служу цару багоў і людзей!

З е ў с. Ведаеш што? Пачастуеш сёння разам з Гермесам каваля Гефеста. Можаш нават новым напіткам.

Д ы я н і с. Гатовы служыць цару багоў і людзей, але ж нектар — напітак багоў, а Гефест…

З е ў с. Нічога, я дазваляю. Гефест хутка будзе богам, раней, чым ты працверазееш. І вось ты пакажы яму, як і што п'юць-ядуць багі. Хай параўнае са сваімі праснакамі.

Д ы я н і с. Будзе зроблена, ойча. Па першаму разраду.

З е ў с (*да Дыяніса і Гермеса*). Ну, а пасля пачастунку адвезяце яго на Алімп, хай паглядзіць палац, алімпійскую кузню… Зразумелі?

Г е р м е с і Д ы я н і с (*разам*). Зразумелі.

Д ы я н і с. Служу цару багоў і людзей!

Г е р м е с. Адна нага тут, другая там.

Г е р м е с і Д ы я н і с выходзяць.

З е ў с (*задаволены, як мудра ён вырашае*). Афрадыта!

З'яўляецца багіня кахання, чароўная А ф р а д ы т а.

Б р ы а р э й. У-у, гэтая красуня!

З е ў с. А-а, цудоўнейшая з маіх багінь! Ёсць размова, Афрадыта… Адоніса аплакала, з Эротам разабралася, з Апалонам нацешылася, ці не так? Пара канчаць гэтыя гулі, пара выходзіць замуж за станоўчага чалавека… прабач, бога! Чуеш мяне, Афрадыта?

А ф р а д ы т а. Чую, мой уладар… Але толькі дзе ён, гэты станоўчы чалавек… прабач, бог?

З е ў с. Ён ёсць, дачка мая. Зеўс ведае, што кажа. Ты выйдзеш замуж за каваля Гефеста.

А ф р а д ы т а (*збянтэжаная ад нечаканасці*). За каваля… за Гефеста?.. Так… але я… я ж багіня…

З е ў с. Усё ў маёй уладзе. Заўтра Гефест стане алімпійскім богам, і ты з'явішся да яго ва ўсёй сваёй красе… Разумееш?

А ф р а д ы т а. Разумею, ойча. Толькі вось… Я ж багіня кахання, свабоднага кахання, а не шлюбу… Як мне тут быць, мой уладар?

З е ў с. Разважаць будзеш потым. Зеўс ведае, што кажа і што робіць. Паўтараю, заўтра ты павінна выйсці замуж за Гефеста, ці жаніць яго на сабе, паглядзі, што ў цябе лепш атрымаецца.

А ф р а д ы т а. Ясна, ойча.

Афрадыта выходзіць.

З е ў с (*да Брыарэя*). Вось так, мой верны вартавы. Што ты побач — гэта добра. Твае кулакі мяне супакойваюць.

Б р ы а р э й (*ускідваючы ўгору кулакі*). У-у!

З е ў с (*працягваючы*). Але сняцца трывожныя сны, настаюць новыя часы, і тут адных кулакоў мала. Трэба яшчэ варушыць і гэтым… (*Тыкае пальцам у скронь.*) Патрэбна яшчэ і хітрасць, патрэбна сякая-такая стратэгія, трэба глядзець: каму прыгразіць кулаком, а каго павабіць пальчыкам, каго ў тартар, а каму нектар.

Б р ы а р э й (*больш ахвотна акцэнтуючы на першай частцы*). Каго ў тартар… каго ў тартар, а каму нектар!

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Тая ж пляцоўка ля ўвахода ў пячору. Г е ф е с т  увіхаецца — мы бачым яго час ад часу ў праёме — у сваёй кузні. Ён, працуючы, спявае: «Высока мой молат ўзлятае: гэ-эх! Мой горан шугае…» і г. д.

Лёгка, ціха, каб не пачуў Гефест — тс-с-с, — убягаюць  А к і я н і д ы, гуллівыя, вясёлыя, светлыя ў сваіх блакітных уборах. Пераглядваюцца, прыслухоўваюцца да песні. Потым пачынаюць падпяваць: «Высока мой молат ўзлятае: гэ-эх!..» Гефест выглядвае з пячоры, усміхаецца.

Г е ф е с т. А-а, гэта вы, гарэзы.

А к і я н і д ы (*разам*). Гэта мы, Гефест!

Г е ф е с т. Добра, што вы прыйшлі. У мяне для вас кольвечышто знойдзецца. Хвілінку. (*Знікае ў пячоры.*)

А к і я н і д ы (*радуючыся, спяваюць і скачуць, узяўшыся за рукі*).

Добра, што мы прыйшлі,
добра, што мы прыйшлі,
добра, што мы прыйшлі,
Гефест нам зрабіў падарункі.

Гефест выходзіць з пячоры з аздобамі ў руках.

Г е ф е с т. Ну вось, весялухі-скакухі… Хто прасіў зрабіць бранзалет?

П е р ш а я  А к і я н і д а. Я, Гефест! Вядома, я.

Г е ф е с т. Вось ён. Калі ласка.

Першая Акіяніда падбягае да Гефеста, бярэ бранзалет, дзякуе, адышоўшы, разглядае і прымярае падарунак.

А хто хацеў мець кліпсы?

Д р у г а я А к і я н і д а. Я, Гефест! Кліпсы — мая мара!

Г е ф е с т. Вось яны. Бяры і радуйся.

Другая Акіяніда падбягае да Гефеста, бярэ кліпсы.

А каму я абяцаў кулон?

Т р э ц я я А к і я н і д а. Мне, Гефест! Каму ж яшчэ! Ён мне сёння сніўся.

Г е ф е с т. Вось ён. Насі на шчасце.

Трэцяя Акіяніда падбягае да Гефеста, бярэ падарунак. Цяпер ужо ўсе Акіяніды разам радуюцца падарункам, разглядаюць іх, прымерваюць. Чуваць воклічы захаплення. Гефест задаволена ўсміхаецца, назіраючы ўсё гэта.

П е р ш а я А к і я н і д а. Дзякуй, Гефест. Ты малайчына, ты ўмееш трымаць слова: сказаў, што зробіш, — і зрабіў.

Д р у г а я А к і я н і д а. Дзякуй, Гефест. Ты слаўны, у цябе залатыя рукі!

Т р э ц я я А к і я н і д а. Дзякуй, Гефест. Ты сапраўдны друг. Мы любім цябе, Гефест!

А к і я н і д ы (*узяўшыся за рукі, кружацца вакол Гефеста і напяваюць*):

Дзякуй, Гефест,
ты слаўны, Гефест,
мы любім цябе, Гефест.
Мы любім цябе,
мы любім цябе,
мы любім цябе, Гефест!

Г е ф е с т (*збянтэжана ўсміхаецца*). Ну хопіць вам дзякаваць ды прызнавацца ў любві. Вы лепш скажыце, каго вы любіце больш за мяне і дзеля каго надзенеце свае новыя аздобы?

П е р ш а я А к і я н і д а. Каго мы любім больш за цябе?

Д р у г а я А к і я н і д а. Дзеля каго мы надзенем новыя аздобы?

Т р э ц я я А к і я н і д а. Каго?.. Дзеля каго?..

Г е ф е с т. Ладна, я вам падкажу. Можа, Праметэя? Можа, дзеля яго?

А к і я н і д ы (*разам*). Можа, Праметэя? Можа, дзеля яго?

Г е ф е с т (*смеючыся*). Ну, вядома. Шкада толькі, што яго няма з намі. Ён быў тут нядаўна і пайшоў зноў да людзей.

П е р ш а я  А к і я н і д а. Ён быў тут нядаўна?

Д р у г а я  А к і я н і д а. І пайшоў зноў да людзей?

Т р э ц я я  А к і я н і д а. Ён быў тут нядаўна і пайшоў зноў да людзей?

Г е ф е с т. Так, пайшоў да людзей. Ён іх вельмі любіць і шкадуе.

П е р ш а я  А к і я н і д а (*узрушана*). Ён іх вельмі любіць і шкадуе? (*З адчаем*.) Гефест, дарагі, ён іх любіць больш, чым мяне… чым нас! Навошта яны яму, гэтыя людзі!

Д р у г а я  А к і я н і д а (*тым жа голасам*). Гефест, дарагі, ён любіць іх больш, чым мяне… чым нас!

Т р э ц я я  А к і я н і д а. Навошта яны яму, гэтыя людзі!

Г е ф е с т (*уражаны словамі Акіянід*). Не ведаю, навошта яму людзі, але вы, бадай, сказалі праўду: Праметэй любіць іх больш, чым вас, чым усіх нас, у тым ліку і мяне, свайго адзінага друга.

П е р ш а я  А к і я н і д а. Дык што ж ён робіць? Што ж гэта будзе?

Д р у г а я  А к і я н і д а. Дык што ж ён робіць?

Т р э ц я я  А к і я н і д а. Што ж гэта будзе?

А к і я н і д ы (*разам*). З намі ўсімі? З ім самім?

Раптоўна з’яўляецца Г е р м е с.

Г е р м е с. Я магу адказаць вам на вашы пытанні, нявіннаблакітныя стварэнні. Праметэй любіць людзей больш, чым сваіх Акіянід, — гэта яшчэ туды-сюды. Праметэй любіць людзей больш, чым свайго сябра, — гэта таксама цярпіма. Але вось тое, што Праметэй любіць людзей больш, чым самога Зеўса, гэтага Зеўс яму ніколі не даруе. Зеўс урэшце возьме яго за жабры.

А к і я н і д ы (*спалохана, адна за другой*). Зеўс яму не даруе? Зеўс Праметэя?.. Возьме за жабры?

Г е р м е с. А як жа вы думалі? Такі лёс усіх богазневажальнікаў… Ну, а што да Гефеста, то яму багі спрыяюць. Ён скора развітаецца са сваёй пячорай і ўзыдзе на Алімп. Ён вам пра гэта нічога не гаварыў?

А к і я н і д ы (*радасна-здзіўлена*). Яму багі спрыяюць? Ён скора развітаецца з пячорай? І ўзыдзе на Алімп?

Г е р м е с. Уявіце сабе. Ну, а што да вас саміх, то вы будзеце, з аднаго боку, аплакваць горкі лёс свайго любімчыка Праметэя, а з другога — час ад часу цешыцца аздобамі, якія вам будзе рабіць па старой дружбе Гефест. А цешыцца будзе чым, бо аздобы гэтыя будуць зроблены не з якой-небудзь медзі, а з чыстага золата і серабра, і будуць зроблены не ў гэтай курнай, цёмнай пячоры, а ў раскошнай боскай кузні. Ясна, мае блакітнавокія рыбкі? Ну, ды гэта тое, што будзе заўтра. А зараз мы будзем весяліцца! Зараз тут будзе Дыяніс!

А к і я н і д ы (*у адзін голас*). Сам Дыяніс?! Вось гэта здорава!

З'яўляецца, верхам на асле, бог віна і весялосці Д ы я н і с, абвіты хмелем і вінаградняй лазой. За ім — яго нязменная світа: гуллівыя, поўныя жыцця в а к х а н к і, захмялелыя с а т ы р ы, м у з ы к а н т ы. Вакханкі кружацца ў тэмпераментным танцы, сатыры няўклюдна скачуць, крыўляюцца. Дыяніс сыходзіць з асла, ідзе да Гефеста.

Д ы я н і с. Прымай гасцей, Гефест! Хопіць каваць-працаваць! Будзем нектар смакаваць! Будзем скакаць ды спяваць!

С в і т а.

Хопіць, Гефест, каваць-працаваць!
Будзем, Гефест, нектар смакаваць!
Будзем скакаць ды спяваць!

Звіняць тымпаны, б'юць бубны, усе танцуюць, утварыўшы агульны круг, у які ўцягваюцца таксама Акіяніды і Гефест.

Дайце спачын рукам,
а сэрцу — віна, весялосці.
Прыйшоў Дыяніс,
прыйшоў бог вясёлы у госці.
Прыйшоў Дыяніс,
прыйшоў спадарожнік наш
вечны.
Прыйшоў Дыяніс,
хмелем зялёным увенчаны.
Прыйшоў Дыяніс,
лазой вінаграднай абвіты.
Прыйшоў Дыяніс
з сваёю нязменнаю світай.
Прыйшоў Дыяніс —
яму давярайце ўсе тайны.

Прыйшоў Дыяніс —
яму задавайце пытанні.
На вашы пытанні
адкажа ён мудра і смела:
«Піць трэба віно —
і стане ўсё зразумела.
Піць трэба віно —
і вы натоліце прагу.
Піць трэба віно —
і вы адшукаеце праўду…»
Прыйшоў Дыяніс,
прыйшоў бог вясёлы у госці.
Дайце спачын рукам,
а сэрцу — віна, весялосці.

Тымпаны і бубны сціхаюць, карагод спыняецца.

Д ы я н і с. Віна! Нектара!

Падносяць чашы з напіткам. Дыяніс бярэ адну і падае Гефесту. Той не рашаецца браць, бянтэжыцца: упершыню ж такое.

Бяры, Гефест, бяры, Гефест, сам Дыяніс табе дае.

Г е р м е с (*ён таксама з чашай у руцэ*). Бяры, Гефест, бяры, Гефест, сам Дыяніс табе дае.

У с е. Бяры, Гефест, бяры, Гефест, сам Дыяніс табе дае.

Гефест нясмела бярэ чашу.

Д ы я н і с. Пі, Гефест, у тваіх руках напітак багоў!

Г е р м е с. Пі, Гефест, у тваіх руках напітак багоў. Яго п’юць Зеўс і Гера, яго п’юць Апалон і Афрадыта, Арэс і Афіна, яго п’ём мы з Дыянісам. Яго п’юць толькі багі, і ніхто больш, апрача багоў. Зеўс выбраў аднаго цябе, акрамя багоў, толькі цябе так уганараваў — піць напітак багоў нектар… Пі, Гефест!

У с е. Пі, Гефест, пі, Гефест, пі напітак багоў нектар!

Гефест нарэшце рашыўся прыгубіць чашу. Цяжка сказаць, спадабаўся яму напітак ці не. Ён разгублена азіраецца: ці піць далей?

У с е (*яго дружна заахвочваюць*). Пі, Гефест, пі, Гефест, пі напітак багоў нектар!

Гефест апаражняе чашу, хмялее, на яго твары блукае незнаёмая нам да гэтага ўсмешка.

Г е р м е с. Ну як, Гефест? Спадабаўся табе напітак багоў нектар?

Г е ф е с т (*у яго ўжо крыху заплятаецца язык*). Сп-падабаўся.

Г е р м е с. Ну вось бачыш. А зараз мы пачастуем цябе амброзіяй.

Д ы я н і с. Амброзіі! Амброзіі! Гефесту!

Прыносяць чашу з амброзіяй. Дыяніс бярэ і падае Гефесту. Той, зноў-такі, не рашаецца спачатку браць.

Бяры, Гефест, бяры, Гефест, сам Дыяніс табе дае!

Г е р м е с. Бяры, Гефест, бяры, Гефест, сам Дыяніс табе дае!

У с е. Бяры, Гефест, бяры, Гефест, сам Дыяніс табе дае!

Гефест бярэ чашу з амброзіяй.

Д ы я н і с. Еш, Гефест, у тваіх руках амброзія — ежа багоў!

Г е р м е с. Еш, Гефест, у тваіх руках амброзія — ежа багоў. Яе ядуць толькі багі, і ніхто больш, апрача багоў. Зеўс выбраў аднаго цябе, акрамя багоў, толькі цябе так уганараваў — есці ежу багоў амброзію. Еш, Гефест!

У с е. Еш, Гефест, еш, Гефест, еш амброзію — ежу багоў!

Гефест спрабуе амброзію, відаць, яда падабаецца.

Г е р м е с. Ну як? Смачна?

Г е ф е с т (*збянтэжана аблізваючыся*). См-мачна.

Г е р м е с. Ну вось, бачыш. А я табе што казаў? А калі ты станеш богам, будзеш кожны божы дзень піць нектар і есці амброзію. Праўда, Дыяніс?

Д ы я н і с. Вядомая справа, а што ж яшчэ рабіць на Алімпе, як не есці і піць, не піць і есці… Эй! Віна! Нектару! Амброзіі! І піць будзем, і гуляць будзем!

Г е ф е с т (*ён яўна захмялеў*). І піць будзем, і гуляць будзем. (*Спахопліваецца.*) Не, не будзем… Не буду… Не хачу… Не магу… У мяне ў пячоры ёсць свой абед… у мяне ёсць поўны жбан вады, і ёсць сыр і праснакі…

Г е р м е с. Ха-ха-ха! Вы чуеце, што ён кажа! Яго сам Дыяніс частуе нектарам і амброзіяй, а ён пра ваду і праснакі… Ха-ха-ха!

Усе смяюцца. Зноў прыносяць чашы з напіткам і ежай багоў.

Д ы я н і с (*падносячы чашу Гефесту і беручы другую сабе*). Вып’ем, Гефест, за слодыч і радасць жыцця!

Г ер м е с (*таксама бярэ чашу*). Вып’ем, Гефест, за слодыч і радасць жыцця! Новага жыцця твайго!

У с е. Вып’ем, Гефест, вып’ем, Гефест, за слодыч і радасць жыцця!

Выпіваюць. Гефест таксама. Зноў гучаць тымпаны і бубны, усе кружацца ў карагодзе, скачуць, спяваюць: «Прыйшоў Дыяніс…» Спявае і смешна скача на сваіх крывых нагах і Гефест. Пасля, па знаку Гермеса, яго садзяць на асла і вязуць на Алімп. Сцэна пусцее. Усталёўваецца нейкая незвычайная цішыня. І ў гэтай цішыні, недзе за сцэнай, чуваць голас Гефеста: «Праметэй!.. Праметэй!» У гэтым голасе і надзея на выратаванне, і развітальная туга.

З’яўляецца П р а м е т э й.

П р а м е т э й (*устрывожана*). Здаецца, мяне клікаў Гефест. Але дзе ты? Гефест, дзе ты? (*Заглядвае ў пячору*.) Гасне агонь у горне, абед стаіць некрануты… Што здарылася? Дзе ён можа быць? (*Аглядвае пляцоўку, прынюхваецца*.) Пахне Алімпам. Тут толькі што балявалі. Тут быў Дыяніс са сваёй кампаніяй… Але што яму тут трэба было? Навошта яму было сюды з’яўляцца? Што яшчэ задумаў Зеўс?.. (*Пасля паўзы*.) Так-так, здаецца, здагадваюся. Зеўсу для нечага спатрэбіўся Гефест, і яго павезлі на Алімп… Напаілі нектарам і павезлі. (*Цяжка апускаецца на камень, які ляжыць ля ўвахода ў пячору, і ахоплівае рукамі галаву*.)

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Г е ф е с т прачынаецца раніцай у сваім новым жыллі, у алімпійскім палацы, куды яго прывезлі напярэдадні Гермес з Дыянісам. Узнімае галаву, здзіўлена азіраецца: што гэта — сон ці ява?

Г е ф е с т (*спахопліваючыся*). Позна ўжо… Чаго гэта я разаспаўся сёння?

З'яўляецца п р ы с л у ж н і к.

П р ы с л у ж н і к. Служу богу Гефесту!

Г е ф е с т (*здзіўлена глядзіць на яго*). Служыш? Каму служыш? Дзе гэта я?

П р ы с л у ж н і к. На Алімпе, у алімпійскім палацы. Якія будуць загады?

Г е ф е с т. Загады?.. Якія загады?

П р ы с л у ж н і к. Любыя… Розныя… Ну, можа, ёсць якія жаданні? Можа, бог Гефест чаго-небудзь хоча? (*Пляскае ў далоні*.) Нектара і амброзіі богу Гефесту.

Прыносяць і ставяць перад Гефестам боскі сняданак.

(*Зноў пляскае ў далоні*). Туніку і плашч!

Прыносяць туніку і плашч, рабалепна кладуць іх.

(*Да Гефеста*.) Якія яшчэ будуць загады? Што яшчэ трэба?

Г е ф е с т (*усё так жа няўцямна, здзіўлена*). Загады? Мне трэба ў кузню, трэба распаліць горан…

П р ы с л у ж н і к. Не турбуйся, бог Гефест. Ужо ўсё даўно гатова: горан распалены, метал падрыхтаваны, памочнікі нагатове.

Г е ф е с т. Усё даўно гатова?

П р ы с л у ж н і к. Так, бог Гефест. Ты можаш пераканацца ў гэтым сам. Калі ласка.

Прыслужнік ідзе да адных з дзвярэй, адчыняе іх, запрашае зайсці Гефеста. Той заходзіць. Мы самі не бачым, што там за боская кузня, але можам здагадвацца па ззянні, якое ідзе ад яе, па рэакцыі Гефеста, які выказвае захапленне ўсім, што ён там бачыць: «О-о! Вось гэта кузня! Які горан! Які

молат! А колькі тут металу! О-о, ды гэта ж золата і серабро!»
Гефест выходзіць з кузні ўражаны, яго твар ззяе ад захаплення.

Усё ў парадку, бог Гефест?

Г е ф е с т. Так, усё гатова. (*Няўпэўнена.*) Я магу тут каваць?..

П р ы с л у ж н і к. Так. Гэта твая кузня, бог Гефест. Усё тут належыць табе. Якія будуць яшчэ загады?

Г е ф е с т (*машынальна, уражаны ўбачаным*). Ніякіх не будзе… няма ніякіх…

П р ы с л у ж н і к знікае.

(*Адчыняе дзверы ў кузню.*) Ён гаворыць, што тут усё маё. Няўжо гэта праўда? О, калі б я меў такую кузню! (*Паўза, любуецца моўчкі.*) Які горан! Як ззяе, як палае агонь! Чакайце, дык гэта ж і ёсць той самы Зеўсаў, той самы нязгасны, алімпійскі агонь! (*Бегае па сцэне, узрушаны сваім адкрыццём.*) Той самы чарадзейны агонь, пра які мне не раз казаў Праметэй і якога Зеўс пазбавіў людзей!.. Што рабіць? Калі б тут быў Праметэй… Праметэй!

З’яўляецца П р а м е т э й, захутаны да вачэй у плашч.

П р а м е т э й. Я тут, Гефест. Ты мяне клікаў?

Г е ф е с т (*радасна*). Ты, Праметэй! Ты знайшоў мяне!

П р а м е т э й. Я яшчэ на досвітку прабраўся ў палац… Калі ты клікаў мяне ўчора — я пачуў і адразу прыбег да пячоры. Але цябе ўжо не было. І я здагадаўся, што адбылося і дзе ты. Я пайшоў следам. І вось я тут.

Г е ф е с т. Добра, што ты прыйшоў! Ты ведаеш, што там? (*Паказвае на дзверы, якія вядуць у кузню.*) Там кузня… Але не звычайная, не такая, як у нашай пячоры. І там, у горне, гарыць алімпійскі агонь. Той самы агонь, Праметэй, пра які ты даўно марыш. Глядзі! (*Адчыняе дзверы ў кузню.*) Бачыш!

П р а м е т э й (*пасля паўзы, усхвалявана*). Бачу, Гефест. Бачу і вачам сваім не веру. Няўжо гэта праўда?

Г е ф е с т. Праметэй, паслухай, ты ж хацеў мець такі агонь?

П р а м е т э й. Так, Гефест. Гэта маё самае вялікае, самае запаветнае жаданне. Я павінен даць людзям гэты агонь… Інакш яны загінуць.

Г е ф е с т. Дык лічы, што тваё жаданне збываецца, што агонь у нашых руках.

П р а м е т э й (*пільна глядзіць на Гефеста*). Гэта праўда, Гефест?

Г е ф е с т. Так, Праметэй. Мы ж з табой пакляліся… І мы зараз, пакуль тут нікога няма, возьмем агонь з горна, і ты можаш несці яго людзям.

П р а м е т э й. Дзякуй, Гефест! Ты сапраўдны друг… Значыць, за работу? (*Заглядваючы ў кузню.*) Толькі як узяць агонь? Што тут прыдумаць?

Г е ф е с т. Не хвалюйся, зараз што-небудзь прыдумаем. (*Нешта шукае.*) Хвілінку. Дзе ж гэта мая мыліца? Ага, вось яна, вось яна, мая трэцяя нага. (*Узнімае нартэкавы кіёчак.*) Лічы, што знайшлі выхад. Гэты кіёчак — якраз тое, што нам і трэба. Ён выручаў мяне не раз, калі я ўзбіраўся ў горы ці спускаўся ў даліну, я заўсёды мог смела на яго апірацца. Цяпер ён зноў паслужыць нам.

П р а м е т э й. Як, якім чынам?

Г е ф е с т. Ды вельмі проста. Ён жа, паглядзі, усярэдзіне парожні, я апушчу яго ў горан, асяродак загарыцца, і агонь будзе як бы схаваны ў футарале. Бяры і нясі, калі ласка.

П р а м е т э й. Здорава прыдумана! Калі хто і сустрэнецца, дык нічога не западозрыць. Толькі, скажы, ці паспею я данесці агонь? Сам кіёк не загарыцца?

Г е ф е с т. Паспееш. У нартэка тоўсты асяродак і гарыць вельмі доўга. Усё. Я іду па агонь, а ты тут пабудзь, папільнуй. (*Ідзе ў кузню, адтуль чуваць яго голас.*) О, Праметэй, з гэтым агнём жарты дрэнныя. Ён сваю справу ведае, ён ужо спапяляе сарцавіну, ён ужо там!.. (*Выходзіць, асцярожна несучы ў дзвюх руках нартэк і радасна гледзячы на Праметэя.*) На, трымай! Ён твой.

П р а м е т э й (*беручы кіёк і заглядваючы ўсярэдзіну*). Гарыць! Сапраўды гарыць! У нас ёсць алімпійскі агонь! (*З удзячнасцю і захапленнем глядзіць на Гефеста.*) Гефест, друг мой, гэта сон ці сапраўднасць?

Г е ф е с т (*усміхаючыся*). Сапраўднасць, Праметэй. Такая ж сапраўднасць, як тое, што мы з табой цяпер побач.

П р а м е т э й. І гэты дар… (*падшукваючы словы*) гэты скарб ты аддаеш мне? Я магу ім як хачу распарадзіцца?

Г е ф е с т. Так, Праметэй. Ты шмат для мяне зрабіў, і я рады табе аддзячыць, рады памагчы табе. Я разам з табой пакляўся служыць людзям, і я рады, што наша клятва здзяйсняецца.

П р а м е т э й. Дзякуй, Гефест! У мяне сёння шчаслівы дзень. Я двойчы шчаслівы! Таму, што збываецца нарэшце мая

мара. І яшчэ таму, што я пераканаўся канчаткова: у мяне ёсць сапраўдны друг. Гэта вельмі важна, што мы з табой разам. Калі адзін, калі табе няма каму ўсміхнуцца, любая радасць будзе для цябе палавінчатая. Поўная яна можа быць толькі тады, калі да яе мае дачыненне яшчэ нехта. (*Паўза. Глядзіць на Гефеста.*) Я шчаслівы, Гефест. Але непакоіць адна акалічнасць.

Г е ф е с т. Якая, Праметэй?

П р а м е т э й. Я быў бы дрэнным сябрам, калі б не сказаў табе цяпер, што нас чакаюць выпрабаванні. Ты ж сам разумееш, што Зеўс не даруе нам таго, што агонь трапіць да людзей. І вось я цяпер і радуюся і адначасова думаю: ці маю я права ставіць цябе пад небяспеку? Я баюся, каб не была занадта вялікай твая ахвяра на алтар нашай дружбы… За сябе я не баюся. Я ўжо даўно змагаюся з тыранам, я ведаю, на што іду, я гатовы да ўсяго. А вось ты…

Г е ф е с т. Не бойся за мяне, Праметэй. Я таксама гатовы да ўсяго. І што б ні здарылася — я таксама не буду ні аб чым шкадаваць, я заўсёды буду верны нашай дружбе і нашай клятве.

П р а м е т э й (*глуха, з хваляваннем*). Дзякуй, Гефест. Ты сапраўдны друг. І для мяне гэта вельмі дарага. І тым больш я не хацеў бы ставіць цябе пад удар. Давай мы дамовімся так: калі што здарыцца, то ўсю віну я вазьму на сябе, я скажу, што гэта я сам, без чыёй-небудзь дапамогі, выкраў агонь і аднёс яго людзям. Магло ж быць і такое, ці не праўда? Дамовіліся, Гефест?

Г е ф е с т. Не, не трэба так, Праметэй. Мы ж пакляліся з табой.

П р а м е т э й. Ладна, не будзем спрачацца, не будзем траціць час. (*Заглядваючы ў нартэк.*) Гарыць! Я іду. Людзі, я іду да вас! На гэты раз — са свяшчэнным агнём. Ён загарыцца зараз у вашых ачагах і горнах, ён запаліць надзею у вашых сэрцах!.. Бывай, Гефест!

Рашучым крокам Праметэй пакідае сцэну, захінуўшы палой плашча нартэк з агнём. Гефест стаіць як укопаны. Потым раптам парываецца ўслед за ім.

Г е ф е с т. Чакай, Праметэй!.. Чаму ты пакінуў тут мяне? Мне таксама трэба ісці… у сваю пячору… у сваю кузню… Навошта мне іх нектар? Навошта мне іх туніка? Навошта мне іх кузня? Мне трэба ісці да сябе дамоў, і працаваць там, і чакаць там цябе.

Лёгка, бясшумна, нібы з паветра, з’яўляецца перад Гефестам
А ф р а д ы т а.

А ф р а д ы т а. А мяне ты не чакаў, Гефест?

Г е ф е с т (*уражаны такім цудам*). Цябе?.. Хто ты?.. Харыта?

А ф р а д ы т а. Ну што ты, Гефест… Якая ж я Харыта! Перад табой багіня з багінь — Афрадыта.

Г е ф е с т. Афрадыта?

А ф р а д ы т а. Так, Гефест. І я прыйшла сказаць табе, што па волі Зеўса я павінна стаць тваёй жонкаю, каб цябе кахаць і нарадзіць табе дзяцей слаўных.

Г е ф е с т (*збянтэжана*). Па волі Зеўса… стаць маёй жонкай… каб мяне кахаць… і каб нарадзіць дзяцей…

А ф р а д ы т а. Так, Гефест. Такая воля Зеўса.

Г е ф е с т. Такая воля Зеўса? (*Паўза*.) А сама ты… сама ты зможаш… захочаш любіць мяне… такога (*Аглядвае сябе, свае скалечаныя ногі*.)

А ф р а д ы т а (*падыходзячы бліжэй да Гефеста*). Я ўдзячна, Гефест, Зеўсу, што па яго волі суджаным стаў якраз ты. Бо калі я цябе ўбачыла, то пакахала адразу, з першага погляду.

Г е ф е с т. Пакахала… з першага погляду?

А ф р а д ы т а. Так, Гефест. (*Пяшчотна дакранаецца рукой да яго пляча*.) Якія ў цябе шырокія плечы! Якія ў цябе вялікія рукі! Якая моцная шыя! Які мужны і адкрыты твар! Ніхто на Алімпе не можа зраўняцца з табой, ні ў каго тут няма такіх плячэй і рук, такога твару. Павер мне…

Г е ф е с т. І ты зусім не глядзіш на мае ногі? (*Да залы*.) Яна нават не глядзіць на мае ногі! Яна зусім не зважае на тое, што я кульгавы! (*Да Афрадыты*.) Мне ніколі ніхто так не гаварыў. Праўда, Акіяніды казалі, калі я дарыў ім аздобы, што яны мяне любяць, але яны казалі зусім не так, як ты… І яны глядзелі на мае ногі. (*Нерашуча*.) Ты сапраўды кахаеш мяне і хочаш стаць маёй жонкай?

А ф р а д ы т а. Так, Гефест. А ты? Ты згодны ўзяць мяне ў жонкі?

Г е ф е с т. Я згодны. Ты такая прыгожая і такая добрая. Ты зусім не зважаеш на мае ногі… Але я, Афрадыта, павінен вярнуцца ў сваю пячору.

А ф р а д ы т а (*спалохана*). Ты павінен вярнуцца ў сваю пячору?

Г е ф е с т. Так, Афрадыта. Мне трэба быць там. Там мая кузня, там маё ўсё. (*Нясмела*.) Вось калі б ты згадзілася пайсці са мной… Нам было б добра там. Я ўмею ўсё рабіць. Я б нарабіў табе такіх аздоб!.. Днём мы працавалі б, а вечарам мы сядзелі б каля пячоры на траве і слухалі б, як заліваюцца цыкады, як у даліне грае на сваёй жалейцы пастух. Ён так хораша грае кожны вечар!.. І да нас прыходзіў бы Праметэй. Ты б гатавала нам вячэру. І мы б разам вячэралі, гутарылі і слухалі, як іграе пастух, і глядзелі б, як заходзіць сонца…

А ф р а д ы т а (*смеючыся*). Я б гатавала вячэру? Цікава, а што б мы там у цябе елі?

Г е ф е с т. Мы б елі праснакі, сыр, алівы…

А ф р а д ы т а. Праснакі… Упершыню чую пра такую яду… Гефест, дарагі! Я ж багіня, а багіня можа есці толькі амброзію і піць толькі нектар. Інакш я перастану быць маладой і прыгожай. І ты першы перастанеш мяне кахаць.

Г е ф е с т. Не, Афрадыта, якой бы ты ні стала, я ўсё адно буду цябе кахаць… Хадзем са мной, Афрадыта! Нам будзе там добра…

А ф р а д ы т а. Не, Гефест, гэта немагчыма. Я багіня, і я павінна жыць на Алімпе, піць нектар і есці амброзію. Ды і Зеўс не дазволіць мне быць тваёй жонкай, калі ты не станеш богам і не будзеш жыць на Алімпе… Ты ж становішся богам, Гефест?

Г е ф е с т (*пасля паўзы*). Так… Але я даў клятву.

А ф р а д ы т а. Ты даў клятву? Якую?

Г е ф е с т. Я пакляўся свяшчэннай ракой…

А ф р а д ы т а (*спалохана*). Ты пакляўся свяшчэннай ракой?..

Г е ф е с т. …што буду разам з Праметэем верна і вечна служыць добрай справе, дапамагаць людзям. Я пакляўся і я павінен ісці…

А ф р а д ы т а. Не, Гефест, ты зусім не павінен нікуды ісці. Хай ідзе твой Праметэй, а ты павінен заставацца тут. Такая воля Зеўса, а вышэй за яе нічога няма.

Г е ф е с т. Але ж я не магу парушыць клятву.

А ф р а д ы т а. А ты яе і не парушыш. Нічога не робіцца без вышэйшай волі Зеўса. І толькі той, хто выконвае яго волю, той можа рабіць дабро і дапамагаць людзям.

Г е ф е с т. Толькі той, хто выконвае волю Зеўса, можа рабіць дабро? Гэта праўда?

А ф р а д ы т а. Так, Гефест, гэта праўда. Ты павінен быць удзячны Зеўсу за свой лёс, за наша з табой шчасце і павінен няўхільна выконваць яго волю, верна служыць яму. (*Гулліва, какетліва.*) Ну і, вядома, мне, сваёй багіні, сваёй суджанай, сваёй жонцы… Ці ведаеш ты, што такое — каханне? Не ведаеш. А тварыць дабро — гэта перш за ўсё кахаць… Не, Гефест, ты нікуды не пойдзеш, ты застанешся на Алімпе, са мной. Дзеля мяне, дзеля кахання. І мы будзем з табой шчаслівыя. Ну скажы мне, Гефест, што ты нікуды не пойдзеш, што ты застаешся тут.

Г е ф е с т (*вагаецца*). Але ж я… мы з Праметэем…

А ф р а д ы т а. Гефест, мой дарагі, мой багароўны! Навошта табе твой Праметэй? Ёсць мы з табой, ёсць ты ў мяне, а я ў цябе, і ніхто нам больш не патрэбны. (*Зноў дакранаецца рукой да пляча Гефеста.*) У цябе такія плечы, такія грудзі!..

З'яўляецца Г е р м е с. Насмешліва глядзіць на Гефеста і Афрадыту.

Г е р м е с (*дэкламуе*).

Гэй, столь вышэй узнімайце, —
о Гіменэй!
Ідуць жаніх і нявеста, —
о Гіменэй!

А ф р а д ы т а. Мы цудоўна і без цябе абыходзіліся… Хто цябе прасіў з'яўляцца тут?

Г е р м е с. Ты ж ведаеш, хто мяне пасылае. Зеўс хоча бачыць Гефеста.

А ф р а д ы т а. А-а… Да пабачэння, Гефест (*пакідае сцэну*).

Г е р м е с (*падмігвае Гефесту*). А я што табе казаў? Брава, брава! Ты робіш поспехі. Сама Афрадыта завітала… Некаторым багам паказвала ад варот паварот. А з табой, гляджу, забуркавала, бы тая галубка.

Г е ф е с т (*з летуценна-шчаслівай усмешкай на твары*). Такая прыгожая, такая незвычайная… І нават ні разу не паглядзела на мае ногі.

Г е р м е с. Ну вось бачыш, што значыць з'явіцца на Алімпе… І гэта табе не твая чарнапятая пастушка і не нейкая там земнаводная — ні рыба, ні мяса — Акіяніда… Гэта — падумай толькі — сама Афрадыта, сама багіня любві! Шчаслівчык ты, Гефест!.. Ну, а зараз збірайся, ідзем да Зеўса.

Г е ф е с т. Да Зеўса? (*Адступае спалохана назад.*)

Г е р м е с. Так. Цябе прымае сам цар багоў і людзей. Ён хоча ўрачыста прадставіць цябе як новага бога свайму Алімпу. Ну, а пасля, як тут заведзена, цябе, наваяўленага бога, успырскнуць. Прадбачу, брацe, які будзе выпівон-закусон. Амброзію гатуе асабісты кухар Зеўса пад наглядам самой Геры. Дыяніс адчыніць новую бочку нектару. Марскі бог Пасейдон сам паляцеў па свежую ікру і рыбу. (*Змаўкае, прагна ўцягвае ноздрамі паветра*.) Чуеш? Зеўсаў кухар прыступіў ужо да работы. Ды гэта ж толькі пачатак. А што будзе праз гадзіну-другую. Увесь боскі Алімп будзе глытаць слінку, пасля пачне піць ды есці. Ну і цябе, вядома, не абыдзе чаша гэта. Як віноўнік урачыстасці ты будзеш сядзець побач з Зеўсам, і ўжо табе дастанецца лепшы ласунак… Вось так. А ты задзёўб: Праметэй, людзі, клятва… Запомні, што калі ёсць сэнс каму служыць, дык толькі Зеўсу.

Г е ф е с т. Яна… Афрадыта казала мне тое ж самае.

Г е р м е с. Ну вось бачыш. (*Пляскае ў далоні*.)

З’яўляюцца п р ы с л у ж н і к і.

Памажыце богу Гефесту найлепш апрануцца — ён узнімаецца да Зеўса.

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

З е ў с — на троне. Справа ад яго, на сваім пастаянным месцы, Б р ы а р э й, злева — Г е ф е с т, якога мы ледзьве пазнаём: настолькі яго змяніла алімпійская апратка. За круглым ці хутчэй за ўсё за прадаўгавата-авальным сталом — б а г і  і  б а г і н і. Пануе святочна-прыўзняты настрой, небажыхары смяюцца, жартуюць, весела перагаворваюцца адзін з адным, ну і, вядома, п’юць віно і нектар, ядуць амброзію. Д ы я н і с ледзьве паспявае абыходзіць круг і напаўняць чашы і кубкі. Не абыходзіцца і без гімна, бо сярод багоў прысутнічае вядомы ўсім нам А п а л о н. Чуваць галасы: «Апалон, давай гімн!», «Увага, Апалон прачытае гімн!», «Калі ласка, калі ласка, Апалон!», «Слухаем цябе, Апалон!», «Цар багоў і людзей чакае, Апалон!»

А п а л о н (*устаючы са свайго месца і звяртаючыся да Зеўса*).

Табе мая песня, цар багоў і людзей найвялікшы!
Славіць муза цябе, славіць міласць і мудрасць
тваю,
Славіць муза вышэйшую волю, якою

Ты ўзвёў на Алімп слаўнага майстра Гефеста
І зрабіў багароўным яго! Слава, Зеўс, табе, слава!

Дыяніс напаўняе кубкі Зеўсу і Гефесту. Зеўс паблажліва чокаецца з Гефестам і п'е. Збянтэжаны Гефест не асмельваецца, ён адчувае сябе не ў сваёй талерцы.

Д ы я н і с. Пі, Гефест, пі нектар! Сам ойча Зеўс табе прапануе!

Б а г і (*скандзіруюць, узняўшы кубкі*). Пі, Гефест, пі нектар! Сам ойча Зеўс табе прапануе!

Гефест выпівае нектар.

А п а л о н (*прыняўшы зноў адпаведную позу*).
Песняю слаўлю нектар, напітак салодкі і хмельны,
Што сэрцу дае весялосць, а целу бадзёрасць і сілу.
Багам яго дадзена піць —
слаўлю багоў-алімпійцаў!
Слаўлю таксама Гефеста, што ўпершыню
на Алімпе
П'е разам з багамі нектар, напітак дзівосны!
Слаўлю цябе, Дыяніс, віначэрп наш нязменны,
нястомны!
А самая большая слава — вялікаму, шчодраму
Зеўсу,
Які дараваў нам нектар — напітак салодкі
і хмельны!

Б а г і (*скандзіруюць нараспеў*).
А самая большая слава — вялікаму,
шчодраму Зеўсу,
Які дараваў нам нектар — напітак салодкі
і хмельны.

Б р ы а р э й (*ускокваючы і сціскаючы ўзнятыя кулакі*). Каму нектар, а каго ў тартар!

Словы Брыарэя дзейнічаюць, як перасцерагальнае карканне. Вясёлая гамана сціхае. Агульнае замяшанне і збянтэжанасць. З'яўляецца п р ыс л у ж н і к са знаёмым ужо нам нартэкавым кіёчкам у руцэ, нешта трывожна шэпча Гермесу і аддае яму нартэк. Прыслужнік выходзіць, Гермес тут жа падыходзіць да Зеўса.

Г е р м е с. Дазволь сказаць, цар багоў і людзей.

З е ў с. Што-небудзь здарылася?

Г е р м е с. Здарылася, ойча! Праметэй даў людзям свяшчэнны агонь!

Б р ы а р э й. У-у, гэты Праметэй!

З е ў с (*б'ючы аб падлогу жэзлам*). Што-о-о-о!

Г е р м е с. Так, мой ойча. Праметэй украў з Алімпа агонь і аднёс яго людзям. Яны самі сказалі. Яны там… (*Робіць адпаведны жэст*.)

З е ў с. Людзі самі сказалі?

Г е р м е с. Так, ойча. Некаторым з іх агонь не спадабаўся. У аднаго загарэлася халупа, другі апёк пальцы, трэці проста спалохаўся, відаць, і яны прыйшлі прасіць, каб ты забраў назад агонь і пакараў Праметэя.

З е ў с. Вы чуеце, багі?! Гэты… гэты (*задыхаецца ад гневу*) ерэтык… гэты святататнік… гэты вар'ят замахнууўся на нашу святую прывілею, на наш свяшчэнны боскі агонь! Вы чулі, багі? Гэты чалавекалюб, гэты богазневажальнік даў людзям наш агонь!

Г а л а с ы б а г о ў. Як ён мог?! Агонь — наша прывілея! Ён апаганіў свяшчэнны агонь! Ерэтык! Святататнік! Богазневажальнік! Вар'ят!

З е ў с. Скончаны баль, паставім кубкі! Заклікаю да цвярозасці! Брыарэй, ты тут? Добра. Ты мне патрэбен. (*Да Гермеса*.) Якім чынам агонь быў вынесены з Алімпа? Праметэй гэта зрабіў адзін ці яму нехта памагаў? Ці гэта змова?

Б р ы а р э й. У-у, гэтыя змовы!

Г е р м е с. Людзі прынеслі з сабой вось гэты стволік. (*Працягвае Зеўсу нартэкавы кіёк*.) Яны кажуць, што Праметэй у ім прынёс агонь.

З е ў с (*разглядаючы кіёк*). А як Праметэй змог прабрацца да ачага? Хто яму дапамагаў? (*Акідваючы ўсіх грозным позіркам*.) Я пытаюся: якім чынам Праметэй змог узяць агонь? Маўчыцё? Ніхто не ведае? Ці нехта ведае, але маўчыць таму, што заадно са злачынцам? Брыарэй, Гермес, хто меў доступ да ачага? Хто быў сёння ў нашай кузні?

Б р ы а р э й. У-у!

Г е р м е с. Ніхто, ойча, апрача Гефеста.

З е ў с (*да Гефеста*). Ты быў у сваёй новай кузні?

Г е ф е с т. Быў.

З е ў с. Ты бачыў у горне агонь?

Г е ф е с т (*ціха, спалохана*). Бачыў.

З е ў с. Дык ты, можа, ведаеш, як Праметэй змог з дапамогай гэтага вось кіёчка выкрасці агонь? Ён гэта зрабіў адзін ці ты яму дапамагаў па старой дружбе?.. Кажуць, што вы з ім пакляліся водамі свяшчэннай ракі… Ты маўчыш?! Адказвай зараз жа, бог Гефест!

Б р ы а р э й. Адказвай зараз жа, бог Гефест!

Б а г і (*басы, барытоны*). Адказвай зараз жа, бог Гефест!

Б а г і н і (*вісклівa*). Адказвай зараз жа, бог Гефест!

Небажыхары падступаюць да Гефеста з кулакамі, з перакошанымі ад лютасці тварамі. З'яўляецца П р а м е т э й. Нямая сцэна.

П р а м е т э й. Не чапайце Гефеста! (*Да Зеўса*.) Гефест не вінаваты, цар багоў і людзей. Не вінаваты таксама ніхто другі. Я адзін выкраў агонь з твайго ачага і адзін, без чыёй-небудзь дапамогі, аднёс яго на зямлю.

Г е ф е с т (*спрабуе пратэставаць*). Праметэй… мы разам…

П р а м е т э й (*ратуючы Гефеста*). Так, мы разам з табой пакляліся служыць людзям. Але агонь я ўзяў адзін і гатовы адзін адказваць за гэта.

З е ў с (*злавесна*). Значыць, адзін? Што ж, тым лепш… Тым горш для цябе. Ты аб'явіў мне вайну, ты адкрыта перайшоў на бок людзей, і я аб'яўляю цябе святататнікам і буду зараз судзіць! (*Крычыць*.) На калені!

Праметэй не становіцца.

На калені перад эгідадзяржаўным Зеўсам, царом багоў і людзей!

Праметэй не становіцца на калені.

Б р ы а р э й (*трасучы кулакамі*). На калені перад Зеўсам, царом багоў і людзей!

Б а г і (*басы, барытоны*). На калені перад Зеўсам, царом багоў і людзей!

Б а г і н і (*вісклівa*). На калені перад Зеўсам, царом багоў і людзей!

Г е ф е с т (*са страхам і спачуваннем да Праметэя*). Праметэй, стань на калені… перад Зеўсам… царом багоў і людзей…

П р а м е т э й (*да Гефеста*). І ты тое ж?.. Не, Гефест, я не стану на калені. Дзеля людзей, дзеля дабра я гатовы на ўсё, але

толькі не на гэта. Я магу стаць на калені толькі перад тым, каго я люблю і шаную, але не перад тым, каго я ненавіджу!

З е ў с (*тым жа злавесным тонам*). Ну, што ж, тым лепш… Тым горш для цябе. (*Грозна*.) Багі, эгідадзяржаўны Зеўс вяршыць свой суд! Якую кару хто прапануе?!

Г а л а с ы  б а г о ў. У тартар яго! У тартар яго! У тартар! У тартар яго, святататніка! У тартар яго, здрадніка! У тартар яго, богазневажальніка! У тартар яго! Навечна ў тартар!

Б р ы а р э й (*як бы падсумоўваючы*). У-у тартар яго! У-у тартар! Каму нектар, а каго ў тартар!

Паўза. Усе чакаюць, што скажа Зеўс, які думае, утаропіўшы ў прастору позірк.

З е ў с. Не, тартар на гэты раз не падыдзе. У тартары, як вы ведаеце, яго брат Атлант. І вось колькі ён ужо там стаіць, але я ні разу не пачуў ад яго ні скаргі, ні стогну. А гэтага (*пагардлівы ківок у бок Праметэя*) тым больш не зломіш тартарам. І нічым яго не зломіш — ні атлантавымі пакутамі, ні танталавай прагай, ні сізіфавай працай… З яго выцягнеш усе жылы, а ён будзе трымацца. Мне ж мала проста выцягнуць з яго жылы. Мне трэба выцягнуць з яго гэту самую яго душу, яго дух, — ці як ён там у яго называецца? — які робіць яго вось такім нязломным. (*Паўза*.) А можа, узяць ды падсмажыць яго на тым самым агні, які ён так адважна ўкраў у нас і так велікадушна падарыў людзям? Га, багі? Можа, сапраўды ўзяць ды і спаліць яго жывым на гэтым самым свяшчэнным агні? Каб ён зведаў да канца, што гэта такое — наш боскі агонь.

Б р ы а р э й. Спаліць яго! Спаліць жывым!

Б а г і. Спаліць! Спаліць!

З е ў с. Не. Гэтым я таксама нічога не дасягну. Згарыць — і ўсё тут. І не пачуеш, зноў-такі, ні скаргі, ні стогну. А мне мала спаліць яго фізічна. Мне трэба выпаліць яго дух, трэба, каб ён выгараў, як стрыжань у гэтым нартэку (*ён усё трымае разам з жэзлам нартэкавы кіёк*). Тады ён сам апусціцца на калені. (*Паўза*.) Я, багі, ведаю, як яго пакараць.

Б р ы а р э й (*з радасным выглядам*). Цар багоў і людзей ведае, як яго пакараць!

З е ў с (*да Праметэя*). Значыць, не хочаш станавіцца на калені, хочаш стаяць горда на сваіх прамых? Ну што ж, стой тады. А каб табе было зручней стаяць, я загадаю прыкаваць цябе да скалы. Стой там, колькі табе захочацца! І яшчэ больш. Тры

тысячы, дзесяць тысяч, трыццаць тысяч гадоў. Зеўс вечны, у яго часу хопіць. Ён пачакае, пакуль ты палюбіш яго больш, чым людзей, або без любві прызнаеш яго ўладу і пакорна схілішся перад ім. (*Да багоў.*) Багі, я сказаў прыкаваць Праметэя да скалы на трыццаць тысяч гадоў!

Б р ы а р э й. Прыкаваць яго! Прыкаваць!

Б а г і і б а г і н і. Прыкаваць яго! Прыкаваць на трыццаць тысяч гадоў!

З е ў с. Але гэта не ўсё. Зеўс не настолькі наіўны, каб проста замяніць тартар скалой і думаць, што ён знайшоў лепшую кару для такога багаборца, як гэты (*ківок у бок Праметэя*). Справа ж не толькі ў тым, як пакараць. Справа яшчэ ў тым, хто гэта зробіць, хто прывядзе ў выкананне мой прысуд.

Г а л а с ы. Брыарэй! Брыарэй!

Б р ы а р э й. Брыарэй!

З е ў с. Не, мой прысуд выканае Гефест!

В о к л і ч ы (*у якіх гучыць здзіўленне*). Гефест? Няўжо Гефест!

З е ў с. Так, прыкуе Праметэя да скалы менавіта Гефест. Ніхто лепш за яго не зробіць гэта. Па-першае, яны сябравалі, разам давалі клятвы, і тут ужо Гефест пастараецца, я думаю, па старой дружбе. Па-другое, Гефест прызначаецца богам агню і кавальскай справы і таму павінен будзе зрабіць усё для таго, каб надалей ніхто, апрача яго і Зеўса, не мог валодаць і распараджацца агнём, каб нікому больш не было панадна замахвацца на нашу свяшчэнную прывілею. Але гэта не ўсё. (*Да Праметэя.*) Каб табе не сумна было стаяць аднаму ля пустыннай скалы, каб ты не вельмі тужыў па сваіх колішніх сябрах, бог Гефест будзе рэгулярна наведваць цябе і кожны раз нанава забіваць цвікі і прабіваць цябе наскрозь якраз там, дзе твая шчадралюбая печань, жалезным кастылём. Праўда, потым мастацкая фантазія людзей выдумае арла, які прылятае штодзень дзяўбці печань Праметэя — людзі любяць такія прыгожыя, сентыментальныя паданні. Але на самай справе ніякага арла не будзе, а будзе прыходзіць да цябе са сваім молатам, сваімі цвікамі і кастылямі твой колішні друг, бог Гефест. (*Да Гефеста.*) Бог Гефест! Вярхоўны алімпіец, эгідадзяржаўны Зеўс даручае табе выканаць яго прысуд — прыкаваць злачынцу Праметэя да скалы!

Паўза. Гефест няўцямна, разгублена, шукаючы дапамогі, азіраецца.

Г е ф е с т. Я… Цар багоў і людзей… Мы сябравалі… Мы давалі клятву… Ён быў… Я хачу да сябе ў пячору… Я пайду ў сваю кузню…

З е ў с (*няўмольна, па-свойму тлумачачы апошнія словы Гефеста*). Так, бог Гефест, ты зараз пойдзеш у сваю кузню, выкуеш ланцугі і прыкуеш яго (*паказвае на Праметэя*) да скалы. І глядзі зрабі ўсё як трэба — трывала, надоўга, на вякі! Зразумеў? (*Працягваючы Гефесту нартэк.*) І вазьмі свой кіёк, будзеш хадзіць з ім да Праметэя. (*Стукае жэзлам.*) Усё! Дзе Феміда?

Ф е м і д а. Я тут, ойча.

З е ў с. Багіня правасуддзя, Зеўс справядліва вяршыў суд?

Ф е м і д а. Справядліва, ойча.

З е ў с. Ну, а раз так, дык аформі як след справу. Каб потым уніклівыя гісторыкі і законнікі не прыдзіраліся да нас з табой, не скажалі.

Б р ы а р э й. У-у, гэтыя гісторыкі і законнікі!

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Тая ж, што ў першай карціне, пляцоўка на схіле гары, перад уваходам у пячору Гефеста. Па стуку молата і ляску металу здагадваемся, што Гефест працуе ў кузні. З'яўляецца П р а м е т э й. Цяжка апускаецца на камень і сядзіць, панурыўшы галаву. Выглядвае Г е ф е с т.

Г е ф е с т. Вітанне і дружба таму, хто прыходзіць. (*Спахапіўшыся*). Ты прыйшоў, Праметэй?

П р а м е т э й. Як бачыш, Гефест. Я ж табе патрэбен, ці не так? А я, калі ты помніш, заўсёды прыходзіў, калі быў табе патрэбен.

Г е ф е с т. Так, Праметэй. Я заўсёды цябе чакаў. Ты заўсёды быў мне патрэбен. І цяпер таксама… Што я кажу! Зеўс мой, што гэта я сказаў! Ты цяпер патрэбен мне… ты цяпер прыйшоў для таго, каб я надзеў на твае рукі ланцугі і павёў цябе прыкоўваць… Гэта сон ці ява?

П р а м е т э й. Ява, Гефест. Ты зрабіў ланцугі?

Г е ф е с т. Зрабіў, Праметэй.

П р а м е т э й. У цябе ўсё гатова?

Г е ф е с т. Гатова, Праметэй.

П р а м е т э й. Тады пачынай. Я таксама гатовы.

Г е ф е с т (*у роспачы*). Але я не магу, Праметэй. Я цябе заўсёды чакаў… Ты заўсёды быў мне патрэбен… мы разам з табой давалі клятву… Не, я не магу!

П р а м е т э й. Прыступай да работы, Гефест. Ты што — забыў пра загад Зеўса? Рабі, што табе сказалі. А то не станеш богам і не будзеш жыць на Алімпе.

Г е ф е с т. Не стану богам?.. Не буду жыць на Алімпе?

П р а м е т э й. Не будзеш, калі не выканаеш загад Зеўса.

Г е ф е с т. Калі не выканаю загад…

П р а м е т э й. Ну так. Бяры хутчэй ланцугі і прыступай да работы. І чым хутчэй ты яе зробіш, тым лепш будзе для нас абодвух.

Г е ф е с т. Тым лепш будзе для нас абодвух?

П р а м е т э й. Так. Ідзі!

Г е ф е с т. Ну што ж… калі так… (*Ідзе ў пячору і вяртаецца адтуль з молатам, ланцугамі і іншымі катаўскімі прыладамі.*) Ну вось. (*Глядзіць, вінавата-разгублена ўсміхаючыся, на Праметэя.*)

П р а м е т э й. Надзявай. (*Працягвае рукі.*)

Г е ф е с т (*надзяваючы на рукі і ногі Праметэя ланцугі*). Праметэй, што я раблю?.. Гэта сон ці ява?.. Скажы, што гэта сон.

П р а м е т э й. Не, Гефест, гэта не сон, гэта, на жаль, праўда.

Г е ф е с т. Значыць, праўда?.. Так, такое прысніцца не можа. Мне заўсёды сніліся прыгожыя сны. Мне часта снілася, што я зусім не кульгавы, што я лёгка стаю на роўных нагах у сваёй кузні, а ў ёй светла-светла, яна ўся залатая — залатыя сцены, залатая столь, залатое кавадла. З горна ляцяць іскры, і яны таксама залатыя. Ты мяне клічаш, а я гляджу на гэтыя іскры і не магу адарвацца…

П р а м е т э й. Сон спраўджваецца, Гефест. Табе сніўся Алімп, і ты на ім будзеш жыць і будзеш каваць з золата… Ну дык пайшлі? Зеўс не любіць, калі з пакараннем марудзяць. (*Пачынае рухацца. Аглядваецца на пячору.*) Бывайце, нашы мары і сны. Бывай, пячора. Бывай і ты, шэры камень. Нам тут было добра, але мы вас пакідаем, і тут усё парасце быллём.

Гефест усё не асмельваецца зрабіць першы крок. Моўчкі глядзіць на Праметэя. Потым нагінаецца, ускідвае на плечы ўсе свае прылады, якія вынес з пячоры, і ідзе пакорна ўслед за Праметэем. Рух на эшафот, на галгофу, на ўсякае іншае «лобнае» месца заўсёды чамусьці марудны. Можа, таму, што ён асацыіруецца са смерцю і з пахавальным шэсцем… Такі рух і тут. Праметэй і Гефест — Праметэй наперадзе, Гефест крыху ззаду і збоку — павольна (перашкаджаюць ланцугі) рухаюцца ў бок правай

кулісы — калі глядзець з залы. Гаротна-жалобны іх рух, звіняць ланцугі па целе Праметэя, бразгаюць прылады на плячы ў Гефеста.

Г е ф е с т. Праметэй…

Праметэй аглядваецца і моўчкі ідзе далей.

Я чуў, як ты развітваўся з пячорай.

П р а м е т э й. А-а, так. Я ёй за многае ўдзячны і я развітаўся з ёй. За нас абодвух. Мы ж абодва не вернемся больш сюды.

Г е ф е с т. Мы не вернемся больш сюды?.. Гэта праўда, Праметэй?

Адказу Праметэя мы не чуем, бо ён знікае за кулісай, каб потым зноў з’явіцца з другога боку сцэны. На сцэну выбягаюць А к і я н і д ы. Падбягаюць да пячоры, прыслухоўваюцца.

П е р ш а я А к і я н і д а. У пячоры нікога няма! Дзе ж Гефест?

Д р у г а я А к і я н і д а. У пячоры нікога няма!

Т р э ц я я А к і я н і д а. Дзе ж Гефест?

П е р ш а я А к і я н і д а. Дзіўна, Гефест заўсёды быў у пячоры!

Д р у г а я А к і я н і д а. Дзіўна!

Т р э ц я я А к і я н і д а. Гефест заўсёды быў у пячоры.

П е р ш а я А к і я н і д а. Куды ён мог пайсці? Можа, ён пайшоў куды з Праметэем?

Д р у г а я А к і я н і д а. Куды ён мог пайсці?

Т р э ц я я А к і я н і д а. Можа, ён пайшоў куды з Праметэем?

З-за левай на гэты раз кулісы паказваюцца Праметэй з Гефестам і ідуць уздоўж авансцэны.

П е р ш а я А к і я н і д а. Куды гэта яны так ідуць? Што з імі?

Д р у г а я А к і я н і д а. Куды гэта яны так ідуць?

Т р э ц я я А к і я н і д а. Што з імі?

Гефест з Праметэем на пярэднім плане працягваюць сваю невясёлую размову, якую Акіяніды слухаюць моўчкі, са здзіўленнем.

Г е ф е с т. Потым яны частавалі мяне нектарам і амброзіяй і адвезлі на Алімп.

П р а м е т э й (*адчужана-тужліва*). Ведаю.

Г е ф е с т. Потым яны паказалі мне алімпійскую кузню, сказалі, што яна мая.

П р а м е т э й. Ведаю.

Г е ф е с т. Потым мы з табой узялі з горна агонь, і ты панёс яго людзям.

П р а м е т э й (*тым жа тонам*). Так, было. І я шчаслівы, я аб гэтым не шкадую.

Г е ф е с т. І я хацеў пайсці ўслед за табой, хацеў вярнуцца ў сваю пячору.

П р а м е т э й. Ведаю.

Г е ф е с т. Але з'явілася Афрадыта…

П р а м е т э й. Ведаю.

Г е ф е с т. Яна сказала, што я павінен астацца на Алімпе і што тады яна зможа стаць маёй жонкай і мы будзем з ёй шчаслівыя.

П р а м е т э й. Так яно і будзе. І я рад за цябе.

Г е ф е с т. Праўда, Праметэй? Так яно і будзе? Мы будзем шчаслівыя? (*Вяртаючыся да рэальнасці.*) Чакай, што я гавару! Як жа так! (*З пачуццём роспачы.*) Мы будзем шчаслівыя, а ты… ты будзеш стаяць у ланцугах, прыкаваны да скалы, прабіты наскрозь гэтым прутам… з тваёй печані будзе ліцца кроў… твая кроў, Праметэй! Зеўс мой! (*Паўза.*) Паслухай, Праметэй, скажы мне, чаму ты так пакорна ідзеш са мной туды? Чаму ты сам прыйшоў да мяне, дазволіў надзець ланцугі і цяпер вось так ідзеш? Чаму, скажы? Ты ж быў заўсёды іншы.

П р а м е т э й. Чаму я сам прыйшоў да пячоры? Мы ж пра гэта ўжо гаварылі. Ты ж мяне чакаў, я табе быў патрэбен, вось я і прыйшоў. Чаму я дазволіў надзець на сябе ланцугі? Каму-небудзь другому я б не дазволіў, я б так проста не даўся. А табе… Гэтыя ж ланцугі зроблены з той самай руды, якую мы з табой разам — памятаеш? — здабывалі, выкаваны ў той кузні, якую мы разам абстаўлялі, дзе не раз кавалі разам. Як тут я мог не дазволіць табе надзець гэтыя ланцугі. (*Углядаючыся ўдаль.*) Мы падыходзім ужо, вунь, здаецца, і тая скала. У мяне да цябе апошняя просьба, Гефест, — помні хоць крыху пра нашу клятву і не крыўдзі разам з іншымі багамі людзей. Зеўс будзе зараз помсціць ім, асабліва жорсткім ён будзе да тых, што пайшлі за мной і паверылі ў агонь. Ён будзе загадваць і табе рабіць тое ж. Дык ты ўжо асабліва не крыўдзі іх, старайся, па магчымасці, змякчаць удары. (*Паўза. З пачуццём.*) Будзь богам, радуйся свайму шчасцю з прыгажуняй Афрадытай, пі нектар і еш амброзію,

але толькі не крыўдзі людзей! У цябе добрая душа, і пастарайся там, на Алімпе, захаваць яе і не крыўдзіць тых, хто ўнізе.

Г е ф е с т. О, Праметэй, ты і цяпер помніш пра іх, пра гэтых сваіх людзей! Ты іх любіў больш, чым Акіянід, больш, чым мяне, больш, чым самога Зеўса… Ты столькі для іх рабіў! Ты дзеля іх быў гатовы на ўсё! Ты прымаеш з-за іх такую кару, такія пакуты. А яны?.. Яны тут жа прыйшлі і данеслі на цябе Зеўсу. Няхай яны будуць праклятыя!

П р а м е т э й. Гефест, апомніся! Мне балюча чуць ад цябе такое. Ты ж разам са мной пакляўся водамі свяшчэннай ракі…

Г е ф е с т (*спалохана*). Я парушыў клятву? (*Больш спакойна.*) Але мне казалі, што толькі той служыць людзям, хто служыць Зеўсу, што…

П р а м е т э й. Служы свайму Зеўсу, будзь богам, але не крыўдзі людзей. Вось мая апошняя да цябе просьба… А што да няўдзячнасці, то я вось што табе скажу. Так, няўдзячнасць — гэта нешта вельмі сумнае і незразумелае. Але ўзнагародай таму, хто імкнецца рабіць дабро, — яго ж усведамленне, што ён робіць як след, згодна са сваім сумленнем, і яшчэ яго вера, што свет будзе лепшы, што яго намаганні не прападуць дарэмна. З такой верай я і нёс людзям агонь. (*Падыходзячы да кулісы.*) Мы нарэшце прыйшлі. Прашу цябе: зрабі гэта ўсё як мага хутчэй. Так будзе лепш для нас абодвух.

Г е ф е с т. Зрабіць як мага хутчэй?.. Праметэй, друг мой добры…

Гефест і Праметэй хаваюцца, працягу размовы мы ўжо не чуем. Акіяніды няўцямна пераглядаюцца, парываюцца пабегчы ўслед.

П е р ш а я  А к і я н і д а. Пра што яны гаварылі? Куды яны пайшлі?

Д р у г а я  А к і я н і д а. Пра што яны гаварылі?

Т р э ц я я  А к і я н і д а. Куды яны пайшлі?

Грыміць гром.

Г о л а с (*зверху, гэта значыць з Алімпа, зычна*). За непакорнасць Зеўсу, за выкраданне агню з алімпійскага ачага тытан Праметэй, сын тытана Іяпета, прыкоўваецца на трыццаць тысяч гадоў да скалы на краі свету! Прысуд прыводзіць у выкананне былы каваль, бог агню і кавальскай справы Гефест!

Тут жа за сцэнай чуваць удары молата — адзін, другі, трэці. Чуваць стрыманыя стогны Праметэя.

П е р ш а я  А к і я н і д а (*са страхам і жалем*). Ойча Зеўс, што ж гэта робіцца? Гефест прыкоўвае Праметэя, а Праметэй стогне!

Д р у г а я  А к і я н і д а. Ойча Зеўс, што ж гэта робіцца?

Т р э ц я я  А к і я н і д а. Гефест прыкоўвае Праметэя, а Праметэй стогне!

Чуваць апошні ўдар молата. Зноў грыміць гром.

Г о л а с (*зверху, гэта значыць з Алімпа, грамавы*). Слухайце, слухайце! Перадаём алімпійскую хроніку! Важнае паведамленне! Воляй эгідадзяржаўнага Зеўса каваль Гефест прызначаецца богам агню і кавальскай справы з наступнымі правамі: а) жыць у пакоях залатога палаца на паўднёвым схіле Алімпа, б) быць жанатым на багіні, в) удзельнічаць ва ўсіх пасяджэннях і балях багоў, г) у неабмежаванай колькасці есці амброзію і піць нектар, д) мець доступ да свяшчэннага агню. Слава богу агню і кавальскай справы Гефесту! Найвышэйшая слава цару багоў і людзей эгідадзяржаўнаму Зеўсу!

П е р ш а я  А к і я н і д а (*радасна*). Гефест прызначаецца богам. Вось здорава! Ён будзе рабіць для нас боскія аздобы!

Д р у г а я  А к і я н і д а. Гефест прызначаецца богам! Вось здорава!

Т р э ц я я  А к і я н і д а. Ён будзе рабіць для нас боскія аздобы!

А к і я н і д ы (*разам, кружачыся, напяваюць, узяўшыся за рукі*).

Ён будзе рабіць для нас,
ён будзе рабіць для нас,
ён будзе рабіць для нас
боскія аздобы!

Знікаюць са сваёй няхітрай песенькай  А к і я н і д ы. Аднекуль з-за сцэны зноў даносяцца прыглушаныя, ціхія стогны Праметэя. Паволі засоўваецца заслона.

П р а м е т э й (*голас за сцэнай, праніклёна-палкі і мужны*).

Не страшны мне, Гефест, багоў пагрозы.
Страшней мне друга даўняга згубіць.
І ў тым сакрэт маёй метамарфозы,
што з нейкае пары я стаў любіць.
Калі сышоў аднойчы на зямлю —

адчуў я раптам, што зямлю люблю…
Люблю зямлю, люблю я ўсё зямное,
люблю я ўсё, усё жывое,
і мой агонь — агонь любві маёй,
не ведаю, нябеснай ці зямной.
Глядзеў на свет я новымі вачыма,
Не ведаючы, як далей мне быць.
Ды ведаў: не любіць больш немагчыма,
магчыма толькі ўжо адно — любіць.
Любіць…
                    Нязвыклым быў мне новы стан.
Па-новаму душа была сагрэта.
Сказаў я: «Праметэй, сын Іяпета,
тытана сын і сам тытан!
Даволі без любові жыць! Любі!
І імем той любові ўсё рабі!»
Стаў іншым я ў сваім змаганні.
Па-іншаму я гавару з багамі.
Зеўс хоча пасварыць мяне з табою,
уводзіць у душу мне: ненавідзь!
А я ў адказ яму: «Буду любіць!
Любоўю даражыць цаной любою!»
Зеўс пагражае гнеўна: «Пагублю!
Я да скалы прыб'ю на краі свету!»
А я ў адказ яму на гэта:
«А я край свету палюблю!
Люблю я, Праметэй, сын Іяпета,
І дзеля той любові ўсё сцярплю!»

*1982*

# ВОЛЬНАСЦЬ І БРАЦТВА, ГЕНЕРАЛ!..

Чалавек нараджаецца двойчы: першы раз — фізічна, другі раз — духоўна. Другі раз яго нараджае час. «Эпоха мае патрэбу ў волатах, эпоха нараджае іх…»

Той волат, пра якога пойдзе гутарка, быў народжаны сваёй эпохай. І калі прырода дала яму магутнае атлетычнае здароўе, калі фізічна ён быў, як сведчаць сучаснікі, складзены, як Апалон, то эпоха, са свайго боку, не пашкадавала для яго магутнага духу. Адно адпавядала другому. Эпоха знала, на каго рабіць стаўку, і яна не памылілася: выбраннік аказаўся вартым яе. Ён ніколі не траціў прысутнасці духу. Хоць быў не з тых, хто стаіць у баку ад вялікага жыцця, ад барацьбы, хто пазбягае выпрабаванняў і небяспек. У такім разе лёгка не траціць прысутнасць духу. Не, ён быў «чалавекам дзеяння». Так яго назваў Маркс. І ў сваёй «споведзі», у сваіх адказах на анкету дачок Маркса, сказаў, што вышэй за ўсе вартасці цэніць у мужчыне актыўнасць, што ўяўляе шчасце як палымянае пекла і што любімы занятак для яго — ісці супраць ветру. Гэта было сказана ў 1872 годзе. А раней, у 1863 годзе, ён сказаў сваім таварышам па паўстанні: «Узяўшы ў рукі зброю, мы павінны перамагчы, а калі хто-небудзь прымусіць нас яе скласці, то толькі разам з жыццём».

Нязменная прысутнасць духу, вялікая сіла волі — яго вызначальная якасць.

Другая яго характэрная рыса — гарманічнасць, шматграннасць. Ён быў не проста актыўным, дзейным чалавекам, але і чалавекам яснага практычнага розуму, чалавекам, які ведае, што ён робіць, ведае сваю справу. Ён быў не толькі рашучы, але і быў, па словах жонкі Маркса, «геніяльнай галавой і сумленнейшым чалавекам». Ён быў не толькі храбрым, але і быў чалавекам, які, па словах аднаго камунара, «выконвае свой абавязак».

Ён быў мудрым у маладосці і маладым у старасці. Ён праявіў як бліжэйшы паплечнік Каліноўскага — у свае дваццаць сем гадоў — цуды мудрасці, распарадчасці і рэвалюцыйна-ваеннай дзелавітасці. Ён разумеў, што нельга прыцягнуць сялян на бок паўстання, не надзяляючы іх зямлёй і не гаворачы з імі на іх мове, зарэкамендаваў сябе адразу як тонкі палітык. І ён у той жа час умеў смела павесці ў атаку касінераў (г. зн. паўстанцаў, узброеных косамі), а ў адступленні разгарнуць са сваімі коннікамі выдатную тыральерскую лінію. А ў старым узросце ён заставаўся рамантыкам і паэтам і марыў пра тое, «як ён, выздаравеўшы, сядзе на каня і, праязджаючы праз Германію, дакажа цудоўным нямецкім грэтхен, што можа атрымліваць перамогі не толькі над ворагам».

Дэмакрат, — як ён гаварыў сам пра сябе, — па перакананні, па духу і па крыві, па сваім мінулым, па сваёй дзейнасці, ён разумеў мову беларускага мужыка і французскага пралетарыя, і ў той жа час ён знаходзіў агульную мову са сваімі вялікімі сучаснікамі. Ён любіў жыццё, але яшчэ больш ён любіў людзей, яшчэ больш любіў праўду і свабоду. І ён быў другам усіх сяброў народа і чалавецтва і быў ворагам усіх ворагаў роду чалавечага.

Ён мог жыць у нястачы, аскетычна адмаўляючы сабе ў самым неабходным, і ў той жа час, калі ў яго з'яўляліся сродкі, ён мог быць надзвычай шчодрым, жыццярадасным і мог гасцінна частаваць сваіх сяброў, жартуючы: «Трэба ўсё самае лепшае з'есці і выпіць, каб нічога буржуям не засталося».

Ён меў, па словах Энгельса, «упарты і хваравіта горды характар», ён быў суровым рыгарыстам і ў той жа час, асабліва ў адносінах са сваімі таварышамі-аднадумцамі, праяўляў незвычайную чуласць, сардэчнасць і далікатнасць.

Яго двойчы прыгаворвалі да пакарання смерцю. Першы раз гэта зрабіў Мураўёў-вешальнік, другі раз — версальскі суд. У студзені 1864 года ён быў цяжка паранены ў сутычцы з царскімі казакамі і застаўся жыць толькі таму, што карнікі палічылі яго мёртвым. У 1865 годзе ён стаў у Парыжы ахвярай эпідэміі воспы, якая тады панавала ў Еўропе, і выжыў дзякуючы толькі той жа стойкасці духу (ён адмовіўся легчы ў перапоўненую бальніцу, дзе паміралі, як мухі, і змагаўся з хваробай дома ў ложку, харчуючыся адным цёплым чаем). Калі ён жыў у эміграцыі, на яго быў арганізаваны бандыцкі налёт. Але ён вытрымаў і гэтае выпрабаванне. І ён памёр тады, калі прыйшоў яго смяротны час, ва ўзросце 72 гадоў. Ён заўсёды пакідаў

апошнім поле бою, прыкрываючы баявых таварышаў. І жыццё ён пакідаў, як поле бою, адным з самых апошніх, выканаўшы да канца свой салдацкі і грамадзянскі абавязак.

Так, ён двойчы цярпеў паражэнне, у 1863 і ў 1871 гадах, дакладней, паўстанні, у якіх ён прымаў удзел, цярпелі паражэнні, але пераможаным ён сябе не лічыў і такім сапраўды не быў. Ён мог паўтарыць словы свайго саратніка па парыжскіх барыкадах, камунара Дэлеклюза, які сказаў: «Паражэнне ў сто разоў лепш, чым бяздзейнасць; нават пакуты лепш за пошлы дабрабыт, бескарыснае існаванне».

Хто ён такі — гэты волат з племя Атланта і Праметэя? Няцяжка здагадацца, што гутарка ідзе аб нашым слаўным земляку Валерыю Урублеўскім[1], генерале Парыжскай камуны.

Пра Урублеўскага ўжо шмат напісана. На жаль, мы, беларусы, не ўнеслі ў гэтую справу належную лепту, і тут вінаваты як гісторыкі, так і літаратары. Я асабіста, прынамсі, адчуваю такую «запазычанасць» і ўвасабленне вобраза Урублеўскага разглядаю як адну з сваіх важнейшых творчых задач. Не ведаю, у якой форме выльецца тэма, як яе ўдасца вырашыць. Але яна мяне захапіла, і я працую над ёю, збіраю матэрыял. У дадзеным жа выпадку я проста хачу нагадаць пра дзейнасць Валерыя Урублеўскага ў дні Парыжскай камуны.

Сто гадоў назад, 29 сакавіка 1871 года, «Афіцыйная газета» Парыжскай камуны пісала: «Усякі палітычны рух, які не носіць у сабе самім новай плённай і творчай ідэі або, валодаючы такой ідэяй, не вылучае тут жа людзей, здольных праводзіць і адстойваць яе, асуджаны на вартую жалю няўдачу, хаця б ён і пачаўся з бліскучага трыумфу і дэманстрацыі сілы.

Людзі глыбокай думкі і рашучых дзеянняў аказаліся гатовымі ў першыя ж дні 1789 года. У стыхійны, бязладны рух яны ўдыхнулі жыццё, свядомасць і думку. Яны зрабілі гэты рух чалавечны, асэнсаваны, так сказаць, філасофскі, і за некалькі месяцаў натоўп, які кіраваўся інстынктам, ператварыўся ў вялікі, свядомы народ, народ рэвалюцыі.

Якраз так жа і рэвалюцыя 18 сакавіка не мае недахопу ў Сакратах, успрыемніках ідэй».

У той светлай плеядзе «людзей глыбокай думкі і рашучых дзеянняў» займае дастойнае месца і наш зямляк, адзін з лепшых ваенных кіраўнікоў Парыжскай камуны Валерый Урублеўскі.

Удзел Урублеўскага ў падзеях вялікай рэвалюцыі быў, як мы бачылі, не выпадковым. Рыцар ідэі, «дэмакрат па перакананні, па духу і па крыві», ужо вопытны паўстанцкі камандзір,

В. Урублеўскі рашуча становіцца ў рады камунараў. Ведаючы яго мінулае і яго погляды, кіраўнікі Камуны давяраюць яму важны ваенны пост. Спачатку яго прызначаюць генералам і начальнікам кавалерыі на левым беразе Сены, а потым — камандуючым левым флангам. На пасяджэнні Камуны ад 1 мая адзін з яе членаў заяўляе: «Генерал Урублеўскі знайшоў усе фарты пакінутымі на волю лёсу; зараз яны могуць абараняцца». Праз два дні, 3 мая, камандуючы левым флангам Урублеўскі паведамляе ваеннаму дэлегату ў сваім дакладзе аб становішчы на паўднёвым фронце: «Грамадзянін міністр! Настойваючы на атрыманні падмацаванняў як артылерыяй, так і пяхотай і кавалерыяй, я меў намер не толькі працягваць абарону, каб захаваць свае пазіцыі, але і перайсці ва ўдалы момант у наступленне.

Я з радасцю канстатую, што ўсюды пачынае аднаўляцца парадак, што спынілася п'янства і ў рады нацыянальных гвардзейцаў паступова ўкараняецца дысцыпліна. Словам, чым больш я разбіраюся ў гэтым, тым больш прыходжу да пераканання, што ўсё зло і дэзарганізацыя ў радах грамадзянскай міліцыі мелі сваёй прычынай няздатнасць начальнікаў, іхнія дрэнныя прыклады і нярэдка іх дробныя інтрыгі».

Камуна ліквідавала армію як адвечны сродак падаўлення і дэспатызму. Армія была заменена нацыянальнай гвардыяй, якую складаюць усе грамадзяне, здольныя насіць зброю, і якая грунтуецца на свядомай дысцыпліне і дэмакратычнай роўнасці. Урублеўскі гэта бачыць і разумее, яму імпануюць такія салдаты, і ён у сваю чаргу імпануе ім, яны пранікаюцца да яго павагай і даверам. Яны ведаюць, што ён адмовіўся ад генеральскага жалавання і згадзіўся ўзяць толькі каня, што ён не пасяліўся ў Елісейскім палацы, адказаўшы, што «месца генерала — толькі сярод салдат».

Невыпадковым быў прыход Урублеўскага ў рады камунараў, невыпадковай была тая вялікая роля, якую ён адыгрывае ў абароне Парыжа. Ён ведае, за што ён змагаецца, ведае, як трэба змагацца. Удзельнікі Камуны і потым яе гісторыкі, Дзюбрэйль і Лісагарэ, даюць самую высокую ацэнку палкаводчай дзейнасці Урублеўскага.

«Адзіны поспех, — расказвае Лісагарэ, — абарона мела на Бют-О-Кай. Тут, дзякуючы энергіі Урублеўскага, абарона перайшла ў паступленне…» І далей: «Версальцы не асмельваліся праследаваць Урублеўскага».

Як вядома, апошні ваенны дэлегат Камуны Дэлеклюз[2] прапанаваў Урублеўскаму за некалькі гадзін да трагічнай

развязкі ўзяць на сябе галоўнае камандаванне. І той з уласцівай яму яснасцю погляду і цвёрдасцю духу спытаўся: «Ці ёсць у вас хоць некалькі тысяч рашучых чалавек?» — «Самае большае — некалькі сотняў», — адказаў Дэлеклюз. У такіх умовах Урублеўскі не мог прыняць на сябе камандаванне і працягваў змагацца як просты салдат. І змагаўся да апошняй магчымасці…

Ідуць паломнікі да парыжскіх могілак Пэр-Лашэз, да той сцяны, дзе версальскія каты расстрэльвалі камунараў і пад якой спачывае прах нашага слаўнага земляка. І я таксама раблю сваё паломніцтва, выходжу з аўтобуса ў мястэчку Жалудок, дзе прайшло дзяцінства Урублеўскага. Аўтобус спыняецца якраз на той самай плошчы, якую ўспамінае біёграф знакамітага генерала. Ва ўсе бакі ад плошчы разбягаюцца вуліцы, і на адной з іх я чытаю: «Імя Урублеўскага». Праходжу, туды і назад, па гэтай вуліцы, перасякаю плошчу, выходжу на супрацьлеглую вуліцу. Па правы бок ад яе віднеецца школа, насустрач мне ідзе хлопчык у вялікай, не па росту, цёмна-сіняй шапцы. На шапцы — эмблема лесніка… Можа, і ляснічы Антоній Урублеўскі насіў падобную шапку і даваў пахадзіць у ёй свайму малодшаму, свайму Валерыю? Ах, як паслядоўна працягваецца жыццё — і ў сваёй галоўнай сутнасці, і ў сваіх знешніх праявах!

Заходжу ў школу. Дырэктар вядзе мяне ў школьны музей. Тут ёсць і куток, прысвечаны Валерыю Урублеўскаму. Фотапартрэт 1864 года, дзе Урублеўскі зняты ў форме паўстанцкага палкоўніка. Пад партрэтам — фотакопія афішы, якая аб'яўляе парыжанам аб тым, што пад кіраўніцтвам генерала Урублеўскага ствараецца кавалерыя, і запрашае добраахвотнікаў запісвацца…

На той жа вуліцы, крыху далей, знаходзіцца касцёл. У касцельным архіве знаходжу, з дапамогай самога пана пробашча, кнігу — спіс насельніцтва Жалудоцкай парафіі за 1843 год. На адной з яе старонак каліграфічным почыркам касцельнага пісара выведзена:

Двор Жалудок.

Антоній Урублеўскі, скарбнік, 48 год, жонка Разалія (з Юроўскіх), 31 год, дачка Аляксандра, 8 год, сын Станіслаў, 7 год, сын Валерыян, 5 год.

Значыць, так яно і ёсць. Цяпер я не толькі пераконваюся яшчэ раз у тым, што было вядома з прачытанага. Цяпер я яшчэ ведаю, кім працаваў у апошнія гады свайго жыцця старэйшы Урублеўскі (працу ляснічага ён чамусьці змяніў на пасаду скарбніка, магчыма, гэта было павышэнне, а магчыма, ён не мог больш працаваць

ляснічым па стану здароўя, бо неўзабаве ж памёр). І цяпер я ведаю, дзе жыў з сям'ёй Антоній Урублеўскі. Не на той вуліцы, што названа імем яго сына, а ў другім канцы мястэчка.

Туды вядзе з плошчы другая вуліца, якая зараз называецца Камуністычнай, а тады называлася Дворнай, бо вяла ў панскі двор. У Двары, дзе зараз размяшчаецца мясцовы калгас, яшчэ захаваўся палац, захаваліся рэшткі сядзібы, што ад графа Тызенгаўза перайшла потым да князя Сапегі, а ад апошняга — да паноў Чацвярцінскіх… Недзе тут, думаю, у якім-небудзь флігелі, якога ўжо няма, і жыў скарбнік Урублеўскі. Потым я доўга шукаю яго магілу на так званых парафіяльных могілках. Потым іду на Жалудзянку, дзе знаходжу сляды колішніх млыноў — магчыма, тых самых, на якія бегаў некалі глядзець са сваім братам Стасікам юны Валерый… Потым гавару пра Урублеўскага з работнікамі гарадской бібліятэкі, з настаўнікамі, са старшынёй калгаса, сустракаюся вечарам са школьнікамі і расказваю ім пра іх вялікага земляка. Лепшай тэмы для такой сустрэчы і не знойдзеш… З усімі, з кім я сустракаюся, мы робімся «братамі ва Урублеўскім». Я думаў, што прабуду ў Жалудку два-тры дні, а прабыў больш як тыдзень, і зусім не спяшаўся яго пакідаць, і насіў у сабе такое пачуццё, нібы я выконваю вельмі важную, патрэбную не толькі мне самому, але і людзям, не толькі майму сёння, але і нашаму мінуламу, місію.

На зваротным шляху я звяртаўся, натуральна, у думках да свайго героя. «Мой генерал, — гаварыў я яму, — я наведаў тваю радзіму, я хадзіў па тваіх слядах, пакланіўся твайму дзяцінству і аддаў даніну пашаны праху твайго бацькі. І я яшчэ лепш зразумеў веліч твайго жыццёвага подзвігу, яшчэ больш адчуў значэнне памяці пра цябе. Як гэта вы віталіся ў дні Парыжскай камуны? Вітанне і роўнасць? Брацтва і роўнасць? Дазволь і мне так звярнуцца да цябе: «Вітанне і брацтва, мой генерал! Вольнасць і брацтва!»

*Пастскрыптум*. Блукаючы па вулачках Жалудка, я зразумеў: гэты гарадок павінен быць вядомым, сюды павінен пралегчы турысцкі маршрут. Але школьнага музейчыка для гэтага недастаткова, памяць Валерыя Урублеўскага павінна быць увекавечана належным чынам: тут павінен быць помнік, музей і г. д. Я гаварыў пра гэта і ў школе, і са старшынёй пасялковага Савета, і з сакратаром Шчучынскага райкама партыі. На днях я атрымаў ад яго пісьмо, у якім паведамляецца: «У сувязі з гістарычнай датай, 100-годдзем з дня перамогі пралетарскай рэвалюцыі ў Парыжы, райкам партыі і райвыканкам хадайнічаюць перад

Гродзенскім абкамам партыі і аблвыканкамам аб увекавечанні памяці віднага рэвалюцыйнага дзеяча пралетарскай рэвалюцыі ў Парыжы, генерала Парыжскай камуны Валерыя Урублеўскага. Мяркуецца ўстанавіць яго бюст у г. п. Жалудок і прысвоіць Жалудоцкай сярэдняй школе імя Валерыя Урублеўскага…»

Такому пісьму можна толькі парадавацца, што я, зрэшты, і зрабіў. Але я хацеў бы дадаць у сувязі з ім яшчэ некалькі слоў. Беларускі народ можа ганарыцца Валерыем Урублеўскім і можа лічыць яго сваім сынам з такім жа правам, з якім гэта робіць суседні польскі народ. Бо Урублеўскі не толькі нарадзіўся на беларускай зямлі і не толькі правёў тут свае дзіцячыя гады. Як вядома, ён тут пачынаў і сваю службу пасля сканчэння Пецярбургскага ляснога інстытута. Тут ён атрымаў сваё першае баявое хрышчэнне, змагаючыся «за нашу і вашу вольнасць» побач з Каліноўскім. Ён ведаў добра беларускую мову, і не толькі ведаў і мог гаварыць на ёй, але і пісаў на ёй як адзін з аўтараў «Мужыцкай праўды». Будучы ў эміграцыі, ён пастаянна падтрымліваў сувязь з радзімай. Захавалася запіска Урублеўскага да яго цёткі Эміліі Урублеўскай, якую ён напісаў у Лондане восенню 1871 года і ў якой просіць перадаць яго новы адрас маці, што жыла, як вядома, у вёсцы Явар недалёка ад Слоніма. Звязваўся ён з Беларуссю і Літвой пры дапамозе іншых эмігрантаў. За мяжой ён сустракаўся з гродзенцам Лаўровым[3], з магіляўчанінам Судзілоўскім[4] і, магчыма, бачыўся з Трусавым[5]… Словам, першая любоў яго сэрца належала Беларусі. І мы павінны выказаць належным чынам свой гонар за яго і сваю пашану да яго памяці.

*1971*

## ЁСЦЬ ЗАКОН ГАСЦІННАСЦІ

Хігмант Геранчар, загадчык аддзела савецкіх літаратур выдавецтва «Еўропа» (Венгрыя), з усмешкай глядзеў на мяне і гаварыў: «Проста не верыцца… Вы першы беларускі паэт, якога я бачу». Ён расказаў, што выдавецтва цікавіцца нацыянальнымі літаратурамі нашай краіны, у тым ліку і беларускай, што хутка выйдзе ў калектыўным зборніку новая аповесць Васіля Быкава «Сотнікаў», што ён сам перакладаў адно апавяданне гэтага аўтара… Наша знаёмства адбылося літаральна на калідоры, першая размова была мімаходзь. Назаўтра яна была прадоўжана

ў кабінеце галоўнага рэдактара выдавецтва. Сам галоўны быў у адпачынку, і я гаварыў з яго намеснікам паэтам Ласла Лотарам, рэдактарам выдавецтва паэтэсай Дзіт Пор, з маім новым знаёмым Хігмантам Геранчарам і ўжо, можна сказаць, старой знаёмай, добрым другам нашай літаратуры Шарай Карыг. Гады два таму назад Ш. Карыг, перакладчыца са славянскіх моў і рэдактар выдавецтва, прыехала ў Мінск і прывезла добрую навіну: выдавецтва «Еўропа» плануе ў серыі «Люстра», якая знаёміць з літаратурамі народаў свету, выданне анталогіі-хрэстаматыі беларускай літаратуры. Карыг была, такім чынам, той першай ластаўкай, якая прадвяшчае вясну, на гэты раз — цёплы павеў у нашых сувязях з венгерскай літаратурай.

Як нельга было аб'яднаць у адзін выдатны горад Буду і Пешт без мостабудаўнікоў, так нельга ўявіць міжнацыянальныя літаратурныя сувязі без людзей-энтузіястаў накшталт Карыг. Да гэтага яна шмат рабіла для папулярызацыі ў сваёй краіне ўкраінскай і балгарскай літаратур. Потым звярнула ўвагу на нашу літаратуру, стала ініцыятарам выдання анталогіі. Зараз яна ўжо нядрэнна чытае і разумее па-беларуску, абклалася нашымі кнігамі, слоўнікамі, даведнікамі, «вярбуе» сяброў беларускай літаратуры.

А сябры ў нас тут ёсць. Напрыклад, літаратуразнаўца Эндрэ Бойтара. Ён быў неяк праездам у Мінску, мы з ім тады пазнаёміліся. У Будапешце сустрэліся зноў. Эндрэ Бойтар даследуе авангардысцкую паэзію дваццатых гадоў, зацікавіўся ён і нашай паэзіяй гэтага часу, у прыватнасці творчасцю Александровіча, Дубоўкі, Пушчы, Хадыкі, Чарота. Каб чытаць нашых паэтаў у арыгінале, ён таксама вывучае беларускую мову.

Шмат увагі і гасціннасці аддаў мне і перакладчык Дзёрдзь Рада. Ён быў у Беларусі, перакладаў на венгерскую мову Францішка Багушэвіча, дапамагаў Міколу Хведаровічу ў падрыхтоўцы да выдання на беларускай мове выбранай лірыкі Шандара Пецёфі[1] і напісаў прадмову да яе.

Наогул, як я пераканаўся, кола сяброў нашай літаратуры ў Венгрыі мае тэндэнцыю пашырацца. Шара Карыг паказала мне сціпла выдадзеную яшчэ ў пасляваенны адразу час кнігу перакладаў аднаго з вядомых венгерскіх паэтаў Гезы Кепеша. (У Венгрыі, дарэчы, амаль усе паэты з'яўляюцца сталымі перакладчыкамі і выдавецтвы, як правіла, вельмі шмат друкуюць перакладной літаратуры.) У гэтай кнізе побач з творамі рускай класічнай і савецкай паэзіі змешчаны і пераклады з

беларускай — вершы «А хто там ідзе?» Янкі Купалы і «Ручэй» Якуба Коласа. А ў час маёй сустрэчы з супрацоўнікамі часопіса «Надзьвілаг» (літаральна — «Цэлы свет», а ў больш шырокім сэнсе — «Сусветная літаратура») рэдактар аддзела Янаш Эльберт папрасіў прынесці мне адзін нумар свайго часопіса за 1964 год, дзе надрукаваны вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Ніла Гілевіча. Пераклады зрабілі прызнаныя венгерскія паэты і перакладчыкі Імрэ Чанадзі, Андраш Мезеі, Магда Секеі і Юдзіт Тот. «На жаль, гэта адзіная публікацыя, якой мы можам пахваліцца, — гаварыў у выбачальным тоне Янаш Эльберт. — Мы яшчэ мала ведаем беларускую літаратуру, яе сучасную паэзію і прозу». Я з свайго боку вымушан быў прызнавацца, што і ў нас яшчэ недастаткова ведаюць венгерскую літаратуру. Пагаджаліся на тым, што трэба бліжэй знаёміцца адзін з другімі, трэба больш праяўляць узаемнай увагі і ініцыятывы.

Размова аб неабходнасці пашыраць і ўмацоўваць нашы сувязі заходзіла і ў другім будапешцкім часопісе «Картарж» («Сучаснік»), і ў рэдакцыі часопіса «Ійенкор» («Новае жыццё), які выдаецца ў горадзе Печ, і ў час сустрэчы з венгерскімі паэтамі ў клубе Саюза пісьменнікаў на вуліцы Байзы. Гаспадары пыталіся ў мяне часта, што ўяўляе сабой беларуская мова, цікавіліся народнымі звычаямі, нашымі літаратурнымі справамі. Мне задавалі пытанні, і я адчуваў, што за імі — самае шчырае жаданне лепш ведаць нас і нашую літаратуру, і пераконваўся, што для паспяховага супрацоўніцтва патрэбны вось такія жывыя кантакты, непасрэдныя знаёмствы і гутаркі.

Прывяду такі прыклад. Аднойчы Шара Карыг павезла мяне ў госці да вядомага паэта Шандара Вераша і яго жонкі — таксама паэтэсы — Амі Караі. Яны цёпла сустрэлі нас, частавалі віном, Шандар Вераш чытаў свае новыя вершы. Ішла размова аб паэзіі, аб перакладах, аб літаратурнай працы. Вераш сказаў, што рыхтуе да друку зборнік сваіх новых перакладаў і тут жа выказаў гатоўнасць перакласці для гэтай кнігі некалькі твораў беларускай паэзіі. Трэба ведаць, якое месца займае сёння Шандар Вераш у венгерскай і ўсёй еўрапейскай паэзіі, каб ацаніць па вартасці значэнне гэтага факта.

Але, як вядома, павага і любоў бываюць трывалымі і плённымі толькі тады, калі яны ўзаемныя. Колькасць сяброў нашай літаратуры ў Венгрыі залежыць прама прапарцыянальна ад колькасці сяброў венгерскай літаратуры ў Беларусі. Мы выдалі

зборнік вершаў Пецёфі. Гэта добра. У апошнім зборніку «Дня паэзіі» надрукаваны іншыя пераклады з класічнай венгерскай паэзіі. Гэта таксама добра, пра гэты факт я таксама з вялікім задавальненнем паведамляў сваім венгерскім калегам. Як і пра тое, што ў адным з нумароў «Полымя» за 1969 год было надрукавана некалькі венгерскіх навел. Але гэта толькі першыя спробы, першыя крокі, гэтага мала. Дзёрдзь Рада меў рацыю, калі ў адной з размоў зазначыў з дакорам, што ў час нядаўняга фестывалю венгерскай драматургіі, які адбыўся ў пашай краіне, толькі ў Беларусі нічога венгерскага не было пастаўлена на сцэне. Наспела, безумоўна, пытанне аб выданні ў нас хаця б невялікай, на першы час, анталогіі сучаснай венгерскай паэзіі.

Павінен сказаць, што Венгрыя — краіна паэзіі, паэзія тут ледзь не ўзведзена ў культ. Гістарычна склалася так, што паэзія тут стала дамінуючым літаратурным жанрам і адыгрывае, асабліва ў апошні час, вялікую ролю ў грамадскім жыцці краіны. З артыкула Фарага Вілмаша, змешчанага ў паэтычным альманаху «Арыён», я даведаўся, што ў Венгрыі сем выдавецтваў выпускаюць вершаваныя зборнікі рэгулярна і чатыры — перыядычна. Штогод у краіне выходзіць у свет сто дваццаць зборнікаў вершаў агульным тыражом 800 000 экземпляраў, г. зн. сярэдні тыраж — каля 7000 экземпляраў. 75 з гэтых 120 кніг належаць венгерскім аўтарам, астатнія 45 — замежным. Штогод да Дня паэзіі, тыражом 30–40 тысяч экземпляраў выходзіць святочная паэтычная анталогія, якая змяшчае вершы 70–80 сучасных паэтаў. (Тыраж анталогіі 1968 года склаў 45 000 экземпляраў. Яна разыходзіцца, як правіла, на працягу некалькіх тыдняў. Цікавая дэталь: у час Дзён паэзіі анталогія прадаецца па зніжанай удвая цане.)

Не выпадковы і той факт, што менавіта ў Будапешце адбыліся некалькі год назад міжнародныя Дні паэзіі. Такія Дні становяцца таксама традыцыяй у культурным жыцці краіны. У сувязі з імі стаў выходзіць спецыяльны паэтычны альманах «Арыён», у якім змяшчаюцца вершы на некалькіх мовах свету як венгерскіх, так і замежных аўтараў. Гэтыя свае кароткія нататкі я і хачу закончыць добрымі словамі з «Арыёна»: «Мы верым у сілу паэзіі. Не ў яе выключную і міфічную сілу, а толькі ў яе сілу чалавечую, якая, як мы верым, адна з самых цудоўных і магутных сіл чалавека. Мы верым у тое, што паэзія не завяршыла сваёй гістарычнай місіі. Бадай, яе сапраўдная місія яшчэ толькі пачынаецца.

*1971*

# СОНЕЧНЫ ГАРАСКОП ЧУРЛЁНІСА[1]

Чурлёніс… Аднойчы пачутае гэта імя ўжо назаўсёды застаецца, як дзіўны акорд, у вашай свядомасці.

Назаўсёды застаюцца ў вашай свядомасці аднойчы ўбачаныя творы Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса, яго «Ісціна» і «Спакой», яго «Дружба», «Смутак» і «Рэкс». Запамінаюцца, застаюцца назаўсёды — як пачутыя ў дзяцінстве казкі ці як убачаныя аднойчы незвычайныя з'явы прыроды: шаравая маланка, паўночнае ззянне, сонечнае зацьменне.

Аднойчы, будучы на поўдні, я назіраў адвячоркам, пад ціхі плёскат мора, як у выніку ўзаемадзеяння промняў заходзячага сонца і аблок на небасхіле ўзнікла цэлая казачная краіна — з гарамі і далінамі, з дамамі і вежамі, з шырокай звілістай дарогай і адыходзячымі ад яе ва ўсе бакі сцяжынамі-атожылкамі. Зачараваны, захоплены, я не мог адарваць вачэй ад відовішча. Было такое адчуванне, быццам я падарожнічаю ў нейкай незямной, шматмернай прасторы і адкрываю для сябе антысвет, двайніка нашай зямной цывілізацыі.

Я потым доўга знаходзіўся пад уражаннем ад свайго незвычайнага «падарожжа». Яно запомнілася мне назаўсёды.

Нешта падобнае зведваеш і пры знаёмстве з Чурлёнісам. Яго карціны — своеасаблівае запрашэнне да падарожжа ў нейкі іншы, нетутэйшы, ахутаны вялікай тайнай свет, на іншы, супрацьлеглы бераг. У гэтым перш за ўсё іх незвычайнасць, гэтым перш за ўсё, мабыць, вытлумачваецца сіла іх уздзеяння.

Ды вось што — неабходна адразу агаварыцца — характэрна: як бы высока ні ўзлятала муза Чурлёніса, як бы ні лунала яна, яна, — сведчыць пераважная большасць яго карцін, — не парывае з родным гняздоўем, з зямной глебай. Свет Чурлёніса, пры ўсёй яго незвычайнасці і непараўнанасці, не халодны, не чужы для нас, а, наадварот, ён дыхае жыццём, прываблівае, абнадзейвае. Яно і зразумела. Яго вялікі дар чуйны і жыватворчы.

С природою одною
он жизнью дышал:
Ручья разумел лепетанье,
И говор древесных листов понимал,
И чувствовал трав прозябанье.
Была ему звёздная книга ясна…

Гэта радкі з вядомага верша Баратынскага «На смерць Гётэ». Але іх можна цалкам аднесці і да Чурлёніса, у якім імкненне

чытаць «зорную кнігу», слухаць зоры («Чуеш? Як ціха перагаворваюцца зоркі») гарманічна спалучалася з надзвычай абвостраным успрыманнем навакольнай прыроды («Жыта не шамаціць, а звініць як звон»).

У роздуме над «загадкай» Чурлёніса прыходзіш і да наступнай высновы. Ёсць нямала вызначэнняў генія і геніяльнасці. Зыходным крытэрыем тут можа быць і мера задаволенасці светам, адпаведна з якой геніяў можна падзяліць умоўна на два тыпы. Адны а іх, накшталт таго ж Гётэ, у асноўным задаволены светам і бачаць сваю задачу, сваё прызначэнне ў тым, каб яго далей абжываць, удасканальваць, рабіць лепшым. Другія, напрыклад, Леанарда да Вінчы, Ван Гог, Леў Талстой, больш крытычныя ў сваім стаўленні да свету і па-максімалісцку парываюцца ператтварыць яго на свой лад, па сваім вобразе і падабенстве. Вывяраючы свой ідэал, яны звяртаюць позірк да новых вымярэнняў, да зорак, да космасу. Да апошніх трэба аднесці і Чурлёніса. У гэтым сэнсе сімптаматычная яго нявдзейсненая да канца задума стварыць са ста карцін цыкл на тэму «Стварэнне свету». Паказальная ў гэтым сэнсе ўся яго творчасць. Як і належыць дэміургу, Чурлёніс творыць смела і мэтанакіравана, крута «замешвае», сінтэзуе ў якасці «будаўнічага матэрыялу» ўсё — ніз і верх, фарбу і гук, колер і штрых, рэальнасць і фантасмагорыю, мікракосм і макракосм. Універсальнасць — вызначальная асаблівасць творчага генія Чурлёніса.

Натуральна, што яго мастацтва вытрымала і працягвае годна вытрымліваць выпрабаванне часам, што яго прарочыя касмічныя фантазіі захоўваюць сваю мастацкую каштоўнасць, гэтак жа як колішнія «мроі аб зямлі і небе» Цыялкоўскага захоўваюць на сённяшні дзень сваю каштоўнасць тэарэтычную.

Прыгадваю — для мяне самога гэта павучальна, — як я паступова, прыступка за прыступкай, адкрываў для сябе Чурлёніса.

Прыступка першая. Літоўскія сябры падарылі мне альбом з яго «Знакамі задыяка». Дванаццаць знакаў, дванаццаць карцін. «Сонца ўступае ў знак Блізнят… Сонца ўступае ў знак Дзевы… Сонца ўступае ў знак Вагаў…» Не вельмі ўспрымальны, прызнацца, да жывапісу, тут я быў заінтрыгаваны, зацікавіўся. І не столькі знешнім, астралагічным характарам цыкла, не столькі каларытам і кампазіцыйнымі асаблівасцямі твораў, колькі іх агульнай задумай, сапраўды наватарскім імкненнем аўтара пераасэнсаваць па-свойму векавы міф, паказаць сродкамі жывапісу ва ўзаемасувязі зямны лёс чалавека і векавечны рух сузор'яў. Прыгадваецца, што «Знакі задыяка» Чурлёніса асацыіраваліся не столькі з містычнымі табліцамі старажытных зоркагадальнікаў,

колькі з «воляй сусвету» Цыялкоўскага і «ноосферай» Вярнадскага.

Прыступка другая. Наведанне мастацкай галерэі М. К. Чурлёніса ў Каўнасе. Другая сустрэча — ужо як са старымі знаёмымі — са «Знакамі задыяка». Але тут, у кантэксце ўсёй жывапіснай спадчыны мастака, яны ўжо ўспрымаюцца крыху інакш. Тым больш, што астральныя матывы складаюць змест і іншых карцін. І яшчэ адзначаеш, што ў «гараскопе» Чурлёніса, у яго алегорыях пераважае светлы, сонечны тон, за якім выразна прачытваецца вера аўтара ў добры, разумны пачатак жыцця, яго імкненне «быць патрэбным людзям і адчуваць святло ў сваіх далонях». Гэты жыццесцвярджальны, сонечны пачатак асабліва моцна дае знаць у так званым «музычным жывапісе», у прыватнасці, у «Санаце вясны» і «Санаце сонца».

У каўнаскім музеі я яшчэ падумаў, помню, аб тым, што калі асобныя цыклы Чурлёніса называюць музычнымі (для такой назвы ёсць падставы), то ўсе яго карціны ў сукупнасці можна смела называць жывапісам паэтычным. За гэта гаворыць ужо той факт, што некаторыя з іх можна смела інтэрпрэтаваць асобнымі вершамі ранняга Купалы («Крыжы», «Чорны бог», «К зорам» і інш.), што ў другіх выпадках, у якасці тлумачальнага тэксту, прыходзілі на памяць вершы Блока, у прыватнасці, вось гэтыя радкі, што ўразілі некалі ў далёкім юнацтве:

Ветер принёс издалёка  
Песни весенней намёк.  
Где-то светло и глубоко  
Неба открылся клочок.  
В этой бездонной лазури,  
В сумерках дальней весны  
Плакали зимние бури,  
Реяли звёздные сны.

Сны зямныя пераходзілі ў карцінах Чурлёніса ў «сны зорныя», карціны многа гаварылі на сваёй нялёгкай мове розуму і сэрцу.

Прыступка трэцяя. Знаёмства з яшчэ адной музай Чурлёніса — з яго літаратурнымі творамі, перакладзенымі на беларускую мову А. Разанавым да 110-годдзя мастака. Твораў гэтых нямнога, некаторыя з іх, падобна, незавершаны, але яны цікавыя і значныя ў тым сэнсе, што адкрываюць яшчэ адну грань творчай асобы вялікага літоўца, праліваюць у нейкай меры святло на прыроду яго маральных і эстэтычных шуканняў, на яго сімвал веры. У ад-

ным з гэтых паэтычных іншасказанняў як бы расшыфроўваюцца сонечная сімволіка мастака, яго метафара «сонца ў далонях». «Святло трэба мець з сабою, у сабе, — піша Чурлёніс, — каб свяціць у цемры ўсім, хто стаіць на дарозе, каб, азораныя святлом, яны змаглі адшукаць яго і ў сабе таксама і пайсці сваёй дарогай».

Прыступка чацвёртая. Чытаю набытую некалі ў вільнюскай кнігарні кнігу «Успаміны пра М. К. Чурлёніса», напісаную яго роднай сястрой Ядвігай Чурлёнітэ. Раскіданыя на старонках кнігі згадкі і сведчанні высвятляюць яшчэ адзін, асобасна-чалавечы, аспект творчасці Чурлёніса. «Калі Чурлёніс быў з намі, усе былі лепшыя. Побач з ім не магло быць ні дрэннага чалавека, ні злых пачуццяў. Ён разліваў вакол сябе нейкае святло… Чурлёнісу быў зусім чужы сыты лад жыцця «забяспечанага грамадзяніна», ён ніколі не змог бы ім задаволіцца і адчуваць сябе шчаслівым… Брат не адносіўся да тых практычных людзей, якія проста і «паспяхова» вырашаюць бытавыя пытанні. Ён жыў у іншым свеце. У свеце, у якім панавалі любоў і дружба і яшчэ нешта вельмі важнае, без чаго нельга жыць…» І гэтак далей.

Словам, старонкі кнігі пераканаўча сведчаць аб тым, што Чурлёніс-мастак, Чурлёніс-творца неаддзельны ад Чурлёніса-чалавека, ад Чурлёніса-асобы. Яшчэ адзін доказ — ад зваротнага, — што геній і ліхадзей не могуць суіснаваць, быць сумяшчальнымі.

«Зорнае неба над намі, а маральны закон унутры нас». Гэтыя крылатыя кантаўскія словы ў дачыненні да Чурлёніса можна вытлумачыць так: на тыя высокія вежы, з якіх ён бачыў зорнае неба, ён узнімаўся па загаду свайго вялікага, поўнага любві, чалавечнасці і тугі па лепшым жыцці, сэрца.

Прыступка пятая. Заключная. Пасля кнігі Я. Чурлёнітэ я ўжо не мог адкладваць на далей здзяйсненне сваёй даўняй мары — наведаць Друскінінкай[2] і пакланіцца родным мясцінам Чурлёніса, той хаціне, дзе ён жыў і пачынаў тварыць, з якой выйшаў у свет. І вось я тут у адзін з апошніх дзён залатой восені (гарадок быў літаральна заліты барвамі лістапада). Невялікі, прысадзісты домік, ашаляваны пафарбаванай дошкай і заценены садам. Пры ўваходзе — лазовы кош, куфэрак, вялікая бляшанка з-пад чаю з імем купца Высоцкага, на сцяне — гадзіннік, застылыя стрэлкі якога паказваюць… пачатак стагоддзя. У галоўным пакоі, злева, музычныя інструменты — старое рудаватае піяніна фірмы «Арнольд Фібігер», якое некалі юны музыкант Кастукас атрымаў у падарунак ад свайго мецэната, князя Агінскага, по-

бач з піяніна — ззяе чорным лакам новы раяль, на якім кожнае лета выконваюцца творы Чурлёніса. У правым кутку пакоя — невялікая шафа, запоўненая старымі кнігамі ў пацямнелых пераплётах. У суседнім, праз некалькі крокаў, доміку (у адным жылі самі, другі дзеля грошай здавалі летам дачнікам) знаходжу той самы — малюсенькі, з адным акенцам — пакойчык, дзе Чурлёніс маляваў і дзе знаходзіцца самы каштоўны, відаць, экспанат мемарыяльнага музея — мальберт.

Аглядаю экспазіцыю музея. Гутару з яго загадчыкам, мастаком па прафесіі Адэльбертасам Нядзельскісам. Частуюся яблыкамі з саду Чурлёніса (даведваюся, што першыя саджанцы яблынь і груш для свайго саду бацька Чурлёніса, мясцовы арганіст, прывёз з Гродна). Потым блукаю па вуліцах гарадка і яго ваколіцах, каля Нёмана, вакол возера Друсконіс, па лесе, які пачынаецца адразу за возерам. У гэтым маляўнічым, «райскім» кутку Літвы міжволі думаеш аб той ролі, якую, пэўна, адыграла — не магла не адыграць — прырода ў выспяванні шматбаковага таленту Чурлёніса, у станаўленні яго як асобы. Уяўляючы, як Мікалоюс Чурлёніс вяртаўся з лесу ці з возера дадому, узнімаюся на высокі бераг і зноў падыходжу да доміка-музея. Здаецца, яшчэ адзін крок, яшчэ адзін раптам заўважаны след, яшчэ адна падмечаная дэталь, яшчэ адно, нарэшце, намаганне — і разгадаецца феномен Чурлёніса, тайна з’яўлення вялікага мастака і музыканта, адкрывальніка новых кантынентаў і сузор’яў у сусвеце, імя якога Мастацтва. Калі б…

У Друскінінкай я прыехаў поездам з Вільнюса, праз літоўска-беларускую станцыю Парэчча. Вяртаўся дамоў аўтобусам Друскінінкай–Мінск. Той самай гродзенскай дарогай, якою Чурлёнісы, бацька і сын, ездзілі ў Беларусь, у прыватнасці, на суседнюю Гродзеншчыну. У думках я развітваўся і вітаўся зноў з Чурлёнісам, які стаў мне цяпер яшчэ бліжэйшым (хоць і не менш загадкавым). І яшчэ мне чуліся, здавалася, як пажаданне на дарогу, словы героя прытчы Чурлёніса (ці, можа, самога аўтара) пра тое, што чалавек павінен быць заўсёды ў нястомным пошуку, у дарозе і што, каб ведаць дарогу, ён павінен «глядзець з высокіх вежаў» і верыць у гадзіну знямогі ў цудадзейную «лаўку для пасланцоў». На радзіме Чурлёніса мне адкрыўся глыбінны сэнс яго мудрай прытчы — аб «хрэсным шляху» чалавецтва, аб духоўнай сувязі часоў і вечнай эстафеце людскіх пакаленняў.

*P. S.* Чытаючы ўспаміны сястры Чурлёніса, я не мог, канечне, не звярнуць увагу на наступнае сведчанне: «Вясной дом у Друскінінкаі апусцеў. Зосе паехала да сваіх сяброў у маёнтак

Петраўшчызна (Мінскай губ.), дзе 30 мая нарадзілася дачка Кастукаса Данутэ…» І вось літаральна на другі дзень пасля майго вяртання з Друскінінкай я раптам даведваюся ў час тэлефоннай размовы ад літаратуразнаўцы Валянціны Гапавай, што яе знаёмыя, навуковы супрацоўнік Віталь Скалабан і рэдактар тэлебачання Уладзімір Содаль гэтымі днямі якраз — бываюць жа такія супадзенні! — шукалі на адной з ускраін Мінска, у гэтай самай Пятроўшчыне («Петраўшчызне» — на польскі лад) сляды былога маёнтка Чарнoцкіх, сяброў жонкі Чурлёніса. Я пазваніў Віталю Скалабану ў выдавецтва «БелСЭ», дзе ён працуе. Так, пацвердзіў ён, пахадзілі, палазілі мы па былой Пятроўшчыне. Вёска зліваецца з горадам. Пабудавана вялікая бальніца, будуецца школа. Ды рэшткі колішняга двара захаваліся: старыя ліпы, алея глогу… Знайшлася яшчэ жанчына, якая працавала ў Чарноцкіх пакаёўкай. В. Скалабан паведаміў мне яшчэ, што чытаў пісьмы жонкі Чурлёніса Соф’і Кімантайтэ (Ядвіга Чурлёнітэ называе яе Зосяй. — *А. В.*), якія тая пісала з Пятроўшчыны. У адным з пісьмаў С. Кімантайтэ паведамляла, у прыватнасці, свайму адрасату, што Аўгусцін Чарноцкі і яго сёстры, Ядвіга і Зося, «вельмі добрыя, мілыя, культурныя, дэмакратычных поглядаў» людзі. І яшчэ адну цікавую рэч сказаў мне В. Скалабан: увесну 1911 года, літаральна за некальні дзён да смерці Чурлёніса, у Мінску адбылася мастацкая выстаўка, дзе сярод іншых работ экспанаваліся і творы Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса, першая і адзіная дачка якога нарадзілася на беларускай зямлі…

*1987,*
*Друскінінкай–Мінск*

# «МЫ, НАРОДЫ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ…»
*Раздзелы з кнігі «Нью-Йоркская сірэна»*

## Маўчанне і слова ў імя міру. Паднімаюцца новыя флагі

Гэта ўжо стала традыцыяй у жыцці планеты: кожны трэці аўторак верасня месяца, з такой жа няўхільнасцю, з якой верасень змяняе жнівень, адкрываецца ў Нью-Йорку мінутай маўчання чарговая сесія Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У галоўнай зале небаскроба на Іст-Рывер, вядомага ўсяму свету «будынка з шасцю тысячамі вокан» (вунь як далёка павінна быць бачна адсюль!) устаюць як адзін пасланцы амаль усіх краін свету, прадстаўнікі ўсіх яго кантынентаў, рэгіёнаў, рас, сацыяльных сістэм, ідэалогій, устаюць мужчыны і жанчыны, белыя і чорныя, старыя і маладыя, вопытныя палітыкі і пачынаючыя дыпламаты, атэісты і веруючыя, аптымісты і скептыкі, — устаюць усе з рытуальнай урачыстасцю, каб на пачатку работы сесіі сумесна памаўчаць — у малітве або роздуме. Так, спачатку ўсё ж было маўчанне, слова было потым. Тыя, хто паклаў пачатак гэтай традыцыі, маюць безумоўна рацыю…

Гэта ўжо стала традыцыяй.

Гэта ўжо паўтараецца кожны год — пачынаючы з таго памятнага пасляваеннага сорак пятага.

Гэта адбывалася і апоўдні 20 верасня — у аўторак, натуральна — 1977 года. Галоўная зала ААН — падковападобная па гарызанталі, з высокім купалам, на якім віднеецца ўмоўны відарыс зямных кантынентаў — запоўнена дэлегатамі, карэспандэнтамі, запрошанымі. Адкрывае сесію міністр замежных спраў Шры Ланкі Хамід (гэта тлумачыцца тым, што старшынёй папярэдняй сесіі быў прадстаўнік той жа краіны Гамільтон III. Амерасінгхе). «Прашу паважаных прадстаўнікоў захаваць мінуту маўчання, прысвечаную малітве або роздуму!» — звяртаецца ён да ўдзельнікаў форума. Зала аднадушна ўстае і пагружаецца ў бязмоўе.

Фізічна нябачны і нячутны метраном напружана адлічвае секунды, якія, паколькі датычацца ўсіх, усім належаць, напоўнены асаблівым сэнсам і здаюцца цэлай вечнасцю. Абвостраным бакавым зрокам бачу: злёгку нахіліўшы наперад і ўправа галаву, моліцца сам сабе дэлегат маладой афрыканскай дзяржавы; глядзіць засяроджана перад сабой, звузіўшы вочы,

балгарскі дыпламат; ціха варушыць губамі прадстаўнік адной заходнееўрапейскай краіны… Аб чым малітвы? Роздум аб чым? Трэба думаць — аб міры.

Ёсць ёмістая слоўная формула, якая нарадзілася разам з гэтай міжнароднай арганізацыяй над свежымі яшчэ магіламі і руінамі мінулай вайны і якая, напэўна, можа найлепшым чынам выказаць агульны стан дэлегатаў Асамблеі, закліканай да мінуты маўчання. Вось яна:

«МЫ, НАРОДЫ АБ’ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ, ПОЎНЫЯ РАШУЧАСЦІ

пазбавіць будучыя пакаленні ад бедстваў вайны, якая двойчы ў нашым жыцці прынесла чалавецтву невыказнае гора…

зноў усталяваць веру ў асноўныя правы чалавека, у годнасць і каштоўнасць чалавечай асобы, у раўнапраўе мужчын і жанчын і ў роўнасць правоў вялікіх і малых нацый…

І Ў ГЭТЫХ МЭТАХ

праяўляць цярпімасць і жыць разам, у міры адзін з другім, як добрыя суседзі,

і аб’яднаць нашы сілы для падтрымання міжнароднага міру і бяспекі…»

Чаканная, нібы высечаная на метале, формула тычыцца ўсіх. Маўчыць уся зала. Але для нас, для тых, хто перажыў жахі вайны на ўласным вопыце, гэтыя, прасякнутыя разумнай, добрай воляй, пачуццём высокай адказнасці словы — з прэамбулы Статута ААН — асабліва зразумелыя і значныя. Для нас, хто страціў у вайне сваіх родных і блізкіх, хто прынёс на алтар перамогі над фашызмам дваццаць мільёнаў чалавечых жыццяў, гэтая мінута маўчання мае не толькі сімвалічны, цырыманіяльны, але і канкрэтны духоўны сэнс — мы ўшаноўваем памяць паўшых. Мы ўшаноўваем памяць ахвяр вайны, і нашы думкі пра мір для жывых…

Аддаўшы належнае традыцыйнаму рытуалу (своеасаблівы эквівалент самаблагаславення), Генеральная Асамблея прыступае да справы — прымае пастанову аб Камітэце па праверцы паўнамоцтваў (у склад камітэта выбіраецца 9 членаў, у тым ліку і СССР), потым пераходзіць да выбараў старшыні сесіі. Старшынёй аднагалосна выбіраецца прадстаўнік Югаславіі, вядомы югаслаўскі дыпламат і палітычны дзеяч Лазар Мойсаў. Яго запрашаюць заняць адпаведнае месца ў прэзідыуме (старшыня ў цэнтры, па правую руку ад яго — генеральны сакратар ААН, па левую — намеснік генсека па палітычных пытаннях і пытаннях Генеральнай Асамблеі).

Новы старшыня — яшчэ не стары, моцна складзены чарнявы серб — выступае з заявай, гаворыць, што называецца, сваю «тронную» прамову. Адна з асноўных думак — аб неабходнасці павышаць эфектыўнасць ААН як важнага інструменту ў змаганні за мір і разрадку. Закранаецца пытанне і аб слабых баках галоўнай міжнароднай Арганізацыі, у прыватнасці аб тым, што ў ёй часам «назіраецца тэндэнцыя займацца вынікамі, а не прычынамі».

Наступны, адначасова і ўрачысты і дзелавы момант — прыняцце ў рады Арганізацыі Аб'яднаных Нацый новых дзяржаў. Старшыня нагадвае дэлегатам ранейшую працэдуру прыёму, і Генеральная Асамблея аднадушна, шляхам акламацыі (гэта значыць без галасавання, засвойваю тут новую для сябе мову: акламацыя, кансэнсус і г. д.) ухваляе праект рэзалюцыі аб прыёме ў склад ААН дзвюх краін — толькі што атрымаўшай незалежнасць Рэспублікі Джыбуці, былой заморскай тэрыторыі Францыі, і нядаўна адстаяўшай у смяротнай схватцы з імперыялістычным агрэсарам сваю нацыянальную незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам.

— Прашу начальніка пратакола адвесці дэлегацыі на іх месцы ў зале! — распараджаецца намеснік генеральнага сакратара Уільям Буфум, той самы, што сядзіць злева ад старшыні.

І вось начальнік пратакольнай службы — па-вайсковаму падцягнуты, важны (пасада абавязвае) — чынна вядзе праз залу спачатку адну, потым другую дэлегацыі і паказвае ім іх месцы. Калі з'явілася дэлегацыя В'етнама — выбухнулі воплескі і раздаліся разнамоўныя прывітальныя воклічы: з'ява ўжо зусім не прадугледжаная пратаколам, не частая, нават не прынятая ў гэтай зале. Крэслы в'етнамскіх прадстаўнікоў недалёка ад нашых, і ў мяне ёсць магчымасць назіраць іх у гэты гістарычны для іх момант, бачыць іх узрушана-гордыя твары.

Наступны, другі па ліку дзень работы сесіі прадаўжае зробленае яго папярэднікам — пачынаецца з цырымоніі падняцця дзяржаўных флагаў В'етнама і Джыбуці. Урачыстасць адбываецца перад уваходам у будынак Генеральнай Асамблеі. Вальдхайм[1] гаворыць некалькі прывітальных слоў у адрас «імяніннікаў», і два розныя, рознай расфарбоўкі і з рознымі эмблемамі на палотнішчах, сцягі паволі ўзнімаюцца па флагштоках угору. Вось яны ўжо, бачу, развяваюцца на непрывычным яшчэ для іх нью-йоркскім ветры ці, лепей сказаць, на ўсіх чатырох, нават на ўсіх сямі вятрах свету, калі мець на ўвазе палітычны сэнс

цырымоніі. Азіраю твары прысутных і бачу: ззяюць позіркі ў пасланцоў Джыбуці, на вачах аднаго з членаў в'етнамскай дэлегацыі паблісваюць слёзы. Прыходзіць думка, што калі людзям і патрэбны «свяшчэннадзействы», цырымоніі і рытуалы — дык менавіта вось такія, што ўзвышаюць чалавека ў духу праўды і справядлівасці, пацвярджаюць яго перамогу над нацыянальным і сацыяльным прыгнётам. [...]

### Ідзе дыскусія, ідзе дыялог...

26 верасня, у панядзелак, старшыня сесіі Генеральнай Асамблеі грукнуў па стале малатком у знак таго, што чарговае, шостае па ліку, пленарнае пасяджэнне лічыцца адкрытым, і абвясціў пачатак агульных спрэчак.

— Слова мае яго правасхадзіцельства пан Антоніё Франсіск Азерэда да Сілвейра, міністр замежных спраў Бразіліі.

Першы прамоўца, кіраўнік бразільскай дэлегацыі з яго гучным доўгім імем, ідзе да застылай у чаканні, масіўнай, колеру марской вады, трыбуны, дэлегаты надзяваюць навушнікі, круцяць рычажкі пераключальнікаў, злучаных з кабінамі сінхроннага перакладу, і агульныя спрэчкі — іх яшчэ называюць агульнапалітычнай дыскусіяй — бяруць старт. Наперадзе — доўгі, шматдзённы слоўны марафон.

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Глядзіць на залу са свайго ўзвышэння,
ацэньваючы момант, Старшыня.
Нагадвае парадак дня.
Стук малатка гучыць накшталт сігналу —
сказаць, што не сказала яшчэ зала.
Раз маеш слова, зала, — гавары!
Свет словам ўдасканальвай і твары!
Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Тут штосьці ад рытуалу пасвячэння:
«Мы, Аб'яднаных нацый люд,
вайне і злу выносім свой прысуд...»*
Не слова, можа быць, было ў пачатку.
Ды ў слова веру я ў любым выпадку.
І гавару я: «Слова, ты гучы!
І хай маўчаць гарматы і мячы!»

---

* Перафразоўка пачатковых слоў прэамбулы Статута ААН.

Ідуць спрэчкі. Ідзе абмен думкамі. Гучыць слова. І гэта добра. І гэта ва ўсякім разе лепш, чым ваяўніча-мілітарысцкія заклікі і бразганне зброяй. І тут старшыня з яго малатком уяўляецца мне кавалём, які куе справу міру, а зала пасяджэння з яе высокім купалам — кузняй, майстэрняй, дзе мір куецца. Марудна, цяжка, не так паспяхова, як хацелася б, як павінна было б быць, але куецца ўсё-ткі.

Ідуць спрэчкі. Ідзе дыскусія. І, услухоўваючыся ў прамовы, назіраючы, як адзін прамоўца змяняе на трыбуне другога, з глыбокім унутраным задавальненнем канстатуеш гэты малюнак. Сапраўды, думаеш, чалавек жа адрозніваецца ад жывёліны не толькі развітым вялікім пальцам, а і нечым больш істотным. Ён жа — гома сапіенс, яму дадзены розум, дадзена другая сігнальная сістэма — мова. І дадзена яна, трэба думаць, не для таго, каб супрацьстаяць розуму, а каб служыць яму; не для таго, каб утойваць думкі, ашукваць адзін аднаго, камуфліраваць вузкаэгаістычныя мэты, а каб абменьвацца думкамі, дамаўляцца на аснове ўзаемнасці, разам шукаць ісціну; не для таго, каб кідаць адзін аднаму выклік, сеяць варожасць, нянавісць, разлад, а каб знаходзіць агульную мову, усталёўваць сумеснымі намаганнямі ў свеце дух даверу, міру і супрацоўніцтва. Сёння, як ніколі, чалавецтва стаіць перад дылемай: зямля — арэна супрацоўніцтва і міру альбо поле бітвы? І людское слова, неаддзельнае ад розуму чалавека, ад яго векавой мудрасці, столькі зрабіўшы для яго духоўнага развіцця, заклікана адыграць сваю станоўчую, канструктыўную ролю ў вырашэнні гэтага галоўнага пытання часу. «У мінулым годзе мы зноў былі сведкамі сур’ёзных трагічных канфліктаў, — гучыць з высокай трыбуны ААН. — І ўсё ж нельга адмаўляць таго, што ні адна другая эпоха не была так пераканана ў магчымасці і неабходнасці вырашэння гэтых канфліктаў з дапамогай агульнапрызнаных міжнародных норм, распрацаваных чалавечым геніем».

Ідзе дыскусія. Ідзе размова аб разрадцы, аб раззбраенні, аб бяспецы. І мне бачыцца яшчэ адзін важны аспект гэтай палітычнай размовы — псіхалагічны. Бо калі лічыць правільным сцвярджэнне, што «войны пачынаюцца ў галовах людзей» (гэтыя словы са Статута ЮНЕСКА прыгадваліся раз-пораз у ходзе дыскусіі), што, інакш кажучы, палітыка і ідэалогія звязаны тысячамі ніцяў з псіхалогіяй, людской і нацыянальнай, з прыродай чалавека, то правільным будзе і сказаць: войны трэба выкараняць у галовах, у свядомасці, трэба карэнным чынам мяняць настрой думак, якія арыентаваўся спрадвеку на «права моцнага», на культ сілы,

на прымяненне сілы ў вырашэнні рознагалоссяў і спрэчак. «Гарызантальнае» раззбраенне немагчыма без раззбраення «вертыкальнага», без належнага разумення неабходнасці раззбраення, прыняцця прынцыпаў мірнага суіснавання ў якасці агульнапрызнаных норм міжнароднага жыцця. «Вельмі важна і неабходна, — звяртаўся да Асамблеі прадстаўнік Індыі, — каб палітычны розум вызваліўся ад ваеннай логікі і каб палітычная воля ўсталёўвала сілу розуму».

І вось ідзе дыскусія, выказваюцца розныя пункты погляду, абменьваюцца думкамі людзі, якія прадстаўляюць розныя краіны і сацыяльна-палітычныя сістэмы, але сабраліся як члены аднаго і таго ж міжнароднага супольніцтва, сабраліся ў адной і той жа зале і выступаюць з адной і той жа трыбуны, і ўжо сам па сабе гэты факт з'яўляецца аргументам на карысць таго, што не толькі неабходна, але і магчыма думаць па-новаму, бачыць планету як агульны дом, з'яўляецца канкрэтнай праявай маральнага супрацьяддзя псіхалагічнай вайне, палітыцы з пазіцыі сілы.

Ідзе дыскусія… Прамовы, на якой бы з шасці рабочых моваў ААН яны ні гаварыліся, тут жа, імгненна разлятаюцца па зале ў перакладзе на гэтыя, найбольш распаўсюджаныя мовы свету. НТР у дадзеным выпадку служыць гуманнай справе, справе міру і ўзаемаразумення, дакладней — спрыяе ліквідацыі моўнага бар'ера. Ці можа ўдзельнік форума выступіць на якой-небудзь іншай мове, апрача прызнаных тут афіцыйна? Можа, мае такое права згодна з правіламі працэдуры, але пры ўмове, што яго дэлегацыя паклапоціцца аб тым, каб тэкст выступлення быў загадзя распаўсюджаны ў зале на адной з рабочых моваў. Да слова сказаць, прадстаўнік Партугаліі ўзняў у сваёй прамове пытанне аб увядзенні ў якасці яшчэ адной афіцыйнай мовы ААН мовы партугальскай. Ну ды гэта ўжо крыху іншая справа. Галоўнае ж —наяўнасць добрай волі ў пошуку агульнай мовы.

Ідзе дыскусія. Гучаць прамовы. Якая працягласць іх? Ці рэгламентуюцца яны? Калі рэгламентуюцца, то якім чынам? Трэба думаць, што ў высокіх сферах міжнароднага супрацоўніцтва таксама нельга без гэтых звычайных фізічных параметраў? Інакш той дыскусіі, сесіі той не будзе ні канца ні краю, няпэўнай будзе эфектыўнасць работы форума.

У свой час па ініцыятыве сакратарыята ААН была зроблена нават спроба ўвесці электроннае абсталяванне для адліку часу ў зале Генеральнай Асамблеі і памяшканнях галоўных камітэтаў. Але гэтая ініцыятыва не была падтрымана пераважнай большасцю дэлегатаў. Пытанне было вынесена на разгляд спецыяльнага

камітэта. Раней чым выступіць з пэўнымі рэкамендацыямі, ён абагульніў канкрэтны вопыт — практыку работы юбілейнай, дваццаць пятай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, на якой удалося заслухаць вялікую колькасць прамоўцаў за параўнаўча кароткі час і без якой-небудзь папярэдняй дамоўленасці наконт рэгламенту.

Члены камітэта прыйшлі да вываду, што такі вынік тлумачыцца не чым іншым, як рацыянальным выкарыстаннем часу, і што пры захаванні гэтай умовы адпадае патрэба ў нейкім спецыяльным абмежаванні працягласці прамоў. На гэтым і вырашылі. Вопыт наступных сесій Генеральнай Асамблеі ААН пацвердзіў вывады камітэта, паказаў, у прыватнасці, што сярэдняя працягласць выступлення складае 35 мінут — аптымальна дастатковы час для таго, каб кожны прамоўца змог выкласці пазіцыю сваёй краіны па пытаннях парадку дня Асамблеі, акрэсліць ва ўсякім разе, у якім ён лагеры — з сіламі міру ці сіламі вайны.

Ідзе дыскусія. Ідзе дыялог. Паміж — краінамі вялікімі і малымі, краінамі з розным грамадскім ладам, краінамі з векавой дзяржаўнасцю і з дзяржаўнасцю толькі што атрыманай, краінамі эканамічна развітымі і што сталі ў нядаўнім мінулым на шлях развіцця, краінамі ядзернымі і якія не маюць ядзернай зброі, краінамі кантынентальнымі і астраўнымі. І нават паміж краінамі, якія маюць выхад да мора і якія такога выхаду не маюць. Прэм’ер-міністр Заходняга Самоа гаворыць, напрыклад, пра тое, якое значэнне мае мора ў жыцці палінезійскай нацыі. «Мора для нас, — зазначае ён, — з’яўляецца не толькі крыніцай сродкаў для існавання, але і вызначае наш характар, увесь уклад нашага жыцця». А прадстаўнікі Бутана і Непала, краін, якія належаць да паўднёваазіяцкага субрэгіёна, горка наракалі, у сваю чаргу, на цяжкасці, звязаныя з адсутнасцю выхаду да мора, падрабязна гаварылі, якімі «неспрыяльнымі ў сучасным свеце з’яўляюцца пазіцыя і становішча непрыбярэжнай дзяржавы», выказвалі спадзяванне, што іх інтарэсы «будуць адлюстраваны ў новай міжнароднай канвенцыі па марскім праве».

Ідзе дыскусія. Ідзе дыялог. Дыялог дэмакратычны, раўнапраўны, шматбаковы, дыялог усіх з усімі. І гэта добра. Але яго плённасць, эфектыўнасць яго вызначаюцца, безумоўна, мераю шчырасці прамоўцаў, мераю добрай волі бакоў — удзельнікаў форума. Пераважная большасць менавіта ў такім духу і выступае — шчыра, без скрытнага намеру, бона фідэ, як гаварылі старажытныя рымляне. Але ў той жа час слых улоўлівае, што ў адны і тыя ж па сваім гучанні словы ўкладваецца розны,

часам нават супрацьлеглы, сэнс, як нехта фальшывіць, нехта крывадушнічае, нехта спрабуе падмяніць дыялог ідэалагічнай палемікай, а сёй-той гаворыць з высокай трыбуны самую што ні ёсць нізкую хлусню. Так, прадстаўнік палпотаўскай клікі з крывадушна-ялейнай ухмылкай на твары распінаўся шматслоўна наконт… «здароўя нацыі», «росту народанасельніцтва краіны» і г. д. І гэта ў той час, калі наваяўленыя канібалы ў асобе так званых «чырвоных кхмераў» літаральна рабавалі краіну, вынішчалі фізічна свой народ. […]

Ідзе дыскусія. Ідзе дыялог. І з кожнай новай прамовай усё больш пераконваешся, якое гэта няпростае, неадназначнае паняцце «змаганне за мір», колькі розных складаемых змяшчае яно ў сабе, наколькі актуальныя, важныя, разнапланавыя праблемы стаяць перад міжнародным супольніцтвам нацый і як, якім тугім вузлом узаемазвязана, пераплецена ўсё ў гэтым нашым узаемазвязаным і ўзаемазалежным свеце. І яшчэ пераконваешся — усё больш з кожным новым выступленнем, з кожным наступным пасяджэннем, — што ўсе гэтыя надзённыя пытанні часу не вырашацца самі па сабе ці па волі нейкага добрага дзядзькі, а толькі шляхам дружных сумесных намаганняў, намаганняў у адным і тым жа кірунку і на агульнай міжнароднай аснове, шляхам, як правільна зазначаў адзін з прамоўцаў, «праяўлення новага пачуцця калектыўнай адказнасці за будучыню ўсяго чалавецтва». «Мы выступаем за мір — цёплы, асязальны, жывы, — гаворыць прадстаўнік Індыі, — за мір, які з'яўляецца мэтай і асновай усіх нашых намаганняў. Але тонкая матэрыя міжнароднага міру можа быць разадрана на кавалкі ў любы час. Мір можа быць захаваны толькі ў выніку калектыўных намаганняў, накіраваных на ліквідацыю эксплуатацыі і панавання аднаго чалавека над другім, на ліквідацыю страшэннай няроўнасці і дыспрапорцый, што існуюць паміж дзяржавамі, а таксама паміж правамі і магчымасцямі народаў свету».

Ідзе дыскусія. Ідзе дыялог. І хаця слова — гэта яшчэ не заўсёды справа, не заўсёды лёгка пераходзіць ад заяў да канкрэтных дзеянняў, пераводзіць дэкларацыі на мову практычнай палітыкі; і хаця, як заўважыў запальчыва адзін дэлегат, спрэчкі бываюць «дыялогам у вакууме, калі шмат гавораць, а мала робяць»; і хаця адзін прамоўца, спрабуючы кінуць цень на абмеркаванне важнага пытання, дэмагагічна ўсклікнуў: «Мы павінны прызнаць, што нашы дзеянні больш, чым нашы словы, прынясуць нам мір, за які мы ўсе молімся», — нягледзячы на ўсё гэта дыскусія паспяхова ідзе. Ідзе дыялог. Паміж краінамі

і кантынентамі, паміж Усходам і Захадам, паміж Поўначчу і Поўднем*, паміж «трэцім светам» і іншымі дзяржавамі і народамі, паміж нядаўнімі метраполіямі і іх учарашнімі калоніямі, атрымаўшымі самастойную дзяржаўнасць, паміж учарашнім днём планеты і яе заўтрашнім днём… Ідзе дыялог. І несумненна, што ён, пры ўсіх яго слабых баках, не толькі з'яўляецца добрым знакам, які абнадзейвае, але і рэальна служыць справе міру і ўзаемасупрацоўніцтва. «Для данага перыяду гісторыі чалавецтва, — гаворыць прадстаўнік адной з арабскіх дзяржаў, — характэрна правядзенне дыялога паміж краінамі і народамі. Можа, менавіта таму сучасны свет змог пазбегнуць многіх канфрантацый». Трэба думаць, што так яно ёсць і сапраўды. Асабліва калі мець на ўвазе тую акалічнасць, што ў міжнароднага супольніцтва нацый яшчэ параўнаўча небагаты вопыт такога дыялога, што, як было сказана міністрам замежных спраў Швецыі, «глабальнае супрацоўніцтва існуе ўсяго толькі на працягу кароткага часу ў параўнанні з многімі тысячагоддзямі чалавечай гісторыі».

Ну, а потым акрамя палітычнага і практычнага бакоў справы ёсць яшчэ бок маральны. Той самы, які меў на ўвазе Талстой, калі гаварыў, што выказаная думка «як бы ўжо здзейснена» ў пэўнай меры, і які таксама нельга скідваць з рахунку.

Ідзе дыскусія. Старшыня сесіі: «Перш чым закрыць пасяджэнне, я б хацеў нагадаць паважаным прадстаўнікам, што застаецца ўсяго толькі адзін тыдзень да завяршэння агульных спрэчак на Генеральнай Асамблеі»…

## Штаб-кватэра ААН пры бліжэйшым разглядзе

— Значыць, гэта і ёсць штаб-кватэра ААН?

— Ну так.

— Яе называюць «небаскробам, або палацам на Іст-Рывер», «домам з шасцю тысячамі вокан»… Усе гэтыя назвы ідуць ад знадворнага выгляду. Яны нічога не гавораць

---

* На сесіі ў шэрагу выступленняў фігуравала і такое, распаўсюджанае ў заходняй літаратуры паняцце, згодна а якім пад Поўначчу маюцца на ўвазе прамыслова развітыя краіны, а пад Поўднем — краіны бедныя, стаўшыя на шлях развіцця.

пра сутнасць гэтага унікальнага на Зямлі будынка, пра галоўную ідэю, якую ён матэрыяльна ўвасабляе. Я б яго назваў…

— Храмам міру?

— Што ж, гэта ўжо бліжэй да сутнасці, але гучыць крыху напышліва і архаічна. Я б назваў Палацам Нацый, ці Палацам Народаў, але ж нешта падобнае ўжо ёсць — ці то ў Жэневе, ці то ў Вене. А што, калі назваць Домам Чалавецтва? Можа, занадта гучна, занадта фігуральна зноўтакі. Але затое падкрэсліваецца сутнасць ААН з яе ідэалам глабальнай універсальнасці, з яе клопатам пра мір і адзінства, пра лепшую будучыню чалавецтва.

*З размовы паміж пасяджэннямі Генеральнай Асамблеі*

Брашура, якая раздаецца дэлегатам напярэдадні сесіі і дзе змешчаны неабходныя звесткі аб штаб-кватэры ААН, адкрываецца наступнай інфармацыяй: «Цэнтральныя ўстановы Арганізацыі Аб’яднаных Нацый займаюць участак плошчай 18 акраў на востраве Манхетэн, які (участак) размешчаны паміж 42-й стрыт (паўднёвы бок) — 48-й стрыт (паўночны бок), часткай Першай авеню, якая вядома зараз як Юнайтэд Нейшнз Плаза (заходні бок), і ракой Іст-Рывер і шашой Франклін Д. Рузвельт (усходні бок). Гэты ўчастак належыць Арганізацыі Аб’яднаных Нацый і з’яўляецца міжнароднай тэрыторыяй». «Цэнтральныя ўстановы, — паведамляецца далей у брашуры, — размешчаны ў чатырох асноўных будынках, звязаных паміж сабой. Гэта — 39-павярховы небаскроб, адведзены пад службовыя памяшканні Сакратарыята; невысокі будынак для канферэнцый, што працягнуўся ўздоўж ракі і дзе знаходзяцца залы пасяджэнняў і саветаў (Савета Бяспекі, Эканамічнага і Сацыяльнага Савета і Савета па Апецы. — *А. В.*), другія залы пасяджэнняў, салоны і рэстараны; і будынак Генеральнай Асамблеі, у якім апрача залы пленарных пасяджэнняў знаходзяцца яшчэ адна вялікая

зала і чатыры памяшканні сярэдніх памераў для пасяджэнняў, а таксама будынак Бібліятэкі».

Так выглядаюць тапаграфія і планіроўка комплексу будынкаў, вядомых усяму свету па фотаздымках і тэлеперадачах як штаб-кватэра ААН. Дадам яшчэ, што кабінет генеральнага сакратара ААН знаходзіцца на 38-м паверсе шклянога небаскроба (мабыць, у знак таго, што генсек павінен быць «на вышыні»). Зала Генеральнай Асамблеі (яе яшчэ называюць «авальнай») і залы пасяджэння саветаў размяшчаюцца на другім паверсе, а ўсе астатнія залы абодвух будынкаў — у цокальным паверсе (даволі нізкія столі, лямпы дзённага асвятлення, не вельмі ўтульныя, словам, памяшканні).

З боку Першай авеню і 48-й стрыт да будынка Генеральнай Асамблеі прымыкае невялікі сквер: пасыпаныя чырванаватым гравіем дарожкі, роўна пастрыжаныя газоны, скульптуры, што падораны ААН некаторымі дзяржавамі, у тым ліку і падарунак СССР — копія сусветна вядомага шэдэўра Вучэціча «Перакуём мячы на аралы» (яны тут вельмі дарэчы, трэба сказаць). Бліжэй да ракі знаходзіцца, пераходзячы фактычна ў набярэжную, самы ўтульны куток «міжнароднага» скверыка. Тут — аанаўскі ружоўнік. Тут можна прагуляцца, падыхаць, палюбавацца ружамі з іх маляўніча-экзатычнымі назвамі: «Вечарынка ў садзе», «Ангельскі тварык», «Каралеўская высокасць», «Міс Амерыка», «Мір», «Сонечныя пырскі» і г. д. Квітнеючыя ружы як бы закліканы напомніць лішні раз дыпламатам і членам дэлегацый, якія праходжваюцца тут у перапынку паміж пасяджэннямі, аб паэзіі і красе жыцця, аб тым, што зямныя мір і спакой вартыя таго, каб імі даражыць, каб за іх змагацца, іх адстойваць.

Штаб-кватэра ААН… Інтэр’еры будынка Генеральнай Асамблеі… На другі паверх (калі ўваходзіць праз дэлегацкі пад’езд) ты можаш падняцца эскалатарам або ўзбегчы па прыступках лесвіцы, што побач з ім (удзельнікі сесіі карыстаюцца і тым і другім сродкам, у залежнасці ад узросту, настрою, густу). Па левы бок калідора — уваходы ў галоўную залу ААН, залу пленарных пасяджэнняў, далей — паўночны дэлегацкі салон з прымыкаючымі да яго барам і кафетэрыем (бойкае месца, гудзе звычайна вулеем). У салоне можна крыху адысці ад афіцыйнай абстаноўкі пасяджэнняў, можна пагартаць газету, выпіць кубак духмянай кавы — «капучына». На сценах памяшкання — карціны, дываны, габелены (асабліва кідаецца ў вочы велізарны яркі габелен «Трыумф міру», вытканы бельгійскімі майстрамі), уздоўж сцен — скульптурныя фігуры, стэлы, вазы… (усё гэта,

як паведамляецца на шыльдачках, — дары дзяржаў — членаў ААН). На прыкметным месцы — і своеасаблівая дошка гонару з фотапартрэтамі старшынь усіх папярэдніх сесій Генеральнай Асамблеі, гісторыя ААН, так сказаць,у асобах.

З галерэі другога паверха можна паназіраць і яшчэ адну, ужо іншага плана, выдатнасць штаб-кватэры Аб'яднаных Нацый. Над вестыбюлем для наведвальнікаў (гасцей, турыстаў, экскурсантаў, якіх тут заўсёды шмат) звісае велічэзны маятнік Фуко[2]. Для чаго ён тут? Што ён азначае? Не магу дакладна сказаць. Магчыма, яго прызначэнне ў тым, каб напамінаць сяму-таму з членаў Асамблеі, што яна, Зямля, усё ж верціцца, што жыццё ідзе наперад і што, такім чынам, сёння супрацьпаказана мысліць учарашнімі катэгорыямі — імперскімі, эксплуататарскімі, расісцкімі і г. д.

На першым паверсе будынка, у яго паўночна-заходнім крыле знаходзіцца яшчэ адна аанаўская выдатнасць — так званы «Пакой для роздуму». Ён уяўляе сабой стылізаванае ў абстракцыянісцкай манеры, невялічкае, з нізкай столлю, паўзацемненае памяшканне з пяццю, па колькасці членаў дэлегацыі, невысокімі цвёрдымі зэдлікамі. Хто заходзіць, каб, можа, сапраўды крыху разважыць у цішыні, сабрацца з думкамі, хто — каб памаліцца, ну а хто — каб проста пацікавіцца.

Пры ўваходзе ў пакой надпіс: «Гэта пакой міру і памяці тых, хто аддаў сваё жыццё за мір. Гэта пакой, дзе размаўляюць паміж сабой толькі думкі». Побач на сцяне мемарыяльныя дошкі: «У памяць Фолка Бернадота — пасрэдніка ААН у Палесціне, забітага ў Іерусаліме 17 верасня 1948 года, калі ён знаходзіўся там на службе ААН і справы міру», «У памяць ваенных назіральнікаў і членаў сакратарыята, якія выконвалі свой абавязак у якасці пасрэднікаў па перамір'і». Дошкі нагадваюць пра падзеі, розныя па маштабе і палітычным сэнсе, і выклікаюць розныя асацыяцыі.

(Заўважу да слова, што колькасць ахвяр з ліку так званых надзвычайных узброеных сіл ААН і яе сіл па назіранні за раз'яднаннем працягвае расці. Так, паводле звестак заходняга друку, толькі ў Ліване за апошнія гады загінула 100 салдат ААН.)

Словам, самі сцены будынка на Іст-Рывер гавораць — і ў метафарычным і ў літаральным сэнсе, — што ў ААН — свая гісторыя, свая сімволіка, свае традыцыі і, як бачым, свой мартыралог, свае, урэшце, мемарыяльныя скрыжалі.

І яшчэ — як расказваюць бывалыя дыпламаты, аанаўскія «старажылы» — розныя незвычайныя гісторыі, бы́лі і здарэнні, як драматычныя, так і кур'ёзныя. Аднойчы нейкі дамарослы вораг міжнароднага супольніцтва, заняўшы пазіцыю на супрацьлеглым беразе ракі, абстраляў штаб-кватэру ААН з бузукі. На шчасце, снарады не далятalі, падалі ў Іст-Рывер. Другі раз нехта ананімна пазваніў па адным з тэлефонаў ААН, прадставіўся як «вораг чырвоных і чорных» і заявіў, што зала Генеральнай Асамблеі замініравана. Пасяджэнне было адкладзена да таго часу, пакуль служба бяспекі (існуе тут такая) не праверыла памяшканне. Пагроза ананімнага тэрарыста не пацвердзілася, аказалася не вельмі забаўным розыгрышам.

Прыгадваюць вопытныя дыпламаты і ўсемагчымыя гісторыі, звязаныя ўжо непасрэдна з работай сесій Генеральнай Асамблеі. Прэзідэнт Уганды Ідзі Амін, выступаючы ў агульнапалітычнай дыскусіі і выкрываючы вынікі каланіялісцкай палітыкі для Афрыкі (гаварыў па-англійску), раптам даў волю эмоцыям і заявіў: «Я не буду больш гаварыць на гэтай мове, мове каланізатараў!» — і працягваў далей выступаць на мове сваёй этнічнай групы. Сінхронны пераклад перапыніўся, перакладчыкі ў сваіх кабінах і супрацоўнікі сакратарыята разгубіліся. А дэлегатам прыйшлося даслухаць прамову на незнаёмай ім мове. Яшчэ адзін прадстаўнік невялікай дзяржавы запомніўся тым, што кінуўся ў другую крайнасць: па той прычыне, што пачаставаўся занадта ў бары перад выступленнем, ён… двойчы прачытаў адну і тую ж прамову — спачатку па-англійску, а потым яшчэ і па-французску. А дэлегат адной паўднёваамерыканскай краіны, знаходзячыся ў аналагічным стане, заявіў з высокай трыбуны: «Панове дэлегаты, у параўнанні з тым, што тут гаварылася, маё выступленне будзе мышыным піскам, але і я буду гаварыць»…

Але прадоўжым наша знаёмства са штаб-кватэрай ААН. Аанаўская бібліятэка. Прысвечана памяці колішняга генеральнага сакратара Дага Хамаршэльда[3], які загінуў у авіяцыйнай катастрофе пры выкананні службовага абавязку. У адрозненне ад некаторых залаў, дзе з ростам ААН стала ўжо даволі цесна, бібліятэка спраектавана з большым размахам, як бы навырост — займае тры паверхі над зямлёй, тры пад зямлёй. Мае поўную падборку дакументаў і публікацый ААН, а таксама вялікую колькасць літаратуры, якая тычыцца праблем, што ўяўляюць цікавасць для Арганізацыі ці прысвечана яе дзейнасці. Мае нават поўную зноў-такі падборку дакументаў

і публікацый Лігі Нацый. На другім паверсе ёсць спецыяльная зала для работы з гэтымі дакументамі. Другія, для цікавасці, паказчыкі: бібліятэка імя Хамаршэльда атрымоўвае прыкладна 200 газет і 14 300 іншых перыядычных выданняў (уключаючы як урадавыя дакументы, так і неафіцыйныя часопісы) амаль з усіх краін свету. У яе зборы карт налічваецца каля 80 000 адзінак. У бібліятэцы захоўваецца таксама вялікая падборка мікрафільмаў і мікраафішаў афіцыйных дакументаў ААН. З гэтым неабдымным мноствам кніг, дакументаў і матэрыялаў мужна спраўляецца рознанацыянальны калектыў супрацоўнікаў. Сярод іх і нашы людзі, у тым ліку і вопытныя бібліятэкары з Мінска — факт, які спрыяў знаёмству з бібліятэкай.

Цэнтральныя ўстановы ААН маюць свае сродкі інфармацыі — радыёстудыі, тэлебачанне, некалькі выданняў службовага і інфармацыйнага характару («Журнал ААН», «Навіны сакратарыята», «Дыпламатычны свет»). Выдаюцца таксама на некалькіх мовах штомесячная хроніка і штогоднік ААН. Апошні ўяўляе сабой папулярны агляд найбольш важных падзей у жыцці міжнароднай арганізацыі. Існуе тут яшчэ і такое дзелавое выданне, як «Форум развіцця», што асвятляе пытанні эканамічнага і сацыяльнага характару і выходзіць на трох мовах з перыядычнасцю дзевяць нумароў у год.

Кнігарня ААН… Існуе і такая. Яна знаходзіцца на цокальным паверсе ў паўночнай частцы будынка Генеральнай Асамблеі. У паўзах паміж пасяджэннямі тут бывае ажыўлена. У кнігарні прадаюцца выданні Арганізацыі Аб’яднаных Нацый і яе спецыялізаваных установ, у прыватнасці ЮНЕСКА, прымаецца падпіска на розныя перыядычныя выданні Арганізацыі. Тут можна набыць — на памяць аб удзеле ў Асамблеі і для перапіскі з домам — глянцавыя паштоўкі з відамі будынкаў і памяшканняў ААН, такога ж зместу фатаграфіі і іншыя матэрыялы, так сказаць, фірменнай наглядна-выяўленчай інфармацыі.

На тым жа паверсе, недалёка ад кнігарні, працуе і яшчэ адзін магазін — падарункаў і сувеніраў. На першы погляд, магазін як магазін. Але калі затрымаешся ля прылаўка і прыгледзішся бліжэй, то адкрываеш яго адну знамянальную асаблівасць. Справа ў тым, што мастацкія і саматужныя вырабы, якія тут у вялікім выбары, з’яўляюцца тварэннем умельцаў розных краін і рэгіёнаў, пазначаны пячаткай розных нацыянальна-этнічных мастацкіх густаў і саматужна прамысловых традыцый. І вось міралюбнае суседства гэтых разнастайных па сваім паходжанні, сваіх формах і фарбах, але адзіных па сваёй сутнасці, па сваім

жыццёва хатнім прызначэнні рэчаў шмат табе гаворыць, як бы пацвярджае наглядна тую ісціну, што свет, у прыватнасці свет мірнай, стваральнай людской працы, адзіны ў сваёй разнастайнасці і разнастайны ў сваім адзінстве. Гэтая наглядна матэрыялізаваная ідэя падсвечваецца яшчэ і той акалічнасцю, што на прылаўку стракацяць у якасці сувеніраў флажкі ўсіх дзяржаў — членаў ААН. Можаш набыць толькі свой, айчынны, а можаш, калі маеш схільнасць да калекцыяніравання, набыць і ўсе сто пяцьдзесят. Бадай, гэта будзе не самая горшая з усіх магчымых калекцый.

Штаб-кватэра ААН… Гэта не толькі месца работы сесій Генеральнай Асамблеі міжнароднай арганізацыі, дзейнасці яе органаў і ўстаноў. У яе сценах, пад яе эгідай адбываюцца форумы (сімпозіумы, канферэнцыі, семінары і г. д.) і іншых міралюбівых не ўрадавых арганізацый свету — грамадскіх, навуковых, рэлігійных, жаночых. Сюды, знаходзячыся ў Нью-Йорку, заяўляюцца, як у свой дом (Дом Чалавецтва!), ці то з дзелавым візітам, ці то з візітам ветлівасці, вядомыя грамадскія і палітычныя дзеячы, дзеячы культуры. Аднойчы ў зале пасяджэнняў Асамблеі з'явіўся раптам і стаў некага шукаць вачамі Вілі Брант. Другім разам у тую ж залу ўвайшоў чалавек, твар якога таксама здаўся вельмі ўжо знаёмым па колішніх газетных фотаздымках. Памяць падказала: Юзаф Цыранкевіч! У дэлегацкім салоне можна было аднойчы сустрэць вядомага негрыцянскага спевака Гары Белафантэ — ён нешта расказваў энергічна прадстаўніку адной з маладых афрыканскіх краін. Ці ўзяць такую сцэну. Пасля ранішняга пленарнага пасяджэння бачу: кіраўнік савецкай сельскагаспадарчай дэлегацыі, якая прыязджала ў час сесіі ў ЗША для абмену вопытам, дружалюбна гутарыць на калідоры, г. зн. на хаду, з генеральным сакратаром ААН. Прыемная сцэна, нічога не скажаш.

Штаб-кватэра ААН… Сюды, на імя генеральнага сакратара, старшыні Асамблеі або старшыні Савета Бяспекі (у выпадку крытычных сітуацый), ідуць афіцыйныя, урадавыя заявы. Сюды, на адрас сакратарыята ААН, паступаюць ад імя ўрадаў паведамленні аб далучэнні да той або іншай нядаўна прынятай канвенцыі і дакументы аб прызнанні і ратыфікацыі таго або іншага новага пагаднення. І сюды адначасова ідуць самыя розныя, з розных куткоў свету і на розных мовах ужо неафіцыйныя петыцыі і пісьмы — як ад грамадскіх груп і арганізацый, так і ад прыватных асоб, як ад аўтарытэтаў з сусветным імем, так і ад простых, невядомых свету людзей. (Праўда, сэнс усіх гэтых

петыцый, прашэнняў і пратэстаў у асноўным супадае, гэта — патрабаванне міру і справядлівасці.)

І сюды, у дар ААН, прадаўжаюць, натуральна, паступаць ад краін розныя сімвалічныя рэчы і прадметы, творы мастацтва. У першыя дні сесіі «Журнал ААН» змяшчаў да ведама дэлегатаў аб'явы, накшталт наступных: «У пятніцу, 23 верасня г.г., у 10 гадзін 30 мінут у калідоры другога паверха залы пасяджэнняў адбудзецца невялікая цырымонія, у час якой міністр замежных спраў Ірака Яго Правасхадзіцельства д-р Саадун Хамадзі ад імя свайго ўрада перадасць Генеральнаму сакратару копію стэлы з пералікам законаў Хамурапі ў дар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый», «Учора, у другой палове дня, у паўднёва-ўсходнім кутку плошчы перад будынкам Сакратарыята адбылася невялікая цырымонія, у час якой міністр замежных спраў Венесуэлы ад імя групы лацінаамерыканскіх дзяржаў перадаў у дар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый бронзавую мемарыяльную дошку, адлітую ў знак 150-годдзя Панамскага аб'яднанага кангрэса» і г. д.

Штаб-кватэра ААН… Да яе гонару трэба яшчэ сказаць, што з ёй так ці інакш звязалі свае імёны, прыклалі да яе сваю руку (у добрым сэнсе гэтых слоў), пакінулі свой знак у яе летапісе многія выдатныя дзеячы культуры і мастацтва. Як ужо гаварылася ў прадмове да кнігі, для праектавання палаца нацый на Іст-Рывер былі запрошаны такія архітэктурныя свяцілы, як Ле Карбюзье і Оскар Німеер (у аснову быў пакладзены праект Карбюзье). Залы будынка ўпрыгожваюць, кожнае па-свойму, непаўторныя, поўныя гуманістычнага зместу палотны Крысціана Крога, Фернана Лежэ, Руфіна Тамаё і іншых славутых мастакоў свету. Прываблівае здалёк увагу сваім густа-сінім, амаль колеру індыга, тонам мемарыяльны вітраж Марка Шагала[4]. Вядомы жывапісец — дарэчы, родам з невялікага гарадка Лёзна, што пад Віцебскам, у нью-йоркскім музеі Гугенгейма я бачыў яго карціну, якая называецца «У ваколіцах Віцебска», — у характэрнай для яго ўмоўна-фантастычнай манеры (калейдаскапічная аб'ёмнасць, гарызантальна плаваючыя ў прасторы фігуры) спрабуе паказаць хрэсны шлях чалавецтва да ісціны, міру і брацтва, увасобіць хараство тых ідэалаў, у імя якіх была створана Арганізацыя Аб'яднаных Нацый.

У штаб-кватэры ААН, дакладней — пад залатым купалам яе галоўнай залы час ад часу гучыць класічная і сучасная музыка. Тут выступалі (і прадаўжаюць выступаць) многія славутыя кампазітары, дырыжоры, музыканты. Пабла Казальс[5] успамінае ў сваёй кнізе, напісанай разам з Альбертам Канам,

як адну з самых памятных падзей у жыцці, сваё выступленне ў штаб-кватэры ААН. «Пасля адной з рэпетыцый, — расказвае знакаміты віяланчэліст і прыхільнік міру, — генеральны сакратар ААН У Тан ласкава запрасіў мяне ў свой асабісты кабінет адпачыць, і я падзяліўся з ім сваімі думкамі і пачуццямі. За бяседай я звярнуў увагу, што ў яго на стале выстаўлены маленькія флажкі ўсіх краін — удзельніц Арганізацыі Аб’яднаных Нацый.

— Як цудоўна, што ў вас кожны дзень перад вачыма гэты сімвал тых часоў, калі народы свету стануць вось так, плячо да пляча, свабодныя, роўныя, і запануе мір, — сказаў я У Тану.

А калі я вярнуўся дамоў на Пуэрта-Рыка, мне прыйшла пасылка. У ёй аказаліся маленькія флагі краін — удзельніц ААН».

На традыцыйным аанаўскім канцэрце, перад выкананнем твораў Бетховена і Шастаковіча, Курт Вальдхайм гаварыў аб духоўнай сугучнасці шэдэўраў мастацтва з высокімі прынцыпамі і мэтамі ААН. Я слухаў яго, і мне прыгадаўся па-дзіцячы непасрэдны, летуценны голас вялікага іспанскага музыканта, аўтара пранікнёнай араторыі ў славу міру, пачуўся голас яго віяланчэлі, што гучала некалькі год назад у гэтай жа зале.

Штаб-кватэра ААН… Самая людная — у міжнародным маштабе — ростань на свеце. Палітычнае скрыжаванне краін і народаў. Дом усяго чалавецтва — у яго змаганні за мір і прагрэс.

## Не толькі пасяджэнні ды прамовы

Сапраўды, не аднымі прамовамі жылі ўдзельнікі Асамблеі. Не аднымі пасяджэннямі з іх дэбатамі, абмеркаваннем ды прыняццем рэзалюцый было запоўнена штодзённае жыццё міжнароднага форума. Узяць хаця б такі характэрны штрых: пакуль ідзе пасяджэнне, паміж радамі крэслаў ходзяць члены дэлегацый і супрацоўнікі місій з кіпамі канвертаў — разносяць запрашэнні на прыём (апошнія рассылаюць і на адрас пастаянных прадстаўніцтваў пры ААН). Не-не ды і ляжа перад табой папяровы квадрацік, дзе чорным па белым — розныя гербы, алфавіты, шрыфты, розныя почыркі, алс прыблізна адзін і той жа змест — паведамляецца, што прадстаўнік такі-та (імярэк) запрашае дэлегацыю Беларускай ССР наведаць прыём, які ён дае (указваецца месца і час прыёму).

Сесія ўвайшла ў сваё звычайнае рэчышча, набірае «віткі» агульнапалітычная дыскусія, і вось пачынаецца паласа дыпла-

матычных прыёмаў. Прыёмы, ленчы, кактэйлі… (насуперак парадзе, з якой адзін са старэйшых прамоўцаў звяртаўся да сваіх замежных калег: «Чым хадзіць на кактэйлі, лепш вывучалі б гісторыю»).

Уявіце такі малюнак. На сесіі прадстаўлена каля 150 краін. І пераважная большасць з іх дае прыём у гонар большасці дэлегацый (не ўсе ўсіх, вядома, запрашаюць). Памножце адно на другое, суаднясіце больш-менш акругленую лічбу з параўнаўча сціслымі тэрмінамі сесіі, і вы атрымаеце ўяўленне пра маштаб і інтэнсіўнасць такога роду дзейнасці членаў Асамблеі, пра гэтыя вось іх узаемазапрашэнне і хаджэнне адзін да другога на прыёмы, пра гэтае іх, так сказаць, узаемагасцяванне.

Прыгадваю, што ў некаторыя дні членам дэлегацыі прыходзілася бываць на двух-трох прыёмах узапар. Складвалася ўвогуле ўражанне, што прафесійным дыпламатам сумаваць не прыходзіцца, не прыходзіцца асабліва вырашаць праблему вольнага часу.

Цікавае ў гэтым сэнсе сведчанне Вальдхайма. «Штогод у час сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Йорку, — піша ён у сваёй кнізе, — я абавязаны на працягу трох-чатырох месяцаў прысутнічаць больш чым на сотні афіцыйных абедаў і вячэр, дзе, як правіла, павінен гаварыць прамовы. Я атрымоўваю запрашэнні на сотні кактэйляў, на якіх стараюся пабыць хоць некалькі мінут». І далей, да пытання аб карысці прыёмаў, былы генеральны сакратар ААН прызнаецца: «Я не магу адмовіцца ад гэтых сустрэч, бо лічу іх вельмі карыснымі для выканання маіх функцый. Адзін за абедам скажа вам ціха тое, што ніколі не адважыцца зрабіць з высокай трыбуны Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, другі паведаміць падбадзёрваючую навіну пра намеры свайго ўрада ў сувязі з перагаворамі, што вядуцца. Абстаноўка кактэйляў дае вам вялікую гаму магчымасцей пачарпнуць масу карысных звестак, устанавіць канфідэнцыяльныя адносіны, а то і дружалюбныя асабістыя сувязі з вашымі субяседнікамі, свабодна падыскуціраваць па далікатных праблемах».

Словам, як бачым, не для свецкага баўлення часу наладжваюцца прыёмы; не дзеля фармальнага захавання пэўнага этыкету выказваюць узаемна знакі гасціннасці, частуюць адзін аднаго — хто з шыкам, у раскошнай зале фешэнебельнага атэля накшталт «Уолдорф Асторыя» (ёсць такі ў Нью-Йорку), а хто больш сціпла, у сценах свайго пастаяннага прадстаўніцтва, хто з дэманстрацыяй нацыянальнай кухні, а хто без гэтага, з агуль-

напрынятым мясцовым меню. Нават для чалавека, неспрактыкаванага ў дыпламатычных справах, робіцца неўзабаве, пасля наведвання двух-трох прыёмаў, зразумелым, што гэта — тая ж дыпламатыя, толькі іншымі, неафіцыйнымі сродкамі, і што сапраўды гэтыя «застольныя» сродкі, можа быць, часам больш дзейсныя, чым афіцыйныя. Выступаючы з трыбуны, глядзяць у тэкст ці, калі адрываюцца ад яго, — некуды ў прастору, наверх галоў. На знанай вячэры звяртаюцца непасрэдна адзін да другога, глядзяць адзін другому ў твар. Тут ужо ўступае ў дзеянне так званы чалавечы фактар, дае знаць энергія асабістага кантакту.

Ды як бы там ні было, прыслухоўваючыся да рознагалосага гулу, якім суправаджаўся заўсёды прыём, нельга было не канстатаваць як добры знак, добрую прыкмету, як увасобленае спадзяванне на добрую, мірную волю і на ўзаемаразуменне той відавочны факт, што вось дыпламаты і іншыя дзяржаўныя людзі розных краін сабраліся — у духу народных звычаяў і лепшых агульначалавечых традыцый — за адным сталом, разам частуюцца, перагаворваюцца, абменьваюцца ўражаннямі, думкамі і інфармацыяй. Звычайнае «гаварыць» і афіцыйнае «перагаворы» — словы аднаго і таго ж кораня. А такія паняцці, як «запрашэнне», «гасцяванне», «пачастунак», — адны з самых мірных ва ўсіх мовах свету.

Дэлегацыя БССР таксама, вядома, давала прыёмы — адзін, другі… Першы — для прадстаўнікоў краін, другі — для супрацоўнікаў сакратарыята ААН. Тут ужо ўсе мы выступалі ў якасці гаспадароў, выконвалі адпаведныя, звязаныя са звычайнымі ў такім выпадку клопатамі і хваляваннем, абавязкі, пачынаючы з падрыхтоўкі закусак і канчаючы неабходнасцю займаць гасцей, аддаваць увагу запрошаным. […]

Чытачу, думаю, будзе цікава таксама даведацца, што апрача прамоў у залах штаб-кватэры ААН гучалі і вершаваны радок, і сцэнічнае слова, і музыка. Я ўжо расказваў, як скончылася аднойчы пасяджэнне камітэта супраць апартэіду: паўднёваафрыканскі паэт прачытаў свой верш, а адна негрыцянская нью-йоркская трупа паказала з імправізаваных падмосткаў некалькі сцэнак, прысвечаных той жа тэме — змаганню афрыканцаў з расавым прыгнётам. Гэта было ў пачатку кастрычніка. А ў канцы месяца, дакладней — 24 кастрычніка, вечарам, галоўная зала ААН наогул ператварылася ў залу канцэртную, і мы ўжо сядзелі не на сваіх дэлегацкіх месцах, а недзе на балконе і слухалі — у выкананні вядомага філадэльфійскага сімфанічнага аркестра —

спачатку Бетховена, яго ўверцюру да «Эгманта» і Чацвёрты канцэрт для фартэпіяна з аркестрам, а потым, у другім аддзяленні, славутую Пятую сімфонію Шастаковіча. З кароткім уступным словам перад канцэртам выступіў Курт Вальдхайм. Ён гаварыў аб тым, што высакародныя ідэалы, якія выказаны ў творах вялікіх кампазітараў, сугучныя з ідэаламі ААН. Першы з іх, зазначаў генеральны сакратар, заклікаў у сваіх творах да свабоды і справядлівасці, а ў творы другога натхнёна гучыць тэма міру, тэма мірнай, стваральнай дзейнасці чалавека.

11 снежня ў ААН адбыўся яшчэ адзін канцэрт, які прысвячаўся чарговай, дваццаць дзевятай гадавіне Дэкларацыі правоў чалавека. На гэты раз перад удзельнікамі Асамблеі выступалі палінезійскія этнаграфічныя ансамблі — музычныя і танцавальныя, у тым ліку і вядомы ў нашай краіне ансамбль «Маоры» (я бачыў яго на сцэне мінскай філармоніі, так што гэта была ўжо сустрэча са старым знаёмым). «Мы бачылі, — гаварыў пасля канцэрта старшыня сесіі, — адны з самых цудоўных на зямлі танцаў, чулі дзівосную музыку. Сэнс танцаў і музыкі настолькі цудоўныя і багатыя, што мы не можам не адгукацца на іх усёй душой. Сімвалічна, што яны выконваюцца ў гэтай зале і ў гэты знамянальны для чалавецтва дзень. Бо словы Дэкларацыі таксама гучаць, як музыка, таксама сцвярджаюць прыгажосць і гармонію жыцця, ісціну і мір».

Было, вядома, крыху непрывычна чуць у зале афіцыйных пасяджэнняў і з вуснаў палітычных дзеячаў словы пра музыку і танцы. Але было ў той жа час сапраўды нешта па-добраму сімвалічнае ў гэтых своеасаблівых мастацкіх адступленнях, у тым, як дырыжорская палачка прыходзіла раптам на дапамогу старшынскаму малатку, а музы па-свойску ўладкоўваліся на аліўкавай галінцы, уплеценай у эмблему ААН.

Ішла, сведчу, у адной з залаў ААН і размова пра паэта, пра яго творчую спадчыну і яго месца ў духоўным жыцці чалавецтва. Недзе ўжо ў канцы сесіі, калі камітэты праводзілі апошнія пасяджэнні і дэлегаты пачыналі раз'язджацца па родных дамах-краінах, у штаб-кватэры Аб'яднаных Нацый было адзначана стагоддзе з дня нараджэння Ікбала[6]. «Па аднадушным рашэнні азіяцкіх краін», — як адзначыў пры адкрыцці ўрачыстасці старшынствуючы. Цікава было паслухаць, як, якой мовай гавораць дыпламаты ды палітыкі на літаратуразнаўчую тэму, якое значэнне надаюць творчасці паэта, якое месца адводзяць яму ў свеце.

Малюнак атрымоўваўся такі. Паколькі выступалі прадстаўнікі розных краін і носьбіты розных поглядаў, то, натуральна, яны падыходзілі да творчай спадчыны і асобы юбіляра з рознымі меркамі, кожны вылучаў на пярэдні план свайго, так сказаць, больш блізкага яму Мухамеда Ікбала, падкрэсліваў у яго творчасці тыя бакі і рысы, якія яму, данаму прамоўцу, больш імпанавалі. Адны падкрэслівалі перш за ўсё, што Ікбал «быў песняром ісламу», «выступаў за адзінства мусульманскага свету», што ён, маўляў, «належыць перш за ўсё рэлігіі мусульманства». Другія, наадварот, рабілі ўпор на тое, што паэт «паўставаў супраць канфармізму і духоўнай затхласці», «крытыкаваў містыцызм, уладу догмату, артадаксальнасць». Трэція адзначалі як заслугу юбіляра тое, што ён «сінтэзаваў усходнюю філасофію з заходнім мышленнем», «выступаў як пасрэднік паміж Усходам і Захадам». У той жа час — характэрны момант — шэраг прамоўцаў пагаджаліся на тым, што Ікбал як творца і мысліцель «універсальны», што «яго думкі зразумелыя ўсяму свету, бо ён імкнуўся ўславіць усё жывое, сумленнае, справядлівае». Адзін прамоўца, хоць і мімаходам, адзначыў сацыяльныя матывы ў паэзіі Мухамеда Ікбала. «Паэта абурала тое, — гаварыў ён, — што моцныя прыгнятаюць слабых, ён узнімаў голас у абарону правоў чалавека». Праўда, той факт, што Ікбал вітаў Кастрычніцкую рэвалюцыю і напісаў потым паэму «Ленін», адзначаны не быў. А ў адной прамове прагучаў такі, надта смелы ўжо нават для трыбуны палітычнага форуму, абагульняючы вывад: «Паэты — сапраўдныя ўладары свету. Яны, дзякуючы сіле свайго духу, умеюць прадказваць будучыню».

Словам, палітыкі гаварылі пра паэта. Цытавалі яго вершы. І як бы хто ні падыходзіў да творчай спадчыны выдатнага ўсходняга мастака і мысліцеля, было відавочна, што яна так ці інакш «упісваецца» ў кантэкст сучаснага жыцця планеты, пераклікаецца шмат якімі сваімі матывамі з надзённымі праблемамі супольніцтва нацый. Пацвярджаліся наяве словы антычных грэкаў аб тым, што «мастак — першы палітык», што, кажучы інакш, мастацтва — тая ж палітыка, толькі іншымі сродкамі.

Калі б гэта не было так, — доказ ад зваротнага, — стогадовы юбілей Мухамеда Ікбала не адзначалі б у сценах ААН.

## Людзі застаюцца людзьмі

> На маю долю выпалі вельмі цяжкія дзяцінства і юнацтва… Мая маці не ведала, чым мяне карміць, дзе дастаць малака, крайне мне неабходнага. Маці мая, дачка фермераў, усю сваю энергію прысвяціла дзецям, якіх горача любіла.
>
> *З успамінаў Курта Вальдхайма*

> Усе мы былі дзецьмі,
> ва ўсіх нас былі маці.
>
> *З уласных вершаў*

Тут гучаць паняцці, якімі аперыруе так званая вялікая палітыка. Тут мысляць такімі катэгорыямі, як «дзяржава», «краіна», «нацыя», «рэгіён», «міжнароднае супольніцтва», «глабальнае супрацоўніцтва». Самая распаўсюджаная тут, зафіксаваная ў дэлегацкіх пасведчаннях і матэрыялах сесіі форма звароту: прадстаўнік (англійскі эквівалент — рэпрэзентатыў, французскі — рэпрэзентант). «Як усе прадстаўнікі ведаюць, Генеральная Асамблея вырашыла лімітаваць час выступленняў у парадку права на адказ дзесяццю мінутамі, і я ўпэўнены, што прадстаўнікі ўкладуцца ў гэты час», «Я не хацеў бы выпрабоўваць цярпенне паважаных прадстаўнікоў, але мая дэлегацыя мусіць адказаць на заяву, з якой выступіў толькі што адзін прадстаўнік». І гэтак далей.

Словам, прадстаўнік, прадстаўнікі. Не самі па сабе, не прыватныя, так сказаць, асобы, не «заморскія госці» ці «вольныя купцы» (гістарычная літаратура ведае і такія паняцці), а ўпаўнаважаныя дзяржаў, асобы, надзеленыя пэўнымі афіцыйнымі абавязкамі і інструкцыямі. Як бы табе ні падабалася тваё асабістае імя, якім бы каштоўным і значным яно табе ні здавалася, забудзь тут пра яго. Справа тут зусім не ў ім, не ў тваёй асобе. Ты — прадстаўнік, дэлегат, ты прызначаны гаварыць ад імя і па даручэнні: «мы», «мая дэлегацыя», «мая краіна» (некаторыя, чуеш, звяртаюцца яшчэ да такой даволі ўжо архаічнай, але ўсё яшчэ існуючай формы, як «мой суверэн», «мой гасудар» і г. д.).

Але тым не менш і тут, на афіцыйным, палітычным форуме, людзі ўсё ж застаюцца людзьмі. І не толькі ў сэнсе сваёй, так сказаць, вонкава-фізічнай абалонкі, сваіх расавых, этнічных

ці нацыянальных асаблівасцей, але і ў сэнсе індывідуальна-чалавечых характараў, манер, густаў, звычаяў, нораваў. Апошнія, не падпарадкоўваючыся пратакольнаму нівеліру, праяўляліся на сесіі ў самых розных формах, маглі даць знаць пра сябе часам з самага нечаканага боку. Ну, скажам, у тым, як хто, якой паходкай, ідзе на трыбуну, як нясе тэкст свайго выступлення, у якой манеры гаворыць (хутка ці паважна, адрываючыся ад тэксту ці не), робіць паклон-ківок у бок прэзідыума ці абыходзіцца без гэтага. Пасол Бангладэш, напрыклад, заўсёды старанна рэгуляваў узровень мікрафона — відаць, надаваў значэнне не толькі зместу сваёй прамовы, але і таму, як яна прагучыць у зале. Новазеландская дэлегацыя запомнілася, апрача ўсяго іншага, тым, што ўсё брала слова для тлумачэння матываў свайго галасавання і што яе кіраўнік, высокі, з доўгімі апушчанымі вусамі, нізка кланяўся зале перад тым, як пачаць гаварыць. Было бачна таксама, што адны адчувалі сябе ў зале і на трыбуне скавана, не зусім натуральна, а другія, асабліва з ліку старажылаў ААН, даўно ўжо акрэдытаваных тут дыпламатаў, — свабодна, нязмушана, як у сваёй стыхіі. Прэм'ер-міністр Заходняга Самоа Тупуола Эфі гаварыў пра неаднолькавае геаграфічнае і сацыяльна-эканамічнае становішча краін у духу палінезійскай мудрасці: «Чалавек на вяршыні, чалавек на дрэве, чалавек на каноэ…» (пад апошнім ён меў на ўвазе астравіцян-самоанцаў). Гаварыў неяк ціха, сарамліва, з цяжкасцю падбіраючы словы. А сыходзячы з трыбуны, так абмахнуў твар насоўкай, што мне здалося: чалавек скончыў цяжкую працу або сышоў з каноэ на бераг. Затое, скажам, памянёны ўжо раней амбасадор Барудзі мог папросту ўмяшацца ў ход пасяджэння, з незвычайнай лёгкасцю і не заўсёды трымаючыся прадмета дыскусіі падоўгу красамоўнічаць з трыбуны. (Ён мог, напрыклад, у час сваёй чарговай імправізаванай прамовы сказаць, паглядзеўшы на гадзіннік: «Я думаю, што зараз нам пара зрабіць перапынак на абед. Ды я рэзервую за сабой права прадоўжыць сваё выступленне, ці лекцыю, калі яго можна так назваць, заўтра або ў бліжэйшыя два-тры дні»).

Выдаваў у афіцыйных прадстаўніках жывую, так сказаць, людскую існасць і іх узрост. Вось, заўважаеш, ужо зусім стары, сівы, умудроны жыццёвым і палітычным вопытам прадстаўнік, а побач яшчэ зусім малады, свежы твар… Помніцца, як мяне бянтэжыў, выводзіў з раўнавагі той факт, што побач з сытым, самаўпэўненым, які вылез толькі што, па ўсёй бачнасці, з палкоўніцкага ці контрадміральскага мундзіра, пасланцом

пінaчэтаўскай клікі знаходзіўся, у якасці яго памочніка, малады, з тонкімі, прыгожымі рысамі твару дыпламат. «Што ты робіш? Каму ты служыш, каго ты прадстаўляеш? — дакараў я яго ў думках. — Ну хай гэты твой шэф, адстаўны контрадмірал. Дык ён звязаны з крывавым дыктатарам адной вяровачкай. А ты чаму тут? Табе з тваім юнацкім, адухоўленым тварам навошта гэта?..»

Я ўжо гаварыў, у той ці іншай сувязі, аб палітычнай «моладзі», аб месцы і ролі ў ААН маладых незалежных краін. Павінен сказаць, што паняцце «маладыя дзяржавы» расшыфроўвалася тут парой самым канкрэтным, наглядным чынам: большасць іх прадстаўнікоў — сапраўды яшчэ маладыя, рухавыя, поўныя энергіі людзі, учарашнія выпускнікі розных вышэйшых навучальных устаноў свету, у тым ліку і Савецкага Саюза. Апошняя акалічнасць, натуральна, не магла не выяўляцца ў адпаведных адносінах да ўмоўнасцей пратакольнага этыкету, адбівалася на псіхалагічным мікраклімаце Асамблеі. Аднойчы, перад пачаткам пасяджэння, заняты сваім блакнотам, чую раптам: «Здравствуйте!» Узняў галаву і бачу: міма прайшоў, аглядваючыся з добрай, прыветлівай усмешкай на твары, негр і сеў на сваё месца з шыльдачкай «Гвінея». Другім разам гэтак жа неафіцыйна, з такой жа непасрэднасцю павітаўся сенегалец. Адбітак разняволенасці — і ў шырокім і ў канкрэтным сэнсе гэтага слова — насілі на сабе, рабілі часам ураханне электрычнага разраду і баявыя, бескампрамісныя, па-маладому запальчывыя прамовы дэлегатаў Анголы, Беніна, Мадагаскара, Мазамбіка і некаторых іншых краін, што атрымалі нядаўна палітычную самастойнасць. Цёпла было сустрэта заяўленне на трыбуне прэзідэнта Народнай Рэспублікі Мазамбік Саморы Машэла. Увесь яго воблік гаварыў пра палітычнага лідэра новага тыпу, народжанага сучаснай нацыянальна-вызваленчай барацьбой, у адпаведным стылі ён і выступаў — адкрыта, эмацыянальна, тэмпераментна, высока ўскідваючы галаву і як бы наводмаш кідаючы ў залу словы. Або вось наступны дзённікавы запіс, зроблены пад свежым уражаннем: «Сёння прадаўжаўся разгляд пытання аб Палесціне і палесцінцах — аб трагічным становішчы некалькіх мільёнаў абяздоленых, пазбаўленых не толькі правоў, але і самой радзімы людзей (у голасе начной нью-йоркскай сірэны гучыць напамінак і пра іх). «Мінулае гэтага народа, — гаварыў узрушана прадстаўнік Мальты, — на нашым сумленні. Яго будучыня павінна быць прадметам нашай заклапочанасці». Па-чалавечы шчырыя трывога і заклапочанасць прагучалі такса-

ма ў заявах дэлегатаў Мадагаскара і Лаоса. Апошні літаральна ўзарваўся: «Колькі гэты спектакль будзе працягвацца! Свет ужо стаміўся ад такой несправядлівасці ў дачыненні да цэлага народа!» Афіцыйны прадстаўнік у эмацыянальным запале дадаваў, што называецца, «ад сябе асабіста…».

Гэтае самае «ад сябе асабіста» праяўлялася на сесіі і ў другіх выпадках, у прыватнасці тады, калі вялікая палітыка «замыкалася» на канкрэтных умовах людскога існавання, на праблеме хлеба надзённага. Прадстаўнік адной афрыканскай дзяржавы спасылаўся, напрыклад, на пісьмо правадыра свайго роднага племя, у якім той паведамляў, колькі можа памерці ад голаду людзей, калі не прыйдзе своечасова дапамога. Ці ўзяць такі эпізод. Міністр замежных спраў Сінгапура, гаворачы пра цяжкое эканамічнае становішча краін «трэцяга свету», пра гандлёвыя тарыфы і таможанныя бар’еры, паказаў на сваю кашулю і паведаміў удзельнікам Асамблеі для параўнання, колькі такая кашуля каштуе тут, у Нью-Йорку, а колькі ў Парыжы і ў яго Сінгапуры. У элементарным жэсце і простых словах праглянула раптам вядомая ісціна аб тым, што палітыка існуе не сама па сабе, а з’яўляецца канцэнтраваным выяўленнем эканомікі.

Людзі заставаліся людзьмі, і ў выніку на форуме не абыходзілася без падсветленых адпаведным чынам сцэн, сутычак, інцыдэнтаў. Даходзіла справа і да асабістасцей. У час абмеркавання становішча на Кіпры прадстаўнік Саудаўскай Аравіі Барудзі хацеў унесці сваю папраўку ў праект адпаведнай рэзалюцыі. Тэкст папраўкі сведчыў аб пэўных палітычных сімпатыях і не спрыяў справядліваму ўрэгуляванню кіпрскай праблемы. Пераважная большасць прагаласавала супраць папраўкі. А пасол Шры Ланкі Гамільтон Амерасінгхе зазначыў, што прыняцце яе выхаласціла б сэнс рэзалюцыі, зрабіла б яе менш эфектыўнай. Барудзі пакрыўдзіўся на Амерасінгхе. «Чаму вы хочаце надаць бессэнсоўнасць маёй папраўцы, — дакараў ён з трыбуны свайго апанента, — калі ў ёй закладзены глыбокі сэнс? Гэта вашы фармуліроўкі бессэнсоўныя…» Барудзі некалькі разоў выходзіў на трыбуну, спрачаўся з аўтарамі рэзалюцыі, даказваў сваю праваты. Праўда, потым ішоў да Амерасінгхе, называў яго «мой сябар» і паціскаў яму руку ў знак прымірэння.

Дарэчы, з вырашэннем кіпрскага пытання звязаны і яшчэ адзін інцыдэнт, які гаварыў пра тое, што на высокім сусветным сходзе могуць даваць знаць пра сябе зусім не высокія норавы. Прадстаўнік Турцыі з мэтай інсінуацыі прыпісаў у сваім выступленні Макарыосу словы, якія той ніколі не гаварыў.

Кіпрскі дэлегат злавіў яго на гэтым, з абурэннем гаварыў пра падлог з трыбуны. Турэцкі пасол нервова ёрзаў, перашэптваўся з членамі сваёй дэлегацыі, але адказваць не стаў — нечым было крыць.

Прыгадваецца ў гэтай жа сувязі і канфлікт ізраільскага прадстаўніка з членамі Спецыяльнага камітэта па расследаванні дзеянняў Ізраіля, якія закранаюць правы чалавека на акупаваных тэрыторыях. Пры абмеркаванні даклада, які быў прадстаўлены камітэтам, прадстаўнік Ізраіля, забываючыся на афіцыйны статус свой і сваіх калег, накінуўся на іх з грубымі нападкамі, стаў абвінавачваць членаў камітэта ў неаб’ектыўнасці, у паклёпе і ў іншых грахах, нават заявіў, што «даклад напісаны другімі». Асабліва дасталося дакладчыку камітэта, прадстаўніку Шры Ланкі. Тут разгневаны прамоўца проста перайшоў на асабістасці: маўляў, паглядзіце, якія вы самі, што ў вас робіцца дома, у вас вунь сінгальская большасць дыскрымінуе тамілаў і г. д.

Як гэта бывае і ў звычайным людскім жыцці і як доказ таго, што на ўсякага мудраца хапае прастаты, — будзь нават гэты мудрэц членам урадавай дэлегацыі ці дыпламатам высокага рангу, — побач з сур’ёзным, важным, афіцыйным часам суседнічала на форуме і камічнае, смешнае, элементарна ўласцівае чалавеку. Нехта не выйшаў на трыбуну па той прычыне, што, аказваецца, пераблытаў напярэдадні спісы прамоўцаў — меў на ўвазе не той, у які запісаўся. Нехта, каб замаскіраваць пазіцыю сваёй дэлегацыі пры вырашэнні таго або іншага пытання, зрабіў выгляд, што… не паспеў атрымаць інструкцыі свайго ўрада. […] Было некалькі выпадкаў, калі асобныя члены Асамблеі схамяналіся, што не павіншавалі своечасова старшыню (сесіі або камітэта). «Няхай ваша правасхадзіцельства не прыме гэта за раўнадушнасць з нашага боку», — гаварыў у выбачальным тоне адзін з дэлегатаў. Або вось… Пазяхнуў адзін, пазяхнуў другі, трэцяга пачынае хіліць да сну, ну а сёй-той, глядзіш, ужо спіць самым форменным чынам, хіба што толькі не ў самай зручнай для гэтага позе. Так, прыходзілася не раз назіраць гэтую сцэну — спячых у зале пасяджэння. Давалі знаць розніца ў часе, айчынным і нью-йоркскім, стома, пажылы ўзрост, дзеянне такога манатоннага раздражняльніка, як прамовы, што ішлі адна за другой. Ды і ці трэба асабліва вытлумачваць, чаму раптам чалавека пацягнула на сон — калі нават ён выступае ў якасці афіцыйнага паўнамоцнага прадстаўніка. І вось ён, прыладзіўшыся больш-менш у крэсле, спіць. Спіць прадстаўнік міралюбівай дзяржавы, а побач пачынае «кляваць» дэлегат дзяржавы ваяўнічай, дрэмле

пасол эканамічна развітай краіны, а праз некалькі крэслаў беспаспяхова змагаецца са сном пасланец краіны, якая толькі што стала на шлях развіцця… Малюнак, канечне, да крыўднага дыспрапарцыянальны, супярэчлівы. У той час, калі нехта апелюе з хваляваннем да міжнароднага супольніцтва, прамаўляе з высокай трыбуны словы, прасякнутыя клопатам за мір і бяспеку, яго партнёр мірна-бяспечна спачывае ў абдымках апалітычнага Марфея. І смех і грэх, як кажуць. На адным з пасяджэнняў я не вытрымаў і накідаў у блакноце наступныя радкі:

Прамовы журчаць, як весні ручэй.
Прамовы плывуць, як раўнінныя рэкі.
Бачу, сусед мой усеўся ямчэй.
Бачу, ў суседа зліпаюцца векі.
Бачу, ён нікне ўніз галавой,
сплывае кудысь ад аанаўскай явы…
Спіць мой сусед —
прадстаўнік адной
індустрыяльнай, нейтральнай дзяржавы.
Гляджу на яго: «Бай, бай, сусед!
Толькі глядзі не выпадзі з крэсла,
глядзі не праспі свой нейтралітэт,
справу бяспекі і прагрэсу!»

Людзі заставаліся людзьмі… І ў тым сэнсе, як хто адзяваецца. Пераважаюць на шматнацыянальным форуме еўрапейскі касцюм, паласатая дыпламатычная «тройка» з гальштукам. Але як знак таго, што за апошнія гады змянілася да непазнавальнасці палітычная карта свету і адпаведна змяніўся членскі склад ААН і што ў сувязі з гэтым тут яўна абнавіўся, дэмакратызаваўся этыкет, — як сведчанне гэтых перамен і новых павеваў поруч са строгім касцюмам, з традыцыйнай дыпламатычнай візіткай віднеюцца на роўных самыя розныя колерам і фасонам нацыянальныя ўборы. У зале можна бачыць і свабоднага крою сарочку, і наглуха зашпілены сурдут, і стракатую накідку кентэ, і феску… Як ужо гаварылася вышэй, прэзідэнт новапрынятай у ААН Рэспублікі Джыбуці Гулед Аптыдон Хасам з’явіўся ў зале ў экзатычным нацыянальным адзенні. Падкрэслівалі такім жа чынам сваю нацыянальную і этнаграфічную прыналежнасць і некаторыя іншыя члены Асамблеі. Так, напрыклад, прэм’ер-міністр Папуа-Новай Гвінеі Майк Т. Семара, смуглява-чорны сам, выйшаў на трыбуну ў чорнай, з сінім адлівам кашулі-

касаваротцы. Пасол каралеўства Лесота прыйшоў на пасяджэнне ў суправаджэнні паўадзетых і ўпрыгожаных на афрыканскі лад дыпламатаў і целаахоўнікаў. Асабліва паказальным у гэтым сэнсе было заключнае пленарнае пасяджэнне, прысвечанае агульнай дыскусіі, на якім меліся выступіць прадстаўнікі цэлага шэрагу афрыканскіх краін — Астравоў Зялёнага Мысу, Нігерыі, Малі, Свізіленда і інш. Зала літаральна стракацела ярка-каляровымі афрыканскімі строямі: накідкі, шапачкі, цюрбаны, розныя аздабленні на галовах і руках. Але пераўзышоў усіх прадстаўнік Свізіленда Абеднега Кусені Хлопе. Ён падняўся на трыбуну ў адной набедранай павязцы, з пацеркамі на шыі і веерам пёраў на галаве. Па праўдзе кажучы, было трохі дзіўна, непрывычна ва ўсякім выпадку бачыць, як над сіне-зялёным мармурам трыбуны ўзвышаецца шакаладны торс, а на яе апіраюцца аголеныя рукі. Трэба сказаць, такі спосаб самасцвярджэння быў прыняты ў зале, у тым ліку і сярод прадстаўнікоў афрыканскага свету, скептычна-насмешліва.

Людзі заставаліся людзьмі… Сесія Генеральнай Асамблеі ААН была такім чынам не толькі шматнацыянальным палітычным форумам, але і своеасаблівай выстаўкай самых розных, ад і да, чалавечых тыпаў. З высокай трыбуны выступалі прадстаўнікі розных краін і народаў, але яны былі адначасова і прадстаўнікамі агульнага чалавечага роду, аднаго і таго ж біялагічнага віду — Homo sapiens. Асамблея, словам, уяўляла сабой мініяцюрны партрэт усяго чалавецтва. Гэты факт даваў спажыву для роздуму-летуцення аб будучай сям’і людзей і народаў— «сям’і вольнай, новай», настройваў па радкі накшталт наступных:

Усе мы былі дзецьмі,  
ва ўсіх нас былі маці.  
Жывём на адной планеце —  
як у адной хаце.

## Каго цытуюць з высокай трыбуны, або Талстой у змаганні з каланіялізмам і сіламі вайны

…Уладкаваць лёс чалавецтва так, каб правы чалавека прызнаваліся аднолькава ўсім адукаваным светам і каб знішчалася магчымасць вайны паміж народамі.

*Л. Талстой*

Не-не ды і чуеш: «Як сказана… Як гаворыцца… Як указваў у свой час… Паводле слоў… Хачу закончыць сваё выступленне словамі… Канец цытаты». Спасылаюцца, чую, на Статут ААН і на Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, на чацвёртую Жэнеўскую канвенцыю (у ёй ідзе гутарка аб абароне грамадзянскага насельніцтва ў час вайны) і на іншыя акты міжнароднага права, на гістарычныя дакументы і палітычныя дэкларацыі, на сутры, Біблію і Каран. Цытуюць, чую, творы філосафаў і паэтаў, выказванні дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, палітыкаў і рэвалюцыянераў (у выпадку неабходнасці — і рэакцыянераў) — усіх часоў і народаў. Гучаць у зале ААН, не страціўшы сваёй актуальнасці, словы Арыстоцеля і Русо, Цыцэрона і Лао Цы, Эмерсона і Жарэса, Макіявелі і Балівара, Гандзі і Каўнды…

Гучалі цытаты і выказванні, што сталі неўміручымі афарызмамі, і парой было такое адчуванне, што сцены залы пасяджэнняў рассоўваліся ў часе і прасторы і што трыбуна ААН выносілася на скрыжаванне вялікіх шляхоў гісторыі, шляхоў развіцця духоўнай цывілізацыі чалавецтва. І яшчэ выклікаў задавальненне, абнадзейваў той несумненна станоўчы факт, што ў міжнароднага супольніцтва ёсць агульныя, выпрацаваныя агульным векавым вопытам зыходныя пункты, крытэрыі, арыенціры, што ў яго ёсць агульнапрызнаныя настаўнікі і аўтарытэты, ёсць на каго аглядвацца, ёсць з кім раіцца і лічыцца.

Звяртаюцца — працягваю думку —удзельнікі форуму і да фальклору, да крыніц народнай мудрасці. Хто прыгадвае імя казачнага героя, хто выкарыстоўвае прытчу, хто прыводзіць прыказку. Гучаць, чую, з высокай трыбуны, пераклікаючыся адна з адной, прыказкі і прымаўкі — арабскія («Хто ведае праўду, а не гаворыць, той хлус», «Хто нічога не робіць, той выступае ў якасці суддзі», «Адзін багацце здабывае працай, а другі — разбоем»), англійская («Куды анёл не рашаецца ступіць, ліхадзей урываецца папросту»), рускія і беларускія («Не той дабрахот,

у каго на вуснах мёд», «Гарбатага толькі магіла выправіць»), сенегальская («Хто супраць ветру плюе, будзе сам апляваны»), французская («Калі ты сказаў «А», то мусіш сказаць і «Б») і г. д.

Апелявалі члены Асамблеі і да аўтарытэту прадстаўнікоў прыгожага пісьменства, да класічных узораў сусветнай літаратуры. Вось, напрыклад, гучаць словы прынца дацкага аб тым, што «на небе і зямлі ёсць болей рэчаў, чым сніцца філасофіі любой». У наступнай прамове цытуюцца другія радкі таго ж шэкспіраўскага твора: «Колькі б ні стараўся Геркулес, кот мяўкае, а воўк глядзіць у лес». Прэзідэнт адной маленькай дзяржавы пачынае сваю прамову з саркастычнай ноты — нагадвае міжнароднаму супольніцтву выказванне Вальтэра: «Як багатыя, так і бедныя маюць у адным аднолькавую свабоду — памерці з голаду». А прадстаўнік афрыканскай краіны, гаворачы аб барацьбе народа Намібіі за свабоду і раўнапраўе, звяртаецца да Гюго: «Мацней за ўсё на свеце ўяўленне аб тым, часіна чаго надышла». «Раней чым пакінуць гэту трыбуну, — гаворыць чарговы прамоўца, дэлегат адной з паўднёваамерыканскіх краін, — дазвольце мне выказаць пачуцці свайго народа словамі нашага славутага Радо». І вось у зале гучаць натхнёныя словы класіка лацінаамерыканскай літаратуры Хасэ Энрыке Радо: «Я горача малюся за тое, каб сімвал Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, яе флаг развяваліся ва ўсё больш чыстым небе; каб яе высакароднасць асвятлялася заўсёды чыстай славай, каб яна заўсёды кіравалася законам, каб нашы ўраджаі няспынна павялічваліся, каб узрасталі наша свабода і наша шчасце, каб існавалі ўмовы нязменнай гармоніі, што вынікаюць з любві і справядлівасці, каб сучаснае і будучыя пакаленні чалавецтва жылі ў больш шчаслівым і цудоўным свеце, якога яшчэ не было на працягу таго, як праходзяць стагоддзі».

Словам, на форуме нацый літаратура таксама служыла сваю добрую службу, узвышала свой голас у імя міру, справядлівасці і прагрэсу.

У гэтым пераконваў асабліва наступны эпізод. Выступае прадстаўнік Сейшэльскіх астравоў, яшчэ малады, бялявы, знешне, манерай гаварыць больш падобны на школьнага настаўніка, чым на дыпламата. Гаворыць пра станоўчыя змены, якія адбыліся ў жыцці маладой рэспублікі пасля прыходу да ўлады левых сіл, пра тыя цяжкасці, якія перажывае нядаўняе каланіяльнае ўладанне на шляху самастойнага развіцця. Выкрывае з абурэннем тых, хто падтрымлівае паўднёваафрыканскіх расістаў, і спасылаецца

ў гэтай сувязі на папярэджанне прэзідэнта Замбіі доктара Каунды: «Калі Захад не можа адгукнуцца па маральнай прычыне, то няхай адгукнецца ад страху перад магчымымі вынікамі». З неспакоем гаворыць далей пасланец Сейшэлаў аб розных формах залежнасці маладых дзяржаў, што толькі што сталі на ногі, ад «моцных свету гэтага». І тут раптам вымаўляецца імя Талстога і гучаць у навушніках крыху скажоныя паспешлівым адваротным перакладам талстоўскія словы: «Я сижу на шее у человека, задавил его и требую, чтобы он вёз меня, и, не слезая с него, уверяю себя и других, что я очень жалею и хочу облегчить его положение всеми возможными средствами, но только не тем, чтобы слезть с него…»

Талстой!.. Калі б нават прамоўца не сказаў, чые словы ён цытуе, іх усё адно нельга было б не пазнаць. Вельмі ўжо характэрныя былі яны, вельмі ўжо талстоўскія — па сіле духу, па сваёй суровай бескампраміснасці і выяўленчай выразнасці. «Зло небяспечнае і тады, — працягваў сейшэльскі дэлегат развіваць думку, выкрываць дабрадзеяў-неакаланізатараў, — калі чалавек проста робіць нешта няправільна, несправядліва. Але калі ён робіць зло, дзейнічае няправільна і ў той жа час спрабуе даказваць, што ён мае рацыю, што ён нічога дрэннага не робіць, гэта зло асабліва небяспечнае».

У сценах ААН, на яе Асамблеі можна было ўвачавідкі пераконвацца, што сусветная каланіяльная сістэма пала, загадала чалавецтву доўга жыць, што адышлі ў мінулае вялікія каланіяльныя імперыі — адна, другая, трэцяя… Гэта ж на іх руінах узніклі, як грыбы пасля жыватворнага дажджу, дзесяткі новых самастойных дзяржаў, якія вунь складаюць пераважную большасць у ААН, вызначаюць у значнай меры яе нацыянальна-дэмаграфічны спектр. Але ў тых жа сценах і гэтак жа наглядна можна было канстатаваць існаванне перажыткаў, астаткавых, так сказаць, з'яў каланіялізму. На парадку дня сесіі ўсё яшчэ стаялі пункты, накшталт: «Ажыццяўленне Дэкларацыі аб прадастаўленні незалежнасці каланіяльным краінам і народам», «Пытанне аб Намібіі», «Пытанне аб каморскім востраве Маёта» і г. д. На форуме яшчэ можна было пачуць выкрывальныя інвектывы, накшталт, да прыкладу, той, якая прагучала аднойчы ў выступленні прадстаўніка Шры Ланка. «Пазіцыя Францыі, — заяўляў ён пры абмеркаванні пытання аб востраве Маёта, — не што іншае, як спроба захаваць рэшткі каланіялізму. Гэта не тая пазіцыя, якую можна было б чакаць ад такой палітычна вопытнай

краіны, як Францыя. Каланіялізму няма больш месца ў жыцці народаў, яго месца ў мінулым!»

Каланіялізм распаўся як сістэма, але сам па сабе яшчэ аганізуе, і працэс дэкаланізацыі — як гэта можна было бачыць на сесіі Асамблеі — яшчэ працягваецца.

Гэта па-першае. Па-другое, у свеце яшчэ застаецца — пра што таксама нямала гаварылася з трыбуны ААН, асабліва дэлегатамі «трэцяга свету» — каланіялізм відазменены, падноўлены, каланіялізм, які, тужачы па салодкім «цяжары белага чалавека» і чапляючыся за ранейшыя пазіцыі, націскае ўжо не столькі на курок і гашэтку, колькі на эканамічныя рычагі, сядзіць, калі трымацца талстоўскай метафары, на шыі слабейшага ўжо не з кнутом і ружжом, а з пернікам і доларам (фунтам стэрлінгаў, маркай, франкам). Адзін прамоўца гаварыў пра «эканамічную несправядлівасць», другі — пра «традыцыйны эгаізм багатых і магутных», трэці, ставячы кропкі над «і», — пра «неакаланіялісцкае разрабаванне і дыскрымінацыю». Гутарка, словам, ішла пра неакаланіялізм.

І вось у гэтым аб’яднаным, шматнацыянальным хоры, у гэтым змаганні з каланіялізмам, з усімі відамі несправядлівасці і прыгнёту прагучаў — я быў таму сведкам — і голас Льва Талстога.

Меў рацыю яго сучаснік, які сказаў: «Нам не дано предугадать, как слово наше отзовётся». Як і дзе, у якім геаграфічным пункце зямнога шара і ў якім сацыяльна-жыццёвым кантэксце.

«Прысутнасць» Талстога на Асамблеі ААН пацвердзілася потым, амаль дзівосным чынам, і яшчэ раз — калі на трыбуну ўзняўся дэлегат Фіджы, другой маленькай, астраўной краіны, якая атрымала толькі нядаўна незалежнасць. Ён гаварыў пра нялёгкі лёс свайго пяцісоттысячнага народа. «У нас такое ўражанне, — звяртаўся пасланец Фіджы да залы, — што той край свету, дзе мы знаходзімся, часта забываюць. Нам пагражаюць стыхійныя бядоты, мы не можам пазбавіцца ад адсталасці, мы маем патрэбу ў дапамозе, але нас абыходзяць…» І вось, слухаючы горкія нараканні фіджыйца, я зноў прыгадаў, нельга было не прыгадаць, — талстоўскі трактат «Дык што ж нам рабіць?», словы з якога прыводзіў прадстаўнік Сейшэльскіх астравоў. Справа ў тым, што дэлегат Фіджы мог бы з яшчэ большай пераканаўчасцю і большым правам, чым яго сейшэльскі калега, спаслацца на славуты трактат, дзе менавіта на прыкладзе… ціхаакіянскага вострава Фіджы вялікі Талстой,

узброіўшыся адпаведнымі лічбамі і фактамі, паказваў, што такое «грашовае насілле», якую ролю адыгрывала яно ў эканамічным і палітычным заняволенні народаў…

Павінен сказаць, што талстоўская мудрасць, яго асобныя празарэнні не раз прыходзілі на памяць — чытач гэта ўжо, напэўна, заўважыў —у тыя дні, у час сесіі. Завязвалася, скажам, на пасяджэнні чарговая сварка паміж даўно варагуючымі дзяржавамі, і ўзнікала думка аб псіхалагічным фактары, аб тым, што, мабыць, і тут, у палітыцы, дзейнічае так альбо інакш закон, сфармуляваны Талстым у дачыненні да сямейных узаемаадносін: спачатку рознагалоссі з'яўляюцца прычынай варожасці, а потым ужо варожасць становіцца ў сваю чаргу крыніцай рознагалоссяў. Асамблея давала нямала нагод для роздуму аб нялёгкім і супярэчлівым адзінстве нашага роду чалавечага, аб магічным значэнні асабістых кантактаў, і ў гэтай сувязі нельга было не ўспомніць вядомую сцэну абмену позіркамі паміж П'ерам Бязухавым і напалеонаўскім маршалам. Або ўзяць наступны запіс у блакноце: «Падумаў сёння, што выказаныя тут думкі, а таксама стэнаграмы, рэзалюцыі, дэкларацыі, у якіх гэтыя думкі фіксуюцца, ужо самі па сабе — дасягненне. Нават незалежна ад таго, які практычны вынік, які палітычны эфект будуць мець яны, гэтыя думкі (стэнаграмы, рэзалюцыі, дэкларацыі). Гаварыў жа Талстой, што калі думка выказана, то яна ў нейкай меры ўжо і здзейснена».

«Як там на сесіі? — пытала з усёй сур'ёзнасцю ў сваім пісьме дачка-школьніца. — І яшчэ напішы, што мне цяпер чытаць. Без цябе я не ведаю». «На сесіі, — адказваў я, — нам да ўсяго ёсць справа, да палітыкі, гісторыі і геаграфіі адначасова, да таго, што робіцца ў Паўднёвай Радэзіі і каму павінен належаць Усходні Цімор, да таго, як жывецца людзям на Сейшэльскіх астравах і на занядбаным усімі адзінокім востраве Фіджы. Ці ведаеш такія краіны? Пашукай іх на глобусе ці ў атласе. А вось што датычыць твайго чытання, то, не задумваючыся, раю: чытай Талстога. Спытайся ў маці, дзе ён стаіць. Бяры і чытай, як толькі зробіш урокі. Не памылішся. Я тут пераканаўся ў гэтым лішні раз. Прыеду — раскажу больш падрабязна».

*1987*

## ЯКІМ БЫЦЬ ПОМНІКУ Ў КУРАПАТАХ

У мінулым нумары «ЛіМа», а некалькімі днямі раней у іншых рэспубліканскіх газетах, надрукаваны Паведамленне ўрадавай камісіі, створанай рашэннем Савета Міністраў Беларусі ад 14 чэрвеня 1968 г., і пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб увекавечанні памяці ахвяр масавых рэпрэсій 1937–1941 гадоў у лясным масіве Курапаты». Надрукаваны два ўзаемазвязаныя, палітычна важныя дакументы, якіх мы ўсе чакалі. Усе. Усеагульна. Можна сказаць, усенародна. Якіх чакаў, у тым ліку, і калектыў рэдакцыі «ЛіМа», на старонках якога былі змешчаны, стаўшы амаль сусветна вядомымі, публікацыі З. Пазьняка і Я. Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці» і З. Пазьняка «Шумяць над магілаю сосны», чакаў разам са сваімі чытачамі, са сваімі аўтарамі.

Чытачы выказвалі ў сваіх лістах глыбокае задавальненне тым фактам, што нарэшце развейваецца змрок невядомасці і таямнічасці над злачынствамі сталіншчыны, ухвалялі рашэнне аб стварэнні ўрадавай камісіі для расследавання абставін гібелі людзей ва ўрочышчы Курапаты, ускладалі вялікія надзеі на камісію.

«Цяжкія нягоды выпалі на наша жыццё, на жыццё сям'і «ворага народа», — пішуць тры сястры, дочкі расстралянага, пэўна, у Курапатах, паэта Тодара Тодаравіча Кляшторнага. — Але варта было іх цярпець і жыць хоць бы дзеля таго, каб дажыць да гэтых дзён — Дзён Праўды і Справядлівасці. Нам, як і тысячам іншых, дасталіся ў спадчыну Курапаты. Гэта — кавалачак нашай шматпакутнай Радзімы, гэта наш боль, наш смутак, наша горкая непазбыўная памяць».

«Я ніколі не пісала да гэтага ў друк, я ніколі не чытала да гэтага газету «Літаратура і мастацтва», — піша нам са Светлагорска дачка аднаго з рэпрэсаваных у 1937 годзе Ганя Мікалаеўна Манкевіч. — Ды вось прачытала артыкул «Курапаты — дарога смерці», выпісала і чытаю вашу газету і хачу сказаць: павінны быць адноўлены добрыя імёны нашых бацькоў, мы павінны жыць надалей толькі ў свеце праўды, справядлівасці, галоснасці».

Горкую споведзь уяўляе сабой пісьмо жыхара вёскі Вялікая Ліпа Нясвіжскага раёна Уладзіміра Паўлавіча Сасноўскага. Родам ён з другой вёскі, з Малога Быхава Дубровенскага раёна. У дваццацігадовым узросце стаў сведкам арышту бацькі і сямі аднавяскоўцаў (запомніў добра той чорны дзень: 10 жніўня 1938 года). Піша, што двойчы перачытаў артыкул З. Пазьняка і

Я. Шмыгалёва і каментарый да яго В. Быкава, што прачытанае прымусіла яго «зноў перажыць у душы трагічны лёс бацькі і аднавяскоўцаў, якія сталі ахвярамі культу асобы Сталіна».

«Здаецца, я не памылюся, калі скажу, што Беларусь асабліва пацярпела ад сталінскіх беззаконняў, — працягвае Уладзімір Паўлавіч. — І вельмі добра, што была створана і працуе ўрадавая камісія на чале з намеснікам Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Н. М. Мазай. На камісію ўскладзена вялікая работа — разабрацца, зрабіць сваё заключэнне і ўнесці прапановы аб прыняцці адпаведных мер да тых асоб, якія тварылі жудасныя злачынствы супраць ні ў чым не вінаватых, сумленных людзей нашай Радзімы. Знішчаліся самыя таленавітыя людзі краіны: вучоныя, пісьменнікі, работнікі культуры, дзеячы камуністычнай партыі, рэвалюцыянеры, бліжэйшыя саратнікі Леніна, не кажучы ўжо аб простых працаўніках, як мой бацька. Характэрна, што ўсе рэпрэсаваныя гінулі ў самым росквіце творчых сіл, ва ўзросце да 50 год. А колькі б карыснага для Радзімы маглі б яны здзейсніць сваім талентам і розумам! Хіба гісторыя можа дараваць тым, хто іх знішчаў, хто тварыў беззаконне і гвалт?.. Таму, — піша ў заключэнне У. Сасноўскі, — пры расследаванні трэба выкарыстаць усе неабходныя сродкі, усе архіўныя даныя, усе сведчанні тых, хто перажыў жахлівыя часы».

Сталы падпісчык і аўтар «ЛіМа» з гарадскога пасёлка Мір Вячаслаў Антонавіч Хілімонаў, журналіст, ветэран вайны і працы, адгукнуўся на публікацыі З. Пазьняка і на факт стварэння адпаведнай урадавай камісіі двума лістамі. Пагаджаючыся з тым, што «ўсякае злачынства павінна быць пакарана», што «трэба не толькі рэабілітаваць рэпрэсаваных, але пакараць злачынцаў, бо толькі так будзе дасягнута сапраўдная справядлівасць», В. Хілімонаў выказаў у той жа час пэўны недавер да публікацый: маўляў, наколькі факты, выкладзеныя ў іх, дакладныя, адпавядаюць сапраўднасці. «Курапаты — гэта надзвычай важная справа, — пісаў ён, — і таму не трэба спяшацца, трэба пачакаць вынікаў работы ўрадавай камісіі, вынікаў юрыдычнага строгага і праўдзівага расследавання».

І вось вынікі работы ўрадавай камісіі абнародаваны. Не канчатковыя, папярэднія, бо, як сказана ў Паведамленні: «Урадавая камісія прадоўжыць сваю работу па пошуку архіўных дакументаў і матэрыялаў, што адносяцца да падзей у Курапатах, а таксама сведак з мэтай устанаўлення асоб загінуўшых, канкрэтных матываў пакаранняў смерцю і асоб, якія іх ажыццяўлялі». Але галоўны вывад зроблены і не двухсэнсоўна сфармуляваны:

у 1937–1941 гадах у лясным масіве Курапаты органамі НКУС праводзіліся масавыя расстрэлы савецкіх грамадзян.

На хвіліну затоім і перавядзём дыханне. Угледзімся ў гэтыя даты, спынімся на апошняй з іх… Значыць, раней, чым пачалася Вялікая Айчынная, ішла колькі гадоў Вялікая Злачынная. Супраць сваіх людзей, супраць свайго народа… Зазначым гэты феномен — для таго, каб потым усвядоміць, якім павінен быць помнік у Курапатах.

У тых чытацкіх лістах, якія цытаваліся, і ў тых, якія я не называў, настойліва ставяцца пытанні: «Дзе?», «Калі?», «Хто?»

«Дарагая рэдакцыя, — звяртаецца згаданая ўжо Г. Манкевіч, — ці маецца хоць якая магчымасць устанавіць месца гібелі майго бацькі — ці ў Курапатах, ці ў паўночных раёнах?»

«Я асабіста ўпэўнены, — піша мінскі інжынер-тэхнолаг Генадзь Аркадзьевіч Прохараў, — што ў архівах КДБ захаваліся ўсе звесткі аб рэпрэсаваных і расстраляных, у тым ліку і ў Курапатах, і прашу паведаміць мне:

1. Дзень, месяц і месца нараджэння майго бацькі.
2. Дзень, месяц, год расстрэлу і месца яго пахавання.
3. Прозвішча і імя нягодніка, па даносе якога мой бацька быў агавораны і арыштаваны.
4. Прозвішча і імя следчага, які прымусіў майго бацьку прызнаць сябе «шпіёнам», «шкоднікам» ці «тэрарыстам», г. зн. «ворагам народа».

Не трэба караць гэтых svалачэй, — працягвае Г. Прохараў. — Іх, пэўна, не так многа ўжо засталося ў жывых. Хай дажываюць свой век. Але вышэйшым актам справядлівасці было б апублікаванне спісаў гэтых людзей і пазбаўленне іх, цяпер ужо безумоўна пенсіянераў, прыстаўкі «персанальны». Быць персанальнымі пенсіянерамі мясцовага, рэспубліканскага ці саюзнага значэння гэтыя людзі не маюць права… Прашу адказаць на мае пытанні».

На гэтыя і падобныя пытанні ўрадавая камісія, на жаль, не змагла даць адказу. Тут нашы чаканні былі яўна перабольшаны. Прыходзіцца прымаць да ведама сумную канстатацыю: «…органы НКУС не складалі дакументаў з указаннем месц расстрэлаў і пахаванняў… Устанавіць асобы загінуўшых, канкрэтныя матывы пакарання смерцю і асоб, якія выконвалі прыгаворы і рашэнні несудовых органаў у 1937–1941 гадах, пакуль не з’яўляецца магчымым».

(Неабходная заўвага. Дзейнасць урадавай камісіі абмяжоўваецца Курапатамі, але чытачы сваімі сведчаннямі пашыраюць геаграфію карных акцый, называюць і іншыя месцы расстрэлаў і пахаванняў нявінных ахвяр. Дадам яшчэ, што некаторыя карэспандэнты прыводзяць цэлыя спісы сваіх аднавяскоўцаў, якія загінулі ў гады сталінскіх рэпрэсій. Мартыралог папаўняецца.)

Савет Міністраў рэспублікі прыняў прапанову ўрадавай камісіі і прыняў пастанову аб увекавечанні памяці ахвяр масавых рэпрэсій і ўзвядзенні помніка. Уздыхнём з палёгкай. Гістарычная пастанова. Запаветнае, глыбока вынашанае ў нашых сэрцах і розумах рашэнне. Думка пра неабходнасць помніка ахвярам сталінізму выказвалася ў артыкуле «Курапаты — дарога смерці», пра гэта гаварылася на мітынгу ў Курапатах летась, 19 чэрвеня, на ўстаноўчай канферэнцыі па стварэнні «Мартыралога Беларусі» 19 кастрычніка… Так, сапраўды тут ёсць падстава гаварыць аб волі народа, аб «думцы шырокай грамадскасці».

Якім павінен быць помнік тым, каго расстралялі ў Курапатах? Дзе і калі ён будзе ўзведзены?

Я мог бы падзяліцца некаторымі канкрэтнымі меркаваннямі. Але сёння яны, здаецца, будуць заўчасныя — гэта пытанні заўтрашняга дня. Сёння я хацеў бы зазначыць толькі наступнае. Можна сказаць, што сцяжына да месца будучага помніка ўжо фактычна пракладзена. Удзельнікамі мітынгу, які адбыўся ў Курапатах 19 чэрвеня, удзельнікамі мітынгу-рэквіема, які павінен быў адбыцца недалёка ад Курапат, у нейкім сэнсе тут і адбыўся, 30 кастрычніка (даты нядаўняга, мінулага года). Пракладзена сцяжына, акрэслена пляцоўка. І ў літаральным, і ў маральным сэнсе. Але давайце памяркуем, як выглядаюць у сучасны момант, у святле паведамлення ўрадавай камісіі і пастановы Саўміна Беларусі, у святле таго афіцыйна і юрыдычна прызнанага факта, што ў лясным урочышчы Курапаты не «нехта некалі там забіў і закапаў», а некалькі год запар «органамі НКУС праводзіліся масавыя расстрэлы савецкіх грамадзян», — як выглядаюць у гэтым святле памятныя ўсім нам спробы забараніць адзін мітынг, забарона другога, мітынгу-рэквіема, дзіўныя імкненні сустракаць у штыкі, абгаварыць, скампраметаваць высакародныя, чыстыя парыванні ў дачыненні да памяці нявінных ахвяр? Мёртвым не баліць. Мёртвыя сораму не ймуць. Ну а мы, жывыя? Ну а як нам быць — з гэтым болем, з гэтым сорамам? Ён, выходзіць, усё ж розны ў нас, гэты «парог» — болевы, маральны.

Гарвыканкаму даручана распрацаваць сумесна з творчымі саюзамі праектную дакументацыю на ўзвядзенне помніка. Але ж раней, чым брацца за гэтую святую справу, гарадскія ўлады мусяць усвядоміць да канца маральна-палітычны сэнс тых санкцый — цяганіны, забарон, штрафаў, якія яны прымянілі да ініцыятараў ушанавання памяці ахвяр сталінізму. Мёртвыя сораму не ймуць. Але мёртвыя глядзяць нам у вочы, мёртвыя глядзяць нам услед, мёртвыя прыходзяць у нашы сны. І раней чым падумаць пра фінансавыя затраты і матэрыял для помніка, нам усім трэба прайсці належнае ідэйнае і маральнае ачышчэнне. Інакш нявінныя ахвяры могуць помнік і не прыняць…

*1989*

## «АЛЬБО ЎЗБРОІЦЦА НА МОРА КРЫЎД…»
*Выступленне на Х з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі*

Я нядаўна тройчы выйграў заклад. У вядомага драматурга. У вядомага тэатральнага крытыка. І ў вядомага рэжысёра. Гэта значыць у людзей, якія ў той ці іншай меры ведаюць (павінны ведаць) Вільяма Шэкспіра, у прыватнасці яго «Гамлета — прынца дацкага», у прыватнасці маналог апошняга «Быць альбо не быць». У адказ на пытанне, які сэнс прынц дацкі ўкладваў у сваё горкае «быць альбо не быць?», яны ўсе тлумачылі адназначна: жыць альбо не жыць. Вытлумачвалі, словам, так, як і прынята ў нашым штодзённым ужытку. Я ж, перачытваючы нядаўна «Гамлета» ў перакладзе Юркі Гаўрука, адкрыў раптам для сябе, што мы тут крыху вольна абыходзімся з Шэкспірам, што пачатак стаўшага крылатым маналога трэба разумець шырэй — як пытанне, якое катэгарычна патрабуе рашэння перад новым крокам, якое патрабуе зрабіць выбар…

Пытанне: быць альбо не быць? Што лепей,
Што разумней: альбо цярпець удары,
Каменні, стрэлы яраснага лёсу,
Альбо ўзброіцца на мора крыўд
І знішчыць іх змаганнем…

Вечнае, заўсёды надзённае, можна сказаць, пытанне. Для літаратуры. Для грамадства. Для чалавецтва. І раз я пачаў з класікі, з экскурсу ў класічную спадчыну, звернемся на хвіліну да

нашага Купалы. Хаця б да гэтага двухрадкоўя — надзвычай сугучнага з толькі што працытаванымі шэкспіраўскімі радкамі:

А воля мне жалезная патрэбна
За крыўды маёй мілай помстай заплаціць…

Там — «узброіцца на мора крыўд», тут — «воля мне жалезная патрэбна».

Нехта сказаў, што геній заўсёды народны. З гэтым цяжка не пагадзіцца. І як бы мы ні вытлумачвалі паняцце народнасці і ні суадносілі яго ў кожным канкрэтным выпадку з індывідуальна-творчымі асаблівасцямі мастака, застаецца ўсё ж галоўным крытэрыем мера яго суперажывання з жыццём і лёсам народным, мера яго гуманнасці ў адносінах да чалавека як часцінкі народа, мера яго здольнасці акрэсліваць справядлівасць і несправядлівасць, дабро і зло і быць на баку абяздоленых, пакрыўджаных, маючых патрэбу ў спагадзе і дапамозе.

Я прывёў двухрадкоўе з паэмы Купалы «Яна і я». Там ідзе размова аб тым, як адплаціць за «крыўды мілай», як змагацца са злом. А давайце спытаемся, чаму верш «А хто там ідзе?» быў названы «народным гімнам беларусаў»? Ды, відаць, таму, што прагучалі ў ім ідэйна-сутнаснай дамінантай абурэнне і боль за крыўды людскія, народныя — за «мора крыўд». Помніце:

А што яны нясуць па худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.
А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды ж нясуць на паказ сваю?
— На свет цэлы.
А хто ж гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць навучыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.

Бо менавіта крыўду — як сінонім зла, як знак несправядлівасці, як след сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту — прыкмячае перш за ўсё паэт у вобліку і поступе народным…

Гэтыя радкі прыгадаліся мне, па асацыяцыі, у час нядаўняй выбарчай кампаніі, падчас адной з сустрэч, якая адбывалася ў невялікай школьнай зале, твар у твар з людзьмі, што называецца. Звяртаючыся да кандыдатаў, да патэнцыяльных «слуг народа», людзі (а гэта быў «народ» — рабочыя, служачыя, настаўнікі з мікрараёна «Серабранка») ставілі пытанні, выступалі, спрачаліся

з кандыдатамі і адзін з адным. І я ў нейкі момант зазначыў у думках, што ў напаленай атмасферы сустрэчы дамінуе адна эмоцыя — крыўда. Гучалі незадаволенасць, разгубленасць, трывога, боль, асуджанасць. Але пакрывала іх, выступала агульным назоўнікам менавіта яна — крыўда…

Крыўда «на», крыўда «за», крыўда «з-за».

Крыўда — на «властей придержащих», учарашніх сённяшніх.

Крыўда — за злачынствы сталіншчыны, за архіпелаг ГУЛАГ, за Курапаты і магілёўскія кар'еры.

Крыўда — за рассяляньванне, за разрабочванне, за разінтэлігенчванне, за расчалавечванне, словам.

Крыўда — за Чарнобыль.

Крыўда — за экалагічную катастрофу, за брудную ежу, за атручаныя паветра, ваду і глебу.

Крыўда — з-за няпраўды, прапагандысцкай хлусні, недаверу, бяссэнсіцы, бязвер'я…

Вось і прыгадалася мне тады купалаўскае «А хто там ідзе?».

І падумалася, што як быццам на дварэ іншы час, іншая эпоха, што і плечы ў нас не такія ўжо худыя, і крыві на руках няма, і ногі нашы не ў лапцях, — а крыўды хапае. І не мора яе ўжо, здаецца, а цэлы акіян.

Быць альбо не быць?

І яшчэ — за што?!

«За што?!» — чуецца нам з безыменных курапацкіх магіл.

«За што?!» — крычым мы разам з героем быкаўскай аповесці «Аблава» Хведарам Роўбам.

«За што?!» — напісана на бледных, прыхопленых радыяцыяй тварыках дзяцей у гематалагічнай клініцы.

«За што?!» — успыхвае ў вачах юнака, які ўласцівым маладосці наіўным максімалізмам паверыў у перабудову і адраджэнне, у магчымасць гаварыць на роднай мове, а над галавой якога не-не ды завісае міліцэйская дубінка…

«За што?!», «Чаму?», «Як гэта так?» — гэтыя пытанні гучаць сёння, у наш так званы перабудовачны, так званы пераходны час, і ў жыцці, і ў літаратуры. Менавіта яны, гэтыя пытанні, за якімі крыўды чалавека і крыўда за чалавека, складаюць галоўны нерв новай п'есы Аляксея Дударава, новай аповесці Віктара Казько, выступленняў Генадзя Бураўкіна і Ніла Гілевіча, новых вершаў Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Максіма Лужаніна, Уладзіміра Някляева, Ніны Мацяш, Людмілы Паўлікавай, Сяргея

Законнікава, Галіны Каржанеўскай, Сержука Сокалава-Воюша, Васіля Жуковіча, Міколы Янчанкі, Міхася Шэлехава (называю вершы, што змяшчаліся ў апошні час у «ЛіМе»)…

Апошнім часам у дыскусіях аб нашай новай, кастрычніцкай і паслякастрычніцкай гісторыі не-не ды і выказваецца думка, што Кастрычніцкая рэвалюцыя — з'ява акцыдэнтная, гістарычна не абумоўленая. Магчыма, для такога сцвярджэння і ёсць пэўныя падставы. Але… давайце ўспомнім Горкага: нідзе так, як у Расіі, не адносіліся дрэнна да чалавека, нідзе так, як у царскай імперыі, так яго, чалавека, не зневажалі. Успомнім тут адпаведныя мастацкія сведчанні Цёткі, Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага…

Народ, беларускі народ!
Ты цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі, —
У ёй нават мовы няма…

Так што гаручага матэрыялу для рэвалюцыйнага выбуху было больш чым дастаткова, дастаткова было гэтага самага «мора крыўд».

Іншая справа, як рэалізоўваўся — і дадам: рэалізуецца — гуманістычны зарад рэвалюцыі, што атрымалася ў рэальнасці з добрых намераў і высакародных парыванняў. Леў Талстой любіў паўтараць адну ўсходнюю прыказку: «Спалі Каран, служы ідалам, зняслаў Каабу, але не крыўдзі чалавека». Чалавек — не сродак, а мэта, чалавек — мера рэчаў чалавек — вянец прыроды… Не крыўдзі чалавека! Але крыўдзілі. І яшчэ як крыўдзілі!

І працягваем, як ужо гаварылася, крыўдзіць. І суб'ектыўна і аб'ектыўна. І прама і ўскосна. І маральна і фізічна… Чаго не хапае перабудове, дык гэта перш за ўсё, па-мойму, рашучага і паслядоўнага адмаўлення ўсякай бесчалавечнасці, рашучай і паслядоўнай гуманізацыі ўсіх сфер жыцця (калі гэта гучыць не вельмі наіўна). Мы гаворым пра неабходнасць усталявання грамадскага, прававога грамадства, але часта ўпускаем з поля гледжання адну «дэталь»: «фундаментам права з'яўляецца гуманнасць» (Альберт Швейцар).

Мяне бянтэжыць, у прыватнасці, тэндэнцыя разглядаць па-ранейшаму чалавека не як мэту, а як сродак, не як суб'ект

палітыкі, права, вытворчасці, а як іх аб'ект. Калі вы помніце, мы ў «ЛіМе» не так даўно спрачаліся з нашым лідэрам па пытанні аб тым, «хто накорміць краіну». Было пераканаўча даказана, што цэнтрам грамадства, цэнтрам грамадскіх адносін павінен быць чалавек, вытворца, а не дзяржава, гэта значыць чыноўнікі, тыя, хто кіруе, кантралюе, вядзе ўлік, размяркоўвае і г. д.

Сёння прыходзіцца прадоўжыць нашу палеміку з першым сакратаром ЦК КПБ. Ён даў для гэтага падставу, выказаўшы крыху дзіўны погляд на тыя працэсы, якія назіраюцца сёння ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі. «Нарастаюць страты ў народнай гаспадарцы, звязаныя з «мітынговай дэмакратыяй, — гаварыў у сваім дакладзе Пленуму ЦК Я. Я. Сакалоў. — За мінулы год толькі ў прамысловасці і будаўніцтве страчана каля 800 тысяч чалавека-дзён, або на 36 працэнтаў больш, чым за папярэдні год. Рэспубліка недаатрымала прамысловай і будаўнічай прадукцыі на 100 млн. рублёў. Удумайцеся, таварышы, у гэтыя лічбы…»

Я ўдумаўся. Я падумаў: хто і як гэтыя лічбы вызначыў? Гэта — па-першае. Па-другое: выходзіць, каб не мітынгі (а яны ж, да слова, адбываліся, як правіла, у выхадныя дні або пасля працы), каб не дэмакратызацыя, не палітызацыя мас, а інакш кажучы, — каб не перабудова, то… то ўсё было б у парадку. Дзіўная логіка, ці не праўда? Але мяне тут бянтэжыць не сама логіка, не столькі тэкст, колькі падтэкст. А ён, калі я яго правільна зразумеў, зводзіцца да таго, што чалавеку адмаўляецца ў праве быць грамадзянінам і дазваляецца быць толькі працаўніком… Крыўдзяць грамадзяне начальнікі радавых грамадзян!

Чаму рашыў гаварыць пра «мора крыўд», чаму вырашыў выдзеліць менавіта гэту тэму? Відаць, не толькі таму, што задумаўся над урокамі класікаў. Справа, відаць, яшчэ і ў тым, што нядаўна, разбіраючы даўнія запісы, наткнуўся раптам на шматгадовай даўнасці, з часу студэнцтва, занатоўку: «Пражыць бы жыццё так, каб нікога не пакрыўдзіць». Так некалі фармуляваў сваё жыццёвае крэда. Спытаецеся, ці атрымалася? Не зусім…

А з другога боку: тое ж самае жыццё не раз ставіла і ставіць сёння перад суровым, жорсткім выбарам:

Быць альбо не быць?..

*1990*

# НЕ ПАЛОХАЙЦЕ ПАРЛАМЕНТАМ ДЗЯЦЕЙ

Нядаўна я быў сведкам маляўнічай сцэнкі: пяцігадовы Янка забаўляў у застоллі дарослых тым, што натхнёна расказваў ім прыдуманыя тут жа розныя дэтэктыўна-фантастычныя гісторыі («гісторыі ў серыях», як ён казаў) пра… дэпутатаў і Вярхоўны Савет. Што толькі не выдумляла дзіцячая фантазія, замешаная на ўражаннях ад такіх фільмаў, як «Супермен», «Кінг-Конг», «Камісар Катані», «Тэрмінатар», «Забіць дракона»! Асаблівы камізм надавала «гісторыям у серыях» тое, што хлопчык складаў іх па прынцыпе, па якім ствараюцца літоўскія анекдоты з адным і тым жа папулярным персанажам: «…І тут падышоў Кіндзюліс». Які б сюжэт ні браў Янка для сваёй чарговай «серыі», ён заканчваў яе, як правіла, словамі: «Тады прыйшоў дэпутат» (або: «Яны прыляцелі ў Вярхоўны Савет»).

Калі хлопчык, прытаміўшыся, замоўк і пераключыў цалкам сваю ўвагу на торт, я спытаўся ў яго, ці не збіраецца ён стаць дэпутатам, калі вырасце. «Не-е!» — катэгарычна пакруціў ён галавой. «Чаму — не?» — пацікавіўся я. «Таму што… Таму што дэпутаты толькі сядзяць, задаюць пытанні і дрэнна рашаюць законы» — такі быў адказ (менавіта такі, паверце, перадаю яго даслоўна).

Былі, як кажуць, і смех, і грэх. Смех — бо ёсць вялікая доля праўды ў выслоўі: вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна. Грэх — бо, здаецца, не зусім педагагічна, не зусім патрыятычна выхоўваць дзяцей у духу негатыўных адносін да нацыянальна-дзяржаўных сімвалаў (у цывілізаваных краінах парламент з’яўляецца адным з нацыянальных сімвалаў). Ну, ды гэта між іншым…

Я не спытаўся ў Янкавых бацькоў, адкуль у хлопчыка такая схільнасць да дэпутацкай тэматыкі і такая недзіцячая дасведчанасць адносна дзейнасці Вярхоўнага Савета. Было і без таго ясна — адкуль. Крытыкуюць яго, бедалагу, сёння з усіх бакоў і ўсе, каму толькі хочацца («кому не лень»). Крытыкуюць за што трэба і за што не трэба, за справу і без справы. З разуменнем, дзе яго віна, а дзе бяда, дзе прычыны, а дзе вынік, і без такога разумення… Уключаю тэлевізар і бачу жанравую, што называецца, сцэнку: рэпарцёр перахоплівае на вуліцы прахожага і, соваючы яму ў твар мікрафон, ставіць пытанне рубам: «Вы давяраеце нашаму Вярхоўнаму Савету ці не?!» Прахожы палохаецца ад нечаканасці і не ведае, што адказаць. «Значыць, давяраеце?» — настойвае рэпарцёр. «Ну, як вам сказаць… Не ведаю… Не давяраю…»

Чую па радыё (звонкагалосая, модная цяпер скорагаворка): «Сесіі Вярхоўнага Савета нагадваюць колішнія сходы партактыву (гэта ўвогуле праўда, але слухайце, што далей. — *А. В.*) … Толькі на тых сходах не лаялі партыю і прымалі рашэнні, а цяпер лаюць партыю, а патрэбныя рашэнні не прымаюць». Чытаю ў адной газеце: «Вярхоўны Савет аб'ектыўна выпрацаваў свой інтэлектуальны і палітычны рэсурс і стаў галоўным тормазам грамадскага развіцця… Парламент працягвае існаванне па інерцыі. Хаця ўсім ужо відаць, што яго партыя канчаткова сыграная». Чытаю ў другой, таксама аўтарытэтнай газеце: «Шаноўныя дэпутаты! Няўжо вы не разумееце, што людзі больш вам не вераць? Няўжо праўду кажуць, што дзеля сваіх меркантыльных мэтаў вы здрадзілі свайму народу і гатовы загнаць яго ў беспрасветную галечу?..» Чытаю ў трэцяй, таксама даволі папулярнай газеце: «Як здабыць касмык воўны з паршывай авечкі?.. Як з той авечкі воўну, так і з сённяшняга Вярхоўнага Савета, які ўжо адчуў лёгкі шок і хваляванне ад ініцыятывы дэмакратаў, трэба здабыць максімум. Каб хоць памерці ён мог дастойна».

Дадайце сюды яшчэ загалоўкі накшталт «Парламент, бойся рэферэндуму!» і безапеляцыйны прысуд Жырыноўскага: «Вярхоўны Савет будзе распушчаны, а дэпутаты вісець на слупах!» — і малюнак будзе поўны. Малюнак, як бачым, не для слабанервовых, тым больш — не для дзяцей з іх наіўнай уражлівасцю і няўстойлівай псіхікай.

Цэлым артыкулам на тую ж тэму «разразіўся» заслужаны юрыст рэспублікі, доктар юрыдычных навук прафесар БДУ А. Галаўко (надрукаваны напачатку лютага ў газеце «Звязда»). Не артыкулам — абвінаваўчым актам. Хаця аўтар і дэкларуе клопат пра стварэнне прафесійнага парламента, нават падкрэслівае, што «без прафесійнага парламента нам не выжыць» (гэтыя словы вынесены ў загаловак), прафесійнай, кампетэнтнай, канструктыўнай размовы ў яго, на жаль, не атрымалася. Узялі верх так званы абвінаваўчы ўхіл, пракурорска-выкрывальны пафас. Прытым заслужаны юрыст перабірае-разбірае не толькі рэальныя і ўяўныя хібы нашага Вярхоўнага Савета, але, відаць, для большай пераканаўчасці і большага ўздзеяння на нашых дзяцей, дадае яшчэ і замежны негатыўны вопыт — дакладней, вопыт успрыняцця свайго парламента англійскімі школьнікамі. «Мы не павінны… слепа пераймаць зарубежны вопыт, — перасцерагае прафесар А. Галаўко. — Не так даўно стала здабыткам сусветнай грамадскасці пісьмо англійскага школьніка Джэймса Эрмітэджа, які разам са сваімі аднакласнікамі наведаў парламент.

Яго здзівіла тое, што з 600 парламентарыяў у зале прысутнічала ўсяго каля 50. Паводзілі яны сябе проста страшна…» (Далей, як чытач, напэўна, помніць, ідзе апісанне жахлівых паводзін членаў брытанскага парламента; і я тут падумаў, ці не ўзяць назад свае словы аб тым, што ў цывілізаваных краінах парламент з'яўляецца адным з нацыянальных сімвалаў?)

Тут можна было б і завяршыць мне сваё эсэ на тэму «Дарослыя дзядзькі, не палохайце дзяцей парламентам, не ўцягвайце іх у свае палітычныя гульні!» і паставіць кропку. Але, як казала мая маці, той можа, каму дае Божа. Не даў Божа на гэты раз. Пры перачытванні артыкула А. Галаўко я раптам спатыкнуўся на абзацы, які ідзе адразу за расповедам англійскага школьніка і лагічна з апошнім не звязаны. «Ці варта пад уплывам нацыяналістычных і іншых эмоцый асобных грамадзян рабіць суцэльныя змяненні і перайменаванні населеных пунктаў, вуліц, дзяржаў? — пытаецца заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь. — Мне здаецца, што ў такіх сітуацыях трэба лічыцца з рэальнымі гістарычнымі падзеямі, асабліва ж — з думкамі людзей і матэрыяльнымі затратамі». Кэль пасаж! — як кажуць французы. Нічога сабе логіка, нічога сабе пункцік погляду! Да ўсіх іншых хібаў і грахоў нашага заканадаўчага органа юрыст А. Галаўко прыплюсоўвае яшчэ (хоць і асцярожна) і… нацыяналізм (варыяцыя: антысаветызм). Яму, па ўсёй бачнасці, не падабаюцца гэтыя новыя найменні: Садружнасць Незалежных Дзяржаў, Рэспубліка Беларусь, плошча Незалежнасці, праспект Скарыны…

Дарэчы, доктар юрыдычных навук тут не адзінокі. Адзін доктар гістарычных навук прыслаў у Вярхоўны Савет і разаслаў ва ўсе рэспубліканскія газеты «Адкрытае пісьмо членам Вярхоўнага Савета», дзе гнеўна дапытваецца, «чаму некаторыя народныя дэпутаты адмоўна ставяцца да многіх сацыяльна-палітычных з'яў, звязаных з савецкім грамадскім ладам?.. Чаму так неўзлюбілі савецкую ўладу, сталі няўдзячнымі сынамі і дочкамі сваёй сацыялістычнай Бацькаўшчыны?.. Чаму Вярхоўны Савет навязаў беларускаму народу сацыяльна чужую дзяржаўную сімволіку эксплуататарскіх грамадстваў?.. Чаму парламентарыям Савецкай Беларусі не спадабаліся серп і молат — сімвал працоўнага саюза рабочых і сялян? Чаму ім не спадабаліся чырвоны сцяг — сімвал рэвалюцыйнай барацьбы працоўных усяго свету за сваё вызваленне і пяціканцовая чырвоная зорка?..»

Плакальшчыкі па нашым светлым мінулым з яго атрыбутыкай і сімволікай, здаецца, завяршылі карціну. Здаецца,

пастаўлены ўжо ўсе кропкі над «і» і пастаўлена ўжо апошняя кропка ў абвінаваўчым акце ў адрас нашага Вярхоўнага Савета. «Суду ўсё ясна!»

Не, не «ўсе» і не «ўсё». Адной «кропкі» я не бачу, прытым вельмі істотнай, можа быць, важнейшай, чым некаторыя астатнія. Як гэта ні дзіўна, але ва ўсіх непахвальных эпітэтах, якія раздаюцца ў адрас парламента злева і справа, у сродках масавай інфармацыі і на плошчах і вуліцах (і на кухнях нашых збяднелых), чамусьці абыходзіцца, прапускаецца наступнае вызначэнне: «дэнацыяналізаваны, пазбаўлены нацыянальна-патрыятычнай ідэі». Такі, як у значнай меры тое насельніцтва (свядома пазбягаю слова «народ», не хачу свой народ крыўдзіць), якое гэты Вярхоўны Савет выбірала (без асаблівага выбару, вядома). Вось дзе перш за ўсё сабака закапаны. Так, ён, гэты Савет, не зусім дэмакратычна выбраны, ён у значнай колькасці наменклатурна-партакратычны па сваім паходжанні, ён у пэўным сэнсе непрафесійны (хаця парламентарыямі, як вядома, не нараджаюцца і не нараджаюць іх у гатовым выглядзе ў той ці іншай навучальнай установе), ён такі і гэтакі, але асноўная яго бяда — і гэта асабліва добра відаць, калі параўноўваць яго з аналагічнымі па сваім сацыяльным і персанальным складзе Вярхоўнымі Саветамі, скажам, Расійскай Федэрацыі, Украіны, Малдовы, — заключаецца ў тым, што ён у значнай частцы сваёй (яна, праўда, зменшылася пасля вядомых падзей) не ўсведамляе, каму, якому народу ён заклікаваны служыць, палітычным увасабленнем і калектыўным розумам якой нацыі павінен быць. Ён — прадукт свайго часу, прадукт адпаведнай шматгадовай ідэалагічнай селекцыі і звязанай з ёй дэградацыі нацыянальнай свядомасці беларуса — занадта «інтэрнацыяналізаваны» для такога ўсведамлення.

І перш за ўсё па гэтай прычыне, а не таму, што ён нібыта непрафесійны, недзеяздольны, інертны і г. д., ён галасаваў супраць непажаданых для яго большасці кандыдатаў у кіраўнікі камісій, галасаваў супраць нашай дзяржаўнасці, нашай новай (хаця і авеянай вякамі) нацыянальна-дзяржаўнай сімволікі. (Праўда, будзем справядлівымі, адпаведныя рашэнні ўсё-такі прыняты, і тое, і другое адноўлена ў сваіх правах.) Менавіта па гэтай, а не па нейкай іншай, зноў-такі, прычыне адмоўна галасавала дэпутацкая большасць супраць памятнага пункта 15-й пастановы «Аб падатках з прадпрыемстваў, аб’яднанняў і арганізацый», у якім гаварылася: «Сума прыбытку выдавецтваў і друкарняў, атрыманая ад выдання кніг і брашур на беларускай

мове, падаткам на прыбытак не абкладаецца» (гэта ў сувязі з тым галасаваннем частка нас, дэпутатаў, пакідала ў знак пратэсту залу на чале з тагачасным першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам). Менавіта па гэтай жа прычыне частка Вярхоўнага Савета тармозіць рэалізацыю Закона аб мовах, з упартасцю, вартай лепшага прымянення, блакіруе прыняцце пастановы «Аб беларускай мове ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі» (двойчы не прыняты на сесіі праект пастановы падвяргаецца зараз абструкцыі з боку некаторых членаў прэзідыума). Менавіта па гэтай жа прычыне, з такой, да смешнага, непаслядоўнасцю і нерашучасцю (чыста па-беларуску, як я казаў ужо на сесіі) вырашалася і ўсё яшчэ вырашаецца пытанне аб утварэнні і назве вайсковага міністэрства, аб прызначэнні яго міністра… Ну, ды, відаць, дастаткова прыкладаў. Думаю, што ад ярлыкоў, ад анамнезу мы змаглі перайсці да дыягназу.

І тым не менш…

Старажытны філосаф заклікаў нас не праклінаць, не плакаць і не смяяцца, а разумець. Дык вось, давайце будзем цвяроза глядзець на рэчы, будзем памятаць, што палітыка — мастацтва магчымага, майстэрства кампрамісаў, што не толькі валюнтарызм, але і ідэалізм у палітыцы небяспечныя (згодна з прынцыпам «не нашкодзь!»). Давайце не будзем нагнятаць нянавісць і варожасць (іх сёння хапае і без таго), застрашваць адзін аднаго і палохаць дзяцей. Не будзем прыпадабняцца да тых двух рознаплямённых дзікуноў, якія сустрэліся на прыцемненай лясной сцяжынцы і, не жадаючы саступіць з яе, мірна размінуцца, пачынаюць застрашваць адзін аднаго ўсімі наяўнымі ў іх сродкамі — рагацінай, немым крыкам, мімікай… Мы ж, здаецца, пасля ўсіх урокаў, спробаў і памылак зразумелі (ці павінны былі б зразумець), дамовіліся (ці павінны былі б дамовіцца), што ў нас адзінае выйсце, адзіны шлях — будаваць цывілізаванае, прававое, дэмакратычнае грамадства, грамадства, заснаванае на павазе чалавечай асобы і вяршэнстве закона (апошнія словы складаюць адзін з Дзесяці прынцыпаў хельсінкскага Заключнага акта, пад якім гэтымі днямі паставіў свой подпіс і Старшыня нашага Вярхоўнага Савета).

Прыгадваецца ў гэтай сувязі мудрая развага Васіля Быкава, выказаная ім нядаўна ў гутарцы з карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва». «Эканамічны крызіс хутчэй за ўсё задоўжыцца, — гаворыць Васіль Уладзіміравіч, — але да гэтага трэба быць гатовым і разумець, што такі стан рэчаў не залежыць ад чыёйсьці волі альбо недагляду. Нават ад таго не залежыць,

што ў нас кепскі ўрад ці Вярхоўны Савет занадта лянівы: тут дзейнічаюць гістарычныя прычыны. Будзе яшчэ шмат тупікоў і пастак. Калі нацыя мае палітычную волю да незалежнасці, дык яна, канешне, з іх выберацца. Іншая справа, калі гэтая воля аслаблена і на пачатку дарогі карціць вярнуцца назад — тады, можа, і не варта было на гэты шлях ступаць…»

Невясёлы роздум. Палітычная воля нашага народа да незалежнасці, да суверэнітэту, безумоўна, аслаблена. «Баіцца быць беларус беларусам». Выцісканне з сябе раба — працэс пакутлівы і працяглы ў часе. Што гэта так — можна меркаваць і па Вярхоўным Савеце, і па дэпутацкім корпусе іншых узроўняў. Але мяне асабіста непакоіць не столькі тое, што палітычная воля нацыі яшчэ слабая (калі ж ёй было набыць моц?), колькі той трывожны факт, што гэтай волі пагражае небяспека, што ёй процістаіць другая, варожая ёй воля.

Мітынг, які праводзіўся 23 лютага ў парку Горкага па ініцыятыве так званых ДСПС і ПКБ і фармальна прысвячаўся традыцыйнаму святу — Дню Узброеных Сіл, быў не столькі святочным, колькі ваяўнічым, скіраваным палітычна супраць суверэнітэту рэспублікі, супраць усяго беларускага. І ў афармленні, і ў прамовах дэманстратыўна, з выклікам ігнараваліся дзяржаўная (беларуская) мова, назва рэспублікі, яе дзяржаўныя сімвалы (праўда, апошнія ўсё яшчэ ганьбіліся на ўсю моц: не нашыя, маўляў, сімвалы). Мітынг насіў, па сутнасці, антынацыянальны, антыдзяржаўны, антыканстытуцыйны характар. Але тым не менш вядучы, небезвядомы правадыр «прыхільнікаў камуністычнага шляху» В. Чыкін расхаджваў па імправізаваным памосце з выглядам цыркавога барца, які калі яшчэ і не паклаў, то вось-вось пакладзе на лапаткі ўсіх сваіх ідэйных ворагаў. Другі факт. На першай паласе «Віцебскага рабочага» гэтымі днямі была змешчана аб’ява «Да народных дэпутатаў усіх узроўняў Віцебскай вобласці», і згодна з ёй 3 сакавіка ў Палацы культуры і тэхнікі прафсаюзаў адбыўся абласны дэпутацкі сход, першым на якім стаяла пытанне: «Аб скліканні З’езда народных дэпутатаў СССР»(?!) На сходзе было таксама разгледжана пытанне «аб мяркуемым рэспубліканскім рэферэндуме» і прынята адпаведная, на свой лад і са сваім прыцэлам, фармулёўка. Паказальна, што ў гэты ж дзень і ў газеце «Вячэрні Мінск» з’явіўся пераказ рэзалюцыі ДСПС аб правядзенні ўсенароднага рэферэндуму (Чыкін, аказваецца, таксама за рэферэндум).

Такія справы. І калі пра іх загаварыў гэтымі днямі са мной адзін мой выбаршчык і спытаўся пра мае адносіны да рэферэндуму, то я сказаў, што мне больш падабаецца прадуманая дзелавая ініцыятыва Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Наконт стварэння антыкрызіснага камітэта. Наконт таго, каб мы былі пільнымі і гатовымі маральна і арганізацыйна на выпадак надзвычайнай абстаноўкі, пагрозы нашай дзяржаўнасці.

Ну, а што да рэферэндуму, то мне ўяўляецца больш цывілізаваны і адначасова больш просты, без хаджэння ў народ і нездаровага ажыятажу, шлях. Гэта — прыняцце сённяшнім Вярхоўным Саветам новай Канстытуцыі (яе тэкст у першым чытанні ўжо разглядаўся), дзе ёсць і раздзел «Выбарчая сістэма», прыняцце новага Закона аб выбарах і прызначэнне на падставе гэтага закона новых выбараў. Адбудуцца новыя выбары (дай Бог, каб абставіны паспрыялі іх паспяховаму правядзенню), сфарміруецца новы Вярхоўны Савет (варыянты: Вярхоўная Рада, Сойм, Нацыянальны сход), і яго папярэднік, у складзе якога, як высветліцца пазней, было многа добрых, цікавых, разумных людзей, здольных, сумленных, прынцыповых палітыкаў і на рахунку якога, як пакажуць вынікі, было нямала добрых спраў, важных, а то і гістарычных рашэнняў, — яго папярэднік, Вярхоўны Савет дванаццатага склікання, з палёгкай складзе свае паўнамоцтвы… Годна, ціха, без ляманту аб «разгоне», «роспуску», «самароспуску». Большасць маіх выбаршчыкаў прымаюць такую аргументацыю, падзяляюць маю пазіцыю. У іх ёсць яшчэ толькі сумненне, ці пойдуць людзі на новыя выбары. У суседніх з маёй акругах тройчы праводзіліся выбары летась, балаціраваліся вядомыя ў горадзе людзі, рабочыя важакі — і ўсё марна. Урок, які нельга забываць і з якога нельга не рабіць вывады надалей…

Ну, і некалькі слоў аб тым, як уяўляецца прафесару А. Галаўко рэформа Вярхоўнага Савета з мэтай яго прафесіяналізацыі, якім уяўляецца яму заўтрашні парламент. На жаль, вельмі спрошчана. Крытэрый у заслужанага юрыста тут адзін: «Трэба змагацца за эканомію кожнай капейкі». А раз так, то (цытую) «трэба рэзка скараціць дэпутацкі корпус», «няма патрэбы мець такую колькасць камісій», «трэба скараціць колькасць рэферэнтаў у камісіях», словам, «варта скараціць расходы на ўтрыманне Вярхоўнага Савета і яго органаў». Пытанне, значыць, ставіцца так: чым таннейшы парламент — тым ён больш прафесійны, чым больш танная ўлада — тым больш яна эфектыўная… Але ж гэта неяк не стасуецца з парадай самога прафесара «настойліва

вучыць дэпутатаў патрабаванням законаў і навукі ў кіраванні грамадствам, дзяржавай з улікам сусветнага вопыту». Возьмем, напрыклад, вопыт ЗША: «Трапіўшы на агульнанацыянальную сцэну ў 1976 годзе, — расказваецца ў адным з апошніх нумароў часопіса «Амерыка», — сенатар Дэнфарт, як любы нававыбраны сенатар, павінен быў падабраць сабе супрацоўнікаў, якія памаглі б яму разабрацца ў пытаннях дзяржаўнай палітыкі, умела прадстаўляць інтарэсы Місуры і перамагчы на наступных выбарах. Кожнаму сенатару адпускаецца ад 800 000 да паўтара мільёна долараў у год (у залежнасці ад насельніцтва штата) для аплаты расходаў па ўтрыманні офіса на Капіталійскім узгорку. У штаце сенатара 18 чалавек, якімі кіруе начальнік яго канцылярыі…» І далей: «У Місуры Дэнфарт адкрыў чатыры офісы ў розных гарадах штата, каб падтрымліваць сувязь з выбаршчыкамі.

— Гэта мае вочы і вушы, — гаворыць сенатар.

У кожным офісе працуе на два чалавекі, якія займаюцца мясцовымі скаргамі і праблемамі». І гэтак далей.

Дарэчы, у ЗША прынята, што хлопчыкі і дзяўчынкі наймаюцца ў якасці падручных і кур'ераў да сенатараў і кангрэсменаў. Зарабляюць нейкія грошы, а заадно прыглядаюцца, прылучаюцца з маладых гадоў да парламенцкай дзейнасці (некаторыя, магчыма, знаходзяць тут сваё прызванне). Ва ўсякім выпадку, гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак парламентам ужо не напалохаеш…

***1992***

## НАША ЗЯМЛЯ, НАШЫ ПРАВЫ

*Выступленне на Сусветнай канферэнцыі па правах чалавека 22 чэрвеня 1993 г. (Вена)*

Як вядома, адной з найважнейшых задач падрыхтоўкі гэтай канферэнцыі было вызначэнне такіх нацыянальных фактараў і інстытутаў, якія б дазвалялі эфектыўна абараняць правы чалавека, спрыялі ўключэнню адпаведных міжнародных нормаў у нацыянальнае права.

Хацеў бы, у гэтай сувязі, сказаць наступнае: Вярхоўны Савет, вышэйшы заканадаўчы орган суверэннай Беларусі, прадпрыняў за апошнія тры гады шэраг значных крокаў у накірунку да палітычнага і юрыдычнага забеспячэння правоў чалавека. Ратыфікаваны Факультатыўны пратакол да Пакта аб

грамадзянскіх і палітычных правах, а таксама Канвенцыя аб правах дзіцяці. У адпаведнасці з ёй потым быў распрацаваны і нядаўна прыняты ў першым чытанні Закон аб правах дзіцяці. Несумненна, што самае прамое дачыненне да грамадзянска-прававога статуса асобы, да аховы яе правоў маюць прынятыя на апошніх сесіях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь такія прававыя акты, як законы аб грамадзянстве, аб грамадскіх аб’яднаннях, аб адукацыі, аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацыях, аб нацыянальных меншасцях, аб парадку выезду і ўезду. Інакш кажучы, ствараюцца падставы для таго, каб наша нацыянальнае заканадаўства адпавядала агульнапрызнаным пактам аб правах чалавека і нашым міжнародным абавязацельствам у галіне гуманітарнага права, каб юныя грамадзяне Беларусі раслі і выхоўваліся ў духу свабоды, годнасці, цярпімасці, справядлівасці і салідарнасці.

Але мы былі б няшчырымі, калі б не сказалі тут, што цяжкасці, якія перажывае рэспубліка ў сваім пераходзе ад таталітарнай сістэмы да сістэмы дэмакратычнай, не адбіваліся на дабрабыце народа, у прыватнасці на становішчы такіх найбольш прыступных катэгорыях насельніцтва, як жанчыны і дзеці, не закраналі іх правы. Азмрочвае жыццё многіх сем’яў, згубна адбіваецца на фізічным і псіхічным здароўі часткі нашых дзяцей уплыў іанізуючай радыяцыі — выніку сумна вядомай катастрофы на Чарнобыльскай атамнай станцыі. І, карыстаючыся выпадкам, я хацеў бы ад імя сваёй дэлегацыі і ад сябе асабіста выказаць падзяку прадстаўнікам усіх тых краін, якія прыйшлі нам на дапамогу і ўсяляк спрыяюць нам у аздараўленні дзяцей, што сталі ў той ці іншай ступені ахвярамі радыеактыўных ападкаў. Вось сапраўды той выпадак, калі, цытую артыкул 6 Канвенцыі аб правах дзіцяці: «Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць у максімальна магчымай ступені выжыванне і здаровае развіццё дзіцяці». Прытым адны дзяржавы дапамагаюць выратаванню дзяцей другой краіны.

Не магу не сказаць у заключэнне наступнае.

Я сёння прачнуўся вельмі рана. І не ад шуму вуліцы, а ад унутранага штуршка, ад трывожнага імпульсу памяці аб тым, што менавіта вось у такую, як сёння, светлую летнюю раніцу, раніцу 22 чэрвеня 1941 года, нас, дзяцей-беларусаў, разбудзіла страшная вестка пра вайну — пра тую вайну, якая адправіла ў небыццё кожнага чацвёртага жыхара Беларусі. Мы з’яўляемся нацыяй, якая на сваім горкім вопыце зведала, што гэта та-

кое — вайна, агрэсія, насілле, знявага элементарнай чалавечай годнасці і асноўнага неад'емнага права чалавека — права на жыццё, на бяспечнае існаванне. Думаю, што нагадаць гэтую трагічную дату — 22 чэрвеня 1941 года дае мне падставу не толькі перажытае асабіста мной і маім народам, але і той гістарычна вядомы факт, што менавіта ахвяры і руіны Другой сусветнай вайны прымусілі чалавецтва стварыць Арганізацыю Аб'яднаных Нацый, якая абвясціла галоўнай мэтай «пазбавіць будучыя пакаленні ад бядотаў вайны» і «зноў усталяваць веру ў асноўныя правы чалавека» і пад высокай эгідай якой праходзіць наша канферэнцыя.

*1993*

## ЦІ ПАТРЭБНЫ ЗАКОН АБ ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЯХ?
*З выступлення на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі*
*9 снежня 1993 г.*

Ход нашай сесіі, змест і характар дыскусій, якія ідуць на яе пасяджэннях і вызначальным матывам якіх з'яўляецца пошук выхаду з сацыяльна-эканамічнага і палітычнага крызісу, вырашэнне пытання аб тым, якой мае быць палітычная сістэма Рэспублікі Беларусь, пераканалі лішні раз мяне — і, думаю, не толькі мяне — у тым, што нам неабходна разгледзець і прыняць названы Закон. Неабходнасць у ім відавочная. Відавочныя прычыны — як аб'ектыўнага, так і суб'ектыўнага характару, — па якіх прапануемы вашай увазе праект павінен стаць Законам.

Па-першае, мы ўжо прызналі той пастулат, што права грамадзян на аб'яднанне ў палітычныя партыі неаддзельнае ад іншых індывідуальных правоў і свабод, у прыватнасці ад права на свабоду перакананняў і асацыяцый.

Па-другое, працэс адаптацыі да новых умоў жыцця, змены сістэмы каштоўнасцей, пераходу грамадства ад аднаго якаснага стану да другога суправаджаецца, натуральна, працэсам структурызацыі грамадства, самавызначэння, па пэўных крытэрыях, сацыяльных груп і ў выніку — узнікнення палітычных партый. Што б мы пра іх ні гаварылі і ні пісалі, якімі б эпітэтамі ні характарызавалі (маўляў, «нешматлікія», «слабыя», «пазбаўленыя трывалай сацыяльнай базы» і г. д.), — яны тым не менш узніклі і працягваюць узнікаць.

Інакш кажучы, шматпартыйнасць як форма палітычнага плюралізму і як найважнейшы элемент палітычнай сістэмы становіцца рэальнасцю.

І натуральна, што наспела неабходнасць у адпаведнай заканадаўчай падтрымцы шматпартыйнасці з боку дзяржавы, у вырашэнні праблемы палітыка-прававога статуса партый — іншым словам, у прыняцці Закона аб палітычных партыях.

Мы тут не адкрываем Амерыкі. Гэта палітычная Амерыка даўно ўжо адкрыта. Вопыт многіх краін, як заходнееўрапейскіх, як былых сацыялістычных, як «трэцяга свету», пераканаўча сведчыць аб устойлівай тэндэнцыі да выдання спецыяльных прававых актаў у дачыненні да палітычных партый.

Паколькі ў гэтай зале выказвалася сумненне адносна таго, што палітычная дзейнасць павінна рэгулявацца спецыяльным законам, і гучала меркаванне, ці не варта Закон аб партыях аб'яднаць з другім — з Законам аб грамадскіх аб'яднаннях, то мушу, у гэтай сувязі, дадаць наступнае.

Тэарэтычна падобную аперацыю можна было б, магчыма, ажыццявіць. Можна было б. Але не трэба, немэтазгодна. Не на карысць справы. Пра што аргументавана гаварылася яшчэ тры гады назад у сувязі з абмеркаваннем праекта вядомага Закона «Аб грамадскіх аб'яднаннях» (прынятага былым саюзным Вярхоўным Саветам у кастрычніку 1990 г.). Ужо тады некаторыя прававеды, спецыялісты ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва і права ставілі пад сумненне канцэпцыю гэтага Закона як «радавога» (ад слова «род») у адносінах да некаторых разнавіднасцей грамадскіх аб'яднанняў, у прыватнасці да палітычных партый. Яны звярталі ўвагу на тое, што палітычныя партыі, па сваёй прыродзе і сваіх задачах, — гэта своеасаблівыя, унікальныя ў сваім родзе арганізацыі, што іх трэба разглядаць як самастойны палітычны і канстытуцыйна-прававы інстытут і дзейнасць іх рэгуляваць спецыяльным законам.

Хачу падкрэсліць, што стыхійнае, без адпаведнага прававога рэгулявання, з'яўленне і дзейнасць мноства партый можа быць фактарам напружанасці, нестабільнасці, можа ўскладняць працэс фарміравання шматпартыйнай палітычнай сістэмы — як аднаго з гарантаў сацыяльнай ураўнаважанасці, аптымальнага эвалюцыйнага развіцця, стварэння і функцыянавання прававой дзяржавы.

*1993*

## ГЭТА ВЯЛІКАЕ СЛОВА — ЗАКОН

Першыя вясновыя дажджы наглядна пацвердзілі: прырода жыве па ўласцівых ёй спрадвеку законах, па законах кругазвароту, змены пораў года, цыклічнага абнаўлення. І, можа, менавіта гэтая вось «законнасць», прадвызначаная натуральнасць з’яў у прыродзе абнадзейвае і духоўна падмацоўвае нас. Асабліва напрадвесні.

Кант гаварыў, што рэчаіснасць не можа загінуць натуральна, паколькі ў натуральных законах жыцця няма ніякага ўказання на яе магчымую гібель. Але яна не можа загінуць і звышнатуральна, таму што інакш прыйшлося б дапусціць нейкую больш магутную істоту, чым сама рэчаіснасць, якая раптам знішчыла б гэтую рэчаіснасць як дрэнную, накшталт сталяра, які знішчае ім жа самім няўдала зробленую табурэтку. Ні натуральна, ні звышнатуральна свет загінуць не можа. Ён, лічыць Кант, можа загінуць супрацьнатуральна, а менавіта ў такім выпадку, калі самі людзі паставяць сабе вар’яцкія ідэі і пачнуць іх усур’ёз ажыццяўляць.

Закон — слова шматзначнае. Тлумачальныя слоўнікі даюць, як правіла, цэлы рад яго значэнняў. Гэта і «абавязковае для ўсіх правіла, устаноўленае вышэйшым органам дзяржаўнай улады, якое мае найвышэйшую юрыдычную сілу»; гэта і «агульнапрынятае правіла грамадскіх паводзін, звычай»; гэта і «асноўныя палажэнні ў якой-небудзь справе, абумоўленыя яе сутнасцю»; гэта і «пастаянная, аб’ектыўна існуючая сувязь паміж з’явамі, якая вынікае з прыроды саміх рэчаў, заканамернасць»… Такая тут атрымліваецца градацыя. Але калі прыгледзецца бліжэй ды разабрацца, то прыходзіш да высновы: вельмі ўжо дае сябе адчуваць агульны корань, вельмі ўжо блізкія, родныя па сваёй глыбіннай сутнасці гэтыя значэнні. Хіба, скажам, закон як нарматыўна-прававы акт не можа і не павінен не ўлічваць агульнапрынятыя правілы паводзін, норавы, звычаі, традыцыі? Або ігнараваць прыроду і становішча рэчаў у грамадстве, сацыяльныя заканамернасці?

Антычныя заканадаўцы не аддзялялі, не адмяжоўвалі адно ад другога права юрыдычнае і права натуральнае. Яны лічылі, што «правасуддзе — аснова дзяржавы», што «там, дзе моцныя законы — там і народ моцны». Але ў той жа час сцвярджалі, што права — гэта «мастацтва дабра і справядлівасці», прызнавалі «права роду людскога», г. зн. натуральнае права чалавека. Наш

Скарына таксама лічыў, што праватворчасць павінна грунтавацца на паняццях дабра, справядлівасці і чалавекалюбства, што юрыдычныя законы фармулююцца на аснове законаў людской маралі, і перш за ўсё на аснове прыроднага агульначалавечага прынцыпу «то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети» (гэта, як вядома, і залатое біблейскае правіла). А слынны выдавец Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года Леў Сапега быў перакананы, што закон павінен прадугледжваць «за неучастивые справы слушнае каранне», а за цнатлівыя — «пристойную заплату» і што менавіта такі закон «ест цель и конец всих прав на свете».

Законы прыроды. Законы жыцця. Законы маралі. І, нарэшце, законы юрыдычныя, законы як крыніца права, законы як умова разумнай, рацыянальнай, цывілізаванай арганізацыі грамадскага жыцця, стварэння прававой дзяржавы.

Ні натуральна, ні звышнатуральна свет загінуць не можа. Ён можа загінуць супрацьнатуральна. І, як чалавецтва пераканалася на горкім вопыце, тады, у прыватнасці, калі з'яўляюцца «месіі», якія пачынаюць дзяліць грамадства на сваіх і чужых, на групы і класы, сеюць паміж імі варожасць і адзін з гэтых класаў аб'яўляюць гегемонам, дыктатарам. Інакш кажучы, супрацьпастаўляюць сіле права права сілы, прынцыпу ўзаемнай выгады і згоды — прынцып «хто каго!». Выступаючы на VI з'ездзе Саветаў, У. Ленін ничтоже сумняшеся зазначыў: «Мы знаем, что эта Советская конституция, которая в июле (10 ліпеня 1918 г. — *А. В.*) утверждена, что она не выдумана какой-нибудь комиссией, не сочинена юристами, не списана с других конституций. В мире не бывало таких конституций, как наша. В ней записан опыт борьбы и организации пролетарских масс против эксплуататоров и внутри страны, и во всем мире». Як бачым, шматвяковы сусветны вопыт развіцця прававой думкі, канстытуцыйнага ўладкавання грамадскага жыцця адкідваўся на сметнік гісторыі як нешта непатрэбнае.

Прыкладна ў такім жа духу выкладаліся першыя радкі Канстытуцыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ад 11 красавіка 1927 года, дзе ўрачыста абвяшчалася, што «гэтая Канстытуцыя… мае сваёй задачаю забяспечыць дыктатуру пралетарыяту для прыдушэння буржуазіі».

Потым так званым Асноўным Законам рэспублікі былі сталінская Канстытуцыя 1936 года, брэжнеўская 1977 года…

Трагічны парадокс заключаўся ў тым, што беларусы, якія мелі самае непасрэднае дачыненне да стварэння такіх сусветна вядомых і прызнаных помнікаў права, як Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, як Канстытуцыя Рэчы Паспалітай ад 3 мая 1792 года (трэцяя ў свеце дэмакратычная Канстытуцыя), мелі на сваім гістарычным рахунку такі інтэлектуальны праватворчы набытак, сапраўды сваёй канстытуцыі не мелі. І не мелі права яе пісаць, хаця лічыліся «рэспублікай» і называліся «суверэннай савецкай сацыялістычнай дзяржавай». І нават не мелі права помніць і ўспамінаць сваё мінулае, ганарыцца ім.

Так што давайце сёння, гаворачы словамі паэта, белым каменьчыкам адзначым усё ж дзень 20 ліпеня 1990 года — дзень, калі была прынята пастанова Вярхоўнага Савета рэспублікі аб тым, каб выбраць Канстытуцыйную камісію і даручыць ёй распрацаваць праект новай Канстытуцыі, апублікаваць яго для абмеркавання і ўнесці на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета. І давайце другім, можа, большым па памеры белым каменем (у дадатак да чырвонага запісу ў календары) адзначым дзень 15 сакавіка 1994 года — дзень прыняцця сваёй, самімі напісанай Канстытуцыі, Канстытуцыі суверэннай, незалежнай, дэмакратычнай Рэспублікі Беларусь.

Знайшоў у сваім дэпутацкім блакноце наступны запіс: «15 сакавіка, аўторак, ранішняе пасяджэнне. Пачалося з абмеркавання паправак да праекта Канстытуцыі. Чую ўсё тыя ж, знаёмыя, як кажуць, да болю «за» і «супраць», тыя ж доказы. Перацягванне каната прадаўжаецца. Калі ўсё ж Канстытуцыя будзе прынята? Сёння, заўтра ці ніколі? Пасля першага перапынку пачалося галасаванне. 236 — «за», 6 — «супраць», 8 устрымаліся. Наш новы Асноўны Закон нарэшце прыняты! Час: 12.35. У другой палавіне дня, — працяг запісу ў блакноце, — на вячэрнім пасяджэнні быў прыняты і Закон «Аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь». Падчас абмеркавання, выступленняў па матывах галасавання выказваліся розныя думкі наконт таго, ці трэба дзень прыняцця Канстытуцыі абвяшчаць святочным днём. Галасаванне паказала, што трэба: 236 — «за», 4 — «супраць», 4 устрымаліся. Як тут не прыгадаць нашага класіка: «Дзень Канстытуцыі сягоння — вялікі дзень, святочны дзень!» Без іроніі. Што дрэннага ў тым, што паэт звязваў спадзяванне на лепшую долю, на лепшае жыццё для свайго народа з Канстытуцыяй, Законам?..

Канстытуцыя, як вядома, прымалася цяжка, нараджалася, што называецца, у пакутах — ідэалагічных, палітычных,

юрыдычных, маральных. Былі падставы для выказванняў аб канстытуцыйным крызісе, нават аб канстытуцыйным тупіку. Каб даць пэўнае ўяўленне аб той атмасферы, якая суправаджала працу Канстытуцыйнай камісіі і абмеркаванне праекта на пленарных пасяджэннях сесіі, дазволю сабе прывесці тут у скарочаным выглядзе адно са сваіх выступленняў, якое не публікавалася. «На мінулым тыдні нам было аб'яўлена, што пагаджальная камісія па спрэчных канстытуцыйных пытаннях прыйшла да пэўных рашэнняў і што, такім чынам, ёсць падстава спадзявацца: дапрацоўка Асноўнага Закона будзе прадоўжана і, магчыма, завершана. Спадзяванне ёсць, упэўненасці няма. Бо, як паказвае вопыт, некаторым з нас не хапае палітычнай, а дакладней — патрыятычнай волі, грамадзянскасці — для таго, каб даць новай Беларусі новую Канстытуцыю, не хапае ўсведамлення, што вырашэнне надзённых эканамічных і сацыяльных праблем і выхад краіны з крызісу звязаны са станам канстытуцыйнага заканадаўства, а гэта значыць — са станам правапарадку, законнасці ў цэлым. У атмасферы прававога нігілізму, агульнай непавагі да закона наіўна чакаць змен да лепшага, стабілізацыі абстаноўкі і палітычнага курсу нашай маладой суверэннай дзяржавы. Але неабходнай умовай для таго, каб вярнуць закону адпаведны аўтарытэт, з'яўляецца несумненна прыняцце Канстытуцыі і забеспячэнне яе непарушнасці.

Тры гады працуе Канстытуцыйная камісія, тры варыянты праекта Канстытуцыі абнародаваны шырока ў сродках масавай інфармацыі (гэта ўжо раўнацэнна аднаму рэферэндуму). Намі ўзгоднены і дзейнічае парадак прыняцця Асноўнага Закона (што таксама мае важнае, калі не рашаючае значэнне). І нам застаецца выканаць сацыяльны заказ часу і нашай дзяржавы і годна прыняць новую Канстытуцыю для новай Беларусі».

Сацыяльны заказ часу і дзяржавы быў выкананы. Не заўсёды і не ва ўсім лепшым чынам (узяць, да прыкладу, малапрывабную гісторыю з галасаваннем па асобных палажэннях і нават раздзелах праекта Канстытуцыі шляхам падачы так званых імянных бюлетэняў), але выкананы. Год таму. Факт у наяўнасці. І яго значнасць асабліва ўсведамляеш, калі параўноўваеш нашу сітуацыю са станам канстытуцыйнай рэформы ў суседніх краінах — ва Украіне, у Польшчы і Латвіі. Украінская Вярхоўная Рада так і не змагла прыняць пакуль што новую Канстытуцыю. Прадаўжаецца, па сутнасці, канстытуцыйны крызіс у нашых польскіх суседзяў. Яны мусяць карыстацца часова так званай

«малой Канстытуцыяй», г. зн. некалькімі законапалажэннямі. Адмовіўся ад спробы распрацаваць і прыняць новую Канстытуцыю латвійскі парламент і прыняў рашэнне вярнуць да жыцця старую, 1922 года, Канстытуцыю, да якой прыходзіцца прымаць папраўкі.

Гэта, так сказаць, для даведкі.

Наша новая Канстытуцыя прайшла ўжо пэўнае выпрабаванне часам. Можна ўжо рабіць першыя, папярэднія высновы. Відавочна, што не ўсё ў дакуменце добра, дасканала, да канца прадумана. І па той прычыне, што ён усё ж прадукт свайго пераходнага часу, і па іншых прычынах, як суб’ектыўнага, так і аб’ектыўнага характару. Прызнаюся, што і я асабіста, як дэпутат і колішні член Канстытуцыйнай камісіі і як грамадзянін, не ўсім задаволены ў нашым сённяшнім Асноўным Законе. Незадаволены, напрыклад, тым, што захавалася старая назва вышэйшага заканадаўчага органа: «Вярхоўны Савет». Я прапаноўваў іншую, больш беларускую і адначасова прынятую ў сусветнай практыцы: «нацыянальны сход» (варыянты: «народны сход», «дзяржаўны сход»). Не былі прыняты некаторыя мае заўвагі і прапановы, выказаныя як у вуснай, так і ў пісьмовай форме, па артыкулах, дзе размова ідзе аб неабходнасці публікацыі ўсіх нарматыўных актаў, аб смяротнай кары, аб сродках масавай інфармацыі, аб карыстанні перавагамі і прывілеямі і інш. Гэтыя артыкулы, як мне здаецца, маглі быць сфармуляваны больш дакладна ў юрыдычным плане ці, у іншых выпадках, у плане лагічна-сэнсавым.

Натуральна, патрабаваў увагі і такі элемент канстытуцыйнага «дызайну», як мова, стыль, літаратурная форма дакумента. Тут не маглі не адбівацца адмоўна такія чыннікі, як спешка, тасоўка шматлікіх варыянтаў і рэдакцый, наша хвалёнае двухмоўе (выдаткі перакладу з адной мовы на другую). На заключным этапе, на этапе рэдакцыйнай дапрацоўкі тэксту, на гэта была звернута ўвага. Запрашаліся вопытныя, аўтарытэтныя спецыялісты. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Беларускага дзяржаўнага універсітэта М. П. Карповіч прафесійна прайшлася па усім тэксце Канстытуцыі і зрабіла шмат слушных заўваг і прапаноў. Частка іх была прынята, другую частку рэдакцыйная група не паспела разгледзець і ўлічыць належным чынам, аб чым сёння шкадуеш, калі мусіш затрымлівацца на 13-м, 23-м і некаторых іншых артыкулах.

Ну, ды, як кажуць, няма меры дасканаласці. Галоўнае, што Канстытуцыя ёсць. Што яна працуе. Што яна робіць сваю справу. Неяк незаўважна для нас саміх у нашым сённяшнім палітычным лексіконе занялі сваё месца такія словаспалучэнні, як «Канстытуцыйны суд», «канстытуцыйны лад», «канстытуцыйная законнасць». У першым Пасланні Канстытуцыйнага суда, адрасаваным Прэзідэнту і Вярхоўнаму Савету (яно публікавалася ў друку), размова ішла менавіта аб стане канстытуцыйнай законнасці ў краіне. «Канстытуцыйны суд, — гаворыцца ў Пасланні, — бачыць галоўны напрамак дэмакратычных пераўтварэнняў у рэальным забеспячэнні правоў і свабод чалавека, аб’яўленага Канстытуцыяй найвышэйшай каштоўнасцю грамадства і дзяржавы. А гэта магчыма толькі ва ўмовах усталявання вяршэнства права, калі дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёй законаў».

Важкія, вартыя ўвагі словы. Тут мала што можна дадаць. Хіба што вынесены на першую паласу газеты дэвіз «Жыве Беларусь!» дапоўніць словамі: «…як канстытуцыйная, прававая дзяржава!» Ну, і яшчэ, падумаўшы разам з філосафам пра тое, ад чаго можа загінуць рэчаіснасць і што яе можа выратаваць, пра тое, што ёсць Закон з вялікай літары, ва ўсіх яго значэннях і праявах, сфармуляваць у дачыненні да ўсіх нас крэда: «Жыць па Законе!» А гэта, я думаю, амаль тое самае, што жыць па справядлівасці, жыць па праўдзе, жыць па сумленні…

***1995***

## «ВЫШЭЙШЫМ ГОНАРАМ ДЛЯ НАЦЫІ З ЯЎЛЯЕЦЦА ЎТВАРЭННЕ СВАЁЙ ДЗЯРЖАВЫ»

Нядаўна на старонках «Звязды», пад рубрыкай «Дыскусійная трыбуна», надрукаваны вялікі, з працягам у трох нумарах, артыкул сакратара ЦК ПКБ, кіраўніка фракцыі камуністаў у Вярхоўным Савеце трынаццатага склікання Васіля Новікава. «Гонар маю» — такі эмацыянальна-баявы, з выклікам загаловак артыкула. Падзагаловак жа гаворыць пра яго тэарэтычна-праграмную зададзенасць: «Камуністы на рубяжы дваццаць першага стагоддзя: паміж мінулым і будучым».

Сталы чытач газеты і прыхільнік яе дыскусійнай рубрыкі, я не мог не звярнуць увагу на эфектнае выступленне аднаго з нашых

актыўных публічных палітыкаў, экс-кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Звярнуў, пазнаёміўся, і ўзнікла патрэба сказаць некалькі слоў.

Ну, па-першае, адзначаеш як станоўчы факт тое, што сакратар ЦК ПКБ і лідэр яе фракцыі ў будучым Вярхоўным Савеце адносіцца да ліку не толькі, па-руску кажучы, «говорящих», але і «пишущих», хто валодае пяром, г. зн. творча думае. З адпаведнай доляй павагі прымаеш і самахарактарыстыку Васіля Мікалаевіча, яго «візітоўку»: колішні студэнт філасофскага факультэта, «філосаф-матэрыяліст», «дыялектык-матэрыяліст», «філосаф і марксіст» і г. д. Ён ацэньвае сённяшняе «хваляванне грамадскай думкі», выступае за неабходнасць «мысліць маштабна, лагічна, сістэмна», за «жалезную навуковую логіку», нагадвае пра «законы і ўрокі дыялектыкі». І тут мусіш пагаджацца з аўтарам артыкула. Сапраўды, сёння нам, можа, як ніколі, трэба ўсведамляць, што мы — гома сапіенс, сёння нам, як ніколі, трэба браць галаву ў рукі і кіравацца логікай, розумам, здаровым сэнсам, філасофска-дыялектычным падыходам да надзённых праблем. Сказана ж: сон розуму нараджае пачвар. І сказана зноў-такі, што розум — антыпод эгаізму, невуцтва, фанатызму, ваяўнічасці, нецярпімасці. Розум асэнсоўвае вопыт. Розум вызначае і мэты, сродкі для іх дасягнення. Розум з’яўляецца перадумовай перакanання, гуманнасці, духоўнасці. Розум бачыць розніцу паміж сапраўдным, натуральным і ілжывым, фальшывым, паміж ісцінай і забабонамі. Розум, як нехта тонка заўважыў, не будзе ставіць пытанне: даганяць ці адставаць? Аб’ядноўвацца ці разлучацца? Ён будзе зыходзіць з таго, што добра, а што дрэнна. Леў Талстой больш за сто гадоў таму назад запісаў у сваім дзённіку. «Единение достигается только тогда, когда ищут не единения, а истины. Ищи истину и найдешь единение. Ищи единение и удалишься от истины». (Думаю, гэту мудрасць можна адрасаваць нашым сённяшнім розным «інтэгратарам».)

А цяпер, пасля тырады ў гонар розуму і логаса (спадзяюся, не лішняй), вернемся да артыкула «Маю гонар…» і паглядзім, наколькі яго аўтар выступае сапраўды як філосаф-дыялектык, наколькі сапраўды дыялектычная, сістэмная, навуковая яго логіка. Што, вядома, дасягаецца няпроста. Бо калі верыць украінскаму жарту, то «філосаф — це людина, яка нічого не робить, а тільки думає, і думає дуже приблизно».

Думаць не прыблізна, а дакладна, падыходзіць да справы дыялектычна, па-навуковаму — гэта значыць, перш за ўсё,

паважліва ставіцца да фактаў, трымацца рэалій. Ці выконваецца аўтарам артыкула гэта элементарная ўмова? Не, не зусім. Узяць, напрыклад, наступную дэталь. Захапіўшыся ўсхваленнем рэальнага сацыялізму, ідэйным і маральным абгрунтаваннем яго, В. Новікаў раптам зазначае: «Вынікі беларускага рэферэндуму доказваюць больш адкрыта тое ж самае: людзі хочуць сацыялізму». Але ж, як вядома, пытанне аб адносінах да сацыялізму на рэферэндум не выносілася. Выходзіць, аўтар выдае жаданае за сапраўднае.

Далей. В. Новікаў прызнаецца, што «з дзіцячых гадоў ад бацькоў засвоіў мудрасць — разумней за жыццё не будзеш». У другім месцы вяртаецца да гэтага тэзіса: «Само жыццё, мудрэй і разумней за якое нікога не бывае, пераконвае чалавека лепш за ўсякую прапаганду, у чым яго інтарэс і дзе праўда». І яшчэ нагадвае «старую як свет ісціну — «ничто не вечно под луной», піша пра «ход гісторыі па спіралі», пра тое, што «крывая гістарычнага развіцця выйшла на новы віток» і выйшла «па законах дыялектыкі», «па адкрытых ім (Марксам. — *А. В.*) аб'ектыўных законах грамадскага развіцця». Гэта з аднаго боку.

А з другога — аўтар катэгарычна адмаўляецца, супярэчачы сабе як філосафу-дыялектыку, філосафу-матэрыялісту, глядзець на цыферблат, на тое, якая эпоха на двары, заплюшчвае вочы на новыя рэаліі. Як гэта ні дзіўна, але ў вялізным, шматслоўным артыкуле не знайшлося месца такім словам, як «Рэспубліка Беларусь», «наша дзяржава», «родная краіна», «беларускі дом», «суверэнітэт», «самастойнасць». На працягу ўсяго артыкула В. Новікаў гаворыць пра «бацькоўскі савецкі дом» (дзіўнае, ці не праўда, словазлучэнне?), пра «нашу вялікую агульную дзяржаву — СССР» (а калі не вялікая, то ўжо і не дзяржава?), пра «брацкія народы Савецкага Саюза» (яны, народы, дарэчы, нікуды не падзяваліся, яны застаюцца там жа і прадаўжаюць быць братамі; варагуюць не народы, а палітыкі), і ні слова пра новую суверэнную дзяржаву на палітычнай карце былога Саюза і ўсяго свету — пра сваю Рэспубліку Беларусь. Ён яе ва ўпор, што называецца, не бачыць. Не прызнае, па ўсёй бачнасці, такую рэальнасць, такую, па-філасофску кажучы, данасць. Аб чым сведчыць па-свойму і такі востра крытычны пасаж: «У разрозненых частках раней вялікай дзяржавы ствараюцца — праўда, галоўным чынам гутаперчавымі языкамі, — «унітарныя», «прававыя», «гуманныя», «цывілізаваныя» дзяржавы. А на

паверку выходзіць — хлусня, брыдота, змрок, безвыходнасць. Не буду каменціраваць гэту злосную, «чарнуху», звярну толькі ўвагу на тое, што ўзятыя ў двукоссе словы з'яўляюцца шаржыраваным, іранічным намёкам на першы артыкул нашай новай Канстытуцыі: «Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава».

Як бачым, ідэалагічна ангажыраваны палітык бярэ верх над філосафам-дыялектыкам.

І тут у мяне ўзнікаюць два пытанні да аўтара артыкула «Гонар маю…». Першае: як гэта можна ўмудрыцца сказаць столькі слоў пра свой гонар і ні слова не прамовіць пра тое, што маеш гонар быць сынам свайго народа з яго вялікай гісторыяй, з яго традыцыямі, культурай, мовай? Можна, вядома, ганарыцца і сваімі ідэйнымі перакананнямі і на ўвесь голас заяўляць: «Я — камуніст, і мэта мая ясная». Але ж… Але ж ці не парушае тут аўтар запавет бацькоў і ці не імкнецца быць непадобным на іншых і мудрэйшым за самое жыццё? І — дадам — за горкія, незабыўныя гістарычныя ўрокі? У слоўніку замежных слоў, выдадзеным у 1939 годзе (г. зн. адразу пасля крывавых рэпрэсій), змяшчаўся наступны артыкул: «Патрыятызм — любоў да Радзімы; пры панаванні буржуазіі патрыятызм выкарыстоўваецца як сродак для адурманьвання мас. Патрыятызм савецкі — гэта беззапаветная любоў да айчыны працоўных і найглыбейшая нянавісць да ўсіх трацкісцка-бухарынскіх наймітаў, якія імкнуцца ператварыць нашу краіну ў калонію імперыялізму». (Паэтычны эквівалент: «У советских собственная гордость, на буржуев смотрим свысока».)

Той, хто чытаў і памятае пафасны артыкул В. Новікава, яго гнеўныя філіпікі ў адрас усіх, «хто не з намі», пагодзіцца са мной, што сённяшняе «гонар маю» яго аўтара вельмі ўжо нагадвае той, узору трыццатых гадоў, савецкі патрыятызм.

Такая вось тут атрымліваецца дыялектыка.

Да слова сказаць, «дыялектыка» гэта (ці, можа, вульгарная метафізіка хутчэй за ўсё?) праяўляецца і ў падыходзе аўтара артыкула да сферы культуры, нацыянальна-культурнага адраджэння і, у прыватнасці, да праблемы двухмоўя. І тут я хацеў бы прывесці прыклад сапраўды дыялектычнага падыходу да гэтай праблемы. Нядаўна мне трапіўся на вочы артыкул навукоўца-філолага Г. Гусейнава «Мова і насілле» («Речь и насилие»), надрукаваны ў свой час, неўзабаве пасля трагічных падзей у Сумгаіце, часопісам «Век ХХ і свет». Прывяду невялікую вы-

трымку з публікацыі. Улічваючы спецыфічнасць тэрміналогіі — на мове арыгінала. «Одним из показателей динамики кризисного развития, — пісаў Гусейнаў, — представляется языковое состояние общества, сложившееся за последние пять-шесть десятилетий и обладающее *большими разрушительными возможностями* (падкрэслена мной. — *А. В*.). Языковая ситуация в стране в настоящий момент и на ближайшую перспективу может быть охарактеризована как полуязычие. Функциональное полуязычие официально квалифицируется как «двуязычие». І далей: «Невозможность для полуязычного передать словесными средствами то, что больше всего тревожит, радует или пугает, годами накапливает в нем взрывоопасный груз умственно не обрабатываемых переживаний: чем они болезненней и монотонней, тем более необходимым делается для них соответствующее словесное выражение. Так надобно больше жевать сухую и грубую пищу. Когда таких полуязычных, почти всегда отмеченных неизбывной аффектацией, много и они к тому же собраны вместе, любой, даже самый незаметный, в принципе разрешаемый только словами, конфликт *порождает грубое насилие* (падкрэслена мной. — *А. В*.). Полуязычие, таким образом, это не лингвистическая только, но этносоциальная болезнь толпы XX века. Таково, по нашему мнению, одно из объяснений феномена сумгаитской резни».

Так што праблема двухмоўя, калі яе асэнсоўваць глыбей, з пункту гледжання навукова-дыялектычнай логікі, намнога больш складаная, чым гэта ўяўляецца паважанаму Васілю Новікаву і яго аднадумцам.

Другое пытанне. Аўтар артыкула «Гонар маю…» выступае не толькі як сакратар ЦК кампартыі, але і як дэпутат, як кіраўнік будучай фракцыі ў будучым Вярхоўным Савеце (трынаццатага склікання). Дык вось як ён будзе сябе адчуваць, паводзіць і дзейнічаць у вышэйшым заканадаўчым органе краіны, як будзе ўдзельнічаць у ажыццяўленні заканадаўчай улады, у стварэнні неабходных заканадаўчых умоў для свабоднага і годнага развіцця асобы ў Рэспубліцы Беларусь (пераказваю палажэнні адпаведных артыкулаў Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь») і, нарэшце, як будзе ставіцца да таго, што «непарушным прынцыпам дэпутацкай дзейнасці з’яўляецца ажыццяўленне суверэнітэту Рэспублікі Беларусь» (словы з прэамбулы да Закона «Аб статусе дэпутата»), — калі ён не прызнае, па сутнасці, такую рэальнасць, як новая суверэнная дэмакратычная Беларусь з яе новай Канстытуцыяй, новым канстытуцыйным ладам?

Нешта я сумняваюся, што аўтар артыкула зможа даць на гэта пытанне ясны, недвухсэнсоўны адказ.

Нельга не заўважыць і яшчэ адной супярэчнасці ў артыкуле «Гонар маю…». З аднаго боку, Васіль Новікаў абвяшчае сябе і сваіх саратнікаў па партыі адзінымі, хто «застаецца на баку працоўных, на баку народа», адзінымі абаронцамі «сацыялізму і працоўнага чалавека». А з другога — яўнае непрыняцце народаўладдзя, дэмакратыі. Апошняе слова ўжываецца не інакш як у двукоссі ці з адмоўнай прыстаўкай. І вось незразумела, чаму гэта аўтар — філосаф-дыялектык і перакананы барацьбіт за правы і інтарэсы працоўнага народа — так варожа настроены ў дачыненні да дэмакратыі і дэмакратаў? Чаму так з’едліва, з такой непрыязню ганьбіць усе дэмакратычныя партыі і рухі («дробнабуржуазныя партыі і партыйкі», «акцёры», «маскарад акцёраў», «псеўдарэфарматары» і г. д. і да т. п.)? Адкуль гэты антыдэмакратызм, чым ён абумоўлены? Пытанне тым больш слушнае, мяркую, што вопытны партыйны работнік савецкага часу і цвердакаменны прыхільнік учарашняй палітычнай сістэмы («гонар маю»!), Васіль Новікаў добра, трэба думаць, памятае, што гэту сістэму, гэты лад называлі самымі дэмакратычнымі, а савецка-сацыялістычную дэмакратыю — самай перадавой, самай развітой, самай прагрэсіўнай і што ў нашых учарашніх канстытуцыях, усесаюзнай і рэспубліканскай, гаварылася пра «сапраўдную дэмакратыю для працоўных», «далейшае разгортванне сацыялістычнай дэмакратыі», пра «ўсё больш шырокі ўдзел грамадзян у кіраванні справамі дзяржавы і грамадства» (дарэчы, сугучныя словы ёсць і ў нашай новай, дэмакратычнай Канстытуцыі).

Дык у чым справа? Дзе тут сабака закапаны?

Зрэшты, вялікай загадкі тут няма. Сабака закапаны не вельмі глыбока. Проста дэмакратызацыя, дэмакратычныя пераўтварэнні, будаўніцтва нацыянальнай дэмакратычнай дзяржавы не ўваходзяць у планы членаў ПКБ — «камуністаў на рубяжы дваццаць першага стагоддзя». У іх іншыя планы, іншыя погляды. Сённяшняе грамадства ўяўляецца В. Новікаву абсалютна біпалярным, чорна-белым (жыве курылка, жыве дагматычны, вульгарна-класавы сацыялагізм!). На адным полюсе — суцэльныя буржуа з іх паспеўшымі імгненна сфармавацца інстытутамі (буржуазныя партыі, буржуазны парламент, буржуазная канстытуцыя і г. д.), на другім — «працоўныя, якія падвяргаюцца эксплуатацыі» і адзінай надзеяй, адзіным па-

ратункам для якіх з’яўляюцца камуністы. «Свае інтарэсы мы можам абараніць толькі разам, — натхнёна заяўляе аўтар артыкула. — Толькі шлях аб’яднання працоўнага народа з партыяй камуністаў вядзе да вяртання аднойчы заваяваных і страчаных сацыяльных правоў і гарантый». Інакш кажучы: пралетарыі Беларусі, яднайцеся з камуністамі — членамі ПКБ! Ёсць такая партыя! Ёсць партыя, якая была і гатова зноў стаць кіруючай і накіроўваючай сілай грамадства, баявым авангардам працоўных мас! (Паказальны, дарэчы, штрых, які, безумоўна, характарызуе ідэалагічнае крэда аўтара артыкула: размова ідзе аб «працоўных масах», аб «працоўным народзе» і, здаецца, зусім адсутнічаюць паняцці «грамадзянін», «грамадзянскія правы», «грамадзянская супольнасць».)

Праўда, сакратар ЦК ПКБ не-не ды і спахопліваецца, робіцца на момант цвярозым філосафам і тады піша: «Я ўсёй душой веру ў яе (у гістарычную сустрэчу абяздоленых мас з камуністамі. — *А. В.*), але, застаючыся перакананым дыялектыкам і прагматыкам, усведамляю, што магчымы і іншыя, процілеглыя зыходы».

Што маецца на ўвазе пад «процілеглымі зыходамі», Васіль Новікаў не ўдакладняе. Варыянты накшталт «трэцяга шляху», «сярэдзіны», «сацыяльнай дзяржавы» яго, відаць, не цікавяць. А між тым менавіта такой, сацыяльнай дзяржавай і абвешчана ў новай Канстытуцыі Рэспубліка Беларусь. І ў артыкуле 2 Асноўнага закона чорным па белым запісана: «Чалавек з’яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю грамадства і дзяржавы. Дзяржава адказная перад грамадзянінам за стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы». В. Новікаў настойліва абяцае «вярнуць народу тое, што адабралі», вярнуць яму права на тое, другое і трэцяе. Як кажуць, абяцанкі-цацанкі. Але ж абяцаныя ім правы і гарантыі выразна сфармуляваны ў артыкулах новай Канстытуцыі. Напрыклад, артыкул 21 «Права» гаворыць: «Забеспячэнне правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь з’яўляецца найвышэйшай мэтай дзяржавы. Дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзян Беларусі, замацаваныя ў Канстытуцыі, законах і прадугледжаныя міжнароднымі абавязацельствамі дзяржавы».

Дзяржава… Толькі вось, як ужо адзначалася вышэй, гэтае слова, словы «дзяржаўнасць», «канстытуцыйны лад» адсутнічаюць у артыкуле «Гонар маю…». Што ў сваю чаргу сведчыць пра адсутнасць істотнага звяна ў логіцы аўтара, пра яўную непаслядоўнасць яго як дыялектыка. Цытаты ўжо былі

(без іх у дадзеным выпадку, відаць, нельга было). Прывяду ў заключэнне і яшчэ адну, якая пралівае дадатковае святло на паняцце «гонар». Філосаф-дыялектык Гегель аднойчы зазначыў, што «вышэйшым гонарам для нацыі з'яўляецца ўтварэнне сваёй дзяржавы». Безумоўна, што на гонар такога роду маюць права і асобны грамадзянін, і група грамадзян, калі яны ўсведамляюць сябе як неад'емную частку нацыі.

*1995*

## СУПРАСЛЬСКІЯ ЗВАНЫ

Гудам-звонам срэбра-медным
Звоняць звоны на званіцы.
Звоняць звоны ў час дзянніцы,
Надвячэр'ем ясна-бледным.
Між званамі на званіцы
Быў адзін звон незвычайны…

*Якуб Колас*

Так атрымалася, што ў апошнія дні — заадно, відаць, і ў апошнія ўжо дні дзейнасці Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання — прыйшлося як члену камісіі па правах чалавека займацца ў асноўным тэмай нацыянальных (этнічных, канфесіянальных, моўных) меншасцей. Прыйшло пісьмо са штаб-кватэры Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц СНД, дакладней — ад сакратара яе пастаяннай камісіі па сацыяльнай палітыцы і правах чалавека з просьбай прыслаць водгук на праект Канвенцыі «Аб механізме абароны правоў чалавека і правоў меншасцей у рамках СНД», у прыватнасці на раздзелы праекта «Карэнныя народы», «Правы меншасцей» і «Канфесіянальныя супольнасці». (Ключавы тэзіс апошняга раздзела: «Дзяржава абавязана прадухіляць і мінімізаваць міжгрупавыя супярэчнасці, устрымлівацца ад захадаў, якія могуць узмацніць супярэчнасці і нецярпімасць, а таксама абавязана садзейнічаць культурнаму плюралізму і ўзаемаразуменню паміж этнічнымі ці канфесіянальнымі групамі».) З Балгарыі прыйшоў факс, дзе паведамлялася, што пад эгідай Народнага сходу рыхтуецца канфедэрацыя з парадкам дня: «Абарона меншасцей як адна з састаўных частак дэмакратыі і правоў чалавека», «Роля парламентарыяў у абароне меншасцей», «Пабудова грама-

дзянскай супольнасці як сродак супрацоўніцтва і сувязі паміж большасцю і меншасцю» і г. д.

Мне сказалі, што трэба падрыхтаваць кароткае выступленне па адным з пералічаных пытанняў. Рыхтуючыся, я звярнуўся яшчэ раз да Парыжскай хартыі для новай Еўропы (хартыя, дарэчы, была абнародавана 21 лістапада 1990 года — гэта значыць роўна пяць гадоў таму; на жаль, гэтая знамянальная дата прайшла ў рэспубліцы незаўважанай, не адзначанай якім-небудзь чынам). І пераканаўся ў яе актуальнасці, знайшоў адпаведныя фармулёўкі. «Мы пацвярджаем, — абвяшчалася ў агульнапрызнаным дакуменце, — што этнічная, культурная, моўная і рэлігійная самабытнасць нацыянальных меншасцей будзе абаронена і што асобы, якія належаць да нацыянальных меншасцей, маюць права свабодна выражаць, захоўваць і развіваць гэтую самабытнасць без якой-небудзь дыскрымінацыі і ва ўмовах поўнай роўнасці перад законам». Тэма развівалася ў наступным раздзеле Хартыі: «Мы зноў пацвярджаем нашу глыбокую перакананасць у тым, што дружалюбныя адносіны паміж нашымі народамі, а таксама мір, справядлівасць, стабільнасць і дэмакратыя патрабуюць таго, каб этнічная, культурная, моўная і рэлігійная самабытнасць нацыянальных меншасцей была абаронена і каб ствараліся ўмовы для заахвочвання гэтай самабытнасці. Мы заяўляем, што пытанні, якія датычаць нацыянальных меншасцей, могуць вырашацца здавальняючым чынам толькі ў дэмакратычных палітычных рамках. Мы прызнаём далей, што правы асоб, што належаць да нацыянальных меншасцей, павінны поўнасцю паважацца як частка ўсеагульных правоў чалавека».

Атрымалася, зноў-такі так (бываюць у жыцці надзіва «лагічныя» па сваім значэнні супадзенні), што гэтыя добрыя, гуманныя словы — аб «культурным плюралізме і ўзаемаразуменні паміж этнічнымі ці канфесіянальнымі групамі», аб «абароне самабытнасці нацыянальных меншасцей» — мне давялося тут жа, літаральна праз некалькі дзён суаднесці з жыццёвай практыкай, з пэўнымі рэаліямі. Падчас паездкі на Беласточчыну. Яны, гэтыя добрыя словы і выказаныя ў іх высакародныя намеры, прыгадваліся мне не раз падчас размоў з галоўным рэдактарам беластоцкай «Нівы» Яўгенам Мірановічам і яе супрацоўнікам Віталем Лубам, са старшынёй праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) Янкам Сычэўскім, падчас спаткання з пісьменнікам і грамадскім дзеячам Сакратам Яновічам у ягоных родных Крынках і з крынкаўскім войтам Фабіянам Цыруком, са старым беларуска-польскім татарынам,

захавальнікам мячэці ў Крушнянах, суседніх з Крынкамі… Ну і, вядомая справа, падчас сустрэчы і размоў з супрацоўнікамі нашага генеральнага консульства ў Беластоку, у прыватнасці з Генеральным консулам Міхаілам Аляксандравічам Слямнёвым, учарашнім дэпутатам і старшынёй адной з камісій Вярхоўнага Савета.

Да слова зазначу, што генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку размяшчаецца пакуль у часовым, прыстасаваным памяшканні на адной са старажытных вулачак горада, на вул. Варыньскага, 4. Памяшканне невялікае, невялікі штат, а аб'ём працы, як я змог пераканацца, вялікі. Консульская акруга ўключае акрамя Беластоцкага тэрыторыю яшчэ сямі ваяводстваў — Сувальскага, Бялападляскага, Люблінскага і інш. Згодна са сваім афіцыйным статусам, генеральны консул абавязаны спрыяць развіццю далейшага супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча, у прыватнасці, у галіне палітычных, эканамічных, навукова-тэхнічных і культурных адносінаў, а таксама садзейнічаць юрыдычным асобам і грамадзянам Беларусі з улікам польскага заканадаўства. Як бачым, абсяг абавязкаў вельмі шырокі, місія надзвычай адказная. Але што характэрна: пры ўсім мностве абавязкаў і клопатаў — як чыста пратакольных (візіты да прадстаўнікоў улады, абавязковая прысутнасць на тым або іншым мерапрыемстве), так і будзённых, руцінных (прыём грамадзян, афармленне візітаў, выезды на граніцу і г. д.) — консул не выпускае з поля зроку такую важную сферу, як жыццё беларускай дыяспары, яе культурныя, асветніцкія, адукацыйныя і канфесіянальныя праблемы. Як маладому дыпламату, Міхаілу Аляксандравічу тут, відавочна, дапамагае яго вопыт, набыты ў якасці старшыні парламенцкай Камісіі па нацыянальных пытаннях, кіраўніка рабочай групы Вярхоўнага Савета па супрацоўніцтве з сеймам Рэчы Паспалітай (знаёмы асабіста з многімі пасламі сейма, у тым ліку ад Беластока і суседніх ваяводстваў). Консулу тут, як кажуць, усе карты ў рукі. І адна з гэтых не самых «шчаслівых» картаў, адзін з яго галаўных боляў — канфліктная сітуацыя вакол Супрасльскага манастыра і манастырскага комплексу.

…Знакаміты мужчынскі манастыр я наведваў раней, знаёмы з яго ігуменам, архімандрытам Міронам. Прызнацца, на гэты раз кіраваўся ўжо не экскурсійна-пазнавальнай цікавасцю, а душэўнай патрэбай паломніка.

Шмат мітусні, а паломніцтва мала.
Як бы душа не падупала, —

прыгадаў я ў размове з генеральным консулам свае колішнія радкі. Нашы планы супадалі, і Міхаіл Аляксандравіч, нягледзячы на іншыя тэрміновыя справы, патэлефанаваў у Супрасль і дамовіўся наконт нашага прыезду. Айцец Мірон сустрэў нас ветліва. Ахвотна паказаў, як аднаўляецца, набывае свае ранейшыя рысы царква, пабудаваная пры манастыры ў пачатку XVI стагоддзя беларускімі дойлідамі і ўзарваная гітлераўцамі ў жніўні 1944 года. А потым з горыччу падзяліўся сваімі бедамі. Нягледзячы на тое, што на самым высокім, урадавым узроўні ў 1993 годзе было вырашана аднавіць справядлівасць і перадаць манастыру маёмасць і пабудовы, што належаць яму здаўна, становішча не змянілася да лепшага. Наадварот, пагоршылася. Мясцовыя каталіцкія іерархі настойліва прэтэндуюць на маёмасць старажытнага манастыра. Справа дайшла да таго, што архібіскуп Станіслаў Шымецкі звярнуўся да беластоцкага ваяводы з патрабаваннем зняць з Супрасльскага комплексу праваслаўны крыж і званы. На дзверы, якія вядуць да званіцы, павешаны вялікі свірнавы замок, і ў выніку трапіць на званіцу можна толькі праз высокае слыхавое акенца. Што і мусяць рабіць браты-манахі. Праўда, яны, дзеля падстрахоўкі, вынайшлі і яшчэ адзін спосаб — працягнулі праз акно ў манастыр вяроўку, прывязаную да званоў. «Такія вось нашы справы, — сумна ўсміхаецца айцец Мірон. — Не хочуць прызнаць нас тут паўнапраўнымі гаспадарамі. Прыходзяць вунь у непрыгоднасць памяшканні, што былі занятыя да гэтага пад сельгастэхнікум. У нас нават няма магчымасці паставіць дзе-небудзь тут вядро ці ўрну для смецця…»

Адыходзячы, бачым на сцяне зроблены размашыстым почыркам абразлівы надпіс у адрас праваслаўных свяшчэннаслужыцеляў…

Супрасль… Сэрца якога больш-менш дасведчанага ў гісторыі беларуса не заб’ецца пры гучанні гэтай назвы. Супрасльскі манастыр, у мураваных сценах якога знаходзілася больш як сто гадоў амаль унікальная друкарня і выпусціла больш за 400 выданняў. Супрасльская царква — крэпасць, галоўны манастырскі храм, фрэскі якога ўдала спалучалі ў сабе рысы візантыйскага мастацтва з элементамі заходнееўрапейскага. Супрасльскі зборнік 1519 г., які змяшчаў самы поўны спіс беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. Супрасльскі рукапіс, адзін са зборнікаў якога змяшчае словы-павучанні Івана Залатавуста і Тураўскае евангелле і з’яўляецца адным з самых старажытных помнікаў усходнеславянскага пісьменства (нездарма ў замежнай

навуковай літаратуры гэты рукапісны зборнік называюць Супрасльскім кодэксам). Словам, летапіс народа ў камені і пергаменце, унікальны помнік архітэктуры і пісьменства, жамчужына культуры, вякамі авеяная святыня… Інакш не скажаш. І няцяжка зразумець тыя пачуцці, якія перажывае айцец Мірон са сваімі дванаццаццю братамі-манахамі. І нельга не падзяляць абурэнне беластоцкіх праваслаўных беларусаў зняважлівымі адносінамі каталіцкага кіраўніцтва да іх святыні. І ўжо інакш як кашчунствам не назавеш намер пераасвяціць, па сутнасці, Супрасль, выкарыстаць манастырскія будынкі для размяшчэння тут каталіцкага місіянерскага цэнтра.

Горкі гістарычны вопыт і такі ж не менш горкі вопыт сучаснасці паказваюць, чым звычайна канчаюцца спробы зачыняць на замок званіцы, да якіх наступстваў прыводзяць рэлігійная нецярпімасць, ігнараванне той культурнай і гістарычнай самабытнасці, пра якую ідзе гаворка ў цытаванай вышэй Хартыі.

Тыднёвік «Ніва» піша: на сумесным канцэрце калектываў мастацкай самадзейнасці Гародні і Беластока старшыня сеймавай камісіі па справах нацыянальных меншасцей, адзін з нядаўніх кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Польшчы Яцэк Курань сказаў: «Гэта вялікая радасць, што ў нас супольныя айчыны, і гэта ніяк не памяншае ні польскасці, ні беларускасці, а толькі робіць іх яшчэ больш цудоўнымі. І такім чынам свет наш робіцца светам людзей, якія не хочуць забіваць адзін аднаго, а хочуць узаемна дапамагаць і любіць». У такім жа духу выказаўся на гэтай сустрэчы беларускіх палякаў і польскіх беларусаў і наш Генеральны консул Міхаіл Слямнёў.

Дык хай ідуць да Супрасля ў дзень Супрасльскай іконы Божай Маці, які адзначаецца штогод 10 жніўня, шматлікія паломнікі-пілігрымы! І хай бесперашкодна звоняць як дабравест званы Супрасльскага манастыра, узнаўляючы сувязь часоў, будзячы ў сэрцах людзей добрыя пачуцці і спадзяванні, заклікаючы іх да міру, згоды і ўзаемаразумення!

***1995***

## ТОСТ ШЫМОНА ПЕРАСА

Жорсткае, загадзя спланаванае забойства экстрэмістам-фанатыкам ізраільскага прэм’ер-міністра Іцхака Рабіна ўзрушыла свет. Як і ранейшыя, што на памяці нашага пакалення, палітычныя забойствы — Кенэдзі, Садата, Індзіры Гандзі, Раджыва Гандзі. Але гэты расстрэл ва ўпор — сярод белага дня і сярод прыхільнікаў мірнага ўрэгулявання араба-ізраільскага канфлікту — узрушыў, шакіраваў перш за ўсё, вядома, суайчыннікаў забітага лідэра. «Гэта нацыянальная ганьба і злачынства, якому няма даравання», — заявіў адзін з рэлігійных дзеячаў Ізраіля.

Як пішуць газеты, колькасць тых, хто выступаў супраць мірнага ўрэгулявання ў рэгіёне, не зводзілася да групы ультраартадоксаў, выканаўцам злавеснай волі якіх стаў студэнт Ігал Амір. Супраць пагадненняў з палесцінцамі выступала столькі, колькі прыкладна і за пагадненні. І стрэлы, якія прагучалі 4 лістапада ў Тэль-Авіве, маглі стаць дэтанатарам драматычнага сацыяльнага расколу, дэстабілізаваць палітычную абстаноўку ў краіне. Маглі, але гэтага не адбылося. І не адбылося, дзякуючы некалькім фактарам, галоўным з якіх, можа быць, з’яўляецца фактар пераемнасці, фактар пераходу ўлады да вернага саратніка Рабіна, яго «правай рукі», таксама лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру Шымона Пераса. Менавіта яго зацвердзіў кнесет — праз некалькі дзён пасля крывавай падзеі — у якасці новага прэм’ер-міністра і міністра абароны.

…Шымона Пераса я ўбачыў упершыню ў 1977 годзе ў Нью-Йорку падчас працы 32-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Ён не быў членам ізраільскай дэлегацыі і не выступаў з трыбуны. Але аднойчы, у перапынку паміж пасяджэннямі, з’явіўся ў зале, і мне сказалі шэптам: «Паглядзі: Шымон Перас, лідэр апазіцыі ў кнесеце…» Паміж радамі крэслаў прайшоў стройны, падцягнуты, з разумным, валявым тварам, у цёмна-сінім касцюме мужчына.

Пасля гэтага я ўжо потым не прапускаў без увагі ўпамінанне ў сродках масавай інфармацыі імя Шымона Пераса, аднаго з нязменных лідэраў Ізраіля.

Праз пятнаццаць гадоў, у жніўні 1992 г., я ўбачыў Шымона Пераса другі раз. Але ўжо па-іншаму, у іншых абставінах: падчас візіту яго як міністра замежных спраў дзяржавы Ізраіль у суверэнную незалежную Рэспубліку Беларусь. Тагачасны кіраўнік нашага знешнепалітычнага ведамства Пётр Краўчанка

праявіў тады добрую ініцыятыву і арганізаваў сустрэчу-абед прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі з ізраільскім міністрам. Злева ад мяне сядзеў былы пасол Ізраіля ў Маскве (у Беларусі тады яшчэ не было ізраільскай амбасады), а амаль насупраць — Шымон Перас. Была магчымасць звяртацца непасрэдна да яго, пытацца і адказваць на пытанні. Загаварылі, памятаю, на тэму якую можна сфармуляваць прыкладна так: «Палітыка і мастак». Высокі госць не зусім адабральна выказаўся адносна ўдзелу мастака ў палітычным жыцці, зазначыўшы, што гэта ўсё ж дзве розныя і таму не зусім сумяшчальныя сферы. Калі я прывёў словы Арыстоцеля пра тое, што «мастак — першы палітык», Ш. Перас, крыху падумаўшы, сказаў: «Ну гэта калі мець на ўвазе палітыку ў самым шырокім сэнсе слова». Я ведаў, што карані міністра ў беларускім краі, што ён збіраецца наведаць Валожын, дзе жыў і працаваў, меў сваю краму яго бацька (нават захавалася памяшканне той крамы), і размова, натуральна, зайшла пра той гістарычна вядомы факт, што амаль усе бацькі-заснавальнікі новай яўрэйскай дзяржавы з'яўляюцца выхадцамі з Беларусі. Тут я, адштурхоўваючыся ад данага факта і карыстаючыся, што называецца, шчаслівым выпадкам, загаварыў пра наш нацыянальны інтарэс. «Спадар Перас, — звярнуўся я да міністра, — калі мець на ўвазе ўсё гэта, гэтую вось заслугу Беларусі перад Ізраілем, то наша маладая суверэнная дзяржава мае, відаць, падставы разлічваць на падтрымку з боку вашай краіны, у прыватнасці з боку яе знешнепалітычнай службы, на падтрымку — і ў двухбаковых адносінах і на міжнароднай арэне — нашай дзяржаўнасці, нашай эканомікі, нашай культуры і мовы». Я не быў упэўнены, наколькі дыпламатычным выглядаў мой зварот, але Шымон Перас успрыняў яго станоўча. І калі пайшлі ўжо тосты, абвясціў: «За беларускую мову і іўрыт! За іўрыт і беларускую мову!» Тост быў дружна падтрыманы ўсімі ўдзельнікамі застолля.

Падзея знайшла месца ў маіх дзённікавых запісах, той тост я часта прыгадваў — тым больш, што прычын для гэтага хапае. Выразна прыгадаўся ён мне, калі я чытаў нядаўна ў газеце «Звязда» інтэрв'ю яе супрацоўніка з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Ізраіля Эліаху Валкам, у прыватнасці наступныя яго словы: «Так, у палітычным аспекце нам ёсць над чым працаваць. Мы падтрымліваем і будзем падтрымліваць прапановы Беларусі па многіх пытаннях у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, у прыватнасці, адносна вылучэння беларускіх прадстаўнікоў у розных установах ААН, і, натуральна, разлічваем на такія ж адносіны рэспублікі да Ізраіля. Тое ж можна сказаць і пра дзей-

насць у іншых міжнародных арганізацыях… Ну, а ў культурнай сферы наогул магчымасцей вельмі і вельмі шмат. Адносіны ў галіне культуры паміж Ізраілем і Беларуссю далёка не такія як, скажам, паміж Ізраілем і Філіпінамі ці Ізраілем і Гандурасам. На працягу шасці стагоддзяў на зямлі беларускай жылі і жывуць яўрэі. Беларусь з'яўляецца радзімай вядомых ізраільскіх грамадскіх і палітычных дзеячаў, у нас жывуць сёння тысячы выхадцаў з Беларусі. Такім чынам, паміж намі існуе цэлая сістэма сувязей і каштоўнасцей».

Словы пасла з'яўляюцца, па сутнасці, працягам той памятнай гаворкі, якая адбылася ў канцы жніўня 92-га года з Шымонам Перасам, дапаўненнем да яго тоста.

Хацеў бы яшчэ дадаць, па асацыяцыі, наступнае. Выказванне Шымона Пераса ў падтрымку нашай мовы — не адзінае па сэнсу ў сваім родзе. Прывяду факты, сведкам якіх быў асабіста. Помніцца візіт у нашу рэспубліку Прэзідэнта Фінляндыі Мауна Койвіста. Падчас сустрэчы ў Вярхоўным Савеце ён з разуменнем загаварыў пра наша нацыянальна-культурнае адраджэнне, спасылаўся на аналагічны вопыт свайго народа, у прыватнасці падрабязна расказаў, якім чынам ішло ўсталяванне фінскай мовы ў якасці дзяржаўнай.

Восенню 1992 г. Рэспубліку Беларусь наведаў старшыня Нацыянальнага Савета Федэральнага сходу Швейцарыі Ханс-Рудольф Небікер. Выступаючы з трыбуны Вярхоўнага Савета, ён гаварыў і пра лёс нашага народа, пра лёс нашай мовы. А потым у інтэрв'ю газеце «Звязда» сказаў: «У вас з'явілася вялікая магчымасць стварыць новую незалежную дзяржаву, з новай канстытуцыяй, новымі законамі, устанавіць новы дэмакратычны парадак. Гэта будзе нялёгка, на гэтым шляху будуць сустракацца цяжкасці, але храбрасці вам не пазычаць. А галоўнае — верце ў вялікую будучыню Беларусі!»

Наступны прыклад. Падчас паездкі ў Кітай дэлегацыі Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей, якая адбылася ў студзені дзевяноста трэцяга года, паэт і грамадскі дзеяч, сын славутага маршала і дыпламата Чэнь І, намеснік старшыні Кітайскага таварыства дружбы Чэнь Хаасу з цікаўнасцю распытваў пра змены, што адбываюцца ў Беларусі, і на развітанне падарыў мне сваю новую кнігу з наступным аўтографам: «Мы будзем спяваць на сваіх мовах адну і тую ж песню, песню ў гонар дружбы, і будзем спадзявацца, што Кітай і Беларусь разам дасягнуць светлай будучыні».

Як вядома, уважліва ставяцца да нашай моўнай сітуацыі і спрабуюць часам прамаўляць па-беларуску хоць некалькі сказаў амерыканскія паслы ў Беларусі — былы Дэвід Суорц і сённяшні Кенет С. Ялавіц. І ў гэтай сувязі мне ўспамінаецца, як на прэзентацыі, прысвечанай паказу сусветна вядомага Фільма «Ісус», у сінхронным перакладзе на беларускую прадстаўнік ЗША звяртаўся да залы: «Я віншую Вас. Я спадзяюся што вобраз Хрыста будзе цяпер зліваецца ў вашай свядомасці з вобразам роднай мовы».

І яшчэ адзін факт. Вясной мінулага года апостальскі нунцый (Пасол Ватыкана), арцыбіскуп Аўгустын Маркэто нанёс візіт Старшыні Вярхоўнага Савета Мечыславу Грыбу. Гаворка зайшла пра мову набажэнства ў касцёле. І яго эксцэленцыя пагадзіўся, што служба для беларусаў павінна весціся на іх роднай мове і дадаў: «Без дзяржаўнай беларускай мовы не будзе незалежнай дзяржавы».

Адным словам, самыя розныя высокааўтарытэтныя прадстаўнікі міжнароднай супольнасці з разуменнем, павагай і спачуваннем ставяцца да нашага імкнення «людзьмі звацца», мець сваю суверэнную дзяржаву і ў якасці дзяржаўнай — сваю родную мову. Нас разумеюць, нам спагадаюць «чужыя», і на гэтым фоне дзіўна, мякка кажучы, выглядаюць тыя «свае», што ваююць супраць нашага нацыянальна-культурнага адраджэння, супраць нашай мовы. Хаця, зрэшты, і прэм’ера Рабіна забіў на плошчы Цароў Ізраілевых не араб, не ультра — адэпт ісламісцкага ХАМАСА, а «свой», грамадзянін Ізраіля.

Класік сказаў, што «няма нічога страшнейшага за дзейнае невуцтва». Не, ёсць яшчэ нешта страшнейшае. Гэта — ірацыянальны экстрэмізм, замешаны на ўсякага роду фанатызме — ідэалагічным, этнічным, рэлігійным. Адным з сучасных палітыкаў, якія добра разумеюць гэту ісціну, з’яўляецца новы, шосты па ліку, прэм’ер-міністр Ізраіля Шымон Перас, згадка пра тост якога і падахвоціла мяне ўзяцца за пяро.

***1996***

## «ЗЕРНЕ, КІНУТАЕ Ў НІВУ…»
### *Да 40-годдзя з дня заснавання беластоцкай газеты «Ніва»*

17–18 лютага ў Беластоку прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя саракагоддзю з часу ўтварэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, пра што паведамлялася ў друку, пісала, у прыватнасці, «Звязда» (нумар за 23 лютага).

А гэтымі днямі, напачатку сакавіка, у тым жа Беластоку была адзначана яшчэ адна юбілейная дата — сорак гадоў з дня выхаду першага нумара штотыднёвай газеты «Ніва».

Тытульнае найменне газеты — «Тыднёвік беларусаў у Польшчы». Але яна, як вядома, належыць на сённяшні дзень не толькі польскім беларусам, але і карыстаецца добрай славай у Рэспубліцы Беларусь, мае свайго чытача сярод беларусаў усяго свету. Таму было б несправядліва пакінуць без увагі першы круглы юбілей тыднёвіка.

Як ён нараджаўся? Якім быў пачатак?

Адзін з заснавальнікаў газеты і яе першы галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі ўспамінае ў сваіх «Нататках рэдактара»: «13.1.1956 г. у «Беластоцкай газеце» з'явіўся наш анонс: «Неўзабаве ў Беластоку пачне выходзіць часопіс на беларускай мове. Гэта будзе тыднёвік «Ніва». Вельмі хочам дастасаваць часопіс да патрэб беларускага насельніцтва. Таму звяртаемся да будучых чытачоў «Нівы» з просьбай наладзіць з намі як найшырэйшае супрацоўніцтва. Дасылайце карэспандэнцыю і прапановы адносна рэдагавання тыднёвіка». Ад лістоў, якія паплылі ў рэдакцыю, магла закружыцца галава. Прывяду вытрымкі: «Беларуская газета вельмі, вельмі ў час! Яна дасць шмат добрага беларускаму грамадству (М. Клімовіч, Крынкі)». «У вёсцы Шымкі, дзе працую настаўніцай, усе цешацца і з нецярплівасцю чакаюць «Нівы». Цяпер я арганізавала курс для жанчын. Чытаю ім цікавыя беларускія вершы, знаёмлю з беларускай літаратурай (вельмі мала матэрыялаў)… Адна жанчына сказала: «Я думала, што наша мова брыдкая, а цяпер я ў яе закахана». Другая дадала: «Трэба нам глыбей пазнаёміцца з беларускай літаратурнай мовай. У гэтым нам дапаможа «Ніва». Усе жанчыны з нецярплівасцю чакаюць беларускай газеты (Ніна Бура, Шымкі)». «Ужо ад 1953 года, калі пакінуў беларускую школу ў Гайнаўцы, не бачыў і не чытаў нічога на сваёй роднай беларускай мове, а так хочацца… Спадзяюся, што наш часопіс дапаможа ліквідаваць гэтыя недахопы (А. Лабасюк, Познань)». «Хоць і не з'яўляюся беларусам, з вялікім хваляваннем прывітаў

я вестку аб тым, што неўзабаве ў Беластоку будзе выходзіць на беларускай мове тыднёвік «Ніва». «Ніва» ў значнай ступені будзе спрыяць развіццю дружбы паміж польскім і беларускім народамі (Чэслаў Борыс, Элк)».

Забягаючы крыху наперад, заўважу: спадзяванні сваіх будучых чытачоў, сваіх патэнцыяльных падпісчыкаў і карэспандэнтаў тыднёвік «Ніва», як паказала жыццё, з годнасцю апраўдаў. У гэтым я мог пераканацца, бываючы на Беласточчыне і сустракаючыся ў школах і ліцэях з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры. Па іх прызнанні, «Ніва» служыць для іх вялікай падмогай, з'яўляецца своеасаблівым навучальным дапаможнікам.

«Цешыла прыхільнасць чытачоў, цёпла сустрэў «Ніву» польскі друк, — працягвае свае згадкі Г. Валкавыцкі. — На палітычнай карце панавала ўстойлівая адліга, а ўсходні вецер прыносіў гарачы подых XX з'езда. У «Звяздзе», а затым у «Советской Белоруссии» з'явіліся артыкулы, у якіх цэнтральныя беларускія газеты высока ацанілі напрамкі нашай дзейнасці. Прыслалі прыветлівыя лісты беларускія пісьменнікі, а малады паэт Ніл Гілевіч перакліквaўся вершам «Напрадвесні». У красавіку рэдакцыю наведаў Пятро Глебка… Наладзілі сувязь з беларускімі пісьменнікамі і ўстановамі. Яшчэ да выхаду «Нівы» выслаў я ліст у Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцай. З датай 3 сакавіка прыйшоў адказ: «Общественность Белоруссии с большим интересом встретила Ваше сообщение о том, что в Белостоке будет издаваться еженедельный общественно-культурный журнал «Нива». Со своей стороны мы примем активное участие в организации статей для Вашего журнала. Сейчас некоторые ведущие белорусские журналисты готовят статьи по Вашему заказу». Усё абяцанае атрымалі, і сувязь з БТКСЗ аказалася плённай…»

Пра той памятны пачатак распавядаў мне неяк пры сустрэчы, а зараз піша ў сувязі з юбілеем адзін са старэйшых і самых актыўных аўтараў «Нівы» Сакрат Яновіч. «Памятаю марозную зіму 1956 года, — піша С. Яновіч. — Ехаў я тады з Крынак у Беласток на работу ў толькі што арганізаванай рэдакцыі «Нівы». Холад даймаў так, што не было змогі ўсядзець на месцы, а навакольны свет засланялі дзівосныя ўзоры на шыбах. Панавала нейкая незвычайная зачараванасць. Гэтае пачуццё не пакідала мяне і потым… Дзеці простых людзей ўзяліся рабіць сваю беларускую газету за польскія грошы. Для майго бацькі гэта быў парадокс, які не павінен доўга працягнуцца. Стары не ўхваляў таго, што я кінуў працу электрыка ў фастаўскім камбінаце…»

Былі, канешне, цяжкасці на шляху станаўлення тыднёвіка і яго дзейнасці. «Дзівосныя ўзоры на шыбах» азмрочваліся суровымі жыццёвымі рэаліямі. І Георгій Ваўкавыцкі, і Алесь Барскі, і Сакрат Яновіч добра памятаюць, як у першыя часы востра стаяла праблема адсутнасці беларускамоўных кадраў. Ва ўчарашняга электрыка была адна істотная перавага — ён валодаў нядрэнна беларускай мовай. Матэрыялы іншых пачынаючых супрацоўнікаў ішлі, як правіла, спачатку да перакладчыка, які выконваў адначасова і абавязкі стыліста, бо калі хто і браўся пісаць па-беларуску, то збіваўся на свой мясцовы дыялект. З-за недахопу беларускамоўных журналісцкіх сілаў, успамінае С. Яновіч, на працу прымаліся палякі. І некаторыя навучыліся пісаць па-беларуску даволі нядрэнна, асабліва тыя, хто меў раней магчымасць слухаць жывую гутарковую мову.

Сустракаліся цяжкасці і перашкоды і іншага характару. Рэдактараў «Нівы» не-не ды абвінавачвалі то ў беларускім нацыяналізме, то ў недастатковай лаяльнасці да «пальшчызны», то нават у блюзнерстве (гэта калі апублікавалі «Каляды» — урывак з «Новай зямлі» Якуба Коласа). Інкрымінавалі ў залежнасці ад палітычнай сітуацыі ў краіне на дадзены момант.

Ды, нягледзячы на ўсе выпрабаванні, газета не толькі выжыла, выстаяла, але прадаўжала расці творча і самавызначацца духоўна, ідэйна, і з'яўляецца на сённяшні дзень папулярным, аўтарытэтным, дэмакратычным выданнем. Выданнем-асветнікам. Выданнем — носьбітам нацыянальнай ідэі. Выданнем-сувязным паміж дыяспарай і «метраполіяй». Аглядваючы пройдзены саракагадовы шлях, супрацоўнікі «Нівы» з гонарам адзначаюць той факт, што ў аналах рэдакцыі знаходзяцца лісты Л. Геніюш, М. Забэйды-Суміцкага, Зоські Верас, С. Новіка-Пеюна, П. Пестрака, У. Калесніка, В. Быкава, У. Караткевіча, А. Пысіна… Некаторыя з гэтых лістоў прыводзіць у сваёй кнізе Г. Ваўкавыцкі. Вось яны, да прыкладу: «Вялікі Вам усім дзякуй за «Ніву», за прылажэнні, за цудоўную справу «календара» і «навуковага зборніка». Якія Вы малайцы і якую вялікую работу робіце!.. Ваш Уладзімір Караткевіч»; «Вялікі Вам дзякуй за ўвагу і за «Ніву», якую я даўно ведаю і чытаю таксама, як і цаню і лічу, што ўсе вы як выдаўцы робіце вельмі карысную справу, якую проста немагчыма пераацаніць у наш час. Ахвотна буду чытаць Ваш тыднёвік і супрацоўнічаць з ім, хоць, праўда, у гэтым апошнім ёсць свае цяжкасці. Справа ў тым, што я апошні час перастаў пісаць апавяданні газетнага аб'ёму, болей працую над аповесцямі, якія, на жаль, будуць вялікаваты для тыднёвіка.

Хіба што ўрыўкі… Ну, але як бы тым ні было, я даю сваю згоду супрацоўнічаць і што-ніштo неўзабаве прышлю Вам. Яшчэ раз дзякуй Вам. З вялікай павагай. Васіль Быкаў»…

У свой час Янка Купала, звяртаючыся з прывітальным словам да другой «Нівы» — да «Нашай нівы», прамовіў:

Зерне, кінутае ў ніву,
Ўсходзіць ды красуе.
Наша зерне — нашы думкі —
Не загінуць свету, —
Бліснуць краскай непаблеклай
Вечных агняцветаў.
З добрых думак, што мы кінем
На сваім дзірване,
Будзе ўнукам нашым жніва —
Доля, панаванне.

Мяркую, што гэтыя ўзнёслыя, жыццесцвярджальныя радкі можна адрасаваць і беластоцкай «Ніве», якая адзначыла толькі што свой юбілей.

*1996*

## РАСІЙСКІЯ ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР

На вуснах калі не ўсяго чалавецтва, то, прынамсі, палітычна свядомай яго часткі было ў апошні час слова «выбары». На аснове ўсеагульнага выбарчага права адбыліся нядаўна выбары ў суседняй з намі Польшчы, у Албаніі, Ізраілі, Чэхіі, нават у… Чачні (?). Увайшла ў актыўную стадыю падрыхтоўка прэзідэнцкіх выбараў у Балгарыі, у ЗША (у апошніх толькі што закончыліся так званыя першасныя выбары).

І вось — прэзідэнцкія выбары ў суседняй з намі Расіі. Выбары, да якіх прыкавана ўвага ўсёй палітычна актыўнай, зноў-такі, часткі сусветнай грамадскасці і якія датычацца непасрэдна нас, беларусаў, нашай Рэспублікі Беларусь. Мы тут зацікаўлены больш, можа, чым хто-небудзь іншы. Бо, як там, на прасторах Расіі, будзе «гукацца», так тут, у Беларусі, будзе адпаведна адгукацца.

Можна было б, вядома, больш спакойна ставіцца да гэтай падзеі, да таго, хто пераможа на выбарах, якімі будуць вынікі ўсеагульнага галасавання расіян, калі б не два наступныя моман-

ты. Першы: наяўнасць у рэспубліцы сіл, якія рашуча настроены на так званую інтэграцыю (рэінтэграцыю, канфедэрацыю, а калі без эўфемізмаў — на інкарпарацыю ў састаў суседняй дзяржавы) і ставяць пад пытанне статус Беларусі як дзяржавы, як суб’екта міжнароднага права. На што звярнула ўвагу, пра што гаворыць занепакоена сусветная грамадскасць і супраць чаго рашуча выступілі ўдзельнікі нядаўніх веснавых масавых выступленняў, скандзіруючы: «Свабода!» і «Незалежнасць!»

Другі момант, які не можа не ўплываць на наш настрой, не выклікаць трывогі ў сувязі з надыходзячымі ў РФ выбарамі, заключаецца ў драматычным, сацыяльна напружаным, на грані фолу, характары перадвыбарнай барацьбы, непрадказальнасці вынікаў галасавання. Так, выбары — заўсёды змаганне (хто каго?), заўсёды паядынак, турнір. Але ў дадзеным выпадку мы маем, як відаць, справу не з натуральным, «рыцарскім» паядынкам і не з зусім нармальнай дэмакратычнай працэдурай, звычайнай праявай агульнапрызнанага светам права грамадзяніна «на ўдзел у свабодных і справядлівых выбарах». У дадзеным выпадку выбары нагадваюць іншы малюнак: сценка ідзе на сценку (як калісь, паводле мемуараў Ельцына, адна вёска ішла з каламі на другую), сыходзяцца розныя сацыяльныя слаі, розныя палітычныя сілы, ідэалагічныя ўстаноўкі, падыходы, догмы, погляды. А калі паслухаеш (з экрана тэлевізара ці па радыё) дзеячаў тыпу Анпілава, Няўзорава ці Лімонава, то расіянам трэба разглядаць выбарчыя ўчасткі як барыкады і адпаведным чынам рыхтавацца.

«Выбарчы бюлетэнь лепей за бомбы нават у тых выпадках, калі вынікі выбараў крыху падроблены» — так каментавала сітуацыю з апошнімі выбарамі ў Алжыры французская газета «Ліберасьён». Гэта сапраўды так. Але я не думаю, што расійскія «ультра» ўсур’ёз вераць у магчымасць фальсіфікацыі вынікаў выбараў. Проста ім з іх антыдэмакратычнай па сваім духу ментальнасцю не даспадобы свабодныя, роўныя, прамыя выбары. Ім больш падабаюцца сілавыя прыёмы, бомба ды аўтамат. І калі нядаўнія выбары губернатара Санкт-Пецярбурга, па словах «Известий», «пахнуць нафтай і газам», то выбары мэра Масквы запахлі ўжо крывёй: кандыдата ў віцэ-мэры, цяжка параненага ў выніку тэракта, акрываўленага адвезлі ў клініку Скліфасоўскага.

Дадам і адно павучальнае сведчанне — надрукаваны нядаўна ў «ЛіМе» ліст беларуса Аляксандра Пятруннікава, які жыве ў г. Манчагорску Мурманскай вобласці. «Асабіста мяне, — піша

наш зямляк, — здзіўляе «наіўнасць» беларусаў, якія лічаць, што варта толькі аб’яднацца з Расіяй, як пацякуць у іх бок малочныя рэкі ў кісельных берагах». І прыводзіць канкрэтныя факты, якія выразна характарызуюць сацыяльна-эканамічнае становішча ў братняй Расіі: камандуючы Арктычнай пагранічнай акругай генерал-лейтэнант Пляшко (з беларусаў) загадаў паставіць навабранцаў «на адкорм», бо маладыя салдаты фізічна не ў стане выконваць свае абавязкі; гэтай зімой амаль усе гарады Мурманскай вобласці «стояли на грани замерзания»; у некаторых раёнах Валгаградскай, Растоўскай, Саратаўскай і іншых абласцей ціск газу ў камунальных сетках настолькі ўпаў, што немагчыма гатаваць ежу; людзям месяцамі не плацяць зарплату; расійскія эканамісты прама гавораць, што пры спрыяльных умовах узровень жыцця ў Расіі стане больш-менш нармальным толькі праз 30–40 гадоў…

Такія вось справы, такія прагнозы, у такіх абставінах будуць праходзіць у нядзелю выбары прэзідэнта Расійскай Федэрацыі. І паколькі іх выбары несумненна адаб’юцца на становішчы ў Беларусі, а можа, і на яе далейшым лёсе, то мімаволі задаешся пытаннем: як нам быць, што рабіць нам, беларусам (адвечнае не толькі расійскае, але і беларускае пытанне)?

Адказ на гэта пытанне падказвае нам фактычна «старэйшы брат» у асобе прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Расіі. Як бы ні адрозніваліся іх праграмы, усе яны — і нікому невядомы бізнесмен Шакум, і даволі вядомы генерал Лебедзь, і ўсім вядомы сённяшні прэзідэнт Ельцын, і ліберальны дэмакрат Жырыноўскі, і камуніст Зюганаў, і «рускі сацыяліст» (ён жа — і расійскі капіталіст) Брынцалаў, — усе яны ў адзін голас гавораць, што «стержнем государственной политики должно стать возрождение России», што «Россия должна выбрать свой путь в мире и твёрдо и уверенно начать по нему движение», што «необходимо твёрдо отстаивать интересы России в формирующемся многополярном мире». Так, усе яны дзяржаўнікі, усе сыходзяцца на тым, што трэба ўсяляк адстойваць нацыянальныя інтарэсы Расіі, умацоўваць расійскую дзяржаўнасць. А Лебедзь яшчэ напамінае з салдацкай праматой: «…Остро стоит вопрос об огромных задолженностях ряда наших ближайших соседей, в первую очередь за энергию и сырьё. В условиях экономнческого кризиса в России такая ситуация недопустима… Подарков мы никому делать не намерены и жить за наш счёт никому не позволим. Экономическое сотрудничество России с соседями будет развиваться только на взаимовыгодных условиях». (Заўважым,

дарэчы: ніякай скідкі, ніякай ільготы для сваёй сваячкі па «сообществу», што, вядома, сімптаматычна.)

Так што нічога іншага не застаецца нам, — «не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло», — як рашуча адраджаць, на нацыянальна-дэмакратычнай аснове, сваю дзяржаўнасць, прадаўжаць будаваць, у строгай адпаведнасці з Канстытуцыяй, сваю дзяржаву — суверэнную, дэмакратычную, прававую Рэспубліку Беларусь. Парадкаваць сваю ўласную хату, як кажа старэйшына нашай літаратуры Максім Лужанін.

Тым больш, што дзяржава, як вядома, гэта не толькі інстытут палітычнай сістэмы, не толькі пасады, чыноўнікі, узброеныя сілы, указы, распараджэнні і загады. Гэта і яшчэ нешта не менш важнае. Невыпадкова ж мінулагодняе пасланне Барыса Ельцына Федэральнаму сходу называлася «О действенности государственной власти в России» і змяшчала наступныя словы: «Мы ещё не воспринимаем государство как одно из наиболее значительных достижений мировой истории, социальной культуры. Без него невозможно цивилизованное человеческое общежитие. Государство не только институты власти и занятые в них чиновники. Оно является прежде всего политической организацией всех граждан страны, их совместным достоянием и общим делом. Поэтому крайне опасна оппозиция государственности как таковой».

Вызначэнні, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да нашай маладой дзяржавы, нашай яшчэ хісткай дзяржаўнасці і якія з’яўляюцца дадатковым аргументам на карысць відавочнага пастулата: трэба будаваць уласную дзяржаву!

Ну а што да нашых узаемадачыненняў з вялікай суседняй дзяржавай, то тут я хацеў бы спаслацца на меркаванне, якое нядаўна выказаў на старонках «Народнай волі» малады публіцыст Алесь Гібок-Гібкоўскі. «Нам жыць з Расіяй побач, выгадна гандляваць, дружыць, развіваць сапраўды духоўныя і культурныя сувязі, — піша Гібок-Гібкоўскі. — Думаецца, што цалкам магчыма на роўных супрацоўнічаць «Дому-Беларусі» з «Домам-Расіяй». І дзеля гэтага наўрад ці трэба ўніжана кленчыць у іх пад дзвярыма, распінаючыся ў вечнай вернай любові, каб пусцілі ў іх Дом у якасці бедных сваякоў, а то і валацугаў прыблудных… З цягам часу зразумеюць і ў Расіі, што здаровыя, багатыя, стабільныя суседзі (у тым ліку і Беларусь, але не ў якасці ўскраіннай правінцыі) ёсць гарантыя іх унутранай стабільнасці».

У нестабільнай, расхрыстанай Расіі 16 чэрвеня — цяжкія выбары. Выбары-процістаянне. Выбары-выпрабаванне. Выбары-экзамен. Ні пуха, ні пер'я, Расія!

***1996***

## РАСІЯ ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ: «КАМО ГРЯДЕШИ?»

Толькі што абвешчаны афіцыйныя вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Расіі. Выбараў, якія несумненна можна назваць гістарычнымі, бо яны — знакавыя па сваёй палітычнай сутнасці, бо яны праходзілі ў новай, дэмакратычнай, суверэннай Расіі і адбываліся ў адпаведнасці з яе новым заканадаўствам, яе новым Асноўным законам. Нельга не пагадзіцца са сцвярджэннем, што адным з асноўных вынікаў выбараў з'яўляюцца самі выбары — свабоднае, сумленнае, дэмакратычнае волевыяўленне расіян.

Свае нататкі, што былі надрукаваны ў «Звяздзе» напярэдадні першага тура выбараў, я заканчваў словамі пра тое, што ў суседняй краіне чакаюцца «цяжкія выбары, выбары-супрацьстаянне, выбары-выпрабаванне, выбары-экзамен». Так яно і было ў сапраўднасці. І зноў выбраны (перавыбраны на другі тэрмін) прэзідэнт меў рацыю, калі ў сваім звароце да грамадзян зазначыў: «Я ганаруся тым, што вы вытрымалі гэтае выпрабаванне!»

Так, дзень 3 ліпеня стане надоўга памятнай датай для расіян, ён варты таго, каб, як пісаў антычны паэт, «быць адзначаным белым каменем». Але ж выбары — не самамэта і, тым больш, не панацэя. Пры ўсім тым, што з'яўляюцца, безумоўна, добрай школай рэальнай дэмакратыі. Рэч яшчэ ў тым, як будуць асэнсаваны іх вынікі і рэалізаваны іх маральна-палітычны капітал. Застаюцца пытанні: што чакае Расію? Якім будзе яе заўтра? Якія, акрамя святочных, «белых», камяні і каменьчыкі сустрэнуцца на яе шляху да лепшай будучыні? І, нарэшце, як будзе далейшае развіццё Федэрацыі адбівацца на лёсе яе суседзяў і, у прыватнасці, нашай Беларусі?

Задумацца яшчэ раз над гэтымі пытаннямі мяне падштурхнулі расійскія ж аўтары і расійскія СМІ. У дзень выбараў, недзе каля адзінаццаці гадзін дня, я пачуў па радыёстанцыі «Маяк» экспрэс-інтэрв'ю з гісторыкам, прафесарам Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя Ламаносава, які напісаў працу на тэму «Ад Івана Грознага да Аляксандра Лебедзя». У нас, рускіх, гаварыў па радыё аўтар актуальнай працы, гісторыя ішла сама па сабе,

а гістарыяграфія — сама па сабе. Сапраўдная ж ісціна ў тым, што ў расійскай гісторыі змагаліся дзве ідэі — ліберальная і імперская. Апошняя пачала браць верх з часу Івана Грознага, яго захопніцкіх паходаў на тэрыторыі суседніх народаў. Да яго Расія была самай дэмакратычнай краінай у Еўропе (за літаральную дакладнасць гэтых слоў ручаюся). Калі ж яна пачала пашыраць свае «пределы», далучаць суседнія землі, праводзіць, інакш кажучы, імперскую знешнюю палітыку, пазней згуртоўваць «саюз непарушны рэспублік свабодных» і калі мусіла адпаведна выдаткоўваць вялікія матэрыяльныя і інтэлектуальныя рэсурсы на ажыццяўленне гэтай палітыкі, на армію, на ўзбраенне, на ВПК, то тым самым падрывала асновы здаровага ўнутранага развіцця. Аўтар манаграфіі рабіў выснову, што Расія не зможа стаць свабоднай і квітнеючай, пакуль не адмовіцца ад месіянства, ад імперскай знешняй палітыкі.

Такія вось развагі гучалі па расійскім радыё ў дзень выбараў расійскага прэзідэнта. А назаўтра, г. зн. пасля выбараў, я меў магчымасць пазнаёміцца з працягам той жа, па сутнасці, тэмы. Мне трапіўся на вочы артыкул вядомага маскоўскага пісьменніка-публіцыста Юлія Карэліна, змешчаны ў «Общей газете» за 3 ліпеня пад характэрным загалоўкам «Почему у нас вечен конфликт истории и географии?». Падчас выбараў давалі пра сябе знаць канфлікты ідэалагічны і сацыяльна-палітычны. А тут высвятляецца, што існуе яшчэ адзін — паміж гісторыяй і геаграфіяй. «Может, изначально противоречия в нашей стране, на нашей земле связаны с просторами? Как большими, так и малыми? — ставіць пытанне публіцыст. — В результате — вечный конфликт истории с географией. История наша всегда сужала возможности и просторы для личности, география создавала возможности расширения для общества, державы, государства. На этом фоне естественно рождается идея: общественное выше личного. Ширься, отечество, наше свободное…» Падзяліўшыся далей сваімі думкамі пра некаторыя спецыфічныя асаблівасці развіцця Расіі, Ю. Карэлін прыходзіць да наступнай высновы: «Может, когда Россия станет только Европой, всё пойдёт по-другому? Но тогда надо выбрать приоритет: личность или держава? Конечно, если людям, отдельным личностям будет славно жить, то и страна будет хорошеть. И вовсе не нужна нам тогда державная грандиозность».

Як бачым, прэзідэнцкія выбары падштурхнулі расіян, ва ўсякім выпадку іх інтэлектуальную эліту, да роздуму, да неабходнасці, кажучы словамі Радзішчава, «оглянуться

окрест себя», далі дадатковы імпульс да крытычнага аналізу і рэалістычнага, цвярозага прагнозу адносна будучыні Расіі. І ў гэтым яшчэ адзін са станоўчых вынікаў нядаўняй выбарчай кампаніі.

*1996*

## НАШ ШЛЯХ ВАЧЫМА СВЕТУ

Умоўна-паэтычнае, 90-гадовай даўнасці, купалаўскае «А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?» набыло ў наш час новае вымярэнне, новы актуальны сэнс. Як у плане нашага нацыянальнага самавызначэння, так і ў плане нашых дачыненняў з міжнароднай супольнасцю, нашага імкнення заняць сваё месца ў свеце, «свой пачэсны пасад між народамі».

Як жа сёння ў свеце адказваюць, рэагуюць на наша беларускае «А хто там ідзе?..», як бачаць нашу хаду, наш рух, наш шлях, што думаюць пра нашыя мінулае, сёння і заўтра?

Шмат цікавага і павучальнага ў гэтым сэнсе мы можам даведацца са старонак новага друкаванага выдання — інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня (хутчэй за ўсё — часопіса) «Кантакты і дыялогі», што пачаў выходзіць сёлета па ініцыятыве Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і навукова-вытворчага цэнтра «Аднова» і мае на мэце адлюстроўваць грамадскае і культурнае ўзаемадзеянне Беларусі з іншымі краінамі. «Беларусь вачыма замежных вучоных», «Прысутнасць беларускай культуры ў свеце», «Беларускае замежжа», «Хроніка беларусазнаўчага жыцця»… Гэта — рубрыкі новага і, павінен сказаць, набыўшага ўжо добрую славу, стаўшага аўтарытэтным выдання (выйшла ўжо, дарэчы, дзесяць нумароў, рыхтуецца здвоены адзінаццаты і дванаццаты). Хачу звярнуць увагу чытача на матэрыялы, змешчаныя пад першай са згаданых рубрык — «Беларусь вачыма замежных вучоных». Яна пачынаецца артыкулам «Рэтраспектыўны погляд на этнічнае ўзаемадзеянне беларусаў з суседзямі», аўтарам якога з'яўляецца вядомы ў нас маскоўскі вучоны Яўген Шыраеў — прэзідэнт Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі, прафесар, аўтар шматлікіх прац па геалогіі, гістарычнай картаграфіі і этналогіі Беларусі. Прааналізаваўшы адпаведныя гістарычныя матэрыялы і вынікі даследаванняў вучоных розных напрамкаў (этнолага, антраполагаў, археолагаў, гісторыкаў і інш.) і супаставіўшы

такія паняцці, як «менталітэт», «этнас», «генатып», «нацыянальная саматоеснасць», з рэальным жыццём, прафесар Шыраеў прыходзіць да высновы, што «адказ на пытанне, хто беларусам бліжэй, роднасней па знешніх і ўнутраных адзнаках, не можа быць адназначным».

Сенсацыйным у добрым сэнсе гэтага слова з'яўляецца апублікаванае ў двух нумарах бюлетэня эсэ-даследаванне Бруна Дрвескага — супрацоўніка Нацыянальнага інстытута ўсходніх моў і цывілізацыі (Парыж), прэзідэнта асацыяцыі «Францыя — Беларусь» і аўтара кнігі пра нашу краіну. Сваё грунтоўнае, прасякнутае пачуццём глыбокай пашаны да гістарычнага лёсу нашай краіны даследаванне — яно называецца «Беларусь як зона сутыкнення розных культурных традыцый і фарміравання асноў грамадзянскай супольнасці» — Бруна Дрвескі пачынае так: «Выбіраючы сваю тэму, я меркаваў, што пункт гледжання вонкавага назіральніка можа быць цікавы, каб акрэсліць спецыфіку беларускіх традыцый, а таксама іх патэнцыяльную ролю ў фарміраванні сучаснага грамадства, інтэграванага ў навакольны свет. Большую частку сваёй гісторыі Беларусь падзяляе з суседнімі народамі. Яна была ў добрым і дрэнным сэнсе адной з удзельніц у будаўніцтве і развіцці кіеўскай, літоўскай, польскай, расійскай і савецкай дзяржаўнасці. З гэтай прычыны беларусы асабліва моцна адчулі розныя вятры гісторыі, што і тлумачыць, чаму яны не могуць, у адрозненне ад сваіх суседзяў, ідэнтыфікавацца толькі з адной дзяржаўнай і культурнай традыцыяй. Затое беларусы могуць лічыць сябе нашчадкамі ўсіх гэтых дзяржаўных традыцый, нароўні з нацыямі, якія маюць прэтэнзіі на выключнасць у іх культываванні». Аўтар робіць аптымістычны прагноз адносна нашай будучыні. «Такая сітуацыя, — піша ён, — вынікае не з генетычных рысаў этнічных беларусаў, а са спецыфікі гістарычнага развіцця Беларусі. Вось з гэтай прычыны мне асабліва дарагая гісторыя Беларусі — нават у сваіх складаных момантах».

Прыцягваюць таксама ўвагу, з цікавасцю чытаюцца выступленні нямецкіх аўтараў — гісторыкаў Райнера Лінднера, Бернгара Х'яры і палітолага Астрыд Зам. Р. Ліндner, супрацоўнік Інстытута міжнародных спраў (Франкурт-на-Майне), называе сябе «беларусістам-атузіястам», і гэтае прызнанне наглядна пацвярджаецца той зацікаўленасцю, з якой нямецкі вучоны піша пра «бесперапыннасць і зменлівасць у гістарычным мысленні беларусаў», характарызуе стан нашай сённяшняй гістарычнай навукі. «Няўжо — асаблівы беларускі шлях? Некаторыя

заўвагі нямецкага палітолага аб ходзе працэсу трансфармацыі ў Беларусі», — так называецца артыкул Астрыд Зам — выкладчыцы Мангейскага універсітэта, аўтара кніг і артыкулаў, прысвечаных грамадска-палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Да названых прымыкае мноства ў пэўным сэнсе цікавых матэрыялаў замежных аўтараў, што друкуюцца і пад рубрыкамі «Прысутнасць беларускай культуры ў свеце» і «Беларускае замежжа». Гэта — і тэкст прывітальнага выступлення на II Міжнародным кангрэсе беларусістаў балгарскага паэта і перакладчыка Найдана Вылчава, і артыкул англічанкі, перакладчыцы з беларускай, Веры Рыч «Звесткі пра Беларусь у ісландскіх сагах», і даследаванне доктара філасофіі, старшыні Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады (Таронта) Раісы Жук-Грышкевіч «Роля беларускай эміграцыі ў Канадзе».

Наш шлях, наш лёс — вачыма свету, вачыма тых, у прыватнасці, каму есць справа да нашай краіны, хто ёй цікавіцца, хто спачувае ёй і жадае ёй дабра, хто ёй спрыяе і верыць у яе лепшую будучыню… Такое вось агульнае ўражанне робіць знаёмства з нумарамі «Кантактаў і дыялогаў».

І ў заключэнне хочацца сказаць вялікі дзякуй заснавальнікам і выдаўцам часопіса і выказаць спадзяванне, што, нягледзячы на ўсе матэрыяльна-фінансавыя цяжкасці, якія ён сёння перажывае, ён будзе выходзіць і ў новым, 1997 годзе, і ў наступныя гады.

***1997***

## ЧАСІНА ВЯЛІКАГА ТЭРОРУ: БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ

Мінскі студэнт Уладзімір Дудзіцкі быў адным з першых, хто даведаўся ў 1932 годзе пра страшэнную таямніцу Сляпянскага лесу. Падчас летняй студэнцкай практыкі на доследнай станцыі каля Мінска ён разам з некалькімі другімі таварышамі па педтэхнікуме выявіў, што за шчытом з чырвоным надпісам: «Конскі могільнік. Небяспечна!» знаходзяцца магілы з паўзарытымі трупамі людзей, убачыў на ўласныя вочы вязняў з рыдлёўкамі ў руках, акружаных энкавэдыстамі з сабакамі. Ён быў адным з першых, хто выказаў адкрыты пратэст супраць злачынстваў «бальшавіцкіх далакопаў» (яго словы). Ён быў адным з першых, хто быў арыштаваны, прайшоў праз «валадарку», «амерыканку» і быў высланы ў Сібір, адбываў кару то ў адным,

то ў другім канцэнтрацыйным лагерах. І ён быў адным з першых, хто ў сваіх творах («Звер двухногі», «Даруй, што я плачу», «Успаміны» і інш.) загаварыў уголас пра сталінскія рэпрэсіі.

Я свядома так акцэнтаваў, зрабіў гэты пералік («адным з першых…»). З той мэтай, каб падвесці да тэмы, вынесенай у загаловак. Вядома ж, хапіла ўсім. І славянам, і неславянам, і рускім, і літоўцам, і ўкраінцам, і латышам, і грузінам, і чачэнцам, і яўрэям, і татарам… Хапіла ўсім, хапіла на ўсіх той горкай чашы, па ўсіх так ці інакш пракацілася «чырвонае кола», прайшоў д'ябальскі каток масавых рэпрэсій. Але… Але невыпадкова ўсё ж менавіта нашыя беларускія Курапаты сталі адпаведным і вядомым усяму свету сімвалам.

Не бяруся разглядаць тэму ў цэлым, ва ўсіх яе аспектах. Гэта пад сілу толькі даследчыкам-гісторыкам. У мяне больш сціплы намер — спроба некалькімі штрыхамі абазначыць некаторыя адметнасці беларускага варыянту сталінскіх рэпрэсій, беларускую, так бы мовіць, спецыфіку памятнага трыццаць сёмага.

## Калі ён у нас пачаўся?

Гэты юбілейны, гэты знакавы трыццаць сёмы год пачаўся на Беларусі намнога, на 20 гадоў, раней — у тым самым, таксама юбілейным семнаццатым годзе. Не буду прыводзіць лічбы, яны збольшага вядомыя. Да таго ж вядомае і горкае выслоўе: адно забойства — трагедыя, шмат забойстваў — статыстыка. Прывяду асобныя факты і імёны.

У снежні 1917 г. гвалтоўна, з прымяненнем зброі разганяюцца дэлегаты Усебеларускага з'езда (Беларускага кангрэса), арыштоўваюцца члены прэзідыума з'езда… Сігнальны стрэл прагучаў, адлік пайшоў… Вясной 1920 г. арыштоўваюць і расстрэльваюць былога наркама па нацыянальных справах, аўтара працы «Патрэбнасці нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаадзначэння народа» Фабіяна Шантыра (не вельмі шумі пра патрэбы свайго народа!)… У кастрычніку 1925 г. арыштоўваецца ўдзельнік Слуцкага паўстання Юрый Лістапад… У сакавіку 1929 г. за верш «Пасеклі наш край папалам» арыштоўваецца Алесь Дудар… У ліпені 1930 г. арыштоўваюцца за «прыналежнасць» да так званага Саюза вызвалення Беларусі Максім Гарэцкі, яго брат Гаўрыла Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, а таксама Уладзімір Дубоўка (за верш «За ўсе краі, за ўсе народы свету…»). У студзені 1931 г. выключаецца з партыі са злавеснай фармулёўкай Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны)… У лютым

таго ж года змушаны скончыць жыццё самагубствам (стрэлам у скронь) Усевалад Ігнатоўскі… Словам, пакацілася-паехала «чырвонае кола» — да станцыі «трыццаць сёмы».

## Геаграфія

*«Колькі іх, зараўняных, заараных, заасфальтаваных, зарослых лесам, забудаваных мікрараёнамі патаемных, схаваных ад народа магіл! Дзеці і ўнукі шукаюць іх і не знойдуць ніколі. Цяпер увесь свет ведае Курапаты. А колькі іх, Курапатаў, ад Брэста да Калымы?!»* — піша былы вязень ГУЛАГа Сяргей Грахоўскі.

Сапраўды — колькі іх?

І вось што характэрна, што паказальна. Якія б новыя Курапаты ні адкрываліся ў апошні час на прасторах былога СССР — высвятляецца, што паўсюдна ў тых магілах тлеюць костачкі браткоў-беларусаў, загубленых суайчыннікаў нашых. Востраў Назіна (Нарымскі край)… Калпашава (Сібір)… Саснагорск (Комі)… Левашоўская пустоша (пад Санкт-Пецярбургам)… Мядзведжагорск (Карэлія)…

Альбо возьмем дзеля ілюстрацыі мясціны, у якіх адбывалі пакаранне рэпрэсаваныя беларускія пісьменнікі. Аляхновіч — Салаўкі; Астапенка — Сібір (Марыінск); Бабарэка — Вятка; Бітэль — Джэзказган; Гарбук — Калыма; Грахоўскі — Горкаўская вобласць; Грыневіч — Чымкент, Сарыагач; Гурло — Самара, Магадан; Гарэцкі — Комі, Вятка; Дубоўка — Вятка, Чувашыя, Далёкі Усход, Сібір (Краснаярскі край); Дыла — Саратаў; Жылка — Уржум, Вятка; Звонак — Магадан; Куніцкі — Калыма; Нікановіч — Урал; Пруднікаў — «Крыжы», Бурацiя, Іркуцк, Нарыльск, Сібір (Енісейск); Пушча — Урал, Мурманск; Ракіта — Горкаўская вобласць; Хадыка — Сібір, Улан-Удэ; Хведаровіч — Кольскі паўвостраў, Манчагорск, Комі; Хурсік — Йашкар-Ала, Марыйская і Чувашская рэспублікі; Шушкевіч (бацька былога старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча) — Кемераўская вобласць, Краснаярскі край… Такія вось маштабы, такая вось разнастайнасць (ніводная камбінацыя, як бачым, не паўтараецца) — «широка страна моя родная».

Надзвычай разнастайнымі і працяглымі аказаліся крыжовыя шляхі, якія вялі ахвяр пазнейшай, ужо пасляваеннай, сорак сёмага года, хвалі рэпрэсій. Гэтыя шляхі, пачынаючыся ад мінскай «амерыканкі» і аршанскай «перасылкі», вялі, этап за этапам, на Поўнач і Крайнюю Поўнач, у Калымскі край, у Сібір, у Караганду і на Далёкі Усход, вялі да Нарыльска, Інты, Варкуты,

Дудзінкі, Бадайбо, Тайшэтлага… Вялі так далёка і доўга, што ў хвіліны адчаю заставалася толькі адно спадзяванне: «легчы ў родную зямельку, пад белыя бярозы» (словы аднаго з вязняў ГУЛАГа).

Выходзіць, што наша незалежнасць мае, акрамя ўсяго іншага, і такую яшчэ перавагу — у мясціны «не столь отдалённые», на край свету цяпер ужо не этапіруюць. І калі я сёння бачу на плошчы людзей з плакатам «1937–1997» ці чытаю ў незалежнай газеце пра тое, што *«над Беларуссю згушчаюцца хмары новага трыццаць сёмага года»*, то я і падзяляю гэтую трывогу, і ў той жа час даволі аптымістычна ўсміхаюся ў думках: нічога ў іх, нашых неасталіністаў, не атрымаецца з іх патугамі вярнуць мінулае ў адной, асобна ўзятай краіне. Не тая геаграфія, не тыя маштабы, не тыя магчымасці. Не дапаможа ім тут і СБіР (Саюз Беларусі і Расіі) — амаль, чуеце, Сібір…

## Метады

Акадэмік Радзім Гарэцкі, распавядаючы ў нарысе «Арышт другі» сумную эпапею пра лёс свайго бацькі, акадэміка Гаўрылы Гарэцкага, прыводзіць наступную сцэну допыту:

«— Раскажыце пра СВБ.

— Ніякага СВБ не было.

— Як рыхтавалі паўстанне?

— Не было гэтага.

— Гэта вам толькі спачатку здаецца, што не было СВБ, праз некаторы час згодзіцеся, што было.

— Не было.

— Прызнавайцеся хутчэй і вам будзе лягчэй.

— Не было.

— Мы прымусім даць нам паказанні, вы яшчэ не ведаеце, колькі ў нас ёсць розных метадаў іх атрымаць. Калі вы прызнаецеся і напішаце нам пра ўсё тое, што нам трэба, вы можаце пазбегнуць адведаць на сабе гэтыя метады».

Такі вось, прызнаем, «откровенный разговор» вёўся ў кабінеце следчага. І энкавэдысты, трэба сказаць, слоў на вецер не кідалі. «Метад нумар тры», пра які піша В. Шаламаў у сваіх «Калымскіх апавяданнях», мог бы здацца, відаць, сеансам мануальнай тэрапіі ў параўнанні з іх метадамі. Пра некаторыя з іх расказваецца ў вядомай, багата дакументаванай кнізе Г. Тарнаўскага, В. Собалева і Я. Гарэліка «Курапаты: следства працягваецца».

Метад пад назваю «табурэт»: зняволенага садзілі на стул, потым стул вырывалі з-пад яго, ён падаў на падлогу, яго згіналі, ставілі зверху табурэтку, садзіліся на яе і сядзелі да таго часу, пакуль вязень не пачынаў даваць паказанні.

«Ветраны млын» «вятрак»: надзявалі наручнікі, прадзявалі палку паміж рукамі і каленямі, падвешвалі галавой уніз на двух замацаваных стулах і пачыналі біць па пятках і сцёгнах мочанай вяроўкай і гумай. Катаванне называлася «ветраком» таму, што чалавека можна было вярцець як захочацца.

Што да метаду пад назваю «канвеер» (пра яго піша і аўтар кнігі «У капцюрох ГПУ»), то ён заключаўся ў наступным: допыт вялі няспынна гадзінамі, па некалькі гадзін, а то сутак узапар, не давалі падследнаму спаць, следчыя змянялі адзін аднаго, як на канвееры — дапытвалі да таго часу, пакуль арыштаваны не здасца і не падпіша патрэбныя паказанні. Быў яшчэ і такі садысцкі метад, як «мазгі ў столь». Гэта калі на шыю накідвалі рамень і па ім білі каля патыліцы. Даводзілі да страсення мазгоў і чалавек падаў…

Як сведчаць архіўныя матэрыялы, агульнай асаблівасцю амаль усіх пералічаных метадаў было тое, што яшчэ вязню плявалі ў твар. Колькі пляўкоў, уяўляю, давялося зведаць гэтым самым розным «контра», «буржуазным нацыяналістам», «нацыянал-ухілістам», «нацдэмам»?..

## Быў яшчэ і такі метад…

Метады фізічнага ўздзеяння дапаўняліся метадамі ўздзеяння палітычнага, ідэалагічнага, маральнага.

Артыкулы крымінальнага кодэкса — артыкуламі газетнымі і кніжнымі.

Плявалі ў твар фізічна і плявалі ў твар, у душы маральна.

Білі кулаком і наганам і білі словам.

Швондзеры ад навукі і літаратуры пры капелюшах і гальштуках, «мастацтвазнаўцы ў штацкім» і людзі ў дыяганалевых гімнасцёрках з блакітнымі пятліцамі працавалі надзвычай дружна, згодна, рука аб руку, локаць да локця.

Перш чым падштурхнуць Усевалада Ігнатоўскага націснуць курок і абарваць жыццё, яго два гады знішчалі палітычна, забівалі маральна. Аднаго з лепшых, аднаго з самых разумных, адукаваных, моцным духам сыноў беларускага народа абвінавачваюць ды кляймяць з розных трыбун і выклікаюць на допыт у ГПУ; шантажуюць, запалохваюць у ГПУ — і паралельна — цкуюць на

старонках друку («кулацкі агент», «нацыянал-ухіліст», «нацдэм-контррэвалюцыянер»…), ды яшчэ правакуюць выступаць публічна з пакаяльным лістом і прызнаваць свае памылкі.

У 1929 годзе пад рэдакцыяй акадэміка С. Вольфсана выходзіць першы том (шматтомнае нават выданне!) калектыўнага зборніка пад загалоўкам «Ідэалогія і метадалогія нацдэмакратызму». Як ужо чытач здагадваецца, зборнік з пачатку і да канца прасякнуты выкрывальніцкім пафасам, пазначаны, так бы мовіць, абвінаваўчым ухілам. Дастаецца «нацдэмакратызму» ў цэлым і такім яго, на думку аўтараў, прыхільнікам, як З. Бядуля, А. Шчакаціхін, В. Ластоўскі, У. Дубоўка і інш. Некаторыя з іх неўзабаве ўжо будуць значыцца ў чорных спісах ГПУ. Сігнал, што называецца, спрацаваў. У 1931 годзе выходзіць кніга А. Канакоціна «Літаратура — зброя класавай барацьбы», а ў 1933-м — зборнік артыкулаў А. Кучара «Вялікая перабудова». Кнігі вытрыманы ў адной і той жа танальнасці, абодва аўтары пішуць гнеўна аб адным і тым жа — *аб «непрыкрытых нацыянальна-дэмакратычных вылазках у беларускай літаратуры», аб «яскравым выяўленні нацыянальна-дэмакратычнай сутнасці раду пісьменнікаў і адкрытага пераходу іх у лагер контррэвалюцыі», аб тым, што «беларускі нацыянал-фашызм Заходняй Беларусі працягвае руку свайму саюзніку — нацыянал-дэмакратызму»* і г. д. У адпаведным кантэксце называюцца імёны Цішкі Гартнага, А. Дудара, У. Дубоўкі, М. Грамыкі, М. Лужаніна, Я. Пушчы, М. Нікановіча, С. Баранавых, Ю. Таўбіна, У. Хадыкі… Гэта значыць імёны тых, на каго паклала ўжо ці збіралася пакласці сваё нядрэмнае вока ГПУ.

Справа даходзіла да яўнага абсурду, да кур'ёзаў. Да такога вось, напрыклад. У адной і ў другой з названых кніг падвяргаецца рэзкай крытыцы Максім Лужанін. За што? Цытую аднаго з крытыкаў: *«А малады паэт Лужанін у якасці «свядомага беларуса» адмаўляецца прымаць дары Кастрычніка, знадворку прынесеныя Беларусі. Ён піша: «Мы не хочам радасці вітаць, што чужымі дадзена рукамі».*

Я спытаўся нядаўна ў аўтара гэтых радкоў, што гэта за верш такі «крамольны», такі «контррэвалюцыйны» ён асмеліўся калісь напісаць. І пачуў ад паэта наступнае. Аказваецца, верш «Кожны дзень прыходзіць расцвітаць…» з'явіўся як натхнёны водгук на дырэктыву XV з'езда ВКП(б) аб тэрміновай арганізацыі ўласнай вытворчасці сельгастэхнікі, у прыватнасці трактароў, і выпуску неабходных запасных дэталяў для замежных трактароў — каб не

залежаць ад пастаўшчыкоў якога-небудзь «Фардзона». Малады паэт пісаў:

Каб пасля не йсці у кабалу,
Трактар зробяць нашыя заводы.
І нясе магутны Асінбуд
Электрычную сваю пагоду.

Так з «трактарыста» зрабілі тэрарыста з нацыянал-дэмакратычным ухілам. Факт кур'ёзны, недарэчны, але сімптаматычны. Прапагандысцкае забеспячэнне рэпрэсій суправаджалася хлуснёй, падтасоўкамі, фальсіфікацыяй.

Сусветна вядомы аўтар кніг «Вялікі тэрор» і «Жніво смутку» Роберт Конквест меў рацыю, калі казаў у адным сваім інтэрв'ю: *«Фальсіфікацыю я асабіста лічу сутнасцю сталінізму ў значна большай ступені, чым нават тэрор. Тэрор жа быў у пэўнай меры сродкам — каб інстытуіраваць ілжывы лад жыцця».* І далей: *«Пол Пот у Камбоджы не ўступаў у жорсткасці. Але і там не было той татальнай фальсіфікацыі ўсяго грамадскага жыцця, працяглага перыяду ўсеагульнай хлусні, якую перажыла ваша краіна»*.

Так, сапраўды мы гэта перажылі, мы гэта «праходзілі», і пра гэта ідзе размова. Пра тое, у прыватнасці, якую ролю адыгрывала татальная фальсіфікацыя ў сталінскіх рэпрэсіях на Беларусі.

## Страшнейшага за «нацдэма» звера не было

Не было страшнейшага за «нацдэма» «ворага народа».

Былі, знаходзіліся, вядома, і іншыя «злачынцы». Арыштоўвалі і судзілі па сумна вядомых артыкулах 63 КК БССР і 58 КК РСФСР. Судзілі грамадзян Беларусі, як і грамадзян усяго «союза нерушимого республик свободных», за антысавецкую агітацыю і антысавецкую дзейнасць, за дзейнасць дыверсійную, шпіёнскую, тэрарыстычную, тэрарыстычна-дыверсійную, дыверсійна-трацкісцкую. «Прыцягвалі», «садзілі» і судзілі за розныя «ўхілы» і «прыналежнасці», за распаўсюджванне антысавецкіх чутак і анекдотаў, за неданясенне…

Яшчэ «бралі» і судзілі (тут ужо прысутнічае мясцовы каларыт, элемент беларускай спецыфікі) за: нелегальны пераход мяжы з Польшчай, хаванне ў сваёй кватэры польскага агента, шпіянаж на карысць Польшчы, за сувязь з польскай разведкай, службу ў польскай дэфензіве, прыналежнасць да Польскай

арганізацыі вайсковай… (Была, аказваецца, і такая, яе, па задуме энкавэдыстаў, павінны былі складаць «контррэвалюцыянеры» з польскімі і беларускімі прозвішчамі.)

Словам, шмат знаходзілі «ворагаў народа».

Ды ўсё ж найбольш істотнай, найбольш спецыфічнай адметнасцю беларускага варыянту рэпрэсій было змаганне з так званым нацыянал-дэмакратызмам («нацдэмаўшчынай»).

«Нацдэм» лічыўся ці не самым небяспечным, самым шкодным, самым варожым з усіх «ворагаў народа». Гэтая катэгорыя «ворагаў» дастаўляла асаблівыя клопаты, асаблівы галаўны боль мясцовым сталінска-берыеўскім апрычнікам, і яны тут праяўлялі асаблівыя пільнасць, службовы запал і ўпартасць у дасягненні сваіх карных мэтаў. Каб не быць галаслоўным, спашлюся на меркаванне чалавека дасведчанага, кампетэнтнага, маючага доступ да неабходных архіўных матэрыялаў — супрацоўніка расійскай Федэральнай службы бяспекі Мікалая Ількевіча.

У сваім артыкуле «Максім Гарэцкі: напярэдадні другога арышту» М. Ількевіч, у прыватнасці, зазначае: *«У 1993 годзе мною была выказана думка аб тым, што Максім Іванавіч Гарэцкі, як бы ні склаўся яго лёс пасля адбыцця пакарання ў высылцы і куды* б *ён ні пераехаў з яе на пастаяннае месца жыхарства, не застаўся б без пільнай увагі з боку ўсёпранікальнага вока і шчупальцаў страшнага і жахлівага НКВД. У гэтай сувязі я праводзіў аналогію аб падабенстве трагічных лёсаў дзесяткаў беларускіх інтэлігентаў, якія нацярпеліся спаўна ад камуністычнай бальшавіцкай улады і ўрэшце былі ёю ж расстраляны. Такі сумны лёс Вацлава Ластоўскага, Аляксандра Цвікевіча, Уладзіміра Пракулевіча, Ігната Дварчаніна, Браніслава Тарашкевіча і многіх іншых бязвінных ахвяр сталінскага самавольства і тэрору. І, хутчэй за ўсё, Максім Іванавіч Гарэцкі прадчуваў сваю хуткую гібель, аб чым мы можам меркаваць па яго «Скарбах жыцця».* (Нашым бы кадэбістам такога паважлівага стаўлення да памяці выдатных сыноў народа.) Спаслаўшыся на адпаведныя архіўныя звесткі, Мікалай Ількевіч яшчэ раз паўтарыў: *«Вось чаму я так упэўнена сцвярджаю, што шанцаў у Максіма Іванавіча Гарэцкага застацца жывым у 1938 годзе ўжо не было».*

Вельмі значнае, вельмі каштоўнае сведчанне! Тым больш, што зыходзіць яно ад супрацоўніка спецслужбы другой краіны.

Не было шанцаў застацца жывым у 1938 годзе ў Максіма Гарэцкага. Не было шанцаў выжыць у тую ліхую часіну і ў многіх

іншых яго суайчыннікаў, таксама «наццэмаў», яго аднадумцаў і братоў па духу, па веры ў свае сілы, па служэнні беларускай справе.

Але чаму не было шанцаў? Чаму яны павінны былі загінуць? Чаму яны былі ў такой ступені асуджаны? Чаму?

На гэтыя пытанні аўтар артыкула не дае адказу.

А адказ ёсць.

Бальшавік В. Кнорын, адзін з тых, хто вырашаў лёс Беларусі ў паслякастрычніцкі час і актыўна выступаў супраць нашага адраджэння, заяўляў: *«Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты»*. А пазней на старонках той жа «Звязды» катэгарычна сцвярджаў, што *«ніякіх беларусаў у Заходняй камуне няма, што іх выгледзелі ў мікраскоп беларускія нацыяналісты»*.

Як бачым, сталінская формула: «Ёсць чалавек — ёсць праблема, няма чалавека — няма праблемы» нараджалася і праходзіла апрабацыю на Беларусі. Праўда, у больш шырокім варыянце, у дачыненні да ўсіх беларусаў, разам узятых: *«Ёсць беларусы — ёсць праблема, няма беларусаў — няма праблемы»*.

Натхняльнікі і выканаўцы рэпрэсій якраз і выконвалі гэтую задачу. Размахваючы жупелам «нацдэмакратызму», яны знішчалі перш за ўсё тых, хто не толькі валодаў адметнымі «этнографическими особенностями», але і пачынаў сцвярджаць сваё беларускае «я», выступаць носьбітам нацыянальнай ідэі.

Вось чаму Максім Гарэцкі не меў шанцаў застацца жывым у 1938 годзе.

### Вось чаму…
### (замест эпілога)

Вось чаму асабліва дзікія і недаравальныя забойствы тыя, гвалт той, злачынствы тыя, — як іх ні назаві: рэпрэсіі, тэрор, генацыд (этнацыд).

Вось чаму да недарэчнасці дзіўным і амаральным выглядае той факт, што на зямлі нашай, перад памяццю незлічоных ахвяр рэпрэсій, не толькі не прамаўляюцца словы прызнання віны, просьбы аб дараванні і раскаянні, але, наадварот, на старонках дзяржаўных газет і з экрана тэлебачання гучаць кашчунныя, канібальскія апраўданні злачынстваў сталіншчыны, а ў Курапатах, з блаславення «власть придержащих», распачата д'ябальская гульня ў косці — косці нявінна забітых.

Вось чаму не пакідае нашу зямлю злавесны прывід трыццаць сёмага. І не пакіне да таго часу, пакуль будуць зневажацца гонар і годнасць беларуса, пакуль ён не стане паўнапраўным гаспадаром свайго лёсу, а «жывасілам закапаныя беларускія душы» не супакояцца, аплаканыя і адпетыя як след *«у месцы светлым, месцы радасным, месцы спакойным, дзе няма ні болю, ні суму, ні плачу, але жыццё бясконцае, вечнае...».* Гэта словы малітвы, якія гучалі пры асвячэнні крыжа ў Курапатах.

***1997***

## АДЗІН З УРОКАЎ: «ЗАЎСЁДЫ ЗАСТАВАЦЦА ЛЮДЗЬМІ»

Шмат гадоў таму, недзе напачатку сямідзесятых, у мяне напісаўся верш, які я назваў «Перасцярога». Не магу дакладна сказаць, што паслужыла непасрэдным штуршком для напісання яго, але добра памятаю, што ён менавіта «напісаўся», г. зн. узнік па «наитию», як бы сам сабой ні пад нейчую дыктоўку. Як бы самі сабой прыйшлі адначасова і зачын, і памер, і рыфмы... Вось яго першыя радкі:

Людзі, не збівайцеся ў статак!
Знаю: моцны статкавы пачатак,
знаю: тужым мы па ім падчас,
знаю: так і падмывае нас —
збіцца ў статак, збіцца і згубіцца
недзе ў самай гушчыні яго,
збіцца ў статак, збіцца і пазбыцца
вобліку і голасу свайго.
Збіцца ў статак, важаку скарыцца,
і у той пакорнасці сляпой
тупаць да агульнага карытца,
тупаць на агульны вадапой.
Гэта так спакусліва, так цешыць:
ад цябе нічога не залежыць...

Уласны верш, верш-перасцярога, згадаўся мне, калі я даведаўся пра абставіны трагедыі, якая адбылася нядзельным вечарам у падземным пераходзе станцыі метро «Няміга». Згадаўся зноў, калі я прачытаў у друку меркаванне галоўнага

інжынера мінскага метрапалітэна Івана Мікуліча. «Тут сваю ролю адыгралі шэраг фактараў, — гаворыць ён, — сярод якіх я б у першую чаргу выдзеліў так званы «інстынкт натоўпу», што ўключыўся ў гэты момант».

Пра «інстынкт натоўпу», у дадзеным выпадку натоўпу адначасова і экспрэсіўна-экстатычнага (уплыў піва і рок-канцэрта), і ратавальна-панічнага (страх навальніцы), пераканаўча гаворыць і сведчанні ўдзельнікаў і відавочцаў трагічнага здарэння. Пра гэта гавораць і шматлікія надпісы на сценах падземнага пераходу — на сценах, што сталі стыхійна «сценамі жалобы», «сценамі плачу» і, дадам, «сценамі празарэння».

Сярод надпісаў ёсць і вершаваныя. Спыняюся і чытаю верш пад назваю «Простите»:

Простите глупую толпу
За это страшное убийство.
Простите страшную судьбу
За все оборванные жизни.
Толпа запомнит гром и град,
И страшный крик на светлый праздник.
В толпе никто не виноват,
Но эта память так ужасна.
Простите страшную толпу
За это глупое убийство.
Простите глупую судьбу
За тех, кто в дом не возвратится.

Пад вершам стаіць подпіс: «Тамара Залеская» і дата: «31.5.99 г.» Ён напісаны на лістку фармату школьнага сшытка. А насупраць, проста на сцяне бардовым чарнілам выведзены размашыста такія радкі:

Слой человека в нас чуть-чуть
Напылен зябко и тревожно.
Легко в скотину нас вернуть —
Стать человеком очень сложно.

Далей ідзе, па-свойму самакрытычная, прыпіска: «Мы на час ператварыліся ў статак звар'яцелых. І вось што з гэтага выйшла… Выйшла!!!» А побач ужо іншым почыркам і іншым чарнілам дабаўлена: «Давайце заставацца людзьмі!»

Што да гэтай гаркотнай высновы, выведзенай на імправізаванай «сцяне жалобы», можна дадаць? Мала што. Хіба што

згадаць зноў напісаныя шмат гадоў таму трывожныя радкі («Людзі, не збівайцеся ў статак…») ды яшчэ прыпісаць: «…Быць не натоўпам, не масай, а заўсёды заставацца людзьмі, разумнымі індывідамі, свядомымі грамадзянамі!»

*1999*

## ЗАДАЧА — АДКРЫВАЦЬ І НЕСЦІ ІСЦІНУ

Як вядома, чалавек адрозніваецца ад жывёлы не толькі развітым вялікім пальцам. Ён адрозніваецца і нечым больш істотным: яму дадзены розум (таму ён называецца «гома сапіенс»), дадзена другая сігнальная сістэма — мова, слова. Дадзена разам са свядомасцю — і таму такая ж старажытная і гэтак жа арганічна ўласцівая людской асобіне, як і свядомасць.

І дадзена, трэба думаць, не для таго, каб супрацьстаяць розуму, а, наадварот, для таго, каб служыць яму, выяўляць яго; не для таго, каб утойваць думкі, камуфляваць вузкаэгаістычныя мэты, патрэбы і інтарэсы, а, наадварот, каб адкрыта абменьвацца думкамі, дзяліцца назіраннямі і высновамі, дамаўляцца без прыхаванага намеру («бона фідэ» — на мове старажытных рымлянаў), разам, на аснове ўзаемнасці шукаць ісціну; не для таго, каб кідаць адзін другому выклік, сеяць варожасць і разлад, а, наадварот, для таго, каб знаходзіць агульную мову, усталёўваць у жыцці сумеснымі намаганнямі дух даверу, разумення і супрацоўніцтва.

Ды і як інакш, калі не такім вось чынам, не праз разумнае слова можа праяўляцца, рэалізоўвацца гэты самы гома сапіенс?

Дарэчы, менавіта з такой канцэпцыі слова — як сродку камунікацыі, сродку служэння дабру і ісціне, як носьбіта гуманнага, стваральнага, канструктыўнага пачатку — зыходзілі аўтары Статута ЮНЕСКА — камісіі Арганізацыі Аб’яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры. У дакуменце гаворыцца пра такія рэчы, як «інтэлектуальная і маральная салідарнасць чалавецтва», «бесперашкодныя пошукі аб’ектыўнай ісціны ды свабодны абмен думкамі і ведамі», «свабоднае распаўсюджванне ідэй слоўным і выяўленчым шляхам».

Усе сказанае вышэй, безумоўна, экстрапаліруецца самым непасрэдным чынам на слова друкаванае, слова прамоўленае публічна (у прыватнасці, па радыё і тэлебачанні). Інакш кажучы — на сродкі масавай інфармацыі.

Спашлюся дзеля большай пераканаўчасці на наступнае аўтарытэтнае меркаванне. Вядомы брытанскі гісторык і публіцыст, аўтар такіх фундаментальных працаў, як «Гісторыя англійскага народа», «Гісторыя хрысціянства», «Свет ад 1920-х да 1990-х» і іншых, Пол Джонсан піша ў сваім эсэ «Сем смяротных грахоў і дзесяць запаведзяў СМІ»: «Сродкі масавай інфармацыі з'яўляюцца ў патэнцыяле вялікай свецкай царквой, накіраванай на рассейванне цемры невуцтва і сцвярджэнне ісціны. Евангелле ад Яна, калі задумацца, прысвечана прэсе, а Ісус Назарацянін можа быць названы першым журналістам, які прыносіць чалавецтву Добрыя Навіны. Ці можа хто-небудзь усумніцца ў тым, што чалавек, які прапаведаваў некалі пяці тысячам, сёння не скарыстаў бы магчымасцей газеты або тэлебачання?» І далей: «Мы не можам устанавіць для СМІ асаблівую сістэму кіравання, прымусіць іх быць дабрадзейнымі. Адзіны надзейны спосаб, з дапамогай якога мы можам ствараць СМІ, якія служаць грамадству, заключаецца ў тым, каб у іх працавалі людзі, *што падзяляюць пэўныя маральныя нормы*». Зыходзячы з таго, што словы могуць забіваць і могуць прасвятляць, суцяшаць, натхняць, славуты даследчык сцвярджае: галоўная задача СМІ — *«адкрываць і паведамляць ісціну», «паважаць, цаніць, берагчы і шанаваць словы, ужываць іх з павагай да іх сапраўднага значэння».*

Такім чынам, адным з яўных пунктаў судакранання ненасільнага дзеяння і друкаванага (публічна прамоўленага) слова з'яўляецца супрацьстаянне сіле невуцтва, гвалту і хлусні, служэнне справе ісціны, ці, паводле Гандзі, «упартасць у ісціне».

Паказальнымі ў дадзенай сувязі могуць быць пэўны гістарычны досвед беларускага друкаванага слова і наша нацыянальная традыцыя ў справе змагання за галоснасць, за права свабодна выказвацца і друкавацца, ведаць і быць пачутым. Успомнім, што менавіта так, у такім духу задумвалі свае выданні, так уяўлялі свае мэты бацькі-стваральнікі першых легальных газет — «Наша доля» і «Наша ніва». «Лічачы найбольшым нашым ворагам цямноту і бяспраўнае палажэнне мужыка, — чытаем іх праграмны зварот да чытачоў, — мы аб'яўляем вайну ўсім цёмным сілам, каторым дзеля карысці сваёй вялікая выгода была трымаць васьмімільённы народ беларускі ў нядолі і паняверцы, баламуціць і дурыць». А першы нумар «Нашай нівы» адкрываўся словамі: «Кожны мае права быць выслуханым на старонках нашай газеты і кіраваць ёю, толькі каб было разумна. Мы з сваёй стараны будзем змагацца, каб ўсе беларусы, што не

ведаюць, хто яны ёсць, — зразумелі, што яны беларусы і людзі, каб пазналі свае правы і памаглі нам у нашай рабоце».

Інакш кажучы, нашы першыя свабодныя выданні ставілі сабе за галоўную мэту *«рассейванне цемры невуцтва і сцвярджэнне ісціны»,* у прыватнасці ісціны, што тычылася сацыяльнага і нацыянальнага становішча беларуса. Цікавы факт. Ледзьве стаўшы, што называецца, на ногі, «Наша ніва» пачынае друкаваць вялікі, з працягам артыкул пад назвай «Аб свабодах», дзе на поўны голас узнімае пытанне аб свабодзе слова і друку. Чытаем: «Але думаць пацїху і не мець можнасці казаць другім аб тым, што чалавек прыдумаў і што прызнае за праўду, — гэта не свабода, а няволя. Усюды, дзе народ дабіўся свабодных парадкаў, ён устанавіў законы, па каторых кожны чалавек мае права свабодна казаць і шырыць меж людзей усе думкі свае, пісаць і друкаваць іх без усякай «цэнзуры» і «дазваленія начальства».

Цікавая і па-свойму сімвалічная, дарэчы сказаць, дэталь: артыкул «Аб свабодах» друкаваўся ў 1907 годзе, гэта значыць амаль за 50 гадоў да таго, як будзе прынята Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, а пачынаецца ён словамі: «Усе людзі родзяцца роўнымі», амаль літаральна так, як пачынаецца першы артыкул Дэкларацыі: «Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі». Вунь як далёка наперад глядзелі, думалі глабальна, а мыслілі лакальна і гуманна нашы слаўныя папярэднікі!

Аднаму з актыўных аўтараў (а потым, як ведаем, і рэдактару) «Нашай нівы» Янку Купалу не магла не імпанаваць такая ідэйная арыентацыя газеты. І ён гэта выкажа ў вершы «Ужо днее…», які прымяркоўваецца да другой гадавіны выхаду газеты і мае наступнае прысвячэнне: «Пасвячаю ўсім супрацоўнікам, чытачам і прыяцелям «Нашае Нівы» на памятку двухлетняга жыцця яе *для нясення дабра, праўды і свету забітаму, цёмнаму беларускаму народу*» (лістапад 1908 г.).

Рэтраспекцыю можна было б прадоўжыць. Ёсць, як вядома, і іншыя старонкі ў гісторыі барацьбы нашага народа за «права свабодна казаць і шырыць меж людзей усе думкі свае». Але вернемся да сённяшняй рэчаіснасці.

Ва ўмовах новай Беларусі, якая абвясціла сябе суверэннай, дэмакратычнай, прававой дзяржавай, былі зроблены на дзяржаўным і заканадаўчым узроўнях захады дзеля таго, каб усталяваць свабоду слова і друку, рэалізаваць той высокі ідэал, пра які марылі яшчэ выдаўцы і рэдактары «Нашай нівы», а пазней і рэдактары такіх выданняў, як «Наша думка», «Гоман», «Беларускі шлях», «Вольная Беларусь» і інш. Яшчэ

да прыняцця новай Канстытуцыі і Закона аб друку і сродках масавай інфармацыі часовым творчым калектывам, які быў створаны па ініцыятыве былога міністэрства інфармацыі, была распрацавана і змешчана ў друку для абмеркавання «Канцэпцыя развіцця інфармацыйнай прасторы Рэспублікі Беларусь». Аўтары Канцэпцыі зазначалі, што праблемы інфармацыйнага забеспячэння маюць выключна важнае значэнне для ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту і нацыянальна-культурнага адраджэння краіны, што інфармацыйная прастора Беларусі павінна адпавядаць новай грамадска-палітычнай сітуацыі, развівацца з улікам новых эканамічных рэалій і гістарычнай перспектывы, прычым развівацца па сваіх унутраных прафесійных і маральных законах. Беручы ў аснову ідэю свабоды сродкаў масавай інфармацыі як адной з галоўных умоў свабоды чалавека і народа, дэмакратычнага развіцця грамадства, аўтары Канцэпцыі ў той жа час даволі выразна акрэслівалі аптымальны, на іх погляд, варыянт дачыненняў СМІ з дзяржаўнай уладай. Дзяржава, сцвярджалі яны, мусіць быць зацікаўлена ў развіцці СМІ і павінна ствараць неабходныя варункі для іх дзейнасці. Але заказ на інфармацыю аб дзейнасці органаў дзяржаўнага кіравання не з'яўляецца падставай для ўмяшання выканаўчай і заканадаўчай улад у дзейнасць мас-медыя. Цэнзура, палітычны, эканамічны і адміністрацыйны дыктат над імі не дапускаецца.

Ішла ў Канцэпцыі размова і аб неабходнасці прававога забеспячэння дзейнасці СМІ, заканадаўчых гарантый для свабоды слова, друку і інфармацыі.

Дакумент распрацоўваўся журналістамі. І трэба думаць, што яны зыходзілі не толькі з адпаведных тэарэтычных пасылак, не толькі з 19-га артыкула ўпамянёнай ужо намі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, «Хартыі свабоднага друку» і г.д., але і з унутранай патрэбы свабодна выконваць свае прафесійныя абавязкі, з усведамлення таго, што ад свабоды гаварыць, называць рэчы іх імёнамі, спасцігаць і распаўсюджваць ісціну залежыць самым непасрэдным чынам лёс іх краіны.

*1999*

# ЁН КАЗАЎ РАДЗІМЕ: «Я ТАК ЛЮБІЎ ЦЯБЕ, МАЯ АДЗІНАЯ»

«Усяму жыццю Гаўрылы Гарэцкага ўласціва бязмежная любоў да сваёй Бацькаўшчыны, да мілай яго сэрцу роднай Беларусі. Яна была ягоным болем і бядою, якія прыносілі многа цяжкасцей, крыўдаў і пакут, і ягоным вялікім шчасцем, якое давала яму сілы выжыць і перамагчы неверагодныя фізічныя нягоды і маральныя перажыванні». Такімі словамі Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі пачынае другую частку сваёй выдатнай кнігі «Ахвярую сваім «Я»…» (Першая частка, як вядома, прысвечана пераважна Максіму Гарэцкаму.)

Звернем увагу на тое, што Гарэцкі-малодшы не толькі вызначае любоў да Радзімы як дамінанту маральна-псіхалагічнага вобліку бацькі, але адначасова гаворыць і пра тую ролю, якую гэта пачуццё адыграла ў яго лёсе.

Сапраўды, тут ёсць пра што падумаць.

Сапраўды, міжволі задаешся пытаннем: што ж гэта за феномен — любоў Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага «да мілай яго сэрцу роднай Беларусі»? Любоў, што адначасова салодкая і горкая, светлая і змрочная, шчаслівая і няшчасная?

Пытаешся, у пошуках адказу светла згадваеш кароткія, але заўсёды хвалюючыя сустрэчы з ім (у Саюзе пісьменнікаў, у рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва»), перачытваеш кнігі яго сына «Шляхам адраджэння» і «Ахвярую сваім «Я»…» і прыходзіш да пэўнай высновы, пачынаеш усведамляць, што гэта была за Любоў.

Ну, вядома ж, верная, нязменная, непазбыўная. Такая, пра якую сказана: «Не адракаюцца, калі любяць» («Не отрекаются, любя»).

Ну, вядома ж, самаадданая, самаахвярная. Пра што гавораць словы, вынесеныя ў назву кнігі. Пра што нагадвае нам яе аўтар: «Ахвярнасць Радзіме, беларускай ідэі — вось у чым духоўнае адзінства Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх». Пра што сведчыць дзённікавы запіс самога Гаўрылы Гарэцкага. «Праца па вывучэнні геалогіі Беларусі — як мэта апошніх гадоў майго жыцця, — занатоўвае ён, — гэта — самае галоўнае, самае важнае, самае вялікае, самае значнае. У ахвяру гэтаму я нясу самога сябе, сям’ю, сваё каханне, усё». (Тут і далей цытую па кнізе «Ахвярую сваім «Я»…».)

Але гэта яшчэ не ўсё, гэтым яшчэ не вычэрпваецца любоў Г. Гарэцкага да Бацькаўшчыны. Яго патрыятычнае пачуццё — феномен, які мае і іншыя істотныя грані і вымярэнні.

Цікава, што адно з гэтых вымярэнняў геніяльна прадказаў на адной з першых старонак сваёй першай кнігі «Рунь» Максім Гарэцкі. Уявіўся яму «такі сур'ёзны, думны, з невясёлымі, але хаваючымі агні вачамі беларус», які «хацеў словам адраджаць чалавека ў беларусе (не ў другім кім, бо ён — сын беларускага народа і найлепш мог паслужыць Беларусі). Але запала яму неяк у галаву што, вось, прарокі слова ў нас знаходзяцца, а прарокаў-эканамістаў — німа».

Прарок слова Максім Гарэцкі прадказваў з'яўленне прарока-эканаміста ў асобе малодшага брата Гаўрылы Гарэцкага. Другі стаў дапаўняць першага. Унук прыгоннага селяніна, сын селяніна беззямельнага, ён становіцца аграномам-каморнікам, ён выбірае ў акадэміі спецыяльнасць «эканамічная геаграфія»; ад свайго імя і імя сваіх равеснікаў ён з юнацкай палымянасцю заяўляе, што «да енкаў, да слоў хочам даць працу, мы маем рэальную мэту: праз 20–25 гадоўператварыць Беларусь у Данію»; ён абіраецца дырэктарам першага (і апошняга, на жаль) у гісторыі Беларусі навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі; ён вывучае эканоміку і арганізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці ў Польшчы, Германіі, той жа Даніі (сталінскай калектывізацыі была альтэрнатыва!); ён выступае з аргументаванымі публікацыямі, прысвечанымі стану і перспектывам развіцця нацыянальнай эканомікі…

Гаворачы пра родную Беларусь у будучым часе, ён і насамрэч быў «прарокам-эканамістам».

Праўда — што неабходна тут жа адзначыць, — эканамічнае адраджэнне краіны не было для Г. Гарэцкага самамэтай, не зводзілася да «хлеба надзённага», а тым больш — да «шырпатрэбаўскай» устаноўкі — «накарміць народ». Стварэнне новай гаспадаркі ён разглядаў як частку, кажучы яго словамі, «інтэгральнага рэнесансу» (не блытаць з «інтэграцыйным»), як умову рэнесансу культурнага. «У адроджанай эканамічна Беларусі, — пісаў ён у артыкуле «На новы шлях», — закрасуюць мастацтва, навука, закрасуец беларуская мова». «Святое Адраджэнне» і «інтэгральны, г. зн. комплексны, усебаковы, рэнесанс» былі для яго сінонімамі.

Такая вось была яго любоў да Бацькаўшчыны — надзвычай дзейная, мэтанакіраваная, па-гаспадарску руплівая. І яшчэ яна была глыбока аплодненая беларускай нацыянальнай ідэяй, прасякнутая абвостраным пачуццём адказнасці за лёс беларусаў як нацыі, як краіны, духам пратэсту супраць усялякіх ворагаў беларушчыны, агульнай рысай якіх было — прыводжу зноў

яго словы, — «адмаўленне за беларусамі права на годнасць нацыі, непрызнанне беларусаў за асобны народ, беларускай мовы за самастойную культурную мову, прызнанне няўхільнай асіміляцыі беларусаў, іх знішчэнне як нацыі». (Падзеі апошняга часу паказалі, наколькі былі падставовымі і дальнабачнымі яго трывога і пратэст.)

«Інтэгральны рэнесанс» Г. Гарэцкі не ўяўляў без рэнесансу нацыянальнага, этнічнага, без належнага нацыянальнага духоўнага самавызначэння, а «адраджэнне чалавека ў беларусе» — без абуджэння ў ім нацыянальнай свядомасці. Нават знаходзячыся за кратамі, ён не ўтойваў свае пачуцці, не баяўся, даючы паказанні, казаць сваім катам-следчым пра свае глыбока вынашаныя патрыятычныя погляды («Беларусы былі нацыяй у сабе, але не нацыяй для сябе…»), заяўляць: «Думка, «што беларусам як нацыі пагражае смерць», ніколі не пакідала мяне. Я жыў як бы пад фетышам беларускае нацыі».

Нехта сказаў, што гістарычнае значэнне кожнага вялікага чалавека вымяраецца яго заслугамі перад Радзімай, а яго чалавечая годнасць — сілай яго патрыятызму. Падзвіжніцкая патрыятычная дзейнасць Г. Гарэцкага красамоўна сведчыць, што гэта сапраўды так. Мерай яго духоўнай велічы і яго чалавечай красы з'яўляецца мера яго любові да Радзімы.

Ды малюнак будзе не поўным, калі мы не адзначым яшчэ адну яе асаблівасць, а менавіта яе яснабачанне, празорлівасць, яе, так бы мовіць, інтэлектуальны кампанент. Што я маю на ўвазе?

Справа ў тым, што Г. Гарэцкі не толькі разумеў неабходнасць стварэння «сваёй роднай, тэхнічнай і ўсякай іншай інтэлігенцыі» і спадзяваўся на тое, што менавіта яна, нацыянальна свядомая інтэлігенцыя, забяспечыць поспех будаўніцтва, якое «паўстае перад беларусамі як вольным народам». Але ён яшчэ верыў, што яна прасякнецца «ідэямі рэнесансу Беларусі, пабудаванымі на грунце *найвялікшых усечалавецкіх ідэй нашага часу*» (вылучана мной. — *А. В.*). Вось як далёка, з якім размахам сягала яго думка, як мысліў ён лакальна, а думаў глабальна.

Гаўрыла Гарэцкі, па сутнасці, падыходзіў — самастойна, незалежна ад Вярнадскага[1] і Тэйлара дэ Шардэна[2] — да паняцця, якое потым атрымае назву «ноасфера» і будзе азначаць новы, пераўтвораны агульначалавечым розумам стан біясферы.

І калі ў адной з публікацый, якія склалі зборнік Радзіма Гарэцкага «Шляхам адраджэння», я знайшоў грунтоўную інтэрпрэтацыю вучэння У. Вярнадскага аб ноасферы і прачытаў сцвярджэнне нашага выдатнага навукоўца і грамадскага дзея-

ча наконт таго, што дзеля трыумфу розуму, гуманізму і дабра «нам усім разам і кожнаму паасобку неабходна прыкласці ўсе намаганні для ператварэння сучаснай біясферы ў сапраўдную ноасферу», — то не здзівіўся: вельмі ж пазнаваліся духоўная моц і сіла голасу Гарэцкага-старэйшага, яго Вера, Надзея і Любоў…

Сярод фотаілюстрацый, якія змешчаны ў кнізе «Ахвярую сваім «Я»…», ёсць і здымак з подпісам «Гаўрыла Гарэцкі і Уладзімір Дубоўка. Масква. Май 1970 г.». Аднагодкі. Браты па духу і драматычным лёсе. Сумна-вясёлыя. Не скажаш, што свабодныя, але ўсё ж «велікадушна» рэабілітаваныя, як быццам бы ўсё ж не ворагі народа, не праклятыя нацдэмы. На фотаздымку ўнізе дубоўкаўскія радкі:

Ах дзяды… Гляньце, колькі на іх сівізны!
А нядаўна ж былі маладымі яны…

А «нядаўна», 75 гадоў таму — думаю, будзе дарэчы тут нагадаць — дваццаціпяцігадовы Уладзімір Дубоўка прысвяціў быў дваццаціпяцігадоваму Гаўрылу Гарэцкаму наступны прачулы верш:

Цаля за цаляй і хвіля за хвіляй
Мы адыходзім, імкнемся наперад.
Хто б ён ні быў, —
А галоў нам не схіліць.
Вось ужо ў гэта — дык моцна я веру!
Любы мой браце! —
Не мы — дык другія,
Справа жывая не можа памерці.
Можам і не расцвёўшы загінуць,
Але не здрадзім ні думцы, ні сэрцу.

Справа, якой служыў верай і праўдай, думкай і сэрцам Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, сапраўды жывая, і яна сапраўды не можа памерці, яна неўміручая і, значыць, вечна будзе ззяць і яго слаўнае імя на скрыжалях маці-Беларусі, да якой ён звяртаўся з такімі пранікнёнымі словамі: «Я так любіў цябе, мая адзіная. Я так хацеў табе шчасця аднаўлення, неўміручасці, сонечнасці».

***2000***

## «ПРАЙШЛО ХОРАША, ВЕСЕЛА, З ЖАРТАМІ…»

Менавіта так і прайшло. Сведчу, бо ведаю, бо і «я там быў, мёд-піва піў…». І пэўна таму, што сапраўды так добра «прайшло» і што хораша запала ў душу, не раз парываўся падзяліцца ўспамінам пра тую падзею (рэдактары «ЛіМа» могуць гэта пацвердзіць). Першы раз у сувязі з выхадам кнігі «Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа», другі раз — напярэдадні чарговых «каласавін»… Ну, ды, як кажуць, усяму свой час. Да таго ж была патрэба асвяжыць у памяці, — раней чым узяцца за пяро, — некаторыя дэталі падзеі ўжо сямігадовай даўнасці. Зрабіць жа гэта можна было, толькі наведаўшы коласаўскую сядзібу, дакладней — добра вядомы шмат каму двухпавярховы, утульны, у засені дрэў дом, які пакінуў у спадчыну сваім сынам народны пясняр, і сустрэўшыся з сямейнымі Данілы Канстанцінавіча — жонкай Алай Цімафееўнай і дачкой Верай. Прызнаюся, не без душэўнага хвалявання пераступаў я парог гэтага дома. Тут мяне чакалі два сюрпрызы. Першы: толькі што споўнілася сорак гадоў Веры. Вось табе і на! Мы прывыклі бачыць яе малодшанькай Данілавай, танклявай дзяўчынкай, дзяўчынай, зялёнай галінкай на Коласавым-Міцкевічавым радаслоўным дрэве, а яна ўжо адзначае свой першы «круглы» юбілей. І яшчэ збіраецца адзначыць неўзабаве васемнаццацігоддзе дачкі Вольгі (толькі што скончыла ліцэй, які носіць імя яе дзеда).

Другі сюрпрыз: Вера прыносіць і кладзе перада мной вялікафарматны агульны сшытак, старонкі якога — не адразу паверыў вачам! — спісаны почыркам Данілы Канстанцінавіча. Аказваецца, ён шмат гадоў, аж з 1964 года, рабіў рэгулярна запісы — нешта сярэдняе паміж дзённікам і гаспадарчым гросбухам. На вокладцы апошняга сшытка надпіс: «Пачата 16/VIII.93 г. Закончана 24/III.1995 г.». Вера добра знаёмая з дзённікам, і мы хутка знаходзім старонкі, прысвечаныя святкаванню 80-х угодкаў яе бацькі. Запіс ад 30 верасня 94-га года: «Пятніца. Мне 80 гадоў. Дажыў-такі!» Далей юбіляр фіксуе: зранку сабраў апад яблыкаў і пайшоў у кіёск, потым прымаў віншаванні па тэлефоне (называюцца ўсе, хто віншаваў), браў удзел ва ўрачыстасці, што ладзілася супрацоўнікамі музея. Далей даслоўна: «Разышліся, а тут пазваніў А. І. Вярцінскі. Сказаў, што прыедзе з В. І. Ганчаром (на той час віцэ-прэм’ер. — *А. В.*). Падрыхтавалі стол у кабінеце Зінаіды Мікалаеўны[1], я сеў на яе месца. Прыехалі, прывезлі вялізны букет ружаў і гадзіннік — ручны, кварцавы (завода

«Луч»). Вельмі цёпла пасядзелі… Ганчару спадабаліся піражкі Алёны (старэйшай дачкі Данілы Канстанцінавіча. — *А. В.*). Гаворка цікавая, добразычлівая. Я настойліва раіў Ганчару агледзець філіялы, мастацка-мемарыяльны комплекс «Шлях Коласа…» (На жаль, парада засталася па вядомых прычынах нерэалізаванай.)

Праз колькі старонак запіс, датаваны 15.X.94 г. Паводле яго дзень пачынаецца як звычайна («На дварэ пахмурна, але цяплей, чым учора. Сабраў апады яблыкаў…»), а на вечар прызначана сустрэча — ці не завяршальная ў чарадзе юбілейных. Даніла Канстанцінавіч згадвае ўсіх, хто запрошаны да яго ў госці, — А. В. Багатырова, Кісялёвых, Мальдзісаў, Законнікавых, Вярцінскіх, неяк любоўна, з удзячным пачуццём занатоўвае, хто як яго павіншаваў, хто што падараваў. Двойчы падкрэслівае, што было шмат кветак. І далей: «У 18 гадзін селі за стол. Прайшло хораша, весела, з жартамі. А. І. Вярцінскі «ўзнагародзіў» Ордэнам «Дубовы ліст», № 1».

Хацеў бы пракаментаваць апошнія словы запісу. Так, факт «узнагароджання» мной шаноўнага юбіляра напраўду меў месца. І выглядала гэта так. Узяўшы ў застоллі слова, я пачаў з таго, што згадаў шмат якія коласаўскія радкі, прысвечаныя «буйнаму лісцеваму дрэву сямейства букавых з моцнай драўнінай і адметнымі пладамі-жалудамі», г. зн. нашаму беларускаму дубу. А потым, зрабіўшы паўзу, абвясціў надрукаваны на бланку Вярхоўнага Савета наступны тэкст (дазволю сабе прывесці яго амаль поўнасцю):

«1. Прызнаць своечасовай і каштоўнай прапанову ініцыятыўнай групы. І лічыць мэтазгодным устанаўленне знака заслугі, які б, з аднаго боку, сімвалізаваў доўгацярпенне, жыццястойкасць і моц беларускага народа, яго цвёрдасць у барацьбе за зямлю, за волю, за лепшую долю, а, з другога боку, які заахвочваў і падтрымліваў сённяшняга беларуса ў яго імкненні адрадзіць свой родны кут, пабудаваць на новай зямлі новы дом, навесці ў ім належны парадак і быць у ім паўнапраўным гаспадаром. Лічыць абгрунтаваным меркаванне, якім павінен быць такі знак заслугі. Зыходзячы з таго, якую ролю ў жыцці беларуса і якое месца ў яго песні, у творчасці яго песняроў, у прыватнасці ў прозе і паэзіі Якуба Коласа займаюць дуб, дубы, дубовыя гаі, *устанавіць у якасці ганаровай дзяржаўнай узнагароды Ордэн Дубовага ліста*.

2. За асаблівыя заслугі перад Бацькаўшчынай — і ў агульным, і ў больш канкрэтным сэнсе гэтага слова, у сэнсе бацькоўскай

творчай спадчыны, за вялікія заслугі ў культурнай, асветніцкай, выдавецкай і грамадскай дзейнасці, за такія агульнапрызнаныя грамадзянскія і чалавечыя якасці, як адданасць справе, шырыня натуры, мэтаскіраванасць, руплівасць, таварыскасць, гасціннасць, нязменныя добрыя адносіны да добрых людзей, а таксама за ўзорнае ўвасабленне ў знешнім вобліку і постаці здаровага зямнога коласаўскага духу і ў сувязі са слаўнымі 80-мі ўгодкамі ўзнагародзіць Данілу Канстанцінавіча Міцкевіча Ордэнам Дубовага ліста (знак нумар адзін).

3. Аддзелу ўзнагарод Вярхоўнага Савета сумесна з адпаведным аддзелам Саўміна тэрмінова распрацаваць, узгадніць з супрацоўнікамі музея Якуба Коласа і навукоўцамі-коласазнаўцамі і вынесці на зацвярджэнне Палажэнне аб ордэне, апісанне і ўзор нагруднага знаку да яго, парадак прадстаўлення да ўзнагароды. Прадугледзець у Палажэнні наступную ўмову: узнагароджаны мае права атрымліваць для сябе, членаў сваёй сям'і, сваякоў і сяброў не радзей як раз на год, да дня нараджэння, эліксір здароўя і маладосці».

Такі вось адбыўся ці не занадта цяжкаважны, сур'ёзны для застольнага жарту акт «узнагароджання». Памятаю, крыху нечаканай была для мяне рэакцыя Данілы Канстанцінавіча: на твары яго мільгнуў цень засмучэння, засмяяўся ён неяк праз сілу. Можа быць, думаю я вось цяпер, уразілі яго словы пра «эліксір здароўя». Бо ўжо падкрадвалася, усё мацней давала пра сябе знаць смяротэльная хвароба. (З запісаў, зробленых у тыя юбілейныя дні: «Пайшоў дахаты. Ляжаў. Боль не змяншаўся».) Спаўняецца роўна пяць гадоў з таго ліпеньскага дня, як Данілы Канстанцінавіча не стала. Памёр ён ранічкай, на Купалле, у нядзелю. Паводле народнага павер'я, менавіта ў такія дні забірае Бог душы добрых, светлых людзей. А што ён адносіўся менавіта да такіх людзей, сведчыць ужо хаця б той адзін факт, што наша тое незабыўнае святкаванне-гасцяванне «прайшло хораша, весела, з жартамі».

*2001*

## ЭКАНОМІКА СЛОВА

> Напачатку было слова. А потым быў цуд. Эканамічны…

З цікавасцю прачытаў нататкі Алеся Драбчука, якія нядаўна надрукаваны ў «Народнай волі» пад загалоўкам «Чаму ў нас немагчымы «эканамічны цуд»?» і ў якіх абагульняюцца вынікі семінара, праведзенага Фондам садзейнічання ўдасканаленню грамадскіх адносін «Экон».

На семінары ішла размова аб стане і праблемах беларускай эканомікі, выказваліся розныя меркаванні і прапановы. І характэрна, што, як паведамляе аўтар нататак, удзельнікі дыскусіі «найперш зацікавіліся сакрэтам поспехаў Японіі і Германіі». Асабліва сакрэтам «эканамічнага цуду» пасляваеннай Японіі. І сапраўды, разбураная страшэннай вайной; бедная да таго ж на сельгасугоддзі і амаль пазбаўленая карысных выкапняў астраўная краіна праз дзесяць гадоў аднаўляецца, узнімае свой дабрабыт, а праз паўстагоддзя становіцца другой эканамічнай сілай у свеце пасля ЗША. Дабрабыт японцаў — адзін з самых высокіх, жывуць даўжэй за ўсіх. Без слова «цуд» напраўду не абыдзешся.

Як жа вытлумачвалі сакрэт, да якой высновы прыходзілі ўдзельнікі семінара? Яны мусілі пагадзіцца на тым агульнапрызнаным факце, што ў шэрагу методык па дасягненні высокага дабрабыту, распрацаваных эканамістамі, першым пунктам значацца веды — аснова чацвёртага, самага высокага на сённяшні дзень, этапа развіцця эканомікі. Менавіта гэтым шляхам, шляхам укаранення найноўшых навукова-тэхнічных ідэй, навукаёмкіх тэхналогій і пайшлі своечасова японцы. Узяўшыся пры гэтым за вырашэнне дзвюх неабходных прыярытэтных задач. Першая — умацаванне сваёй нацыянальнай валюты як абавязковай умовы эканамічнай самастойнасці. Другая — высокая матывацыя працы, працоўнай дзейнасці.

«Цвёрдая нацыянальная валюта і высокая матывацыя да працы — вось крылы японскага эканамічнага цуду», — заключае Алесь Драбчук, дзелячыся ўражаннямі ад дыскусіі, што адбылася на семінары.

Пэўна, так яно і ёсць. Амаль так. Чаму — «амаль»? Таму, што ўдзельнікі семінара, здаецца, адзін з сакрэтаў «цуду» ўсё ж абышлі, пакінулі без увагі. І з гэтай прычыны я хацеў бы дадаць колькі слоў у працяг тэмы.

Справа ў тым, што для хуткага пасляваеннага адраджэння і, у прыватнасці, для эканамічнага ўзлёту Краіны ўзыходзячага сонца і беласнежнай сакуры двух згаданых крылаў было б, мабыць, недастаткова. Спатрэбіўся і адыграў сваю немалаважную ролю і такі «падкрылак», як духоўны фактар, фактар нацыянальна-патрыятычны. Не будучы эканамістам, спашлюся на аўтарытэтныя навуковыя сведчанні.

Згадваецца надрукаваны некалькі гадоў таму ў «Литературной газете» артыкул акадэміка Г. Маісеева «Ці можна гаварыць аб Расіі ў будучым часе?». Спыніўшыся на незвычайным гістарычным парадоксе: мы бедныя, тады як наша краіна неверагодна багатая прыроднымі рэсурсамі; японцы багатыя, хаця Японія амаль не мае тых жа рэсурсаў, — акадэмік зазначыў: «Успомнім, што японцы здзейснілі свой эканамічны цуд, толькі вярнуўшыся да сваіх традыцыйных нацыянальных каштоўнасцей. Чаго варта хаця б сістэма пажыццёвага найму рабочых прадпрыемствам! Будучае магчымае, толькі калі ёсць мінулае».

На фенаменальны японскі досвед спасылаўся і другі расійскі вучоны, вядомы мовазнаўца Юрый Раждзественскі, выступаючы з лекцыямі-гутаркамі ў Мінску летам 1994 года. Я прысутнічаў на адной з гэтых лекцый, нават занатаваў збольшага яе змест і маю магчымасць прывесці зараз яго асноўныя моманты. У плане агульнаадукацыйных праектаў прафесар прапаноўваў сваю арыгінальную формулу выйсця з грамадскага крызісу. Формула складалася з трох наступных пунктаў: 1) патрабаваць стабільнасці; 2) змагацца з карупцыяй; 3) выдаваць слоўнікі.

Выдаваць слоўнікі? «Грамадскі крызіс і слоўнікі?» — пасыпаліся пытанні. «Так, так, вы правільна мяне зразумелі», — адказаў упэўнена прафесар і ў якасці ілюстрацыі прывёў японскі вопыт. Ледзьве акрыяўшы ад жахаў вайны, тлумачыў ён, японцы ўхапіліся, як за выратавальны круг, за нацыянальную ідэю і звязаную з ёй… філалогію, скарбніцу роднай мовы. Яны сталі горача ўнушаць сабе, што ў гэтых сферах іх дух не зломлены і таму вайну яны не прайгралі.

Паводле звестак Ю. Раждзественскага, цягам першых пасляваенных гадоў у Японіі адкрылася каля 200 інстытутаў роднай мовы. Акрамя чыста навуковых, яны заняліся прыкладнымі праблемамі, у прыватнасці, праблемай збліжэння вуснай і літаратурнай форм мовы, укараненнем моўных форм ветлівасці (цяпер іх у японскай мове больш, чым у якой іншай),

распрацоўкай стандартаў дзелавых і персанальных пісьмоўнікаў. Ну, і заняліся слоўнікам, сталі ўпарадкоўваць яго і ўводзіць у машынную памяць.

Але гэта яшчэ не ўсё. З той жа мэтай, з мэтай пераадолення маральна-псіхалагічных наступстваў вайны пайшлі ў народ літаратары — празаікі і паэты, сталі весці на прадпрыемствах своеасаблівыя мовазнаўчыя гурткі, дзе рабочыя далучаліся да азоў філалогіі, практыкаваліся ў прыгожым пісьменстве. Словам, рабілі тую справу, пра якую А. Салжаніцын сказаў: «сбережение народа».

Менавіта ўсё гэта — рэзюміраваў прафесар Раждзественскі — паслужыла «адным з асноўных вытокаў, які даў магутнае развіццё грамадскага інтэлекту і адпаведна-паслядоўна — развіццё вытворчасці, эканомікі, узроўню жыцця».

Вось такі падыход, такі погляд на японскі адраджэнскі феномен. Хочаш не хочаш, а мусіш па-новаму паглядзець на звыклую механістычную тэорыю аб першасным базісе і другаснай надбудове. Кажучы словамі песні, усё пачынаецца з любові. У тым ліку і з любові да роднага слова, да любай матчынай мовы, да месца таго, дзе (згадаем скарынаўскую мудрасць) «зродилися и ускормлены суть, по бозе к тому месту великую ласку и мають». З цудаў гэтых, з любові, з «вялікай ласкі» пачынаюцца, выходзіць, і цуды іншыя, у тым ліку і эканамічныя. Менавіта гэта меў, пэўна, на ўвазе наш выдатны мовазнаўца Павел Сцяцко, які сказаў нядаўна, што наш дабрабыт залежыць у значнай меры ад адносін да роднай мовы.

Аўтар нататак «Чаму ў нас немагчымы «эканамічны цуд»?» слушна гаворыць у заключэнне пра тое, «да якіх плачэўных вынікаў прыводзіць інфляцыя нацыянальных грошай, адсутнасць высокай матывацыі да творчай працы». Да гэтай высновы трэба яшчэ дадаць: і інфляцыя традыцыйных нацыянальных каштоўнасцей, адсутнасць высокай матывацыі да памкнення быць нацыянальна свядомымі людзьмі, быць гаспадарамі ў сваім доме, мець сваю суверэнную дзяржаўнасць.

*2003*

## СМУТКУЮ…

Чалавецтва развітваецца з адным са сваіх духоўных лідэраў — з Папам Рымскім, пантыфікам, Янам Паўлам II. Званне гэтае (папа), як вядома, азначае: айцец, настаўнік, выхавацель. Ян Павел II такім і быў напраўду. Са строгай бацькоўскай любоўю і адказнасцю, з гарачай і нястомнай, насамрэч апостальскай верай ён вучыў, выхоўваў, пераконваў, дабраслаўляў, маліўся, маліўся не толькі за вернікаў-католікаў, але за ўвесь людскі род, у тым ліку і за ўсіх нас, беларусаў. Да апошніх сваіх дзён, да апошняга, у літаральным сэнсе слова, дыхання ён натхнёна клікаў нас спадзявацца на перамогу сілаў дабра над нячыстай, д'ябальскай сілай, на ўсталяванне гармоніі ў дачыненнях веры і розуму, свабоды і праўды, годнасці чалавека і яго адказнасці, на ўмацаванне «сапраўднай і разам з тым усеагульнай этыкі, якая патрэбная сёння чалавецтву» (словы адной з яго энцыклік). Ён прароча глядзеў у будучыню, ён надзвычай любіў моладзь. У сваім апостальскім пасланні, прысвечаным Году Эўхарыстыі, ён з вялікім уздымам гаварыў пра маючы адбыцца ў жніўні гэтага года Сусветны Дзень Моладзі і звяртаўся сардэчна да яе: «І, нарэшце, шмат чаго я чакаю ад вас, дарагія юнакі і дзяўчаты, нагадваючы вам пра сустрэчу на Сусветным Дні Моладзі ў Кёльне. Выбраная тэма — «Мы прыйшлі пакланіцца Яму (Мт. 2:2)» — асабліва падыходзіць для таго, каб падказаць вам, як лепш пражыць гэты эўхарыстычны год. Нясіце на сустрэчу з Ісусам, стоеным у эўхарыстычным Хлебе і Віне, увесь энтузіязм вашага ўзросту, вашу надзею, вашу здольнасць любіць».

Так, ён, як ніхто іншы, вучыў чалавецтва верыць, спадзявацца і любіць.

Мы па праву можам ганарыцца, што былі ягонымі сучаснікамі, былі сведкамі ягонай высакароднай, падзвіжніцкай святарскай дзейнасці. Менавіта ў гэтым пачуцці прызнаваліся паломнікі-беларусы, якія мелі гонар і шчасце слухаць Яна Паўла II на Кракаўскай плошчы летам 2002 года, пачуць звернуты непасрэдна да іх, з іх бел-чырвона-белымі сцягамі, заклік «трымацца, быць мужнымі».

3 сакавіка 2000 года, на дваццаць другім годзе свайго пантыфікату, Ян Павел II, стоячы на каленях ля крыжа-распяцця, звяртаецца да свету з просьбай даравацъ касцёлу ўсе яго правіны, у прыватнасці віну за Халакост. Памятаю, якое ўражанне зрабіў адпаведны вечаровы тэлесюжэт. Менавіта тады і ўзнікла задума верша «Пра дараванне»:

Папа Рымскі просіць даравання.
Папа ўкленчыць каля ўкрыжавання,
згадвае Ісусаў Запавет…
Слухае і бачыць цэлы свет.
Чуе, пэўна, і мая краіна.
Боль кальнуў маю душу раўніва,
калі тую я пачуў імшу.
Устрывожыў боль маю душу.
Хто і як, з амбона ці на пляцы,
галаву схіліўшы пры распяцці,
на вачах сусвету усяго, —
да народа звернецца майго
ды прамовіць у глыбокай скрусе:
«Выбачайце, людзі Беларусі!..»

…На гэты раз сапраўды не трэба пытацца, па кім звоніць нам памінальны звон, па кім гучыць пахавальная малітва. Па ўсіх нас, па вялікай часціне ўсяго роду чалавечага. І хай свяціцца цяпер і заўсёды, і на векі вечныя імя яго, слаўнага сына польскага народа Кароля Вайтылы, Папы Рымскага Яна Паўла II.

*2005*

## …ПЛЮС ПАПРАЎКА НА ЧАС

Артыкул Івана Навуменкі, якім газета «Літаратура і мастацтва» пачала размову пра сучасны беларускі раман, называецца «Радасць поўная і няпоўная». Думаецца, што ўжо ў гэтых словах ёсць зерне ісціны, схоплена агульнае ўражанне ад сённяшняй беларускай буйнажанравай прозы. І сапраўды, з аднаго боку, — звяртаюся да артыкула, — вялікая колькасць буйных эпічных палотнаў, а з другога — малая колькасць аб'ёмных, запамінальных вобразаў; з аднаго боку — важныя гістарычна-сацыяльныя тэмы, а з другога — недахоп шырокіх абагульненняў; з аднаго боку, у лепшых творах — пошукі і знаходкі, а з другога, у творах горшых — ні пошукаў, ні знаходак. Карціна атрымоўваецца вельмі стракатая, супярэчлівая, з рэзкімі кантрастамі. І калі не цалкам прымаеш вывад, што «беларуская проза сёння — на вялікім уздыме», што яна «дасягнула ідэйна-мастацкай сталасці», то ніяк не можаш не пагадзіцца з другой, ужо не «канстатуючай», а аналітычнай часткай артыкула, дзе Іван Навуменка гаворыць пра недахопы і перспектывы нашай прозы. Разумееш трывогу пісьменніка, падзяляеш яго імкненне вызначыць тыя новыя задачы, якія паўсталі перад нашай прозай. І ўзнікае жаданне адгукнуцца, уключыцца ў размову, бо час для такой размовы сапраўды наспеў — і для тых, хто піша раманы і аповесці, і для тых, хто іх толькі чытае.

Я хацеў бы спачатку спыніцца на двух сцвярджэннях Івана Навуменкі — сцвярджэннях, якія падаюцца як самавідавочныя ісціны, хаця, як мне здалося, не такія на самай справе. Хачу зрабіць гэта таму, што ведаю: поспех дыскусіі, яе дзейснасць будуць залежаць ад таго, наколькі, па-першае, удасца пазбегнуць агульных месц і пропісяў і наколькі, па-другое, будзе рэальны падыход да нашай празаічнай гаспадаркі, наколькі правільнымі будуць метады і крытэрыі.

Сцвярджэнне першае. Іван Навуменка вызначае прыкметы сталасці беларускай прозы і гаворыць: «У прозу прыйшоў, як гэта было ў лепшых творах дваццатых і трыццатых гадоў, *яе законны герой — просты, звычайны чалавек*». (Падкрэслена мною. — *А. В.*) Спачатку гэтыя радкі ўспрымаеш як агульнае месца, бо вельмі ўжо часта гаворым мы пра «простага, звычайнага чалавека» ў якасці літаратурнага героя, вельмі ўжо звычныя гэтыя эпітэты. Ды і сама думка, што крыніца поспеху — у звароце літаратуры да лёсу радавых, простых людзей, здаецца на першы погляд аксіёмай, абсалютна правільнай ісцінай. Але варта «зрэагаваць», глянуць на рэчы больш крытычна — і яны паўстаюць у іншым святле.

Па-першае, ці правільна будзе сцвярджаць, што ўчарашняя беларуская проза, яе раман і аповесць, не пускала на свой парог так званага простага чалавека? Такая думка, мне здаецца, не зусім адпавядае сапраўднасці. Былі ў гэтых раманах і рабочыя, і калгаснікі, і настаўнікі. Іншая справа — як яны былі, як яны паказваліся.

Па-другое, відавочны той факт, што «звычайны» чалавек не пануе непадзельна на старонках нашых сённяшніх раманаў і аповесцей. І не толькі не пануе, а займае ў колькасных адносінах, бадай, тую ж плошчу, што і дзесяць–пятнаццаць гадоў назад. Узяць, да прыкладу, герояў рамана Івана Шамякіна «Сэрца на далоні», пра якіх таксама гаворыцца ў артыкуле І. Навуменкі. Адзін з гэтых герояў — пісьменнік, другі — масціты хірург, трэці — старшыня гарсавета і г. д. Хто яны — простыя людзі ці не простыя? Здаецца, не зусім простыя. Хаця ўвогуле можна паглядзець на гэта інакш, больш шырока. Помню, адзін стары настаўнік-праўдалюб усё дапытваўся ў мяне (не без хітрынкі, вядома): «Скажы вось ты мне, як гэта разумець: «адказны работнік»? Выходзіць, што і я, і ты, і большасць з нас — работнікі безадказныя?» Я нічога пэўнага не мог адказаць. Дык гэта ў жыцці так. У літаратуры пытанне яшчэ больш складанае.

Тым больш што тут яно мае яшчэ адзін, эстэтычны, бок — магчыма, І. Навуменка і меў яго на ўвазе. Гэта — як паказваць так званага простага чалавека. Бо яго сапраўды можна паказаць так, што ён будзе выглядаць не толькі простым, а нават прасцейшым, «аднаклетачным» — як амёба. (Дарэчы сказаць, такія «аднаклетачныя», пазбаўленыя сапраўдных чалавечых здольнасцей і страсцей, героі працягваюць жыць і сёння на старонках некаторых нашых твораў.) І можна падысці да яго, простага чалавека, так, што і каханне яго будзе «пограндиознее онегинской любви»,

і раўнаваць ён будзе мацней, чым Атэла, і ўсё яго жыццё будзе адухоўленым, поўным вялікага сэнсу. І на самай справе — ці такая ўжо простая Ганна Чарнушка, гераіня І. Мележа? Альбо Руневіч з рамана Я. Брыля ці Лазняк з «Трэцяй ракеты» В. Быкава? Альбо героі рамана А. Адамовіча? Нягледзячы на сваё самае што ні на ёсць «дэмакратычнае паходжанне», яны як бы пераўтвараюцца пад пяром пісьменніка, становяцца і глыбокімі, і складанымі, і звязанымі моцна з часам, з самой гісторыяй.

Словам, я хачу сказаць, што сацыяльнае (ці службовае) становішча героя — не той крытэрый, якім можна вызначаць ступень народнасці твора ці з якім трэба ўвогуле звязваць рост літаратуры. Справа ж не толькі і, можа быць, не столькі ў прататыпах, колькі ў характарах і абагульненнях, не столькі ў грамадскай кваліфікацыі героя, колькі ў пазіцыях пісьменніка, у тым, наколькі дэмакратычны, чалавечны яго погляд, наколькі блізкія яму ідэалы людской еднасці, сацыяльнай справядлівасці. Раман Івана Мележа «Людзі на балоце» з'явіўся значным дасягненнем нашай прозы не проста таму, што пісьменнік зрабіў сваімі героямі звычайных вясковых людзей (пісаў Мележ пра гэтых людзей і раней), а таму, што гэтыя людзі — тут Іван Навуменка мае рацыю — паўсталі «на ўвесь свой духоўны рост». І яшчэ, можа быць, таму, што Апейка, асабліва калі меркаваць па новых раздзелах «Палескай хронікі», — герой крыху іншага маштабу.

Ды і ці не пара нам увогуле перастаць захапляцца тым, што пісьменнік звяртаецца да лёсу радавога чалавека, прытым яшчэ метафізічна зразуметага ставіць яму ў заслугу гэты факт. Хіба гэта не павінна быць нормай, заканамернасцю літаратурнага працэсу нашых дзён? Хіба не «выйшлі мы ўсе з народа» — чытачы, пісьменнікі і іх героі? Гогалю, я разумею, трэба было ў свой час аддаць належнае за яго «Шынель», за яго ўвагу да «маленькага» чалавека, трэба было тое самае зрабіць і ў адрас графа Талстога, да якога, як сказана, і сапраўднага мужыка ў рускай літаратуры не было. А вось што да заслуг нашага сённяшняга літаратара, дык тут патрэбны крыху іншыя меркі і патрабаванні. Яму, як кажа прымаўка, «сам Бог велел» пісаць пра простага, звычайнага чалавека, яму інакшым быць супрацьпаказана.

Трохі спрэчным здалося мне і яшчэ адно сцвярджэнне Івана Навуменкі (зноў-такі важнае з метадалагічнага пункту гледжання). Я маю на ўвазе тое месца артыкула, дзе гаворыцца, што «новыя якасці беларускай прозы, вядома, не з неба зваліліся. Яны закладзены ў тым лепшым, што было напісана ў папярэднія

гады». Калі тут гаворка ідзе аб тым, што сучасны празаік не павінен ігнараваць вопыт папярэднікаў, а браць яго на ўзбраенне з тым, каб ісці далей, дык тады я магу пагадзіцца з аўтарам артыкула. Але калі ён хоча сказаць, што ёсць нейкія нязменныя, спадчынныя якасці, ёсць нейкі пэўны дасягнуты класікамі «потолок», вышэй якога наўрад ці варта ўзнімацца, то з гэтым, вядома, пагадзіцца нельга. Між тым такую логіку я заўважыў у разважаннях І. Навуменкі аб пераемнасці, асабліва там, дзе ён параўноўвае творчасць Васіля Быкава і Кузьмы Чорнага. Ніхто не адмаўляе той факт, што наша проза мае ўжо значны вопыт, мае сваю гісторыю, свае традыцыі. Але ж ці правамерна ставіць вось так творчасць аднаго пісьменніка ў залежнасць ад творчасці другога, так катэгарычна сцвярджаць, што В. Быкаў ледзь не цалкам і поўнасцю знаходзіцца пад уплывам ваенных раманаў К. Чорнага («няхай сабе яны незавершаныя…»). Мне здаецца, што І. Навуменка занадта жорстка фармулюе закон пераходу аднаго пісьменніка ў другога. Гэта з’ява больш складаная, больш праблематычная, чым здаецца на першы погляд.

Размова пра сённяшнюю нашу прозу не можа абысці, вядома, праблему нацыянальных традыцый, праблему пераемнасці. Але падыходзіць да яе, на маю думку, трэба інакш, больш рэалістычна. Традыцыі — не святыя мошчы, і няма патрэбы іх фетышызаваць, рабіць з іх культ. Ці не лепей разглядаць здабытае папярэднікамі як ступеньку, якая дазваляе ўзнімацца вышэй, як трамплін для новага скачка. Да таго ж літаратура — не навуковае вынаходніцтва: адзін вынайшаў адно, другі, працягваючы зробленае, — другое, трэці дадае сваё і г. д. Тут — кожны творца, кожны пачынае як бы з азоў, з самага пачатку, як бы зноў вынаходзіць цалкам увесь веласіпед — толькі ўжо больш дасканалы, чым ранейшы. І калі часам выяўляецца, што ёсць падобныя «веласіпеды», дык гэта яшчэ не падстава для таго, каб абавязкова гаварыць аб залежнасці, аб несамастойнасці чыйгосьці рашэння.

Наогул, як мне здаецца, трэба неяк інакш, іншым спосабам вызначаць стан літаратуры на пэўным этапе. Магчыма, што ёсць сэнс прымерваць яе і да класічных узораў, параўноўваць з творамі папярэднімі. Але тут мы параўноўваем «падобнае з падобным», і непазбежна зачараванае кола ці тупік. У лепшым выпадку высновы маюць значэнне адноснай ісціны. Больш аб’ектыўную ісціну мы атрымаем толькі тады, калі будзем суадносіць творы з самім жыццём, з патрабаваннямі часу.

Уласна кажучы, І. Навуменка так і робіць у другой частцы свайго артыкула, калі гаворыць аб недахопах і «вузкіх месцах» нашай прозы. Тут размова вядзецца з больш рэальнага пункту гледжання: жыццё — літаратура — жыццё. І вывады тут вельмі слушныя.

Асабліва важную, на мой погляд, праблему закранае пісьменнік тады, калі гаворыць аб «прымітыўна зразуметым рэалізме», аб «бяскрылай фатаграфічнасці», яшчэ ўласцівай некаторай частцы нашай прозы, і калі пытае: «Але ж ці з'яўляецца літаратура копіяй жыцця ў простым, літаральным сэнсе?» Пытанне гэтае, рытарычнае па форме, вельмі істотнае для нашай сённяшняй «вялікай прозы» па сваёй сутнасці. Гутарка ідзе аб суадносінах жыццёвага матэрыялу і асобы пісьменніка, ці, лепш сказаць, аб адносінах пісьменніка да жыццёвага матэрыялу. Хто ён, пісьменнік, — рэгістратар ці творца, мастак? Раўнадушны летапісец ці зацікаўлены суддзя, які выносіць жыццю свой прысуд?

І тут мне хацелася б падзяліцца некаторымі сваімі меркаваннямі — можа быць, залішне суб'ектыўнымі дзе-нідзе.

Гады тры таму назад у «Литературной газете» былі змешчаны дарожныя нататкі С. С. Смірнова, які наведаў Італію. У іх, у прыватнасці, расказвалася аб барацьбе савецкіх людзей у радах італьянскага Супраціўлення. Якія факты прыводзіў пісьменнік! Пра якія эпізоды расказваў ён! І вось калі я чытаў гэтыя нататкі, я, можа быць, упершыню адчуў: нічога падобнага па сваім драматызме, па складанасці перыпетый у літаратуры я не знаходзіў. Перабіраў у памяці прачытанае і зноў пераконваўся ў тым жа. Глядзеў на рознакаляровыя томікі, што спакойна стаялі на паліцы, а бачыў строй італьянскіх і рускіх партызан. І ў глыбіні душы зварушыўся быў недавер да мастацкага твора пра вайну.

Нешта падобнае, хоць, можа, і больш цвяроза, перажываю я і сёння, калі чытаю пра подзвіг і смерць Васіля Порыка, пра той кавалачак свінцу, які дасталі з сэрца забітага героя французскія камуністы і доўга захоўвалі як святыню. З такім жа ўражаннем чытаў я ў «Известиях» і пісьмы нашага земляка беларуса Аляксандра Раманава. Прачытаў і падумаў: «Такога чалавека ў нашых сённяшніх творах я не сустракаў». З той жа думкай чытаў я і нарыс пра «чалавека на дасвецці» Калмыкава з яго перакананнем: «Камунізм — гэта найтанчэйшае пачуццё чалавека да чалавека». А колькі іх, такіх дакументаў, такіх жывых сведчанняў! Пісьмы, успаміны, нарысы, аповесці…

Словам — падагульняю сказанае, — як бы ідзе спаборніцтва паміж прозай дакументальнай і прозай мастацкай, паміж жыццём рэальным і жыццём, як яно ўявілася пісьменніку. Спаборніцтва маўклівае, але ўпартае — хто каго? Хто больш зацікавіць, захопіць чытача? Хто дасць яму найбольш яркія прыклады чалавечага жыцця і чалавечай барацьбы? Хто паўней задаволіць яго маральна-эстэтычны ідэал? І хоць я, чытач, як быццам бы ведаю, што яўная перавага ў гэтым спаборніцтве на баку мастацкага слова, бо слова дакументальнае адносяць да другога гатунку і яму цяжка канкурыраваць са сваім «прывілеяваным» партнёрам, я ў той жа час не магу не засведчыць відавочны факт, што характараў, аналагічных Якіру і Калмыкаву, у нашых мастацкіх творах няма. І калі І. Навуменка пытаецца ў сваім артыкуле, ці не залішне нашы празаікі прывязваюць мастацкія характары да жывых прататыпаў, то мне, чытачу, хочацца ўсклікнуць у адказ: «Горш таго — героі некаторых твораў стаяць ніжэй за прататыпаў, за рэальна існуючыя ў жыцці характары, копіі бляднейшыя за арыгіналы».

Які вывад застаецца зрабіць мне, чытачу, са сваіхназіранняў, з тых парадоксаў, якія я адкрываю для сябе і якія ўжо, здаецца, перастаюць быць для мяне парадоксамі? Пацвердзіць, што мастацкая проза здае свае пазіцыі, не вытрымліваючы выпрабаванні часу? Пагадзіцца з тымі, хто абвяшчаў, што будучыня за «літаратурай рэпартажу»? Прызнаць, што «фізікі» маюць падставу для сваіх скептычных адносін да «лірыкаў»?

Не, такія вывады былі б занадта паспешлівыя.

Прыгадваецца адзін вельмі павучальны эпізод з навейшай гісторыі літаратуры.

У час Другой сусветнай вайны, а дакладней — у канцы 1940 года, у адной з амерыканскіх газет было змешчана інтэрв'ю, дадзенае Стэфанам Цвейгам. Эмігрант Цвейг перажываў цяжкую душэўную драму, выкліканую ваенным разгулам фашызму, і песімістычна глядзеў на літаратуру. «…Звычнай накіраванасці мастака, — гаварыў пісьменнік, — нанесены адчувальны ўдар. У каго могуць сёння выклікаць цікавасць старыя тэмы? Мужчына знаёміцца з жанчынай, яны ўлюбляюцца адно ў аднаго, завязваецца раман — раней гэта была тэма для творчасці. Яшчэ нядаўна з гэтага магло ўзнікнуць апавяданне. Але хіба можна сёння мець цікавасць да такога глупства?»

Гаворачы пра «маральнае землетрасенне», Цвейг прыходзіў да вываду аб нежыццяздольнасці еўрапейскіх літаратур, аб іх краху перад выпрабаваннямі вайны. «Тое, што людзі перажы-

ваюць зараз, — працягваў ён, — занадта страшна для непасрэднага мастацкага ўвасаблення. Таму, як мне здаецца, літаратура бліжэйшых год будзе насіць пераважна дакументальны характар, а выдуманы, уяўны свет адступіць перад сапраўднасцю…»

Іяганес Р. Бехер выступіў у адказ з артыкулам «Стойкасць». (Гэты артыкул надрукаваны разам з пераказам інтэрв'ю Цвейга ў 11-м нумары «Иностранной литературы» за 1962 год.) Ён рашуча не пагаджаўся з Цвейгам, не падзяляў яго адчаю. Палемізуючы з вывадам Цвейга, што «ні адзін геній не можа сёння прыдумаць сюжэт больш драматычны, чым наш час, і нават самы лепшы мастак павінен зноў паступіць у навучанне да вялікай настаўніцы — Гісторыі», Бехер пісаў: «Пры ўсёй нашай павазе да апошняй фразы, якая, зрэшты, прымяніма і да даваеннага часу, мы не можам пагадзіцца з першай, пагадзіцца з адмаўленнем каштоўнасці ў наш час мастацкай дасканаласці. Той факт, што вайна даказала нежыццяздольнасць пэўнага гатунку літаратуры, не змяншае нашага жадання надаць літаратуры новую сілу, новую значнасць і дапамагчы ёй выканаць сваю гістарычную місію…»

Бехер не мог пагадзіцца і з думкай Цвейга аб тым, што дакументальныя апісанні будуць адзіна магчымым жанрам будучай літаратуры. «Безумоўна, — пісаў ён, — зборнік такіх матэрыялаў узбагаціў бы нашы веды і быў бы, побач з асабістымі перажываннямі, неацэнным дапаможнікам для мастака, які задумаў паказаць нашу эпоху. І ўсё ж мы дазволім сабе яшчэ раз спаслацца на Гётэ, які поглядам, што сёння абараняе Стэфан Цвейг, супрацьпастаўляе наступнае выслоўе: хто не здолее ўзняцца вышэй за прыроду, непазбежна застанецца ніжэй за прыроду. У гэтай фразе заключаны дзве думкі, накіраваныя супраць двух скажэнняў працэсу творчасці. Перш за ўсё Гётэ патрабуе, каб мастак узняўся над *прыродай*, гэта значыць, каб мастацкае ўзвышэнне адбывалася не над ірэальнай, а над натуральнай асновай. Іншымі словамі, рэчаіснасць, а не яе эрзац служыць цвёрдай асновай для мастацкага ўзвышэння. Далей Гётэ патрабуе, каб мастак узняўся над прыродай, гэта значыць згушчаў, прымысліваў ці, наадварот, прапускаў, з тым, каб дасканалы мастацкі твор быў своеасаблівым спаборніцтвам з самой прыродай, але калі гэтае ўзвышэнне над прыродай не ўдалося, мастак, хацеў ён таго ці не, застаецца ў сферы плоскай «натуральнасці», гэта значыць ніжэй за прыроду».

Такім чынам Бехер, у адрозненне ад Цвейга з яго больш абмежаваным светапоглядам, інакш уяўляе магчымасці літаратуры.

Ён заклікае верыць пры любых абставінах у сілу мастацкага слова, у яго вялікую гуманістычную місію. Дарэчы, у тым жа артыкуле выдатны паэт з вялікай верай і надзеяй гаварыў аб савецкай літаратуры, аб яе будучыні. Некаторыя яго думкі здаліся мне асабліва сучаснымі. Няхай ён, звяртаўся паэт да савецкага пісьменніка, адкрые для нас новага чалавека — не ў дэкламацыйным абагульненні і не шляхам прымітыўнага зніжэння, а ў канкрэтным раскрыцці сіл, якія вызваляюцца ад старога і аджываючага.

З часу таго знамянальнага дыялога двух пісьменнікаў прайшло больш як дваццаць гадоў. І сёння мы бачым, наколькі былі праўдзівыя меркаванні і прагнозы нямецкага паэта, наколькі больш шырокай і слушнай была яго канцэпцыя. Узяць хаця б адзін даволі красамоўны факт. Аб жахах мінулай вайны, аб злачынствах фашызму, аб барацьбе з «карычневай чумой» расказваюць горы дакументальнай літаратуры — мемуары, дзённікі, нататкі, рэпартажы, эсэ і г. д. і да т. п. Іх пісалі (і пішуць сёння) літаратары-прафесіяналы і проста відавочцы, пішуць на розных мовах свету. Але ці азначае гэта, што тэма вайны, тэма фашызму стала манаполіяй дакументальнага жанру? Не. Наадварот, ідзе — тут зноў напрошваецца параўнанне са спаборніцтвам — інтэнсіўнае мастацка-эстэтычнае асваенне той жа тэмы, таго ж матэрыялу, «занадта страшнага для непасрэднага мастацкага ўвасаблення». Зноў-такі напісаны горы вершаў і апавяданняў, паэм і раманаў, кароткіх навел і шматтомных эпапей, выкарыстаны кіламетры кінастужкі, а мы ўсё чакаем новых і новых твораў, якія б да канца раскрывалі нам трагедыю мінулай вайны. І калі мы бываем часам незадаволеныя, загортваючы яшчэ адзін раман ці выходзячы з кіназалы, дык справа тут не ў тым, што раманіст ці сцэнарыст, можа быць, узяліся за «забароненую» тэму, а ў тым, што яны альбо збіліся на штучнасць, альбо трапілі ў «сферу плоскай «натуральнасці».

Характэрна, што нават такі стары, як свет, сюжэт: «мужчына знаёміцца з жанчынай, яны ўлюбляюцца адно ў аднаго, завязваецца раман» — служыць сваю службу, паспяхова выкарыстоўваецца, набываючы, вядома, новыя гучанні, у паказе вайны. Я ў гэтым пераканаўся яшчэ раз, калі глядзеў фільм «Пасажырка» — незакончаную работу таленавітага польскага рэжысёра Анджэя Мунка. Ці ўзяць, напрыклад, аповесці Васіля Быкава, асабліва яго «Альпійскую баладу». Каханне двух вязняў канцлагера, італьянкі і беларуса, не толькі не зніжае пафасу

твора і не здрабняе яго матэрыялу, а, наадварот, яшчэ больш падкрэслівае трагізм часу, ненатуральнасць вайны.

Словам, няма аб'ектыўных прычын для таго, каб гаварыць аб нежыццяздольнасці літаратуры і, у прыватнасці, яе вядучых празаічных жанраў перад новымі гістарычнымі ўмовамі. (Дарэчы, размовы аб крызісе рамана з'яўляюцца, на маю думку, адной з разнавіднасцей гэтай «тэорыі», яны маюць, несумненна, самую прамую сувязь з тымі песімістычнымі поглядамі, якія некалі выказаў Стэфан Цвейг.) Але ёсць усе прычыны і падставы для таго, каб гаварыць аб новых, больш складаных задачах, якія паўстаюць сёння перад пісьменнікам, аб новых, больш строгіх патрабаваннях, якія прад'яўляе яму наш час, аб «новай сіле, новай значнасці» мастацкага твора.

І Іван Навуменка — я зноў пасля свайго, можа быць, занадта вялікага экскурсу ў гісторыю літаратуры вяртаюся да прадмета размовы — мае, безумоўна, рацыю, калі ўзнімае пытанне «аб прымітыўна зразуметым рэалізме». Што грахі таіць, ёсць яшчэ такі рэалізм у некаторых творах нашай прозы — як ваеннай, так і мірнай. Чытаеш іншы такі твор і разумееш: аўтар не толькі не ўзвысіўся над прыродай, не ўзняўся над жыццём, а нават не стаў упаравень з ім, з яго галоўнымі працэсамі і тэндэнцыямі — ходзіць недзе ля падножжа гэтай аграмадзіны. І натуральна, што не знойдзеш у яго ні буйных характараў, ні глыбокай праўды жыцця, ні смелых, адзначаных яркай фантазіяй абагульненняў. Вось і атрымліваецца, што не ўсе тыя дванаццаць леташніх нумароў «Полымя», дзе было змешчана аж сем раманаў, аднолькава зацікавілі чытача. І магчыма, што асобныя нумары ён проста адклаў убок, а ўзяўся чытаць часопіс з дакументальнай аповесцю.

Якім бы мне, чытачу, хацелася бачыць наш раман — калі гаварыць не аб асобных творах, а аб рамане ў цэлым?

Такім, як ён праяўляецца ў лепшых сваіх узорах, — і яшчэ крышку лепшым.

Наш «сярэдні» раман яшчэ вельмі захапляецца расказам пра тое, як было і як бывае, а я хачу пачуць ад яго, чаму так было, чаму так бывае.

Наш «сярэдні» раман не вызначаецца яшчэ здольнасцю засяродзіцца на новых уражаннях, на новых з'явах жыцця, у прыватнасці жыцця духоўнага, — а я хачу, каб ён рэагаваў на гэтыя з'явы.

Наш «сярэдні» раман умее добра апавядаць, у яго добрая памяць і добрая назіральнасць. А я хачу, каб ён яшчэ набыў

такія якасці, як вялікая ўнутраная сіла, як інтэлектуальная значнасць.

Іншымі словамі, я хачу, каб наш раман быў для мяне не проста больш ці менш цікавым чытаннем, а нечым большым — сапраўдным падручнікам жыцця. Каб яго аўтар быў для мяне тым тонкім і мудрым настаўнікам, аўтарытэт якога ставіш вышэй за ўсё.

Што ж да пытання, які тып рамана мне, чытачу, больш даспадобы, які стыль больш перспектыўны, — дык яно мяне не вельмі турбуе. Любы тып добры, апрача сумнага, любы стыль добры, апрача нуднага. Няхай гэта будзе раман-споведзь, раман-маналог, няхай гэта будзе лірычная эпапея, няхай гэта будзе проста эпапея — але няхай гэта будзе сапраўдны раман.

Л. Талстой пісаў А. Фету ў той час, калі працаваў над раманам «Вайна і мір»: «Сапраўдныя мае пісьмы да вас — гэта мой раман, якога я вельмі многа напісаў. Як нейкі француз сказаў: твор ёсць не што іншае, як пісьмо, звернутае да ўсіх нашых невядомых сяброў». Вось хай той раман, які з'явіцца заўтра на старонках «Полымя» ці іншага часопіса, і будзе тым хвалюючым пісьмом, што адрасавана і мне, і табе, і яму, адрасавана нашым сэрцам і нашаму розуму.

*1964*

## МАРАЛЬНЫ АБАВЯЗАК ПАЭТА

Вялікі Гётэ не вельмі высока ставіў паняцці маралі. «Нават у самай глыбокай старасці, — піша яго біёграф Эміль Людвіг, — ён з поўнай свабодай выступаў супраць ісцін, якія людзі, адчуваючы набліжэнне смерці, звычайна стараюцца на ўсякі выпадак неяк прызнаць, хаця б часткова. Адважны стары, калі пры ім загаварылі пра сумленне, усклікнуў: «А чаму неабходна мець сумленне? І хто гэтага патрабуе?» Ранняя рымская рэспубліка, у якой яшчэ не было злачынцаў, гаворыць ён, была такая сумная, такая цвярозая, што ў ёй, вядома, не хацелася жыць ніводнаму прыстойнаму чалавеку. Ні хрысціянства, ні мараль не складаюць веры Гётэ. Вера яго — навука».

Калі б аўтар «Фаўста» мог прадбачыць… Калі б ён мог уявіць сабе на нейкае імгненне, як будзе выглядаць праз сто гадоў Германія, дзе захапіла ўладу ніцшэанская «бялявая бестыя», свабодная ад якіх-небудзь маральных норм, ад якога-небудзь

сумлення. Калі б ён мог уявіць, колькі злачынцаў — і якіх, якога маштабу? — будзе на яго радзіме і як весела будзе з імі і немцам і ўсяму свету, як лёгка будзе па суседстве з імі «прыстойнаму чалавеку». Калі б ён мог уявіць, як гітлераўскія малойчыкі будуць спальваць на плошчах кнігі, у тым ліку і яго, гётаўскія. Калі б ён мог ведаць, якімі вачамі будуць людзі свету глядзець пасля жахаў вайны на кніжныя паліцы, на вершаваныя тамы і да якой высновы прыйдзе адзін з яго суайчыннікаў, Тэадор Адорна, заходнегерманскі філосаф і эстэтык, які кінуў горкія словы аб тым, што пасля Асвенціма немагчыма пісаць вершы…

Калі б… Але вялікім свету гэтага, як і ўсім людзям, нішто чалавечае не чужое, яны, па словах самога Гётэ, «звязаны слабасцю са сваім векам». Не чужыя ім і памылкі. І на гэтых, часам трагічных, памылках сваіх геніяў чалавецтва вучыцца, разлічваецца за іх вялікаю цаной.

Ды гутарка ідзе не аб гэтым. І не аб тым, ці магчыма пісаць вершы пасля Асвенціма і Хірасімы. Хаця гэтае пытанне ўвогуле рытарычным не назавеш: за ім таілася глыбокая траўма, нанесеная фашызмам гуманістычнай думцы. Мы ўжо маглі пераканацца, быў для гэтага час, што і ў нашы дні вершы пісаць магчыма і што менавіта мастацтва дапамагае чалавецтву асэнсаваць трагедыю мінулай вайны, спасцігнуць злачынную бесчалавечнасць яе падпальшчыкаў і правату і мужнасць тых, хто супрацьстаяў гітлераўскай навале. Мы ведаем, у прыватнасці, калі гаварыць больш канкрэтна, якое месца займала і займае тэма вайны ў нашай беларускай паэзіі.

Гутарка ідзе аб тым, што сёння паэт ужо не можа дазволіць сабе такую раскошу, як ігнараванне маральных катэгорый. Занадта горкія і памятныя ўрокі гісторыі, занадта пераканаўчы адказ, які дала яна на пытанне: «А чаму неабходна мець сумленне? І хто гэтага патрабуе?» Такое патрабаванне стала ярка выяўленым імператывам нашага часу.

Так, Асвенцім і Хірасіма былі надзвычай жорсткім выпрабаваннем, але яны не забілі жывучы чалавечы дух, высокія ідэалы, паэзію. Пішуцца вершы, выдаюцца кнігі, знаўцы паэзіі пакланяюцца сваім любімым паэтам — мінулым і сучасным… Але ці можна сёння пісаць так, як быццам не было ахвяр канцэнтрацыйных лагераў і атамнага выбуху? Ці можна адпісвацца ідылічнымі замалёўкамі, сузіральнымі эцюдамі, агульнарытарычнымі радкамі? Ці можна? Ці маральнай была б такая бесклапотная, бяспамятная паэзія? Не і не! Тым больш калі ў свеце неспакойна,

калі над ім маячыць прывід атрутнага атамнага грыба. Максім Танк пісаў у 1955 годзе, пасля наведання Асвенціма:

Гэтага нельга ніяк
Ні даравацъ, ні забыць.
Нехта, рыдаючы,
Кліча забітага імя…
Што ж ты маўчыш, анямеўшы,
Зямля Асвенціма?
Ты не павінна маўчаць!
Трэба нам пільнымі быць!

Да такой жа высновы прыйшоў і Пятрусь Броўка ў сваім «Голасе сэрца», дзе сыноўняя жалоба (маці паэта загінула ў канцлагеры) вылілася ў рэквіем па ўсіх нявінных ахвярах вайны. А пазней Пімен Панчанка прызнаецца: «Мяне мучыць сумленне і памяць аб загінуўшых…» I выкажа ў той жа кнізе, «Пры святле маланак», трывогу:

Толькі б захаваць
Усё найлепшае,
Толькі б пахаваць
Усё найгоршае.
Бо без чалавечнасці
Не будзе і вечнасці.

А. Твардоўскі пісаў у вершы «Жорсткая памяць» аб тым, што памяць вайны, горкі ваенны вопыт непазбыўны, і таму нельга паранейшаму, з ранейшай нічым не азмрочанай радасцю «глядзець на палі і лугі». Гэта правільна псіхалагічна, гэта правільна і ў маральна-філасофскім сэнсе. I як ні сумны гэты факт, нікуды ад яго не ўцячэш. I ад яго не павінна ўцякаць паэзія. Не павінна, не мае права. Да гэтага яе абавязвае «жорсткая памяць», да гэтага яе кліча маральны абавязак.

Характэрным і сімптаматычным у пэўным сэнсе быў верш П. Панчанкі «Маім гераіням». Верш, як мы помнім, напісаны ў форме пісьма, адрасаванага былым франтавым медсёстрам. «Як мала пісаў, як слаба пра гэта пісаў я…» — прызнаецца з болем паэт. Ён, відаць, быў да гэтага таксама ў палоне ардынарнага ўяўлення, народжанага цяжкім суровым часам. А здавалася ж зусім звычайным, што вось і жанчыны ваявалі, здавалася, што так і павінна быць. Усё гэта здавалася да таго звычным, штодзённым, што і банальныя «расказцы» пра жонак паходных, палявых,

франтавых і г. д. таксама лічыліся звычайнай з’явай, якая не выклікала пратэсту. І вось прагучалі, як выбух, радкі, прарвалася скрозь тоўшчу стандартнага ўяўлення жывое пачуццё… Пачуццё абурэння тымі, «хто слюнявіць расказцы пра жонак паходных, хоць, можа, былі і яны». Пачуццё глыбокай павагі, спачування, міласэрнасці да тых, хто памагаў на вайне сваёй міласэрнасцю і пацвердзіў сваё «найвялікшае раўнапраўе… на самых крутых і высокіх вяршынях вайны», «у брацкіх магілах між самых адважных байцоў». А ў аснове — пачуццё адказнасці за лёс дзяўчат, пачуццё ўсвядомленай асабіста віны перад імі: «Дзяўчаты, каханыя, вершаў маіх гераіні, прабачце мне сёння…» Варухнулася гэтае пачуццё, пачало расці і вылілася ў хвалюючыя паэтычныя радкі.

Такі ўжо закон паэзіі — закон пераходу энергіі маральнага руху, руху душы ў адпаведную ідэйна-мастацкую якасць. «Зоркае адно толькі сэрца. Самага галоўнага вачамі не ўбачыш…» Цяжка не пагадзіцца з гэтымі мудрымі словамі.

Верш «Маім гераіням», як я сказаў, быў сімптаматычным. Ён азначаў, што ў нашай паэзіі адбываецца зрух у бок большай маральнай успрымальнасці, у бок большай чуласці, чалавечнасці. Гэты плённы працэс асабліва актыўна ішоў у апошнія гады і даў відавочныя вынікі. Зжываюць сябе вершы, якія «добру и злу внимают равнодушно». Новыя творы А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Бачылы, М. Аўрамчыка, А. Пысіна, С. Грахоўскага, А. Русецкага, творы маіх равеснікаў і самых маладых нашых паэтаў і паэтэс, у прыватнасці В. Іпатавай, Н. Мацяш, А. Разанава, вызначаюцца душэўным неспакоем, сцвярджаюць праўду, справядлівасць, добрыя пачуцці. Паказальны ў гэтым сэнсе «Маналог» А. Куляшова, дзе прагучала абвостранае пачуццё несправядлівасці, горкае, жалобнае слова аб загінуўшых таварышах. Тут жа прыгадваецца і «Размова з сумленнем» А. Бачылы.

Так выжыў я.
І стаў я нецярпімы
Да ўсіх, хто боль гатовы
прычыніць
Дзіцяці, птушцы, клёніку,
Радзіме,
Людскому сэрцу, нават цішыні.
Хто пагарджаць уздумае
цярпеннем,

Даверлівасцю, шчырай дабратой,
Хто затаптаць гатоў цябе,
сумленне, —
Той вораг твой і злосны вораг
мой.

Адкрываю апошнюю кнігу А. Русецкага «Служба святла» (звярніце ўвагу на назву, якой паэт вызначае асноўную місію паэзіі).

Сонца ззяе каронай,
шчаслівае годам спакойным,
хіба сэрца не рада жывое
спакойнаму дню?
Супраць пошласці, подласці
зноў пачынаем мы войны,
ці ж надзенеш на сэрца браню?
Не надзенеш браню…

А. Пысін, які ў сваіх апошніх вершах, як В. Быкаў у сваіх аповесцях, упарта звяртаецца да незабыўных дзён вайны, у сваім звароце да жывых прызнаецца сёння:

Хачу застацца старамодным,
Жадаю лёсу аднаго:
Быць камусьці неабходным,
Не адчуваючы таго.

Тут мімаволі ўспамінаеш дзённікавы запіс у Л. Талстога: «Адзінае, чаму можна верыць, гэта тое, што дабро — дабро, што яго можна і трэба рабіць без узнагароды».

«Сэрца паэта ўмясціла ўвесь боль чалавечы і плач», — гаворыць П. Панчанка ў вершы «Памяці М. Святлова». «Хай вас раўнадушша не саб’е», — працягвае ў другім. «Я перад вамі вечна вінаваты, усе, каму нялёгка ў жыцці», — прызнаецца ў трэцім. І гэтым вялікім неспакойным пачуццём, як лейтматывам, прасякнута ўся апошняя кніга паэта «Пры святле маланак» — кніга кніг нашых.

Усё мацней дае пра сябе ведаць маральнае пачуццё і ў вершах паэтаў так званага сярэдняга пакалення, у прыватнасці ў новых творах Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча, М. Арочкі, А. Лойкі, П. Макаля, Я. Сіпакова, Ю. Свіркі. У Алега Лойкі яно выяўляецца ў форме лірычнай споведзі:

Тут дзень пражыць па-чалавечы
Цяжэй, чым напісаць паэму.
Ды не другіх, сябе калечу
І больш перажываю нема,
Сябе суджу і дакараю
Бязлітасна суровай меркай…
Прад часам, прад людзьмі і краем
Вядзі мяне, мая паверка!..

Ніл Гілевіч звяртаецца — што яму больш уласціва — да адкрыта-публіцыстычнай манеры выказвання і гаворыць у вершы «Эгаізм есць нам душы, як іржа…»:

Навучаемся на лаўрах спачываць,
Навучаемся тыраніць дамачадцаў.
Развучаемся патроху спачуваць —
Да чужых пакут і болю далучацца.
Будзем помніць:
                    тут карэнне гора-зла.
Будзем помніць:
                    да братэрскага яднання
Не ад злобы Рэвалюцыя пайшла,
Рэвалюцыя пайшла ад
                            спачування.

Пішучы гэты артыкул, я праглядваў матэрыялы аднаго «круглага стала», прысвечанага праблеме грамадзянскасці паэзіі. Па-рознаму, з розных пунктаў гледжання, часам здалёку, падыходзяць удзельнікі дыскусіі да праблемы, але многія сыходзяцца на адным — на неабходнасці маральнага забеспячэння паэтычнага слова. «Граніцы гуманізму, дабраты, крыніцы маральнага развіцця чалавецтва павінны быць абаронены паэзіяй у імя людзей, у імя самой паэзіі», — сказаў адзін з крытыкаў, і з ім нельга не пагадзіцца.

На жаль, мы ў сваіх размовах пра паэзію часта ўпускаем галоўнае. Гаворым, напрыклад, аб той жа грамадзянскасці, а сутнасці праблемы не бачым, блытаем сапраўдную грамадзянскасць з падробкамі пад яе. А між тым не так ужо і цяжка іх адрозніць. Грамадзянскасць — гэта жывое натхненне, жывая страсць, жывая думка, жывы боль. Кан'юнктуршчына — не тое, не другое і не трэцяе. Паэт-грамадзянін унутрана пераплаўляе тэму, кан'юнктуршчык спекулюе на ёй. Грамадзянскасць — сапраўды талент нялёгкі, паэт-грамадзянін змагаецца «за

убежденья, за любовь», піша крывёю сэрца. Кан'юнктуршчык ад паэзіі ні за што не змагаецца, па сутнасці, і піша нечым рэдзенькім, падфарбаваным, пад тон крыві, ці то ў ружаваты, ці то ў чырванаваты колер. Грамадзянскасць і кан'юнктуршчыну ў паэзіі можна параўнаць адпаведна з ветразем і флюгерам. А як той і другі сябе паводзіць, скажам, у ветранае надвор'е, — мы ведаем. Ветразь змагаецца са стыхіяй, флюгер паварочваецца разам з ветрам, капіруе яго напрамкі.

Гаворым часта аб інтэлектуалізме ў паэзіі і зноў-такі зводзім размову да «вяршкоў», забываючы пра «карашкі», пра сокі, пра глебу. Пра духоўна-маральны вектар. Пра ўласцівы мастаку інтуітыўны падзел дабра і зла. Забываем вельмі павучальны ўрок вялікага вучонага-рацыяналіста нашага часу Эйнштэйна, якому, па яго словах, Дастаеўскі даваў больш, чым любы мысліцель, які лічыў, што «маральныя якасці выдатнай асобы маюць, магчыма, большае значэнне для нашага пакалення і ўсяго ходу гісторыі, чым чыста інтэлектуальныя дасягненні».

Гаворым пра народнасць паэзіі і збіваемся на тую ж дарожку, тую ж завучанасць, збіваемся на агульныя месцы. Як быццам справа ў тым, каб паўтараць толькі гэты эпітэт — народнасць. А праблема, безумоўна, ёсць. Не так даўно мы змаглі прачытаць выдатны артыкул А. Платонава пра Пушкіна і Горкага. Прывяду некалькі слоў з яго пра пушкінскую паэзію: «...Вялікая паэзія і жыццёвае развіццё чалавека, як сродак пераадолення гістарычнага чалавечага лёсу і як шчасце існавання, могуць жывіцца толькі з крыніц сапраўднасці, з практычна цеснага, цяжкога адчування свету, — у гэтым і ёсць разгадка народнага паходжання сапраўднага мастацтва».

Так, чым вышэй маральны ўзровень паэзіі, чым выразней яе чалавечая сутнасць, яе жыццёвасць, тым бліжэй яна народу, тым народней яна. Аб гэтым якраз і сведчаць лепшыя творы нашай сённяшняй паэзіі. Сведчаць, у прыватнасці, аб тым, што чалавечнасць і народнасць непарыўныя, што зварот да народных вытокаў прыводзіць да пачуцця абавязку, пачуцця справядлівасці і адказнасці, а апошнія, пераламляючыся ў мастацкім вобразе, надаюць твору сапраўды народныя сутнасць і гучанне.

***1971***

## УРОКІ ПАЭТА-ГРАМАДЗЯНІНА
### *Да 150-годдзя з дня нараджэння М. А. Някрасава*

Яго імя стала сінонімам паэта-грамадзяніна. Гэта тлумачыцца і характарам яго паэзіі, і тым, што ён, як ніхто іншы, выразна, з уласцівай яму сілай і афарыстычнасцю, вызначыў у сваіх вершах грамадскае прызначэнне паэта. Мы яшчэ са школьнай парты ведаем на памяць някрасаўскія радкі, мы часта паўтараем іх. Асабліва калі размова заходзіць аб грамадзянскасці, аб сацыяльнай скіраванасці паэзіі. На жаль, ад завучанасці і частага механічнага паўтарэння ісціны трацяць часам свой першапачатковы сэнс. Тое самае адбываецца і з паняццем грамадзянскасці. Мы тлумачым яго, кожны на свой лад, вельмі ўжо адвольна. Настолькі адвольна, што ўжо вылучаем «грамадзянскую лірыку» ў асобны жанр, аддзяляем яе ад паэзіі асабіста-лірычнай. І ледзь не зводзім грамадзянскасць да одапісу, да гучных рыфмаваных адпісак з нагоды святочнай падзеі.

Між тым адзін з урокаў някрасаўскай музы якраз і заключаецца ў тым, што сіла і веліч паэтычнага твора залежыць ад сілы і велічы яго аўтара як асобы. І яшчэ Луначарскі пярэчыў супраць штучнага адрыву аднаго ад другога ў дачыненні да Някрасава. «Някрасаў грамадзянскі паэт, — пісаў ён, — але гэта грамадзянскі паэт, у тым і ўся сіла. Слабыя паэты з моцным грамадзянскім пачуццём заслугоўваюць павагі, але рэдка прыносяць карысць! Перш за ўсё мастацтва павінна быць мастацтвам, гэта значыць павінна, паводле Льва Талстога, заражаць душэўным перажываннем мастака, запальваць нашу душу духоўным яго полымем… Патрэбна перш за ўсё, каб у душы мастака гарэла гэта полымя, каб яго перажыванне было вышэйшае за нашы перажыванні, каб гэта быў вялікі чалавек; чалавек невялікі не можа быць вялікім паэтам таму, што заражаць няма чым…»

Перачытваючы вершы М. А. Някрасава — чытаеш старонкі яго жыцця. І пераконваешся ў правільнасці гэтага сілагічнага рада: грамадзянін — паэт — асоба — чалавек, які любіць. Някрасаў быў вялікім чалавекам. Не ў сэнсе выключнасці, ідэальнасці. Мы сфальшывім, калі нават называем яго «рыцарам без страху і папроку». Бо яму быў вядомы страх. «Запугал меня с детства отец», — прызнаўся ён у адным вершы. Потым яго застрашвалі будачнікі, жандары, суд, цэнзары, царскі рэжым… Ён піша аб гэтым у сваім «Суде (современной повести)». Яму былі ўласцівыя сумненні («Злобою сердце питаться устало —

много в нем правды, да радости мало», «Плохо верится в силу добра» і г. д.) Яго пропаведзі натуральна пераходзілі ў гранічна шчырыя споведзі, у горкія, часам да бязлітаснасці самакрытычныя прызнанні («Народ! Народ! Мне не дано геройство служить тебе, — плохой я гражданин», «Мне борьба мешала быть поэтом, песни мне мешали быть бойцом», «Я настолько же чуждым народу умираю, как жить начинал» і г. д.)

Так, усё гэта так. І ўсё гэта пацвярджае толькі, што ён быў Чалавекам. Жывым. Зямным. Поўным барацьбы, пошуку, гарэння, неспакою. Ёсць яркі дакумент, які найлепшым чынам асвятляе ісціну. Чарнышэўскі пісаў 14 жніўня 1877 года з Сібіры А. Н. Пыпіну: «Калі, як ты атрымаеш маё пісьмо, Някрасаў яшчэ будзе працягваць дыхаць, скажы яму, што я горача любіў яго як чалавека, што я дзякую яму за яго добрыя адносіны да мяне, што я цалую яго, што я перакананы: яго слава будзе бессмяротная, што вечная любоў Расіі да яго, самага геніяльнага і высакароднага з усіх рускіх паэтаў. Я рыдаю аб ім. Ён сапраўды быў чалавек вельмі незвычайнай высакароднасці душы і чалавек вялікага розуму…»

Дададзім яшчэ — і чалавек вялікай любві.

Любіць, любоў… Гэта адно з асноўных слоў у слоўніку паэта. Пачуццё, дакладней, цэлая гама пачуццяў, вызначаных гэтым словам, утвараюць глыбіннае цёплае цячэнне, своеасаблівы Гальфстрым у бурным і суровым моры някрасаўскай паэзіі. Глыбіннае і шматслойнае. Тут, у гэтай плыні, любоў да маці. Любоў да жанчыны — абранніцы сэрца і да жанчыны-працаўніцы. Любоў да дзяцей і да сяброў-аднадумцаў. Любоў да людзей, перш за ўсё да працоўных, але абяздоленых, бяспраўных, да «брата-чалавека». Любоў да «зялёнага шуму» жыцця і роднай прыроды, любоў да радзімы… Любоў паэта набывае ідэйны сэнс, становіцца сімвалам рэвалюцыйнай свядомасці («За убежденья, за любовь иди и гибни безупречно») і сінонімам ідэалу («Уведи меня в стан погибающих за великое дело любви»). Пушкін аддаваў перавагу слову «праўда». Някрасаў спыніўся на «любві». Ён — чалавек другой біяграфіі і другога часу, калі некаторыя метафізічныя катэгорыі ўступаюць месца паняццям больш рэальным, маральна і сацыяльна канкрэтызаваным. Праўду можна толькі знаць ці не знаць. Любоў у самім сэрцы, яна хвалюе, непакоіць, рухае, абавязвае. «Кто живет без печали и гнева, тот не любит отчизны своей».

Прыклад Някрасава дапамагае нам зразумець дыялектыку любві і нянавісці ў грамадзянскай паэзіі, паказвае нам, што паэт не можа быць абыякавым і самазадаволеным, не можа жыць без

«смутку і гневу», калі ён здольны любіць. Мера любві — мера грамадзянскасці.

Павучальна і другое. Вучачы і прапаведуючы, паэт ні разу не стаў у позу настаўніка і не ўзняўся на катурны бясхібнага ў сваёй праваце прапаведніка. Ён быў тонкім лірыкам і быў глыбока іранічным і саркастычным у сваёй сатыры. Але галоўнае, што заўсёды прыцягвала яго ўвагу і было пастаянным прадметам яго «жгучего, святого беспокойства», — гэта драма чалавечага жыцця. У адным са сваіх ранніх вершаў ён напісаў:

Но оба вы — извозчик-дуралей
И ты, смешно причесанная дама. —
Вы пробуждаете не смех в душе моей —
Мерещится мне всюду драма.

Спачатку драма толькі мроілася, і мроілася ў акаляючым жыцці. Потым паэт усё больш усведамляе яе, перажывае яе сам, як асоба і як мастак, перажывае «пытку творческого духа». Паэт спавядаецца, прызнаецца, раскайваецца, пакутуе, спадзяецца, сумняваецца, верыць. Але ад гэтага, як ні дзіўна, толькі ўзрастае маральная сіла яго паэзіі.

Такім чынам — гэта яшчэ адно патрабаванне някрасаўскай традыцыі — слова паэта павінна адпавядаць яго ўнутранаму свету, яго душэўнаму складу. «У грамадстве, — пісаў М. А. Някрасаў у аглядзе часопісаў за 1855 год, — яшчэ бываюць абставіны, дзе вы вымушаны падаваць руку чалавеку двухсэнсоўнаму, назваць той ці іншы факт не тым імем, якога ён заслугоўвае, — у літаратуры не існуе такой нязручнасці. Літаратура не павінна нахіляцца на ўзровень з грамадствам у яго цёмных ці сумнiўных праявах. У што б ні стала, пры якіх бы абставінах ні было, яна павінна ні на крок не адступаць ад сваёй мэты — узвысіць грамадства да свайго ідэалу — ідэалу дабра, святла і ісціны!»

Паэт, юбілей якога мы сёння ўрачыста адзначаем, пацвердзіў праз гады вернасць самому сабе, сваім словам, сваёй любві да дабра і нянавісці да зла.

* * *

1. У чым, на Ваш погляд, заключаецца сучаснасць паэзіі Някрасава і якое значэнне някрасаўскіх традыцый у развіцці грамадзянскай паэзіі?

2. Што даў мастацкі вопыт Някрасава асабіста Вам як паэту?

Анкета часопіса «Вопросы литературы» да 150-годдзя з дня нараджэння М. А. Някрасава

Творчая спадчына мастака сучасная тады, калі яна захоўвае жывую сілу ўздзеяння, адпавядае нашым духоўным патрэбам. Паэзія Някрасава нязменна задавальняе адну з самых глыбокіх гэтых патрэб — патрэбу ў чалавечнасці. Звяртаючыся да Бялінскага, свайго настаўніка, паэт сказаў: «Ты нас гуманно мыслить научил». І сам Някрасаў быў і застаецца вялікім настаўнікам чалавечнасці, і мы вучымся ў яго гуманна думаць і адчуваць, любіць і ненавідзець.

Прыклад Някрасава вытлумачвае нам адзін з асноўных законаў паэзіі — закон пераходу энергіі любві, энергіі маральнага пачуцця ў ідэйна-мастацкую якасць. Яго прыклад дапамагае нам зразумець дыялектыку любві і нянавісці ў грамадзянскай паэзіі і пераконвае нас у тым, што сапраўдная грамадзянскасць можа грунтавацца толькі на гуманізме. Таму някрасаўскія традыцыі такія плённыя, таму яны самым актыўным чынам агітуюць за грамадзянскую, рэвалюцыйную паэзію.

Адказваючы на другое пытанне, дадам да сказанага вышэй наступнае. Незадоўга да смерці паэт напісаў на палях сваёй кнігі: «Наогул уласцівасць мая такая — як толькі сказаў, што асабліва займала, што здавалася важным і карысным, дык і даволі, — сумна расказваць байку». Прызнанне вельмі паказальнае. Някрасаў не любіў літаратурных «баек» і «баечак». І мне як паэту глыбока імпануе гэтая яго асаблівасць — гаварыць па сутнасці.

*1971*

## ПОДЗВІГ РАТНЫ, ПОДЗВІГ ТВОРЧЫ
*Да 50-годдзя В. Быкава*

Васіль Быкаў… Без гэтага імя цяжка ўявіць сёння нашу беларускую, і не толькі беларускую літаратуру. Вядомасць В. Быкава даўно выйшла за рамкі нашай краіны. Яго творы перакладзены на многія мовы свету — на балгарскую, польскую, чэшскую, венгерскую, нямецкую, французскую, іспанскую і інш. Колькасць перакладаў працягвае расці. Тут мы маем справу якраз з такога роду папулярнасцю, якая не толькі не мае тэндэнцыі ісці на спад ці нават трымацца на адной вышыні, а якая, з кожным

новым творам пісьменніка, усё расце і робіцца ўсё больш трывалай. Характэрна, што кантынгент чытачоў В. Быкава сталы, паважны і ў той жа час вельмі шырокі. Самую непасрэдную цікавасць да яго творчасці і яго асобы праяўляюць людзі самых розных узростаў і прафесій — ветэраны мінулай вайны, героі кніг В. Быкава, і зусім маладыя людзі, якія ведаюць вайну толькі па тых жа кнігах і фільмах, убеленыя сівізной настаўнікі і іх юныя вучні, гарадскія жыхары і працаўнікі сяла, вучоныя і людзі фізічнай працы… Аб творчасці В. Быкава заходзіць размова ў нашых пісьменніцкіх паездках па краіне, пра яго пытаюцца ў нас на сустрэчах з чытачамі. Сам ён атрымоўвае шмат запрашэнняў выступіць, на яго адрас ідзе паток пісем…

Словам — шырокае прызнанне, вядомасць, поспех. Вялікі поспех на нялёгкім шляху да розуму і сэрца чытача.

У чым сакрэт такой вядомасці, такога поспеху? Пытанне тым больш, відаць, слушнае, калі прыгадаць, што Васіль Быкаў стаў пісаць параўнаўча нядаўна, што першая кніга яго «Жураўліны крык» выйшла ў свет у 1960 годзе. Да гэтага часу многія равеснікі В. Быкава паспелі ўжо выдаць па некалькі кніг і сталі ўжо вядомымі. Біяграфія В. Быкава складвалася напачатку не так удала. Юначыя гады аддадзены вайне, пасля вайны дэмабілізацыя на яго як на кадравага афіцэра не распаўсюджваецца, і ён яшчэ доўга служыць у арміі — за мяжой, потым на Далёкім Усходзе. Дарэчы, тут, на адным з астравоў Курыльскай грады, былі напісаны першыя апавяданні, якія не ўбачылі свету… «Усю вайну, — расказвае В. Быкаў у сваёй аўтабіяграфіі, — і яшчэ дзесяць год пасля яе быў далёка ад Беларусі, але светлы вобраз роднага краю мацярынскай пяшчотай жыў у маім сэрцы. Радзіма клікала ў снах, трывожыла ў марах, напаміналa аб сабе паўзабытай матчынай мовай…»

Клікала не толькі радзіма. Даваў, відаць, ведаць аб сабе і талент мастака, які ўсё спеў і патрабаваў выйсце.

Але сакрэт у дадзеным выпадку не толькі ў таленце, а і ў той глыбока ўсвядомленай адказнасці, з якой пісьменнік падыходзіць з самага пачатку да «бастыёна вялікай праўды аб вайне» (словы з той жа аўтабіяграфіі). Нялёгка браць гэты «бастыён», непрыступна высіцца яго вяршыня, але інакш нельга: патрабуе суровая непазбыўная памяць вайны, патрабуюць мёртвыя…

Нам свои боевые
Не носить ордена.
Вам — всё это, живые.

Нам —отрада одна:
Что недаром боролись
Мы за родину-мать.
Пусть не слышен наш голос, —
Вы должны его знать.

Паказаць праўду аб вайне — значыць паказаць чалавека на вайне, паказаць, якой цаной ён здабывае перамогу, як ён змагаецца і як, натуральна, памірае. Ніхто, здаецца, не паказваў яшчэ з такой сілай, з такім глыбокім эмацыянальным і псіхалагічным пранікненнем смерць салдата, як гэта рабіў і робіць у сваіх творах Васіль Быкаў. Шмат якія старонкі б'юць па сэрцы, як акорды рэквіема, балюча адзываюцца ў ім.

Так, многія героі твораў Быкава паміраюць. Ледзьве мы паспелі палюбіць іх, як ужо надыходзіць сумная часіна развітання, як любоў наша перарастае ў боль страты. Ды ў нас няма ніякай падставы папракнуць тут у нечым аўтара, мець да яго нейкую прэтэнзію. Бо героі яго паміраюць не таму, што так захацелася аўтару, што вось ён узяў і вырашыў, пасля адпаведных ваганняў (гісторыя літаратуры ведае такія выпадкі), скончыць менавіта так свой твор. Ну, скажам, для таго, каб больш нагнясці драматызму. Не, справа тут не ў аўтарскай прыхамаці і нават не ў яго добрай ці дрэннай волі. Гэта не той выпадак, калі пісьменнік можа, не зграшыўшы супраць праўды, вырашыць: забіваць яму героя ці пашкадаваць яго, а заадно і пашкадаваць нервы чытача. Не той выпадак. Бо гутарка ідзе пра мінулую вайну. Вялікую Айчынную — для нас, Другую сусветную — для ўсяго чалавецтва. Самую знішчальную, самую крывавую з усіх 14 513 малых і вялікіх войнаў, якія адбыліся, як палічылі гісторыкі, з 3200 года да нашай эры і па наш час. Мы страцілі, як вядома, у ёй 20 мільёнаў чалавечых жыццяў. Дваццаць мільёнаў! Такой цаной была здабыта перамога. Безліч «праклятых вышынь» было на шляху да яе. І кожную з іх трэба было атакоўваць. («Што ж, атака — дужа звычайная на вайне справа».) І за кожную з іх трэба было плаціць не чым іншым, як чалавечымі жыццямі, «стратамі ў жывой сіле».

Вялікая вайна. Вялікая перамога. Вялікі подзвіг. І — вялікая цана. Адно адпавядае другому. А для літаратуры — вялікая тэма. І падыходзіць да яе можна толькі па вялікім рахунку — з вялікім веданнем і з самай вялікай маральнай адказнасцю. Другі падыход тут супрацьпаказаны. Бо ён будзе або недаравальна аблегчаны, без належнага пранікнення ў тэму, або зусім непраўдзівы, фальшывы, што яшчэ больш недаравальна.

Былы франтавік, баявы афіцэр Васіль Быкаў добра ведае, што такое бліжні бой, ведае горкі прысмак пораху, помніць, чым аплачваўся кожны подзвіг, кожны ваенны поспех. Да таго ж сёння, з дыстанцыі гадоў, многае бачыцца лепш і ў іншым святле. І натуральна, што пісьменнік падыходзіць да сваёй сталай тэмы — тэмы вайны — з пэўным маральна-гуманістычным маштабам, суадносіць вайну, яе «вялікі грымотны свет» з асобным чалавекам у шынялі, з «яго адзіным і такім неабходным яму жыццём», а перамогу — з яе цаной. Гэта не толькі яго права, гэта — і яго абавязак. Абавязак удзельніка і сведкі падзей, абавязак пісьменніка-грамадзяніна.

Многія героі В. Быкава паміраюць, дакладней: гінуць… Гіне Глечык («Жураўліны крык»), гіне Жаўтых («Трэцяя ракета»), гіне Сотнікаў («Сотнікаў»), гіне Іваноўскі («Дажыць да світання») і г. д. І тым не менш мы не можам папракнуць аўтара ў фаталізме, у тым, што яго героі, маўляў, выглядаюць занадта пасіўнымі, асуджанымі, што ім не хапае актыўнага, гераічнага пачатку. Для такой крытыкі ў нас няма падставы. Прыгадаем, напрыклад, адзін з самых трагічных па сваім гучанні твораў — аповесць «Праклятая вышыня». Усе яе героі, яе дзейныя асобы — Ананьеў, Ванін, Васюкоў, Крывашыеў, Піліпенка — гінуць. Але што ў іх агульнага з пасіўнымі ахвярамі? Нічога. Наадварот, яны, прынамсі, лепшыя з іх, смела глядзяць у твар небяспецы, з усіх сіл служаць сваёй ратнай справе. Яны гатовы стаяць насмерць. Герой другой аповесці думае за некалькі хвілін да смерці аб тым, што «застануцца жыць іншыя. Яны перамогуць, ім аднаўляць гэтую зялёную шчаслівую зямлю, дыхаць на поўныя грудзі. І кахаць. Але хто ведае, ці не залежыць шчаслівы іх лёс ад таго, як памрэ на гэтай дарозе дваццацідвухгадовы камандзір узвода лейтэнант Іваноўскі?»

…Для тых, хто ляжыць у братніх магілах, вайна скончылася разам з іх жыццём. Для жывых яна скончылася ў Дзень Перамогі. Для былога воіна і сённяшняга пісьменніка Васіля Быкава яна працягваецца. Кожны раз, калі ён пачынае свой новы твор, ён як бы ідзе зноў на вайну. І кожны раз, калі ён заканчвае свой твор, ён як бы вяртаецца з вайны — у сваё часовае перамір’е, у свой кароткатэрміновы, да наступнай аповесці, зацішак. Кожны раз… І гэта — незвычайная справа, незвычайная творчасць. Творчы акт заўсёды патрабуе вялікага напружання душэўных сіл. І тады, калі гутарка ідзе аб звычайным жыцці, аб мірным чалавечым існаванні. Якія ж, уявіце сабе, сілы, якія рэзервы ўнутранай, духоўнай энергіі патрабуюцца і выдаткоўваюцца для

таго, каб увасобіць у слове подзвіг ратны! Колькі вымагаецца ад мастака лепшай крыві яго сэрца, каб уваскрасіць для новага жыцця — жыцця ў мастацкім творы — мёртвых і каб потым, у гэтым жыцці, падзяліць з імі іх горкі лёс. Якім самаахвярным павінна быць тут пераўвасабленне! Іншымі словамі, подзвіг ратны вымагае подзвігу творчага. І мы павінны быць удзячныя пісьменніку за гэты яго подзвіг. І мы павінны аддаць яму належнае — сваю чытацкую любоў і павагу.

***1974***

## ПАЭТ — АСОБА — ЖЫЦЦЁ

Такое словаспалучэнне, як «крытычная мера» — лагічная памылка, своеасаблівы аксімарон. Але калі мець на ўвазе, што нішто так нас не дысцыплінуе, не падцягвае, не мабілізуе, нішто так не ўносіць у справы канструктыўны, цвярозы, а значыць, і крытычны дух, як гэта робіць мера, — яна тут — нястомная і вялікая рэвалюцыянерка, — то натуральнасць спалучэння гэтага паняцця з эпітэтам «крытычная» становіцца відавочнай. І разам яны могуць быць вызначэннем крытэрыю. Так што, аказваецца, патрабаванне меры адносіцца не толькі да мастацкай літаратуры, да паэзіі і прозы, але і да крытыкі.

Чаму я загаварыў пра крытычную меру?

Відаць, таму, што хацеў лішні раз звярнуць увагу: без адпаведнай крытычнай столі, крытычнай атмасферы не можа быць аднаго з важных стымулаў развіцця літаратуры. Крытыка не нараджае паэта або празаіка, але паколькі ў творчасці таго або іншага важнае месца займаюць стыхійнасць, выпадак, інтуіцыя — без гэтага, як вядома, творчасці няма, — то яна, крытыка, безумоўна адыгрывае важную ролю ў фарміраванні яго светапогляду, яго маральных, грамадзянскіх прынцыпаў. З другога боку, без крытыкі мы не можам змагацца з небяспекай правінцыялізму, якая падсцерагае заўсёды калі не ўсю літаратуру, то частку яе. Правінцыялізм, як правільна заўважана, можа праяўляцца ў форме двух захворванняў. Адно з іх — самазадаволенасць, якая ахоплівае літаратуру тады, калі ў ёй надаецца ўласнай прадукцыі значэнне, якое намнога перавышае яе сапраўдную каштоўнасць. Другая хвароба заключаецца ў тым, што нацыянальная літаратура недаацэньвае сваіх пісьменнікаў і іх месца ў сусветнай літаратуры…

Заўважу да слова, што ў нашай перыёдыцы даюць пра сябе ведаць сімптомы той або другой хваробы. У цэлым літаратурна-крытычны багаж як быццам папаўнеў, узбагаціўся, з'явіліся значныя працы, даследаванні, асобныя кнігі Адамовіча, Арочкі, Бечыка, Бярозкіна, Бугаёва, Гніламёдава, Лойкі, Каваленкі, Калесніка. Але калі ўзяць нашу перыёдыку, у прыватнасці газетную, дакладней кажучы, наш «ЛіМ», то ў яго крытычным аддзеле ў апошні час, як мы ўсе ведаем, надзвычай выразна праявіліся гэтыя абодва захворванні правінцыялізму: самаздаволенасць і некрытычнасць, беспрынцыповасць там, дзе якраз ім і няма месца, і недаацэнка — зноў-такі там, дзе можна было б якраз быць больш шчодрымі на пахвалу, на станоўчы разгляд. Не ведаю, як гэты аддзел будзе весціся надалей, але апошнія гады справа абстаяла менавіта так: пышным, зыркім цветам цвіў правінцыялізм.

І тут нам якраз і не абысціся без той крытычнай меры, пра якую я гаварыў.

Нельга нам без яе і ў другім сэнсе. Нядаўна на старонках «Литературной газеты» прайшла яшчэ адна дыскусія пра паэзію — дыскусія на тэму: «Паэзія» і «стихотворство». (Не ведаю, як лепш перакласці на беларускую мову гэтае слова. Арочка гаворыць аб другаснасці, Лойка аб шэрапісе, гэта, вядома, словы-сінонімы. Але яны не замяняюць слова «стихотворство».) Я быў запрошаны прыняць удзел у гэтай размове, ды не змог гэта зрабіць. І адна з прычын таму — збянтэжанасць ад разбежкі крытэрыяў, якая назіралася ў першых дыскусійных артыкулах — выступленнях крытыкаў Іны Растоўцавай і Сяргея Чупрыніна. Растоўцава змагаецца з, так сказаць, антылірычнымі настроямі сярод паэтаў, ратуе за эмацыянальнасць, лірызм паэзіі, Чупрынін, наадварот, выступае за эпізацыю апошняй і спасылаецца ў сваіх доказах на практыку пэўных паэтаў. Калі Растоўцава мяркуе, што «отказ от лирического переживания, попытка заменить переживание «эффектом» наблюдения приводит поэта «к поражению, к стихотворству», то Чупрынін, насуперак свайму апаненту, лічыць, што адмаўленне ад лірызму на карысць эпічнасці якраз і прыносіць паэту поспех, з'яўляецца для яго ледзь не выратаваннем ад «успевших окаменеть форм и приемов поэтического волеизъявления». Больш таго, Чупрынін знаходзіць, што такі разрыў з лірызмам не толькі станоўчы, прагрэсіўны, але нават з'яўляецца сведчаннем таго, што «дух творческого эксперимента все сильнее овладевает умами», «что идет активизация экспериментаторских поисков» і г. д.

Аб чым сведчыць такая, да камічнага дзіўная, разбежка ў падыходах да адной і той жа праблемы? Я гавару не аб рознасці поглядаў, не аб розных пунктах гледжання, я гавару менавіта аб палярнасці саміх крытэрыяў.

Аб тым, што, як пісаў паэт, «определенья поэзии нет»?

Есть очертанья у туч грозовых,
А у любви и у музыки — нет…
Вечная тайна! Сама назовись!
Кто ты, поэзия, дай мне ответ!

Так, вызначэнне паэзіі — справа нялёгкая сапраўды. Нават Бялінскі, які, як вядома, вельмі тонка адчуваў паэзію і спрабаваў не раз вызначаць яе, робячы гэта арыгінальна і пераканаўча, тым не менш не раз гаварыў аб складанасці і суб'ектыўнасці падобных спроб. «Калі двое, — пісаў ён, — пачнуць тлумачыць адзін аднаму, што кожны з іх мае пад словам «паэзія», то і выходзіць на паверку, што адзін называе паэзіяй ваду, а другі — агонь… І вельмі натуральна: калі цяжка вызначыць паэзію навуковым чынам, то яшчэ цяжэй намякнуць на яе значэнне штодзённай мовай грамадства, усім і кожнаму зразумелай».

Так, адна з прычын, магчыма, у цяжкасці самога вызначэння. Але справа не толькі ў гэтым. Справа перш за ўсё ў тым, што ў сваіх размовах і спрэчках аб нашых літаратурных праблемах, у прыватнасці аб праблемах паэзіі, мы часта выходзім з надуманых пасылак, штучных збудаванняў і забываем пра галоўны крытэрый — крытэрый жыццёвай праўды. На ўсходзе, у нашых сярэднеазіяцкіх рэспубліках, існуе і зараз так званы айтыш — спаборніцтва самадзейных паэтаў-музыкантаў. На свята ці з нейкай іншай нагоды (скажам, з нагоды гасцей) яны пачынаюць выступаць, стараючыся абыграць як мага больш фактаў з навакольнага жыцця. І вось хто больш скажа праўды, хто выступіць больш ярка, г. зн. больш праўдзіва і дакладна, — той і выходзіць пераможцам…

Патрабаванне арганічнасці, якое гучала сёння ў нашых дакладах, у прыватнасці ў выступленні Міколы Арочкі, тычыцца не толькі паэзіі, не толькі літаратуры, але і крытыкі (як бачыце, на яе распаўсюджваюцца шмат якія законы, уласцівыя мастацтву). Яно і зразумела. Суаднясенне фактаў і з'яў паэзіі з фактамі і з'явамі сённяшняга дня, з праблемамі сучаснага грамадскага жыцця, з яго духоўным і ідэйным кліматам можа якраз і праліць святло на тэндэнцыі яе развіцця, на тыя цяжкасці, якія яна, паэзія,

несумненна, перажывае ў нашы дні — дні навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Бо не сакрэт жа, што калі НТР распаўсюджвае свой уплыў на ўсе сферы грамадскага жыцця, у тым ліку і на сферу духоўную, культурную, то яна не можа не ўплываць і на светаадчуванне паэта, на змест і структуру паэзіі. Тут адной нейчай добрай ці дрэннай воляй усяго не вытлумачыш. Існуюць і аб'ектыўныя прычыны і заканамернасці.

Разглядам нашай літаратуры, з якімі мы пазнаёміліся, уласцівы рэалістычная мера, крытэрый жыццёвай праўды. Гэта несумненна добра. Але некаторыя меркаванні выклікаюць жаданне паспрачацца, выклікаюць пярэчанне... Мікола Арочка заўважае, што пачаў набываць сілу працэс эпізацыі. Дапусцім, што гэта так. Але вось яго сцвярджэнне, што гэты працэс — адна з перспектыўных тэндэнцый, — патрабуе больш пераканаўчага доказу. Не так даўно крытыка з захапленнем гаварыла аб лірызацыі прозы, разглядала такую з'яву, як з'яўленне лірычнага элемента ў празаічным творы. І разглядала яе як з'яву станоўчую, прагрэсіўную... Цяпер вось мы сцвярджаем, што паэзія імкнецца да эпізацыі і што гэта — правільны шлях. Атрымоўваецца, што паміж прозай і паэзіяй ідзе ўзаемаабмен уласцівымі ім асаблівасцямі і якасцямі, своеасабліває ўзаемапераліванне крыві? Што, проза хоча стаць паэзіяй, а паэзія — прозай? Аб чым тут ідзе гутарка — аб нейкіх сапраўды рэальных працэсах ці аб тым, што кожны жанр абнаўляецца па ўласцівым яму законе і прыкметы абнаўлення ствараюць ілюзію гэтай самай лірызацыі ці эпізацыі? Тут ёсць пытанне.

Далей. Мікола Арочка гаворыць аб тым, што паэзія апынулася перад неабходнасцю глыбока эпічнага асэнсавання працэсаў грамадскай думкі і чалавечай псіхалогіі, перад неабходнасцю выпрацоўкі спецыфічна паэмных сродкаў... Па-першае, можа ўзнікнуць пытанне: а што гэта такое — спецыфічна паэмныя сродкі? Гутарка тут ідзе аб нейкіх іманентных, унутрана-ўласцівых паэме рэчах? Ці, можа, аб фармальна-вонкавых адзнаках гэтага паэтычнага жанру? Другое пытанне: чаму толькі глыбока эпічнага, а не і глыбока лірычнага асэнсавання? Можа быць, яшчэ не выкарыстаны, не выяўлены да канца рэзервы і патэнцыяльныя магчымасці і лірычнай паэзіі, лірычнага асэнсавання сённяшняга складанага жыцця? Можа быць, бабулька-лірыка яшчэ ў стане «тряхнуть стариной» і таксама паслужыць добрую службу чалавецтву, паслужыць нам верай і праўдай? Дарэчы, Арочка амаль нічога не гаварыў аб так званай інтымнай лірыцы, лірыцы кахання. Інакш бы яму прыйшлося аддаць на-

лежнае ёй у асэнсаванні тых жа самых працэсаў грамадскай думкі і чалавечай псіхалогіі, пра якія ён піша.

М. Арочка, палемізуючы з паэтамі-лірыкамі, якія недаацэньваюць жанравыя заканамернасці, аспрэчвае іх думку, што талент вырашае ўсё. Ён тут салідарызуецца з той жа Растоўцавай, якая сцвярджае, што паэт вольны ў выбары формы, што рашае тут яго свядомая ўстаноўка. Як бы не так. Не, ён сапраўды не выцягне, не ўздыме тэму ў любой жанравай форме, — тут Арочка мае рацыю, — але ён уздыме тую тэму і вырашыць яе ў той форме, якія найбольш адпавядаюць яго таленту, яго мастацкаму выбару. І ў гэтым сэнсе талент вырашае ўсё. А калі мець на ўвазе ўвесь складаны творчы комплекс — светапогляд, грамадзянскія перакананні, характар — то ўжо дакладна, што рашаючае слова за імі — за талентам і гэтым комплексам.

Аркадзь Куляшоў напісаў сваю паэму «Хамуціус» не таму, што быццам бы пасля свядомага ўзважвання і вывучэння заканамернасцяў жанру драматычнай паэмы рашыў увасобіць тэму Каліноўскага менавіта ў гэтым жанры. А, відаць, таму, што не мог вырашыць яе ў іншай форме, што менавіта жанр драматычнай паэмы быў найбольш блізкі яму, калі ён браўся ўвасабляць вобраз героя.

І ўжо, думаю, зусім зразумела і натуральна тое, што калі Аркадзь Куляшоў, скажам, адчувае сябе лепш у жанры ліраманалагічнай паэмы, то Панчанка ці Танк — у форме лірычнага верша. Праблема формы — гэта ў канчатковым выніку праблема той жа арганічнасці, праблема творчай асобы ў паэзіі. Стыль — гэта чалавек, жанр, форма — гэта талент, творчая асоба.

Але пры чым тады тут «майстэрства», якое заключае трыяду, што вызначыла тэму нашага абмеркавання? — можа ўзнікнуць такое пытанне. Як яго разумець, калі паэт як быццам мала што вырашае адвольна ў сэнсе фармальна-выяўленчых сродкаў? Уся справа тут у тым, як разумець гэта паняцце — майстэрства. Калі разглядаць яго як умельства, як навык, як валоданне сумай адпаведных тэхнічных прыёмаў, то тады, прабачце, я асабіста не зусім разумею, што гэта ўсё такое і пры чым тут паэзія… Вершы не робяцца, вершы нараджаюцца. Так, Маякоўскі гаварыў аб тым, як рабіць вершы, гаварыў аб працы над вершам і г. д. Ён наўмысна акцэнтаваў на такой будзённай тэрміналогіі, стараючыся гэтым самым, як ён сам прызнаваўся, дыскрэдытаваць старую паэтыку. Але гаварыў жа ён па сутнасці — давайце прыгадаем — не аб рабленні вершаў, а аб іх нараджэнні, аб складаным псіхалагічным працэсе творчасці… «Я хожу, размахивая

руками и мыча еще почти без слов… Постепенно из этого гула начинаешь вытаскивать отдельные слова… Откуда приходит этот основной ритм-гул — неизвестно…» і г. д.

Вопыт Маякоўскага, пры ўсёй яго своеасаблівасці, не выключэнне. Ён у пэўным сэнсе тыповы. Такія ж або амаль такія ж прызнанні мы чулі і ад іншых. Хто гаварыў пра той жа гул, хто пра гук, хто аб прадчуванні верша, хто пра музыку ў душы, хто пра штуршок пад сэрцам, хто пра камяк у горле. Гаварылі, словам, пра нараджэнне верша, часам пакутлівае, пра яго, так сказаць, унутранае паходжанне. Так, потым былі і праца, і пошук слова, закрэсліванні і чарнільныя плямы. Але галоўнае ўжо было прадвызначана — тым гулам, тым гукам, той музыкай, тым штуршком… Іншымі словамі — рухам душы, рухам інтуітыўна-маральнага пачуцця, якія і складаюць пярвічную субстанцыю паэзіі.

Поэт, пинающий собаку,
Божусь, не вступит с тигром в драку.
И не напишет, хоть убей,
Ни «Илиад», ни «Одиссей»…
У лорда Байрона был пес,
Любимый Байроном всерьез.
«Друг самый верный, самый близкий», —
Писал о нем поэт английский…
А ты — собаку пнул ногой.
Нет, ты не Байрон! Ты — другой.

Да слова сказаць, у гэтай жартаўлівай, але мудрай эпіграме правільна заўважана паслядоўнасць, у якой залежаць адна ад другой арганічнасць паэзіі і яе грамадзянскасць, пра якія гаварылася ў дакладзе Арочкі. «Паэт, які ўдарыў сабаку, не ўступіць у бойку з тыграм…» Іншымі словамі, няма ў цябе за душой маральнага зместу — не будзеш сапраўдным грамадзянінам.

Ды гэта невялікае адступленне.

Дык вось той варыянт майстэрства, пра які я сказаў толькі што, відаць, не мае дачынення да сапраўднай паэзіі. Такое, у двукоссі, майстэрства хутчэй за ўсё спадарожнічае вершатворству, паспрабую ўжыць гэтае слова, тым адмысловым копіям, якія, як б’е трывогу Мікола Арочка, шырацца і растуць. А капіраванне, копіі ў паэзіі — з’ява, вядома, ненармальная. Я гутарыў з вядомым нашым матэматыкам, акадэмікам Яругіным. Мікалай Паўлавіч гаворыць: «Роля асобы, аўтарскай індывідуальнасці ў

паэзіі безумоўна важнейшая, чым у навуцы. Праўда, творчасць Лабачэўскага, Эйнштэйна, Каралёва — таксама з'ява рэдкая. Але яна даступная пасля іх многім, чаго нельга сказаць аб паэзіі, аб літаратуры. «Ціхі Дон» ці «Новую зямлю» скапіраваць нельга. І ў гэтым шчасце пісьменнікаў — іх выратоўвае непаўторнасць».

Быць непаўторным, быць самім сабой у сваёй творчасці — ці не ў гэтым і заключаецца сапраўднае майстэрства? Ці не ў тым, каб тваё слова было максімальна дакладным адэкватам тваёй справы, твайго пачуцця, твайго жыццёвага кроку, твайго грамадзянскага клопату. У дакладзе Арочкі называўся верш Пімена Панчанкі «Творчасць», які, як вы помніце, пачынаўся сумнавата-элегічнай нотай: «З паэзіяй мне развітацца пара…», а канчаўся па-баявому мужнымі радкамі: «Не здамся! Бяссоннаю працай спалю сябе, ды ад праўды я не адступлюся. І словам я сцверджу ўсё, што люблю ў народзе сваім і ў сваёй Беларусі». Мяне, помню, асабліва ўразілі гэтыя радкі. Уразілі адной нейкай таямнічай, незвычайнай асаблівасцю. Як быццам бы ўсе знаёмыя словы: бяссонне, праца, праўда, сцверджу, люблю, народ. І стаяць яны як быццам у знаёмым парадку — ніякіх асаблівых змяшчэнняў і інверсій. І, можа, нават залішне гучныя яны для верша-споведзі. І ў той час — іх прымаеш сэрцам, яны хвалююць, яны выклікаюць суперажыванне… У чым справа? — думаў я. Гэты таямнічы «ларчык» калі не проста, то ўсё ж адкрываецца і сведчыць аб тым, што сапраўдная паэзія там, дзе сапраўднае пачуццё, дзе, як гаварылі класікі, ёсць агонь душы, жывы, рэальны змест…

Прывяду і яшчэ адзін, супрацьлеглы факт, са свету нашага ўспрымання паэзіі. На днях дачка заяўляе, што не хоча вучыць верш, дакладней, страфу з верша, якую выбрала для яе настаўніца да нейкага школьнага мерапрыемства. Чаму? — Бачу, што верш не падабаецца. Пытаюся, чаму не падабаецца. Ты вось паслухай, кажа яна, што гэта за верш, і чытае, трохі наўмысна націскаючы:

А грозны наблізіцца час,
не знойдзе Заслонаў спакою,
праз нетры прыскоча да нас,
сціскаючы верную зброю…

Яе ж каментарый: «Што ён заяц, што прыскоча… Непрыгожы верш».

Я згадзіўся з ёй. Верш цяжка чытаецца, не ўспрымаецца ні зрокава, ні слыхам: «праз нетры прыскоча…»

Так, мы забываемся часам, што паэзія, не скажу — прыгожая славеснасць, бо гэты тэрмін гучыць трохі па-эстэцку, скажу: хлеб духоўны, хлеб для душы чалавечай. І колькі трэба клопату і любві, каб хлеб гэты быў належнай якасці, каб адпавядаў запатрабаванням нашага сучасніка.

«Паэт — утысячароны чалавек». Творчасці сваёй ён належыць усімі фібрамі сваёй душы. Ён неаддзельны ад сваёй чалавечай сутнасці, ад сваёй асобы. Яго ж асоба, яго характар, яго пераконанні, яго светапогляд звязаны з жыццём. І вось пакуль у гэтым ланцугу — паэт — асоба — жыццё — усе элементы непарыўна злучаны, пакуль паміж імі падтрымліваецца дзейсная — як прамая, так і зваротная — сувязь, слова яго будзе напоўнена жывым паэтычным зместам, будзе свяціцца вялікім ідэйна-маральным і грамадзянскім сэнсам. Калі ж гэтая сувязь парушаецца і адбываецца замыканне — слова перастае жыць і свяціцца, яно робіцца «кимвалом бряцающим». А чалавеку, а народу нашаму патрэбны словы жывыя, словы, якія хвалююць, узбагачаюць, спрыяюць яму ў яго будні і святы.

*1975*

## ПУНКТЫ ПЕРАСЯЧЭННЯ

За акном падае снег… Снежань… Я гляджу ў акно і прыгадваю, што менавіта ў такую пару, недзе ў сярэдзіне снежня, у канцы года, пазнаёміліся ўпершыню мы з Андрэем Германавым на пероне мінскага вакзала… Балгарскі госць пачаў да гэтага часу перакладаць з беларускай мовы, у прыватнасці творы нашай класічнай паэзіі, і, выкарыстаўшы першую магчымасць, прыехаў у Беларусь, каб пазнаёміцца з ёй, радзімай паэтаў, вершы якіх прыйшліся яму па душы. І вось такое, хоць напачатку і вельмі кароткае, знаёмства адбылося. Апрача ўсяго іншага госць, паўднёвы славянін, убачыў нашу зіму, наш снег (гэта было ў 1967 годзе, калі зіма яшчэ была снежнай). Мы тут як гаспадары паспрыялі яму, павезлі ў Дом творчасці, што пад Мінскам, у лесе, паказалі заснежаны лес… І ў выніку потым у А. Германава з'явіўся верш «Беларускі снег», вядомы ўжо нашаму чытачу ў перакладзе Ніла Гілевіча.

Над прасторам анямелым,
над гуртамі срэбных стрэх —
кружыць дзіўны, кружыць белы,

беларускі кружыць снег.
Можаш змераць сто і дзвесце
белых сцежак у бары —
толькі спынішся нарэшце
на глухім лясным двары…

(Гэты верш, дарэчы, быў адзначаны, пасля надрукавання ў балгарскім «Дні паэзіі», як адзін з лепшых твораў зборніка.)

Роўна праз два гады, гэта значыць недзе зноў у сярэдзіне снежня, Андрэй Германаў яшчэ раз прыехаў у Мінск. І мы чыталі яму па-беларуску яго «Беларускі снег», а ён нам па-балгарску — нашы вершы. Ён ужо пераклаў апрача твораў Я. Купалы, Я. Коласа і М. Багдановіча вершы П. Броўкі, А. Куляшова, Н. Гілевіча, А. Грачанікава, аўтара гэтых радкоў… Нягледзячы на істотныя граматычныя адрозненні дзвюх братніх моў і звязаныя з гэтым пэўныя цяжкасці пры перакладзе (балгарскі паэт, напрыклад, не можа аперыраваць у рыфмоўцы флексіямі, не ўласцівымі яго мове), пераклады А. Германава гучалі тым не менш неяк вельмі натуральна, адпаведна, былі гранічна блізкімі да арыгіналаў — і па сутнасці, і па форме.

Словам, знаёмства працягвалася, сяброўства, чалавечае і творчае, умацоўвалася. Памятаю, што менавіта ў адзін з тых снежаньскіх вечароў я зрабіў першую спробу перакладаць з балгарскай мовы, дакладней кажучы, стаў перакладаць вершы Андрэя Германава. І тут, неяк незаўважна для сябе самога, адчуў сябе раптам сааўтарам цудоўных, эмацыянальна выразных і ў той жа час па-філасофску глыбокіх радкоў пра траву: «Ах, як расце яна! Няўмольна. Як прагне вышыні! Няўтольна. Адкуль такія ў яе сілы, што, як бы толькі не касілі, якія б ні тапталі боты, якія б ні пяклі спякоты, — яна зноў ззяе ў расе і зноў расце, расце, расце!..» Я быў удзячны аўтару арыгінала за хвіліны шчаслівага творчага суперажывання і зразумеў тады, што менавіта ў такім вось суперажыванні і заключаецца адзін са стымулаў так званага мастацкага перакладу. Заўважу, да слова, што пазней, калі я ўжо меў пэўны перакладчыцкі вопыт, я яшчэ зразумеў (і пісаў пра гэта А. Германаву), што перакладаць твор сябра — гэта значыць і браць на свае плечы частку сяброўскай ношы, запрэгчыся з ім, кажучы па-балгарску, у «един ярем».

Былі сустрэчы снежаньскія, Андрэй Германаў бачыў Беларусь зімовую, такой яна адлюстравалася ў яго вершах. А потым, у наступны свой прыезд, ён убачыў яе, нарэшце, у вясновым святле, у маёвай зелені. Гэта быў май 1972 года, былі памятныя дні бал-

гарскай літаратуры ў БССР, у якіх прыняў удзел разам са сваімі калегамі Д. Ангелавым, Н. Вылчавым, І. Давыдкавым і Андрэй Германаў. Гасцяванне на гэты раз выйшла за рамкі літаратурнага асяроддзя; па адным з маршрутаў дэкады А. Германаў паехаў па рэспубліцы, меў магчымасць глянуць на яе шырэй, сустрэцца з чытачамі — рабочымі, калгаснікамі, настаўнікамі, студэнтамі… Вярнуўшыся на радзіму, ён з захапленнем і ўдзячнасцю пісаў у газеце «Пулс» пра свае ўражанні. Напісаў пранікнёны верш, прысвечаны Хатыні. Увогуле — парадніўся з Беларуссю, з яе літаратурай, яе паэзіяй. Аднойчы ён паведамляў мне, што, будучы праездам у Маскве, сустрэў там выпадкова беларускую пісьменніцкую дэлегацыю… «Дыхнула на мяне нечым мілым, простым, цёплым, і апаліла пякучая настальгія. Захацелася ў Беларусь! Ніхто не забыты, нішто не забыта!»

Цяпер, я спадзяюся, зразумела, колькі ёсць важкіх падстаў для выдання гэтай кнігі. Яна — не проста адзін з чарговых перакладных зборнікаў паэзіі, гэта яшчэ і канкрэтны вынік жывога творчага супрацоўніцтва, акт нашага сяброўства, нашай супольнасці.

Але справа не толькі ў гэтым. Калі б нават адсутнічалі тыя прычыны і абставіны, пра якія ішла размова, вершы Андрэя Германава ўсё адно павінны былі б рана ці позна стаць здабыткам беларускага чытача. Бо інакш яго ўяўленне аб сучаснай балгарскай паэзіі было б няпоўным. Яна, гэтая паэзія, сёння вельмі разнастайная, багатая на імёны, таленты, пошукі. Але тым не менш Андрэй Германаў у ёй не губляецца, ён займае сваё адметнае месца, яго ні з кім не зблытаеш. Ды гэта, уласна кажучы, і натуральна. Інакш і не можа быць, калі гутарка ідзе пра сапраўднага паэта — паэта, які свеціць сваім уласным, а не адлюстраваным святлом. Эпітэт «сапраўдны» найлепш стасуецца з імем Андрэя Германава. І, бадай, найлепшым характарызуе яго як паэта. Помню, што калі я ўпершыню знаёміўся з яго вершамі, то перш за ўсё кінулася ў вочы і падкупляла ў іх менавіта гэтая вось сапраўднасць, прысутнасць рэальнага, жывога, я б сказаў, дзейнага пачатку. (Спадзяюся, што ўсім нам, хто перакладаў кнігу, удалося гэты пачатак перадаць.)

Урэшце, сакрэту тут асаблівага няма, зноў-такі. Як вядома, лепшая творчая манера — адсутнасць усякай манеры. Андрэй Германаў не мае патрэбы ні ў яўнай паэтычнасці, ні ў стылізацыі, ні, тым больш, у дзяшовым арыгінальнічанні. Для гэтага ён занадта сур'ёзна глядзіць на паэзію, занадта давярае ёй сябе як

чалавек, грамадзянін, асоба. Вершы для яго — гэта яго эмоцыі, яго роздум, яго радасць і яго боль, яго жыццё. Ён стварае іх па сваім вобразу і падабенстве. Што гэта так, ён прызнаецца сам, гаворыць пра гэта ў сваіх вершах («Гісторыя гэта бясконца старая», «Хітрун», «Усмешка» і інш.). Што гэта так, я мог асабіста пераканацца, калі пазнаёміўся з ім бліжэй у яго роднай Балгарыі. (Балгары — народ гасцінны. Андрэй Германаў тут не выключэнне. Ён запрасіў у госці: «Прыязджай, калі ласка… Паездзім па маёй камяністай зямельцы…» Сустрэўшы, пасадзіў побач на сваю машыну і павёз па краіне, паказваючы і расказваючы…)

У лірыцы паэта можна выдзеліць (умоўна, вядома) дзве плыні — патрыятычную і маральна-філасофскую. Да першай адносяцца вершы, прысвечаныя непасрэдна Балгарыі, яе мінуламу і сённяшняму, яе героям і яе звычайным працоўным людзям, яе гарам і яе далінам… Падарожнічаючы з Андрэем па яго «камяністай зямельцы» (лепшага падарожжа я не ўяўляю!), я ўвачавідкі пераконваўся, якая арганічная для яго тэма радзімы, як закаханы паэт у яе, як помніць яе мінулае і бачыць яе сённяшні і заўтрашні дзень… У музеі Васіля Леўскага ён спыніўся перад партрэтам рэвалюцыянера, з захапленнем глядзеў на яго і гаварыў мне: «Ты паглядзі толькі! Ты толькі паглядзі, які прыгожы чалавек!» І потым, па дарозе, гаварыў пра верш Хрыста Боцева, прысвечаны гібелі Леўскага, потым заспяваў гайдуцкую песню… Другім разам, калі размова зайшла пра мае балгарскія ўражанні, ён прызнаўся: «Была б у мяне магчымасць — я б запрашаў адусюль усіх сваіх сяброў і паказваў бы ім сваю Балгарыю». Думаю, што самым вялікім адкрыццём майго балгарскага падарожжа гэта была незвычайная, сапраўды сыноўская, пяшчотная любоў паэта Андрэя Германава да сваёй Балгарыі — пачуццё, якое напаўняе яго вершы.

У сваіх «Нататках аб творчасці аднаго пакалення балгарскіх паэтаў» Н. Гілевіч зазначае, што самая характэрная і каштоўная якасць А. Германава — абвостраная сумленнасць. Бадай, гэтая якасць і вызначае другую плынь лірыкі паэта — маральнафіласофскую. Тут паэт, зноў-такі, верны сам сабе. Вершы яго падобны на аўтара, аўтар падобны на свае вершы — патрабавальныя, неспакойныя, дзейныя… І, дадам яшчэ, вельмі падобныя на тыя выказванні, якія гучалі з вуснаў Андрэя Германава ў час нашага сумеснага падарожжа ад Сафіі да Варны.

Ёсць у А. Германава пранікнёны, элегічны па настроі верш, які называецца «Я, твой друг». Паэт, гаворачы пра сваё жыццё, пра яго хуткаплыннасць, піша:

Абрысы тонкія яго ўбачыць можна
толькі ў пунктах перасячэння
з жыццямі другіх людзей…

Ацэнім па вартасці гэтае высакароднае, чалавечнае прызнанне нашага добрага сябра, выдатнага балгарскага паэта.

*1974*

## ВОБЛІК ЧАЛАВЕКА — ВОБЛІК ЧАСУ
*Гутарка пра паэзію з матэматыкам Мікалаем Яругіным*[1]

А. В я р ц і н с к і. Я ўдзячны, Мікалай Паўлавіч, «Литературной газете», па ініцыятыве якой змог пазнаёміцца з Вамі бліжэй… Я ведаў Вас і раней не толькі як матэматыка, але і як чалавека, які цікавіцца літаратурай і мастацтвам, сябруе з пісьменнікамі. Ведаў, што пры ўсёй Вашай занятасці Вы і самі часам бярэцеся за пяро. Вы напісалі аповесць пра ленінградскую абарону, у якой прымалі ўдзел. А іншы раз, калі я не памыляюся, звяртаецеся і да вершаванай мовы?

М. Я р у г і н. Так, бывае… Неяк захацелася падзяліцца сваімі пачуццямі з аднапалчанінам, выказаў іх у вершы, які так і назваў «Пісьмо сувязному». Мой друг акадэмік Красоўскі піша мне часам пісьмы ў вершах, я раблю спробы адказваць гэтак жа. Да юбілею Кандрата Крапівы я прысвяціў яму вершаванае прывітанне…

А. В я р ц і н с к і. Той факт, што матэматыкі часцей пішуць вершы, чым вучоныя іншых прафесій, відаць, не выпадковы. Ці не пацвярджае ён выказаную некім думку, што паэзія ўзнікае з плённай спрэчкі паміж матэматыкай і музыкай?.. Ну ды гэта між іншым. Я хацеў сказаць, што наша з Вамі знаёмства было для мяне вельмі карысным. Я меў магчымасць лепш зразумець свет вучонага, склад яго мыслення, адносіны да літаратуры і мастацтва.

М. Я р у г і н. Мяркую, што Вы больш не адносіце мяне да прыхільнікаў «матэматызацыі» паэзіі?

А. В я р ц і н с к і. Не, Ваша пазіцыя тут праяснілася для мяне. Асабліва калі я прачытаў Вашы заўвагі на палях свайго зборніка. Ну, вось гэтыя, напрыклад: «Паэзія накопліваецца ў душы і потым знаходзіць выхад у слове», «Раўнадушнасць і паэзія — антыподы, альбо — альбо…», «Машыне гэта не пад сілу — убачыць цэнтр цяжару жыцця». Павінен прызнаць, што

наконт «цэнтра цяжару жыцця» Вы вельмі добра сказалі. Здаецца, паэзія менавіта з гэтым «цэнтрам» і мае справу. І менавіта недзе тут праходзіць водападзел паміж ёй, паэзіяй, і ўсякімі сурагатамі і падробкамі пад яе.

М. Я р у г і н. Матэматызацыя паэзіі — ідэя, можа быць, найбольш фантастычная і неразумная: настолькі складаная псіхіка чалавека ў той сваёй частцы, якая нараджае паэзію, мастацтва.

А. В я р ц і н с к і. Вы маеце рацыю. Але тым не менш ідэя гэта, дакладней кажучы, ідэя штучнага розуму, штучнага інтэлекту даволі актыўна дэбатуецца ў друку. Толькі ў апошні час трапіліся мне на вочы два інтэрв'ю на гэтую тэму з вядомымі вучонымі — з М. М. Амосавым і В. М. Глушковым. І логіка разважанняў, напрыклад, апошняга з іх, акадэміка Глушкова, такая: не існуе працэсу перапрацоўкі інфармацыі, які б не мог быць узноўлены ЭВМ. А паколькі любая, без выключэння, творчасць урэшце таксама перапрацоўка інфармацыі, то… Вывад тут як тут.

М. Я р у г і н. Бачыце, можна прыняць гіпотэзу, што ўдасца стварыць машыну і навучыць яе пісаць так, як пісаў Пушкін. Але, па-першае, для гэтага спатрэбіцца вялікая праца. Па-другое, прыйдзецца амаль нанова гэтую працу перарабіць, калі спатрэбіцца навучыць гэту машыну пісаць так, як пісалі Ясенін ці Купала.

А. В я р ц і н с к і. А па-трэцяе, можа ўзнікнуць пытанне: паколькі Пушкін і Купала ўжо ёсць у прыродзе, паколькі яны ўжо існуюць у, так сказаць, натуральным выглядзе, дык навошта іх узнаўляць штучна, навошта іх капіраваць?

М. Я р у г і н. І так у кожным асобным выпадку. Дапусцім, што мы навучылі машыну абыгрываць у шахматы чэмпіёнаў свету. Мы далёкія ад такой думкі, але дапусцім. Варта, аднак, хаця б ледзь-ледзь змяніць правілы гульні ці ўвесці замест адной-дзвюх пешак другія фігуры, як машына пачне адразу прайграваць. Але ж у кожнага паэта свае «правілы гульні». Кожны з іх адчувае і бачыць свет па-свойму. І тут машынам не ўгнацца. Я думаю, што лепш пакінуць паэзію паэтам, а машынам даручыць другія, пасільныя для іх, задачы.

А. В я р ц і н с к і. Шчыра прызнацца, дык «здань» электроннага калегі мяне асабіста не вельмі і палохае. Размова пра яго зайшла ў палемічным запале. І калі ўжо гаварыць пра гэтую самую «матэматызацыю», дык існуе больш рэальны аспект праблемы… Вы, напэўна, чыталі і памятаеце выступленне ў «Литературной

газеце» пісьменніка Я. Богата[2], яго нарыс «Урок»? Ведаю, што такія матэрыялы Вы без увагі не прапускаеце.

М. Я р у г і н. Артыкул Богата я чытаў і лічу, што пытанне ставіцца правільна.

А. В я р ц і н с к і. І сапраўды, дзеці жывуць у тыпова сучасным горадзе, жывуць ва ўмовах дасягненняў навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, з першага класа авалодваюць матэматычнымі катэгорыямі, элементамі алгебры, і ў той жа час…

М. Я р у г і н. І ў той час ім востра не хапае для ўсебаковага развіцця вітаміну «М» — маральнасці?

А. В я р ц і н с к і. Так, гутарка ідзе менавіта аб гэтым, аб вітаміне «М». Можна назваць яго і другой літарай — «Д» (духоўнасць). Дзіўная рэч. Калі мы гаворым аб акселерацыі, аб паскораным развіцці дзяцей, аб іх вялікіх інтэлектуальна-псіхічных магчымасцях, то, як правіла, чамусьці зводзім гэтыя магчымасці да здольнасці малалетніх грамадзян авалодваць ведамі і перш за ўсё ведамі матэматычнымі. І чамусьці ўпускаем з поля зроку іншае — прыроджаную, натуральную гатоўнасць (і псіхічна-разумовую, і эмацыянальную, і г. д.) тых жа дзяцей авалодваць азамі маралі, жыццёвай мудрасці, чалавечнасці. І, можа быць, ігнараванне такой гатоўнасці ў нашай жыццёвай і школьна-педагагічнай практыцы і з'яўляецца адной з галоўных прычын той сітуацыі, якая апісваецца ў нарысе Богата.

М. Я р у г і н. Прызнаюся, што я таксама крыху скептычна гляджу на залішняе захапленне матэматычным ухілам у навучанні. Бетховен, калі яму трэба было падлічыць ганарар за дваццаць адзін канцэрт, спрабаваў гэта рабіць шляхам складання. Множыць ён не ўмеў і з глыбокай пашанай глядзеў на людзей, якім гэта было пад сілу. Тым не менш ён заставаўся Бетховенам… Гэта з аднаго боку. З другога — у навучанні і выхаванні патрэбен і яшчэ адзін вельмі важны вітамін «Л» — любоў. Без любові і павагі не выхаваеш чалавека ў духу любові і павагі да другога чалавека.

А. В я р ц і н с к і. Доктар Спок[3] заўважыў, што нават адна з прычын крадзяжу ў дзяцей — у недахопе любові і ўвагі да іх.

М. Я р у г і н. Вельмі сумная ісціна… Я б дапоўніў яе так: не ў меншай меры любоў да дзяцей патрэбна і нам, дарослым. Я часам гавару: «Хочаце быць здаровымі — любіце дзяцей!»

А. В я р ц і н с к і. Гутарка ідзе, натуральна, пра здароўе ў шырокім сэнсе слова? Правільна я Вас зразумеў?

М. Я р у г і н. Правільна. Маецца на ўвазе ўвесь комплекс «вітамінаў», якія мы называлі.

А. В я р ц і н с к і. І тут нямала залежыць ад літаратуры, ад яе здольнасці ўплываць на маральна-духоўны тонус чалавека і грамадства.

М. Я р у г і н. Так, значэнне літаратуры тут вялікае, вялікая адказнасць пісьменніка. Нам яшчэ малазразумела — і ў прыродзе, і ў паводзінах чалавека — таямніца ўнутранага катэгарычнага імператыву. Нам лягчэй вытлумачыць эгаізм, чым альтруістычныя намеры і ўчынкі. Тым больш настойліва павінна літаратура звяртацца да добрых пачаткаў у чалавеку, да яго маральнага пачуцця.

А. В я р ц і н с к і. І ў гэтым сэнсе яе прызванне і яе асноўная скіраванасць застаюцца ўсё тымі ж, незалежна ад «матэматызацыі», ад НТР?

М. Я р у г і н. Думаю, што так. А які ваш пункт гледжання?

А. В я р ц і н с к і. Я яго, бадай, ужо выказаў у сваім пытанні. Дадам яшчэ, што я не падзяляю спробы патрабаваць ад паэта, мастака, каб ён перабудоўваў свой творчы метад адпаведна з метадамі навуковымі, матэматычнымі. Маўляў, у эпоху НТР інакш нельга. Так ставіць пытанне, мне здаецца, проста неправамерна. Калі ў свой час Павел Антакольскі выступіў у «Литературной газете» з артыкулам «Паэзія і фізіка», дзе выказаўся ў тым сэнсе, што паэт павінен ведаць тайны «зялёных успышак», павінен быць, як Ламаносаў, яшчэ і фізікам, то я, пачынаючы тады паэт, не ўтрымаўся і ўступіў у палеміку. Я, помню, адказваў у сваім пісьме ў рэдакцыю, што, магчыма, пісьменніку небескарысна, а часам і патрэбна заглядваць у лабараторыю фізіка. Але ён не павінен забываць, што сталае месца яго працы ва ўласнай «лабараторыі», дзе ён мае справу не столькі з «зялёнымі ўспышкамі» машын, колькі са ўспышкамі страсцей, гарэннем пачуццяў і ззяннем думак чалавека. Я сцвярджаў, што ў кожнага свая лабараторыя. Застаюся пры гэтай думцы і цяпер.

Гэта, вядома, не значыць, што пісьменнік павінен прыпадабняцца садоўніку са старажытнай легенды, які на пытанне, чаму ён не карыстаецца калодзежам з жураўлём, адказаў: «Калі чалавек карыстаецца машынай, то ён усе свае справы выконвае, як машына. У таго, хто выконвае свае справы, як машына, утвараецца машыннае сэрца». Гутарка ідзе пра метад, пра лабараторыю, а не пра адносіны да НТР у цэлым і да яе асобных праяў і дасягненняў. Гэтыя адносіны могуць праяўляцца па-рознаму. Напрыклад, у пэўным маральна-псіхалагічным стане паэта, у яго трывожным пытанні, накшталт таго, які гучыць у

вершы Максіма Танка: «Можа, мы апошнія паэты, хто вось так цікавіцца зямлёй?»

Зрэшты, павінен заўважыць: гэтае паэтычнае пытанне ўзнікае не толькі сёння, яно мае сваю гісторыю. Паэт мінулага стагоддзя Баратынскі таксама непакоіўся:

Исчезнули при свете просвещенья
Поэзии ребяческие сны,
И не о ней хлопочут поколенья,
Промышленным работам преданы.

М. Я р у г і н. Ад навукова-тэхнічнай рэвалюцыі мы, вядома, нікуды не дзенемся. Яе вынікі ў наяўнасці. І адзін з іх — змена спосабаў спазнання прыроды і грамадства. Але якім бы магутным ні быў матэматычны метад пазнання, не ўсё зводзіцца да матэматыкі. Як не ўсё зводзіцца да хіміі, фізікі, біялогіі. Возьмем, напрыклад, такую з’яву, як чалавечая псіхіка. Яе не так проста зразумець і вытлумачыць пры ўсёй нашай навуковай узброенасці.

А. В я р ц і н с к і. Да такой высновы прыйшоў, здаецца, і Мікалай Амосаў у сваіх спробах стварыць штучны розум.

М. Я р у г і н. Таму, я думаю, наўрад ці трэба папракаць паэзію і мастацтва ў тым, што яны як быццам бы прытрымліваюцца старых метадаў і сродкаў, і патрабаваць ад іх перабудовы. Тут і старыя сродкі добрыя.

А. В я р ц і н с к і. Асабліва калі іх прымяняць па-сапраўднаму творча, па-наватарску.

М. Я р у г і н. Так. Давайце возьмем, напрыклад, мову. Мова— гэта вельмі тонкі інструмент, які дакладна адлюстроўвае ўзровень цывілізацыі. Змяняецца лад мыслення, і разам з ім — лад мовы. Гэта добра назіраецца, напрыклад, у матэматыцы, дзе развіццё мовы і сімволікі намнога спрашчае разважанні. Матэматычныя разважанні ў часы Н’ютана і Лейбніца былі настолькі ўскладнёнымі, што мала каму былі даступныя. Цяпер жа іх лёгка ўспрымаюць многія. Праўда, для вучонага значэнне слова як такога часам бывае роўна нулю (выключаючы, вядома, вучоных тыпу Тарле, але гісторыя блізкая да літаратуры). Тут дзейнічае сіла нечакана адкрытага факта, які раптам праясняе тайну прыроды, сусвету. Для пісьменніка ж вечна старая і вечна новая музыка слова — амаль усё. Бо яна дае яму магчымасць чуць і бачыць жыццё, спасцігаць яго бясконцую разнастайнасць, пранікаць у глыбінны свет людскога мора.

А. В я р ц і н с к і. Справа, значыць, абстаіць так. Пісьменнік прыслухоўваецца да голасу свайго сучасніка, да яго мовы, у дадзеным выпадку — да мовы чалавека эпохі НТР. І пакольні, як вы гаворыце, мова не застаецца нязменнай, развіваецца разам з мысленнем, з псіхалогіяй, то літаратура якраз і выконвае тую задачу, якую павінна выконваць — цікавіцца зменамі ў псіхалогіі чалавека, у свеце яго думак і пачуццяў, прасочваць, як чалавек рухаецца ў маральных адносінах.

М. Я р у г і н. Думаю, Вы маеце рацыю. Задача літаратуры не ў тым, каб фіксаваць і папулярызаваць вонкавыя прыкметы НТР, а ў тым, каб бачыць і разумець, што адбываецца з самім чалавекам, каб паказаць яго адносіны да новай эпохі — яго захапленне ці скептыцызм, зацікаўленасць ці раўнадушнасць, бескарыслівы ідэалізм ці спажывецкую хцівасць.

А. В я р ц і н с к і. Значыць, і размовы аб адставанні літаратуры, аб тым, што яна як быццам бы здае свае пазіцыі і г. д., маюць рэальны сэнс толькі тады, калі яна адстае ад… чалавека? Не ад якіх-небудзь пэўных тэхнічных навін і навуковых адкрыццяў, а менавіта ад чалавека, які ў сваім культурным і духоўным руху вырываецца, ідзе наперад?

М. Я р у г і н. Складанасць вызначэння тут, можа быць, заключаецца ў тым, што жыццё і людзі мяняюцца і ў той жа час, на новай аснове, застаюцца ў шмат чым такімі ж, якімі былі раней. І вось атрымоўваецца, што развіццё навукі як быццам відавочнае, а літаратуры, якая мае справу з чалавекам і чалавечым жыццём, — праблематычнае. Сапраўды, што тут змянілася ў сэнсе метадаў і жанраў? Як тут вызначыць элементы развіцця? Адсталі мы ад Пушкіна і Бальзака ці пайшлі далей, наперад? Але можна паставіць пытанне і інакш: а ці трэба вырывацца наперад? Ці ёсць у гэтым неабходнасць?

Часта ўзнікае спрэчка на тэму, што вось фізікі нешта новае адкрылі, а вы, лірыкі, не адкрылі. А пісьменніку, мне здаецца, нічога новага асабліва і не трэба адкрываць. Яму застаецца «адкрываць» усё таго ж чалавека, усё тое ж жыццё людзей. У яго павінен быць адзін крытэрый — хвалюе ці не хвалюе, захапляе ці не захапляе?

А. В я р ц і н с к і. Разумею, Мікалай Паўлавіч… І хацеў бы толькі падкрэсліць, што гэта самае бачанне мастака бывае, як правіла, не простым, не элементарна візуальным, ці што, і што яно таксама адкрывае новыя светы… Інакш бы яно, напэўна, не хвалявала.

М. Я р у г і н. Вядома. Толькі навука і мастацтва адкрываюць рознае і па-рознаму. Калі творчасць вялікіх вучоных адкрывае штосьці нечаканае, глыбока схаванае ў прыродзе, у сусвеце, то ў паэзіі інакш. Яна адкрывае ў нечакана новай форме тое, што ўвогуле ва ўсіх на вачах, што ўсе добра бачаць і ведаюць, і таму здзіўляюцца: як гэта яны не бачылі самі раней?

Праўда, заўважу, адчуванне прыгожага, разуменне мастацкага адкрыцця не ўсім дадзена ў аднолькавай меры, не ўсім аднолькава даступна, і, апрача таго, яно індывідуальнае. А вось пачуццё здзіўлення новым у навуцы, захапленне адкрыццямі ў біялогіі, матэматыцы, фізіцы даступна ўсім — гэта агульная ўласцівасць людзей.

А. В я р ц і н с к і. Адсюль і крытэрый: хто адкрывае новае, а хто не адкрывае, хто апераджае, а хто адстае?

М. Я р у г і н. Але.

А. В я р ц і н с к і. Не ведаю, як у навуцы, а ў паэтычнай і ў мастацкай наогул творчасці галоўны рухавік і самая рэальная каштоўнасць — асоба мастака. Гэтым, відаць, і вызначаюцца тут і метад, і характар адкрыцця.

М. Я р у г і н. Роля асобы, аўтарскай індывідуальнасці ў паэзіі, безумоўна, важнейшыя, чым у навуцы. Вядома, творчасць Лабачэўскага, Эйнштэйна, Каралёва — таксама з'ява рэдкая. Але яна, гэтая творчасць, яе ідэі даступныя пасля іх многім, чаго нельга сказаць аб паэзіі Пушкіна ці раманах Талстога. Мастацкая творчасць глыбока індывідуальная і ў гэтым сэнсе намнога больш цяжкая, чым даволі масавая навуковая творчасць, у тым ліку і такая, што мае цяпер шырокую і трохі няпэўную кодавую назву — кібернетыка.

У навуцы вялікую ролю адыгрывае школа. Яна тут важны дынамічны элемент творчасці. У навуцы нават лягчэй, капіруючы, дапрацоўваючы, выйсці «ў людзі» і нават у вядомыя. У пісьменніка — тут Вы маеце рацыю — бачанне жыцця, свету моцна індывідуалізавана. Ды і матэрыял у яго багацейшы — неабдымны лес. Тут школа не вельмі паможа. Я падзяляю думку паэта У. Сакалова, які сказаў: «Нет школ никаких, только совесть, да кем-то завещенный дар».

А. В я р ц і н с к і. Увогуле ў літаратуры ёсць такія з'явы, як перайманне, выкарыстанне чужых матываў, эпігонства… Ды нормай лічыць іх ніяк нельга. Не так даўно адбылася дыскусія на тэму «Поэзия и стихотворчество». Гутарка, у прыватнасці, заходзіла і аб тым, што калі ў паэзіі знікае аўтарская індывідуальнасць, то разам з ёй знікае і сама паэзія.

М. Я р у г і н. Бачыце, у навуцы сур'ёзную арыгінальную працу можна разабраць, расхапаць па частках ці ўсю адразу, яна нават можа знікнуць у гісторыі (ва ўсякім выпадку, надоўга). У літаратуры, мне здаецца, такое немагчыма. «Ціхі Дон» ці «Новую зямлю» скапіраваць ці паглынуць нельга. І ў гэтым шчасце пісьменніка — яго ратуе непаўторнасць.

І справа, можа быць, не толькі ў «кем-то завещанном даре», а і ў тым, што пісьменнік намнога больш у параўнанні з вучоным залежыць ад судакрананняў з жыццём, ад кантактаў з жывой рэчаіснасцю, ад сваёй біяграфіі. Вучоны ўвесь у краіне казак і таямніц прыроды, тут ён можа і схавацца ад непагадзі, ад жыццёвых нягод. А пісьменніку хавацца няма куды, ён на ўсіх сямі вятрах жыцця.

А. В я р ц і н с к і. Ну, вось я ўжо магу, здаецца, меркаваць, які тып пісьменніка і якой накіраванасці літаратура Вам больш імпануюць, — пісьменнік з сваёй ясна выяўленай жыццёвай і маральна-філасофскай пазіцыяй і твор, дзе праўдзіва, з глыбокім хваляваннем паказваецца драматызм жыцця… Ці не так?

М. Я р у г і н. Бадай што так. Не выношу ўсялякай надуманасці і фальшу. Помню, яшчэ ў час вайны, пасля выхаду са шпіталя, пайшоў у тэатр. Ставілі якраз п'есу на ваенную тэму. Але я не мог яе глядзець. Як франтавік, я адразу адчуў: тут нешта не так, на пярэднім краі людзі так не размаўляюць, так не паводзяць сябе. І твары ў іх на вайне зусім іншыя… Некалькі гадоў таму назад «Известия» расказала пра мастака, які ваяваў, трапіў у шпіталь і, пазнаёміўшыся там з медсястрой, пакінуў у яе альбоме некалькі малюнкаў. Частка гэтых малюнкаў была змешчана ў газеце. І вось мяне ўразіла, наколькі дакладна былі схоплены ў іх твары салдат. Людзі знаходзяцца на апошняй грані нервовага напружання — і твары ў іх напружаныя, скаваныя. Я знайшоў некалькі сваіх фатаграфій — перадваенную, калі я быў маладым дацэнтам, і ваеннага часу — параўнаў іх і яшчэ раз пераканаўся ў тым жа. І калі мяне просяць іншы раз расказаць пра вайну, пра ваенныя ўражанні, я паказваю гэтыя фатаграфіі і кажу: вось нешта накшталт мендэльсонаўскай «Песні без слоў».

А. В я р ц і н с к і. Гэта Вы добра заўважылі наконт твараў… Напэўна, і наш час адбіваецца адпаведна на нашых тварах, кладзе на іх свой след, і задача пісьменніка ў тым, каб гэты адбітак разгледзець і зразумець.

М. Я р у г і н. У адным фільме пра вайну мне таксама кінуўся ў вочы воблік аднаго акцёра. Вельмі ўжо ён напомніў

мне сапраўдныя твары салдат таго часу. Тут аўтары аказаліся на вышыні… Калі я чытаю Быкава, мне падабаюцца тыя вобразы і старонкі, якія адпавядаюць майму веданню вайны. Іншы раз ён нейкіх дэталяў не прытрымліваецца — твор жа не дакументальны, — але ўражвае моцна.

А. В я р ц і н с к і. Пачакайце, пачакайце, Мікалай Паўлавіч, — як тут разумець Ваша «але»? Ці не хочаце Вы сказаць, што мастацкасць немагчыма без дакументальнай, рэальнай асновы? Ці, можа, вы наогул аддаяце перавагу дакументальнай літаратуры?

М. Я р у г і н. Не, я лічу, што сведчанне мастака важнейшае, чым сведчанне гісторыка, чым сухая зводка падзей. Калі даваць толькі дакументы, то самае важнае, можа, будзе прападаць. Я за чэхаўскі метад. Чэхаў, як вядома, раней чым апіша якую-небудзь сваю гераіню, доўга вывучае яе, яе знешнасць, рысы яе характару. І яна ў яго потым здорава атрымоўваецца. Ён быў вельмі дакладны. Я за дакладнасць. Зрэшты, справа не ў асобных дэталях, дэталі могуць быць і зменены, нешта можа быць дадумана. Гэта натуральна. У адной з кніг, якія я ў апошні час чытаў, ёсць месцы, якія аўтар наўрад ці зможа пацвердзіць дакументальна. Але тым не менш яны пераканаўчыя. Я веру аўтару.

А. В я р ц і н с к і. Значыць, справа не ў тым, каб аўтар трымаўся за факты. Чэхаў жа ішоў ад прыватнага да агульнага і ўзнімаўся ў сваіх маленькіх, іншы раз сапраўды дакладных да дробязяў, апавяданнях да вялікіх ідэйна-мастацкіх абагульненняў. Справа ў тым, што не ўсякі факт, не ўсякую дэталь бярэ мастак. Ён падыходзіць да жыццёвага матэрыялу выбіральна.

М. Я р у г і н. Так, але ў літаратуры павінен займаць належнае месца пазнавальны элемент. Без яго яна не зможа выконваць сваёй маральна-выхаваўчай задачы. Акадэмік Красоўскі, пра якога мы ўжо гаварылі, любіць наведваць Траццякоўку. Я неяк спытаўся ў яго: «Якія творы цябе больш цікавяць — старых майстроў ці новых?» Ён адказаў: «Больш гляджу былое. Мяне цікавіць, як ім уяўляўся свет у тыя далёкія часы, якія яны былі самі».

Той далёкі свет мы бачым у творах пісьменнікаў і карцінах мастакоў мінулага. І, зразумела, у творах сучаснай літаратуры мы шукаем наш свет. Таму яны павінны быць і выразнымі, і дакладнымі. Калі пра наш час не будзе напісана так праўдзіва, як пісалі пра свой час класікі, то пра нас, пра нашы падзеі і справы з'явяцца фантастычныя раманы. Але фантастыка апраўдана і цікавая тады, калі яна глядзіць далёка наперад, імкнецца прад-

бачыць, куды ідзе чалавецтва. І яна нецікавая, бескарысная і нават шкодная, калі глядзіць далёка назад. У людзей заўсёды была і застаецца вострая цікавасць да мінулага, але да мінулага сапраўднага, а не выдуманага.

А. В я р ц і н с к і. Мікалай Паўлавіч, зноў апелюю да Вашага чытацкага вопыту, да асабіста Вашых адносін з літаратурай… Вось Вы гаворыце, што мы шукаем у ёй наш свет, наша жыццё. А што менавіта шукаеце Вы ў ёй як чалавек і вучоны? Што Вас больш за ўсяго хвалюе ў ёй?

М. Я р у г і н. Што мяне больш за ўсё цікавіць і хвалюе? Подзвіг, гераічны пачатак, можа быць, тут дае знаць жыццёвы вопыт, біяграфія пакалення, да якога я належу. Помню, я пачаў быў глядзець новы тэлефільм паводле рамана Астроўскага і востра адчуў, якія жывыя і блізкія мне, былому чонаўцу, справы тых дзён, як зразумелы і блізкі мне Карчагін. На жаль, — наколькі я тут у курсе, — падобных герояў не хапае нашай сённяшняй літаратуры.

А. В я р ц і н с к і. Можа, некаторых з іх выцесніў у літаратуры і на экране «бліскучы» контрразведчык, які так бударажыць фантазію падлеткаў? А можа, прычына яшчэ і ў тым, што, пагадзіцеся, гераічнае ў нармальным, мірным жыцці мае нейкі іншы характар і праяўляецца інакш, чым у час ваенных дзеянняў ці ў дні рэвалюцыйных падзей? Тут большае значэнне набываюць некаторыя духоўныя якасці чалавека, яго перакананні і маральныя прынцыпы.

М. Я р у г і н. Я і хачу агаварыцца. Карчагін не быў выдуманы, ён быў народжаны жыццём, сваім часам. І наша літаратура таксама павінна, шукаючы свайго героя, ісці ад рэальных людзей, рэальных канфліктаў, цяжкасцей, выпрабаванняў. Сапраўдны гераізм даецца толькі ў барацьбе з антыподамі ды яшчэ ў змаганні з самім сабой. Як сіла ў рыб, калі яны плывуць супраць плыні… Подзвіг — гэта перамагчы абставіны і зло. Герой той, хто выходзіць з цяжкой сітуацыі пераможцам. Вось хай літаратура і пакажа мне такі подзвіг, такога героя.

А. В я р ц і н с к і. Вы вельмі добра вызначылі ўмовы, абавязковыя для стварэння паўнакроўнага вобраза нашага сучасніка. І калі гаварыць пра паказ гераічнага тыпу, то тут, вядома, нельга без таго, каб не акцэнтаваць на маральным аспекце гераізму, на псіхалагічным абгрунтаванні яго.

М. Я р у г і н. І паколькі гераічнае праяўляецца ў выпрабаваннях, у барацьбе са злом, то не трэба баяцца, што пісьменнік паказвае дрэннае ў жыцці. Жыццё складанае, складанае ў сваёй

разнастайнасці людское мора: дае ведаць сацыяльнае мінулае, даюць адчуваць інстынкты, біялагічныя асаблівасці чалавека, дае адчуваць уплыў чужой нам ідэалогіі… Словам, побач з добрым заўсёды бывае благое. Нам трэба выхоўваць нянавісць да нягоднікаў, да зла. А калі мы будзем пісаць толькі «прыгожыя» творы і паказваць толькі добрых людзей, зыходзячы з двухсэнсоўнай формулы: «Добрае добрае і параджае», — то нічога не атрымаецца. Выхоўваюць на параўнаннях, на кантрастах…

А. В я р ц і н с к і. Так, на таннай бадзёрасці не выхаваеш сапраўдную стойкасць і сапраўдны аптымізм. Увогуле ідыліі, як вядома, глыбокага следу не пакідаюць. У той час, як драма і трагедыя закранаюць самыя глыбокія струны душы, прасвятляюць і ачышчаюць яе.

М. Я р у г і н. Да таго ж трэба яшчэ мець на ўвазе, што літаратура мае справу з такім даволі жорсткім фактарам, як псіхалагічная разнастайнасць людзей і, значыць, чытачоў. Я ўжо казаў, што ўспрыняцце мастацкіх твораў бывае вельмі розным, яно вельмі індывідуальнае. Вазьміце сто чытачоў і апытайце іх. Выявіцца, што адны больш успрымаюць станоўчы пафас, другія — крытычны, на адных мацней дзейнічаюць дадатныя прыклады, на другіх — адмоўныя. І ўвогуле могуць быць зусім розныя падыходы і ацэнкі. Магу тут нават спаслацца на свой небагаты літаратурны вопыт. Калі выйшла мая кніга «Пра тых, хто выстаяў», я праз нейкі час гутарыў пра яе з двума знаёмымі. Адзін сказаў: «Нічога кніжка, але нешта ў вас адны дрэнныя людзі, а добрых няма чамусьці». Праз тыдзень падышоў другі і кажа: «Чаму гэта ў вас усе добрыя, а няма дрэнных?» У аповесці, як вы ведаеце, было і тое і другое, я паказваў вайну, як яна ёсць, як я яе ведаў. І мяне літаральна ўзрушыла такая палярнасць ацэнак.

А. В я р ц і н с к і. На жаль, і прафесійныя крытыкі часам выказваюцца прыкладна так, як Вашы знаёмыя.

М. Я р у г і н. Успрыняцце featureрознае, чытач розны, і калі мы ўжо бяромся меркаваць аб выхаваўчым эфекце твора, то трэба лічыць не асобныя вынікі, а агульную энергетычную суму. І тут я мушу далучыцца да Вашага папроку ў адрас крытыкаў. Яны не заўсёды лічацца з гэтым фактарам — індывідуальна-псіхалагічнай разнастайнасцю чытача. Іх меркаванні маюць часта занадта безапеляцыйны і аднабаковы характар. Калі я рыхтаваў да другога выдання сваю кнігу, то адзін рэцэнзент напісаў, што «выданне кнігі ў такім выглядзе не будзе садзейнічаць справе

выхавання падрастаючага пакалення…» і г. д. Ён абвінавачваў мяне ў тым, што я, маўляў, «расказваю пра цяжкія і змрочныя перажыванні».

А. В я р ц і н с к і. Словам, Вы сутыкнуліся з рэцэнзентамі і крытыкамі, і ўражанне не з самых лепшых. Але ж ад крытыкі ў значнай меры залежаць адносіны паміж літаратурай і чытачом — чытацкі густ і выбар, той самы ўзровень успрыняцця прыгожага, пра які ішла вышэй размова.

М. Я р у г і н. Тым больш дрэнна, у такім разе, што часам лёс твораў літаратуры вырашаюць людзі эмацыянальна бедныя, абыякавыя як да самой літаратуры, так і да нашай гісторыі, да нашага жыцця. Уявіце сябе жыхароў аднамернай прасторы. Яны рухаюцца толькі па прамой. Калі сустракаюць кропку, то лічаць, што тут свет і канчаецца. А жыхары двухмернай прасторы, плоскасці, проста абыходзяць гэтую кропку злева ці справа і ідуць далей па гэтай жа прамой. Але жыхары двухмернай прасторы, падышоўшы да акружнасці, лічаць, што тут свет канчаецца — далей ходу няма. А жыхары трохмернай прасторы проста крочаць праз акружнасць і ідуць далей… У прасторах розных вымярэнняў жывуць часам пісьменнік і крытык. Таму і ўзнікаюць у іх такія адносіны, якія не спрыяюць справе. Крытык павінен быць, з аднаго боку, глыбока зацікаўленым, а з другога — максімальна прынцыповым і аб'ектыўным, павінен усяляк спрыяць развіццю літаратуры. Бо без яе, без паэзіі і мастацтва, чалавек становіцца машынай.

А. В я р ц і н с к і. У гэтым сэнсе садоўнік са старажытнай легенды меў рацыю?

М. Я р у г і н. Так.

А. В я р ц і н с к і. У вучоным чалавек спазнае і творыць прыроду. У мастаку чалавек спазнае і творыць чалавека, гэта значыць самога сябе. І калі мастак не будзе мець «лица необщее выраженье», яго герой таксама будзе безаблічным. А такім не можа быць герой нашай літаратуры. У яго цудоўны, скіраваны наперад, адухоўлены воблік. І гэта — воблік часу…

***1976***

## СТАНУ ПЕСНЯЙ У НАРОДЗЕ…
*Да 100-годдзя з дня нараджэння Цёткі*

Сто гадоў назад яна нарадзілася.

Шэсцьдзесят гадоў назад яна трагічна памерла.

І, згодна з яе апошняй воляй, пахавалі яе недалёка ад роднай вёскі, пры дарозе, пры старажытным шляху, — каб і ў смерці сваёй была яна з людзьмі, з народам, каб чула крокі людскія, поступ народны. І напісалі на надмагільным камені-помніку: «Цётка». І высеклі ніжэй яе запаветныя словы:

> На магіле ўзыду дубам,
> Пачну шаптаць братнім губам
> Аб іх долі, аб свабодзе,
> Стану песняй у народзе.

Цётка… Я перачытваю яе пранікнёныя радкі, напісаныя семдзесят–шэсцьдзесят гадоў назад, радкі, знаёмыя з дзяцінства і ў той жа час нейкія нечакана новыя, неўвядальна свежыя, жывыя — якім бывае, напэўна, толькі кожнай новай вясной лісцё на векавым дрэве, што схіліла галіны над яе магілай…

Я перачытваю яе радкі. Я ўглядваюся ва ўвасобленыя на партрэце той жа даўнасці і таксама знаёмыя са школьнай парты, з часу школьных падручнікаў, рысы яе вобліку — прыгожага, пажаночы мяккага, акруглага і ў той жа час валявога, энергічнага, глыбока засяроджанага на нечым важным. «Тып велічавай славянкі», кажучы словамі Някрасава, якога яна любіла і з паэзіяй якога была сугучна. Памятаю, з дзяцінства, са школьных урокаў літаратуры, уражвала мяне ў яе вобліку і ў яе паэзіі гэтая вось таямнічая, на першы погляд, неадпаведнасць: жаноцкасць і мужная засяроджанасць, пяшчотнасць і суровасць. На партрэце — кволае, пекнае стварэнне са звязанай у тугі вузел касой па плячах і з вянком на галаве — няхітрай народнай аздобай. А ў вершах, якія друкаваліся падпольна і распаўсюджваліся ў рэвалюцыйным 1905 годзе ў якасці палітычных лістовак, — жалезная воля, баявы трубны кліч:

> Мы не з гіпсу, мы — з камення,
> Мы — з жалеза, мы — са сталі,
> Нас кавалі у пламенні,
> Каб мацнейшымі мы сталі.
> Цяпер, братцы, мы з граніту,
> Душа наша з дынаміту,

Рука цвёрда, грудзь акута,
Пара, братцы, парваць путы!

Перачытваеш гэтыя і іншыя яе радкі, і па-ранейшаму захапляешся іх чаканнасцю і бясстрашшам, і не можаш не захапляцца зноў і зноў тым, як верна вызначыла свой шлях у тыя навальнічныя дні — дні ўсерасійскай палітычнай стачкі, дні першай рускай рэвалюцыі — у нядаўнім мінулым сялянка, толькі што скончыўшая курс гімназістка, пачынаючая паэтэса Алаіза Пашкевіч, як дакладна змагла яна ўвасобіць у мастацкім слове злобу дня, выказаць у адзінай сувязі адвечныя боль, крыўду і гнеў народа і рэвалюцыйна-класавае празарэнне яго.

З-пад пяра М. А. Някрасава, імя якога толькі што прыгадвалася, сарваліся пад канец жыцця паэта горкія словы:

Мне борьба мешала быть поэтом,
Песни мне мешали быть борцом.

Сцвярджэнне не зусім справядлівае ў дачыненні да самога паэта, ісціна зусім не бясспрэчная ў прынцыпе, але, відаць, маючая сэнс у пэўнай гістарычнай абстаноўцы. Ды гісторыя літаратуры ведае шчаслівыя моманты, калі паэтычнае натхненне супадае з грамадзянскім парывам, калі мастацкае слова нясе ў сабе і «музыку рэвалюцыі», набывае значэнне баявога кліча. Такі шчаслівы момант выпаў і на долю Цёткі. Яе падпольная мянушка («Цётка») стала адначасова і яе літаратурным псеўданімам.

Ёсць, здаецца, і тлумачэнне гэтаму феномену. Яна была не толькі дачкой сялян з пэўнай вёскі, як паведамляюць яе біёграфы. Яна была дачкой свайго народа, свайго часу. Зноў-такі: эпоха мае патрэбу ў тытанах, эпоха нараджае іх. Цётка і сама пісала пра гэта:

Такі бой вякамі жджэцца,
Такі бой гігантаў дасць…

Цётка… Я гляджу на яе партрэт. Я спрабую разглядзець яе светлы воблік скрозь смугу часу. Надзіва выдатны ён, гэты воблік, воблік Чалавека, які гарманічна спалучаў у сабе, здавалася б, неспалучальнае — пяшчотнасць і мужнасць, рамантычную летуценнасць і рэвалюцыйную суровасць, блізкасць да зямнога жыцця, да быту народа і высокае мэтаімкненне, бязмежны альтруізм, гарачую гатоўнасць да самаахвяравання і амаль дзіцячае замілаванне да жыцця, любоў да яе самых

малых радасцей. Увасобленае адзінства пачуцця і думкі, веры і дзеяння, слова і справы.

Мы бачылі яе ў гады рэвалюцыі. А вось яна ў гады рэакцыі — пазбаўленая радзімы і сяброў, цяжкахворая. Разнастайна супярэчлівы свет яе думак і пачуццяў, але «звініць струна ў тумане». «Заўтра пайду туды глядзець Сіксцінскую мадонну, — запісвае яна, прыехаўшы ў Дрэздэн, у сваім дарожным дзённіку. — Сядаю на лаўцы, гляджу на творы рук людскіх. На душы стае сумна і радасна: надзея жыцця змагаецца са страхам смерці… Думкі сілай ціснуцца да галавы: «Жыць, жыць!» «Памрэш», — нейкі жалосна слабы голас адказвае з хворых грудзей…

Старая маці ўбіваецца, прадучы кудзельку, як неасвечаная прастацкая мысль. Нават не можа абхапіць той далі, на каторай цяпер плача дачка — едыначка: але беднае старое сэрца чуе і, пэўна, таксама плача».

Запіс, зроблены на наступны дзень: «Дзіўна мне, што я ўчора так раскісла. Няведама адкуль такі страх узяўся. Я ж не такая ўжо кволая. Мамачка, я яшчэ табе цэлы свет заваюю, усе з яго скарбы кіну табе пад ногі… Мамка, я буду жыць… Гукаю да цябе, — хай вецер вольны занясе мае словы праз выбітыя шыбы».

І яшчэ адзін запіс, зроблены пасля наведвання музея: «Работніку, і ты, кожан просты чалавеча. У сэрцы тваім крыецца доля ўсясветнага змагання, яна гэта і творыць хараство жыцця, з яе то і родзяцца ў суме ўсясветныя геніі чалавецтва».

Вось ён, які дыяпазон — яе думкі і яе пачуцця: ад патаемна асабістага да агульначалавечага.

Яна нарадзілася і расла ў вёсцы. Вёсцы, сваёй першай любові, яна заставалася вернай да канца — у жыцці і паэзіі. Але яна прыняла блізка да сэрца і горад, лёс і барацьбу пралетарыяту, лёс і барацьбу інтэлігенцыі з яе пошукамі шчасця для народа. Яна любіла сваю радзіму, свой беларускі край, яму ў першую чаргу яна прысвяціла сваю працу, свае веды, свой талент, сваё жыццё. Ды яна несла ў сваім сэрцы і «долю ўсясветнага змагання». Гэта і натуральна. Яна расла і жыла ў асяроддзі, дзе побач гучалі беларуская, руская, літоўская, польская, яўрэйская мовы. Амаль усе гэтыя мовы, адну лепш, другую горш, яна ведала. Потым яна вывучала ўкраінскую, нямецкую і нават крыху фінскую… У Пецярбургу, у асяроддзі рэвалюцыйнай моладзі, яна засвойвала азы рэвалюцыйнага светапогляду. Потым рускія і літоўскія сацыял-дэмакраты далучалі яе да падпольнай дзейнасці ў змаганні з царызмам, да рэвалюцыйнай агітацыі ў народзе. Менавіта

літоўскія сябры па барацьбе надрукавалі ўпершыню ў выглядзе пракламацый яе славутыя вершы «Мора», «Хрэст на свабоду» і «Пад штандарам» — надрукавалі ў сваёй друкарні, але на мове арыгінала. А потым украінскія рэвалюцыянеры прытулілі яе і дапамагалі выдаць у сваёй друкарні ў Жолкаве пад Львовам яе першыя кнігі «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская»… За дабро яна плаціла дабром. Яна глыбока спачувала ўсяму працоўнаму чалавецтву, была глыбока інтэрнацыянальная ў сваім жыцці і сваёй творчасці.

Смык гатовы, струны тугі,
Кроў у жылах закіпае.
Ну! слухайце, мілы другі,
Скрыпка мая ўжо іграе.

Гэта — радкі з яе верша «Скрыпка». Скрыпка — адзін з самых улюбёных яе вобразаў. У апавяданні «Зялёнка», аўтабіяграфічным у значнай меры, гераіня слухае скрыпача… «Смычок чуць-чуць даткнуўся, азваліся струны… Ціхая мелодыя, як першы ўздых дзіцяці, палілася; ідзе, вядзе некуды ў засветные разлогі чыстага лірызму. Маладая душа верыць у шчаслівыя далі, узнімаецца, ірвецца да іх смелым лётам. Мерацъ у яе адзін за другім громы абману, зла… Змагаецца з цёмнымі сіламі прозы, б’е скрыдламі ў нябесныя скляпенні паэзіі. Бой даходзіць фазы смерці і жыцця». І далей: «Божа, якая ты страшная, творчасць!»

Так, творчасць, мастацтва былі для яе страшнымі, былі, іншымі словамі, «гібеллю ўсур’ёз». Яны былі неад’емны ад яе жыцця і смерці, ад яе шчасця і няшчасця. Таму яна і засталася ў народзе песняй трагічнай, але цудоўнай, засталася легендай, засталася паданнем, засталася высокім прыкладам служэння чалавеку, народу.

*1976*

## «ПАГУТАРЫМ АБ ЧАСЕ, АБ ТВАРДОЎСКІМ…»
### *Да 70-годдзя з дня нараджэння паэта*

Мне даволі выразна бачыцца, як, у якой паслядоўнасці ўваходзіў Аляксандр Твардоўскі ў жыццё майго пакалення.

Спачатку быў «Васіль Цёркін», была «Кніга пра байца», пра салдата, пра чалавека на вайне… Адна з самых першых кніг, якія прыходзілі адразу пасля вайны — у танным, шэранькім пераплёце — у першыя, толькі што створаныя пасля вызвалення вясковыя хаты-чытальні, у сціплыя школьныя бібліятэчкі. Прыгадваецца, як мы, вучні-старшакласнікі вясковай школы, чытаем калектыўна, услых, перад урокамі ці ў перапынках паміж імі «Кнігу пра байца». Чытаем, слухаем, смяемся, задумваемся, падхопліваем, беручы ва ўжытак, як крылатыя выразы, радкі, накшталт: «Я согласен на медаль», «Сабантуй бывает разный» і г. д. Твардоўскі дапамагае нам, тым, хто бачыў вайну дзіцячымі вачамі, лепш яе зразумець, лепш зразумець яе галоўнага героя, вытокі народнага подзвігу і вялікай Перамогі… Тут жа прыгадваецца і першае чытанне паэмы «Дом ля дарогі», твора іншай танальнасці, з іншым падзагалоўкам («Лірычная хроніка»), але таксама пра вайну, і пра вайну, якую спаўна зведалі ўсе мы, хто заставаўся па гэты бок лініі фронту, на часова акупаванай тэрыторыі, і трагізм якой цяпер, зноў-такі, глыбей усведамлялі і спасцігалі праз тужліва-гаротныя, прачулыя радкі паэмы.

И все, что выразится здесь,
Да вникнет в душу снова,
Как плач о родине, как песнь
Ее судьбы суровой.

Засталося, захавалася і па сённяшні дзень у душы незамутненым галоўнае ўражанне ад таго даўняга, першага чытання паэмы. Выказаць яго можна толькі адным словам: палёгка. Палёгка ад глыбока чалавечнага слова, ад душэўнай спагады, якую паэт выказваў чалавеку, што спазнаў жахі і пакуты вайны і якая вызначала скразную інтанацыю твора.

Другі этап, пяцідзесятыя гады. Мы, студэнты, чытаем — у інтэрнаце, у аўдыторыі паміж лекцыямі — раздзелы паэмы Твардоўскага «За даллю — даль». Чытаем і ўслых, калектыўна, і моўчкі, для сябе. Абменьваемся ўражаннямі, абмяркоўваем. Твардоўскі з яго сумленным, крытычна-смелым, шчырым радком дапамагае нам асэнсоўваць новую паласу ў жыцці савецкага гра-

мадства, дае нам дзейсныя ўрокі маральнай бескампраміснасці, адданага служэння народу.

Паэма «За даллю — даль» уражвала, запаміналася нам яшчэ і тым — а мы ўжо і самі пачыналі да гэтага часу пісаць уласныя вершы, і таму паняцце пакалення я мушу звужаць да кола літаратурных равеснікаў, — што яе аўтар дзяліўся ўслых сваім роздумам пра «месца паэта ў рабочым страі», пра ідэйна-маральны і грамадзянскі воблік савецкага пісьменніка, пра яго ўзаемаадносіны з чытачом. Так пачынаўся, так раскрываўся потым перад намі паступова Аляксандр Твардоўскі як паэт-трыбун, як настаўнік, рэдактар, грамадскі дзеяч, як па-партыйнаму страсны і прынцыповы, па-рыцарску непадкупны і непахісны змагар за ідэйную і маральную чысціню мастацкага слова. «Праходзячы ў яго суровую па сваёй патрабавальнасці школу літаратуры, мы спасцігалі вышыню яе ідэалаў» — гэта прызнанне Васіля Быкава.

Было з кім гаварыць,
было ў каго
Сумленню прыклад браць,
радкам — вучыцца, —

а гэта, як не цяжка здагадацца, радкі з паэмы-некралога «Варшаўскі шлях» Аркадзя Куляшова.

Прадстаўнікі майго літаратурнага пакалення далучаюцца да гэтых прызнанняў, тым больш, што апошнія зыходзяць ад людзей, якія мелі гонар добра ведаць А. Твардоўскага асабіста, сябраваць з ім.

І апошні, заключны этап. Лірыка Твардоўскага апошніх год яго жыцця. Яго напоўненыя шчымліва-пранізлівым пачуццём вершы «Я знаю, никакой моей вины», «Лежат они, глухие и немые», «На дне моей жизни», «В случае главной утопии», «Час мой утренний, час контрольный» і інш. Яшчэ адзін прыклад гарманічнага спалучэння ў паэтычным слове інтымнага і агульнага, унутранага і вонкавага. Яшчэ адзін яркі маральны і эстэтычны ўрок. Да слова сказаць, далёка не пераканаўчым выглядае сцвярджэнне, што Твардоўскі раскрыўся, маўляў, як лірык толькі ў апошні перыяд свайго жыцця. Лірыкам ён быў і ў некаторых ранніх сваіх вершах, і ў сваім, па сутнасці, «Доме ля дарогі», і ў раздзелах паэмы «За даллю — даль». А такія вершы, як «Я убит подо Ржевом», «В тот день, когда окончилась война» і г. д.? А прыгадаем яго франтавы сшытак, які ён вёў на Карэльскім

перашыйку і дзе ёсць такі, скажам, запіс: «І твары, твары, твары чырвонаармейцаў. Іншыя з такой адзнакай праставатасці, наіўнага хлапечага захаплення і нейкай падаўленай тугі, што сэрца сціскалася. Колькі з гэтых мілых хлопцаў, якія беспярэчна з гарачай гатоўнасцю чакаюць таго часу, калі ісці ў бой, колькім з іх не вярнуцца дамоў, нічога не расказаць. Так тады думалася. І, помню, упершыню зведаў пачуццё проста-такі пяшчоты да ўсіх гэтых людзей. Упершыню адчуў іх як родных, дарагіх мне асабіста людзей». Зведанае тады ўпершыню гэтае пачуццё ўжо не пакідала ніколі паэта, і ён не мог не быць глыбока чалавечным, глыбока лірычным у сваёй паэзіі.

С тропы своей ни в чем
не соступая,
Не отступая — быть самим
собой.

Так со своей управиться
судьбой,
Чтоб в ней себя нашла
судьба любая
И чью-то душу отпустила
боль.

Нельга нам, беларусам, ушаноўваючы памяць А. Твардоўскага, не сказаць яшчэ раз і пра наступнае. Ён быў сынам каваля, які ў пошуках зямлі, сродкаў для існавання выехаў на Смаленшчыну з Беларусі. Менавіта таму Аркадзь Куляшоў інакш і не называе яго ў сваёй паэме, як «наш зямляк». А ў выступленні на Другім з'ездзе беларускіх пісьменнікаў ён сам гаварыў: «Я люблю беларускую паэзію і ўжо пісаў аб тым, што мова майго дзяцінства блізкая да беларускай мовы. Я нарадзіўся на мяжы Беларусі». Так, Твардоўскаму была блізкая наша мова. Ён ведаў, спяваў і перакладаў беларускія народныя песні. Ён высока цаніў творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа (пра адносіны з апошнім добра расказвае ў вядомым нарысе «Пабрацімы» Максім Лужанін). Вядомыя яго адносіны да паэзіі А. Куляшова, потым — да прозы В. Быкава, да творчасці іншых беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і маладзейшых. Я асабіста ганаруся тым, што быў аўтарам «Нового мира», калі яго рэдагаваў Аляксандр Твардоўскі. Але справа не толькі ў яго адносінах да нашай паэзіі, да нашай літаратуры. Ён любіў Беларусь, яе прыроду, народ, народныя

нашы звычаі і мастацтва. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова пазнаёміцца з яго нарысамі і нататкамі з кнігі «Радзіма і чужына» — у прыватнасці з такімі, як «Першы дзень у Мінску» (характэрна, што гэтая нататка была надрукавана якраз 3 ліпеня, калі мы адзначаем дзень вызвалення сталіцы), «Сэрца народа», «Лявоніха» і інш.

…Атрымалася так, што мы, група беларускіх пісьменнікаў, ехалі ў Маскву на пасяджэнне Савета па беларускай літаратуры, а прыехалі… на пахаванне Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага. Пасля пахавання мы доўга блукалі з Васілём Быкавым па начной снежаньскай Маскве, дзе жыў і працаваў, якую апяваў Твардоўскі, доўга гаварылі пра яго паэзію і яго жыццё, пра значэнне высокіх аўтарытэтаў у літаратурным і духоўным жыцці. І было, помню, такое адчуванне, што аднаго такога аўтарытэту нам ужо не хапае і доўга не будзе хапаць.

*1980*

## ЦІ ПАТРЭБНА ПРАРОКАМ СЭРЦА?

У кастрычніцкім нумары часопіса «Полымя» змешчаны побач, пад адной рубрыкай два вялікія артыкулы: адзін — паэта Ніла Гілевіча са строга навуковай назвай «Фальклор і праблема народнасці літаратуры», другі — вучонага-літаратуразнаўцы Віктара Каваленкі з назвай амаль паэтычнай «На пругкіх вятрах гісторыі» (праўда, з больш навуковай ужо падназвай: «Некаторыя пытанні нацыянальнай спецыфікі беларускай літаратуры»). Тэма першага вызначана ўжо ў самой яго назве. Знаёмячыся з другім, прыемна здзіўляешся (рэдакцыя ні аб чым не папярэджвала), бо ён, аказваецца, у значнай меры прысвечаны той жа тэме, узнімае, праўда, у іншай плоскасці некаторыя з тых жа праблем. У нечым артыкулы пераклікаюцца, дапаўняюць адзін другі, але ў нечым істотным В. Каваленка займае, у адрозненне ад Н. Гілевіча, іншыя пазіцыі, выказвае іншы, калі не супрацьлеглы пункт гледжання на некаторыя рэчы. І тады, у другім выпадку, артыкулы нагадваюць два полюсы, між якімі прабягаюць палярна зараджаныя токі. Чытаеш часопіс, і ў нейкі момант у цябе складваецца ўражанне, што рэдакцыя ў такой вось форме абвясціла дыскусію на пэўную тэму. І шкадуеш, што на самай справе артыкулы з’явіліся разам як бы выпадкова, што спры-

яльная нагода не выкарыстана для таго, каб сапраўды правесці творчае абмеркаванне на вельмі важную і надзённую тэму.

А тэма гэта — нацыянальная своеасаблівасць нашай літаратуры.

Трэба сказаць, што ў зыходных пунктах пазіцыі абодвух аўтараў сыходзяцца. «Нацыянальная самабытнасць літаратуры — гэта тое, што дае ёй права на месца пад сонцам, — трапна заўважае Н. Гілевіч, — тое, з чым яна можа прэтэндаваць на становішча паўнапраўнага партнёра ў культурнай інтэграцыі краін і народаў». Пра нацыянальную спецыфіку нашай літаратуры, пра шляхі фарміравання гэтай спецыфікі гаворыць і В. Каваленка. Пагаджаюцца апаненты і ў другой зыходнай пазіцыі. «Фальклор як творчасць, у якой працоўны чалавек выяўляе самога сябе, якраз і дапамог бы табе лепш зразумець жыццё, глыбей пранікнуць у псіхалогію, у нацыянальны характар народа», — піша Н. Гілевіч. І далей: «Мы сказалі: у нацыянальны характар народа. Але размова пра нацыянальны характар у літаратуры — гэта ўжо размова пра нацыянальную своеасаблівасць літаратуры». «Але ж існуе вусная творчасць народа, — гаворыць, з свайго боку, В. Каваленка, — дзе чалавек, пераважна селянін, паказаны, асабліва ў песнях, у паэтычным асвятленні, дзе яго жыццёвыя інтарэсы прыўзняты над штодзёншчынай, дзе ён выступае ў духоўным абліччы. Хіба не там першапачатковыя, самыя тыповыя рысы ўнутранага свету беларуса і хіба не там бярэ свой выток нацыянальная спецыфіка ўсякай літаратуры?»

Але вось далей у разважаннях і высновах В. Каваленкі ёсць моманты, якія выклікаюць пярэчанне і якія, уласна кажучы, і прымусілі мяне выступіць з гэтай рэплікай. Так, напрыклад, рыхтуючы нас да думкі аб ідэйна-мастацкай непаўнацэннасці фальклору і фальклорнай маралі, В. Каваленка піша: «Гэта паэзія пераважна штодзённых побытавых інтарэсаў селяніна, таму і яе змест звязаны толькі з канкрэтна-практычнымі імкненнямі чалавека». А ці так гэта? — узнікае тут жа пытанне. Ці такая гэта ўжо, пытаешся ў крытыка, малаважная рэч — «штодзённыя інтарэсы селяніна», «канкрэтна-практычныя імкненні чалавека»? Хіба яны не варты, не павінны быць прадметам увагі мастацтва — як народнага, так і прафесійнага? І ці можна іх увогуле выдзеліць у нейкім чыстым, ізаляваным ад вялікага грамадскага жыцця, выглядзе? (Забягаючы крыху наперад, зазначу, што гэтае пытанне я гатовы паўтарыць і там, дзе В. Каваленка спыняецца на праблеме адлюстравання ў літаратуры так званага патрыярхальнага ўкладу

вясковага жыцця.) Гэта, па-першае. Па-другое, няўжо сапраўды вусная народная творчасць была такая ўтылітарна-прыземленая, такая сляпая і недалёкая, што нічога, акрамя гэтых прымітыўных клопатаў, і не бачыла, толькі іх і заўважала? Не, гэта далёка не так, гэта не адпавядае сапраўднасці. Калі б яна была такой, яна не стварыла б свае неўміручыя, поўныя глыбокага паэтычнага зместу творы, дзе размова ідзе не столькі пра нешта дробязна-мімалётнае, колькі пра нешта вельмі істотнае, запаветнае, вечнаіснае — пра каханне і здраду, пра жыццё і смерць, пра дабро і зло, пра той самы «спрадвечны дух народа», аб якім гаворыць сам В. Каваленка. І калі гэта было б не так, чым можна было б тады вытлумачыць неўвядальнасць народна-паэтычнай спадчыны, яе вечнае мастацка-эстэтычнае значэнне?

Так, В. Каваленка мае рацыю, калі гаворыць аб пэўных гістарычна-сацыяльных абставінах узнікнення фальклору і аб тым, што апошні «ў такім, амаль не змененым, выглядзе дайшоў да нашага часу». Ды гэта ж зусім не азначае, што ёсць падставы гаварыць пра яго архаічнасць, пра тое, што ён можа належаць толькі свайму часу, толькі мінуламу.

Народная мудрасць, фальклорныя мараль… Гэтыя паняцці не маглі не фігураваць у даследаваннях, дзе размова ідзе пра вусную народную творчасць, і яны там фігуруюць. Але тут зноў, як мне здаецца, Н. Гілевіч бліжэй да ісціны, і зноў не пагаджаешся з В. Каваленкам. Прыводзячы радкі з паэмы Гусоўскага, дзе гаворыцца аб адсталасці роднага краю, В. Каваленка піша: «Адмаўленне замоў, народных песень і магіі слоў — гэта адмаўленне, па сутнасці, фальклору, залішне нізкага ўзроўню народнай свядомасці». І далей: «Асветніцтва не мірылася з фальклорам і не цаніла яго па той прычыне, што фальклорная мараль не ўздымалася да універсальнага прынцыпу, а з’яўлялася залішне элементарнай і *прыродна залежнай*» (падкрэслена мной. — *А. В.*). Тут у мяне зноў узнікаюць пытанні: чаму адмаўленне замоў, прымхаў і чорнай магіі атаясамліваецца з адмаўленнем усяго фальклору? Хіба гэта адно і тое? Хіба гэта не выліванне разам з вадой і дзіцяці? І хіба, далей, можна фальклор лічыць сінонімам «нізкага ўзроўню народнай свядомасці»?

Я не бяруся тут цалкам аспрэчваць апеляцыю да асветніцтва, не лічу сябе дастаткова кампетэнтным для такога экскурсу, але я, на месцы В. Каваленкі, не падзяляў бы так ахвотна пазіцыю, народжаную пэўнымі гістарычнымі ўмовамі. Бо тут не так усё проста. Па-першае, ці правамерна ўвогуле патрабаваць ад фальклорнай маралі, каб яна адпавядала гэтаму самаму

«універсальнаму прынцыпу»? Ці не раўназначна гэта таму, што патрабаваць ад яе перастаць быць самой сабой і стаць нечым іншым? Ну, а па-другое, няўжо сапраўды фальклорныя этыка і філасофія даюць (ці давалі) падставу для таго, каб іх папракаць за прымітыўнасць, нізкі духоўны ўзровень. І ці не ігнаруецца тут той відавочны факт, што шэдэўры народнай творчасці якраз і нясуць у сабе агульначалавечы змест, а значыць, і могуць «уздымацца да універсальнага прынцыпу»?

І ўжо зусім, шчыра кажучы, бянтэжаць мяне падкрэсленыя мной вышэй словы «прыродна залежная», што сказаны з папрокам у дачыненні да фальклорнай маралі. Ці так гэта ўжо дрэнна, што мастацкая мудрасць народа звязана з прыродай, залежыць ад яе? Ва ўсякім выпадку — хіба гэта дрэнна для яе самой? І хіба яна была б такой эстэтычна прывабнай і духоўна здаровай, калі б не яе арганічная злітнасць з навакольным асяроддзем, з роднай прыродай? Філасаф гаварыў аб гісторыі развіцця прыроды і гісторыі развіцця грамадства і марыў аб адзінстве іх развіцця ў будучым. Сёння чалавецтва мае на сваім рахунку больш чым дастаткова сумных вынікаў адсутнасці такога адзінства, такой сінхроннасці. Узрастае тэндэнцыя адрыву чалавека ад прыроды, іх разыходжання, што выклікае ўсё большы неспакой, у тым ліку і ў літаратуры.

Каваленка ж, калі я правільна зразумеў, настойвае на сваім «асветніцкім» тэзісе і ў доказ таго, літаратура не павінна ісці за фальклорам з яго «залішне элементарнай і прыродна залежнай» мараллю, а, наадварот, заклікана адмаўляць «традыцыйна прыродную натуру чалавека», прыводзіць факт стварэння Пушкіным яго «Прарока». «Напісаўшы верш «Прарок», — гаворыць крытык, — дзе аддаецца перавага выхаванаму пачуццю перад прыродным пачаткам, А. Пушкін не перастаў быць вялікім рускім нацыянальным паэтам. Больш таго, ён таму і напісаў верш «Прарок», што быў вялікім рускім нацыянальным паэтам. Беларуская літаратура прагнула тых жа змен ва ўнутраным свеце чалавека, якія адбыліся ў лірычнага героя А. Пушкіна.

И он мне грудь рассек мечом,
И сердце трепетное вынул,
И угль, пылающий огнем,
Во грудь отверстую водвинул.

Штучны як быццам, нежывы, але палаючы вугаль замест прыроднага сэрца — гэта тое ж пераўтварэнне звычайнага чалавека ў асветніка і прарока, гэта тое балючае («грудь рассек

мечом») пераадоленне зямнога пачатку дзеля духоўнага святла і гарэння. Яно павінна было адбыцца як у натуры беларуса, так і ў нашай літаратуры».

Прашу прабачэння за вялікую цытату, але я павінен быў звярнуць увагу на яе, на не вельмі пераканаўчыя логіку і аргументацыю крытыка. Пагадзіцеся, што вельмі ўжо адвольна вытлумачвае ён верш-прытчу Пушкіна. Наколькі арыгінальна, настолькі і адвольна. Бо менавіта гэты, нагадаю, верш канчаецца вядомымі словамі: «Глаголом жги сердца людей». І наўрад ці спадзяваўся на самай справе Пушкін са сваімі лірычнымі героямі «жечь сердца людей», «чувства добрые лирой пробуждать» без уласнага жывога сэрца, без сардэчнага хвалявання, без належнай душэўнай аддачы і сілы пачуцця. Сказана ж, што да сэрца даходзіць толькі тое, што ідзе ад сэрца. Не спадзяваўся і сказаў: «Я жить хочу, чтоб мыслить и страдать». Ды і ці ёсць наогул неабходнасць даказваць, якім гарманічным паэтам быў аўтар «Прарока», як натуральна спалучаліся ў яго паэзіі «зямны пачатак» і «духоўнае святло і гарэнне». Да слова прыгадаць тут і адносіны Пушкіна да фальклору. Калі сярод яго сучаснікаў — рускіх літаратараў разгарэліся спрэчкі адносна напрамкаў развіцця рускай літаратуры, ён усклікнуў: «Не вырашу, якому пісьменству аддаць перавагу, але ёсць у нас свая мова; смялей! — звычаі, гісторыі, песні, казкі — і інш.»

Прыгадваецца таксама, што другі вялікі сучаснік Пушкіна, Адам Міцкевіч, які, як вядома, нямала браў у сваёй творчасці з беларускіх фальклорных крыніц, сказаў прыкладна ў той жа самы час пра беларусаў і іх вусную творчасць: «У іх казках і песнях ёсць усё: усю сваю гісторыю на зямлі яны прайшлі ў страшэннай галечы і прыгнёце».

(Ці не гучаць гэтыя два выказванні як і адказ асветнікам з іх ацэнкай фальклору?)

«Ёсць усё». Нягледзячы на тое, што ён, фальклор, нясе на сабе адзнакі патрыярхальнай абмежаванасці, нягледзячы на тое, што ён звязаны сваім паходжаннем з прыродна-зямным пачаткам, што ён мае іншыя радзімыя плямы… «Ёсць усё». У тым ліку, трэба думаць, — і высокія парыванні, і «духоўнае святло і гарэнне». Не можа іх не быць, бо яны былі, яны жылі ў душы працоўнага беларуса. Так, яму трэба было прайсці нялёгкі гістарычны шлях, раней чым усвядоміць сябе як чалавека і сказаць вуснамі свайго песняра: «Я мужык, а гонар маю». Яму трэба было прайсці яшчэ больш цяжкі гістарычны шлях, каб адчуць сябе разам з другімі

«ў агромністай такой грамадзе», усвядоміць сябе народам і ўсенародна абвясціць усяму свету, зноў-такі вуснамі песняра, пра сваё адвечнае жаданне «людзьмі звацца». Але ці трэба было яму для гэтага адмаўляцца ад свайго «прыроднага сэрца», парываць са сваім натуральна-зямным пачаткам?

В. Каваленка, як мне здаецца, занадта схематызуе праблему, і схематызуе яе з яўна сацыялагічным ухілам. А ў праблемы гэтай ёсць і іншыя грані і аспекты — біялагічны, геаграфічны і г. д. Я ўжо аднойчы звяртаў увагу на «Нататкі аб рускім» акадэміка Д. С. Ліхачова, надрукаваныя ў пачатку года ў часопісе «Новый мир» з характэрным падзагалоўкам: «Природа, родник, родина и просто доброта». «Я адзначаў ужо, — піша Д. С. Ліхачоў, — як моцна ўздзейнічае руская раўніна на характар рускага чалавека. Мы часта забываем у апошні час пра геаграфічны фактар у чалавечай гісторыі. Але ён існуе, і ніхто яго не адмаўляў». Ёсць у «Нататках» і словы, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да размовы аб пачуцці «выхаваным» і «прыродным». «Супрацьпастаўленне прыроды, культуры, — піша Д. С. Ліхачоў, — наогул не падыходзіць яшчэ па адной прычыне. У прыроды ж ёсць свая культура. Хаос зусім не натуральны стан прыроды». Гаворачы аб «сацыяльнасці» прыроды, вучоны піша: «Таму адносіны прыроды і чалавека — гэта адносіны дзвюх культур, кожная з якіх па-свойму «сацыяльная», таварыская, валодае сваімі «правіламі паводзін». І іх сустрэча будуецца на своеасаблівых маральных пачатках».

Так што наўрад ці мае рацыю В. Каваленка, калі аб’яўляе сялянска-патрыярхальную свядомасць «інертнай як у этычным, так і ў сацыяльным плане» і калі лічыць, што «традыцыйна прыродная натура чалавека», яго «прыроднае сэрца» зусім асацыяльныя, і таму, маўляў, беларускай літаратуры трэба было адмаўляць іх і звязаную з імі фальклорную этыку.

І ўвогуле што да гэтага самага «прыроднага сэрца» (раблю невялікае адступленне), то з ім трэба быць як мага ашчадней — як у жыццёва-грамадскім, так і ў літаратуразнаўчым плане. Нават у наш касмічны век, нават у нашу эпоху — эпоху НТР. Мне нядаўна нядаўна зноў трапілася на вочы кніга Артура Кларка «Рысы будучага», выдадзеная ў нас у перакладзе з англійскай. Вучоны і пісьменнік-фантаст, палкі прапагандыст навукі, навуковых ведаў і гіпотэз, А. Кларк спрабуе разгледзець магчымыя дасягненні навукі і тэхнікі на бліжэйшыя сто пяцьдзесят год, да 2100 года. Нямала ўвагі аддае ён і праблеме заваёвы космасу і прыадкрывае нам тут заслону над галавакружнымі

магчымасцямі. Ды вось адгортваеш адну са старонак кнігі і чытаеш узрушаныя па-чалавечы радкі: «Калі вам надарыцца выйсці на вуліцу ў летнюю ноч, паглядзіце на неба. Амаль проста над галавой у вас будзе ззяць самая яркая зорка паўночнага паўшар'я — Вега з сузор'я Ліры. Яна аддалена на 26 светлавых год. Для нас, недаўгавечных істот, гэта амаль мяжа дальнасці касмічнага падарожжа, з якога мы яшчэ можам вярнуцца назад. Але глыбей за рубеж, адзначаны гэтым блакітнавата-белым маяком, які ззяе ў пяцьдзесят разоў ярчэй за нашага Сонца, можа пранікнуць толькі наш розум і нашы целы — сэрца чалавека туды пасылаць нельга.

Бо ні адзін чалавек не зможа, вярнуўшыся дамоў з падарожжа на Вегу, зноў абняць тых, каго ён ведаў і любіў на зямлі».

Я, прызнацца, уважліва прачытаў і перачытаў артыкул В. Каваленкі, — як чытаю ўсё, што друкуе гэты адзін з самых паважаных мной, самых мыслячых нашых крытыкаў і літаратуразнаўцаў, — і мне здаецца, што асноўны яго пралік у тым, што ў ланцугу ягоных па-свойму цікавых, арыгінальных разважанняў і доказаў вельмі слаба прысутнічае такое звяно, такі элемент, як чалавек. Не толькі селянін, не толькі прадстаўнік патрыярхальна-адсталай вёскі, але яшчэ і чалавек з пэўнай нацыянальнай прыналежнасцю, з адметнымі рысамі характару і духоўнага аблічча, са сваім «імем як прыкметай індывідуальнасці, непаўторнасці» (словы з тых жа «Нататак аб рускім»). Думаю, што калі б гэтаму звяну крытык аддаў больш увагі, то яго тэарэтычнае збудаванне выглядала б больш пераканаўчым.

І, думаю, больш паспяховай была б высакародная ўвогуле спроба па-новаму вытлумачыць ідэйна-мастацкі змест коласаўскай «Новай зямлі». Аналогія з гамераўскім эпасам (Каваленка нават гаворыць пра «бясспрэчнае міфалагічнае дыханне», «міфалагічны дух» паэмы), выкарыстанне лінгвістычна-структуральнага метаду пры аналізе твора, — усё гэта само па сабе цікава, вядома. Заслугоўвае ўвагі і выснова, да якой прыходзіць аўтар у сваёй інтэрпрэтацыі «падтэксту» паэмы: «паэтычнае раскрыццё працэсу фарміравання паэтычных адносін да свету». Заслугоўвае ўвагі, але ў той жа час і… не задавальняе, не пераконвае нас да канца. Гэтак жа, відаць, як не задавальняюць цалкам самога В. Каваленку некаторыя версіі.

Я не баяўся разглядаць тут гэтую праблему — размова ідзе пра іншае. Да таго ж я рызыкаваў бы быць тэарэтычна наіўным. Але я хацеў бы ўсё ж зазначыць наступнае. Калі

для некаторых даследчыкаў «Новай зямлі», у тым ліку і для В. Каваленкі, з'яўляецца і па сённяшні дзень загадкавым тое, як можа твор, які паэтызуе просты сялянскі побыт, мець такі высокі эстэтычна-мастацкі ўзровень і займаць такое месца ў сусветнай літаратуры (хаця, зазначу, між іншым, усякі вялікі твор мае сваю фенаменальна-загадкавую адметнасць, свой, так сказаць, патаемны знак, справа ж, як вядома, не толькі ў тэме, колькі ў мастацкай сіле і маштабнасці яе вырашэння), то ці не варта ў такім разе ўдакладніць сам падыход, саму канцэпцыю даследавання твора? У прыватнасці, звярнуць увагу яшчэ раз на тое, што Колас выступае тут як мастак глыбока нацыянальны і паэтызуе, паказвае, па-першае, не проста сялянства само па сабе, а з'явы жыцця народнага, нацыянальнага («Селянін браў на сябе, як правільна заўважае В. Каваленка, місію быць народам») і ўвасабляе, па-другое, тыповыя рысы і асаблівасці гэтага жыцця ў канкрэтна-рэалістычных персанажах, стварае выразна індывідуалізаваныя чалавечыя вобразы-характары, якія набліжаюць нас да ўяўлення аб характары нацыянальным. Калі ўсё гэта мець на ўвазе, тады, мне здаецца, яснейшым робіцца і пытанне, чым адрозніваецца «Новая зямля» ад іншых класічных твораў на тую ж тэму і што перш за ўсё абумоўлівае яе права «вызначацца на фоне сусветнай літаратуры».

І, нарэшце, мне хацелася б сказаць некалькі слоў адносна нашага сённяшняга падыходу да фальклорнай спадчыны. Магчыма, што Н. Гілевіч занадта катэгарычны ў некаторых сваіх сцвярджэннях, магчыма, што ён крыху «акадэміруе» праблему залежнасці творчай асобы ад фальклору (будзем памятаць аб прымаце рэальнага жыцця народа, рэальнага жыцця чалавека, адкуль перш за ўсё пісьменнік атрымоўвае «зарадку»). Ды ў цэлым падзяляеш пафас і асноўную ідэю яго артыкула, не можаш не пагадзіцца, што «сувязь з народна-фальклорнай глебай, вернасць ёй — гэта вернасць нацыянальнай культуры, мове, народнаму духу ў самым шырокім значэнні слова». Наўрад ці можа быць гэтаму іншая альтэрнатыва. І мне застаецца толькі дадаць ці, дакладней, падкрэсліць два моманты. Першы — суб'ектыўны фактар, суб'ектыўна-ўнутранае адчуванне пры звароце да народнай творчасці. Дазволю тут сабе спаслацца на нейкі свой, можа, і не такі ўжо значны і характэрны, вопыт і прыгадаць тое ўласнае адчуванне, якое я зведаў, калі працаваў над п'есай-казкай «Дзякуй, вялікі дзякуй». Прызнаюся, што апрача іншых стымулаў давала вельмі востра пра сябе знаць і ўсведамленне, што ты не проста робіш нешта сваё, асабістае,

нешта важнае, магчыма, толькі з твайго пункту гледжання, а што, звяртаючыся да народных матываў, ты быццам бы засвойваеш сам і перадаеш другім пэўны маральны запавет, пэўнае духоўнае завяшчанне, ты як быццам бы працягваеш духоўную эстафету. Трэба думаць, што за гэтым суб'ектыўным адчуваннем тоіцца і пэўнае аб'ектыўнае патрабаванне. Бо ці не ў тым і заключаецца адна з галоўных задач літаратуры, каб узнаўляць сувязь часоў, быць іх сувязной, іх пераемніцай. І другі момант, які закранае ў сваім артыкуле Н. Гілевіч, гаворачы пра выкарыстанне сучаснай літаратурай міфалогіі.

Калі задумваешся, у чым усё-ткі тут справа, адкуль гэтая патрэба ў звароце да самых розных форм і жанраў фальклору, да самых розных сродкаў народнай паэтыкі, то прыходзіш да высновы, што справа не толькі ў імкненні вонкава ўзбагачаць і разнастаіць мастацкую палітру, а ў тых магчымасцях, якія тояць у сабе народныя вобразы і метафары для павышэння ўзроўню мастацкіх абагульненняў.

В. Каваленка піша, што як быццам бы М. Багдановіч настойваў на тым, каб беларуская літаратура не трымалася фальклору. На самай справе Багдановіч гаварыў пра тое, каб яна, літаратура, не абмяжоўвалася адным фальклорам. Але гэта нешта іншае. Бо сапраўды, якая ж гэта будзе літаратура, калі будзе толькі і трымацца на фальклоры. Гэта ўжо было б духоўным утрымальніцтвам. А між тым творчасць самога Максіма Багдановіча, як вядома, цяжка ўявіць без выкарыстання народнапаэтычнай традыцыі, без шмат якіх яе вобразаў і прыёмаў. Тут мы бачым прыклад надзвычай плённай сустрэчы багатай творчай індывідуальнасці і фальклорнай традыцыі. Або вось В. Каваленка сам гаворыць пра тое, якую ролю адыграў фальклорны вобраз лілеі ў паэме «Сымон-музыка». Так, Колас па-свойму, у адпаведнасці з сваёй мастацкай задачай пераасэнсоўвае вобраз, надае яму іншае гучанне. Але ж у гэтым і заключаецца сапраўды творчы зварот да фальклорнай спадчыны.

Н. Гілевіч, прыводзячы прыклады ўдалага выкарыстання і асэнсавання фальклорных скарбаў, называе, у прыватнасці, імёны А. Твардоўскага і А. Куляшова. В. Каваленка піша ў заключэнне аб тым, што «працэс фарміравання нацыянальнай самабытнасці беларускай літаратуры адбываўся на шляхах інтэрнацыянальнай еднасці». Працэс гэты, зазначу, працягваецца, адбываецца ў часе. І адзін з доказаў таму — чалавечая і творчая дружба толькі што памянёных паэтаў. І яшчэ адзін з доказаў таму — выдатная паэма А. Куляшова «Варшаўскі шлях»,

прысвечаная памяці А. Твардоўскага. Ёсць у паэме гэтай і радкі аб прарочай місіі паэта. Яна так уяўляецца аўтару — нашаму сучасніку:

Усім такія словы гаварыла
Паэзія, калі вяла ў паход:
…………………………..
Далёкае разгледзь арлінным вокам,
Лаві на слых ледзь чутны крок бяды:
Мяне абраўшы, мусіш быць і пракорам.
Як не прарокам, кім жа быць тады?
Не бойся слова гучнага — прарок! —
Прарок не бога — праўды слых і зрок.
Ратуй людзей з бяды ліхой,
іх душы
На гвалт і на адчай не пакідай,
Ты радасць ім нясі, сабе — адчай,
Ім — волю, гвалт — сабе, ты духам дужы…»
Штодзённай прыналежнасцю святой
Да спраў людскіх паэзія паліла
Яго…

Так паэт — другога часу і другога народа — прадаўжае пушкінскую тэму, тэму прарока, так удакладняе, на новай гістарычна-сацыяльнай аснове, задачу паэзіі. І ў выкананні гэтай высакароднай і па-зямному гуманістычнай задачы ёй можа быць толькі падмогай — і ўжо зусім не перашкодай — глыбока чалавечная, жыццесцвярджальная, прасякнутая прагай дабра і справядлівасці вусная народная творчасць.

*1980*

## «ДЗЕ КРЫЎДА АДВЕЧНАЯ СПЕЛА»

Беларусь — краіна раўнінная. Спакойныя, ціхамірныя, «памяркоўныя» ландшафты… Але ёсць на нашай зямлі і ўзгоркі, і ўзвышанасці. Ёсць, у прыватнасці, узгорак, які названы географамі гарой Маяк. З яго добра відаць вёсачка Вязынка (паводле наймення колішняга фальварка), відаць хата, дзе пачаўся 120 гадоў таму жыццёвы шлях паэта.

З гары гэтай пачынаецца наша Свіслач. Недзе тут пачынаецца і рака купалаўскай, а значыць, у пэўным сэнсе, — і ўсёй нашай

сучаснай паэзіі. Адсюль убачыў пясняр карціну, якая ўразіла яго сэрца і выклікала ў ім гаркотна-суровыя і ў той жа час гранічна-сціслыя, нібы высечаныя на камені, словы:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.

А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды ж нясуць на паказ сваю?
— На свет цэлы.

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць наўчыў, разбудзіў іх сон?
—Бяда, гора.

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

Нехта сказаў, што геній заўсёды народны. З гэтым цяжка не пагадзіцца. Як і са сцвярджэннем, што заўсёды народнае ўсякае сапраўднае мастацтва. Ды калі падобныя сцвярджэнні гучаць з бясспрэчнасцю аксіёмы, то крыху інакш выглядае сітуацыя пры вызначэнні самога паняцця народнасці, далёка, як вядома, неаднaзначнага. Тут узнікаюць пэўныя цяжкасці, выяўляюцца розныя падыходы і крытэрыі. Ды як бы там ні было, як бы ні суадносіліся ў тым ці іншым выпадку паняцце народнасці з індывідуальна-творчымі асаблівасцямі дадзенага мастака, застаецца ўсё ж галоўным крытэрыем меры яго суперажывання з жыццём і лёсам народным — мера яго здольнасці вызначаць, што ёсць праўда і крыўда, справядлівасць і несправядлівасць, дабро і зло.

Досвед паэтычнай творчасці Янкі Купалы ў гэтым сэнсе надзвычай адметны і павучальны. І калі сёння, на сучасным гістарычным вітку, углядваешся ў сурова-чаканныя, поўныя глыбокага сэнсу радкі верша «А хто там ідзе?», верша, пра які было прарочa сказана: «…На час зробіцца народным гімнам беларусаў», — то не можаш не звярнуць увагу на яго галоўнае,

яго ключавое, яго ўдарнае слова «крыўда». Менавіта крыўду прыкмячае перш за ўсё паэт у вобліку і поступе «грамады», народа. Менавіта глыбокая крыўда народная, якая ўжо перастае быць сляпым, беспрытомным болем і выліваецца ў пратэст, у імператыў-патрабаванне «людзьмі звацца», уражвае найперш песняра, надае яму сілу прарочага празарэння.

«Крыўда» як найбольш выразны сінонім зла, сінонім няпраўды і несправядлівасці робіцца адным з самых абавязковых слоў у паэтычным лексіконе Купалы, пераходзіць з верша ў верш, з паэмы ў паэму, прамаўляецца то ў адной, то ў іншай сувязі. Яно гучыць у гістарычна-сацыяльным кантэксце: «Крыўдзіцьураднік, поп абірае» («З песень мужыка»), «Слабыя гінуць, крыўджаны сільнымі» («Зімою»), «Ой, крыўда чалавечая, вякамі ты расла» («Безназоўнае») і г. д. Ім, гэтым словам, характарызуе паэт бесчалавечнасць існуючага ладу: «Годзе выпіў крыві з сэрца крыўды чарвяк» («Маладая Беларусь ), «Крыўда іх топча, гора іх марозіць» («Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея»), «З'ядае крыўда нас ад векаў, няма ні праўды, ні парадку» («Крыўда)». Вышэйшай павагі варты, паводле аўтара, той, хто не крыўдзіць другога: «Паважайце тую птушку, што крыўды не робе» («Падсякайце тое дрэва»). У той жа час «песні беларускай уладар», паэт-прарок бачыць тыя сілы, якія «крыўдзіцеляў змогуць», верыць у тое, «што не загубяць крыўды душу народа» («З кутка жадання»). У творах яго гучыць настойліва матыў: надыдзе час расплаты «за дазнаныя ўсе крыўды» («З людзьмі»). «Пашкадуй мужыка! — заклікае паэт. — Бо за крыўду сваю адпомсціць…» У тым жа духу гучаць і радкі з заключнай страфы паэмы «Яна і я»:

А воля мне жалезная патрэбна
За крыўды маёй мілай помстай заплаціць…

Тут ужо пясняр гаворыць ад імя свайго лірычнага героя, а гэта значыць і ад свайго «я». І ўжо ў яўна нацыянальна-патрыятычным вымярэнні гучыць матыў крыўды ў ягонай «Бацькаўшчыне»:

І калі здзекуецца нада мною хтосьці —
Над Бацькаўшчынай здзекваецца ён маей,
Калі ж над ёй — мяне тым крыўдзіць найцяжэй.

Прымаць так блізка да сэрца «крыўды мілай», крыўды людскія, крыўду мужыка-беларуса, векавую крыўду народа, роднай Бацькаўшчыны мог толькі сапраўды народны паэт, паэт-

патрыёт, паэт-адраджэнец, паэт, які, кажучы ягонымі ж словамі, «не ўяўляў інакшых песень, як песень змагання, вызвалення і свабоды».

*1982*

## ДАР ЗА ДАР
*Вершы англійскага паэта па-беларуску*

Гэта не зусім звычайная, а дакладней, зусім незвычайная кніга. Яна выдадзена ў нашым беларускім выдавецтве «Мастацкая літаратура», выдадзена на беларускай мове; мае беларускую назву: «Позняе жніво». Але імя яе аўтара англійскае: Уолтэр Мэй. І вершы, якія яе склалі, з'яўляюцца перакладамі з англійскай. Пісаліся яны ў розныя гады (самы ранні датаваны сорак сёмым, а самыя познія — семдзесят дзевятым гадамі) і маюць не зусім звычайную, зноў-такі, геаграфію, аб чым сведчаць удакладняючыя час і месца іх напісання аўтарскія заўвагі: «Богнар, верасень 1947», «Сасэкс, Эрандэл-парк, жнівень 1955», «Саўсвік, 1963», «Мінск, верасень 1966», «Мінск, парк Янкі Купалы, 14 жніуня 1967», «Масква, 12 лістапада 1968», «Дагестан, Гуніб, 1968», «Грузія, Джвары, 5 чэрвеня 1971», «Мінск–Хатынь, 31 ліпеня 1972», «Масква, Шчарбінка, 1979» і г. д.

Што ж гэта ўсё-ткі за кніга? Як яна з'явілася? І хто такі яе аўтар Уолтэр Мэй, да вершаў якога звярнуліся дружна і пераклалі на родную мову беларускія паэты? («Позняе жніво» — плод працы даволі вялікага калектыву паэтаў-перакладчыкаў.)

На гэтыя пытанні адказвае ў асноўным аўтар прадмовы да зборніка паэт, доктар філалагічных навук Алег Лойка. Ён паведамляе аб тым, як Уолтэр Мэй, малады выкладчык каледжа ў невялікім гарадку Саўсвік, што на ўзбярэжжы Ла-Манша (графства Сасэкс), захапіўся вывучэннем рускай мовы і літаратуры, зацікавіўся, у прыватнасці, Пушкіным і стаў перакладаць яго вершы на англійскую мову, як потым ён прыехаў у нашу краіну на нараду перакладчыкаў савецкай літаратуры, як стаў актывістам таварыства «Вялікабрытанія–СССР»... Так, менавіта гэтак і пачыналася. А потым — я добра знаёмы з Уолтэрам Мэем і хачу крыху дапоўніць аўтара прадмовы — падзеі развіваліся наступным чынам. Будучы ў Маскве, У. Мэй пазнаёміўся асабіста (раней абмяняўся пісьмамі) з вядомым перакладчыкам беларускай паэзіі Якавам Хелемскім, пачуў ад яго імёны беларускіх паэтаў.

І вось ужо з-пад яго пяра ўслед за перакладамі з паэзіі рускай, класічнай і сучаснай, з’явіліся пераклады на англійскую вершаў Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Еўдакіі Лось… А потым Уолтэр Мэй стаў прыязджаць да нас у Беларусь, стаў знаёміцца з яе жыццём і яе літаратурай, пачалася яго праца над анталогіяй сучаснай беларускай паэзіі на англійскай мове, запланаванай у выдавецтве «Прагрэс» (зараз «Радуга»). У якасці складальніка і члена рэдкалегіі я прымаў удзел у падрыхтоўцы гэтага нялёгкага, працаёмкага выдання, на той час унікальнага ў сваім родзе (анталогія ўбачыла свет у 1976 годзе), мы сустракаліся з Уолтэрам у Мінску і Маскве, у прасторных сценах Саюза пісьменнікаў і ў цесным выдавецкім пакойчыку, і я меў такім чынам магчымасць назіраць, як учарашні педагог і пачынаючы паэт з Брайтана далучаецца да нашых рэалій, з якім энтузіязмам бярэцца за справу прапаганды нашай паэзіі на англійскай мове.

З таго часу Уолтэр Мэй ужо не парывае сувязі з нашай рэспублікай. У яго тут шмат сяброў — і сярод пісьменнікаў, і ў Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. Ён працягвае актыўна перакладаць нашу паэзію і прозу, творы нашых пісьменнікаў для дзяцей (Максіма Танка, В. Віткі, Э. Агняцвет і інш.). Або ўзяць хаця б такі красамоўны факт. У 1982 годзе, да 100-гадовага юбілею Купалы і Коласа Уолтэр Мэй выдаў у перакладзе на англійскую мову аж чатыры кнігі іх твораў — дзве ў цэнтральным выдавецтве «Радуга» і дзве другія ў нашым беларускім «Юнацтве».

Цяпер, думаю, зразумела, як узнікла ідэя выдаць у рэспубліцы асобнай кнігай уласныя вершы Уолтэра Мэя ў перакладзе на беларускую мову. Як гаворыцца, дар за дар, любоў за любоў.

Вяртаючыся да зборніка «Позняе жніво», хацеў бы сказаць яшчэ некалькі слоў аб яго тэматыцы, яго змесце. Кніга Уолтэра Мэя ў аснове сваё аўтабіяграфічная. Тут — і ўспаміны дзяцінства, і спроба асэнсаваць у слове педагагічны вопыт, і роздум аб прызначэнні паэзіі, і паэтызацыя прыроды, і прасякнутыя лірычным пачуццём радкі пра каханне. Шмат твораў зборніка падказаны аўтару яго знаёмствам з нашай краінай, звязаны з беларускімі ўражаннямі («Пушкіну», «Нарач», «Мінску — 900», «Світанне ў Дагестане», «Вясна ў Расіі», «Хатынь», «Масква-рака», «Кіргізская юрта» і г. д.). Адным з лейтматываў зборніка з’яўляецца тэма міру. Асабліва выразна гучыць яна ў вершах «Хто будзе ўладаром?», «Першага мая», «Не! Не! Не!» і інш. Адзін з іх заканчваецца словамі:

За ўзгоркам ранішняя зара
Заззяла, як ружа, светла!
Не, вам не ўладарыць, сілы зла!
Ёсць будучыня ў света!

За гэтымі словамі — грамадзянскае і палітычнае крэда іх аўтара, нястомнага прапагандыста нашай літаратуры Уолтэра Мэя.

*1983*

## «МНЕ СНІЎСЯ СОН…»
*Да 170-годдзя верша Байрана «Цемра»*

Вось і яшчэ адзін з фактаў, якія гавораць аб тым, як памяняўся на нашых вачах час, як змянілася за апошнія гады наша светаадчуванне, наш пункт гледжання на многія рэчы. У студэнцкія гады мы, здаючы залікі і экзамены па замежнай літаратуры, прапусцілі безуважна верш Байрана «Цемра». Ён не ўваходзіў у лік праграмных, пра яго не гаварыў нам нічога лектар, не звярнулі мы на яго ўвагі і самі. А калі хто і звярнуў, то толькі краем вока, мімаходзь. І ва ўсякім выпадку — не задумаўся над ім, не знайшоў у ім нічога агульнага са сваім часам.

І вось…

Мне сніўся сон…
Не ўсё ў ім сном было.
Пагасла сонца светлае, і зоркі
Блукалі без патрэбы,
без праменняў
У вечным космасе;
ільдзістая зямля
Лятала слепа ў бязмесячным
паветры.
Час ранку надыходзіў
і праходзіў,
Ды не прыводзіў дня ён за сабой…

Далей у вершы ідуць іншыя, надзвычай выразна выпісаныя — хаця гутарка ідзе як быццам пра сон — падрабязнасці глабальнай катастрофы, «канца свету»… Гараць гарады і лясы. Носяцца з крыкам нізка над зямлёй птушкі, «махаючы непатрэбнымі

крыламі». Збягаюцца да людзей спалоханымі статкамі звяры, спаўзаюцца, уюцца між людзей змеі…

> …Быў свет пусты;
> Той мнагалюдны свет, магутны свет
> Быў мёртвай масай, без травы, без дрэваў.
> Без часу і Жыцця, людзей і руху…
> То хаос смерці быў…

А што людзі? Дзе яны? Як яны ўявіліся паэту ў яго фантасмагарычным сне? Натуральна, што «хаос смерці» не абмінуў іх. У вершы даецца жудасная карціна дэградацыі і гібелі людскога роду:

> …Хто ляжаў,
> Вочы заплюшчыўшы,
> ды плакаў;
> Хто сядзеў, падпёршыся рукамі,
> і ўсміхаўся;
> Другія клапатліва мітусіліся
> Наўкол кастроў — і ў жудасці шалёнай
> На неба цёмнае з трывогаю глядзелі,
> На саван, што пакрыў усю зямлю…

Чытач, адчуваю, можа тут перабіць мяне і сказаць, што гэтыя радкі выклікаюць у яго пэўныя асацыяцыі, нешта яму нагадваюць. І, падумаўшы, можа дадаць, што байранаўская «Цемра» вельмі нагадвае яму сённяшнія апісанні «ядзернай зімы», у прыватнасці тыя, што даюцца ў кнізе «Ноч пасля…», выдадзенай нядаўна пад рэдакцыяй акадэміка Я. П. Веліхава Камітэтам савецкіх вучоных у абарону міру.

Што ж, чытач мае, безумоўна, рацыю, твор Байрана дае несумненную падставу для такога прачытання, такога ўспрымання — у кантэксце суровых рэальнасцей нашага атамнага, тэрмаядзернага веку.

Паўстае пытанне: як узнікла «Цемра»? Чым была навеяна гэтая паэтычная фантасмагорыя, напісаная, як вядома, пад увогуле мірным бязвоблачным швейцарскім небам, на ўтульнай зялёнай віле, у ясны ліпеньскі дзень 1816 года (г. зн. роўна 170 гадоў назад, своеасаблівы юбілей твора)? Існуюць розныя версіі. У творы ёсць слова «вайна» («Зноў успыхнула вайна, пагасла што на час…»), і біёграфы паэта, літаратуразнаўцы выказвалі меркаванне, што задума верша ўзнікла ў выніку наведвання

паэтам поля бітвы пад Ватэрлоо ў маі 1816 года, праз некалькі месяцаў пасля бітвы. Выказваюцца, у прыватнасці ў сучаснай літаратуры, і іншыя меркаванні. Так, напрыклад, С. П. Капіца выказвае здагадку (гл. «Иностранную литературу», № 1 за 1986 г.), што ў вершы «Цемра» знайшлі адлюстраванне катастрафічныя змены ў клімаце, якія былі выкліканы вывяржэннем вулкана Тамбора ў 1815 годзе (рэзкае пахаладанне, неўраджай, пажары, халера). Верш «Цемра», робіць вывад вучоны, «на мой погляд, лепшае ў сусветнай літаратуры апісанне «ядзернай зімы».

Так па волі часу, па волі неспазнанай логікі рэчаў байранаўскі эпітэт «цемра» стаў у адзін рад з такімі, што набылі сёння асабліва злавесны сэнс, паняццямі, як «анімацыя», «аверкіль», «халакост», «амніцыд», «тэрмаядзерная катастрофа», так твор з верша-сну, верша-фантазіі ператварыўся ў верш-папярэджанне, верш-перасцярогу. Барацьбіты за мір, супраць пагрозы новай вайны бяруць яго на ўзбраенне.

*1986*

## ДАЎГАВЕЧНАСЦЬ

Мяне заўсёды радавалі і захаплялі доўгажыхары. Выклікалі заўсёды пачуццё гонару за наш людскі род, за фізічныя і духоўныя магчымасці чалавека. Некалі, пасля размовы ў цягніку з адным даўгавечнікам (занатаваны ў блакноце яго імя і адрас), хацеў нават напісаць верш на гэту тэму. Верш не напісаў, але затое з задавальненнем сустрэў потым — як быццам свае ўласныя — пысінскія радкі: «Старому, мусіць, дзевяноста (да дзевяноста б вам і мне!), ды вельмі, вельмі ўжо дзівосна прымерваць старасць на вайне. Мы з ім, героем Леадуна, спаткаліся — і будзь здароў!» і г. д.

З пачуццём асаблівай пашаны і захаплення глядзеў заўсёды на ўдзельніка чатырох войнаў, аднаго з пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры, яе сённяшняга старэйшыну Кандрата Крапіву. І тут, мабыць, дае знаць, апрача ўсяго іншага, яшчэ яго знешні выгляд, яго рост і моц, яго волатаўская постаць, якая нагадвае мне тыя векавыя, моцна ўкаранёныя ў родную глебу, саракаметровай вышыні сосны, што растуць месцамі ў магілёўскіх барах і ў Белавежскай пушчы.

Гэтае параўнанне — з медзянымі соснамі-волатамі — упершыню прыйшло ў галаў дзесяць год таму, калі, пра-

цуючы на пасадзе сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў, я займаўся святкаваннем 80-годдзя нашага выдатнага сатырыка, сустракаўся і гаварыў з ім па тэлефоне, ездзіў з ім на яго родную Уздзеншчыну, калі, словам, меў шчаслівую магчымасць пазнаёміцца бліжэй з Кандратам Кандратавічам асабіста. Тады ж, у час спаткання Кандрата Крапівы з землякамі, з блізкімі яму людзьмі, я зрабіў і яшчэ адно адкрыццё: калі ён усміхаецца, то неяк пераўтвараецца ўвесь, мяняецца з твару, за суровым, нават змрачнаватым выглядам нашага Ювенала раптам прыадкрываюцца добры, па-дзіцячы непасрэдны позірк, чулая, уражлівая, лёгка ранімая душа…

Незадоўга да новага, ужо 90-гадовага юбілею пісьменніка, а дакладней — восенню мінулага года, мне выпала зноў сустрэцца з ім. Сустрэча адбылася пры наступных абставінах. Праводзілася чарговае пасяджэнне прэзідыума праўлення СП, на парадку дня стаяла пытанне аб прыёме ў Саюз пісьменнікаў групы паэтаў і празаікаў. Для вырашэння яго патрабуецца, згодна з палажэннем аб прыёме, адпаведны кворум, г. зн. пэўная колькасць членаў прэзідыума. Некаторыя з іх адсутнічалі, у асноўным па стану здароўя. І вось А. Кудраўцу і мне як членам падліковай камісіі было даручана з’ездзіць на кватэру да Кандрата Крапівы па яго «голас». Голас важкі, што і казаць. Місія выпала ганаровая. Мы былі ўдзячныя выпадку за магчымасць нанесці візіт патрыярху нашай літаратуры, убачыць яго ў хатняй абстаноўцы. Праўда, паколькі ведалі пра стан яго здароўя, было крыху і ніякавата, нават боязна — так вось папросту, з нейкай там скрынкай для галасавання ўрывацца да жывога класіка. Нехта з нас нават выказаўся ў тым сэнсе, што, можа, маўляў, і не трэба было б турбаваць Кандрата Кандратавіча.

Але ўсё адбылося як нельга лепш, звыш нашых меркаванняў і чаканняў нашых. Кандрат Кандратавіч ветліва сустрэў нас у сваім невялічкім, даволі сціпла абстаўленым пакоі-кабінеце (нічога лішняга, ніякай лішняй раскошы, толькі самае неабходнае). Сказаў аб працы кожнага з нас некалькі добрых слоў. Яшчэ сказаў, што, хоць і не можа нармальна чытаць (вельмі аслаблены зрок), усё ж імкнецца сачыць збольшага за літаратурным працэсам. Зусім не фармальна, а з самай жывой цікавасцю, па-дзелавому паставіўся да галасавання па спісе кандыдатаў у члены Саюза пісьменнікаў. У дачыненні да тых, каго, як ён прызнаўся, не ведае, папрасіў нас сказаць некалькі слоў. Я даў кароткую характарыстыку паэтам, Кудравец — празаікам. Пасля гэтага, уважліва выслухаўшы нас, Кандрат Кандратавіч нахіліўся

над бюлетэнем — бласлаўляў новае папаўненне пісьменніцкай арганізацыі.

На развітанне мы пацікавіліся справамі і планамі гаспадара.

— Заканчваю праз тыдзень рэдагаванне слоўніка*.

— Тут, у гэтым пакоі і працуеце?

— Так. Сюды да мяне прыязджаюць супрацоўнікі інстытута з матэрыяламі да слоўніка.

— А як наконт баек, Кандрат Кандратавіч? — запытаўся я. — Ёсць задумы?

— Ёсць, — тут жа, без вагання было сказана ў адказ, — скончу рэдагаванне і вазьмуся за байкі.

Мы з Кудраўцом дружна пераглянуліся. Прыемна было засведчыць такі вось бадзёры творчы настрой, пачуць такія словы ад чалавека, які сваю аўтабіяграфію пачаў калісь словамі: «Нарадзіўся я яшчэ ў мінулым стагоддзі…»

Вярталіся мы ў Саюз пісьменнікаў пад уражаннем ад сустрэчы, загаварылі па дарозе пра тое, што з асобай і творчасцю Кандрата Крапівы як нельга лепш, можа, стасуюцца тыя фактары, якія неабходны, на думку Хемінгуэя, для таго, каб пісьменнік змог дасягнуць сапраўднага поспеху, рэалізавацца: талент, самадысцыпліна, сумленнасць, інтэлект, бескарыслівасць і, нарэшце, жыццястойкасць, даўгавечнасць. У асобе Кандрата Крапівы ўсе гэтыя якасці выступаюць у гарманічным спалучэнні.

А вечарам, дома, захацелася зняць з паліцы томік яго баек, перачытаць іх. І чытанне гэтае, павінен сказаць, атрымоўвалася няпростае, цікавае і павучальнае. На паверку выходзіла, што многія крапівоўскія алегорыі і абагульненні, у прыватнасці тыя, што ствараліся ў сярэдзіне дваццатых гадоў, г. зн. шэсцьдзесят год назад, выдатна «захоўваюцца», ні на ёту не страцілі сваёй ідэйна-мастацкай значнасці, сваёй першароднай сацыяльнай вастрыні. Больш таго — некаторыя з баек выглядаюць так, як быццам толькі што напісаны, як быццам з'яўляюцца водгукам сатырыка на сённяшнія з'явы. Я перачытваў байкі «Каршун і Цецярук», «Угоднікі-маўчальнікі», «Махальнік Іваноў» і ўспамінаў надрукаваны перад гэтым у адной газеце артыкул «Такая каварная ліслівасць», дзе выкрываліся ліслíўцы і ўгоднікі з іх характэрнымі рысамі, інтрыгамі і прыёмамі — до-

---

* Другое, дапоўненае і перапрацаванае выданне беларуска-рускага слоўніка.

бра знаёмымі нам па персанажах баек Крапівы. Я перачытваў байкі «Кормны і Надворны», «Старшыня», «Ганарысты Парсюк» і бачыў, як яны пераклікаюцца ў часе, па літары і духу сваіх з нядаўнім выступленнем аднаго вядомага пісьменніка на старонках «Литгазеты», у прыватнасці з гэтымі вось словамі: «Ах, як гэта добра — цяжкая праца! На ёй не затлусцееш. А то вунь якія жываты адрасцілі сабе некаторыя! Наўрад ці ад цяжкай працы. Хутчэй ад нерастрачаных, але атрыманых калорый». Так і чуеш тут рохканне крапівоўскага Рудога. Я перачытваў байкі «Варона-мітынгоўшчыца», «Дзед і баба», «Мандат», «Саманадзейны Конь», «Балада пра Яўтуха», я спыняў увагу на тых характарыстыках, якімі надзяліў сваіх персанажаў байкапісец («Аднак нядрэнна ўмеў брахаць ён, падчас прамоўцаю лічыўся», «Ён забурэў, ён растаўсцеў», «Ты паможаш так каню, як хваробе кашаль», «Ад велічы ўласнай праз год ці праз два аж стала кружыцца ў яго галава. Не бачыў зямлі ён, не бачыў людзей» і г. д.), і не мог не аддаваць належнае сацыяльнай відушчасці сатырыка, не мог вызваліцца ад уражання, што гэтыя творы народжаны сённяшняй злобай дня, што прататыпамі крапівоўскіх персанажаў з'яўляюцца якраз тыя, featured рознага маштабу, гора-кіраўнікі і «дзеячы», якім сёння гавораць: «Паспрабуйце злезці!»

Паказальны па-свойму факт: любая газета можа сёння з поспехам і карысцю для справы перадрукаваць як быццам сёння створаныя, але «напісаныя ад абурэння» (словы антычнага сатырыка) Кандратам Крапівой шэсцьдзесят гадоў назад, радкі:

«Хто спіць, дык той не грэшыць».
Заслуга ў нас, аднак, не ў тым,
Каб быць маўчальнікам святым
І гнісці ў абывацельскім «раю»,
Іначай кажучы, ў балоце,
А ў тым, каб з лепшымі ісці ў страю,
Гарэць-змагацца на рабоце.

Так вось у той памятны асенні дзень жывое ўражанне непасрэдна ад самога аўтара з яго невычарпальным творчым здароўем і яго маральна-духоўнай маладосцю пацвярджалася і дапаўнялася найлепшым чынам ідэйна-тэматычнай і маральнай жывучасцю яго баек-даўгавечніц.

*1986*

## УРОК СОРАМУ
*Выступленне па радыё ў ліпені 1987 г.*

Ёсць выслоўе: сапраўдны паэт у дваццаць пяць гадоў мудры, а ў семдзесят — малады. Пімену Емяльянавічу спаўняецца семдзесят, новыя яго вершы, тыя, што нядаўна друкаваліся ў часопісах і на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» і потым увайшлі ў яго кнігу «І вера, і вернасць, і вечнасць», красамоўна сведчаць, што паэт — малады. Сэрцам. Духам. Сваім светаадчуваннем. Сваім успрыняццем таго, што адбываецца навокал. Малады ў сваёй веры, у надзеі і любові сваёй. А, з другога боку, радкі, створаныя паэтам шмат гадоў назад, не менш красамоўна гавораць аб тым, што ў маладосці сваёй творчай ён быў — як грамадзянін і мастак — мудры, праніклівы, духоўна сталы. Гартаючы старонкі кніг Пімена Панчанкі, пераконваешся, што ён і з'яўляецца якраз адным з тых, хто адчуваў і ўсведамляў неабходнасць перабудовы, хто жыў чаканнем яе, быў яе прадвеснікам, песняром яе. Кажучы сённяшнімі словамі, паэт па праву ўваходзіць у кагорту тых, хто рыхтаваў перабудову — сваім натхнёным, сумленным, прасякнутым болем і трывогай за нашу агульную справу радком. Іменна ў тым, што Пімену Панчанку не было неабходнасці перабудоўвацца, вызначаць сваю пазіцыю ў новай грамадскай абстаноўцы, і заключаецца сакрэт узнікнення такіх яго новых твораў, як «Кабінеты», «Паэма сораму і гневу», «Труба». Аўтар іх не столькі «адгукаўся», не столькі выконваў так званы сацыяльны заказ, колькі выдыхнуў свае творы, проста з душы выліў іх.

Жыццё — з любові, працы і пакут,
Адновім чалавечую іх вартасць!
А гнеў і сорам мне душу пякуць,
І гне маё сумленне вінаватасць.

Новы верш, радкі новыя, народжаныя свежым подыхам перамен, новы сацыяльны кантэкст, а словы, як бачым, знаёмыя, даўно ўжо, з самага пачатку ўласцівыя паэту.

Працягваючы думку, хачу падзяліцца яшчэ адным, спадзяюся, цікавым і павучальным для ўсіх нас — для пісьменніка і чытача — назіраннем. У свой час мяне ўразілі наступныя радкі паэта:

Мне сорамна народ агітаваць,
Каб людзі больш і больш штодня рабілі,

Мясілі гліну, валуны драбілі:
Ён ведае і сам, як працаваць…

Уразілі, запомніліся, прыгадваліся не раз — як трапная паэтычная формула нейкай дакладна схопленай мастаком ненармальнасці, нейкага нездаровага змяшчэння ў нашым грамадскім жыцці: адны працуюць, а другія заклікаюць, агітуюць іх працаваць. Тут, як кажуць, ёсць над чым задумацца. І вось сёння, — пасля адпаведных урокаў праўды, у час, калі дабро бярэ верх над злом, — я зноў і зноў прыгадваю празорлівыя радкі, надрукаваныя ўпершыню ў 1965 годзе (верш «Жыццё маё…»). Я чытаю дакумент: «Нашы людзі не хочуць больш мірыцца з тым, каб паміма іх кім бы то ні было вырашаліся пытанні, якія закранаюць іх інтарэсы», што «час, калі кіраванне зводзілася да загадаў, забаронаў, заклікаў, адышоў у мінулае. Цяпер усім ясна, што такімі метадамі працаваць больш нельга» — я спыняюся на гэтых словах і думаю пра радкі паэта, напісаныя дваццаць гадоў таму. Я чытаю артыкул вучонага-эканаміста, выдзяляю яго словы аб тым, «што негуманна бачыць у чалавеку толькі рабочую сілу, крыніцу павелічэння матэрыяльных даброт, трэба яшчэ помніць пра самацэннасць чалавечай асобы», — і зноў прыгадваю з захапленнем своеасаблівы ўрок палітэканоміі, які выразна выказаў Пімен Панчанка ў сваім вершы: «Мне сорамна народ агітаваць, каб людзі больш і больш штодня рабілі…»

*1987*

## «ХОЧАЦЦА ЖЫЦЬ — НЕ КАНЧАЕЦЦА ДОЛЯ…»
### *Прадмова да зборніка Яўгеніі Пфляўмбаўм «Сувой жыцця»*

Яўгенія Пфляўмбаўм… Даўным-даўно, яшчэ ў сярэдзіне дваццатых гадоў, гэтае, не зусім прывычнае для беларускага слыху нямецкае імя рабілася вядомым у маладой паслярэвалюцыйнай нашай паэзіі, у літаратурным жыцці Мінска і рэспублікі. Дачка мінскага чыгуначніка Эргарда Карлавіча Пфляўмбаўма (з ліку немцаў, запрошаных у свой час для працы на Беларуска-літоўскай чыгунцы і натуралізаваных у нас) і хатняй гаспадыні, родам з Сенніцы, Алены Кандратаўны Лагун, студэнтка Белпедтэхнікума Яўгенія Пфляўмбаўм выступіла ўпершыню ў друку ў 1924 годзе ў шаснаццацігадовым узросце. Друкавалася ў часопісах «Маладняк», «Полымя», «Узвышша», у газетах «Звязда» і «Савецкая Беларусь». У 1926 годзе

разам са сваімі равеснікамі З. Бандарынай і Н. Вішнеўскай выдала зборнік «Вершы». Працягвала вучобу на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака БДУ, прымала актыўны ўдзел у літаратурна-грамадскім жыцці: была членам «Маладняка», потым — «БелАППа», уваходзіла ў склад бюро Мінскай філіі «Маладняка» і ў кіраўніцтва рэспубліканскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў… Так было на заранку, так было напачатку. Так пачыналася біяграфія, творчая і грамадская, Яўгеніі Пфляўмбаўм.

Плылі па небе аблачынкі,
І з іх смяяліся дзяўчынкі.
Смяшлівы быў настрой у неба,
І пырскаў смех з аблічча Феба.
Такі быў золачак вясёлы,
Што ўсё смяялася наўкола…

— прыгадае потым паэтэса з пачуццём шчымлівага жалю. І прыгадае, відаць, не толькі сваё дзявочае юнацтва, золак свайго жыцця, але і сваю літаратурную маладосць, свае першыя творчыя парыванні.

Што ж адбылося потым? Чаму імя, якое рабілася вядомым, стала набываць добрую літаратурную славу, раптам знікла, сышло, як тая аблачынка, і да апошняга часу заставалася, па сутнасці, невядомым? Многія з нас, напрыклад, ведалі Яўгенію Эргардаўну Пфляўмбаўм як паэтэсу па адным толькі вершы «Турксіб», які быў змешчаны ў зборніку «Універсітэт паэтычны», выдадзеным у 1971 годзе да 50-гадовага юбілею БДУ імя Леніна.

Чаму? Па якой прычыне? З прычыны якіх абставін?

На гэтыя пытанні трэба хоць коратка адказаць, інакш не ўсё будзе зразумела, не ўсё будзе зразумела для чытача ў самой кнізе — не ўсе тэмы, матывы, рэаліі.

А галоўная прычына ў тым, што на светлыя аблачынкі, якія плылі па высокім, сінім, весела настроеным небе дваццатых, сталі ўраз набягаць злавесна змрачнаватыя хмаркі трыццатых, што вясёлкавы золачак, не паспеўшы разгарэцца ў ясны дзень, стаў змяняцца раптам прыцемкам сталіншчыны. Для творчай і навуковай беларускай інтэлігенцыі яна пачалася не ў трыццаць сёмым, а значна раней, на самым пачатку трыццатых. Услед за сваім спадарожнікам па жыцці і літаратуры, за рэпрэсіраваным у 1933 годзе Максімам Лужаніным едзе ў Сібір і Яўгенія Пфляўм-

баўм. Вось чаму яна перастае друкавацца, вось чаму ў яе вершах сібірскія матывы, сібірскія назвы (Сіблаг, Марыінск, Кія), сібірскія вецер і снег.

Снег растае на цёплай скроні,
Паруюць кроплі на чале,
А віхар гоніць, гоніць, гоніць
Адны снягі другім услед.
Такой зімой у маладосці,
У дваццаць тры мае гады,
Патрапіла ў Сібір я ў госці
З усенароднае бяды.

Побач з радкамі пра «сіблагаўскія шляхі» знойдзе чытач у кнізе і радкі пра «школьныя кіламетры», пра тое, як маладая, зусім нявопытная настаўніца самааддана вучыць дзяцей у сібірскім гарадку. Гэтыя радкі, вядома, таксама аўтабіяграфічныя (спатрэбіўся, ратаваў ад голаду дыплом выпускніцы педфака БДУ).

Добра помніць Яўгенія Эргардаўна сваё сібірскае жыццёбыццё, сваё першае і апошняе настаўнічанне. Але з асаблівым пачуццём успамінае і расказвае аб тым, як марыла пра зваротную дарогу, як берагла, адкладвала на білет кожную капейку. І калі той доўгачаканы момант нарэшце надышоў, праводзіць прыйшлі вучні, прыйшлі з ліку сіблагаўскіх вязняў Змітрок Астапенка і Змітро Віталін. Каб не гэтыя два Змітракі, надоўга засела б на станцыі ў Марыінску настаўніца: цягнікі праходзілі звычайна не спыняючыся, а калі і прыстойвалі на хвіліну, дык пасажыраў амаль не бралі. Змітро праявіў, што называецца, волю. Ён выцягнуў клункі на перон, упрасіў праваднiцу пасадзіць чалавека і — прыгадвае Яўгенія Эргардаўна — доўга стаяў на марозе са знятай з галавы аблавушкай, глядзеў услед…

Потым была Масква, маскоўская паласа ў жыцці паэтэсы (адсюль і адпаведныя вершы). Былі цяжкасці з уладкаваннем, з пошукамі жылля і працы. Нешта знаходзілася. Працавала карэктарам, рэдактарам. У Маскве перажыла і ваенную часіну з яе дзяжурствамі на даху, з холадам і голадам, са скупымі карткамі. Ехала неяк у тралейбусе і прыціскала да грудзей азяблымі рукамі папяровыя скруткі, яны распаўзаліся, падалі, і змрочнага выгляду стары падаў «авоську»: «Складзіце як след!» Узяла, спытала: «А як жа аддаць вам сетку?» — «Ніяк, успомніце прафесара Бурдэнку».

Хай зноў душа твая і розум
Спагадзе служыць і дабру…

Ну а потым, пасля вызвалення, пасля вайны, незабыўнае, хвалюючае вяртанне на Радзіму, у родны Мінск. Пачыналася новая, мірная, больш-менш спакойная паласа.

Так складвалася жыццё. Так складвалася кніга. Зрэдку вершы пісаліся і ў Сібіры. Прыходзілі, больш настойліва давалі знаць пра сябе ў Маскве. У рэдкія хвіліны адпачынку, у мінуты тугі па доме, па маці. Задумваліся, прасіліся бы на паперу — то як успаміны, то як рухі душы — дома, у Мінску. Але аб’ядноўвае іх усе, незалежна ад геаграфіі і часу іх паходжання, накладвае на іх агульны адбітак адна акалічнасць: пісаліся яны, можна сказаць, не для публікавання, не для друку, а ўзнікалі як размова сам-насам, як дыялог са сваім унутраным голасам, са сваёй душой (у кнізе часта трапляецца гэтае слова: душа), як старонкі паэтычнага дзённіка. Гісторыя літаратуры ведае такі вопыт. Мы маем у дадзеным выпадку справу з нашай беларускай Эмілі Дзікінсан. Да слова сказаць, у амерыканскай і нашай паэтэсы ёсць надзіва сугучныя па сваім маральным і эстэтычным сэнсе радкі. «Літасцю гандлюеш боскай — пазыка пад працэнт, ды не смей зняважыць Геній ярлыком цаны» — гэта ў Э. Дзікінсан. А вось радкі з верша Я. Пфляўмбаўм:

Тваё пісанне не тавар,
Не ў пару творыкам няздар,
Яно, як кажуць, для душы:
Не можаш не пісаць — пішы,
Вось толькі фальшам не грашы.

У звароце гэтым — аўтарскае крэда. І яно вытрымана з пачатку і да канца ў кнізе, названай «Сувой жыцця».

*1989*

## «НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..»

Напрыканцы мінулага года, яшчэ падчас працы ў камісіі Вярхоўнага Савета, я збіраўся выступіць у друку з нататкамі, як кажуць, на злобу дня. Абдумваў іх план, збіраў матэрыял, рабіў выпіскі і накіды. Прыкідваў дзе, у якім выданні — газеце ці часопісе — гэтыя нататкі можна будзе надрукаваць.

Тэма акрэслілася, а назва знайшлася не адразу. Знайшоў яе, калі знаёміўся з новым, трохтомным выданнем Збору твораў Максіма Багдановіча і спыніў — які ўжо раз! — позірк на вершы, што ў памяці кожнага з нас і што пачынаецца (ён не мае загалоўка) радком: «Народ, Беларускі Народ!..» Вось табе і назва, падумаў маючы на ўвазе радок. Радок, дзе ўсе словы з вялікай літары. Радок, дзе асэнсаванне мінулага і адначасова прадчуванне будучыні. Радок — духоўны квант. Радок-выклік. Радок-дэвіз…

Радок, які, як я зразумеў, можа быць ужыты не толькі як назва артыкула, нататак, але і саслужыць добрую службу ў якасці дзейснага наймення адпаведнай газетнай рубрыкі.

Магу нагадаць, карыстаючыся выпадкам, што верш «Народ, Беларускі Народ!..» быў напісаны ў 1913 годзе — годзе выдання адзінага прыжыццёвага зборніка паэта «Вянок». Але ў зборнік ён не ўвайшоў. Быў упершыню апублікаваны пад загалоўкам «З пасмяротных твораў Максіма Багдановіча» толькі ў 1919 годзе ў другім нумары віленскага часопіса «Беларускае жыццё» вядомым бібліёграфам, гісторыкам беларускай літаратуры і адным з аўтараў «Нашай нівы» Рамуальдам Зямкевічам. Страшна падумаць, што рукапіс твора мог не ўбачыць свет, мог згубіцца, прапасці (рукапісы, можа, і не гараць, але часам прападаюць бясследна). Бо без яго цяжка ўявіць тую надзвычай істотную частку спадчыны Максіма Багдановіча, якую складаюць вершы «Краю мой родны! Як выкляты Богам…», «Рушымся, брацця, хутчэй», «Слуцкія ткачыхі», «Пагоня», «Беларусь, твой народ дачакаецца», а таксама артыкулы «Глыбы і слаі», «Забыты шлях», «Сталецце руху беларускага народа», «Беларускае адраджэнне», «Беларусы», «Хто мы такія?», «На беларускія тэмы», «Голас з Беларусі», — інакш кажучы творы, прасякнутыя матывамі адраджэння, абуджэння самасвядомасці народа, нацыянальна-вызваленчым пафасам.

Леў Талстой дзяліў мастакоў слова на «літаратараў» і «прарокаў», якія (апошнія) гавораць, «як уладу маючыя» («как власть имущие»). Аўтар верша «Народ, Беларускі Народ!..», «Пагоні» і некаторых іншых твораў адносіцца, безумоўна, да катэгорыі апошніх, да тых, хто гаворыць, «як уладу маючыя», хто ўсведамляе сваю адказнасць за лёс народа, роднага краю, хто прамаўляе на высокай прарочай ноце:

Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»
І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.

Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!

І гэта асаблівасць мастакоўскага дару Максіма Багдановіча абумоўлена, пэўна, перш за ўсё яго патрыятычнай пазіцыяй, тым, што ён, як слушна зазначыў у адным сваім артыкуле Ніл Гілевіч, з'яўляецца «паэтам з выразна акрэсленым нацыянальным складам мыслення і бачання».

У гэтай сувязі, мяркую, будзе, дарэчы, сказаць і наступнае. Творчая спадчына Максіма Багдановіча, яго ўрокі як мастака-патрыёта і грамадзяніна з'яўляюцца на сённяшні дзень, як ніколі, можа, актуальнымі, уяўляюць сабой важкія, неабвержныя, з пэўным знакам аргументы — калі не цэлую сістэму аргументацыі — у спрэчках аб нашых палітычных і духоўных арыенцірах, аб беларуска-расійскіх стасунках, аб так званай «славянскай еднасці», аб месцы Беларусі з яе гістарычным і культурным багажом у сусветнай супольнасці.

Народжаны ў Беларусі, у яе галоўным горадзе, Максім Багдановіч, па волі лёсу, жыў, рос, вучыўся і працаваў у Расіі, выдатна валодаў рускай мовай, ведаў і любіў рускую літаратуру, пісаў пра творчасць яе асобных прадстаўнікоў, ад Ламаносава да Брусава, па-руску пісаў артыкулы, нарысы і нават вершы, нават сам перакладаў на рускую мову, напрыклад, з украінскай… Плюс яшчэ такі немалаважны біяграфічны факт: яго бацька, Адам Ягоравіч, быў не толькі ў блізкіх сяброўскіх, але і ў сваяцкіх, па жонках, адносінах з Максімам Горкім (па-свойму сімвалічна, што помнікі двум Максімам знаходзяцца недалёка адзін ад аднаго, хоць і на супрацьлеглых берагах Свіслачы). Але… Максім Багдановіч, тым не менш, застаўся як асоба і паэт беларусам, верным сынам свайго народа, песняром Беларушчыны. Ён звяртаў увагу на русіфікатарскую палітыку імперскіх уладаў, якія, як ён пісаў, «прыглушалі нацыянальныя сілы беларускага народа». Ён зазначыў, што «струны нацыянальнага пачуцця… не могуць зазвінець у расійцаў так, як у нашай пісьменнасці». Ён з трывогай пісаў пра «тыя мінусы, якія нясе з сабою выкладанне ў беларускай школе на велікарускай мове».

Ён валодаў украінскай мовай, прытым настолькі, што мог на ёй пісаць. Ён перакладаў з украінскай, даследаваў творчасць украінскіх пісьменнікаў, паэтаў і празаікаў. Ён вывучаў польскую мову і перакладаў з яе. Ён, па сведчанні яго бацькі, «наогул любіў славянскіх паэтаў і амаль з усімі выдатнымі паэтамі чэхаў, харватаў, сербаў і балгар быў знаёмы па «Паэзіі славян» Гербеля

і вышукваў пераклады ў Берга і ў старых і новых часопісах. Спрабаваў вывучаць (працяг цытаты. — *А. В.*) славянскія мовы, карыстаючыся для гэтага перакладамі Евангелля. Чытаў Евангелле на чэшскай і сербскай мовах… Наогул ён знаходзіў, што рускія, асабліва беларусы, павінны быць знаёмыя з усімі славянскімі мовамі, так як нам, беларусам, гэта даецца за ўсё лягчэй».

Ён жыва цікавіўся гісторыяй, літаратурай і этнаграфіяй славянства, пра што красамоўна сведчаць яго артыкулы і нарысы «Галіцкая Русь», «Чырвоная Русь», «Угорская Русь», «Братычэхі», «Вобразы Галіцыі ў мастацкай літаратуры», «Украінскае казацтва». Але ў яго цікавасці і сімпатыях да братоў-славян не прамільгвае ніводнай ноткі «гэй-славянства», панславісцкіх спекуляцый. Наадварот, ён акцэнтуе на асаблівасцях гісторыі, побыту і культуры таго ці іншага народа, на яго імкненні да самазахавання і самастойнасці.

«Але чэхі ўсё ж дабіліся свайго! — ускліквае ён з адабрэннем. — Упарта змагаючыся, крок за крокам заваёўваючы новыя і новыя правы і ўступкі, яны ператварылі сваю вобласць у краіну сапраўды чэшскую, краіну славянскую». Ну, а па-другое — што асабліва тут важна — свае ўвагу і розум у дачыненні да лёсу іншых славян паэт самым цесным чынам звязвае з надзеяй на нацыянальнае адраджэнне свайго народа, са служэннем беларускай справе.

І яшчэ. Кола творчых інтарэсаў, пошукаў і памкненняў Максіма Багдановіча не абмяжоўвалася, як вядома, нацыянальнымі і славянскімі рамкамі. Ён усведамляў сябе манадай агульначалавечага быцця, часцінай усяго чалавецтва, пра што сведчыць яго незвычайная цікавасць да сусветнай літаратуры. Ён любіў і перакладаў французскую паэзію, вывучаў італьянскую мову, чытаў і перакладаў немцаў і сам перакладаў з нямецкай, чытаў не толькі ў перакладах, але і арыгінале антычных аўтараў. Яго нават хапала для таго, каб удзяліць увагу першым перакладам на рускую мову «Гітанджаляў (ахвярапесняў)» Рабіндраната Тагора і адзначыць «красоту и изобилие сравнений в поэзии агора, оригинальных, но отнюдь не вычурных».

Паэт гаварыў пра «скарбніцу светавай культуры». Усё гэта давала мне падставу гаварыць на ўрачыстым вечары, які быў наладжаны ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння паэта ў парыжскай штаб-кватэры ЮНЕСКА, пра тое, што Максіма Багдановіча можна з поўным правам аднесці да ліку папярэднікаў-прадвеснікаў ЮНЕСКА з яе высакароднымі, гуманнымі ідэаламі, яе нама-

ганнямі ў імя творчага, інтэлектуальнага і духоўнага супрацоўніцтва паміж людзьмі і народамі.

Але, зноў-такі, пры ўсёй універсальнасці мастакоўскай постаці Максіма Багдановіча ён заставаўся перш за ўсё сынам свайго беларускага народа і лічыў сваім кроўным абавязкам служыць яму, яго культуры, яго духоўнаму развіццю. Яго пераклады і наследаванні, яго схільнасць браць эпіграфамі радкі з твораў іншамоўных паэтаў (як вядома, знакамітай «Зорцы Венеры папярэднічае чатырохрадкоўе французскага паэта Сюлі-Прудома) сведчыць пра яго імкненне ўсяляк узбагачаць нацыянальнае прыгожае пісьменства, пераносіць лепшыя чужыя кветкі на родную глебу. «Было б горш, чым нядбальствам, — пісаў ён у «Забытым шляху», — нічога не ўзяць з таго, што сотні народаў праз тысячы год сабралі ў скарбніцу светавой культуры. Але занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго, — гэта яшчэ горш: гэта значыць глуміць народную душу».

Ну вось, здаецца, і ўсё. Узяўшыся вытлумачыць назву рубрыкі, я фактычна зрабіў і ўводзіны ў яе. Мушу дадаць яшчэ, што яна ўяўляецца мне адметнай збольшага па падыходах, ракурсах, новых «зрэзах» у вырашэнні тэмы беларускасці, лёсу народа, нешматслоўнай і разнастайнай у жанрава-стылёвых адносінах (нататка, дакумент, фактаграфічнае сведчанне, успамін, мастацкі твор ці ўрывак, фрагмент з яго, рэцэнзія, каментарый да падзеі або памятнай даты, цытата ці вершаваныя радкі на падвёрстку). Выказваю спадзяванне, што ў рубрыкі знойдуцца не толькі чытачы, але і аўтары, і запрашаю да супрацоўніцтва.

І ў заключэнне — неабходная даведка: у канцы года, а дакладней — 12 снежня па новым стылі спаўняецца 105 гадоў з дня нараджэння Максіма Багдановіча і… роўна 100 гадоў з таго часу, калі ён з бацькам пакінуў Радзіму і пераехаў у Расію, у Ніжні Ноўгарад. Удалечыні ад роднай зямлі, на чужыне, спачывае яго прах. «Народ, Беларускі Народ!..»

***1996***

## «НЯХАЙ СВЯТЛО ПЕРАМАГАЕ Ў НАС!»

Гэта — радок аднаго з апошніх вершаў Ніны Мацяш, з верша, які называецца «Да свята»:

Зла са святлом змаганне
　　　　　　йдзе заўсёды.
Няхай святло перамагае ў нас!
Бо толькі ў ім душа расце крылата.
Хай не пакіне нас *такое* свята!

Няхай!.. Давайце тут жа далучымся да гэтага пажадання, давайце тут жа, не сумняваючыся, асабліва не задумваючыся, падзелім з аўтарам гэтае яго запаветнае, душэўнае парыванне. І мы тут не памылімся, не ашукаемся, не станем ахвярамі наіўнай веры. Бо мы тут маем справу з аўтарам, імя якога Ніна Мацяш і для якога вершатворчасць — не «старажытная гульня ў словы», а нешта іншае: то асэнсаванне і працяг матчынай песні («Тры песні», «Песня матчынай маладосці»), то жаваранкавая песня кахання («Жаваранкі пяшчоты»), то «Маналог крыніцы, якую закідалі каменнем» або «Маналог каханай Кастуся Каліноўскага», то зноў «Тры песні» («Падхаплю жалю мову шчырую: не вяртаецца жораў з выраю») і яшчэ «Тры дудкі» («Ах, чароўныя дудачкі з матчынай казкі!..»), а то «Пяць галасоў». Вось яны, гэтыя галасы:

— Каб збавіцца мне
　　　　　　ад душэўных ран,
Забыць мне трэба пра Афганістан,
Пра славу і няславу ў той вайне,
Пра маладосць у цынкавай труне.

— Каб збавіцца мне
　　　　　　ад душэўных ран,
Забыць мне трэба пра чарнабылян,
Кім сталі ўсе мы на зямлі айчыннай,
І выміраем ад жуды злачыннай.

— Каб збавіцца мне
　　　　　　ад душэўных ран,
Забыць мне трэба
　　　　　пра ганебны зман,

Якім людзей аблытваць не зракліся
Халопы нават і пасля Тбілісі.

— Каб збавіцца мне
ад душэўных ран,
Насыпаць трэба волатны курган
На ўсё, што знаем пра сябе сягоння,
Пра нашы Курапаты і Пагоню.

— На волатны курган сядаў груган.
Хто ўмёр — маўчаў,
Жывы — нямеў ад ран.
А гнеў патрабаваў крыві за кроў.
Крый Бог нам абяспамяцець ізноў!

Болем і горыччу прасякнутыя ўсе «пяць галасоў», глыбокія душэўныя раны, ад якіх наўрад ці магчыма пазбавіцца. Але паэтка з уласцівымі ёй сілай духу, самаахвярнасцю і альтруізмам не забывае пра нас, дбайна клапоціцца пра свята, пра святло ў жыцці нашым. «Бо толькі ў ім душа расце крылата». Яна любіць і перакладае на беларускую французскіх паэтаў і, відаць, сустрэла і прыняла выснову аднаго з іх: прызначэнне паэзіі — рыхтаваць свята для чалавека і чалавека для свята. І яшчэ, можа быць, ратавацца і ратаваць іншага ад адзіноты.

— Дзе завязваюцца ветры,
Тыя,
Што прыносяць буру
Ў чалавечую душу?
— У пустынях адзіноты.

Каму-каму, а Ніне Мацяш вядома, што гэта за птушка — самота-адзінота. Лірычная (і гістарычная) гераіня ў дадзеным выпадку неаддзельная ад асобы аўтара, ад яе жыццёвага досведу. Адсюль такія пранізлівыя, эмацыянальныя радкі:

Не вернешся. І я ўжо не крануся
Твайго крутога, мужнага чала.
І ласкаю тваёй не загаруся.

Адшчыравала радасці пчала.
Не разамкну няшчаднай
скрухі кола.
Не адбаліць табой душа мая.

Не адгучыць ва мне твой сумны голас:
«Галубка, чарнабровая мая…»

*(«Маналог каханай Кастуся Каліноўскага»)*

Адсюль такое гаркотна-роспачнае прызнанне:

Ці б нашы адзіноты нас звялі,
Каб мы несумяшчальныя былі?
О, свет не аднаго так загубіў!..
Не можа быць,
каб ты мяне забыў.

*(«Не можа быць, каб ты не адазваўся…»)*

Творчасць Ніны Мацяш — імкненне пераадолець адзіноту, супрацьстаяць балючаму драматызму жыцця. І калі мець на ўвазе, што ніхто з нас не валодае ні прыроджаным, ні набытым імунітэтам супраць адзіноты, што гэтая госця не-не ды і наведвае кожнага з нас, то цяжка ўявіць без Ніны Мацяш не толькі нашу сучасную паэзію, але і асабістае і грамадскае жыццё многіх з нас, яе чытачоў і сяброў.

Свой даўні зборнік «Удзячнасць» паэтка падаравала мне з надпісам: «Камарада, гэта не кніга: крані яе — і кранеш чалавека» (словы Уітмена). Так, менавіта такія яе кнігі. За што ёй нашы ўдзячнасць, любоў і пашана. І ўдзячнасць лёсу за тое, што яна ёсць у нашай літаратуры і ў нашым жыцці.

***1996***

## «СТАІМ МЫ ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ НАШАЙ…»

Споўнілася 75 гадоў з часу апублікавання — 24 студзеня 1922 г. — верша Янкі Купалы «Перад будучыняй». Дата, якую было б недаравальна пакінуць без увагі. Да ўвагі і адпаведнага асэнсавання абавязваюць і абставіны ўзнікнення твора, і яго драматычны лёс, і яго надзвычайная актуальнасць на дадзены момант.

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход…
Ці ўскрэснем мы, душой упаўшы, звяўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род…

Так пачынаецца верш — адзін з найбольш яскравых узораў нацыянальна-патрыятычнай, настроенай на адраджэнскі лад лірыкі паэта. Так пачынаецца і ў той жа эмацыянальнай танальнасці, у тым жа трывожна-запытальным ключы вытрыманы да канца, да заключнай страфы:

Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны,
І не павінен біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны —
Кліч бураломны: вызваленне з пут?!

Няма патрэбы даказваць, што твор невыпадкова з'явіўся з-пад пяра паэта — відавочна, што ён выспеў у нетрах яго душы і выліўся як яе крык, яе голас, што ён уяўляе сабой арганічны працяг той ідэйна-тэматычнай лініі, якая знайшла выразнае выяўленне ў такіх купалаўскіх творах пачатку 1920-х гадоў, як «На біблейныя матывы», «Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год», «25.III.1918–25.III.1920. Гадаўшчына-памінкі», «Думка за думкай», «Справа беларускага нацыянальнага гімна», «Сын і маці»… Тут трэба яшчэ згадаць, што менавіта ў 1922 годзе Янка Купала думаў і працаваў над «Тутэйшымі».

Пытанні, якія ўзнікаюць пры сённяшнім прачытанні верша, палягаюць у крыху іншай плоскасці: адкуль у ім столькі песімізму і гаркоты, столькі трывогі за заўтрашні дзень роднай Беларусі, за яе лёс? Яшчэ ж літаральна год-паўтара таму яго аўтар быў настроены па-іншаму і аптымістычна заяўляў: «З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усё наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі!» І новы, 1922 год вітаў на бадзёрай, мажорнай ноце:

Над зямлёй зардзіць вясёлка
После бураў, ліхалеццяў;
Бацьку, маці жыць нялёгка —
Хай жа лёгка жывуць дзеці.
З новым годам, што крыніцай
Новай пойдзе ў пераходзе,
Беларуская зямліца!
Беларускі мой народзе!

*(«З новым годам», снежань 1921 г.)*

Ды вось мінаюць каляднае і навагодняе святы, праходзяць першыя дні і тыдні дваццаць другога года, і з-пад пяра паэта-рамантыка з’яўляюцца вось гэтыя, зусім не рамантычныя, зусім іншага складу-ладу радкі:

І так жывём, сябе саміх не знаўшы,
Учора, сёння лазім між канаў…
Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай
Навек залом пракляты заламаў?

Адышлі «буры-ліхалецці». Сусветнай вайны, кастрычніцкіх падзей, грамадзянскай вайны, вайны савецка-польскай. Беларусь аплаквала ахвяры, залечвала раны, наладжвала, на новых сацыяльна-палітычных пачатках, мірнае жыццё. «Вяртаюцца з выраю жоравы, гусі да збураных гнёзд на палях Беларусі…» — піша Янка Купала ў альбом дачкі знаёмага мастака. Тым не менш будучыня бачыцца яму далёка не ў ружовым святле, не ў «вясёлкавым ірдзенні». Чаму так? У чым справа? Адкуль такія настроі?

Некаторыя ўчарашнія літаратуразнаўцы вытлумачвалі адназначна гэтую загадку тым фактам, што землі Заходняй Беларусі, у тым ліку і родныя мясціны Янкі Купалы, адышлі, згодна з Рыжскім мірным дагаворам, да Польшчы. Так, гэты сумны факт не мог не ўплываць на душэўны настрой аўтара верша «Перад будучыняй». Але справа, як мы сёння разумеем, не толькі ў гэтым, а і ў іншых тагачасных рэаліях. Па-першае, Купала як адзін з апосталаў нацыянальнага адраджэння, змагар за свабодную, незалежную Беларусь не мог не ўсведамляць, што азначаюць для яе будучага лёсу ліквідацыя БНР і выгнанне яе лідэраў. Не мог гэта не ўсведамляць і не рабіць належныя высновы. Пра што красамоўна сведчыць верш, напісаны ім 24 сакавіка 1920 года, да другой гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі, у падзагалоўку якога словы: «Гадаўшчына-памінкі».

Не свята светлае спраўляці
Сягоння будзе наш народ,
А трызну па айчыне-маці
Ён справе ў гэты цяжкі год.

Па-другое… Не паспеў беларускі народ асэнсаваць, ацаніць як след новы палітычны і дзяржаўны статус свайго краю, вызначаны прынятай у ліпені 1920 года Дэкларацыяй аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай ССР, не паспеў як след асэнсаваць

значэнне гэтай самай незалежнасці, ацаніць яе магчымасці і перавагі, як… Цытую падручнік «Гісторыя Беларускай ССР»: «Кіруючыся ўказаннямі У. І. Леніна, партыйныя арганізацыі актывізавалі работу па ўмацаванні міжрэспубліканскіх сувязей… Па ініцыятыве ЦВК БССР пачаліся перагаворы з урадам РСФСР аб уступленні Беларусі і РСФСР у гаспадарчы саюз… Сялянская канферэнцыя Койданаўскай воласці Мінскай губерні выказалася за аб'яданне «ўсіх савецкіх рэспублік у адзін пралетарскі Саюз, у адзін фронт супраць сусветнай буржуазіі»… Ідэя ўтварэння Саюза ССР была ўхвалена на ўсіх шасці павятовых з'ездах, 116 валасных з'ездах Саветаў рэспублікі, шасці павятовых партыйных канферэнцыях КП(б)Б, пленуме ЦК Кампартыі Беларусі…» Вось якое дружнае, якое ўсеагульнае ўхваленне! І ясная справа, што пры такім дружным усенародным ухваленні лёс Беларусі як дзяржавы быў прадвырашаны. І тут жа, неўзабаве вырашаны: 30 снежня таго ж 1922 года, як вядома, адбылося ўтварэнне Саюза ССР. Змрочныя прадчуванні аўтара верша «Перад будучыняй» не замарудзілі пацвердзіцца — літаральна праз некалькі месяцаў пасля таго, як былі выказаны. Купалаўская мара пра тое, што «Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права і даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж сваімі суседзямі» — яўна цярпела крушэнне. На гэты раз пад знакам так званага пралетарскага інтэрнацыяналізму.

…Гаворка ішла пра верш сямідзесяціпяцігадовай даўнасці. І, здавалася б, ён павінен быў бы ўяўляць для нас сёння толькі гісторыка-літаратурную цікавасць. Столькі ж вады, і чыстай, і мутнай, сплыло з таго часу ў беларускіх рэках! На жаль… Падзеі развіваюцца так, што і сёння, як тры чвэрці стагоддзя таму, стаяць перад сваёй будучыняй беларусы — быццам перад сцяной з таямнічымі, цьмянымі па сваім сэнсе пісьмёнамі («Мене, тэкел, фарэс!»).

Цябе чакаем, будучыні нейкай,
Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.

***1997***

# НА АЛТАР БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

*Успаміны ўдзельнікаў Саюза беларускіх патрыётаў — нелегальнай арганізацыі студэнтаў, якія ў 1945–1947 гг. аб’ядналіся супраць русіфікацыі і далі прысягу служыць Бацькаўшчыне*

> Канвой быў розны, большасць нялюдскі, але з часам дзяўчаткі іх перавыхоўвалі, і на далёкіх аб’ектах работы можна было з імі вытрымаць. Нават спявалі пад савецкі гімн:
>
> Союз нерушимый зэка и конвоев
> Сплотила на дальних объектах Инта.
>
> *З кнігі Ларысы Геніюш «Споведзь»*

> Я шчаслівая і гордая, што блізка ведала Ларысу Геніюш, нашу слынную паэтку, выдатную жанчыну, палымяную патрыётку. Ларыса Геніюш паявілася ў нашым лагеры 385/6 у пачатку сакавіка 1956 года. Мы даведаліся, што прыбыў этап з Поўначы, з Інты ці з Варкуты.
>
> *З кнігі Германа Кірылава «Прысягнулі Беларусі»*

У трох апошніх нумарах часопіса «Полымя» надрукаваныя ўрыўкі з дакументальнай кнігі полацкага пісьменніка і журналіста Германа Кірылава пад назовам «Прысягнулі Беларусі». Пісьменнік выступае тут у ролі ўкладальніка, інтэрв’юера і рэдактара, і публікацыя з’яўляецца плёнам калектыўнай працы.

Прызнацца, знаходжуся пад вялікім ураджаннем ад прачытанага. Падобнае зведаў, можа, толькі тады, калі ў свой час прачытаў «Споведзь» Ларысы Геніюш ці калі пазнаёміўся нядаўна з новымі творамі Васіля Быкава, у прыватнасці з апавяданнем «Музыкант», дзе герою чуюцца, на фоне ўсеахопнага рэквіема, таямнічыя словы: «Каго хаваюць? — Народ хаваюць».

Пра што кніга «Прысягнулі Беларусі»? Хто і калі прысягнуў? Хто спавядаецца?

Існуе, так бы мовіць, версія Лаўрэнція Цанавы, якую ён агучыў 17 лютага 1949 года ў сваім выступленні на XIX з’ездзе КПБ.

Усемагутны шэф Міністэрства дзяржбяспекі БССР дакладваў з пераможным пафасам у голасе: «На тэрыторыі Баранавіцкай, Маладзечанскай, Полацкай і Пінскай абласцей былі выкрыты і ліквідаваны падпольныя антысавецкія нацыяналістычныя арганізацыі, гэтак званыя «Саюз вызвалення Беларусі», «Саюз беларускіх патрыётаў», «Чайка», «Вольная Беларусь» і г. д.» Далей галоўны эмгэбэшнік рэспублікі яшчэ падкрэсліваў, што ўсе гэтыя групоўкі ўзнікалі не самі па сабе, а «былі інспіраваны агентамі імперыялізму».

Згаданы Цанавам Саюз беларускіх патрыётаў і з'яўляецца якраз той арганізацыяй, споведзі — успаміны сяброў якой складаюць кнігу. «Антысаветчыкі», «нацыяналісты», «прыслужнікі імперыялізму»… А паколькі іх судзілі ваенныя трыбуналы і судзілі па артыкулах крымінальнага кодэксу, якія трактуюць «асабліва небяспечныя дзяржаўныя злачынствы», то да пералічаных азначэнняў дадаваліся і такія: «здраднікі Радзімы», «тэрарысты», «шкоднікі». Словам, «ворагі народа».

А кім яны былі на самай справе? І што ўяўляў у сапраўднасці іх Саюз?

Звернемся да кнігі, паслухаем іх саміх.

«Нашу арганізацыю, Саюз беларускіх патрыётаў, кваліфікавалі на судзе як нацыяналістычную, — гаворыць у размове з Г. Кірылавым Васіль Мядзелец, адзін са стваральнікаў СБП. — Па-мойму, у тым асяроддзі, дзе я нарадзіўся і жыў, нацыяналізму не было і ў паміне. Сказаў бы, што якраз наадварот: як і ў большасці беларусаў, у нашых людзей было, як цяпер усведамляю, штосьці бліжэйшае да таго, што абазначаецца словам «тутэйшасць»… Простыя людзі ў масе сваёй не памяталі пра даўняе, іх пазбавілі памяці пра мінулае. Але ў той жа час гэтыя людзі моцна трымаліся запаветаў дзядоў-прадзедаў, сваіх звычаяў, традыцый, сваёй мовы. І хоць слухалі пропаведзі ў касцёле па-польску, у царкве па-руску, маліліся адпаведна на польскай ці стараславянскай мове, але дома, у сваім асяроддзі гаварылі па-тутэйшаму, на паўночна-заходнім дыялекце беларускай мовы».

«Ствараючы Саюз беларускіх патрыётаў, — працягвае далей В. Мядзелец, — мы не ставілі перад сабой нейкіх асаблівых задач. Найперш дбалі пра нашу Бацькаўшчыну, каб яна заставалася сама сабой, з беларускай дзяржаўнай мовай, з гістарычнай сімволікай — бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня», са сваёй культурай, гісторыяй, каб была сапраўды свабоднай, суверэннай, шчаслівай». Так мала хацелі яны, дзівакі!

Сведчыць Лідзія Мельнік (Несцяровіч), самая юная сяброўка СБП, падчас судовага працэсу (ён пачаўся 16 траўня 1947 года) ёй споўнілася толькі 17 гадоў. «І ў школе ў Дзісне, і ў прагімназіі, дзе змагла правучыцца толькі год, па-сапраўднаму адчула, што я беларуска, жыву ў Беларусі, што ў маёй Радзімы даўнія карані, што ў нас багатая спадчына, — згадвае ў сваёй споведзі Лідзія. — Я толькі ўваходзіла ў жыццё, а ўжо ва мне абуджаўся, кажучы словамі Максіма Багдановіча, «за краіну радзімую жах». Л. Мельнік лічыць зусім невыпадковым той факт, што якраз у яе на кватэры адбылася сустрэча, на якой, уласна, аформіўся арганізацыйна Саюз беларускіх патрыётаў.

**«Мне чатыры разы мянялі Радзіму»**

І яшчэ адно, важнае ў гэтай жа сувязі, сведчанне, яшчэ адно «паказанне». Гаворыць Тамара Лагун (Барсук): «І тады мне думалася, і цяпер не магу не ўзгадаць пра тое ж. На судзе вельмі часта гучала абвінавачванне сябрам і прыхільнікам СБП у здрадзе Радзіме. Якой Радзіме? Мне за мае 18 гадоў чатыры разы мянялі Радзіму. Да 1939 года ў школе назойліва ўбівалі ў галаву, што мая Радзіма — «велька Польска». З 1939 па 1941 — што СССР, які на справе асацыіраваўся з Расіяй. З 1941 па 1944 — Германія, гітлераўскі райх, ну і адначасова як нешта неакрэсленае Беларусь — Беларутэнія. З 1944-га — зноў СССР, Расія. Пра Беларусь, як пра нейкую асобную дзяржаву, увесь гэты час калі і гаварылася, то болей з мэтай прапагандысцкай, дэкаратыўнай. Але я ўжо з дзяцінства засвоіла ад бацькоў і блізкіх мне людзей, шчырых беларусаў, што мая Радзіма ўсё-такі тая зямля, на якой я нарадзілася, на якой жылі мае бацькі, дзяды-прадзеды, што завецца яна Беларуссю. Я любіла, не магла не любіць «наш край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла». Я не здраджвала ёй і не збіралася здраджваць. Наадварот, маё сэрца балела за Бацькаўшчыну, забраную, заняволеную, пакінутую без мовы, без гісторыі, без усяго, што даецца Богам, лёсам кожнаму народу. Хто абвінавачваў нас у здрадзе Радзіме? Быў сярод нашых абвінаваўцаў хоць адзін беларус?»

Вось што ўяўлялі сабой насамрэч актывісты і прыхільнікі СБП — «выкрытай і ліквідаванай падпольнай антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі». Вось глеба, на якой узышоў СБП.

## А суддзі хто?

Задумаемся на хвіліну над развагамі, якія толькі што пачулі, у прыватнасці над пытаннем, што мучыць вось ужо паўвека школьную настаўніцу Тамару Лагун (Барсук). (Дарэчы, не дае яно спакою і Алесю Амельяновічу, які таксама прыгадвае: «Гэтыя наезджыя людзі судзілі нас ад імя беларускай дзяржавы. Але ж і трох слоў не маглі звязаць па-беларуску».) Сапраўды — а суддзі хто? Хто судзіў (і прадаўжае судзіць)? Хто абвінавачваў (і прадаўжае абвінавачваць)? Хто вучыў (і прадаўжае вучыць) нас, беларусаў, любіць Радзіму і быць вернымі ёй? І справа нават не ў тым, ці быў сярод тых берыеўска-цанаўскіх суддзяў (следчых, пракурораў) «хоць адзін беларус». Магчыма, што хоць адзін ды быў. Справа ў іншым, у іншай крыху плоскасці. Цяжка паддаецца разуменню, ніяк не ўкладваецца ні ў звычайныя чалавечыя, ні ў цывілізацыйныя меркі гэтая вось, стаўшы ўжо амаль традыцыяй, сатанінская практыка — станавіцца паміж беларусам і яго Маці-Радзімай, сварыць і падзяляць іх, адрываць іх адно ад другога. І яшчэ — любоў да Радзімы вызначаць, як… дзяржаўнае злачынства, як… здраду Радзіме.

Недарэмна адзін з аўтараў кнігі ўсклікае: «Каб з нашых патрыятычных пачуццяў ды зрабіць нейкі крымінал!» А другі пытаецца: «Па-вашаму, любіць Радзіму, хацець ёй дабра — злачынства?»

## Сустрэча з Цанавам

Яшчэ адну грань усяго таго ж, па сутнасці, праклятага пытання закранае знаёмы ўжо нам Васіль Мядзелец. Паколькі ён быў адным з ініцыятараў стварэння СБП і кіраўніком яго Глыбоцкай групы, ім у сумнавядомай «амерыканцы» занялiся асабліва грунтоўна. І вось падчас аднаго допыту, чарговага выбівання прызнанняў (на чыю разведку працаваў? праз каго ішла сувязь? і г. д.) на дапамогу следчаму з’явіўся сам Цанава, прыгразіў: «Пачаму нэ расказывайш? У нас здэс каждый расказывайт. И ты давай! Па-харошаму! Врэмя, панымайш, работайт нэ на вас! Врэмя работайт на нас!» «Калі ён выйшаў, — працягвае ўспамінаць В. Мядзелец, — мне падумалася: ого, столькі ўвагі нашаму сціпламу СБП! Сам Цанава, намеснік Берыі ў Беларусі, намі цікавіцца. Відаць, маюць план зрабіць з нас злачынцаў буйнога маштабу. А тады накаціла горкая, тужлівая роспач. Вось, ратуюць Беларусь ад ворагаў адзін рускі, другі грузін. А ворагі

хто? Я, мае сябры — усе беларусы, тыя якраз, хто падняўся за бедную сваю Радзіму…»

Та-а-к… Трапна падмеціў пяцьдзесят гадоў таму, летам сорак сёмага (юбілейная дата!), дзевятнаццацігадовы вязень эмгэбэшнага засценка Васіль Мядзелец гэты вось дзіўны, надзіва жывучы актуальны па сённяшні дзень беларускі парадокс: ворагі Беларусі — гэта яе сябры, апекуны ды абаронцы, а яе сыны, яе сапраўдныя патрыёты — гэта, аказваецца, яе ворагі. Вось тут і прысягай ёй. Вось тут і крычы да хрыпаты: «Жыве Беларусь!»…

## «Уступаючы ў Саюз беларускіх патрыётаў, прысягаю…»

Ва ўспамінах герояў кнігі «Прысягнулі Беларусі» прыведзена шмат звестак, якія пераканаўча паказваюць, як, у якіх абставінах узнік Саюз беларускіх патрыётаў, што тут паслужыла непасрэдным матывам. Гэта была рэакцыя школьнікаў і студэнтаў на русіфікацыю, была адна з формаў пратэсту супраць дыскрымінацыі беларускай мовы ў навучальных установах. «Дырэктар школы загадвае ўсім выйсці на калідор і пастроіцца ў лінейку. Пастроіліся. Фішкін камандуе са злавеснай строгасцю: «Кто против русского языка — шаг вперёд!» Мы не зварухнуліся. Фішкін папраўляецца, камандуе па-іншаму: «Кто не желает заниматься на русском языке — шаг вперёд!» Спадзяваўся, што мы спалохаемся. Але мы ўсе, не змаўляючыся, дружна зрабілі крок наперад»… Так адбывалася — паводле расповеду ўдзельніцы падзей Алесі Фурс (Умпіровіч). Так пачыналася згуртаванне зняважаных у сваім нацыянальным пачуцці маладых людзей і стварэнне нелегальнай — хаця і «бяскрыўдна-рамантычнай па сваіх намерах», як яны прызнаюцца — патрыятычнай арганізацыі.

«Прысягнулі Беларусі».. Так яно было насамрэч. І не толькі ў маральным, але і ў літаральным сэнсе гэтых слоў. Бо, уступаючы ў Саюз, глыбоцкія і пастаўскія навучэнцы ўрачыста прымалі прысягу наступнага зместу: «**Я** (кожны называў сваё імя і прозвішча), **уступаючы ў Саюз беларускіх патрыётаў, прысягаю перад Бацькаўшчынай і беларускім народам, што заўсёды буду верны ідэалам свабоды і незалежнасці Беларусі. Калі ж я па слабасці сваёй або па злым намеры парушу гэтую прысягу і выдам тайну сяброў, хай пакарае мяне Бог ганебнай смерцю здрадніка Радзімы**». І нягледзячы на ўсе выпрабаванні, на ўсе нягоды, пакуты і знявагі, што давялося ім

зведаць, яны доўгія гады, нават дзесяцігоддзі заставаліся вернымі сваёй юначай прысязе. «Здаецца, і мучылі нас, дамагаліся, каб мы зракліся сваіх перакананняў, зракліся Бацькаўшчыны, а мы па-ранейшаму заставаліся патрыётамі», — кажа сёння адзін з іх. «Закраналі, разумеецца, і асабліва пякучую больку — згадвалі пра наш растаптаны, абылганы і як бы зрынуты ў небыццё Саюз беларускіх патрыётаў. Мы і ў гулагаўскім пекле не каяліся, нам не было ў чым каяцца: мы хацелі толькі добрага для сваёй Бацькаўшчыны, для сваіх адзінакроўных братоў-беларусаў», — дзеліцца ўспамінам другі. «Прысягалі на вернасць Беларусі, і сёння я стаю на тым святым слове», — дадае трэці.

## Ін'екцыя патрыятызму

Абагульняючы гэтыя і сугучныя з імі сведчанні, прыходзіш яшчэ раз да высновы: эпітэты «пакорлівы», «ціхмяна-мудры», «бязвольны» («Злажыў рукі і чакае ўсё нейкай долі») можна аднесці толькі да беларуса дэнацыяналізаванага. Што ж тычыцца беларуса, які атрымаў аднойчы, так бы мовіць, належную дозу нацыянальнай годнасці, этнічнай і грамадзянскай самасвядомасці, то ён ужо прымае іншую паставу і гаворыць іншым голасам, словамі другога купалаўскага героя («Ёсць жа яшчэ ў мяне сіла… Ёсць жа яшчэ ў мяне сэрца… Ёсць жа яшчэ ў мяне вера…»). Альбо як зазначае ў сваёй «Споведзі» Ларыса Геніюш: «Сапраўдны беларус — чалавек, з дарогі не змыліць, і мэта яго адна: Беларусь».

Вось чаму ўсялякія, рознага паходжання і рознай афарбоўкі, ворагі беларушчыны так баяцца духоўнага і палітычнага абуджэння беларуса, так супрацьстаяць таму, каб ён стаў сапраўдным беларусам — свабодным, паўнапраўным, годным гаспадаром у сваім доме.

Між тым яны, хто «прысягаў Беларусі», аўтары кнігі гавораць у адзін голас (пераказваю сцісла): хопіць жыць дэмагагічнымі, скампраметаванымі лозунгамі ды пагаджацца выстройвацца ў калоны, каб ісці ў «светлую будучыню»; трэба прачынацца нам, беларусам, адраджацца, уставаць з калень, аб'ядноўвацца вакол нацыянальнай ідэі, мацаваць свае традыцыі, множыць сваю матэрыяльную і духоўную спадчыну… «Тады і стане ўсім лепш жыць».

Канчаецца кніга словамі-роздумам аднаго з сяброў Саюза беларускіх патрыётаў і пакутнікаў ГУЛАГа Станіслава Савіка, які сустракае старасць у сваіх ціхіх, зялёных Лужках. Вось яны, гэтыя пранікнёныя і да болю простыя словы: «Гляджу, слухаю,

прысеўшы ў вольны час перад тэлевізарам, што адбываецца ў нашай Беларусі. І сум бярэ: калі ж у нас усталюецца нармальнае жыццё? Быццам сам лёс падарыў нам, нам, беларусам, шанц выбіцца на дарогу. Але нас цягне назад, да таго, што было. Не здатныя думаць самі за сябе, не можам быць гаспадарамі ва ўласным доме. Столькі пакут прынята, столькі ахвяр прынесена дзеля таго, каб Беларусь была вольнай і шчаслівай! Няўжо гэта ўсё дарма?» Няўжо?

Раю ўсім, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, пазнаёміцца з кнігай «Прысягнулі Беларусі».

***1997***

## «ПІШУ: Я, СВЕДКА ЎСІХ ПАДЗЕЙ…»
*Да 85-годдзя з дня нараджэння Аркадзя Куляшова*

6 лютага яму споўнілася б 85 гадоў. Так, не «спаўняецца», а «споўнілася б», бо дваццаць адзін год таму ён памёр раптоўна, ад разрыву сэрца, не дажыўшы літаральна двух дзён да свайго дня нараджэння. Але паспеўшы напісаць да скону свайго наступныя радкі, па сутнасці — самаэпітафію:

А каліў смяротным грозным гуле
Упаду я, кінуты на дол
Ранняю хваробай альбо куляй,
І асірачу пісьмовы стол, —
Аб такім не пашкадую лёсе,
Бо, юнацкі помнячы зарок,
Паўтарыў бы зноў, каб давялося,
Я жыццё сваё — за крокам крок.

1914 год, год нараджэння паэта… Памятаем, ведаем, што гэта быў за год. Янка Купала ў сваім вершы «На новы (1914) год» звязваў з ім вялікія спадзяванні, звяртаўся да яго з мальбой:

Дай свабод, Новы год,
Долю дай,
І ўскрасі, прасвяці
Родны край.

Але гэтым спадзяванням не суджана было спраўдзіцца. Наадварот, ён, гэты год, стаў фатальным, трагічна пераломным у

гісторыі чалавецтва, стаў, як вядома, годам пачатку Першай сусветнай вайны. Палітычныя дзеячы і філосафы зазначылі потым, што калі да 1914 года на зямлі «панавалі збольшага мір, спакой і бяспека», людзі думалі, што будучыня будзе станавіцца «ўсё лепш і лепш», жыла вера ў сацыяльны прагрэс і асвету (пра што гавораць і толькі што прыведзеныя радкі Купалы), то «ў 1914 годзе з жыцця людзей зніклі бяспека і спакой».

Дададзім да года чатырнаццатага гады семнаццаты, дваццаць дзевяты, сорак першы, сорак пяты, пяцьдзесят трэці — і нам стануць зразумелымі духоўныя параметры паэзіі Аркадзя Куляшова, яе агульная эмацыянальная танальнасць і інтэлектуальна-філасофская настроенасць. Скразнымі матывамі гучаць у ёй, асабліва ў творчасці апошніх гадоў, у кнігах «Сасна і бяроза», «Мая Бесядзь» і «Хуткасць», неспакой і боль, трывожны роздум, пачуццё адказнасці «за справу, за дзяржаву, за народ». Надзвычай выразна матыў трывогі, матыў адказнасці выказаны ў паэме «Варшаўскі шлях», дзе аўтар атаясамлівае паэта з прарокам-вешчуном.

Тут Аркадзь Куляшоў фармуляваў сваё маральнае і ідэйна-эстэтычнае крэда. У адпаведнасці са сваім неспакойным, трывожным, хутказменлівым часам.

Характэрна, што абвострaным успрыняццем драматызму жыцця прасякнуты не толькі яго ліра-эпічныя творы, у прыватнасці такія, як «Цунамі», «Далёка да акіяна», «Варшаўскі шлях», «Хамуціус», не толькі яго філасофская лірыка (цыклы «У чыстым полі, у цёмным лесе», «На паўмільярдным кіламетры», «Снапы» і іншыя), але і яго вершы, прысвечаныя каханню. Яскравым прыкладам тут могуць быць радкі, што сталі шырока вядомай песняй «Бывай…». Светлы ўспамін пра першыя сустрэчы ды першыя нясмелыя прызнанні перабіваецца ў гэтых песенных радках трывожным, гаркотным матывам непазбежнасці расстання, няўхільнасці страты:

Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманы,
Палынны жаль смугой ахутаных дарог,
Каб я хвілінны боль і горыч гэтай раны
Гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не мог.

Тонкі знаўца паэзіі, даследчык з незвычайным, я б сказаў нават: з абсалютным, музычна-паэтычным слыхам Варлен Бечык — яго, на жаль, таксама ўжо няма ў жывых, — прызнаваўся ў артыкуле «Урокі Куляшова»: «Пісаць пра паэзію Аркадзя Куляшова заўсёды было мне лёгка і радасна. Вядома, я адчуваў

пры гэтым і вялікую адказнасць і цяжкасць задачы. Але ўсё роўна — станавілася неяк па-асабліваму светла і панаваў святочны настрой. Хацелася гаварыць незвычайна, нават урачыста. Акрыляла адчуванне вялікіх прастораў, духоўнай сілы і мастацкай велічы куляшоўскай паэзіі». А падчас нашых з Варленам размоў, якія мы вялі, калі я наведваў яго, цяжка хворага, у бальніцы, ён расказаў такі сон: «Мушу напісаць артыкул. Ці то пра «Сцяг брыгады», ці то пра нейкую іншую паэму Аркадзя Куляшова. Пішу ахвотна, незвычайна лёгка, радасна. Потым іду, акрылены, па нейкім вялікім светлым калідоры, як бы паўз дзверы і вокны Куляшова. І ён нібыта глядзіць на мяне, мяне сустракае…»

Паэт радуе, адухаўляе, настройвае на святочны лад свайго малодшага сучасніка, свайго чытача і крытыка, прыходзіць у такой жа якасці ў ягоныя сны… Пагадзіцеся, што гэтыя сведчанні шмат што значаць, многа гавораць пра духоўную моц і чароўнасць куляшоўскага паэтычнага слова, пра меру яго ўздзеяння на чытацкія душы.

Прызнаюся, што зведаў гэтае ўздзеянне і на ўласным вопыце — на проста чытацкім, чалавечым, а потым і на творчым. Чытаў і перачытваў Аркадзя Куляшова, вучыўся ў яго. Са светлай удзячнасцю і шчырай пашанай да яго памяці згадваю, як ён падтрымаў мяне на пачатку творчага шляху. Прачытаўшы мой верш «Навагодні тост», змешчаны ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», ён тут жа пазваніў у рэдакцыю і цёпла павіншаваў мяне. Другім разам ён сказаў мне добрыя словы пра маё публіцыстычнае эсэ «Свабода і роўнасць, генерал!», прысвечанае саратніку Каліноўскага Валерыю Урублеўскаму, і даверліва прызнаўся пры гэтым, што збірае матэрыял і пачынае працу над драматычнай паэмай пра Кастуся Каліноўскага (дзякаваць Богу, паспеў здзейсніць задуму)…

Ва ўпамянутай ужо паэме «Варшаўскі шлях» паэт пісаў пра Аляксандра Твардоўскага:

Штодзённай прыналежнасцю святой
Да спраў людскіх паэзія паліла
Яго… І, спапяліўшы, запрасіла
І пасяліла ў дом высокі свой.

Гэта ж самае, слова ў слова, мы можам сказаць і пра Аркадзя Куляшова. Ён таксама «запрошаны» і займае пачэсны пасад у высокім доме паэзіі.

*1999*

## ВЕРНАСЦЬ

Споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння выдатнага майстра паэтычнага слова, паэта-лірыка Аляксея Пысіна. (На жаль, гадавіна адзначаецца без юбіляра: ён заўчасна памёр у жніўні 1981).

У свой час, недзе ў канцы шасцідзесятых (час росквіту таленту паэта), Аляксей Васілевіч напісаў верш, які быў своеасаблівым самападарункам да чарговага дня нараджэння аўтара, да яго «жураўліных саракоў, што ляцяць, набліжаючы восень». Верш ён так і назваў: «Дзень нараджэння» і з пранікнёнай лірычнай шчырасцю прызнаваўся ў ім:

Я гляджу на той лёт, на збліжэнне
З полем, дрэвамі, слотай зямной.
Быў аднойчы днём смерці маёй
Дзень вясны — дзень майго нараджэння.
Бачыў бой, бачыў землетрасенне,
Лес люблю, і дажджы, і траву.
Падымае мяне, ў чым жыву,
Дзень вясны — дзень майго паўтарэння.

Як вядома, у дзень нараджэння мы аглядваемся наўкола, на сваё асабістае і навакольнае жыццё, на пройдзены шлях. Прыведзеныя толькі што радкі паказальныя ў гэтым сэнсе. Натуральна, што паэт згадвае ў свой «імянінны» (яго слова) дзень вайну. Тым больш натуральна, што, калі пачалася яна, гэтая самая Вялікая Айчынная, яму, пачаткоўцу журналісту, было ўсяго дваццаць гадоў. Ён, можна сказаць, толькі пачынаў яшчэ сваё свядомае жыццё. Ды прадаўжаў ён яго ўжо ў змаганні з ворагам-захопнікам, сталеў у суровых выпрабаваннях вайны. Адваяваў «ад званка да званка». Усю вайну прайшоў пехацінцам-сувязістам, з трохлінейнай вінтоўкай, з катушкай палявога тэлефоннага дроту Аляксей Пысін.

Пяць патронаў у абойме,
Пяць патронаў.
Падымаемся ў бой мы
Ў полі роўным.
У патроне кожным — куля,
Дзевяць грамаў.
Не чакай, мая матуля,
Тэлеграмы…

Скончылася вайна. «Першы пасляваенны верш, — згадвае ў сваёй аўтабіяграфіі паэт, — напісаў яшчэ ў арміі. Здаецца, даўно адгрымелі баі, а мы ўсё яшчэ служым. І ўспамінаецца такое. На пасту мяне змянілі. Паставіў вінтоўку ў піраміду і ўлёгся на нары. Казарма не гасцініца, не скажаш, каб не грукалі дзвярыма, цішэй размаўлялі… Хлопцы чытаюць пісьмы. Мне няма, — было б — разбудзілі б. Вася Захараў — мой сябра, чытае ўслых газету. Знаёмыя словы, быццам я чуў ужо штосьці такое…

— Няўжо наш Пысін?

— Мусіць наш: падпісана ж — гвардыі радавы…»

Далей: «Дэмабілізацыя. Мінск… Потым — 35 кіламетраў, што ад станцыі Камунары да нашай вёскі, сягаў без передышкі. Ёсць за вёскай балота з асакой, алешнікам і яварам. Мая маці касіла на лёдзе асаку. Разгубілася і… не пазнала мяне…»

Іншымі словамі, паэт Аляксей Пысін адносіцца да таго літаратурнага пакалення, якое называюць ваенным, франтавым. І таму ён ведае і мае права сказаць, што «арол на полі бою вартуе сэрца не любое». І таму, натуральна, ледзь не кожны другі яго верш звязаны, прама ці ўскосна, з вайной, з непазбыўнымі ваеннымі ўражаннямі і ўспамінамі, з нязменнай вернасцю колішняму баявому брацтву. «Усё прымаю, усё цаню па праву пабрацімства мёртвых і жывых», — зазначае ён. Жорсткая памяць вайны, суровы ваенны досвед адбіліся на духоўнай танальнасці паэзіі А. Пысіна, на яе вобразна-стылёвым ладзе… «У дзяцей казарменны пад’ём», — чытаем у вершы пра дзяцей, якіх раніцай нясуць у яслі ці садок. «Імчалі дні — без права спешыцца», «Далёкі тупат кананады», «Куды спяшаюцца дажджоў калоны», «Даўнія кантузіі, раненні», «Ляглі сябры ва ўсім паходным»… Так задумваюцца, так, у такіх словах зачынаюцца і пачынаюцца такімі радкамі вершы паэта, радкамі, якія сведчаць, што памяць яго дэмабілізацыі не падлягае.

Найноўшай гісторыі літаратуры вядомы такі факт: адным з прадстаўнікоў заходняй інтэлігенцыі, шакіраванай гітлераўскімі канцлагерамі і іншымі жахамі мінулай вайны, былі сказаны горкія словы аб тым, што цяпер, пасля Асвенціма, вершы пісаць немагчыма. Жыццё не пацвердзіла гэту песімістычную выснову, а пацвердзіла якраз нешта супрацьлеглае — што і ў наш час застаецца месца для вершатворчасці і што менавіта яны, вершы, паэтычныя метафары памаглі (прадаўжаюць памагаць) людзям, чалавецтву асэнсоўваць трагедыю вайны, трагедыю змагання з фашызмам.

Пераканаўчым прыкладам тут можа быць паэзія А. Пысіна. Яна помніць вайну, але ў той час надзвычай востра адчувае і апявае радасць мірнага жыцця. Яна аглядваецца назад, але і не губляе дарогі, напрамку руху. Яна жалобна-самотная, але не разгубленая, яна неспакойная, трывожная, але і цэльная, вынослівая, трывалая. Пра гэта красамоўна сведчаць, у прыватнасці, такія творы, як верш пра сады, што былі апалены падчас вайны агнём, а зараз мірна шумяць і хораша пладаносяць («Сышліся ярусы пладоў і зор…»), як натурфіласофскія вершы «На ўзлессі свецяцца наскрозь асіны», «Дзень нараджэння», «Вынослівасць». У апошнім аўтар параўноўвае трываласць, жыццястойкасць дрэва са стойкасцю, вынослівасцю чалавека — на карысць апошняга. Але аддае належнае прыкладу, урокам роднай зямлі, роднай прыроды з яе колерамі, фарбамі, пахам. Да лесу паэт звяртаецца не інакш, як: «Лес мой, брат мой», да вятроў: «Вятры мае, сябры мае» і г. д. Вясковае дзяцінства, а потым ваеннае ліхалецце навучылі яго гэтай бязмежнай трапяткой пяшчоце, гэтаму замілаванню праявамі ўсяго жывога. Ён у адчаі просіць:

Вы, разумныя браты, —
дайце жыць майму аленю
пад галінкай дабраты.

Але больш за ўсё, відаць, навучыла паэта вайна даражыць чалавекам з яго, як сказаў Васіль Быкаў, такім адзіным і неабходным жыццём-быццём. Яшчэ там, на вайне, ён «шукаў не зваблівую кветку, а таго таварыша, з якім без аглядкі ходзяць у разведку, дышуць, грэюцца дымком адным». Пільнае, абвостранае бачанне чалавека, тонкае адчуванне сваёй непарыўнай злітнасці з ім — адна з вызначальных якасцей чалавечай у сваёй мудрасці і мудрай у сваёй чалавечнасці паэзіі Аляксея Пысіна.

Здаецца, ўстаў я рана-рана,
Пайшоў па сцежцы лугавой,
Ды хтосьці ўжо ступаў па ёй,
Раса пазбіта і стаптана.
Здаецца, лёг я позна вельмі,
Ды чуў праз сон, як і пасля
Натужна ўздрыгвала зямля,
Чыесьці крокі ўсё грымелі…

Такімі вось цудоўнымі радкамі адкрываецца апошняя прыжыццёвая кніга паэта «Ёсць на свеце мой алень» (убачыла свет у 1978 годзе).

Аляксей Пысін не любіў гучных, пазбаўленых рэальнасці жыццёвага зместу слоў. «Не трэба гучна гаварыць, выкатваць словы грамавыя», — пісаў ён. І наглядна пацвярджаў гэтае перакананне ўласным творчым доследам. Яго паэзія — натуральная, жывая, як тыя крыніцы, над якімі ён схіляўся ў родных мясцінах. Яна ў нечым самым істотным блізкая да народнага светаадчування, да народнай песні, да фальклору. Прыгадаем хаця б такі твор паэта, як «І чаму не ў пашане асіна?», ці верш, дзе прыводзяцца матчыны словы: «Пад арэшынай — любімай быць, пад вярбінаю — ліць слёзы, пад рабінаю — чужых любіць, удавой застацца — лёс бярозы…»

Гутарка ішла пра жыццястойкасць і вынослівасць, пра чалавечнасць і народнасць. Дададзім сюды і яшчэ адзін эпітэт — вернасць. Гэта слова, зазначу, любіў Аляксей Пысін. Што і зразумела. Бо сам ён з яго жыццём і яго паэзіяй — увасабленне вернасці. Вернасці свайму Высокаму Барку. Вернасці памяці і прынцыпам. Вернасці сябрам, жывым і мёртвым. Вернасці служэнню роднаму народу. Вернасці імкненню «ў вечным слове чалавекам быць».

*2000*

## «УСЁ БЫЛО Б ДОБРА І ЛЁГКА…»

У адным са сваіх інтэрв'ю, дзе ішла размова пра раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», Іван Паўлавіч Мележ прызнаваўся: «Амаль за кожным героем дылогіі стаяць рэальныя, канкрэтныя людзі. Але, калі гаварыць шчыра, у кожным ёсць і маё». І далей: «У Ганне, напрыклад, адбілася маё ўяўленне пра шчасце, пра каханне, пра самаахвярнасць. У гэтым вобразе і маё разуменне чалавечага гонару».

Вось, аказваецца, у чым сакрэт чароўнага абаяння і незвычайнай паўнакроўнасці вобраза паляшучкі-прыгажуні Ганны Чарнушкі. Вось, аказваецца, колькі душэўных сіл і маральных намаганняў уклаў аўтар у стварэнне гэтага вобраза.

Ды адкуль браліся яны, гэтыя сілы і намаганні, гэтыя духоўныя і маральныя пачаткі? Яны былі іманентна ўласцівыя асобе Івана Мележа як мастака, які тонка адчуваў, «что движет

солнце и светила», якую ролю мусіць адыграць у яго жыцці і творчасці жанчына.

Як вядома, Іван Мележ дэбютаваў у літаратуры ў якасці паэта. Чытаем яго верш «Жураўлі», напісаны ў перадваенным саракавым:

У асенняй вышыні бязмежжа,
Роўны зык раняючы к зямлі,
І на захад — к вольнай Белай вежы
Рэй вядуць нязвыклы жураўлі…
Йдуць над лесам, над рачною плыняй.
Ў полі дзеўчына не зводзіць воч,
Сочыць: ціхнуць, таюць ў высі сіняй
Жураўлі, што адагналі ноч.

На самым пачатку свайго творчага шляху малады аўтар лічыць неабходным паэтызаваць дзяўчыну, назіраць адлёт жураўлёў вачыма сваёй лірычнай гераіні. Хаця мог бы ў дадзеным выпадку (калі мець на ўвазе тэму верша) і абысціся без яе. Мог бы, ды не абышоўся. Факт сімптаматычны.

Пачынаецца вайна. Іван Мележ — на фронце, на пярэднім краі. Робіць, хоць і не рэгулярна, дзённікавыя запісы (яны выйдуць праз год пасля яго смерці пад назваю «Першая кніга»). Чытаем іх: «Некалькі слоў пра жанчыну…», «Я вельмі люблю песні. Калі ў ветраную, халодную ноч мы паўзем па дарогах вайны, мармычу песню. Кожная песня — успамін, агеньчык. «Тучи над городом» — і ўспамінаецца Мазыр, чыстае, шчырае каханне, ласкавыя позіркі. «Ночь светла» — гэта голас з роднай вёскі, дзе маці, бацька, маё каханне, першае каханне», «Па вуліцах крочаць стройныя калоны байцоў. Часам калоны дзяўчат у вайсковай форме. На сукенках дзяўчат — процівагазы», «Тут за мной назірае добры і сімпатычны ўрач — Марыя Дзмітрыеўна Рубанік. Клапатліва абыходзіцца з намі сястра Ася», «Я не зусім разумею яе і яе адносіны да мяне. Ды і свайго пачуцця не разумею. Усё ж мне яе вельмі шкада», «Усмешка ў яе такая нясмелая, што мне здаецца, я вінаваты перад ёй», «Быў на перавязачным пункце пры вакзале. З раны выйшаў асколак косці. Але рана сама амаль загаілася. Урач, маладая, з вельмі чыстым і прыгожым тварам, бландзінка, аглядваючы яе, амаль з захапленнем сказала: «Прыгожая якая! Як кляновы лісток!» Любаванне яе было, падобна, шчырым. Зрэшты, сама ж перавязала рану і вельмі ўмела, пяшчотна», «Мабілізуюць

дзяўчат. Едуць яны і з настаўніцкага інстытута. Адзін чамадан на дзвюх, адзін мяшок. Потым аказалася, што адна з сяброўак застаецца. Пачалі разбіраць кофтачкі, спадніцы, пераблыталі ўсё, расплакаліся. Калі гляджу на дзяўчат, якія ідуць на фронт, мне робіцца няёмка, хоць я і разумею, што падстаў для гэтага няма» (сам аўтар яшчэ не адышоў ад цяжкага ранення, ходзіць з падвязанай рукой. — *А. В.*).

Словам, і спагада, і шкадаванне, і боль, і няёмкасць, цэлая гама высакародных пачуццяў, якімі востра аддавалася чулае сэрца маладога пісьменніка-франтавіка пры сустрэчах на вайне з жанчынаю, на вайне, у якой, як потым скажуць, зусім не жаночы твар.

І яшчэ адзін, пасляваенны па часе, раздзел аповеду на тэму «Іван Мележ і жанчына». Тут я ўжо спашлюся на яго эпісталярную спадчыну, дакладней — на лісты, адрасаваныя жонцы, Лідзіі Якаўлеўне Пятровай.

Дзе і калі яны сустрэліся і пажаніліся?

Дзённікавы запіс, зроблены ў Бугуруслане 22 кастрычніка сорак другога года, сведчыць: «Адаграваюся пасля няўтульнай халоднай гасцініцы. Гаспадыня знаёміць з дачкой. «Ліда, — кажа яна чарнавокай дзяўчыне, якая маўкліва схілілася ў сваім пакоі над сталом, — гэта наш брат». «Сястра» Ліда, Лідзія Пятрова, згадае ў сваю чаргу праз колькі гадоў: «У нашым доме, дзе раней жыло 5 чалавек, пасялілася яшчэ 9 — дзве сям'і і курсанты лётнага вучылішча, а пазней — Іван Паўлавіч… Наша сустрэча адбылася ўвосень 1942 года, у той цяжкі час, калі, нягледзячы на нашу маладосць (яму было 21 год, а мне 19), кожны меў ужо сваё ўласнае жыццё, погляды, інтарэсы, ставіў перад сабой пэўныя мэты». І далей: «10 красавіка 1943 года, не сказаўшы нікому ні слова, мы пайшлі ў загс і распісаліся. Абое лічылі, што гэта наша прыватная справа і ніякага шумлівага вяселля нам не трэба. І пазней усё жыццё Іван Паўлавіч не любіў пышных вяселляў, лічыў, што яны робяцца не для маладых, а для іх бацькоў і знаёмых бацькоў, а таксама для паказухі. Пасля загса мы хадзілі па горадзе, пастаялі на мосце цераз раку Кінель. На рацэ была паводка…»

Была веснавая паводка. І была вайна. Ды ўжо і была надзея, што вайна хутка скончыцца. Для Івана Мележа яна скончылася адносна, бо да так званага мірнага жыцця ён вяртаўся з балючымі слядамі цяжкога ранення, кантузій і траўмаў. Трэба было лячыцца. І па гэтай прычыне яго эпісталярная спадчына распачынаецца лістом, які ён адправіў жонцы Лідзіі і малой дач-

цэ Людзе 30 верасня 45 года з ялцінскага санаторыя. «Мінчане мае мілыя! — піша ўзрушана ён. — Вы, мабыць, ужо зачакаліся пісьма, а я ўсё не пішу і не пішу. Не думайце, што я забыў у гэтыя дні пра Вас, я ўвесь час, кожную мінуту ўспамінаю Вас, мае родныя… Непакоюся, ці атрымалі вы карткі, ці дастаткова грошай, як здароўе нашай маленькай Людачкі? Можа быць, я ад'еду раней… Да хуткай сустрэчы, мілыя мае мама, жонка і дочанька! Моцна, моцна абдымаю і цалую тысячу разоў. Ваш курортнік». (Подпіс пад лістамі, заўважу, будзе вар'іравацца: «Курортнік», «Твой Іван», «Твой Іваньчык», «Твой муж-чына» і г. д.) Ліст з Гагры ад 2 верасня 47 года: «Дарагая жоначка! Вось ужо трэці дзень я на новым месцы. Домік, у якім я цяпер жыву і пішу гэтыя радкі да цябе, маленькі прыгожы домік, стаіць недалёка ад узбярэжжа Чорнага мора…» Далей танальнасць ліста мяняецца. «Я скептычна гляджу на мой адпачынак, — сумна паведамляе «Курортнік». — Хоць… усё было б добра і лёгка, каб ты была са мной. Былі б мы ўдваіх, і нідзе б мы не скучалі. А так цягне дамоў, на кожным кроку адчуваеш — што не хапае цябе. Чартоўка! Кожны раз, калі я без цябе, я пачынаю чуць — што без цябе я «Сам не свой. Што мне для шчасця не хапае цябе». Курс лячэння даводзіцца паўтараць, мяняць свой сыры асенні клімат на больш здаровы — ялцінскі». Ліст ад 15 кастрычніка 51 года: «Дорогая моя! Сегодня получил от тебя вторую весточку… Каждый день я думаю о нашей далеко отсюда «хате», о тебе, о Люде, о многом-многом. Поэтому так и жду писем, и радуюсь им… Пиши побольше — не ленись. В следующем году мы обязательно уедем куда-нибудь вместе. Подумаем ещё. Но обязательно вдвоём уедем». У такім жа эмацыянальным духу, на такой пранікнёнай, пяшчотнай ноце вытрыманы і іншыя лісты Івана Паўлавіча да жонкі, Лідзіі Пятровай (Мележ).

Вось такі быў ён, Іван Мележ, у сваіх адносінах да жанчыны, у прыватнасці да сваёй выбранніцы, сваёй спадарожніцы па жыцці, па жыццёвых радасцях і пакутах. І дзякуючы менавіта таму, што ён быў такі, ён стварыў цудоўныя жаночыя вобразы і ў тым ліку — вобраз сваёй любіміцы Ганны Чарнушкі.

*2001*

# СУВЯЗНЫ. ВАРТАВЫ. ВЫРАТАВАЛЬНІК…
*Да 75-годдзя Алеся Адамовіча*

Ессо homo! (экцэ гомо) — Вось чалавек!

Гэткім воклічам віталі старажытныя, пэўна, такіх людзей, як ён, — наш слынны сучаснік. Што пацвярджаецца, у прыватнасці, словамі прадмовы да яго першай пасмяротнай кнігі «Пражыта». «Канец сярэднявечча ў Еўропе, — цытую ў перакладзе з расійскай, — адзначаўся выхадам на арэну асаблівых, усебакова развітых, шматгранна адораных, незашораных людзей. Такім паўстае перад намі і Адамовіч. Ён… Прабачце, але хто ўсё-такі ён паводле роду сваёй асноўнай дзейнасці? Празаік? Вучоны? Крытык? Кінадраматург? Публіцыст? Дзяржаўны дзеяч і палітык? Дыпламат? Воін?.. Вось менавіта. Ён чалавек, які аб'яднаў усе гэтыя віды дзейнасці і якасці адразу ў адной творчай асобе, у адным яркім лёсе. Менавіта так, як гэта было характэрна для «тытанаў» эпохі Адраджэння».

Так, ён быў хутчэй выключэннем, чым правілам. Але калі задумацца, то ён быў адначасова і тым, і другім — і выключэннем, і правілам. (З рэдказямельных, так бы мовіць, элементаў.) Правілам — па неаддзельнасці ад соцыуму, па натуральным, адэкватным успрыняцці рэчаў; выключэннем — па характары, па стылі, па маштабах творчасці і грамадскага дзеяння. Правілам — па агульназначнасці, жыццёвай абумоўленасці і сацыяльнай неабходнасці таго, што ён рабіў; выключэннем — па меры душэўнай і інтэлектуальнай аддачы, па сіле пачуцця маральнай і грамадзянскай адказнасці, па глыбіні ўнутранага зроку, якому, як у свой час зазначыў Віктар Каваленка (вечная памяць ім абодвум), «бачыўся магутны, светланосны сэнс сапраўднага літаратурнага слова».

Іншымі словамі — ён быў закладнікам абсалюту, абсалютнага, ці, як яшчэ яго называюць, катэгарычнага кантаўскага імператыву. Яго закладнікам і яго добраахвотнай ахвярай. (Дарэчы, згадваецца тут адна лімаўская публікацыя Людмілы Корань, якая прысвячалася памяці А. Адамовіча і ў загаловак якой было вынесена менавіта гэтае слова — абсалют.)

Зрэшты, ён не скардзіўся. Наадварот. На пачатку свайго творчага шляху ён пісаў у аўтабіяграфічным нарысе «Заглядваючы ў сябе…»: «…Але карэнні нашы ўжо акрэплі, умацаваліся ў час вайны, калі на ўсё жыццё адчуў, што, нягледзячы ні на што, ёсць на свеце рэчы, каштоўнасці, у імя якіх можна ахвяраваць усім».

А праз дваццаць гадоў, асэнсоўваючы ўрокі творчасці Максіма Гарэцкага, ён будзе пераканана сцвярджаць: «Літаратура і мастацтва бязлітасныя да чалавека, які звязвае з імі свой лёс, бо забіраюць яго цалкам, усяго, а калі выявіцца, што няма чаго выціснуць з яго, дык, як што пустое, — выкідаюць без жалю і больш нават не азіраюцца на яго. Затое ж яны, можа, як ніўто іншае, і ўдзячныя, калі ў чалавеку было, ёсць штосьці сапраўднае — талент, сумленне».

Так, ён не скардзіўся. Ён усведамляў, за які «гуж» узяўся. Ён ведаў, што да чаго.

Безумоўна выключэннем, з'явай амаль унікальнай ён быў вось у якім сэнсе — у сэнсе, так бы мовіць, камунікатыўным, у якасці Вялікага Сувязнога.

Сапраўды. Ён быў своеасаблівым сувязным паміж вёсачкай, гарадскім пасёлкам і горадам (красамоўнае сведчанне — яго апошнія апавяданні і аповесць «Vixi»); паміж двума сталічнымі гарадамі — Мінскам і Масквой.

Ён быў сувязным паміж простай роднай прыродай і высокай мастацкай культурай. Ён прызнаваўся: «На памяць ведаў «свой» лес, не горш, чым аднатомнік Пушкіна, у якога быў улюбёны, як у жывога».

Ён быў сувязным паміж агульналюдскім і абагуленым у мастацкім слове і крэўна блізкім, роднасным. Яшчэ адно — для ілюстрацыі — яго прызнанне: «Калі мне што і ўдалося ў рамане «Вайна пад стрэхамі», дык гэта таму, што раней гэтую кнігу маці напісала ўласным жыццём».

Ён быў сувязным паміж крытыкай і літаратуразнаўчай навукай, паміж імі і мастацкай творчасцю, паміж першай, другой і трэцяй і такімі відамі мастацтва, як тэатр і кіно (пра апошняе красамоўна сведчыць ужо адзін той факт, што ён, вядомы празаік, аўтарытэтны літаратуразнаўца, доктар філалогіі, паспяхова ўзначальваў колькі гадоў такую спецыфічную ўстанову, як Навукова-даследчы інстытут кінамастацтва).

Ён быў сувязным паміж непазбыўнай юначай памяццю пра мінулую вайну, пра свой непасрэдны ўдзел у ёй і сталай трывогай перад небяспекай ядзернага апакаліпсісу.

Ён быў сувязным паміж ахвярамі нашых беларускіх «вогненных вёсак» і шматпакутнымі ленінградскімі блакаднікамі (сярод якіх, да слова, было і шмат беларусаў).

Ён быў сувязным паміж гэтымі «знакамі бяды», «болевымі кропкамі гісторыі Беларусі» — Курапатамі, Хатынню, Чарнобы-

лем; паміж Чарнобылем тэхнагенным і Чарнобылем палітычным. Так, менавіта ён тут выступаў сувязным, хаця, кажучы ягонымі словамі, «праблемы гэтыя крояць душу ўсіх».

Ён быў сувязным паміж нашымі бедамі, болямі і стратамі і думкай-надзеяй — цытую яго парафраз думкі Дастаеўскага: «Як выратаваць сябе, сваю краіну, свой род і ўсё жыццё зямное».

І яшчэ ён быў сувязным паміж страхам, пакорай і бясстрашшам, паміж няволяй і разняволенасцю, свабодай. «Можа, таму, а можа, па натуры, але жыў, радуючыся самой гэтай магчымасці — жыць. І ў асноўным нічога не баяўся. І ў часы Страху…». «Шкадаваць усіх і любіць — розныя рэчы. Іх шкадаваў, а любіў — сябе? І яшчэ свабоду. Найвышэй за ўсяго. Нават ад любові свабоду…» Гэта гранічна шчырыя, як на духу, прызнанні з яго перадсмяротнай аповесці «Vixi» («Пражыта»).

Так, у жыцці і творчасці ён быў Вялікім Сувязным.

Сувязным-ганцом. Сувязным-вартавым. Сувязным-ратавальнікам.

«Ён нёс вестку, нёс вешчае слова». Менавіта гэтыя словы першыя прыйшлі на памяць, калі, згадваю, паспрабаваў асэнсаваць і выказаць сваю рэакцыю на паведамленне аб яго заўчаснай смерці. І, бадай, думаю вось цяпер — гэта былі якраз тыя, што трэба, словы, — і па змесце, і па стылі сваім. Так, ён нёс вестку. Вестку-перасцярогу. Вестку-папярэджанне. Вестку-выснову. Вестку-думку. Нёс энергічна, рашуча, мэтанакіравана. Ён сцвярджаў, аналізуючы адзін з урокаў класіка (на гэты раз Талстога): «Так, думка-сэнс, думка-мэта — без гэтага сапраўднай літаратуры няма». (Дададзім сюды яшчэ і такі кампанент, як думка-дзеянне, і атрымаем яго мадэль так званай звышлітаратуры).

Праўда, думка — думцы не роўная, як не роўныя сэнс — сэнсу, мэта — мэце. Недзе ў канцы пяцідзесятых, на пачатку касмічнай эры Макс Борн выказаў падчас аднаго дыспуту меркаванне, што прарыў у космас «уяўляе сабой трыумф інтэлекту, але адначасова і трагічную памылку здаровага сэнсу». Пазней ён мусіў удакладніць сваю думку і зазначыў: «Інтэлект адрознівае магчымае ад немагчымага; здаровы сэнс адрознівае мэтазгоднае ад бессэнсоўнага».

Вызначальнай асаблівасцю мыслення Алеся Адамовіча і было якраз тое, што яно не толькі адрознівала магчымае ад немагчымага (яму належаць словы, звязаныя з іспанскім вопытам пераходу ад таталітарнай сістэмы да дэмакратыі: «Галоўнае,

разумець адзін аднаго, інтарэс жа агульны — прайсці па канаце перабудовы і не зваліцца ні ў дыктатуру, ні ў грамадзянскую вайну»), не толькі было выразна рэалістычным, але і бачыла розніцу паміж разумным, мэтазгодным і недарэчным, бессэнсоўным. Пра гэта красамоўна сведчаць яго публіцыстычныя выступленні, у прыватнасці, артыкул «Курапаты, Хатынь, Чарнобыль», дыялог з Андрэем Сахаравым, што друкаваўся пад назовам «Жыць на зямлі, і жыць доўга!» і інш.

Ну і, як вядома, яму было ўласціва — яшчэ адзін істотны штрых — дадумваць да канца, ставіць кропкі над «і», называць рэчы сваімі імёнамі: хлусню — хлуснёю, злачынства — злачынствам, генацыд — генацыдам. Ён, што называецца, адкрытым тэкстам гаварыў пра «ідэалагізаваную шайку крымінальнікаў», пра «зграю нягоднікаў і злачынцаў, бязмежна вінаватых перад гэтым няшчасным народам». Ён адным з першых загаварыў на так званай постсавецкай прасторы аб праве, аб прававых пачатках, аб прававой дзяржаве. Смела пераходзіў ад маральных азначэнняў і ацэнак да прававых. Яшчэ да таго, як былі прынятыя новыя, дэмакратычныя Канстытуцыі з адпаведнымі запісамі наконт вяршэнства права, закона. Вось, да прыкладу, заключныя радкі яго артыкула «Ціхае імя», змешчанага яшчэ ў 1989 годзе на старонках «Литературной газеты»: «Прававая дзяржава і ўсё, што спадарожнічае ёй, — ці не занадта проста для нас? А ці не ў такой прастаце — ісціна і шлях да таго самага дабрабыту, справядлівасці, дзеля якіх мы столькі дроў наламалі?» Знайшло потым сваё месца словазлучэнне «прававая дзяржава» і на старонках зборніка «Апакаліпсіс па графіку», што пабачыў свет у 1992 годзе. Аўтар яго, Алесь Адамовіч, і тут быў першы, і тут прыносіў сваю наколькі трывожную, настолькі і важную для ўсіх нас вестку…

*Замест пастскрыптума*. Як мы бачылі, Алесь Адамовіч, гаворачы пра «сапраўднае» ў літаратуры, побач з паняццем талент ставіць паняцце сумленне. Ён і жыў па сумленні. Яно не давала яму спакою, клікала да змагання. Ужо цяжка хворы, ён запісваў: «Не, вярнуцца і даць апошні бой — «заўтра бой!» — як збіраўся Сахараў. Калі і паміраць, дык вось так». Менавіта так ён і памёр. У апошнім баі, «на барыкадзе», а рэальна — у зале суда, падчас судовых спрэчак, апелюючы да закона, праўды і справядлівасці, адстойваючы з уласцівымі яму логікай і тэмпераментам права пісьменнікаў на сваю маёмасць, сваю матэрыяльную самастойнасць.

Ці памятаем сёння мы, беларускія пісьменнікі, гэты апошні бой і адначасова апошні ўрок Алеся Адамовіча? Падзеі сведчаць, што некаторыя не памятаюць, забыліся, як не памятаюць і шмат што іншае. Ці робяць выгляд, што не памятаюць. Недарэмна ж Ніл Гілевіч проста заявіў нядаўна ў «Народнай волі»: «У існаванні такога СП (г. зн. Саюза пісьменнікаў. — *А. В.*) не бачу сэнсу, у прыналежнасці да яго адчуваю толькі боль, гаркоту і прыкрасць». Трэба думаць, што ў такім жа духу выказаўся б сёння і Алесь Адамовіч — першы лаўрэат (прысуджана пасмяротна) прэміі Міжнароднай грамадскай арганізацыі пісьменнікаў «Літаратурны фонд» «За гонар і годнасць таленту».

*2002*

## ЁН БЫЎ НАШЫМ СЯБРАМ

Перачытаў амаль усе кнігі Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Прызнаюся, незвычайнае і няпростае было гэтае чытаннеперачытванне. Чытанне-сумоўе. Чытанне-суперажыванне. Чытанне-роздум. Чытанне — падарожжа ў часе. Чытанне, кажучы інакш, — праца розуму, душы і памяці. Прасвечваўся між радкамі, жыва ўяўляўся яго воблік, чуўся яго голас. І яшчэ не-не ды згадвалася прысвечанае яму, узрушлівае, прасякнутае пачуццём пашаны і ўдзячнасці эсэ Алега Лойкі «Быў ён чалавекам Адраджэння». Алег Лойка, да яго гонару, прывёў, здаецца, ці не ўсе неабходныя ў дадзеным выпадку высокія эпітэты і азначэнні, даў ці не вычарпальную характарыстыку — аж да слоў аб «тытанізме духу і чыну». Але, тым не менш, у мяне з'явілася патрэба дапоўніць яе, дадаць яшчэ адзін, даволі істотны, на мой погляд, штрых.

Рэч у тым, што Уладзімір Андрэевіч быў для многіх з нас — як тут лепш сказаць — добрым геніем, ці, дакладней, добрым, мудрым сябрам. Сябрам з вялікай літары. Сябрам як у рэальна-жыццёвым, так і ў больш шырокім, духоўным сэнсе гэтага паняцця. Зоя Мельнікава мела рацыю, калі ў сваім артыкуле пра творчы шлях Васіля Жуковіча, змешчаным недзе гады два таму ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», зазначала: Уладзімір Калеснік не толькі падтрымаў першыя спробы пяра свайго студэнта, але і пазней у жыцці па-чалавечы ахоўваў яго, апякаў сяброўскай сімпатыя і ўвагай. Агальнавядомы факт — яго чалавечае, мужчынскае і творчае сяброўства з Янкам Бры-

лём. Сяброўства, якое рабіла яго тонкім псіхолагам мастацкай творчасці, падказвала яму выснову: «Без сувязі з чалавекам слова пусцее і блекне». Вядома таксама, колькі клопату і ўвагі праяўляў ён у дачыненні да Ніны Мацяш, якую ролю — настаўніка-гуру і старэйшага сябра і таварыша — адыгрываў ў яе чалавечым і літаратурным лёсе, колькі душы, пачуцця адказнасці і інтэлектуальна-аналітычнай мудрасці ўклаў ў свой артыкул-прадмову да кнігі яе выбраных вершаў і паэм «Паміж усмешкай і слязой». З другога боку, не выпадковы ж той факт, што адны з самых пранікнёных радкоў, якія склалі зборнік вершаў-прысвячэнняў паэтэсы «Я вас люблю…», адрасаваліся Уладзіміру Андрэевічу Калесніку («Няхай усім ліхім вятрам на злосць…» і «Студня»). Ды і, думаю, дзякуючы ў значнай меры менавіта яму нарадзіўся і наступны твор зборніка, лірыка-філасофскі шэдэўр «Сябрына»:

Не знадзейвайся. Паражыві.
Хоць якая, ды ёсць патоля:
Намарозіць радня па крыві —
Адагрэе радня па долі.

Скруха — зашмаргай… Перарві.
Ёсць лагода на боль, на скруху:
Адрачэцца радня па крыві —
Паратуе радня па духу.

Праўду гэту — як ёсць — прыві
Да сцяжыны далейшага руху.
Будзь здарова, радня па крыві.
Будзь бяссмертна, радня па духу!

Упэўнены, што гэты верш, гэты гімн «радні па духу» спадабаўся Уладзіміру Андрэевічу. Бо адпавядаў яго светапогляду, яго перакананням, сістэме яго маральных і ідэйна-эстэтычных каштоўнасцей. Нездарма сваё гісторыка-літаратуразнаўчае даследаванне «Берасцейскае вогнішча» ён заканчвае раздзелам, які назваў гэткім жа словам — «сябрына». А ў артыкуле «Два светы Яна Чыквіна» (частка працы «Творчае пабрацімства») звяртае ўвагу на тое, што «беларускі інтэлектуал еўрапейскай школы» Ян Чыквін добра праявіў сябе на пасадзе старшыні літаратурнага аб’яднання, бо: «Для яго старшынстваваць — значыць разумець, паважаць і захоўваць сяброўскія адносіны з пісьменнікамі ўсіх пакаленняў… Паэзія Я. Чыквіна вырастае на сутыках славянскіх

і еўрапейскіх літаратур. Гэта забяспечвае аўтару жывы і непрытворны кантакт з усёй літаратурнай сябрынай».

Словам, сяброўства, словам, сябрына.

Згадваецца тут вядомая французская прыказка: «Les amis de nos amis sont nos amis», што значыць: «Сябры нашых сяброў — нашы сябры». У дадзеным выпадку яна падыходзіць як нельга лепей, мае дакладны рэальны сэнс. Бо ён быў сябрам маіх сяброў і таварышаў па пяры: старэйшых — Максіма Танка і Янкі Брыля, равеснікаў — Ніла Гілевіча, Алега Лойкі, Яна Чыквіна, малодшых — Ніны Мацяш, Васіля Жуковіча, Алеся Разанава, Галіны Тычкі. І яшчэ ён быў ініцыятарам майго прыезду ў Брэст для сустрэч са студэнтамі інстытута і знаёмства з некаторымі яго выкладчыкамі. Што мне вельмі імпанавала і за што я быў яму заўсёды ўдзячны.

Такім вось ён быў. «Быў ён чалавекам Адраджэння». Быў ён Чалавекам (Ecce homo). Быў ён нашым Сябрам.

Зрэшты, чаму «быў»? Такім застаецца, жыве ён у сваім слове, сваіх кнігах, сваіх уроках. Такім застаецца, жыве ён у нашай памяці, у свядомасці нашай.

*P. S.*

Сімвалічнае і вартае яго светлай памяці супадзенне. Якраз тады, калі я стаў накідваць прысвечаныя яму нататкі, я атрымаў адну за адной, з інтэрвалам літаральна ў два дні, дзве кнігі з цёплымі сяброўскімі аўтографамі. Новую кніжку Янкі Брыля «З людзьмі і сам-насам» і толькі што выдадзены, зноў-такі, зборнік вершаў Васіля Жуковіча «У храме хараства і смутку». Адгарнуў, стаў нецярпліва праглядаць лірычныя запісы і мініяцюры Івана Антонавіча і ўбачыў: «У падарожжы па Гомельшчыне (для «Я з вогненнай вёскі…»), калі мы на Калеснікавым чырвоным «Масквічы» ўехалі ў Мележавы Глінішчы, нас запыніла вялікая чарада гусей…» Гэта на дзевятай старонцы. Прадоўжыў гартаць і зноў: «Сляза пякучая айчыны» — зборнік артыкулаў пра творчасць Яна Чыквіна. Хараша выдадзеная кніга дастойна і па-асабліваму прыемна мне адкрываецца словамі Валодзі Калесніка…» Размова ідзе пра згаданую мной і ці не адну з апошніх публікацый Уладзіміра Андрэевіча «Два светы Яна Чыквіна» (раздзел з яго працы «Творчае пабрацімства»)… Знаёмлюся з кнігай вершаў Васіля Жуковіча. І, вядома ж, сустракаю тут жа радкі, звязаныя з імем яго настаўніка і старэйшага сябра, — вялікі цыкл твораў пад агульным назовам «Любоў і памяць» («Будаўнічы Будучыні», «Свет хісткі і век наш кароткі»,

«14 снежня 1995 года, у дзень І Мемарыяльных чытанняў ў Берасці», «Зося Міхайлаўна — Ваша паплечніца…», «Прыроды зімовае ззянне»). Гучыць пранікнёны зварот:

Так нязмушана, шчыра, свабодна
Гаварыла сябрына пра Вас,
Уладзімір Андрэевіч, родны!..

Так, менавіта *сябрына* гаварыла. Сябрына, а не нехта іншы. Інакш і не магло быць у дадзеным выпадку.

*2003*

# КАМЕНТАР

Выданне змяшчае найбольш значныя творы аўтара: вершы, паэмы, п’есы, літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя артыкулы і эсэ. Асноўнай тэксталагічнай крыніцай пры падрыхтоўцы кнігі сталі зборнікі вершаў і паэм «Песня пра хлеб» (1962), «Тры цішыні» (1966), «Чалавечы знак» (1968), «З’яўленне» (1975), «Час першых зорак» (1976), «Ветрана» (1979), «Хлопчык глядзіць…» (1992), «Жанчына. Мужчына. Каханне» (2003), а таксама зборнік п’ес «Дзякуй, вялікі дзякуй» (1983), кнігі публіцыстыкі і літаратурнай крытыкі «Высокае неба ідэала» (1980), «Нью-Йоркская сірэна» (1980) і «Трывожны досвітак» (1994). Паводле гэтых выданняў публікуецца пераважная большасць твораў. Частка твораў, якія не выходзілі асобнымі выданнямі, перадрукоўваецца са старонак перыёдыкі, што і адзначаецца ў гэтым каментары. Датуюцца творы годам напісання або публікацыі.

## ВЕРШЫ

*Аз, букі і ведзі (с. 23)*

Упершыню — час. «Полымя», 1966, № 5.

*«Мы жывём, каб вяртацца...» (с. 24)*

Упершыню — час. «Работніца і сялянка», 1966, № 10.

*«Даўно мінула маё світанне...» (с. 24)*

Упершыню — зб. «Тры цішыні». Мн., 1966.

*Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня (с. 25)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 3 ліпеня 1964 г.

*«Ідуць, за рукі ўзяўшыся, дзеці...» (с. 26)*

Упершыню — зб. «Тры цішыні».

*«Люблю зямлю, дзе ёсць дзіцячая казка...» (с. 26)*

Упершыню — зб. «Тры цішыні».

*Жылі-былі... (с. 27)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 26 красавіка 1966 г.

*Тры цішыні (с. 28)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 17 снежня 1965 г. Там жа — наступныя чатыры вершы: «Гора — не бяда, бяда — не гора…», «Развітанне», «Пра воўка памоўка…», «Косім траву — яна не крычыць…»

*Спачуванне (с. 32)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 26 красавіка 1966 г.

*«Гэта не так ужо і сумна...» (с. 33)*

Упершыню — час. «Работніца і сялянка», 1965, № 10.

*Жаночыя рукі (с. 34)*

Упершыню — газ. «Голас Радзімы», 1966, № 6, пад загалоўкам «Сведчылі месяц, ноч і я…».

*«Не ўсе і не заўсёды...» (с. 35)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1966, № 8.

*«Пайшло яно — незваротнае...» (с. 35)*

Упершыню — зб. «Тры цішыні».

*Эдзіт Піяф хоча любві (с. 36)*

Упершыню — зб. «Тры цішыні».

*«Хто вынайшаў веласіпед?..» (с. 38)*

Упершыню — зб. «Тры цішыні».

*«Мы напачатку зазналі страху...» (с. 39)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1966, № 5.

*Пахавальнае шэсце (с. 40)*

Упершыню — зб. «Тры цішыні».

*Акіян і лужына (с. 41)*

Упершыню— час. «Беларусь», 1966, № 8.

*«Людзі простыя гадаюць...» (с. 42)*

Упершыню — зб. «Тры цішыні».

### *Бар'еры (с. 42)*

Упершыню-час «Маладосць», 1966, № 5. Там жа — наступны верш «Сціраюць з карты белыя плямы…».

### *«Дзень добры, мама!» — кажу крыжу...» (с. 43)*

Упершыню — зб. «Тры цішыні».

### *Дынамік (с. 44)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1966, № 5.

### *Поезд справядлівасці (с. 45)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 26 красавіка 1966 г.

[1] *Альендэ* Госенс (1908–1973) — сацыяліст, прэзідэнт Чылі ў 1970–1973 гг. Забіты ў час ваеннага перавароту (1973).

[2] *Карвалан* Луіс (нар. 1916) — з 1958 г. Генеральны сакратар ЦК Кампартыі Чылі (КПЧ). Пасля ваеннага перавароту быў зняволены.

[3] *Чарапанавы* Яфім Аляксеевіч (1774–1842) і Мірон Яфімавіч (1803–1849) — бацька і сын, рускія механікі-вынаходнікі, стваральнікі першага ў Расіі паравоза.

### *«Мама мыла раму...» (с. 47)*

Упершыню — зб. «Тры цішыні».

### *Жаданні (с. 48)*

Упершыню — час. «Полымя», 1967, № 12.

### *«Гудзела, гуло ў маіх вушах...» (с. 49)*

Упершыню — зб. «Чалавечы знак». Мн., 1968.

### *«Паміраюць ад кулі шалёнай... (с. 50)*

Упершыню — час. «Полымя», 1967, № 12.

### *Статак вяртаецца з поля... (с. 50)*

Упершыню — час. «Полымя», 1966, № 5.

### *Навагодні тост (с. 51)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1 студзеня 1967 г., пад загалоўкам «Мой тост».

### *Высокае неба ідэала (с. 53)*

Упершыню — зб. «Чалавечы знак».

*«Ляцеў груган...» (с. 54)*

Упершыню — час. «Полымя», 1967, № 12.

*«Я фільм глядзеў...» (с. 55)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 25 жніўня 1967 г. Там жа — наступныя вершы: «Дзівак чалавек», «Дзве паралельныя прамыя», «Скажы мне, мама…».

*«Домік маленькі, бачу я, знеслі...» (с. 59)*

Упершыню — час. «Маладосць «, 1968, № 2.

*«Як дружна мы востраў свой абжывалі!..» (с. 60)*

Упершыню — зб. «Чалавечы знак». Там жа — наступныя вершы: «Вось-вось растануць ледзяшы…», «Было так радасна і хораша!..».

*«Абрастаем. Паперамі, рэчамі...» (с. 61)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1968, № 2.

*«Зноў шлак халодны...» (с. 62)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1968, № 6.

*Успамін былога вяскоўца (с. 63)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 23 студзеня 1970 г.

*Аптымістычны верш (с. 64)*

Упершыню — зб. «З’яўленне». Мн., 1975.

*Няма дурных (с. 65)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 23 студзеня 1970 г.

*Перасцярога (с. 66)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 22 кастрычніка 1971 г.

*Вечны сон, вечны звон. Хатынскі трыпціх (с. 68)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 4 ліпеня 1968 г., пад загалоўкам «Хатынскія званы».

*Вялікі атракцыён (с. 70)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1974, № 9.

### *Сустрэча на Паркавай магістралі (с. 71)*

Упершыню — зб. «Хлопчык глядзіць…». Мн., 1992

### *«Пасля летняга поўдня, пад вечар...» (с. 72)*

Упершыню — час. «Полымя», 1970, № 11. Там жа верш «Гавары са мной ласкава…».

### *Паўднёвае ўражанне (с. 75)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1971, № 9. Там жа верш «Мора, сонца, я і нашая каханая».

### *Вясновы закон (с. 77)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 25 красавіка 1975 г. Там жа верш «Той год незвычайны…».

### *«Што значыць сапраўдным другам быць?..» (с.78)*

Упершыню — зб. «З'яўленне».

### *Пра дзярзанне (с. 78)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2 снежня 1969 г.

### *«Бачу я: нехта некага любіць...» (с. 80)*

Упершыню — зб. «З'яўленне». Там жа — наступныя вершы: «Там дома, у вёсцы», «Адлучэнне Талстога ад царквы», «Размова з Ду Фу», «Непраметэі», «Камары».

### *«Твая воля — як воля лёсу...» (с. 87)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1971, № 9.

### *«Сёння было мне горка...» (с. 88)*

Упершыню — выд. «Дзень паэзіі – 72». Мн., 1972.

### *Свята (с. 89)*

Упершыню — час. «Работніца і сялянка», 1971, № 1.

### *Не дражніце гусей (с. 89)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 19 чэрвеня 1987 г.

### *Скарга добрых (с. 90)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1981, № 11, пад загалоўкам «Мы добрыя, нібы шчаняты».

*Плач па нерастрачанай пяшчоце (с. 90)*

Упершыню — зб. «З’яўленне».

*«Я жыў высока на гары...» (с. 91)*

Упершыню — выд. «Дзень паэзіі – 74», Мн., 1974.

*«Пакуль не было цябе...» (с. 92)*

Упершыню — зб. «З’яўленне».

*«Мужчына. Жанчына. Чаканне...» (с. 93)*

Упершыню — час. «Работніца і сялянка», 1981, № 11.

*З’яўленне (с. 93)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 25 красавіка 1975 г.

*Параўнанне (с. 94)*

Упершыню — зб. «З’яўленне».

*«Любоў адкрывае скарбы...» (с. 94)*

Упершыню — зб. «Ветрана». Мн., 1979.

*Два полі (с. 95)*

Упершыню — зб. «Час першых зорак». Мн., 1976.
Верш пакладзены кампазітарам Эдуардам Ханком на музыку.

*Магіла пры дарозе (с. 95)*

Упершыню — зб. «Хлопчык глядзіць…».

*«Пра месяца ў жыцці, як дзеці...» (с. 96)*

Упершыню — зб. «Ветрана».

*Позірк з космасу (с. 96)*

Упершыню— газ. «Вячэрні Мінск», 29 студзеня 1979 г. Там жа — верш «Туга метэарыта».

*«Любоў нараджае не толькі дзяцей...» (с. 97)*

Упершыню — зб. «Ветрана».

*Стук малатка. Пачатак пасяджэння (с. 97)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 10 лістапада 1978 г. Там жа — вершы: «Талака», «Ты кажаш, сяброў усё менш і менш?..», «Дзвярыма стукнулі напаследак…».

### *«Еўдакія Лось у труне...» (с. 101)*

Упершыню — час. «Полымя», 1981, № 11.

### *Плач спаленай вёскі (с. 102)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1979, № 2.

### *З цыкла «Лясныя прымаўкі» (с. 103–106)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1979, № 6.

### *Закон шчодрасці (с. 106)*

Упершыню — газ. «Вячэрні Мінск», 29 студзеня 1979 г.

### *Пад небам адкрытым (с. 107)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 29 кастрычніка 1981 г.

### *«У час рашэнне не прыйшло...» (с. 107)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 6 ліпеня 1982 г. Там жа — верш «Жыццё даецца, каб жыццё тварыць…».

### *Купала ідзе да Коласа... (с. 108)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 24 чэрвеня 1983 г. Там жа — верш «На паклон да Кабзара».

### *Маці на ўзгорку (с. 111)*

Упершыню — газ. «Звязда», 23 мая 1985 г.

### *Размова ў Патсдаме (с. 112)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 9 мая 1985 г.

### *Яблыня ў горадзе (с. 113)*

Упершыню — выд. «Дзень паэзіі – 87», Мн., 1987.

### *Хлопчык глядзіць... (с. 115)*

Упершыню — зб. «Хлопчык глядзіць…».

### *Баіцца быць беларус беларусам... (с. 115)*

Упершыню — зб. «Хлопчык глядзіць…».

### *Успамін пра паству (с. 117)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2006, № 6 (25).

### *На Беларусі пеўні пяюць (с. 117)*

Упершыню — газ. «Звязда», 18 чэрвеня 1997 г.

### *Параўнанні (с. 119)*

Друкуецца паводле час. «Полымя», 1998, № 1. Там жа — верш «Ля магілы Максіма Танка».

### *Паходжанне прозвішча (с. 124)*

Друкуецца паводле выд.: Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння. Пад рэдакцыяй Р. Г. Гарэцкага, дзе апублікаваны ўпершыню. Мн., 2000.

### *Чытаю Гарэцкіх... (с. 124)*

Упершыню — час. «Тэрмапілы», 2000, № 3.

[1] *Гарэцкі* Максім (1893–1938) — класік беларускай літаратуры, літаратуразнавец, лексікограф. У 1930-я гг. арыштоўваўся, асуджаўся да высылкі, 5.I.1938 г. прысуджаны «тройкай» да расстрэлу.

[2] *Гарэцкі* Гаўрыла (1900–1988) — брат Максіма Гарэцкага, геолаг, географ, эканаміст. Акадэмік АН Беларусі. Заснавальнік навукі аб старажытных рэках — палеапатамалогіі.

[3] *Гарэцкі* Радзім (нар. 1928) — сын Гаўрылы Гарэцкага, навуковец у галіне геатэктонікі, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН Беларусі і Расійскай АН. Шмат гадоў узначальваў Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».

### *Пра дараванне (с. 125)*

Упершыню — час. «Беларусь», 2001, № 11.

[1] Папа Рымскі — глава каталіцкай царквы і дзяржавы Ватыкан. Тут памінаецца Ян Павел II (1920–2005).

### *Слова на развітанне. Пярэдадзень міленіума (с. 126)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 28 снежня 2000 г., пад загалоўкам «Апошнія гадзіны».

### *Жыццё прадаўжаецца... (с. 128)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2006, № 6 (25). Там жа — верш «Не помню такога лета…».

### *Памяці Васіля Быкава. Трыпціх (с. 128)*

Друкуецца паводле час. «Тэрмапілы», 2006, № 10, дзе апублікаваны ўпершыню.

*Развітальная размова з Янкам Брылём (с. 132)*

Друкуецца паводле час. «Дзеяслоў», 2006, № 4 (23), дзе апублікаваны ўпершыню.

*Пра наш плач (с. 133)*

Упершыню — газ. «Літаратурная Беларусь», 30 лістапада – 7 снежня 2007 г. Там жа — вершы: «Здарэнне ў Судны дзень, або Ніл Гілевіч як аргумент», «Ода электрычнасці».

*Ішоў я, ішоў... (с. 138)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 2 мая 2008 г.

*Адзін дзень у БНР (с. 140)*

Упершыню — газ. «Літаратурная Беларусь», 31 сакавіка – 6 красавіка 2008 г.

*«Стаўлю бульбу варыць...» (с. 142)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 8 студзеня 2009 г.

## ПАЭМЫ

*Песня пра хлеб. Фрагменты (с. 145)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1960, № 6.

*Даруйце! Паэма віны (с. 151)*

Упершыню — зб. «Чалавечы знак».

*Заазер'е (с. 158)*

Упершыню — час. «Полымя», 1968, № 2.

*Начны бераг (с. 169)*

Раздзел паэмы — пад загалоўкам «Размова з Сожам» — змешчаны ў газ. «Літаратура і мастацтва» 11 снежня 1970 г. Поўнасцю твор апублікаваны ўпершыню ў час «Полымя», 1972, № 7.

*Ветрана, ветрана... Раздзелы з «Паэмы надвор'я» (с. 181)*

Упершыню — час. «Полымя», 1979, № 5, пад загалоўкам «Усе чатыры вятры». Паводле паэмы пастаўлены тэлевізійны спектакль (1980).

Друкуецца ў скароце.

*Ода магчымасцям мірнага жыцця, або Штрых да партрэта Васіля Быкава (с. 207)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1985, № 5.

## ДРАМАТУРГІЯ

*Гефест — друг Праметэя (с. 215)*

Упершыню — зб. П’ес «Дзякуй, вялікі дзякуй!» Мн., 1983.

Пад назвай «Хачу быць богам, або Спакушэнне Гефеста» п’еса пастаўлена ў 1984 г. на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек (пастаноўка А. Ляляўскага і В. Казловай).

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

*Вольнасць і брацтва, генерал!.. (с. 259)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 19 сакавіка 1971 г.

[1] *Урублеўскі* Валерый Антоній (1836–1908) — дзеяч міжнароднага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху. Паплечнік Кастуся Каліноўскага. Удзельнік паўстання 1963–1964 гг. Прымаў удзел у выпуску і распаўсюджванні газеты «Мужыцкая праўда». Цяжка паранены эміграваў у Францыю. У 1871 г. у званні генерала камандаваў адной з армій Парыжскай камуны. З 1872 г. з’яўляўся членам Генеральнага савета І Інтэрнацыянала. Пахаваны на парыжскіх могілках Пэр-Лашэз каля сцяны Камунараў.

[2] *Дэлеклюз* Шарль (1809–1871) — удзельнік рэвалюцыі 1848 г. у Францыі, адзін з кіраўнікоў Парыжскай камуны 1871 г. Загінуў на барыкадах.

[3] *Лаўроў* Пётр Лаўравіч (1823–1900) — рускі філосаф і сацыёлаг, адзін з ідэолагаў рэвалюцыйнага народніцтва. Сябра таемнага рэвалюцыйнага таварыства «Зямля і воля». З 1870 г. у эміграцыі. Удзельнік Парыжскай камуны. Член І Інтэрнацыянала. За мяжой выдаваў часопіс «Вперед!» (1973–1877) і газету той жа назвы (1875–1876).

[4] *Судзілоўскі* Мікалай (1850–1930) — дзеяч міжнароднага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху. Нарадзіўся ў Магілёве. Вучоны-прыродазнавец. З 1875 г. за мяжой. З 1887 г. жыў і працаваў у Амерыцы. У 1900 г. выбраны членам сената, затым з 1901 прэзідэнт Гавайскай

рэспублікі. З 1903 г. у Кітаі, Японіі. Аўтар шматлікіх прац па медыцыне, хіміі, філасофіі, сацыялогіі і геаграфіі.

[5] *Трусаў* Антон (1835–1886) — дзеяч міжнароднага вызваленчага руху. Нарадзіўся ў Барысаве. Скончыў Мінскую гімназію (1853). Удзельнік паўстання 1863–1864 гг., узначальваў паўстанцкі атрад з жыхароў Мінска. Завочна прысуджаны да смяротнай кары. Знаходзячыся ў эміграцыі, уваходзіў у склад І Інтэрнацыянала. З 1971 г. — сябра Жэнеўскага камітэта дапамогі парыжскім камунарам. З 1884 г. жыў у Мінску пад наглядам паліцыі.

### *Ёсць закон гасціннасці (с. 265)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 27 жніўня 1971 г.

[1] *Пецёфі* Шандар (1823–1849) — венгерскі паэт, змагар за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы. Узначальваў паўстанне ў Пешце падчас рэвалюцыі 1948–1849 гг. Загінуў на полі бою ад казацкай шаблі…. Факт яго гераічнай смерці знайшоў адлюстраванне ў «Баладзе пра рогат пераможцаў» Ніла Гілевіча.

Асобныя творы Ш. Пецёфі перакладаліся на беларускую мову. У 1971 г. у Мінску выйшаў зборнік яго паэзіі «Ліра і меч» у перакладах Міколы Хведаровіча.

### *Сонечны гараскоп Чурлёніса (с. 269)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 10 красавіка 1987 г.

[1] *Чурлёніс* Мікалоюс Канстанцінас (1875–1911) — літоўскі кампазітар і мастак. Аўтар першых літоўскіх сімфанічных паэм «У лесе» (1901) і «Мора» (1907), каля 220 фартэпіянных п’ес, апрацовак народных песень. У сваіх жывапісных творах стварыў фантастычныя вобразы на тэмы прыроды і космасу, імкнуўся да сінтэзу гукавых і зрокавых уражанняў. Сярод сімвалічных карцін цыклы ««Стварэнне свету», «Знакі Задыяка», «Саната сонца», «Саната вясны», «Саната мора», «Саната зорак» (1905–1908). Адзін з арганізатараў Літоўскага мастацкага таварыства. Сябраваў з Янкам Купалам.

[2] *Друскінінкай* (Друскенікі) — бальнеалагічны і кліматычны курорт у паўднёвай частцы Літвы, на правым беразе Нёмана. Заснаваны ў 1887 г. За 100 км ад Вільнюса, 45 ад Гародні. У Друскеніках — санаторый Міністэрства аховы здароўя Беларусі, дзе лечацца дзеці з чарнобыльскай зоны.

*«Мы, народы аб'яднаных нацый...» Раздзелы з кнігі «Нью-Йоркская сірэна» (с. 275)*

Друкуюцца паводле выд.: Вярцінскі Анатоль. Нью-Йоркская сірэна. Мн., 1987, дзе апублікаваны ўпершыню.

У аснове кнігі — ўражанні і назіранні, звязаныя з удзелам аўтара як дэлегата ад Беларускай ССР у рабоце 32-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (1977). Першы раздзел даецца з асобнымі скарачэннямі.

[1] *Вальдхайм* Курт (1918– 2007) — аўстрыйскі дыпламат, генеральны сакратар ААН у 1972–1981 гг.

[2] *Маятнік Фуко* — вынаходніцтва французскага фізіка Фуко Жана Бярнара, якое дае магчымасць пацвярджаць сутачнае вярчэнне зямлі.

[3] *Хамаршэльд* Даг Ялмар (1905–1961) — дзяржаўны дзеяч Швецыі. З 1953 г. генеральны сакратар ААН. Загінуў у авіяцыйнай катастрофе пры выкананні службовага абавязку.

[4] *Шагал* Марк (1887–1985) — мастак. Пачынаў творчую дзейнасць у Віцебску. Большую частку жыцця жыў за мяжой — у Францыі, Мексіцы і ЗША. Стварыў адзначаны тонкай маляўнічасцю ўзнёсла-рамантычны свет вобразаў, прадыктаваных непазбыўнымі згадкамі пра родны Віцебск, яўрэйскі побыт і традыцыі. Аўтар шэрагу непаўторных вітражоў, ілюстрацый і размалёвак. На вуліцы Пакроўскай у Віцебску створаны музей імя Шагала, а таксама ўстаноўлены помнік.

[5] *Казальс* Пабло (1976–1973) — іспанскі віяланчэліст, дырыжор і кампазітар. Выступаў цягам амаль 75 гадоў. Заснавальнік многіх музычных калектываў і арганізацый, ініцыятар міжнародных конкурсаў імя Казальса. Аўтар «Гімна міру».

[6] *Ікбал* Мухамад (1873–1938) — паэт, філосаф Індастана. Пісаў на урду і персідскай мове. У сваіх прасякнутых гуманістычным пафасам вершах (зборнікі «Крыло Гаўрыіла» (1935) і «Дары Геджаза» (1938) апяваў стваральную дзейнасць, заклікаў да сацыяльнай справядлівасці і ўзаемаразумення паміж народамі і рэлігіямі.

*Якім быць помніку ў Курапатах (с. 308)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 3 лютага 1989 г.

*«Альбо ўзброіцца на мора крыўд...» (с. 312)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 18 траўня 1990 г.

*Не палохайце парламентам дзяцей (с. 317)*

Упершыню — газ. «Звязда», 7 сакавіка 1992 г.

*Наша зямля, нашы правы (с. 324)*

Упершыню — зб. «Трывожны досвітак». Мн., 1994.

*Ці патрэбны закон аб палітычных партыях? (с. 326)*

Упершыню — зб. «Трывожны досвітак».

*Гэта вялікае слова — Закон (с. 328)*

Упершыню — «Народная газета», 17 сакавіка 1995 г.

*«Вышэйшым гонарам для нацыі з яўляецца ўтварэнне сваёй дзяржавы» (с. 333)*

Упершыню — газ. «Звязда», 10 кастрычніка 1995 г.

*Супрасльскія званы (с. 340)*

Упершыню — газ. «Звязда», 5 снежня 1995 г.

*Тост Шымона Пераса (с. 345)*

Упершыню — газ. «Звязда», 4 студзеня 1996 г.

*«Зерне, кінутае ў ніву...» (с. 349)*

Упершыню — газ. «Звязда», 15 сакавіка 1996 г.

*Расійскія выбары і наш выбар (с. 352)*

Упершыню — газ. «Звязда», 15 чэрвеня 1996 г.

*Расія пасля выбараў: «Камо грядеши?» (с. 356)*

Упершыню — газ. «Звязда», 13 ліпеня 1996 г.

*Наш шлях вачыма свету (с. 358)*

Упершыню — газ. «Звязда», 9 студзеня 1997 г.

*Часіна вялікага тэрору: беларускі варыянт (с. 360)*

Упершыню — газ. «Свабода», 25 лістапада 1997 г.

*Адзін з урокаў: «Заўсёды заставацца людзьмі» (с. 369)*

Упершыню — газ. «Культура», 5–11 чэрвеня 1999 г.

*Задача — адкрываць і несці ісціну (с. 371)*

Друкуецца паводле выд.: Насілле і Беларусь. 1999.

*Ён казаў радзіме: «Я так любіў цябе, мая адзіная» (с. 375)*

Друкуецца паводле выд.: Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння…

[1] *Вярнадскі* Уладзімір Іванавіч (1863–1945) — расійскі вучоны, заснавальнік геахіміі, біяхіміі, радыегеалогіі. Працы Вярнадскага — адна з найважнейшых асноў вырашэння праблемы навакольнага асяроддзя.

[2] *Тэйлар* дэ Шардэн (1881–1955) — французскі палеантолаг, філосаф і тэолаг, адзін з першаадкрывальнікаў сінантрона.

*«Прайшло хораша, весела, з жартамі...» (с. 379)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 6 ліпеня 2001 г.

[1] *Камароўская* Зінаіда Мікалаеўна — дырэктар літаратурнага музея Якуба Коласа.

*Эканоміка слова (с. 382)*

Друкуецца паводле выд.: Беларусь–Японія. Матэрыялы Другіх Міжнародных чытанняў, прысвечаных памяці Іосіфа Гашкевіча. Мн., 2003.

*Смуткую... (с. 385)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 8 красавіка 2005 г.

[1] Ян Павел II памёр 2 красавіка 2005 г. У Докшыцах з ініцыятывы вернікаў-католікаў устаноўлены яму помнік.

## ЛІТАРАТУРНАЯ КРЫТЫКА

*...Плюс папраўка на час (с. 389)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 14 жніўня 1964 г., пад загалоўкам «Добрая памяць, унутраная сіла, жыццёвая мудрасць».

*Маральны абавязак паэта (с. 398)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 8 студзеня 1971 г.

*Урокі паэта-грамадзяніна (с. 405)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 10 снежня 1971 г.

Адказы на пытанні анкеты — час. «Вопросы литературы», 1971, № 11.

### *Подзвіг ратны, подзвіг творчы (с. 408)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1974, № 6.

### *Паэт — асоба — жыццё (с. 412)*

Выступленне на пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі 26 лістапада 1975 г.

Друкуецца паводле зб. «Высокае неба ідэала», дзе апублікавана ўпершыню.

### *Пункты перасячэння (с. 419)*

Прадмова да кнігі вершаў Андрэя Германава «Касцёр на вяршыні» (пераклады з балгарскай мовы). Мн., 1975.

### *Воблік чалавека — воблік часу. Гутарка пра паэзію з матэматыкам Мікалаем Яругіным (с. 423)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1976, № 5.

Першапачатковы варыянт пад назвай «Гомер, НТР и гармония» апублікаваны ў «Литературной газете» 31 ліпеня 1974 г.

[1] *Яругін* Мікалай Паўлавіч (1907–1990) — матэматык, акадэмік АН Беларусі, прафесар, заслужаны дзеяч навукі. Шматгадовы дырэктар Інстытута матэматыкі АН Беларусі. Аўтар дакументальнай аповесці «Пра тых, хто выстаяў», прысвечанай баям за Ленінград у 1941–1942 гг., непасрэдным удзельнікам якіх ён быў. Сябраваў з Кандратам Крапівой, Міхасём Лыньковым, Алесем Адамовічам і іншымі беларускімі пісьменнікамі.

[2] *Богат* Яўгеній Міхайлавіч (1923–1985) — расійскі пісьменнік-публіцыст, аўтар папулярных у свой час кніг «Чувства и вещи», «…Что движет солнце и светила» і інш.

[3] *Спок* Бенджамін (1903–1998) — амерыканскі ўрач-педыятр, аўтар шырокавядомай у свеце кнігі «Дзіця і догляд яго».

### *Стану песняй у народзе... (с. 435)*

Друкуецца паводле зб. «Высокае неба ідэала».

Упершыню ў перакладзе на рускую мову — «Литературная газета», 14 ліпеня 1976 г. Апублікаваны таксама пад загалоўкам «Элоиза Пашкевич — белорусская поэтесса. К 100-летию со дня рождения» ў выд.: «Новостн ЮНЕСКО», № 8 (Парыж).

### *«Пагутарым аб часе, аб Твардоўскім...» (с. 439)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 20 ліпеня 1980 г.

*Ці патрэбна прарокам сэрца? (с. 442)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 26 снежня 1980 г.

*«Дзе крыўда адвечная спела» (с. 451)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2 чэрвеня 1982 г.

*Дар за дар (с. 454)*

Упершыню — газ. «Вячэрні Мінск», 10 сакавіка 1983 г.

*«Мне сніўся сон...» (с. 456)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 25 ліпеня 1986 г.

*Даўгавечнасць (с. 458)*

Упершыню — час. «Полымя», 1986, № 3.

*Урок сораму (с. 462)*

Друкуецца паводле зб. «Трывожны досвітак», дзе апублікаваны ўпершыню.

*«Хочацца жыць — не канчаецца доля...» (с. 463)*

Прадмова да зборніка вершаў Яўгеніі Пфляўбаўм «Сувой жыцця». Мн, 1989.

Друкуецца паводле зб. «Трывожны досвітак».

*«Народ, Беларускі Народ!..» (с. 466)*

Упершыню — газ. «Звязда», 2 сакавіка 1996 г.

*«Няхай святло перамагае ў нас!» (с. 471)*

Упершыню — час. «Крыніца», 1996, № 4.

*«Стаім мы перад будучыняй нашай...» (с. 473)*

Упершыню — газ. «Звязда», 4 лютага 1997 г.

*На алтар Бацькаўшчыны (с. 477)*

Упершыню — газ. «Свабода», 16 ліпеня 1997 г.

*«Пішу: я, сведка ўсіх падзей...» (с. 483)*

Упершыню — газ. «Культура», 6–12 лютага 1999 г.

*Вернасць (с. 486)*

Упершыню — газ. «Культура», 14 красавіка 2000 г.

*«Усё было б добра і лёгка...» (с. 489)*

Упершыню— газ. «Культура», 17–23 лютага 2001 г.

*Сувязны. Вартавы. Выратавальнік... (с. 493)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 2 верасня 2002 г.

*Ён быў нашым сябрам (с. 497)*

Друкуецца паводле выд.: «Пасланец Праметэя. Кніга пра Уладзіміра Калесніка». Брэст, 2007.

SUMMARY

Anatol Viartsinski was born in Dziameshkava village, Lepel district Vitsebsk region on November 18, 1931. On graduating from the Belarusian State University, he worked as an editor for a number of periodicals. From 1986 to 1990 he worked as the chief editor for Literatura I Mastatstva — the first Belarusian newspaper in the BSSR that followed democratic and independent ideas. At the same time he edited the annual collection of translated literature Daliagliady.

At the first democratic elections in 1990 Anatol Viartsinski was elected Deputy of the Supreme Soviet of the Republic of Belarus. He headed the Parliamentary Committee on questions of mass media and human rights and was a member of the committees on preparation of the Declaration of the State Sovereignty (1990) and the new Constitution of the Republic of Belarus (1994).

His poetical debut was made in press in the 1950s. The first book Pesnya pra khleb (The Song to Bred) was edited in 1962. Anatol Viartsinski with his extraordinary art mentality represents intellectual - philosophical trend in the modern Belarusian poetry. The author's poetical model of the universe is based on the ideas of the priority of kindness and humanity, on the principles of fairness, reasonable purposefulness and high humane spirituality.

A lot of the poet's verses were translated into Russian, Ukrainian, Lithuanian, Bulgarian, English, Polish, French, German and other languages. He has honorary titles of the State prize winner and the Honoured man of culture of the Republic of Belarus.

# ЗМЕСТ

## ПАЭМЫ



## ДРАМАТУРГІЯ



## ПУБЛІЦЫСТЫКА

## ЛІТАРАТУРНАЯ КРЫТЫКА

**Вярцінскі, А.**

**В99** Выбраныя творы / Анатоль Вярцінскі; Уклад., камент. А. Вярцінскага; прадм. В. Русілкі. — Мінск: Кнігазбор, 2009. — 528 с. [8] с.: іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-6852-92-6.

Кнігу склалі найбольш значныя выбраныя творы Анатоля Вярцінскага (н. 1931) — вершы, паэмы, міфалагічная драма, публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы, нататкі, эсэ. Яны даюць належнае ўяўленне пра творчы шлях і грамадскую дзейнасць аўтара, пра асаблівасці яго паэтыкі, мастацкага стылю, пра яго ідэйна-эстэтычнае і маральнае крэда.

Сорак шосты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

Аўтар і выдавецтва выказваюць шчырую падзяку сп. Івану Яцкевічу за дапамогу ў выданні гэтай кнігі.

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя І. Мастацкая літаратура

**Вярцінскі Анатоль Ільіч**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Набор і вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Лідзія Карамазава*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 28.01.2009.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 28,56 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 25,43.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 912-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Пры ўдзеле ТАА «Харвест»
Ліцэнзія № 02330/0056935 ад 30.04.04.
Вул. Кульман, 1, корп. 3, пав. 4, п. 42, 220013, Мінск.
E-mail: harvest2004@mail.ru

ISBN 978-985-6852-92-6

9 789856 852926

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў РУП «Выдавецтва "Беларускі дом друку"».
Пр. Незалежнасці, 79, 220004, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя І.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы

РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы
РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае
АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае
АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***
МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае